# Аповесьці

## Мёртвым не баліць

### 1

Звоніць тэлефон, і яна бярэ трубку.

Дванаццаць мужчын, аблёгшыся на адпаліраваны, шырокі, нібы прылавак, бар’ер, затойваюць дыханне. Нашыя вочы скіроўваюцца і нерухомеюць на яе прыпудраным заклапочаным твары. Мы прагнем яе позірку, які, адчуваем, вось-вось павінен або расчараваць, або ашчаслівіць. Наогул, мы гатовы да ўсяго, абы толькі было нешта пэўнае. Найгорш у жыцці няпэўнасць: яна адбірае волю да дзеяння. Але жанчына, нібы ўнікаючы адказу, заклапочана варушыць тонкімі падведзенымі броўкамі. Хвіліна тэлефоннай увагі, торопкія адзнакі ў бланках, што ляжаць перад ёй на шкле, скупыя прафесійныя перапыты ў трубку здаюцца надзвычай доўгімі. Урэшце яна адрывае ад вуха трубку.

– Таварышы, месцаў няма.

Над бар’ерам працяглы ўздых расчаравання. Прыкрасць на твары. Шоргат падэшваў унізе.

– І не будзе?

– Не магу сказаць.

Зноў няпэўнасць? Шкада.

А гасцініца шыкоўная. Самая лепшая ў горадзе. Лічы, у самым цэнтры. З асобнымі пакоямі. Белакафельнымі ваннамі. Люстранай жаўцізной паркету. Царскай шырыні ложкамі ў нумарах. У даўжэзных, на цэлую вуліцу, калідорах гэткія ж даўжэзныя мяккія дарожкі. Між паверхаў сноўдае ліфт. Ветлівыя цёткі-горнічныя

першыя вітаюцца з жыльцамі. Такое запамінаецца. Асабліва правінцыялу, які раз у год трапляе сюды па справах службы. Праўда, трохі палохае цана. Да камандзіровачных даводзіцца прыкладваць свае. Але не часта можна сабе дазволіць і пераплаціць. Тым больш у гадавіну Перамогі. Да таго ж выбіраць не прыходзіцца – у іншых гасцініцах даўно ўжо ніводнага месца.

Вось толькі гэта чаканне...

Насупраць за круглым сталом незаняты стул, і я адыходжу ад бар’ера. Ззаду варушыцца мой сусёд – лысы, згорблены чалавек з «Известиями», – ён будзе пільнаваць чаргу. А мне стаяць ужо цяжкавата: ные нага. Здраднік – новы пратэз з першага ж кроку агідна рыпае. Сусед ззаду апускае газету. «Малады, а – глядзі ты! – калека...» – напэўна, думае ён цяпер. Я ўжо добра ўгадваю, што думаюць людзі, заўважаючы маё калецтва. І мне гэта, па-праўдзе, даволі-такі надакучыла. Да свайго невясёлага лёсу я ўжо прывык. Праўда, за дваццаць гадоў было рознае. Здаралася, і пакутаваў... Сапраўды, яшчэ хацелася бегаць за мячом, як стаў інвалідам. Мабыць, трохі зарана. Толькі людзям не загадаеш. Другі падумае ды і прамаўчыць. А іншы пачне лезці з роспытамі.

Стараюся ступаць як мага раўней. Здаецца, гэта выходзіць няблага. Ва ўсякім разе, прывычна. Але слізкі паркет, мусіць, выдае маю скутасць. І яшчэ – нутраны рып пратэза. Той жулікаваты з выгляду майстар, які мне яго ладзіў сёння, казаў, што абрыпіцца. Толькі штось не абрыпваецца.

За сталом малады хлопец у стракатым, акурат як і ў мяне, пінжаку таропка падбірае ногі.

– А вы б ёй дакументы паказалі. Навошта тырчаць у гэтай чарзе?

Як заўжды, ад чужой спагады робіцца няёмка, і я нешта мармычу вінавата-неразборлівае.

– Павінны знайсці. Ужо для інваліда вайны не знайсці

аднаго месца!..

Ён кідае гэта мне і з хмурым тварам пачынае аглядаць пазногці. Я не дужа зграбна апускаюся ў крэсла. І адкуль яму вядома, што я – інвалід вайны? А можа, няшчасны выпадак? Парушэнне тэхнікі бяспекі? Хоць, вядома, выдае ўзрост. Маладзейшыя, яны вызначаюць беспамылкова. А старэйшыя часам яшчэ называюць маладым чалавекам. Сапраўды, з твару я маладжавы. Гэта і зводзіць у зман. Маладых жа не ашукаеш. На такія штукі ў іх занадта натрэніраванае вока. Мусіць, апроч маладжавасці, трэба яшчэ нешта, чым мы ўжо не валодаем. Прамінулі ў сваю маладосць.

Хлопец тым часам паводзіць сябе так, быццам болей мяне не заўважае. Усе ягоныя эмоцыі схаваны пад маскай халаднаватай замкнёнасці. Але я адчуваю: у яго да мяне прыязнасць. Толькі ён прытрымлівае яе. Таксама як і цікаўнасць. Чамусьці ў адносінах між мужчынамі так прынята. Нібы выказаць свае пачуцці – слабасць.

А мне хлопец чымсь падабаецца. Можа, менавіта вось гэтай незалежнай замкнёнасцю, якая заўжды прымушае падазраваць глыбіню і змястоўнасць. Хоць у маладосці, пэўна, болей вабіць адкрытасць. Глыбіня і характар прыходзяць з гадамі, а маладых аздабляе шчырасць. У гэтага ж засяроджаны, не дужа схільны да шчырасці позірк. Зграбная свежая канадка на галаве. На лацкане стракатага пінжака сіні эмалевы ромбік. Вядома, тэхнічная ВНУ. Відаць, нейкі інжынер, прыехаў здалёку па справах вытворчасці. Што ў ягоным жыцці? Напэўна, маладая жонка, малое дзіцё. Стандартная малагабарытная кватэра дзе-небудзь у новым квартале. І, вядома, найцікавейшая ў свеце галіна – электроніка або радыётэхніка. Цяпер гэта сфера захаплення многіх. На жаль, мы ў такім узросце займаліся іншым. Зрэшты, таму і засталіся ў жыцці недавучкамі. Але што зробіш: іншы быў час. Свет ваяваў. Кожны мужчына мераў свае вартасці салдацкаю мерай. Артылерыя, танкі, авіяцыя – думалася, гэта надоўга. Колькі яны адабралі сілы, замарозілі здольнасцей...

Хлопец, мабыць, заўважае мой позірк і маю да яго стоеную цікавасць. Далей маўчаць нам ужо і няёмка. Ён дастае з кішэні пачак «Шыпкі» і лёгкім прывычным рухам пасоўвае да мяне.

– Курыце?

– Не, дзякуй.

– Кінулі ці не пачыналі?

– Некалі пачынаў. Ды раненне перашкодзіла.

З секунднай няўцямнасцю ён пазірае на мае ногі, затым болей працяглым позіркам акідвае грудзі. Я разумею яго недаўменне: якая сувязь – нага і курыва? Але ці варта казаць яшчэ і пра раненне ў грудзі, якое ледзьве не абярнулася для мяне фіналам. Да таго ж хлопец, напэўна, чакае ўбачыць на маім борце планкі ўзнагарод. Вядома, ён адукаваны чалавек, нямала начытаўся пра вайну і гатовы бачыць ва мне героя. Мусіць, таму, што дужа ўжо шмат разоў даводзілася тлумачыць усе гэта, цяпер я маўчу. Хлопец прыкурвае цыгарэту і крута паварочваецца ў крэсле. Ля адміністратара пачынаецца нейкае ажыўленне. Ці не з’явілася што?

Не, здаецца, трывога марная. У чаргу доўгацярплівых кандыдатаў у начлежнікі спрабуе ўлезці нейкі прастадушны дзядзька. Ён у новай ватоўцы, з вялізным чамаданам-куфрам і поўнаю сеткай батонаў. Напэўна, з вёскі. Станавіцца ў хвост чаргі дзядзьку няма ахвоты, і ён плячом і локцем спрабуе зашчаміцца між таўстуном з пакетам пад пахай і чалавекам у скуранай куртцы. Таўстун спознена ўзнімае трывогу.

– Куды лезеце? Куды лезеце? Вы дзе стаялі?

– Ну, стаяў. Ну! Анягож! Каб жа не стаяў... Стаяў. Што я, хлусіць буду?

– Дзе, пакажыце, дзе вы стаялі? – злосна пыхае на яго таўстун.

Дзядзька, відаць па ўсім, нідзе не стаяў. Але ён, што б там ні стала, не хоча пакідаць месца, блізкае да адміністратара. Да таго ж ён паспеў прасунуць між мужчын руку і ўчапіцца за нікеляваны борцік бар’ера. Цяпер дзядзьку не зрушыць. Многацярплівую чаргу гэта абурае, і яна мноствам вачэй маўкліва ўпікае парушальніка гасцінічнай этыкі. З-за бар’ера ў канфлікт уступае жанчына-адміністратар.

– Дзядзька, а ў вас пашпарт ёсць? – спрактыкавана трапляе яна ў самае небяспечнае дзядзькава месца. Дзядзька прыкідваецца глухаватым і перапытвае:

-Каго?

– Пашпарт, кажу, у вас ёсць?

Дзядзька, відаць, разумее ўсю складанасць свайго становішча і, мабыць, імкнецца выйграць час. Варушыцца, пацепвае плячом, лезе ў кішэнь, ссоўвае на патыліцу чорную кепку. Але адказваць, хочаш не хочаш, а трэба.

– Пашпарт? Дык гэта ж… Які пашпарт? Пашпарту няма.

– У нас строгі пашпартны рэжым. Мы вас не можам пусціць.

Дзядзька выслухоўвае ўсё з увагай. Голас адміністратара не злосны, нават са спачуваннем. Ашуканства быццам ніякага. І дзядзьку гэта бянтэжыць. На маршчыністым ілбе яго густа выступае пот. Хвіліну дзядзька мяркуе. Рукі, аднак, ад бар’ера не адрывае. На ўсякі выпадак,

– Вам жа рускім языком растлумачылі, – нервуецца тоўсты. – Вы што, не разумееце? Гэта нахабства!..

Аднак сапраўды падобна, што дзядзька не разумее. Ці, можа, не хоча разумець.

Тады з чаргі да яго падскоквае вельмі рухавы з выгляду чалавек. Зухаватым позіркам гасцінічнага доўгажыхара ён ва ўпор аглядае дзядзьку. Чорны, каляны плашч на

яго плячах шархаціць, як бляшаны.

– Я зараз яму растлумачу. Ану, грамадзянін, трошкі ўбачок! Каб не мяшаць на праходзе, і так далей... Вы ж перашкаджаеце. І адпаведнага дакумента ў вас няма. Вы што ж думаеце? Вунь, зірніце, міліцыя. Ды не туды гледзіцё – вунь, ля швейцара. Бачыце? Ну, во! Варта далажыць, і... Разумееце?

Дзядзька заклапочана чухае пашчэнку, пазірае то на чалавека ў плашчы, то на міліцыянера ля ўвахода і слаба апраўдваецца:

– Ды я што?.. Я нічога. Я думаў...

– А вы не думайце! Вы выконвайце. Законы трэба выконваць. За парушэнне законаў і парадку – крымінальная адказнасць. То есць – суд, пракуратура. Як піць даць...

З чаргі паблажліва назіраюць за гаваруном і дзядзькам. Гэта забаўляе. Некаторыя самі сабе ўсміхаюцца. Іш, «залівае»! «Залівае» сапраўды няблага. Відаць, спец па такога роду справах, бо дзядзька неўзабаве бокам падаецца сабе да выхаду.

– Цёмны народ. Не разумее, – цепае плячом чалавек і аблакочваецца на бар’ер. – Толькі і глядзіць, каб парушыць закон... Даводзіцца тлумачыць.

– Законнік!.. – кпліва ўздыхае мой сусед і выцягвае пад сталом ногі

«Законнік» зухаватым позіркам зверху ўніз акідвае адміністратара і аблягаецца грудзьмі на бар’ер. Праз хвіліну ён ужо сыпле там жартамі. Гэта ў яго выходзіць лёгка і проста. Паглядзіш, здаецца: вясёлы чалавек! Не тое што астатнія: надзьмуўшыся і апаныўшы, стаяць ля бар’ера. Нібы гэтая гасцініца – самае найважнейшае ў іх лёсе. А гэты, відаць, з катэгорыі людзей, якія нідзе не бянтэжацца. Яны ўсюды ўмеюць падысці, запытаць, дабіцца. І ўсё гэта з такой лёгкасцю, што самы заўзяты бюракрат не азлуецца. Самая знерваваная

прадаўшчыца ці там касірша адразу лагодна заўсміхаецца на іх жарт. Галоўнае тон – зухаваты, лёгкі, ненавязчывы, без ценю заклапочанасці.

Мой сусед, аднак, мае іншую думку:

– Развялося брыдоты... Думаеце, ён так сабе завіхаецца?

– А што?

– Таксама хоча без чаргі ўлезці. Хіба не відаць?

Хто яго ведае... Магчыма, і так. Хвіліну я ўзіраюся, як ён там распінаецца перад адміністратарам. Але чарга маўчыць, нічога благога не падазраючы, і я адварочваюся.

Сусед адкідваецца на спінку крэсла.

– Прыстасаваліся, як мікробы да антыбіётыкаў. Ні крымінальным кодэксам, ні дружыннікамі, ні міліцыяй – нічым іх не возьмеш...

Гэта, вядома, так. Але мне нейк няёмка з незнаёмым чалавекам хаяць таго, каго зусім не ведаю. Хлопец, аднак, прысоўваецца бліжэй да стала.

– Скажыце, вось вы праваявалі вайну. Што, і там гэтаксама было? Ці, можа, там не дужа з такімі цацкаліся?

Мабыць, сапраўды на вайне было трохі прасцей. Подласць там была болей прыкметная: перад смерцю, вядома, маскіравацца цяжэй. Але гэткія тыпы прыстасоўваліся і на вайне. Хлопец з лёгкім недаверам выслухоўвае мяне і раптам скідае сваю маску адчужанасці.

– Зайздрошчу я вам...

Гэта ў яго вырываецца скорагаворкай, зусім па-хлапечы і так натуральна, што не пакідае ніякага сумнення ў шчырасці. І хоць я ўжо не першы раз чую падобнае, усё не магу не здзівіцца: чаму людзі зайздросцяць? Ці

ведаюць яны тое, аб чым гавораць? Хлопец, аднак, неўзабаве тлумачыць:

– Вы калі ўжо рабілі што, дык на поўную сілу. Без крывадушша. Калі ўжо білі, дык размахнуўшыся – да абуха!

Часткова так, але на справе – усё было болей складана. На вайне не дужа крывадушнічалі, гэта праўда. Але ўдарыць на поўны ўзмах не заўжды ўдавалася. Былі прычыны, якія трымалі за руку.

Мой сусед курыць, праз дым пазіраючы на мяне. Я ж маўчу. Мабыць, трэба адказаць, але адной фразай не абыдзешся. Патрэбна доўгая размова, якая тут не да месца.

**2**

У вестыбюлі прыглушаны гоман. Стук дзвярэй, раз-пораз урываецца грукат машын з вуліцы. Па той бок вялізнага акна бясконца мільгаюць людзі: маладыя і старыя, жанчыны, дзяўчаты, хлопцы, заклапочаныя, вясёлыя – розныя. Пад вечар на дварэ пацяплела. Суняўся вецер. Ліпы растапырылі першыя ўвесну маленькія клейкія лісточкі. Пасля доўгага, нуднага дажджу высахлі тратуары.

Здаецца, пачынаецца трохі спазнелая і таму яшчэ болей жаданая вясна.

Але вось у прыглушаную гасцінічную гаману ўрываюцца нетутэйшыя галасы – незнаёмыя словы, чужы напеўны акцэнт. Вясёлы жаночы смех многіх прымушае азірнуцца. Натоўп турыстаў нетаропка ўліваецца праз дзверы і напаўняе прасторны гасцінічны вестыбюль. Ля пад’езда за шклянымі дзвярыма стаіць вялізны, у эмалі і нікелі, замежны аўтобус.

Ля бар’ера змаўкаюць размовы, твары паварочваюцца да дзвярэй. Турысты без спеху, спаважна і з ленасцю нясуць свае сумкі, чамаданы, пледы. Завіхаюцца швейцары. На сярэдзіне вестыбюля, пад калонай,

складваецца багаж – цэлая гара з чамаданаў. Мой сусед вызначае:

– Французы! Не, італьянцы... Не хочаце паглядзець?

Пакінуўшы на крэслах газеты, мы ўстаём і падыходзім бліжэй да выхаду. Турысты на нас не зважаюць. Яны поўняцца жвавасцю ўласных узаемаадносін. Тонкія жанчыны ў штанах або клёшах смяюцца і кураць. Чорныя, светлыя, рыжыя прычоскі. Зіхатлівыя цёмныя позіркі. Ярка фарбаваныя вусны. Чарнявыя плячыстыя мужчыны стрыманыя і велікадушныя, як мудрацы між свавольніц. У іх свята: паездка, новая краіна, пра якую яны столькі чулі і толькі цяпер убачылі. Турботны тлум будняў яны пакінулі дома. Зайздросная рыса характару – адмяжоўваць будні ад святаў, непрыемнае ад радаснага. У нас, на жаль, так не атрымліваецца. Мы носім з сабой усё: клопаты і радасць, будні і нядзелі. У выхадны ў нас ужо зачынаецца панядзелак. Мы занадта маем у сабе з мінулага. Цяжкога, з часоў ваеннага ліха. Нешта ад шматгадовага недаверу да чалавека. Хоць тут нічога не зробіш. Пэўна, у нашай гісторыі занадта многа такога, пра што немагчыма забыцца. Таму мусіш памятаць. Нават і ў Дзень Перамогі.

І мы маўкліва стаім каля гардэроба. Мой сусед з цікаўнасцю ўзіраецца ў твары чужаземцаў. Гэта зманліва – пранікнуць у стоены сэнс незнаёмых характараў. Але я нават і не спрабую. Французы, англічане, італьянцы для мяне – закрытая кніга. Іх я не пасцігаю. Іхняя сутнасць недзе ў іншай плоскасці разумення. Другая справа – немцы.

Гэта страшная, часам невытлумачальная з’ява – фашызм. Але мне здаецца, я блізка да таго, каб яе зразумець. Вядома, зразумець – неабавязкова апраўдаць. Мне здаецца, гэты сфінкс разгадваецца проста: шалёная актыўнасць адных пры мяшчанскай пакорлівасці другіх. З аднаго боку, мараль: мэта – усё, сродкі – нішто. З другога: мая хата – з краю. Палітыка – не наша справа. За ўсіх думае фюрэр. Мы – маленькія людзі. І ў дадатак – самая раз’юшаная прапаганда, здольная чорнае выдаць за белае.

Немцы нам нарабілі нямала бяды, але мы незласлівыя: хай жывуць добра. Галоўнае, каб мірна. За мінулае, здаецца, мы расквіталіся. Помста ж у гэтым выпадку не мае сэнсу.

Пакуль мы глядзелі на турыстаў, міма нас хуткім крокампраходзяць адзін, другі – ад бар’ера. У руках – зыаёмыя аркушыкі прапускоў. Урэшце, мусіць, з’явіліся месцы. Я крута заварочваю назад і ледзьве не сутыкаюся з «законнікам». Ён з партфелем і таксама з пропускам. Абдаўшы мяне бляшаным шоргатам свайго плашча, таропка скіроўвае да ліфта. На твары ўжо заклапочанасць без ценю нядаўняе блазенскай лёгкасці. Я трохі дзіўлюся.

– Глядзі, ужо адхапіў!

Хлопец іранічна хмыкае.

– Ну. Я ж казаў.

Мы падыходзім да чаргі ля бар’ера і, вядома, спазняемся. Знайшлося ўсяго чатыры месцы. Атрымала таксама чацвёра. У тым ліку і той, без чаргі.

Астатнім трэба чакаць.

Маё месца за сталом пустуе. На суседнім сядзіць стомленая з выгляду, немаладая жанчына. Сусед, патаптаўшыся, моўчкі адыходзіць да бар’ера. Я саджуся.

Чарга абураецца. Асабліва цяпер, калі «законніка» прастыў і след. Калі ён ужо, мабыць, прабуе краны і мацае матрац у нумары... А яны сварацца. Дзіўныя людзі! Калі ён лез да адміністратара, тады ўсе маўчалі. А цяпер махаюць рукамі.

– Безабразіе!

– Мы кнігу скаргаў патрабуем.

– Хамства – так пастулаць...

Асабліва абураецца адзін. Здаецца, яму ледзьве не дасталося месца. Цяпер ён соўгае на галаве зялёны вялюравы капялюш і сярдзіта круціцца ля бар’ера. Шырока разлятаюцца доўгія полы ягонага габардзінавага паліто.

– Безабразіе! Нахабства!

Сунуўшы рукі ў кішэні, ён нервова адварочваецца ад бар’ера і сустракаецца са мной позіркам. І раптам у маіх вачах здрыгаецца гарачы тлумны туман. Незразумелая нервовая хваля жарам абдае мяне да пят. Тугі ўдар звону ў вушах ураз адкідвае ў мінулае. У свядомасці маланкай мільгае адно толькі слова – «Сахно». Не, я не ўспомніў гэтага чалавека, проста я ніколі яго не забываў. І цяпер вось ён, – за пяць крокаў ад мяне, – трошкі азызлы з твару, брывасты і па-ранейшаму пагрозліва рашучы. На галаве нядбайна надзеты капялюш. Габардзінавае паліто не зашпілена і нізка абвісла поламі. На жоўтых чаравіках ляжаць светлыя калашыны штаноў. «Шыракаватыя», – заўважаю я зусім недарэчы. Акінуўшы мяне імгненным няўцямным позіркам, ён паварочваецца да бар’ера.

Закасцянелыя на імгненне суставы мае расслабляюцца, і я абнікаю ў крэсле. Рэшткамі падкантрольнай сваёй свядомасці адзначаю, што разгубіўся. Ніколі не думаў, што можна гэтак спасаваць перад ім. Колькі разоў за гэтыя гады ўяўляў сваю з ім сустрэчу, свае гнеўныя словы... І вось!.. Калі б ён цяпер падышоў і ўдарыў мяне, я, мусіць, не знайшоў бы, як адказаць. Бывае, што нахабства паралізуе. Мяне паралізаваў адзін яго выгляд.

Аднак у наступную хвіліну я ўсё ж ускокваю з крэсла. Рып... рып... Пракляты пратэз! Цяпер ён мне замінае. Цяпер мне патрэбны жалезныя ногі. І сталёвыя кулакі. Мусіць, на маім твары адбіваецца штосьці нядобрае. Двое ля чаргі з гатоўнасцю расступаюцца, і я бокам прысланяюся да бар’ера. Ля яго, побач. Безуважны да мяне, ён гнеўна даводзіць адміністратару:

– Я за тысячу кіламетраў прыехаў. Дзе я начаваць

павінен? Скажыце, дзе?

– Гэта не мая справа.

– А чыя ж тады справа? Для чаго тады вы тут седзіцё? – ён рэзка адварочваецца ад бар’ера: яму патрэбен саюзнік. – Чулі, не яе справа?.. Во логіка!

Але мой выгляд, мусіць, яго ахалоджвае. Ён скідае капялюш і далонню выцірае ўзмакрэлую стужку падкладкі. Я адзічэла гляджу ў яго раззлаваныя вочы, і гарачая хваля ў маім нутры памалу астывае. Я пазнаю яго і не пазнаю. Чорт, няўжо я памыляюся? Ён трохі нават з жывоцікам і даволі-такі лысаваты. Той быў з выдатнай страявой выпраўкай і з чорнай жорсткай чупрынай на галаве. Вочы нахабныя і падпухлыя – мусіць, хворыя ныркі. Рост... Рост, мабыць, той жа. Толькі гэты таўсцейшы.

Але ж мінула дваццаць гадоў...

Адолеўшы нейкае нутраное зняменне, я адыходжу. У канцы бар’ера, воддаль ад усіх, абапіраюся на локаць. Збянтэжанасць мая пакрысе мінаецца. З-пад ілба я неадрыўна назіраю за ім. Ён ці не ён? Я трохі баюся, каб ён не пазнаў мяне. Тады ён напэўна знікне. Хоць пазнаць мяне не так лёгка. У той час я быў амаль хлопчык. Дзевятнаццацігадовы малодшы лейтэнант. Да таго ж для яго я – забіты.

А ён не адступае ад жанчыны-адміністратара. У край бар’ера ўчапіліся яго пальцы – кароткія і таўставатыя. Ён працінае жанчыну дакорлівым позіркам. Памятным, ненавісным мне позіркам. Я бачыў яго розным: пагрозлівым, разгубленым і агідна ўгодлівым. Цяпер ён нахабна-патрабавальны. Жанчына робіць вягляд, што занята паперамі і не заўважае яго. Але не заўважыць яго немагчыма. Чалавек ведае гэта і нязрушна высіцца на бар’еры. Ужо ён даб’ецца свайго.

Цягучы, натужлівы звон у маёй галаве памалу аддаляецца. Пастулова я страчваю катэгарычнасць першае ўпэўненасці. То здаецца – канчаткова і выразна:

ён! То раптам у твары яго з’яўляецца нешта невядомае мне, чужое, першы раз убачанае. Я не ведаю, што мне рабіць, і стаю. На плечы ўзвальваецца цяжар неадольнай знямогі. Я адчуваю сябе ўшчэнт знясіленым і разгубленым.

У гэтым маім аслупяненні мінае, відаць, шмат часу, і каля адміністратара нешта адбываецца. Здаецца, аб’яўляюць, што месцаў болей не будзе. Людзі пачынаюць разыходзіцца. Нехта кажа да астатніх: «Пайшлі глядзець салют!» Нехта не згаджаецца: «Я лепш на вакзал. Пакуль лаўкі не занялі».

Чарга ля бар’ера хутка радзее. Неяк знянацку я губляю яго і нідзе ўжо не бачу. Спахапіўшыся, падыходжу бліжэй, азіраюся. Але яго няма. Няма каля адміністратара, не відаць у вестыбюлі. Нібы ён праваліўся ў зямлю. Дзіўна!

Тады я спыняюся перад бар’ерам і нічога не цямлю. У душы такое адчуванне, нібы па маёй віне здарылася непапраўнае. Людзей усё меншае. Жанчына з-за стала таксама пайшла, і абодва крэслы пустуюць. Мне трэба неяк сабрацца з думкамі. Крыўдна, калі ўсё гэта толькі здалося. Столькі душэўных турбот і – дарма! А калі ўсё ж ён? Што тады? Што я павінен зрабіць?

Трэба штосьці абдумаць і нешта вырашыць. Або, не трацячы часу, дагнаць яго? Ці, можа, паклікаць міліцыю? Зрэшты, міліцыя тут ні пры чым.

Урэшце, у гэтым кутку вестыбюля застаецца толькі адміністратар за перагародкай і нейкі п’янаваты няўдака. Падпіраючы спіной калону, ён не можа вымавіць ні слова і тупа глядзіць у падлогу.

Туга бразгаюць дзверы, і мяне абдымае мітусня вуліцы. На тратуарах людна. Усе некуды ідуць, ідуць, ідуць – мабыць, да помніка на плошчу. Стоеная перадвячэрняя ціша поўніцца пахам тапалёвай лістоты. Бензінавым чадам патыхаюць машыны. Купка людзей ля марожаншчыцы цярпліва дамагаецца свае асалоды. Бабка з пучком пралесак у старэчых руках...

Я немаведама куды брыду, як лунацік. Пачынае балець галава. Заўжды, калі панервуюся, мые баліць галава. У кішэнях, на жаль, аніякай таблеткі. Мусіць, трэба б ісці шукаць дзе прытулку. Але я ўжо мала што і заўважаю. У растрывожанай памяці размываюцца напластаванні гадоў і падзей. У востра-свяжуткіх вобразах паўстае даўняе і навек незабыўнае. Тое, што, як падмурак, лягло ў мой лёс і ляжыць там гіганцкім Баальбекскім каменем. Я ўжо ведаю, яго не пазбудзешся. Яго не зальеш гарэлкай. Не забудзеш у вясёлым разгуле. Яно заўжды ў сэрцы. Бо яно – гэта я.

**3**

...Снег. Дарога. Калона...

Мільгаюць боты, валёнкі, гамашы. Матляюцца па ветры заснежаныя полы шынялёў. Шархацяць залубянелыя, абмёрзлыя палаткі.

– Старшы лейтэнант Кротаў – у галаў калоны!

Паўтораная зычнымі, глухімі і сіпатымі ад прастуды галасамі коціцца па калоне каманда. Апошнім яе выкрыквае нехта з тых, што замыкаюць калону пярэдняй роты. Выкрыквае і задаволена паварочваецца, нібы для таго, каб убачыць, якое ўражанне на батальён зрабіў яго натужлівы, хрыплаваты голас. Гэта зусім блізка, і я, ідучы ззаду, бачу немалады ўжо, азызлы ад сцюжы твар, сціснуты вушамі падвязанай пад барадой шапкі. Углядаючыся, баец выцягвае з каўняра маршчыністую шыю і спыняе на кімсьці свій позірк. Тады і я паварочваюся. Камандзір шостай стралковай роты Кротаў, апяразаны па ватоўцы дзвюма кавалерыйскімі партупеямі, нібы не чуючы выкліку, валюхаста брыдзе па сыпкім снезе ўзбочыны. Як заўжды, у яго цёмных, зласнаватых вачах лішак зацятае камандзірскае строгасці.

– Вас – у галаў калоны, – кажу я, падумаўшы, што ротны недачуў каманду.

Кротаў, аднак, не зірнуўшы на мяне, ваўкавата кідае:

– Чую. Не аглух!

Калона тым часам памалу спыняецца. Заднія яшчэ зморана валакуцца па растаптаным сотняю ног снезе, а пярэднія ўжо спяшаюцца выкарыстаць кароценькі няўрочны прыпынак і паспешліва знімаюць з сябе ацежалелую за дарогу зброю. Тырчком, прыкладамі ў снег, дзёўбаюць даўжэзныя ПТР; асцярожна, рукаяткамі ў каляіны, апускаюцца долу целы «максімаў»; мінамётчыкі з палёгкай звальваюць з плеч цяжкія рабрыстыя плахі апорных пліт.

І вось ужо нехта валіцца на некратаны ботамі снег палявой узбочыны, нехта брыдзе за патрэбай у зблытаны і паламаны зараснік кукурузы, што шырокім прасцягам шарэе абапал дарогі. У вячэрнім сутонні над заснежаным стэпам вее саладкаватым, надзіва духмяным і дамавітым дымком махоркі.

– Ну што ж, перакурым гэтае дзела, – кажа ўсё той жа немалады, відаць, цягавіты баец і паварочвае да ўзбочыны.

Пакамечаныя полы яго шынялька старанна падаткнуты пад дзягу, на спіне, прышпіленая да рэчмяшка, целяпаецца непатрэбная пакуль што каска. З нейкага часу мяне мімаволі пачынаюць цікавіць галаўныя ўборы. Хоць, на жаль, я ведаю, што ні каска, ні шапка не падыдуць: трэба было аб тым дбаць раней. Але тады я не дбаў, і асколак ад нямецкага снарада два дні назад крамсануў мяне па патыліцы. Праўда, нічога страшнага ён не нарабіў, і ўсё ж пасля перавязкі аказалася, што шапка паверх бінтоў не налазіць, а каска балюча муляе. Так і застаўся я з абкручанай бінтамі галавой. Наліха, санінструктар разам не забінтаваў яшчэ і вушэй, дык яны ноччу крыху падмерзлі і цяпер баляць пад бінтамі.

Я таксама сходжу на ўзбочыну, туды, дзе на краі дарогі стаіць кулямётчык з трэцяга ўзвода нашае роты, прозвішча якога я ўсё не магу запомніць. Гэта малады спрытны баец у нізенька і зухавата накручаных

абмотках. Зачэрпнуўшы шэраю, хатняга вязання сподкай чыстага снегу, ён з асалодай смокча яго, цікуючы наўкола зыркімі вачыма. У другой ягонай руцэ «дзегцяроў».

– Мусіць, шостую роту ў ГПЗ? – кажа ён да мяне. – Цяпер, лічы, усе трафейчыкі іхнія...

І, саўгануўшы на патыліцу шапку, зноў зачэрпвае снегу. Белабрысы твар яго тоіць цікаўнасць і прыцішаную хлапечую гарэзнасць. Я маўчу, бо ці мала па якой патрэбе могуць выклікаць да камбата ротнага Кротава! Той стары з чацвёртае роты таксама падыходзіць да нас і лаканічна згаджаецца:

– Ну, пашэнціла гэтым...

Ён варушыць рукамі ў кішэнях, мабыць, дастаючы закурку, і праводзіць позіркам чацвярых разведчыкаў, што таропка ідуць паўз людзей некуды ў хвост калоны. Яны ў запэцканых белых маскхалатах, на якія надзеты аўтаматы і брызентавыя сумкі з ражкамі-магазінамі. Хлопцы прыкметна спяшаюцца, і выгляд ва ўсіх незадаволены. Мусіць, у разведкі дзесьці нелады.

– Марухоў, прывет! – кідае кулямётчык, відаць, пазнаўшы сярод іх знаёмага. – Што, шостую ў ГПЗ?

– Якая к чорту ГПЗ! – злосна бурчыць пярэдні. – Кротаву шыю мыляць.

Кулямётчык у ссунутай шапцы разяўляе рот. На кончыку языка ў яго – снег.

– Пэўна, за Іваніўку? Ага?

– Ага.

– Ну і ну! – кажа пажылы, затрымаўшы ў парэпаных пальцах курэцкае начынне. – Гэта ўжо ўсыпяць!..

Ён пачынае скручваць цыгарку, побач у недаўменнай цікаўнасці разяўляюць раты байцы. Нехта за маёй спіной ахвотна пацвярджае:

– А ты думаў! Калі ўжо начальства ўмяшалася – усыпле...

Яны толькі цяпер здагадаліся, а я ўжо зранку думаю над усёй гэтай справай. Яшчэ на світанні ў Вялікую Севярынку да камбата прыязджаў штабны афіцэр капітан Сахно, які і раздзьмуў гэтую гісторыю з начлегам шостай роты. А цяпер вось якіх чвэрць гадзіны назад паўз калону праскакаў на кані старшына Шашок, ардынарац-паручэнец, ці як там яго называюць, – словам, пісар са штаба. Яшчэ ён запытаў у мяне, дзе камбат, і я махнуў рукой туды, у галаву калоны. Мусіць, таму і спынім батальён сярод стэпу. Так, відаць, будзе гэтаму Кротаву.

Кулямётчык тым часам спатольвае прагу і выбівае адна аб адну сподкі.

– Гэй, бамбаловы! – гарэзна крычыць ён да байцоў шостай роты. Іх у нас здаўна, мабыць, яшчэ з Курскай дугі, завуць бамбаловамі, хоць, пэўна, мала хто ўжо і памятае, што азначае гэта мянушка. – Цераз левае плячо кругом марш! У штрафную!

Аднак шостая, відаць, не хоча застацца ў даўгу.

– Ага, у штрафную! А хто ж тады вас будзе з-пад танкаў ратаваць?!

Гэта – усім зразумелы намёк. Тыдзень назад шостая рота адсечным агнём з фланга падсобіла нашай роце, якую атакавалі нямецкія танкі з пяхотай.

– Ці не вы гэта ўратуеце! Вы ж пабраталіся! – з’едліва папракае кулямётчык. Але тое ўжо праз меру, і я паварочваюся да байца.

– Ну, ну! Даволі!

Кулямётчык ніякавата жмурыцца, адчуваючы, што перабаршчыў, і мне хочацца напомніць яму нешта накшталт: жартуй, але ведай меру.

Аднак спераду зноў даносіцца:

– Малодшы лейтэнант Васілевіч – у голаў калоны!

Гэта ўжо мяне. Але навошта? Здаецца, я не замешаны ў такіх непрыемных справах, як Кротаў, рота якога нядаўна заначавала ў адным сяле з немцамі. Здарылася так, што бамбаловы мірна праспалі ноч і ўбачылі фашыстаў толькі ўранні, калі тыя, пастроіўшыся ў калону, падаліся сабе на бальшак. Прынамсі, так расказваюць байцы. Начальства ж, мусіць, мае наконт гэтага іншыя меркаванні.

– Ну што! Ага, самі ўліплі! – учуўшы каманду, пачынаюць зларадна крычаць з шостай.

– Яны шнапсам хабар з немцаў бралі! Ха-ха!..

– Ану, спыняй балбатню! – загадваю я кулямётчыку.

Зводдалі цераз галовы байцоў даносіцца голас самога камбата:

– Васілевіч, доўга цябе чакаць?

– Іду, іду!

Прытрымліваючы на грудзях ППС, я зморана бягу растаптанай дарогай. Я не магу дазволіць сабе раскошы на выклікі ісці крокам. З усіх ротных у батальёне я самы малодшы – і па гадах і па званню. Мабыць, з гэтай прычыны ад камбата мне дастаецца болей за іншых, і таму я змушаны варушыцца.

Камбат сядзіць на снегавым курганку ля палявога капца і мёрзлай кукурузнай бадылінай пырае ў снег. Побач, шархочучы на каленях картай, месціцца ваш вусаты начштаба. Насупраць стаіць змрочны цемнатвары Кротаў, а крышку ўбаку, трымаючы за повад зморанага мухортага коніка, чакае чагось старшына Шашок. Новенькі шызага камсастаўскага сукна шынялёк шчыльна аблягае яго шырокую спіну.

– Ну, як галава? – зірнуўшы на мяне, пытаецца камбат.

– Ды нішто.

– А вушы? Спякліся, мабыць?

– Трошкі, – насцярожана адказваю я, не разумеючы, чаго ён гэтак незвычайна пачынае размову. Але адчуваю, што гэта не так сабе.

– Пойдзеце ў санчасць, – кажа камбат і б’е бадылінай па снезе.

Снегавая пацяруха асыпае мне боты, трапляе начштабу на карту, і той з прыкрасцю страсае яе пачырванелай далонню.

– Таварыш капітан, – спрабую я запярэчыць, але камбат не хоча і слухаць – бадай, як і ўсе камандзіры, ён не любіць, калі яму хто пярэчыць.

– Пойдзеш у тыл. Усё роўна з такой галавой – не ваяка...

– Дык у роце нікога не застаецца. Вы ж ведаеце.

– Ведаю. Заўтра Басмак прыйдзе. А пакуль старшына Дарафееў пакамандуе.

Вядома, наш старшына можа пакамандаваць і сёння, і заўтра, чалавек ён сталы і страляны, і ўсё ж мне зусім не хочацца пакідаць роту і выпраўляцца ў санчасць. Калі б ён паслаў мяне на які дзень раней, хоць бы мінулаю ноччу, калі мы мерзлі пад агнём у снезе пасля няўдалае атакі. А то лацно яму ставіць на роту старшыну, калі часці ўваходзяць у прарыў, мінаюць нямецкія флангі, і ўжо вунь ён, Кіраваград. Удзень з Севярынкі мы бачылі яго прыгарады, дымы пажараў і высокія будынкі, якія штурмавалі нашыя «ІЛы».

– Вось з Кротавым і пойдзеце, – кажа камбат, ківаючы галавоЙ на камандзіра шостае роты. Той стаіць чорны, быццам зямля, і не пазірае на людзей. – Ды яшчэ гэтых субчыкаў прыхопіце. Заадно. Каб канвойных не пасылаць.

Гэта ён пра трох немцаў, якія стаяць адзін пры адным, цесненька збіўшыся ў купку і страхавіта пазіраючы наўкола. Адзін з іх проставалосы, без шапкі, малады

хлопец-крапак, другі без шыняля, у мундзірчыку, з абвіслымі кішэнямі і вялікімі, амаль прафесарскімі, акулярамі на блізарукіх вачах. Трэці – нізкі, таўставаты стары праступджана сморкае распухлым чырвоным носам. «Вясёлая кампанія, нішто сабе, чорт бы яе ўзяў!» – пачынаючы злавацца, думаю я. Удружыў камбат, нічога не скажаш. Камбат жа, здаецца, не прыкмячае мае незадаволенасці, таксама, як і змрочнае паставы Кротава, і дастае з кішэні дзюралевы партабак, густа аздоблены адмысловай разьбой.

– Частуйцеся, старшына, – працягвае ён партабак да Шашка.

Той не прымушае сябе ўгаворваць, ступае на крок і ўпэўненым жэстам бярэ папяросу. Пасля да партабака цягнецца рукой начштаба. Кротаў з-пад насупленых броваў бліскае злым позіркам і, як мне здаецца, трудна, асуджальна ўздыхае. Нам папярос камбат не прапануе. Яны ўтрох моўчкі прыкурваюць, і старшына, адставіўшы ўбок абутую ў нямецкі валёнак нагу, праз дым узіраецца ў мяне адным вокам.

– Ты што ж гэта, младшой, з такім скрыпам загад выконваеш?

Я коратка зыркаю ў ягоны самазадаволены начальніцкі твар і, стрымліваючы ў сабе злосць, маўчу. Якая ў яго, урэшце, справа і хто ён такі, каб рабіць мне заўвагі?

Кротаў, якога, відаць, дапякаюць свае турботы, нервова паварочваецца да камбата.

– Дык мне што? Роту здаваць, ці як?

Камбат моршчыць лоб і старанна раскурвае папяросу.

– Ну, чаму здаваць? Што гэта вы ўжо... Адразу ў паніку...

– Роты пакуль не здаваць, – упэўнена аб’яўляе старшына, і камбат таропка папраўляецца:

– Так, пакуль не здаваць. Няма такога загаду здаваць.

– Дзела яснае, – змрочна ўздыхае Кротаў. – Дзела яснае, што дзела цёмнае. Ну і чорт з ім! Хай!

Ён адчайна лаецца і адыходзіць убок, сваім выглядам даючы зразумець, што абыякавы да ўсяго і не баіцца нічога. Камбат устае з капца і выцягвае голаў, зазіраючы ў хвост калоны.

– Ну, дзе там Касенка? Не дачакаешся!

Касенка, якога ён чакае, камандзір узвода разведкі, і я пачынаю думаць, што, можа, і яго пашлюць з намі ў тылы палка. З Касенкам, вядома, было б весялей, хлопец ён таварыскі і гаваркі. Толькі ці накіруюць яго ў тыл: цяпер, калі ідзе наступленне.

Тым часам над стэпам пачынае прыкметна цямнець. Сціхае ад самалётнага гулу зімовае неба, больш чутны робіцца шорхат кукурузы на ветры. На ноч бярэцца мароз, і я настаўляю каўнер свайго шынялька – вушы хоць і прыхаваны пад бінты, але памалу заходзяцца ад сцюжы.

Камбат чакае. Аднак замест Касенкі на дарозе з’яўляецца разведчык. Зухавата ляснуўшы абцасамі, ён спыняецца за пяць крокаў перад начальствам.

– Таварыш капітан, лейтэнант Касенка каня не даюць. Камбат шчыра дзівіцца.

– Як гэта не даюць?

– Не даюць, і ўсё. Кажуць, хутар трэба разведаць. Хутарок там наперадзе.

– Хутар, хутар! Во і на гэтым разведае, – тыцкае ён на мухортага старшыновага коніка. – Чым не рысак! А то вылупляецца яшчэ! Тожа мне кавалерыст!

Разведчык пераступае з нагі на нагу, на ягоным круглявым расчырванелым твары наіўная збянтэжанасць – маўляў, мне што: лейтэнант не дае, а я тут пры чым? Але камбат, здаецца, гэтага не разумее і, нахмурыўшы вочы, строга глядзіць на байца.

– Яны кажуць, хай старшына Шашок на сваім здыхляку і ездзіць, калі лепшага не ўмеюць прыдбаць.

– Вы мне пакіньце гэтыя разгаворчыкі! – злуецца камбат і з сілай пырае бадылінай у снег. – Я загадваю! А яго дзела выконваць. Паняў?

– Я-то паняў, – ахвотна згаджаецца разведчык.

– Дык выконвайце! – амаль што крычыць камбат.

Побач стаяць, слухаючы гэтую не зусім звычайную сварку, байцы, немцы. То на камбата, то на разведчыка водзіць вачыма старшына, я цярпліва чакаю і думаю, што Касенкаў конік, відаць, ужо здох. А нішто сабе быў трафейны скакунок у белых панчошках на пярэдніх нагах! Аднак мінуў час – адкрасаваўся на ім наш спрытны ўзводны. Калі ўжо гэтым у вочы кінулася, дык пішы прапала, ураз адбяруць. Не ведаю, як на што другое, а на такія штукі яны майстры.

Збоку тайком я пазіраю на старшыну, той строга падцінае недарэчна тонкія на мясістым твары вусны, і нешта рашучае з’яўляецца ў ягоных вачах. Тут жа ён паварочваецца да мяне.

– Ладна, вы ідзіце. Бярыце тых, – ківае ён на немцаў, – і ідзіце напрамкі. Я даганю.

Ён даволі па-таварыску кажа гэта, і я не ведаю, як разумець яго: ці то як заяўка на сяброўства, ці мо ён лічыць мяне за старшага. Але ж Кротаў старшы па званню, і пасада ў яго сталая, не тое што ў мяне – часовага ротнага. Я запытальна пазіраю на камбата, той незадаволена кідае: «Ідзіце», і я паварочваюся да акалелых немцаў.

– Ану, марш! Марш, фрыцукі пархатыя!

## 4

Праз хвіліну мы ідзём у кукурузе па каляінах ад добра ўціснутых у снег танкавых гусеніц: Кротаў і я – па

правай, а трое немцаў побач – па левай. Кротаў, відаць, ніяк не можа змірыцца, што знялі з роты, і злосна лаецца. Гнеў яго, як і заўжды, мае канкрэтны адрас і цяпер скіраваны на нашага камбата.

– Абармот! Лакейская морда...

Немцы пакорліва тупаюць побач. Акулярысты ў мундзірчыку – наперадзе, за ім той, што без шапкі – ваўкаваты і чарнабровы хлопец, з твару зусім не падобны на немца. Стары з натугай шкандыбае ззаду, часам адстае, усё шморгаючы вялікім прастуджаным носам. У палон ён добра падрыхтаваўся, адразу відаць гаспадарлівага чалавека – на дзязе лязгае кацялок, фляжка, цераз плячо перакінута згорнутая ў скатку коўдра, на баку вісіць падобная на паляўнічы ягдташ брызентавая сумка. Не дзіва, што і адстае, гэтак нагружаны, і я, час ад часу азіраючыся, са знарочыстай злосцю прыкрыкваю:

– Шнэль, шнэль, фрыц!

Пярэдні ў акулярах тады паварочваецца і, нібы старшы сярод іх, нешта гергеча на апошняга. Я разумею толькі:

– Шнэлер, камарадэ...

Стары трохі прыспешвае хаду, целяпаючы заснежанымі поламі доўгага шыняля, і бурчыць паціху. Здаецца мне, у тым сэнсе, што, маўляў, добра табе, маладому, лёгка апранутаму, а я прыстаў ужо, хачу закурыць ды і наогул па самае горла сыты і вайной і вашым фашызмам. Гэта зусім натуральна ўчуць ад яго, бо ўжо сорак чацвёрты год і немцы на фронце не тыя, што былі ў сорак першым. Але акулярысты не дужа зважае на яго буркатню і з камандзірскаю строгасцю падганяе:

– Шнэлер, шнэлер...

Гэты пярэдні, нетаропка-разважлівы і нечым падобны на унцера, хоць мундзір на ім без усялякіх адзнак. Твар у яго прадаўгаваты, у меру хударлявы, з моцнаю ніжняй сківіцай. Пад тоўстымі шкельцамі акуляраў –

насцярожаныя, але, здаецца, памяркоўныя, без злосці вочы. Той жа, проставалосы, што ідзе за ім, неяк дужа змрочна панылы. За ўвесь час ён не сказаў ніводнага слова і, здаецца, ні разу не зірнуў ні на кога.

Кротаў з выгляду зусім абыякавы да палонных і то памаўчыць, то зноў пачынае лаяцца.

– Чуць што з палка – і ён ужо на заднія лапкі. Сваёй ён думкі не мае.

Мне здаецца, што гэта дарма. Не такі ўжо наш камбат і лёкаяваты, якім яго ўяўляе цяпер пакрыўджаны ротны – проста перад старшымі пасуе крыху, як і многія ў арміі. Жадаючы трохі змякчыць яго гнеў, я абнадзейваю Кротава:

– Можа, не затрымаюць доўга, – кажу я, маючы на ўвазе палкавы штаб, куды яго выклікаюць. – Разбяруцца, і заўтра ў роце будзеце.

– А мне напляваць! Хай затрымліваюць. Што, мне ў тыле горш, чым на перадавой? Я пра тое, чаго яны чапляюцца па-дурному.

– Бдзіцельнасць...

– Бдзіцельнасць! Г... гэта, а не бдзіцельнасць. Яму рабіць няма чаго, таму бабніку, вось ён і прычапіўся. Ну, улезлі ў вёску, не разгледзелі, не разведалі. Дык што ж? Што тут злачыннага? Ніводнага чалавека не загубілі. Хіба лепш, каб у стэпе паўроты абмарозілася? Ці як гэты дурань Сараф'янаў за два дні ўсю роту палажыў... – разважае Кротаў, ужо не азіраючыся на мяне.

Я маўчу, трымаючы пад пахай свой ППС ды цікуючы за ботамі ротнага, якія рушаць акуратна спрасаваны ў снезе гусенічны след. Хада ў Кротава энергічная і лёгкая, як у загартаванага пехацінца. Старшы лейтэнант не прызнае паўшубкаў і з восені гойсае ў туга перацягнутай рамянямі ватоўцы. На руках у яго цёплыя аўчынныя рукавіцы на матузку, перакінутым

цераз шыю, і ён у злосці шырока жэстыкулюе імі.

– Загадана было атакаваць, ну і атакаваў, пакуль восем чалавек не засталося. Нябось яго за гэта ў штаб не цягаюць!

Так, за гэта, мабыць, не пацягнуць, думаю я. Наадварот, яшчэ могуць даць ордэн за ўпартасць і настойлівасць пры выкананні загаду. Каму там разбірацца, што гэты Сараф’янаў набіты дурань і гарлапан, што яго даўно трэба пагнаць з батальёна куды-небудзь на гаспадарчы ўзвод. Але камбат наш усё ж не такі, увогуле ён нядрэнны камандзір, не крыкун і не баязлівец. Хіба што залішне цягнецца перад начальствам. Дык што ж: пра такіх кажуць – дысцыплінаваны.

Кротаў, нібы угадаўшы мае думкі, пярэчыць:

– Дысцыплінаваны! Дайшоў да чаго – перад нейкім там старшыной рассыпаецца, папяросачкамі частуе. Забыўся, мабыць, што і капітан, што і камандзір батальёна. І хто гэты старшына? Халуй, і ўсё.

Гэта сапраўды непрыемна, і тут я не знаходжу, чым можна было б абараніць капітана. Хіба тым, што здарэнне з шостай ротай не можа не адбіцца і на ўсім батальёне. Камбат, відаць, разумее гэта і, можа, не зусім упэўнена адчувае сябе.

На завароце танкавай каляіны я азіраюся. Мы прайшлі па кукурузе ўжо далекавата, батальённая калона без следу і гуку знікла ў вячэрнім стэпе. Шашка чамусьці нідзе не відаць. Ну, але старшына дагоніць, гэта не цяжка, бо мы ўвесь час ідзём па добра прыкметным шляху, а ноч будзе, напэўна, відная. Яшчэ не паспела сцямнець, як на бясхмарным марозным небе ва ўсё сваё поўнае вока свеціцца цыганскае сонца – месяц. Горш вось, што трэці, стараваты, немец увесь час адстае, відаць, добра ўмарыўся ўжо і на маё строгае «шнэль» не дужа рэагуе. Тады я гукаю Кротаву: «Стой!» Трэба пачакаць, бо ўсё цямнее, і я, прызнацца, патроху непакоюся, каб гэты стары куды не зашыўся. Старшы лейтэнант незадаволена спыняецца, ахвотна

прыпыняюць хаду немцы, і ўсе мы чакаем, пакуль даграбецца ў каляіне іх камарад. Кротаў, мусіць, трохі ўжо прымірыўся з маім камандзірствам і падпарадкуецца. Мне, аднак, няёмка перад ім, старэйшым, і, каб змякчыць гэту няёмкасць, я дастаю з кішэні два сухары.

– Хочаце? Пагрызіце.

Снедалі мы на золку аж у Севярынцы і ўжо добра ўгаладаліся за дзень. Пэўна, з гэтай прычыны сухар здаецца надзіва смачны, я чую, як Кротаў з асалодай адкусвае, і з паўхвіліны мы засяроджана хрумстаем жорсткія кавалкі. Пасля міжвольна пазіраем на немцаў, якія стаяць у трох кроках ад нас, і натыкаемся на ўважлівы позірк акулярыстага. Мулкі кадык на доўгай шыі ў таго слізгае пад скурай угору і ўніз. Кротаў перастае жаваць.

– Што, дапякло? – нібы ўпершыню заўважыўшы палонных, з’едліва кажа ён. – Наваяваўся, сабачы сын? Жраць захацелася? Трымай!

Старшы лейтэнант разломвае сухар і кідае кавалак акулярыку. Той спрытна ловіць яго і з задавальненнем пачынае яго грызці. Ваўкаваты ж стрымана стаіць побач без шапкі, і я засоўваю руку ў кішэню. Там яшчэ адзін кавалачак сухара, апошняга з маёй сённяшняй нормы. Я дастаю яго і не без шкадавання працягваю цераз дарогу. Немец секунду марудзіць, пасля бярэ сухар і, адставіўшы ніжнюю губу, нешта чмыхае. Я яшчэ не магу зразумець чаго, як ён кароткім узмахам цераз плячо шпурляе сухар у кукурузу.

– Ах ты, гадзіна! – узрывае мяне абурэнне.

Кротаў перастае жаваць. Нейкі час ён маўчыць з жаўлаком за шчакой, а пасля, зламаўшы пад ілбом брыво, ступае між каляін у снег.

– Ану, падбяры!

Немец, насупіўшыся, маўчыць і не кратаецца з месца.

– Падбяры, гніда! – жорстка загадвае Кротаў і яшчэ праз секунду коратка б’е яго ў сківіцу. Той хістаецца, але ўстойвае на нагах, і старшы лейтэнант, не стрымліваючы ў сабе шаленства, крычыць: – Вош паўзучая! Сволач! Пракляцце наша! Праз вас я паўгода ў шпіталі праенчыў! Вы бацькаву хату спалілі! Праз вас мяне начальства цягае! На яшчэ, гад!

Немец зноў хістаецца, хапаючыся рукой за шчаку, але так нічога і не вымавіўшы – ні ад болю, ні ад страху. Зацятая ўпартасць яго і ва мне адгукаецца непадуладным міжвольным гневам. Нейкая жывёльная нянавісць так і падмывае заехаць яму па мордзе, як гэта зрабіў Кротаў, і я, адчуваючы, што не стрымаюся, кажу старшаму лейтэнанту:

– Ладна, кіньце вы!

Стары, які тым часам даганяе нас, відаць, цяміць ужо, у чым справа, і ўслужліва лезе ў кукурузу. Здзьмухнуўшы з сухара снег, ён зважліва падносіць яго раз’ятранаму Кротаву. Той, аднак, б’е немца па руцэ, і сухар адлятае ў снег.

– Прэч! Прэч, гады! Злыдні! Сволачы! Я вас усіх зараз!

Ротны хапаецца за кабуру, і я ледзьве спыняю яго:

– Ладна. Не трэба! Пайшлі.

Працінаючы ўсіх трох ненавісным позіркам, Кротаў неахвотна пераходзіць у правую каляіну.

«Вось жа гад фашысцкі!..» – думаю я, прыадстаўшы і назіраючы ззаду за проставалосым гітлераўцам. Валасы ў таго чорныя, відаць, жорсткія, да вушэй ён і не дакранаецца, нібы не адчуваючы марозу. За ўсю дарогу не сказаў ніводнага слова, ні разу не зірнуў нам у вочы, але ва ўсёй яго постаці адчуваецца небяспечны, стоены вораг. Пасля гэтага здарэння з сухаром я трохі насцярожваюся і перасоўваю свій ППС на грудзі: ці мала што можа выкінуць яшчэ гэты злыдзень!

Стэп заціхае к ночы, але ўсё ж мноства прыцішаных

гукаў сведчыць аб прысутнасці наўкола вялікае сілы вайны. Ідзе наступленне, водгукі яго раз за разам даносяцца да слыху ў прыглушаным танкавым гуле, далёкіх выбухах. Недзе на поўдні, за Кіраваградам, усё палыхае край неба: агністае зарава на небасхіле то шырэе, разгараючыся, то паціху вузее. Аднекуль даносяцца невыразныя галасы людзей, пэўна, непадалёку праходзіць дарога. Скрозь у стэпе стоены рух, сцішаны грукат і людзі. У кукурузе, аднак, мы не шмат вакол сябе бачым.

**5**

Шашок даганяе нас, калі ўжо ўсталёўваецца ноч і ў высокім студзеньскім небе з вострым бляскам густа высыпаюць зоркі. Сярод іх на поўную моц ззяе месяц. У стэпе відна, хоць збірай іголкі. Рэзкія сінія цені нячутна валакуцца за намі; ярка бялее снегавы дол; наўкола мроіцца ў прыцемках кукурузны абшар. На краі яго мы з Кротавым заўважаем рухавую постаць. Каня амаль не відаць у кукурузным зарасніку, толькі паверх яго сунецца коннік. Мы спыняемся і чакаем. Ну, вядома, – гэта старшына.

– Фу, думаў не даганю ўжо, – з прыкметнай палёгкай ад таго, што пазбыўся адзіноты ў начным полі, кажа Шашок і прытрымлівае каня. – Ну як, не паразбягаліся фрыцы?

– Не разбягуцца, – кажу я.

Старшына скіроўвае каня па левай каляіне і блізка пад’язджае да немцаў. Кротаў на хаду азіраецца (здаецца, ён ужо паспакайнеў) і з хвіліну ўглядаецца ў старшыну і яго каня.

– Ну што, не адкалолася?

– Не адкалолася, – ахвотна адказвае Шашок. – Заўпарціўся разведчык. Не хацелася скандал учыняць.

Усё зразумела: Шашок на тым самым мухортым коніку, на якім і прыехаў у батальён. Значыць, Касенка праявіў

характар да канца. Ён такі, гэты наш лейтэнант. Разведчык!

– Я б таму каню лепш кулю ў вуха, чым вам аддаваць, – кажа Кротаў.

Шашок не адказвае, прапускае міма ўвагі гэтую адкрыта непрыязную заўвагу і развязна крычыць на немцаў:

– Шнэль! Шнэль, вашу матары! Затапчу, фашысты!

Ён і сапраўды падсцёбвае повадам каня. Задні немец кідаецца з каляіны, проставалосы адхіляецца ад конскае храпы. Старшына задаволена рагоча.

– А, палахліўцы, такую вашу... Саступай дарогу рускаму воіну!

– Ану, канчай! – пагрозліва азіраецца Кротаў. – Спярша вазьмі ў палон, а пасля будзеш канём таптаць.

Шашок прыціхае і зверху ўніз насцярожана аглядвае ротнага.

– А вам што, шкада?

– Не шкада. Агідна!

– Значыцца, зашчышчаеце? Немцаў зашчышчаеце?

– Ідзі ты...! – узрываецца Кротаў. – Хочаш дзела прышыць? Не баюся я вас!

– Так, так! – Шашок шматзначна сціхае, нешта затаіўшы ў сабе, і далей ціха едзе сабе за ўсімі.

Немцы пераглядваюцца, відаць, штосьць зразумеўшы з гэтае сваркі, і мне робіцца няёмка перад імі. От яшчэ знайшлі месца лаяцца! Ну, але ўсё гэты Кротаў... Вядома, ён цяпер злосны, таму і сапраўды можа нарабіць сваркі.

Толькі, відаць, я дарма непакоюся, пасварыцца як мае быць яны не спраўляюцца. На чарговай танкавай

паваротцы ў кукурузе нам сустракаюцца людзі.

Гэта сувязісты. Абвешаныя шпулькамі з кабелем, тэлефоннымі апаратамі, са зброяй на грудзях, яны палахліва кідаюцца ўбок з каляін, калі бачаць нас. Пасля, мабыць, пазнаўшы сваіх, нясмела выходзяць з рэдзенькае кукурузы і заміраюць на дарозе. Позіркі іх чамусьці трывожна скіраваны ўбок.

– Што такое? – пытаецца Кротаў, калі мы набліжаемся да іх.

Сувязісты топчуцца на месцы, рухі іх дужа скутыя, галасы сцішана ўстрывожаныя.

– Там немцы, – урэшце зацята паведамляе адзін з карабінам на шыі.

– Ледзьве не напароліся, – ахвотней дадае другі, не адрываючы позірку ад прыцьмелае кукурузнай далечы.

Два другія моўчкі ўзіраюцца туды. Я таксама пазіраю наперад.

– Ідзі ты, хлопец, ведаеш куды! – злуецца Кротаў. – Адкуль тут ім узяцца? Вунь дзе немцы, – паказвае ён назад, на зарава над Кіравааградам.

– Канешне, – не вельмі ўпэўнена пацвярджае Шашок. – Я надвячоркам тут ехаў – нікога не было.

Сапраўды, адкуль тут узяцца немцам, ужо амаль што ў глыбокім тыле палка? Батальёны далёка наперадзе, калі б што, дык ужо даўно заўважылі б і прынялі якія меры.

– І танк. Стаіць, кукурузай абкладзены.

«Тыгр»! – быццам не чуючы нашых пярэчанняў, у нейкім няўцямным трансе бубніць сваё сувязіст.

Кротаў са знарочыстай праставатасцю ў голасе пытаецца:

– Танк?

– Танк.

– «Тыгр»?

– Ага, мусіць, «тыгр». Дужа вялікі.

– Знаеш, баец! Быў бы ты ў маёй роце, я б табе паказаў «тыгра». Ён бы табе пасля кацянём здаўся! – грозіцца Кротаў і ківае на мяне. – Пайшлі! А вы цягніце сувязь! Куды загадана. І без панікі каб. Жыва! Вам зразумела?

Сувязісты, аднак, усё топчуцца на месцы. Ад камандзірскай упэўненасці рашучасці ў іх, відаць, не прыбыло. Ціха перагаворваючыся, яны застаюцца, а мы ідзём далей. Я пачынаю пільней, чым дагэтуль, узірацца ў начное наваколле. Кротаў перасоўвае на рамяні кабуру. Немцы, наўрад ці зразумеўшы што з гэтае размовы, ціха брыдуць у сваёй каляіне. Старшына Шашок моўчкі едзе ззаду. Ён першы парушае нашу няпэўную маўклівую насцярожанасць.

– Младшой! – звяртаецца ён да мяне. – Ты гэта вось што...

Я гляджу на старшыну, ён, зверху цікуючы па баках, нешта рашае.

– Ты вось што... Вядзі іх прама. А я... А я падскочу ў батальён. Забыў адно дзела.

«Што ж, падскоквай. Мне што? Толькі ніякай у цябе справы там няма. Проста ты спалохаўся, пісарская душа», – думаю я.

Кротаў, нядобра бліснуўшы вачыма, азіраецца, але маўчыць. Шашок таропка заварочвае каня і з месца пускае яго галопам.

– Наклаў ужо... – чмыхае Кротаў. – Ну і чорт з ім! Без яго лягчэй.

Немцы, відаць, усё ж нешта зразумелі з нашай замінкі.

Пярэдні ў акулярах, не паварочваючыся, нешта буркае астатнім двум, і чорны з яўнай зацікаўленасцю пазірае ў прыцьмелую далячынь. Стараючыся пільней сачыць за імі, я праваю рукой намацваю рукаятку затвора.

Так мы праходзім з кіламетр ці болей. Насустрач нідзе нікога, паблізу, здаецца, ніякага падазронага руху. Кротаў рашуча сплёўвае на снег.

– Гэтым тылавікам заўжды чэрці сняцца. Такі ўжо на...

Ён, відаць, хоча сказаць «народ», але на паўслове замірае і нечакана спыняецца. Я ледзьве не наскокваю на яго ззаду і тут выразна, хоць і не зусім рэальна (з нечаканасцю, як у благім сне), бачу наперадзе людзей. Чалавек пяць іх стаіць у кукурузе, узіраючыся ў наш бок. Побач цямнее нейкая невыразная пляма – куча кукурузы ці які куст? Крыху далей другая, а там яшчэ і яшчэ.

Але я так і не паспяваю зразумець, што гэта. Я чую толькі, як да недарэчнасці рэзка скаланаецца ля мяне Кротаў. Затым з яго грудзей вырываецца нейкі прыдушаны крык, і старшы лейтэнант, моцна прыгнуўшыся, нібы драпежнік, рынаецца ад мяне ўбок. Секунду я не цямлю, у чым справа. Збянтэжаны позірк мой скіроўваецца за Кротавым, і тады я бачу, як адзін з нашых немцаў ашалела бяжыць у кукурузу.

– Стой! Стой!.. Стой! Ох ты!..

Гэта – Кротаў. Кінуўшыся за немцам, ён ірве з кабуры пісталет, але той дзесь зачапіўся і не вымаецца. Або мне гэта здаецца... Кротаў падае на калені ў снег, спрабуе ўскочыць, і тады першая траскучая чарга прашывае навокал паветра. Я падаю ў каляіну, тузаю рукаятку затвора. Наперадзе ў кукурузе штосьпыхкае. Выбух сцябае па твары снегам і асляпляе. У апошні момант уваччу мільгае Кротава рука з адстаўленым локцем. У ёй пісталет. Затым агняная пляма гасіць зрок. Аднак праз секунду я бачу над сабой вырасшыя на паўнеба зблытаныя сцяблы кукурузы. У іх вісіць нізкі месяц, і пад ім – дзве постаці. Адна нерухома ляжыць у

каляіне, а другая, падаючы і ўскокваючы, бяжыць у кукурузу, некуды ў бок ад нас і ад немцаў. «Уцякуць!» – мільгае спалох, і я, не цэлячыся, націскаю на спуск. Аўтамат дробна ўздрыгвае, і гэта вяртае мяне да рэальнасці. На руках і каленях я кідаюся на той бок каляіны. Немец наперадзе таксама ўскоквае і, прыгнуўшыся, шырока сігае кудысь між рэдкіх сцяблоў. Я даўка крычу: «Назад!» Ён спалохана кідаецца ў другі бок. Але я, некалькі разоў скокнуўшы, наганяю яго і падаю амаль побач. Шумна дыхаючы, ён ляжыць, узіраючыся ў мяне, і чакае. Адзенне яго і галава скрозь у снезе. Я ўскідваю аўтамат і з лютай прыцішанасцю гукаю: «Назад!» Палонны паспешліва паднімаецца на калені і хутка паўзе між сцяблоў кукурузы. За ім, прыгнуўшыся, караскаюся я. Ззаду выразна даносіцца ўстрывожанае нямецкае гергетанне. Кротава няма. Мёрзлыя тугія калівы блытаюцца пад нагамі, б’юць па галаве. Але яны трохі хаваюць нас, і мы адбягаем ад таго месца, дзе нас застала чарга. Нас толькі двое. Той, у каляіне, так і не падняўся. Я не ведаю нават, каторы гэта з іх, як не ведаю і таго, каторы паўзе са мной. І незразумела, дзе Кротаў. На хвіліну я затрымліваюся і слухаю. Здаецца, мы трохі адрываемся ад немцаў, і тады з кукурузы рвецца крык:

– Хальт!

– Хальт!

– Хальт, рус!..

І чарга – адна, другая, дзве разам. Мы падаем і па рыхлым снезе зноў кідаемся ўбок. Мая ўвага расколваецца надвае – аднасчасна я лаўлю ўсё, што пагражае нам ззаду, і не ўпускаю ад сябе немца. Ён круціцца, як вужака, паўзе. І я гэтаксама кручуся, куляюся, паўзу, каб не адстаць ад яго.

У кукурузе тым часам раздаецца адзіночны пісталетны стрэл і затым зноў прыглушаныя адлегласцю крыкі немцаў. І зараз жа мяне спыняе чамусьці хрыпаты, але злы крык Кротава.

– Не! Не! Сволачы!

І зноў слабы пісталетны стрэл, другі. Трэці, пэўна, накрывае чарга, і ўсё там сціхае.

«Што ж гэта? Як жа гэта? Чаму так?» – як дрыготка, б’е мяне распачлівая думка. Вываляны дашчэнту ў снег, я распластваюся між мёрзлых бадылёў кукурузы. Перада мной ляжыць немец. Я толькі цяпер пазнаю, што гэта той акулярык у мундзірчыку. Аднак акуляраў у яго ўжо няма, ён задыхана сапе і шырока міргае сваімі бялёсымі вачыма. Я ўскокваю на ногі і тут жа прысядаю ад болю ў ступні. Паранены! Збянтэжаны, яшчэ не ўсвядоміўшы ў поўнай меры таго, што здарылася, я, аднак, выразна адчуваю: гэта – непапраўная, вялізная бяда. Трэба зараз жа нешта зрабіць, неяк ёй процідзейнічаць. Нага ў мяне прыкметна цяжэе, штось гарачае, нават востра пякучае разыходзіцца па ступні. У боце хутка макрэе. «Ну вось і ўсё!» – сціскае сэрца самотная думка. Аднак яна працвярэжвае ад страху, і я разумею, што небяспека яшчэ не мінулася, што трэба хутчэй выкараскацца адсюль.

Прыўстаўшы на калена, я наступаю на параненую нагу – ці цэлая хаця косць. Калі падломіцца – тады ўсё прапала. Але нага, дзякуй Богу, не падломваецца, толькі баліць, дужа пячэ. Праўда, боль – не так важна, боль мы як-небудзь стрываем. Я падхопліваюся, прыгнуўшыся, штурхаю аўтаматам немца, і мы зашываемся ў вялізным прасцягу кукурузы.

**6**

Людзі ідуць, ідуць, ідуць...

І я іду. Іду без мэты, немаведама куды, насустрач цёплай вясновай ночы. Вячэрняя сцішанасць высокага пагоднага неба мірам і добрасцю ліецца ў разварушаную душу. Дробненька рассыпаецца музыка са «Спідолы». Гэта перада мной мерна крочаць, нібы плывуць у людскім патоку, трое хлапцоў. Чорныя вячэрнія гарнітуры, вастраносыя чаравікі. Вельмі

дбайна прычэсаныя шавялюры.

Я іду за імі і думаю пра сваё.

Цяпер, праз дваццаць год, можна меркаваць па-рознаму. Хоць, прызнацца, я і дагэтуль толкам не ведаю, як усё тое адбылося. Магчыма, адступаючы, немцы наўмысля пакінулі ў нашым тыле танкавую групоўку. А можа, нашы часці самі абышлі яе, гонячыся за тэмпам наступлення. Уперад, не зважаючы ні на што, глыбей у варожы тыл – было няпісаным правілам кожнай наступальнай аперацыі. А танкі засталіся. Гэта найбольш верагодна. Важна было акружыць Кіраваград, паставіць пад пагрозу разгрому дзесятак нямецкіх дывізій. Каму там клопату, што ў нейкім месцы нашага баявога парадку ўтварылася прарэха, у якую ўлезлі немцы.

Для фронту гэта было нястрашна, для арміі таксама. Дывізіі было горш. А вось кам... Мне, небаракам-параненым, таксама як і заклапочана-бяспечным тылавікам, гэта было пытаннем: жыць ці памерці.

Мусіць, тады я зрабіў усё ж няправільна. Калі б ведаць, што будзе далей, дык трэба б крыкам крычаць на ўвесь стэп. Надакучаць рознаму начальству, не зважаць, што маглі паставіць і да сцяны, палічыўшы за панікёра. Вядома, панікі на фронце баяліся ўсе гады, пачынаючы з сорак першага. Наконт яе былі грозныя загады, у тым ліку і самога Сталіна. Падазрэнне ў панікёрстве часам мела куды больш небяспечныя вынікі, чым рэальная пагроза з боку немцаў. Таму, як след не разабраўшыся ў абстаноўцы, камандзіры да часу стараліся маўчаць, спадзеючыся, што начальству раней данясе сусед. Я ж у свежым запале нечаканай сутычкі аб гэтым тады не падумаў.

Людскі паток з тратуараў уліваецца ў вялізны натоўп на плошчы.

Тут помнік.

На плошчы гамана і штурханіна. Натоўп пацясняецца,

падаецца ўбок, прапускаючы да помніка строй піянераў са сцягам. Лясны водар хвоі ад вянкоў настройвае на адпаведны хаўтурны лад. Урачыстая хвіліна ўскладання. Людская гамана прыціхае. Гучней грымяць маршы з дынамікаў.

Ля помніка чуецца нейкая каманда. Я думаю, можа, тут будзе мітынг? Хоць на мітынг штось не падобна – няма ні трыбун, ні арганізатараў.

Звонкім, добра пастаўленым галаском юная выхаванка школьнай самадзейнасці бадзёра чытае верш. Ніхто не забыты, нішто не забыта. Гучна звіняць над плошчай высокія, поўныя аптымізму словы. Малайчына дзяўчо!

Невядома чаго, я праціскаюся між людзей да помніка. Што я там хачу ўбачыць? Скрозь – твары, твары, твары. На мяне ніхто не звяртае ўвагі. Тым лепш. Я разумею, што знайсці тут каго – безнадзейная справа. Як іголку ў стозе сена. І ўсё ж лезу ўсярэдзіну. Гранітнае падножжа манумента завалена зелянінай вянкоў. Колькі хваёвых галін! На вайне яны спадарожнічалі забітым у іх апошнім шляху на зямлі. Разам іх клалі ў магілы. Часта замест дамавін...

Да агню, аднак, не падступіцца. Там піянеры. Стройныя рады белых сарочак і кофтачак. Урачыстая чырвань гальштукаў. Яны салютуюць. Я спыняюся ў шчыльнай групе моладзі. Хлопцы і дзяўчаты. Зноў вастраносыя туфлі, абцасікішпількі. Пышныя і старанныя прычоскі. І над плошчай усё той жа прыглушаны россып транзістараў:

А за окном то дождь, то снег,

И спать пора. Но никак не уснуть...

Яны жывуць сваім, куды больш ім блізкім. І я іх разумею. На самой справе: прайшло амаль дваццаць год. Шмат хто нічога ўжо і не памятае з таго, што было ў раннім дзяцінстве. Многія нарадзіліся пасля вайны. Вайна для такіх – абстракцыя.

Марудна я прабіраюся між іх шчыльных груп. Мне патрэбен Вечны агонь. Навошта – не ведаю сам. Хіба каб наблізіцца. У кожным агні ёсць невытлумачальная зваблівасць. Магчыма, гэта інстынкт, выпрацаваны ў глыбінях стагоддзяў. У старажытных агонь быў сродкам жыцця, ачышчэння і ахвярнасці. Цяпер ён сімвал іншага сэнсу. Мне хочацца толькі зірнуць на яго і тым далучыцца да памяці мёртвых.

Не дужа ветліва рассоўваючы людзей, я ўсё ж прабіраюся да абеліска. Праўда, агню амаль не відаць, Над хвояй празрыстымі хвалямі струменіць гарачае паветра. У шырокім маўклівым крузе замерлі людзі – дарослыя і дзеці, мужчыны і жанчыны. Строгія позіркі ўсіх скіраваны да адной кропкі – сімвалу вялікага сэнсу. Твары ўрачыста засяроджаны. Яны вельмі мудрыя і вельмі светлыя, гэтыя твары. Мне здаецца, я ніколі не бачыў такімі нашых людзей. Цяжка нават паверыць, што гэта самыя звычайныя твары самых звычайных людзей. Зрэшты, тут тыя, па лёсе якіх усім сваім цяжарам праехала вайна. Ледзьве паўзіраўшыся, я ўжо разумею гэта.

Што ж, пэўна, я таксама не буду тут лішні.

Я выцягваю галаву з-за нейчай высокай чорнай спіны і моўчкі стаю з усімі. Мяккай пазалотай паблісквяюць карнізы і ляпныя рэльефы помніка. Насупраць, нібы мармуровая скульптура, – нерухома жалобны твар жанчыны. Яна ў вялікай чорнай хусціне, з-пад якой выбіваецца на лбе пасма зусім белых валасоў.

Непадалёк, скрыжаваўшы на грудзях рукі, сядзіць інвалід у калясцы. І раптам я чую ціхі голас таго, што стаіць перада мной.

– Ён які, агонь? Сапраўдны?

– Самы сапраўдны, татка. Гэта ад газу агонь. Як на кухні ў Кузьмічовых.

Васьмігадовы хлапчук тармосіць за руку чалавека. Той, аднак, роўна стаіць, трошкі схіліўшы голаў.

– Вялікі?

– Вялікі, татка. Толькі вянкамі заклалі – не відаць.

– А вянкоў многа?

– Многа. На мазаўскі самазвал не ўлезуць.

– Самазвал ён як «студэбекер», так?

– Што?

Хлапчук не пачуў або не разумее незнаёмага слова. Я тлумачу:

– Многа вянкоў. Пэўна, на поўны «студэр» з верхам. Чалавек на паўабарота паварочвае да мяне пабіты порахам, рабаваты твар.

– Дзякуй.

Калі ласка. Хаця навошта дзякаваць. Жорстка памечаныя вайной, мы і так выдатна разумеем адзін аднаго. Мы – пабрацімы аднаго лёсу. І мне робіцца добра тут, у гэтым цесным страі. На гэтым стыхійным мітынгу без прамоўцаў.

Хлопчык з-пад бацькоўскай рукі з паважнай цікаўнасцю азіраецца на незнаёмага чалавека.

Аднак добрага патроху. Здаецца, жаданне выканана. Неяк унутрана прасвятлеўшы, я пачынаю вылазіць з натоўпу.

Усё ж Вечны агонь у памяць аб тых, хто загінуў – гэта здорава! Калі толькі вечнасць яго не акажацца кароткай.

Здаецца, у адносінах да ўвекавечання забітых я памыляўся. Памяць аб стратах у нашай краіне, як ні ў адной іншай, шматзначная і сімвалічная. Напэўна, ніколі ў мінулым народ не губляў столькі невядомых салдат, як у апошняй вайне. І дагэтуль нікому невядома, колькі маці не дачакаліся з вайны ні сыноў, ні

паведамленняў пра іхні лёс. І ляжаць яны ў зямлі невядомымі. Героі і негероі з невядомымі чалавецтву пакутамі і невядомымі подзвігамі, невядомымі лёсамі і імёнамі. Дык хай будзе благаславенны агонь у іх памяць!..

Я рашуча выбіраюся з плошчы. Аднак гэта не проста. Уздоўж тратуара рады людзей. Нехта шчоўкае «Зоркім». Жанчына на выцягнутых руках высока ўзнімае дзіця. Хай бачыць і памятае малы.

За тратуарам рад чырвоных газіровачных аўтаматаў. Ля іх таксама людзі. Лязгае мядзяк, нетаропка гудзе жалезнае нутро, і аўтамат акуратна адмервае сваю порцыю. Стараючыся не ступаць у лужы на асфальце – шукаю шклянку. Ля крайняга аўтамата, засланяючы адзін аднаго, нешта шальмуюць двое. Ужо немаладыя. Па ўзросце – былыя франтавікі. У абодвух у руках па шклянцы, але не падобна, каб з газіроўкай. Той, што стаіць насупраць, перахапіўшы мой заклапочаны позірк, з фамільярнасцю, на якую не пакрыўдуеш, падміргвае:

– Адну хвілінку...

І хавае за аўтамат бутэльку. Я спыняюся ўбаку і чакаю. Мужчьшы цішком стукаюць шклянкамі. Адзін рослы, цяжкаваты, з бурачнага колеру тварам. На ягоным пінжаку тры рады ордэнскіх планак. Два – Чырвонага Сцяга, па адным Аляксандра Неўскага і Айчыннай вайны. У другога, крыху маладзейшага і нейкага дужа пакамечанага з твару, лацкан няновага рудога пінжака важка адцягваюць дзве Чырвоныя Зоркі. Відаць, прывінціў спецыяльна для свята. Мужчыны таропка п’юць. Крэкнуўшы, заядаюць сухой воблай. Старэйшы – мажны крутаплечы дзядзька – выразным кіўком паказвае на маю нагу.

– Што, на вайне?..

– На вайне.

– Ну, а газіроўку п’еш! Ці не зарабіў? – змрочна папракае ён і пытаецца: – Трахнула дзе?

– На Другім Украінскім.

– Сусед. Я з Першага. А гэты з Ленінградскага, – з трэскам ламаючы воблу, ківае ён на сабутэльніка.

Я чакаю шклянку, а ён, памарудзіўшы, нагінаецца за бутэлькай. Шырокая вялікая яго рука налівае болей паўшклянкі.

– Давай! За тых, хто хоча, а не можа.

– Ну што вы!.. Я не п’ю.

Ён, увачавідкі хмялеючы, гатовы абурыцца:

– Як гэта не п’еш? Тады ты не франтавік. Ты – чыгуначнік.

У яго нетаропкія рухі, бясспрэчны камандзірскі тон, цяжкаваты позірк чалавека, які ведае сабе цану. Маладзейшы, наадварот, увесь час смеючыся вачыма, грызе ўстаўнымі металічнымі зубамі воблу і падміргвае:

– Давай, друг! За рускіх Іванаў.

Мне зусім не хочацца піць, але іх фамільярная катэгарычнасць абяззбройвае. Хіба што за Іванаў. Маладзейшы выдзяляе кавалак воблы, і я паспешліва, захлынаючыся, п’ю. Як і на фронце. Выпадковая чарка сярод незнаёмых суседзяў-танкістаў або мінамётчыкаў. Праўда, там не было і следу няёмкасці.

– Ну і нішто! – адабрае старэйшы. – Справіўся. А казаў, не п’ю. У якім званні?

– Я?

– Ну, вядома ж, не я.

– Малодшы лейтэнант.

– Зразумела. Ванька-ўзводны.

– Ага. Праўда, і ротным быў.

– Я таксама. Да Берліна вырас у дывізійнага.

Салёны кавалак рыбы пячэ ў роце. Настроем хутка завалодвае хмельная лёгкасць. З рэпрадуктараў грыміць «Свяшчэнная вайна». Побач лезуць, тоўпяцца, штурхаюцца людзі. Аднак мы не звяртаем на іх увагі. Мяне пачынае цікавіць старэйшы. Але наконт дывізійнага ён, здаецца, «загнуў».

– У дывізійнага, кажаце? Занадта высока.

– Высока? Думаеш, да дывізійнага не дабраў? Так? Ану, палічы. Адзін камплект роты – дзвесце чалавек.

– Гледзячы якой роты.

– Якой! Штрафной, вядома.

– Штрафной?

Я з новай цікаўнасцю пазіраю на гэтага чалавека. Плячом ён прысланяецца да чырвонай сценкі аўтамата.

– Ну і вось. Дзвесце памнож на дванаццаць. Дванаццаць разоў фарміраваліся. Не лічачы частковых папаўненняў. Дывізія!

Ну, можа, і не дывізія, але таксама нямала. Я першы раз бачу чалавека, які на фронце камандаваў штрафной ротай, і з несхаванай цікаўнасцю гляджу на яго. Малодшы растрыбушвае пачак «Беламору».

Жанчына ў празрыстай хустачцы, з медзяком у пальцах выглядае шклянкі.

– Шкляначкі вольныя?

– Заняты! – буркае старэйшы.

– П’яніцы праклятыя!

– Цыц, цётка! У нас памінкі!

Цётка, адышоўшыся, грозіцца:

– Вось паклічу дружыннікаў, тады паменяцё. У працвярэзнік вас, алкаголікаў!

– Што? Дружыннікаў? Кліч! Кліч дружыннікаў! – пачынае распаляцца старэйшы і пагрозліва ступае ад аўтамата.

Малодшы, бліснуўшы металічнымі зубамі, хапае яго за руку.

– Кузьміч, спакойна! Спакойна, Кузьміч!

– Што спакойна? – крычыць Кузьміч. – Ідзіце вы... Давай яшчэ пляшку!..

Малодшы дастае з-за пазухі яшчэ бутэльку, і Кузьміч спрактыкавана адкручвае галоўку. Рукі яго дрыжаць. Гарэлка цераз берагі шклянкі ліецца на асфальт. На гэты раз яны п’юць удвух і моўчкі.

Я думаю, што трэба ісці. Але Кузьміч, пляснуўшы рэшту гарэлкі пад ногі, узнімае на мяне счырванелыя, незадаволеныя вочы.

– Што глядзіш? Асуджаеш? Так? Асуджаеш? Ты, чыгуначнік! – амаль абразліва заканчвае ён.

– Кузьміч, спакойна! Ціха, Кузьміч, – бярэ яго за пінжак малодшы.

Кузьміч злымі вачыма глядзіць на мяне. Здаецца, ён ужо забыўся, хто я, і гатовы абрушыць на мяне ўвесь свой накоплены з вайны гнеў.

– Ладна. Бывайце здаровы! – кажу я. – Дзякуй.

Малодшы ловіць маю руку.

– Няма за што. Ты не крыўдуй. Ведаеш, Кузьміч, ён добры...

Я іду па тратуары і прыкметна кульгаю. Выпіўшы, я заўжды здорава накульгваю. І я не крыўдую. Увогуле п’яныя агідныя. Асабліва сярод цвярозых. Але гэтага

«дывізійнага» можна зразумець. Дзвесце на дванаццаць! Паняволі азвярэеш.

Асабліва з часам. Калі ўсё гэта адстоіцца і ўзмацніцца ў эмацыянальнай памяці. Тады і замітусяцца хлопчыкі крывавыя ў вачах.

А Сахно? Ці бачыць ён сваіх хлопчыкаў?

Не, я размазня і баязлівец. Трэ было зараз жа затрымаць яго, праверыць дакументы. Калі што, крыкнуць на дапамогу людзей. Столькі перадумана аб ім, а калі з’явіўся ўрэшце проста неверагодны, можа, адзіны ў жыцці выпадак, я разгубіўся.

Франтавік, называецца!

Гарэлка пячэ нутро, тлумна муціць маю свядомасць. Карціць нешта зрабіць, на штосьці адважыцца. І я брыду, куды вядуць мяне вуліцы. Спачатку па праспекце, пасля на перакрыжаванні зварочваю за рог. Неўзабаве людскі гушчар на тратуары радзее. Раптам пыхнуўшы, угары загараюцца ліхтары. Іх матавыя шары, як парныя месяцы, цьмяна свецяцца ўгары за рэдкай яшчэ лістотай ліп. Па меры таго як цямнее неба, яны ўсё разгараюцца і свецяць ярчэй.

**7**

Няхутка яшчэ мы выбіраемся праз кукурузу ў чыстае поле з параскіданымі там-сям сціртамі. Я ўслухоўваюся: аднекуль даносяцца галасы. Але гэта здалёк, і не пазнаеш нават, свае то ці немцы.

У боце хлюпае ад крыві, рукі дранцвеюць на марозе. Рукавіца засталася толькі адна, і тая, мокрая ад снегу, не грэе.

Немец брыдзе ззаду, натыкаючыся на кукурузныя бадылі, часам чапляецца за іх ботам і падае. Без акуляраў ён, напэўна, зусім зрабіўся сляпы, і я, сцяўшы ад болю зубы, час ад часу пакрыкваю на яго. Унутры ў мяне ўсё гарыць ад стомы і знямогі, спіна мокрая ад

халоднага поту, сэрца буйна трапечацца ў грудзях.

Што ж гэта сталася? Як жа гэта? – не магу я даўмецца. Як жа гэта мы ўлезлі ў такую пастку, як далі заманіць сябе ў засаду? Бедны Кротаў! Мне то шкада яго, то апаноўвае на яго злосць. Зрэшты, я лаю сябе, камбата, старшыну Шашка. Але што цяпер зробіш?..

Танкі! Адкуль яны ўзяліся тут і што мне, падстрэленаму, рабіць далей? Вядома, трэба як хутчэй далажыць начальству. Трэба прымаць нейкія захады, нельга дапусціць, каб у тылах батальёнаў былі танкі. Гэта – разгром і пагібель.

Але каму скажаш? Як назло, нідзе нікога з нашых. Хоць бы тыя сувязісты, яны памаглі б. Толькі сувязістаў даўно ўжо прастыў след. Навокал дрымотна ляжыць шырокі абсяг стэпу, абліты яркім святлом высокага месяца, перасыпаецца пад нагамі неглыбокі снег. Воддаль тоўпяцца заснежаныя сцірты. Нікому ніякае справы да нашай бяды.

Я не магу стрываць гарачнай нецярплівасці і ўсё намыкаюся бегчы, каб хутчэй напаткаць людзей. Толькі нага мая ўсё болей заходзіцца болем, я дужа кулыаю, і немец на чыстым цаліку пачынае абходзіць мяне. Так мы дабрыдаем да сціртаў, і тады я бачу непадалёк фурманкі. Глуха грукочучы коламі, яны памалу коцяцца кудысь у край снежнага абсягу.

– Эй! Эй! – крычу я, адразу кінуўшыся подбегам. Не, упусціць іх мы не можам: гэта апошняя мая магчымасць, апошняя надзея на паратунак ад той бяды, якая навісла над батальёнам, а мо нават і над палком.

– Эй! Стой! Стой!

Пярэдняя коціць сабе, пэўна, ніхто там мяне не чуе, а задняя, і праўда, спыняецца. Але гэта ўсё ж далекавата, і я з усёй сілы нясцерпна доўга кульгікаю, раскопваючы ботамі рыхлы, рассыпісты снег. Мне ўсё здаецца, што ездавы не дачакаецца мяне і вось-вось рушыць за першай. Ды ўсё ж ён цярпліва выстойвае, і мы з немцам

дабіраемся да дарожкі. У фурманцы некалькі чалавек, усе моўчкі і не дужа прыязна ўзіраюцца ў нас. У мяне ад стомы захлынаецца сэрца.

– Там танкі!.. У кукурузе!.. – кажу я, падыходзячы да фурманкі. Я цяжка дыхаю, але стараюся выглядаць як мага спакайней. Толькі гэта, відаць, мне дрэнна ўдаецца.

У фурманцы маўчаць.

– Танкі! Нямецкія танкі. Разумееце! Дзе камандзір? Давайце к камандзіру! – з запальчывай рашучасцю патрабую я, урэшце вылезшы на дарогу. І тады ў фурманцы нехта недаверліва адгукаецца жаночым голасам:

– Што, здорава цюкнула? Можа, і кантузія, га?

Гэтая нічым не прыкрытая іронія выбівае з мяне рэшткі кволага майго спакою.

– Якая кантузія?! Пайшлі вы к чорту! Танкі! Разумееце, нямецкія танкі! У кукурузе!

На падводзе заварушыліся, нехта абапіраецца аб плячо ездавога і саскоквае на снег. Гэта, аказваецца, дзяўчына ў паўшубку і шапцы. Але яна мне не знаёмая, відаць, фурманка не нашага, а якога іншага палка.

– Ану, пакаж галаву!

– Ды не галава! Ты во нагу перавяжы! Нагу раніла! – крычу я, трацячы трыванне ад гэтага недарэчнага яе спакою.

– Нагу?

– Ага! Нагу! Не верыш?

Я апускаюся ў снег. Сцяўшы ад болю зубы, каб не завыць, здзіраю з параненай нагі бот. Там вельмі мокра, і я перакульваю яго халявай уніз – на снезе з’яўляецца цёмная пляма крыві.

Гэта, відаць, пераконвае. Дзяўчына ўскідвае голаў і раптам скаланаецца.

– Пастой! А той хто?

– Немец. Не бойся, не ўкусіць: палонны! – раздражнёна ледзьве не крычу я. Нага нясцерпна баліць, мокрыя пальцы хутка нямеюць ад марозу, я ўжо гатовы ўзненавідзець «памочніцу смерці» за яе недавер і марудлівасць.

– Давай на воз! – кажа яна. Потым упэўнена бярэ мяне пад руку і звыкла прыкрыквае на немца: – Ану, падмагні! Чаго глядзіш, як Гітлер?

Немец нечакана разумее і з няспрытнаю далікатнасцю падхоплівае мяне пад локаць.

– Ладна, ідзіце вы! Я сам...

На аднойназе я даскокваю да воза. Там, аказваецца, ляжаць на саломе яшчэ двое параненых. Адзін ціха стогне, адкінуўшы галаву. Другі прыўзняўся і пакутлівымі вачыма на схуднелым твары глядзіць на мяне.

– Вось тут, у куточак...

Дзяўчына з ездавым уладкоўваюць мяне ў самым задку фурманкі. Затым яна спрытна і туга перавязвае бінтамі маю прастрэленую ступню. Але тут выяўляецца новая бяда – бот на перавязаную нагу ўжо не лезе, ды і боль такі, што няма сілы стрываць гэтае пакутнае абуванне. Марна папакутаваўшы з хвіліну, я кідаю бот у салому. На снезе ля дарогі застаецца скрываўленая ануча.

– Павязло, – кажа дзяўчына. – Яшчэ б міліметр і – косць напалам.

«Косць, косць! – мяне раздражняе гэтае яе непатрэбнае цяпер спачуванне і марудлівасць. – Сам ведаю – напалам... Косць – не жалеза...»

– Давай жа хутчэй! – ледзьве не енчу я. – І немца

пасадзі!

– Няма куды! Хай бяжыць. Пратрасецца.

– Пратросся ўжо. Апошні. Другога ўхлопалі. І Кротава! – Раптам успамінаю я, і міжвольна роспач нахлынае ў сэрца. – Эх, Кротаў, Кротаў...

У каторы ўжо раз я не магу пагадзіцца, што так нечакана і недарэчна гіне чалавек. Проста гэтага немагчыма да канца зразумець. Толькі ж што быў з табой побач, сварыўся, еў, ішоў. І вось яго ўжо няма... І ніколі ўжо не будзе. Дзяўчына, месцячыся на сваім месцы побач з ездавым, здзіўлена азіраецца.

– Кротаў? А што – Кротаў?

– Забілі. Што?..

– Кротава? Камандзіра роты?

– Ну.

– А ты не брэшаш, младшой?

Яна ўпершыню насцярожваецца, здаецца, пранікшыся маёй бядой і маёй трывогай.

– Толькі мне і не хапала брахаць з вамі. Гані ў полк! Танкі вунь за кіламетр! – крычу я. – Ты разумееш ці не?

– А ты не крычы! Камандзір мне знайшоўся! – злуецца дзяўчына.

Я ўмольна гляджу на яе і думаю: «Ну, не буду, не буду крычаць. Толькі давай жа хутчэй! Родненькая, міленькая, ці як там цябе назваць». Дзяўчына моўчкі, з асцярогай пазірае ў начны стэп, нібы ўслухоўваючыся, пасля штурхае боязна прыціхлага ездавога:

– Ану, паганяй!

І ездавы добра гоніць пару рухавых конікаў, ад якіх курыць парам, і ўсё азіраецца па баках. Фурманка то дрыжыць, рыпіць і падскоквае на гузаках няўезджанай

дарогі, то сціхае, шархотка загрузаючы коламі ў сыпкім снезе. Сядзець мне страшэнна нязручна, дранцвее нага. У ране пячэ і торгае. Але і пасунуцца нельга ні на сантыметр: я і так сяджу ледзьве не на самых нагах параненага, які енчыць, лаецца і з азвярэлаю ласкай просіць дзяўчыну:

– Кацярынка! Каця! Цішай! Шкурадзёр ты, а не сястра... Цішай! Ух!.. Ох, Кацюшанька!..

Каця схіляецца з перадка, адною рукой прытрымлівае яго галаву і просіць з той нязвыклай на фронце пяшчотай, якая заўжды прымушае азірнуцца:

– Міленькі, харошы мой! Ну, пацярпі! Зараз ужо. Зараз...

І тут жа, павярнуўшы твар да немца, які зморана хакае за фурманкай, крычыць:

– Хутчэй, немчура праклятая! Хутчэй!

Я маўчу, нічым не выказваючы сваіх адносін да гэтых яе выкрыкаў. І, мусіць, таму яна вытлумачвае:

– Была б мая ўласць, я б яго – бягом прагнала да Берліна і назад. На Калыму б яго, сабаку! За нашыя мукі! Хай бы памёрз, папакутаваў, колькі рускі народ пакутуе.

Потым з цвёрдасцю чалавека, які прывык, каб яго слухаліся, ціха кідае ездавому:

– Паганяй!

І тут жа нахіляецца да параненага.

– Пацярпі ўжо. Пацярпі, міленькі!

Я і сам ледзьве трываю, нага, мала што баліць, яшчэ і дужа мерзне пад палой шыняля. Толькі як-небудзь трэба датрываць да сяла. Там штабы, камандзіры, яны што-небудзь прыдумаюць.

Сяло паказваецца нечакана. На месячнай белізне пад гарою – доўгі раскіданы рад белых мазанак. Ля іх загарадкі з плятнёў, шэрае голле вішанніку на ўзмежках, сям-там мірны пробліск акенцаў, гуркатанне машын і галасы. У вёсцы свае. Праўда, мяне крыху здзіўляе такая мірная ідылія пад носам у немцаў. Але ж гэта тылы. Палкі, відаць, наступаюць няблага, наперадзе танкі, артылерыя: чаго тут баяцца?

Дарога коціцца ўніз, тарахціць, грукоча фурманка, у бога хрыста і маць лаецца небарака паранены. Нават другі, спакайнейшы, і той прыўзнімаецца на локці з-пад шыняля, і на яго белым, ненатуральна зашчаціненым твары адбіваецца грымаса пакут. Каця на перадку заікастым ад дрыготкі голасам супакойвае:

– Счас, счас, родненькія... Счас...

Мы спускаемся па адхоне і, крыху цішэй праехаўшы кароценькую, абсаджаную вербамі грэблю, зварочваем у вуліцу. Аднак па вуліцы не праедзеш: наперадзе, даўжэзным кузавам перагарадзіўшы дарогу, гурчыць здаравенны «студэбекер». Шафёр, прыадчыніўшы дзверцы, напалову высоўваецца з кабіны і памалу здае назад. Ля плота спіной да нас завіхаецца нехта ў паўшубку і асіплым, знерваваным голасам камандуе:

– Лева руля! Лева! Яшчэ лева! Давай, давай!..

«Студэбекер» сунецца ў занадта вузкія для яго вароты, цяжкімі скатамі ўмінае снег, і раптам абмазаны глінай пляцень з хрустам кладзецца долу. Чалавек у паўкажушку ўскідвае кулакі.

– Куды даеш?! Куды даеш, сабачы сын! Дзе ў цябе вочы? Дзе вочы ў цябе, пытаюся?

Ён ад злосці падскоквае да кабіны, здаецца, вось-вось накінецца на шафёра. Але не кідаецца, і шафёр, надзіва спакойна для такой сітуацыі, басам адказвае:

– У лбе вочы, таварыш капітан.

– У лбе? – здзіўляецца капітан. – Хіба яны ў цябе ў лбе? Давай наперад!

– Стой! – кажу я, пад’ехаўшы.

Ездавы прытрымлівае коней. Каця саскоквае з перадка.

– Таварыш капітан!

Капітан не чуе ці не хоча чуць. Адступіўшы на крок, ён зноў камандуе шафёру:

– Упярод і права руля! Яшчэ, яшчэ права! Давай, давай!

– Капітан! У стэпе танкі! Каму далажыць?

Каця ўшчыльную падыходзіць да камандзіра.

Я злажу з падводы і на адной назе таксама скачу да яго.

– Таварыш капітан! Там нямецкія танкі! – спадзяюся я збянтэжыць яго гэтым паведамленнем.

Але капітан быццам і не чуе.

– Права! Яшчэ права! Так, так! – капітан прысядае, зазіраючы пад кузаў машыны.

«Студэбекер», вуркочучы, пачынае ўязджаць у двор.

– Што? Танкі? Многа? – і адразу ж да шафёра: – Давай, давай! Прайшло! – з палёгкай аб’яўляе ён і толькі тады нібы ўпершыню заўважае мяне з Кацяй.

– Танкі нямецкія! Вы чуеце? – крычыць Каця. – Вось турнуць, будзе вам тады «давай, давай».

– Што? – здзіўляецца капітан, і асіплы голас яго зноў робіцца сварлівы. – А што вы мне крычыцё! Я што – ІПТД[1]. Ідзіце ў артполк і дакладвайце. Мне загадана, я ДОП[2] разгружаю.

Ён разгружае ДОП! Гэтая яго нязрушнасць пачынае

бянтэжыць мяне. Я імкнуся растлумачыць капітану, што навісла над яго ДОПам, але Каця меней цырымоніцца і апярэджвае мяне:

– Які к чорту ДОП! Вось яны як урэжуць да ранку – будзе тады і ДОП і поп.

– Таварыш капітан!

Каця махае рукой.

– Ды ну яго, младшой!

Яна ўскоквае ў перадок, я ўвальваюся ў фурманку. Ездавы аграvae коней і, аб’ехаўшы «студэбекеры», мы імчым па начной вуліцы. А ў сяле так па-вячэрняму ўтульна і мірна, што мне аж робіцца страшна. Я ўжо прадбачу, чым можа скончыцца такая ідылія. Не, што б там ні стала, трэба знайсці камандзіраў ці штаб. У адным двары, дбайна прыціснуты да сцяны, стаіць «віліс», ля якога моўчкі поркаюцца двое, – мусіць, знімаюць сваё майно. Дзе «віліс», там заўжды начальства, і таму, згледзеўшы машыну, Каця адразу спыняе фурманку.

– Сядзі, младшой. Я сама.

Я застаюся ў возе, а яна бяжыць у двор і нешта тлумачыць тым двум. Неўзабаве яны ўсе выходзяць на вуліцу і ідуць да фурманкі.

– Вось младшы лейтэнант наткнуўся... Камандзіра роты забілі, – кажа дзяўчына і змаўкае, з надзеяй пазіраючы на чалавека.

Я таксама ўзіраюся ў яго, – гэта мажны, падпяразаны па шынялі мужчына, на плячах шырокія з двума прасветлінамі пагоны. Іншых знакаў там не відаць, але ён у вушанцы: маёр або падпалкоўнік.

– Вы дзе бачылі танкі? – спакойна звяртаецца ён да мяне.

– У стэпе, таварыш падпалкоўнік. – (На ўсякі выпадак я

бяру большае з магчымага, за гэта не крыўдзяцца.) – Кіламетры праз тры адсюль. Штук з дванаццаць стаяць ствaламі сюды.

– Вы думаеце, гэта нямецкія?

– Нямецкія, – кажу я. – Нас абстралялі. Камандзіра роты забілі. Мы вось ледзьве ўцяклі з палонным.

Падпалкоўнік моўчкі азірае мяне, потым немца, які сціпла стаіць ля фурманкі і трасецца ад сцюжы.

– Так. Добра. Можаце ехаць, – памеркаваўшы, кажа камандзір.

Ля яго моўчкі чакае другі, у целагрэйцы – мусіць, шафёр або ардынарац. Мала што разумеючы з гэтага дазволу, я пытаюся:

– А куды палоннага здаць?

– Палоннага ў Іванаўку. Згодна з распараджэннем камандуючага, зборны пункт для палонных у Іванаўцы.

– Дык тут усе параненыя, – кажа Каця. – Вазьміце вы немца.

– Не, адпраўляйце ў Іванаўку, – спакойна, але з няўхільнай цвёрдасцю кажа камандзір. – І, дарэчы, паведаміце там пра танкі. Скажыце, падпалкоўнік Стах паслаў, – нечакана загадвае ён.

Вось табе і раз! Мы – ім, а яны нам. Дамовіліся! Атрымалі загад! Падпалкоўнік з тым, што ў целагрэйцы, адыходзяць з дарогі пад сцяну хаты і закурваюць. Мы стаім на месцы і збянтэжана пазіраем на іх. Чутна, як той, другі, сцішана прапануе начальніку:

– Мусіць, трэба змывацца... Ну іх к д’яблу, гэтыя танкі...

Я не чую, што адказвае падпалкоўнік. Хутка яны ўдвух хаваюцца ў двары, і тады я лаюся. Нешта ва мне надрываецца. Вытрымка мая на тым скончылася, я гатовы абурацца і крычаць – што ж гэта робіцца? У возе

стогнуць параненыя. Каця таксама злуецца:

– Тылавікі праклятыя! Канцэнтратаў аб’еліся – не праб’еш! Хоць каравул крычы!

– Паганяй! – крычу я на ездавога. – Паганяй!

Ездавы зноў паганяе. Мяне ахоплівае нецярплівасць – чорт з імі, паедзем у Іванаўку! Толькі дзе яна, гэтая Іванаўка? Як яе знойдзеш уначы, і колькі на тое спатрэбіцца часу! А тут яшчэ два небаракі ў падводзе!.. І немец, што трухае ззаду. І мая мокрая ад крыві нага, якая ўжо задубела і нема баліць ад раны і марозу...

На завароце вуліцы мы ледзьве не збіваем з ног некалькі байцоў. Ратуючыся ад коней, яны, лаючыся, ускокваюць на прызбу хаціны. Адзін нехта прыціскаецца да плота, і па ладнай цыгейкавай шапцы на галаве, а найбольш па сумцы ля боку, я пазнаю ў ім камандзіра. Раптоўная надзея ўспыхвае ва мне. Я хачу спыніць фурманку, але яна спыняецца сама – гэта ён у злосці хапае за цуглі коней і завяртае фурманку ўпоперак вуліцы.

– Стой!

Голас яго злы, уладарна-нецярплівы, здаецца, зусім недарэчы такая сустрэча. Але цяпер гэта мяне мала засмучае: што там далікатнасць, калі ў тылы прарваліся танкі! Я хачу крычаць яму пра іх, ды ён апярэджвае мяне:

– Хто такія? Чыя павозка?

– Ды параненыя! Не бачыце хіба? З батальёна Шароніна, – адказвае Каця.

– Таварыш камандзір, – кажу я. – Трэба як перадаць у штаб, у разведаддзел... Камдзіву. У стэпе недалёка танкі. Нямецкая засада.

Камандзір усё гэта зацята выслухоўвае, падыходзіць да павозкі, зазірае ў яе і, нібы не чуючы маіх слоў, тонам, які не дапускае пярэчання, загадвае:

– Злезці ўсім!

– Ды вы што? – усхопліваецца на перадку Каця. – Вы што: тут цяжкапараненыя!..

– Санінструктар, так? Ка мне, санінструктар! Вы, паранены, таксама! – не прымаючы пад увагу пярэчанні, ківае ён на мяне.

Аднекуль ля яго з’яўляецца аўтаматчык, цяпер іх ужо двое. Камандзір стаіць за два крокі ад мяне, грозны і няўмольны, як генерал. Я ўзіраюся ў яго плечы, імкнучыся вызначыць званне, але там нічога не зразумееш. Угары ззяе месяц, і мне не відаць яго твару, зацененага шапкай. Але я ўгадваю, што твар гэты не абяцае дабра.

– Паўтараю: санінструктар, вы – з забінтаванай галавой, павозачны і вы, – ківае ён у бок немца, – хадземце за мной.

Нічога не зробіш. Каця першай саскоквае з перадка. Неахвотна пакідае сваё месца ездавы. Трымаючыся за рабрыны фурманкі, злажу я. Камандзір ступае наперад.

– Марш у памяшканне!

Я думаю, што гэта бязглуздзіца – не болей. Куды ён нас павядзе і што мы яму тут зрабілі? І я хачу вытлумачыць:

– Вы разумееце: танкі. Мы спяшаліся далажыць. Праз якую гадзіну яны могуць быць тут. Камандзір азіраецца.

– І папрашу памаўчаць. Пакуль у вас не пытаюць...

– Ну, пайшлі, падумаеш! – са злоснай рашучасцю кажа Каця і ідзе ў двор.

За ёй валачэцца ездавы, пасля немец. Я, трымаючыся за плот, на аднойназе скачу следам. Ля фурманкі з двума параненымі застаецца аўтаматчык.

Камандзір вядзе ўсіх цераз двор, потым у цёмныя сенцы і расчыняе дзверы ў хату. На вушаку цьмяна гарыць

газнічка, вокны завешаны нейкім рыззём. Некалькі малых палахліва кідаюцца на печ, і неўзабаве з-за коміна з’яўляюцца іх баязлівыя і цікаўныя тварыкі.

– Прашу дакументы! – кажа начальнік, падыходзячы да газнічкі. Я ўзіраюся ў ягоныя плечы – вось табе і на! Толькі капітан, а паставіўся быццам генерал – не меней... Столькі зацятае напускной строгасці!

– Пажалста! – з гатоўнасцю, але і са стоеным выклікам кажа Каця і лезе за пазуху.

Стрымліваючы пры сабе недарэчны тут гнеў, я намацваю пад шынялём нагрудную кішэнь І дастаю сваё пасведчанне. Ездавы наш, даволі пажылы, сялянскага аблічча дзядзька, нетаропка распяразваецца і доўга корпаецца, пакуль знаходзіць у нетрах свае вопраткі старанна агорнутую паперай чырвонаармейскую кніжку. Хвіліну капітан моўчкі вывучае нашыя дакументы. На ягоным чарнявым твары – суцэльная строгасць службіста. Урэшце ён узнімае твар, абводзіць нас пільным прыдзірлівым позіркам і спыняецца на чацвёртым – немцу.

– Гэта немец, – кажу я. – Мы яго на зборны пункт вядзем. У Іванаўку.

Я думаю, што ён зараз жа прычэпіцца да мяне і палоннага, дакументаў на якога ў мяне ніякіх няма, а ягоныя засталіся ў батальёне. Мусіць, у тым я вінаваты. Аднак хто думаў, што маё канваірства павернецца такім чынам! Але капітан, здаецца, не мае намеру лішне чапляцца да палоннага і складвае ў адно нашы паперы.

– Дзе вы бачылі танкі? – пытаецца ён у мяне, змрочна стоячы пад самай газнічкай. Рукі ён выразным жэстам утыркае ў кішэні шыняля.

– У кукурузе. Праз тры кіламетры адсюль.

– Каму вы аб тым далажылі?

– Ды тут даложыш!.. – запальчыва апярэджвае мяне Каця. – Тут у вас усе як пыльным мехам аглушаныя.

Яна так вольна і незалежна трымае сябе перад гэтым прыдзірам-капітанам, быццам ён зусім ніякі і не начальнік. Я, на жаль, так не магу і сціпла стаю, прыхінуўшыся да лаўкі і падкурчыўшы сваю прастрэленую нагу.

– Двум чалавекам дакладвалі, – кажу я. – Капітану з ДОПа і аднаму падпалкоўніку.

– Дык вось зарубіце сабе на носе, – строга кажа капітан. – Больш каб ні слова? Зразумелі? А то – паніку мне развязлі! Як у сорак першым. Я вам пакажу танкі! – заканчвае ён недарэчнай пагрозай.

– Пры чым тут паніка! – сварліва кажа Каця. – Мы дакладваем. Што мы на ўсю вуліцу крычым, ці што? Ды тут у вас хоць галасі – нікога не пройме...

Капітан выслухоўвае яе словы і пакідае іх без аніякай увагі. Звяртаецца да мяне аднаго:

– Вы панялі, младшы лейтэнант? А цяпер марш адсюль! – змрочна загадвае ён і крыху мякчэй дадае: – У трэцяй ад царквы хаце збор раненых.

Ён аддае нашыя кніжкі і апускае рукі па швах.

– А палоннага? – пытаюся я. – Вазьміце ў нас палоннага. У мяне, во, нага...

– Я не канваір! – адказвае капітан.

Я разгублена стаю, пачынаючы разумець, што і ад гэтага болей не даб’ешся нічога.

Памаўчаўшы, мы нерашуча паварочваемся да парога і праз цёмныя сенцы, мацаючы сцюдзёныя сцены, выбіраемся на двор. Марозны снег парыпвае пад нагамі.

– Ну і чорт з ім! Паехалі. Пра тых трэба падумаць. А то загнуцца, чаго добрага, – кажа Каця і накіроўваецца да фурманкі.

Што рабіць далей – хто яго ведае? Мусіць, трэба б перш прытушыць сваю гарачнасць, астыць нутром, супакоіцца ці зміріцца з тым, што адбылося. Зноў жа нейкага клопату патрабуе мая зусім акачанелая нага, стогнуць у возе параненыя, валачэцца гэты палонны... Ды і што я яшчэ магу зрабіць у такім маім стане – ці не хопіць ужо дакладваць, ці не праз меру такая мая ўстрывожанасць? Яшчэ сапраўды палічаць за панікёра ды арыштуюць. Няўжо ж тыя камандзіры, з якімі я сустракаўся, не зробяць чаго? Усё ж, тут ёсць, мабыць, якая сувязь, паведамяць, каму трэба: прымуць якія захады супраць гэтых танкаў. Не можа ж таго быць, каб такая акалічнасць нікога не ўстрывожыла. А можа, камандаванне ўжо ведае пра ўсё гэта? Мо так і было прадугледжана ў плане аперацыі? Тады дарма я гэтак непакоюся, распінаюся, нібы які панікёр. Тады, мусіць, трэба б перш-наперш перавязацца як мае быць, ды абагрэцца, ды збыць куды гэтага немца. Толькі куды яго дзенеш?

Хата, дзе размясцілася санчасць, сустракае нас прыветлівым агеньчыкам у двух вокнах (трэцяе, выбітае, заткнута ахапкам саломы) і – песняй. Нехта ва ўсё сваё асіплае горла натужна крычыць пад не дужа суладны басавіты гул некалькіх струн гітары:

*Шаланды, полные кефали,*
*В Одессу Костя привозил,*
*И все биндюжники вставали,*
*Когда в пивную он входил.*

Знака або флажка на хаце ніякага няма. Па двары таксама нельга пазнаць, што тут санітарная часть. Але, як казаў капітан, гэта трэцяя хата ад цэркаўкі, што зводдаль сціпла шарэе беленымі сценамі, і Каця спыняе коней. Ездавы саскоквае на снег, злазіць з передка Каця. Я таксама выкульваючыся з фурманкі, ківаю немцу: «Ком!» і на адной назе скачу да расчыненых у сенцы дзвярэй. Палонны баязліва ідзе побач. Каця намацвае ў сенцах клямку.

Песня адразу абрываецца. У куце і на прыпечку ліхаманкава трапечуцца агеньчыкі дзвюх «кацюш».

Угары варочаецца пласт дыму, і ў кутках – неперaможаны капцілкамі змрок. Рэзкі пах свежых бінтоў, крыві і пракіслы дух шынялёў шыбаюць у нос, даючы тым упэўніцца, што хатаю мы не памыліліся.

– Братва, рама! Ва ўкрыцце! – пасля секунднае паўзы ў фальшывай трывозе выкрыквае чыйсьці голас.

Следам за Кацяй я прапускаю немца і пераскокваю парог. Першым на вочы трапляе, пэўна, той самы гітарыст. Выцягнуўшы на ложку ля парога абкручаную бінтамі нагу, ён замірае з гітарай у руках і, заблішчаўшы свавольнымі вачыма, упіраецца позіркам у Кацю. У кутку на саломе сядзяць яшчэ параненыя. Нехта ледзьве не да пояса спавіты бінтамі – і грудзі, і галава, і твар, – мусіць, абгарэлы.

– Дурны! – кідае Каця да гітарыста. – Чаго галёкаеш? Ану, устаць? Хто старшы?

Гітарыст, не выпускаючы гітары і не зрушваючы з месца паранeнай нагі, усім целам паварочваецца да Каці. Пад накінутай на плечы курткай дэсантніка ціхенька бразгаюць медалі. На стале замірае вялікі зламаны цень.

– Адставіць! Ужо наўставаліся! Цяпер усё! Кропка!

– Хто старшы, пытаюся?

– Старшы? Быў ды ўвесь выйшаў. Да начальства. Хош – буду я?

– Абыдземся без такога. Ану, злазь! – Каця бесцырымонна тузае яго за рукаў. Куртка спаўзае – на пагонах сяржанцкія нашыўкі. – Тут цяжолых паложым. Дзе санітары?

– Стоп, рыжая! Не чапай! Я кантужаны! – з блазенскім выглядам паяснічае гітарыст і, змяніўшы тон, з сілаю б’е па струнах. – Санітары! Гэй, санітары!

Аднекуль з-за перагародкі, адхінуўшы пасцілку, выходзяць двое ў непадпяразаных шынялях. Адзін

высокі і худы, другі нізенькі – абое пажылыя, рахманыя, відаць, нядаўна мабілізаваныя дзядзькі.

– Цяжолых унесці! Ды жыва! Давай насілкі!

– Унесці! – відаць, ужо адчуваючы сябе начальствам, загадвае гітарыст і тыцкае ў санітараў пальцам. – Ты і ты! Гэты іхні паможа, – паказвае ён на палоннага і раптам збянтэжана міргае вачыма. – Ого, Гансік! Братва, Гансік! Яй-богу! Айн, цвай – бітэрфляй… Ком!

З куткоў усе паварочваюцца да парога. Аббінтаваны ненатуральна выпростваецца, нагамі скідвае з сябе паўшубак і выкідвае наперад рукі, таксама заматаныя па локці бінтамі.

– Немец? Зараз жа кокнуць! Кокнуць к чортавай матары! – з надрывам выкрыквае ён. Другі, што ляжыць побач, штосьці прыгаворваючы, ахінае яго паўшубкам. Сяржант хуценька саскоквае з ложка і, несучы перад сабой прамую і тоўстую, як бервяно, нагу, падступае да немца.

Я папярэджваю:

– Ану, спакойна! Гэта палонны.

– Ну, канешне, спакойна. Навошта спяшацца. Паспеем! – з нядобраю крывой ухмылкай кажа сяржант і са знарочыстай спаважнасцю бярэ немца за канцы адкладнога каўняра. – Ён жа добры. Ён жа сазнацельны. Гітлер капут? – хуценька пытаецца ён.

– Гітлер капут, – не дужа ўпэўнена, але з гатоўнасцю згаджаецца немец. Вусны ў яго, аднак, прыкметна падрыгваюць. Сяржант усё з той жа ўхмылкай на твары паварочваецца да астатніх.

– Ось бачыце! Ён добры. Знайшоў учора нашу афішку, што перад наступленнем кідалі, прачытаў і перавыхаваўся. Люблю перавыхаваных гансічкаў. Трафейчыкі, канешне, усе выпатрашым. Ур няма? – міралюбіва пытаецца сяржант і спрактыкавана лапае немца па пустых, ужо абвіслых кішэнях мундзіра. – Ну,

канешне, у кармане вош на аркане…

Сяржант гарэзна тузае за доўгі казырок немцаву шапку, якая туга ўзлязае таму на вочы, і ідзе назад да ложка. Немец бяскрыўдна папраўляе шапку, а я пераходжу ад парога і апускаюся пад сцяну на край саломы. Болей сесці тут няма дзе. На адзіным услоне ў прасценку нехта ляжыць, ложак займуць цяжкапараненыя. Гітарыст ускладвае нагу на край ложка і бярэ гітару.

– Я так думаю, – кажа ён да мяне, бязладна затрэнькаўшы струнамі. – Які сэнс немцу ваяваць з намі? Ну што карысці: уварвецца калі ў траншэі, што ён знойдзе? Хвігу. Хіба што анучу брудную на брустверы. А ў іх! Ого! Колькі ў іх барахла рознага застаецца. Я дык, калі загад «Упярод!», ляту як скажэнны. А што? Спадзяешся на трафейчыкі! Схопіш, а ў іх вошай багата, халера!

З расчыненых дзвярэй шугаюць воблакі сцюжы – санітары ўносяць параненых. Каця ўкладвае абодвух на ложак, укрывае дзіравым шынялём.

– Паляжыце да заўтра. Уранку ў шпіталь адпраўка. Доктар сказаў.

Адзін з іх, пэўна, ужо даходзіць – вочы напаўзакрыты, нос завастрыўся, з апалых грудзей ірвецца трудны пузырысты хрып. Другі перарывіста стогне, дужаецца з пакутамі і, павярнуўшы на бок галаву, абыякава азірае людзей.

– Браток, скруці пацягнуць, – кажа ён да сяржанта. – У кішэні там, браток… І папера…

Сяржант з гатоўнасцю адкладвае гітару.

– Калі ласка, ацец. Гэта магём. Пакуль рукі цэлыя. Адкуль будзеш, землячок?

– Варонежскі я.

Паранены робіць рух сківіцамі, нібы глытае сліну.

Позірк яго неспакойна блукае па цёмнай столі хаты.

– Ну, дык саўсем землякі... Што Варонеж, што Растоў – адна Расея. На, пацягні, палягчэе, – з добрасцю запэўнівае ён і пытаецца: – Пяхота?

– Пяхота, – выдыхае зацяжку паранены і засмяглымі вуснамі зноў ловіць цыгарку.

Немец няёмка топчацца ля печы, не ведаючы, дзе прыткнуцца. Паводзіць ён сябе зважліва, трошкі баязліва. Я адчуваю гэта і клічу яго да сябе:

– Ком! Ідзі сюды. І сядай. Нечага тырчаць.

Ён разумее і, падабраўшы доўгія ногі, няўклюдна сядае побач на земляной падлозе. Вочы яго трывожна слізгаюць па мне, па сяржанту і спыняюцца на ягонай гітары. Каця ля прыпечка пры цьмяным святле «кацюшы» корпаецца ў медыцынскай сумцы – рыхтуе лякарства. Сяржант з сілай шчыпае басовую струну і няўлад, фальшыва пачынае запеў салдацкае песні:

Первая болванка попала в бензобак,

Вылез я из танка, сам не знаю как...

Любо, братцы, любо, любо, братцы, жить...

В танковой бригаде мне уж не служить.

– Ану, спыні сваю трэнькаўку! – строга кідае да прыпечка Каця.

Нехта з кутка дабрадушна пярэчыць:

– Хай іграе. Можа, боль трохі заглушыць. Сяржант энергічна пракашліваецца, збіраючыся заспяваць, калі не лепш, дык ва ўсякім разе гучней.

А назавтра утром ведут в особотдел:

«Что же ты, мерзавец, в танке не сгорел?» –

зноў фальшыва пачынае ён, відаць, разумее гэта і,

сустрэўшыся з позіркам немца, са злосцю абрывае запеў.

– Чаго бельмы вылупіў, фрыц? Не падабаецца? Хіба лепей можаш? Што ты наогул можаш, фрыцаўская морда?

– Нэмножько, – раптам выразна вымаўляе немец і працягвае руку да гітары.

Сяржант, набычыўшы голаў, з паўхвіліны амаль з лютай збянтэжанасцю глядзіць на яго. Нібы вырашаючы, ці варта ўсур'ёз прымаць яго просьбу.

– Ану, ану! Ізабразі-ка... Паглядзім, што ты ўмееш. Ну! Давай! Дуй! – нечакана вырашае ён і аддае гітару.

Немец далікатна бярэ яе, уладкоўвае на каленях і, ціхенька перабіраючы струны, левай рукой падкручвае шурупы. У куце зноў усхапляецца абвязаны. Ён нічога не бачыць і праз ледзьве стрываны боль крычыць з роспаччу ў голасе:

– Ага, фрыц? Гэта фрыц? Чаму вы яго не заб'яце? Забіце фрыца!

Той, другі, ягоны сусед, прыпаднімаецца і лёгенька, бы малога, кладзе яго на спіну.

– Ладна, ціха... Я яго сам. Вы пачакайце...

Вочы гэтага чалавека з-пад насупленых броваў пры няпэўным святле «кацюшы» нядобра бліскаюць у бок немца. Абгарэлы корчыцца ў пакутах, енчыць, сцяўшы зубы. У хаце, аднак, на яго не звяртаюць увагі.

Немец няспешна настройвае гітару. Мы ўсе з затоенай цікаўнасцю глядзім на яго – усё ж не часта бачыш, як фашыст упраўляецца з музыкай. Цікава, што ў яго атрымаецца! У сяржанта на вузкалобым твары ўжо не хцівая ўсмешка, а прытоеная да часу пагроза. Мне здаецца, калі немец у чымсь не дагодзіць, то яму ўжо не спусцяць – прыйдзецца тады бараніць. Цяжкапараненая на ложку павяртае набок свой збялелы твар і з

пакутніцкай нетутэйшасцю ў паўзаплюшчаных вачах таксама сочыць за немцам. Усё ж ён чакае чагось, і гэтае чаканне на кароценькую хвіліну нібы прытупляе ягоныя пакуты. З дзявочаю цікаўнасцю коратка азіраецца ад прыпечка Каця і хмурыцца. Чамусьці я пачынаю хацець, каб немец сапраўды сыграў што няблага. Міжвольна мне ўжо карціць на спачуванне да яго ў гэтай хаціне. Усё ж ён «мой» немец.

І сапраўды, ён хутка падстройвае гітару і трошкі сцішана, але лёгка і спрытна пачынае бегаць па струнах. Просценькі, усім вядомы матыўчык, як тоненькі сакавіцкі ручаёк, журчыць у хаціне:

Синенький скромный платочек

Падал с опущенных плеч...

Вось дык дзіва! Вось табе і немец! Грае наша, рускае, як самы заўзяты русак. І параненыя, глядзі ты, пасціхалі ўсе, ніводзін не вякне ні слова – слухаюць. Сяржант з самага пачатку, відаць, страчвае свой пагрозлівы намер. Нехта ў куце сцішана ўздыхае, пасля ўсхліпвае – ага, плача! Гэта, здаецца, абпалены. Ну, але што ж зробіш! Што мы ўсе тут, у гэтай хаце, можам зрабіць, апроч як трываць свой боль. Хто большы, хто меншы, хто на дзень-два, хто на доўгія месяцы. Апёкі ж будуць балець да самага канца, пакуль не зажывуць – няма горшага болю, чым ад апёкаў. Цяпер нам адно – трэба звыкацца з болем, думаю я. Там, у стэпе за Кіраваградам, наступаюць, акружаюць, адбіваюць атакі, вызваляюць сёлы і станцыі, а мы тут – суцэльная канцэнтрацыя болю. Як толькі дагэтуль не дадумаліся выкарыстоўваць яго энергію, акумуіраваць, кансерваваць, ператвараць у іншыя віды? Колькі яе, нечалавечай і пакутнай, прападае бясследна ў гэтай вайе! На жаль, цяпер, як і тысячы год на зямлі, пакуты – асабістая справа кожнага, бескарысная трата вялізных людскіх намаганняў. Таму плач, баец, не саромся. Кажуць, ад плачу стане лягчэй! І не чапляйся да немца. Чорт з ім, хай жыве, усё ж і ён – чалавек. Вунь як іграе...

Немец тым часам канчае іграць. Сяржант збянтэжана падаецца назад, ямчэй умошчваецца на ложку ў нагах параненага і ссоўвае на лоб пакамечаную, з растапыранымі вушамі шапку.

– Здорава, шэльма! Нічога не скажаш!

– Добра шпарыць... – стрымана адабраюць у куце.

Немец лёгенька кранае пальцамі струны, спрабуючы іх гучанне. Сяржант падабрэлымі вачыма разглядвае яго зверху. Відаць па ўсім, гэтаю ігрой немец пахіснуў у ім прывычную грубаватую самаўпэўненасць і абудзіў пачуццё звычайнай чалавечай цікавасці.

– Ты хто? Фашыст? – пытаецца ён, ва ўпор узіраючыся ў немца. – За Гітлера?

– Гітлер капут! Гітлер плёхо, – хуценька адказвае немец сваёю прывычнай фразай.

Я пазіраю на яго і адчуваю, як нешта ў ім перамянілася, быццам ажывела. Позірк набывае натуральнасць і перастае палахліва бегаць па тварах. Сцішаная ўвага рускіх супакойвае яго.

– Во гэта я разумею, – кажа сяржант і бесцырымонна, але без пагрозы ляпае яго па плячы. – Што, сам здаўся? Сам плен ком?

– Я, я. Сам, – пацвярджае немец.

– Правільна. Адабраю. Дай пяць. – Сяржант коратка ціскае за локаць яго занятую гітарай руку і ўжо зусім дружалюбна прапануе: – Ану ізабразі яшчэ што! Ну вось гэту: «На позицию девушка провожала бойца...»

– Огоньёк! – здагадваецца немец і хуткім гарлавым прабегам без слоў заканчвае мелодыю. Задаволены яго здагадлівасцю, сяржант адабрае:

– Во, во!

Неўзабаве немец зусім няблага іграе «Огонек», і я

толькі дзіўлюся ягонай здатнасці да нашых песень. Сяржант хрыпата падпявае, а мяне горне ў салодкі, млявы, ліпучы сон. Я адчуваю: не трэба паддавацца яму, нельга, ці мала што... Трывога ў душы нейкі час змагаецца са сном, але неўзабаве, здаецца, ён усё ж адужвае ўсё – і клопат, і трывогу, і мой боль у назе...

**10**

Нешта мне замінае, пакутна трывожыць, я падсвядома імкнуся ў суладную млявасць забыцця, дзе нічога і – сон... Але гэтае нешта мацней за мяне, за стому, яно вырывае мяне з салодкае адсутнасці, і я прачынаюся. Толькі дзе я? Нейкія людзі, устрывожаная гамана, далёкія і блізкія галасы. І раптам скрозь санлявую няўцямнасць прарываецца адна фраза, якая адразу вяртае мяне да явы:

– Младшой! А младшой! Твайго немца забіраюць...

«Немца? Якога немца?.. Ага! Гэта ж я ў санчасці». Я ўскідваю цяжкую галаву. Насупраць у хаце, усё ў тым жа змроку «кацюш», «мой» немец і абапал яго двое: адзін у шынялі, другі – у паўшубку.

Гэта Шашок і Сахно.

Сахно паварочваецца на голас, затым – да мяне. На яго выгаленым твары пад нізка насунутай на лоб чорнай кубанкай строгая зацятасць няўмольнага выканаўцы закону.

– Вы куды? – асіпла кажу я. – Гэта – палонны.

– Младшой, не давай! Хай самі ў палон возьмуць, – падбухторвае з ложка сяржант.

Сахно строга азірае яго.

– Ану, замаўчаць! Вас не пытаюць, таварыш сяржант! – І да мяне – крыху цішэй, але ўсё тым жа тонам загаду: – Васілевіч! Прайдзёмце з намі!

– Куды ён пойдзе? У яго нага!

Гэта – Каця. Яна тут жа, за іхнімі спінамі, у мігатлівым святле «кацюшы». Я бачу яе светлыя, рассыпаныя на галаве валасы і, не разумеючы яшчэ, у чым справа, але адчуваючы, што мне не трэба паддавацца гэтым двум, кажу:

– У мяне нага. Во.

Сахно акідвае мяне недаверлівым позіркам, але больш ні слова не кажа і паварочваецца да немца.

– Ану, вэк!

Шашок расчыняе дзверы, Сахно лёгка піхае ў іх палоннага, які відавочна маркатнее і, не зірнуўшы ні на кога, выходзіць.

Узялі – хай, мне яго не шкада, толькі развяжа рукі. Аднак параненым, якіх, дарэчы, прыбыло ў гэтай хаціне, самаўпраўства гэтага чалавека чамусьці не падабаецца.

– Ось табе і найграў! Трэба б сядзець ды сапець у дзве дзіркі.

– Павялі і шлёпнуць...

– Факт, шлёпнуць.

– А хто гэта? – наіўна пытаецца нехта з кута.

Яму, аднак, ніхто не адказвае. Каця ад парога махае рукой, даючы тым знак змоўкнуць. Усе насцярожана прыслухоўваюцца, я таксама. У сенцах чуваць нейкая валтузня, праз шчыліны ў дзвярах мільгае святло ліхтарыка, даносяцца сцішаныя галасы:

– Павярніся, жыва!

– Трымай!

– Ану паглядзім у ботах...

– Кішані абшарыў?!.

– Пуста. Усё абчысцілі.

– Ладна. Чорт з ім...

Сяржант круціцца на ложку і плюецца.

– Сцярвятнікі!

Каця надзявае на галаву шапку і падпяразвае паўкажушок. Яе вочы асуджальна косяцца на сяржанта.

– Чыя б кароўка мычала, а твая б маўчала. Сам такі.

– Я такі? Я не такі! – запаляецца сяржант. – Я кроў праліваў. Калі што – я крывёй плачу.

– Ладна табе ўжо. Наплаціўся...

Круглы, рабаваты сяржантаў твар расплываецца ў жартоўнай ухмылцы.

– Ты мяне не чапай, рыжая. А то ўкушу. Я злы і кантужаны.

– Ханыга ты! – ва ўпор аб’яўляе Каця, выразна варухнуўшы русявымі бровамі. У вачах яе, аднак, гуллівая гарэзнасць. Відаць па ўсім, яршысты гэты дэсантнік, насуперак усяму, ёй падабаецца.

– Рыжая! Ах ты!..

Сяржант робіць маўклівы выпад, учэпіста хапаючы Кацю. Але яна гулка лупіць яго па парусінавым рукаве курткі і ўхмыляецца.

– Адстань, ханыга!

Яна прарываецца да дзвярэй, але не паспявае выйсці, як дзверы расчыняюцца. На парозе зноў з’яўляецца немец, за ім уваходзяць тыя двое. Кубанка ў Сахно зухавата ссунута на вуха, калючы позірк падазрона бегае па тварах людзей, нібы гаворачы: «Ану, што вы тут без мяне думалі?» Мільгануўшы сюд-туд

ліхтарыкам, ён падступае да мяне.

– Вы што, зусім не можаце? І ўстаць не можаце?

– Не, чаму...

– Тады ўстаньце.

Я трохі здзіўляюся, навошта гэта спатрэбіўся яму, і спрабую ўстаць. Нага чамусьці ацяжэла, павязка набрыняла крывёю. Недзе ў глыбіні раны торгае, – здаецца, у гэтую ноч перавязаць яе і не прыйдзецца. Але куды гэта ён мяне павядзе?

– Зброю браць?

– Не трэба.

Я кладу на салому свой ППС, які мне, аднаногаму, даволі-такі замінае, і абапіраюся аб нечую шынельную спіну. Сахно няпэўна мільгае ліхтарыкам па абшарпаных сценах мазанкі. Яркі круглячок святла спыняецца на завешаным пасцілкай праходзе.

– Ану, пройдзем туды!

Следам за ім, хапаючыся па чарзе за ложак, услон і сцяну, я даскокваю да перагародкі. Капітан адхінае пасцілку і, пасвяціўшы ліхтарыкам, праганяе адсюль двух сонных параненых. Мы спышяемся каля застаўленага несамавітым сялянскім посудам століка. Сахно кідае Шашку:

– Давай святло!

Шашок з рухавасцю дбайнага падначаленага хуценька ўносіць «кацюшу», ля кнота абсыпаную соллю. Ставіць яе на перакуленую міску і звыкла прыладжваецца на лаўцы. Я сядаю ў канцы стала.

Сахно выключае ліхтарык.

– Даўно тут?

– Звечара.

– А нагу дзе параніла?

– У стэпе. Дзе на танкі напароліся... Ён жа ведае, – ківаю я на Шашка. Той, аднак, не варухне і брывом, нібы і не знаёмы, нібы і не быў з намі ў той кукурузе. Безуважны да мяне, ён хвіліну поркаецца ў палявой сумцы, выкладвае з яе паперы.

– А дзе Кротаў? – раптам хуценька пытаецца Сахно і на ўсе вочы, не міргнуўшы, глядзіць на мяне.

– Кротаў забіты.

– А двое палонных?

– Тыя ўцяклі, напэўна. Хоць адзін таксама забіты. Застаўся ў кукурузе.

– Забіты? – са з’едлівай іроніяй перапытвае Сахно.

Я недаўменна зазіраю ў яго ярка асветлены «кацюшаю» твар. На ім маска стрыманай да часу падазронасці і недаверу.

– Забіты, факт.

– Кім забіты?

– Ну, немцамі. Кім жа яшчэ...

Сахно ківае Шашку:

– Так, запісвай.

Той разгортвае на стале нейкі блакнот у дробную слабенькую лінеечку і з чорным нямецкім арлом на вокладцы. Блакнот трафейны, гэта пэўна, але я чамусьці затрымліваю позірк на тым агідным арле з нібы падрэзанымі, стылізаванымі крыламі. Усё гэта выклікае ва мне неўсвядомлены яшчэ пратэст.

– Значыць, палонны немец забіты немцамі? Так? І Кротаў таксама забіты немцамі?

– Ну, вядома.

– Ану, раскажы падрабязней.

– Што расказваць! Вунь старшына ж з намі ехаў. А пасля ён павярнуў, а мы і наскочылі...

Я коратка, без ніякай ахвоты, перадаю сутнасць нашай злашчаснай сутычкі з немцамі.

– Так, так, – ажыўляецца Сахно і грудзьмі аблягаецца на стол. Стол скрыпуча падаецца ў мой бок. Ад капітана моцна патыхае аўчыннаю кісласцю новага паўшубка. – Так, так, цікава. Ты запісвай.

– Запісваю.

Шашок, адтапырыўшы ніжнюю губу, не дужа спрытна, але затое старанна скрабе ў блакноце чорнаю аўтаручкай.

«Што тут запісваць? – думаю я. – Што тут незразумелага? Чаго яны сумняваюцца? Хіба падазраюць у чымсьці благім Кротава?» Вочы мае, аднак, не могуць адарвацца ад фірменнага арла на блакноце, і зацятая злосць ва мне ўсё нарастае.

Сахно тым часам прыдзірліва дапытваецца:

– А чаму вы не пабеглі за ім?

– А я і пабег. Як толькі чарга – я і пабег. Не за ім – за немцам.

– А што было раней: чарга ці ён пабег?

– Чарга.

– Чарга, так? А вы ж толькі што сказалі, што Кротаў кінуўся бегчы яшчэ да чаргі.

«Блытае. Ловіць. Пайшоў ты да д’ябла! Папаў бы туды, хай бы тады і прыкмячаў, што раней», – злосна думаю я і кажу:

– Гэта ўсё амаль разам. Немец кінуўся ўбок, Кротаў за ім. Тут і чарга.

– Значыць, усё ж раней Кротаў пабег за немцам. Так і запішам.

Што яны мяне ловяць? Што яму трэба, гэтаму чалавеку? Што ім да мёртвага Кротава?

Але Сахно, пэўна, ведае, што яму трэба. Ён задаволена адкідваецца на ўслоне, дастае з-пад партупеі на грудзях засунутыя туды пальчаткі і гучна ляскае імі аб далонь.

– Ось гэта і трэба было даказаць.

– Што?

– А гэта самае.

Сахно ўстае, звыкла папраўляе кабуру ТТ на дзязе і пачынае старанна нацягваць на пальцы пальчаткі. Яны нешта дабіліся ад мяне, але я не разумею яшчэ іхняе мэты. Я толькі адчуваю, што яны абхітрылі, і ў мяне ўзнікае гнеўнае абурэнне супраць гэтага іх бесцырымоннага наскоку.

– А цяпер падпішы, младшой, – кажа Шашок і падсоўвае мне той самы блакнот.

Мімаволі нешта ва мне захлістваецца на тугі, упарты вузёл.

– Не буду падпісваць.

Шашок замірае побач. Сахно за маёй спіной, чуваць, перастае перабіраць пальцы ў пальчатках.

– Як гэта не будзеш?

– А не буду, і ўсё!

Абодва паўхвіліны маўчаць. Я адчуваю іх збянтэжанасць і ведаю, што для мяне гэта можа скончыцца дрэнна.

– Гэта чаму? – зацята пытаецца Сахно. Асветлены знізу тупаносы, старанна выгалены твар капітана тоіць недаўменне і пагрозу.

– А што вы чапляецеся да Кротава? Што ён вам зрабіў?

Не адказваючы на маё пытанне, Сахно падступае бліжэй.

– Не прытварайцеся. Вы выдатна ведаеце, што ён зрабіў.

– Нічога ён не зрабіў. Ён забіты.

– Ах, забіты! – раптам узрываецца капітан і хапае са стала блакнот. – Забіты! Ну, тады наракайце на сябе! Зразумела?

І тыцкае мне пад нос блакнот.

– Ану, падпісвайце!

– Сказаў – не буду!

– Пашкадуеш. Ды позна будзе...

Няхай пашкадую. Магчыма, я ў чымсь памыляюся, але я не хачу выдумляць на чалавека, які не зрабіў мне нічога кепскага. Хлопцы за перагародкай прыціхаюць! Пэўна, адсюль чутна ўсё. Але хай! Чорт з імі, гэтымі двума! Што яны, урэшце, мне зробяць!

Я чакаю новага выбуху, крыку, можа, нават лязгання пісталетамі – чакаю сваркі і гатовы да яе. Я не баюся. Я ўжо наважыўся на ўсё і гатовы трымацца цвёрда. Але Сахно раптам ідзе да дзвярэй.

– Добра! Мы яшчэ вернемся! Мы яшчэ траханём цябе. Паняў?

Шашок зграбае са стала паперы, блакнот і паспешліва следам за капітанам выходзіць з-за перагародкі. Я нетаропка бяру з міскі «кацюшу». Рукі мае дробненька, нервова дрыжаць.

У хаце гамана. Ад парога ступае Каця. Яна і не выходзіла, была тут і ўсё чула. Я ведаю, яна заступіцца. У мяне ўжо нарадзілася і жыве недзе ў душы цёплае, удзячнае пачуццё да яе, толькі цяпер я хачу сказаць ёй:

не трэба.

– Што прычапіліся да младшога? – бесцырымонна кажа Каця. – Кротаў забіты.

Сахно шчоўкае ліхтарыкам і нахабна скіроўвае яго ў круглявы, па-хлапечы абсівераны твар Каці. Дзяўчына пакутліва хмурыць бровы, але не закрываецца ад святла – вытрымлівае гэта нахабства з упартасцю і выклікам у шэрых вачах.

– А ты бачыла?

– Бачыла, – міргнуўшы ўрэшце ад рэзкага святла, кажа Каця. – Калі б не бачыла, не гаварыла б.

– Праверым! – шматзначна абяцае Сахно, не зводзячы кружок святла з яе вачэй. Каця нечакана б’е яго па руцэ.

– Ідзі ты са сваім ліхтаром. Што слепіш?!

Сахно апускае ліхтарык.

– Праверым!

– Вунь фрыца лепей правер. Калі такі правяральшчык спрытны...

З ложка адгукаецца сяржант:

– Праверылі ўжо і фрыца. Колькі можна!

– Не ваша справа! – Сахно злосна азіраецца. – Трэба будзе – праверым. Каго трэба.

Яны ідуць да дзвярэй. Шашок адкідвае на тоўсты зад не менш тоўстую палявую сумку. Немца яны, здаецца, браць не збіраюцца.

– Няма чаго гразіцца! – падае хтосьці голас з кутка. – Нас ужо праверылі. Асколкамі праверылі. А то наеў ражку і грозіцца.

– Ану, ціха, пяхота! – па-начальніцку прыкрыквае

сяржант.

Сахно і Шашок, аднак, не затрымліваюцца. Прытвараюцца, што не чуюць абразы, і толькі мацней, чым трэба, бразгаюць з таго боку дзвярыма.

Узрушаны, я стаўлю на прыпечак «кацюшу» і пераводжу позірк на сваё месца. Там у змроку каля аўтамата курчыцца на саломе немец.

– Ану, марш адсюль! – тонам Сахно прыкрыкваю я. Немец спахопліваецца і ўскоквае, аддаючы месца. На ложку паварочвае галаву сяржант.

– Ганс, сядай, дзе стаіш. Во перада мной. Бо тут цесна.

Сапраўды, на ложку цеснавата, хоць там ужо толькі адзін паранены. Таго, хто хрыпеў, ужо няма. Немец, патаптаўшыся, неахвотна падбірае доўгія ногі і сядае насупраць сяржанта. Той, відаць, ужо не прэч памірыцца з палонным. З «маім» палонным.

А зрэшты, чорт з ім! Чым ён далей ад мяне, тым лепш! Што я, абавязаны ўвесь час клапаціцца пра яго, аберагаць, заступацца? Такі ён «мой», як і сяржантаў, Кацін ці яшчэ чый. Да таго ж, можа, яшчэ якая сволач... Толькі звяжыся, не расхлябаеш за век.

Я злы і нядобры. Баліць параненая нага, на душы брыдка, быццам я зрабіў подласць. Хутчэй бы дачакацца ранку ды пакінуць гэтую хату, гэтае сяло, у якім напаткалі мяне адны непрыемнасці.

**11**

Га-ах!

Вуліца на некалькі секунд азараецца дзівосным вясёлкавым ззяннем. Пешаходы, радасна здрыгануўшыся, азіраюцца. Зіхоткі зеленавата-чырвоны водбліск разліваецца па маставой.

Га-ах! Га-ах! – туга адскокваюць ад фасадаў другі і трэці

пругкія паветраныя ўдары. Рознакаляровы ракетны веер запальвае над вуліцай неба. Жоўта-зялёна-чырвоныя блікі мільгаюць у вокнах паверхаў. Цені ад дрэў і слупоў спуджана кідаюцца па блішчастым бруку. Велічна-каляровае ззянне ўгары дасягае зені-ту і, не спыняючыся, таропка шастае ўніз. Агнявыя букеты, здаецца, асыпаюць дахі будынкаў. Калі неба гасне, на вуліцу з куткоў і пад’ездаў адразу ж хлынаюць цені, якія паспешна змыкаюцца ў вячэрняй цемрадзі.

Феерверк вырывае мяне з мінулага. Я азіраюся. Незнаёмыя будынкі, вузенькі, малалюдны тратуар. Брук разразаюць трамвайныя рэйкі. Крыху далей – глухі нефарбаваны забор з казыркамі і ашмоццем афіш на дошках. Чорт ведае куды гэта мяне занесла?

Пад прыцьмеўшым ліхтаром акрай тратуара збянтэжана спыняецца маленькая згорбленая бабка з кіёчкам і сумкай. Спалохана азіраецца ў поўнае водсветаў неба. З сумкі блішчаць фальгой дзве малочныя бутэлькі. Кончык бабчынага кійка дробненька дрыжыць на асфальце.

– Не бойся, бабка. Гэта – салют.

Бабка паднімае на мяне зморшчаны тварык. Пад яе. вастранькім падбародкам тырчаць два ражкі старамодна завязанай белай хусткі.

Аднак яна, пэўна, не чуе і запытальна глядзіць на мяне.

– Сынок, ці не вайна гэта зноў? Га?

– Рана, бабка. Яшчэ салдаты не выраслі.

– Чую, нібы арудзіі страляюць. Якраз, як тады...

Да вулічнага скрыжавання з бразгатам і віскам коціцца трамвай. З завулка выпаўзаюць два самазвалы. Бабка нерашуча ступае на брук і зноў вяртаецца на край тратуара.

– Можа б, ты памог? Га, сынок?

Я бяру яе пад руку. Бабка адрывае ад долу свой кіёчак і дробненькімі крокамі тупае на сярэдзіну вуліцы. Побач, лёгка абмінаючы нас, перабягаюць вуліцу дзве дзяўчыны.

На сярэдзіне вуліцы нас засцігае новы тугі паветраны залп. Яркапрывідная каляровая ўспышка захліствае над дахамі неба. Дзяўчаты ў кароценькіх, званочкамі, спаднічках, спалохана бліснуўшы зграбненькімі лыткамі, ускокваюць на тратуар.

– Лінaчка, якое хараство!

– Цуд!

Бабка ж уся сціскаецца і, здаецца, ад страху вось-вось прысядзе.

– Ой, Божа літасцівы! Ой!

– Не бойцеся! Чаго ўжо вам за сябе баяцца?

– За сябе, – недачуўшы, ахвотна пагаджаецца бабка. – Болей мне за каго ж? За сынкоў ужо адбаялася. Няма ўжо сынкоў.

Я здагадваюся пра яе бяду і не хачу вярэдзіць старэчую памяць. Па шчырасці, дык няма ўжо і жадання спачуваць. Вельмі часта даводзілася гэта рабіць. Цяпер я толькі нядбайна супакойваю:

– Нічога, нічога, бабуся...

Мы пераходзім вуліцу. Ззаду з грукатам праносіцца трамвай. Дзяўчаткі ціснуць адна адной локці і, нецярпліва прытопваючы, пазіраюць у неба. Мабыць, для іх самае рэальнае ўвасабленне вайны – вось гэты салют. Кніжкі аб ёй – самота. Гісторыя – таксама. Хіба яшчэ знаёмы лейтэнант. Але ён, магчыма, болей заглядаецца на каго іншага. Хутка павінны ўдарыць яшчэ.

– Ах, сыночак, за каго ж мне засталося баяцца? – проста, як пра будзённае, кажа бабка. – Стары ў

блакаду ў лесе галаву злажыў. Старшы, Сямёнка, пад горадам Варонежам ад ранаў памёр. Грышутку ў сцюдзёнай старане – як жа гэта яе, ужо і забылася... Мурманскай, здаецца, завецца. Там забілі. А малодшанькага, Віценьку, дык у моры Чорным патапілі. Капітанам быў. Праўда, за сярэдненькага, Міколку, яшчэ калі сэрца баліць... Але што ж... Столькі гадкоў... Каб жыў быў дзе, дык бы азваўся. А то пайшоў пад Аршаву, дык і прапаў.

«Цэлая геаграфія! – думаю я. – Геаграфія і гісторыя толькі ў адным сэрцы». А колькі іх па краіне, такіх бабак, што вырасцілі і аддалі вайне сыноў! Каб самім дажываць нямоглыя свае гады ў журбе і адзіноце...

Бабка цяжка ўзлазіць на тратуар і спакайнее, нібы тут выбухі яе не дастануць.

– Ну што ж яны? Так доўга! – тупаюць па тратуары дзяўчаты.

Запаволеным крокам мы праходзім да першага ж пад’езда, і бабка спыняецца.

– Ну, дзякуй табе, сынок. А то так цяжка хадзіць тут. Раней дык мы на Камароўцы жылі.

Неяк хуценька павярнуўшыся, яна тупае ў пад’езд. Я аклікаю дзяўчат:

– Скажыце, гэта якая вуліца?

Як па камандзе, дзяўчаты разам паварочваюцца да мяне. З-пад бухматых павек зыркаюць пытальныя позіркі. Нейкія яны дужа ўжо зграбненькія і падобныя адна на адну. Нібы сёстры.

– А вам якую трэба?

– Ды мне каб к цэнтру!

– К цэнтру – туды. К вакзалу – туды, – махае адна ў абодва канцы вуліцы.

На хвіліну я прыпыняюся. Чаго мне ісці да цэнтра? Усё роўна ў гасцініцу ўжо не ўладкуешся, час позні. Ці не лепш на вакзал? Там хоць можна як-небудзь прабавіць ноч. Між людзей заўжды весялей – не так дакучаюць думкі. Здаўна вядома, што чалавек – істота калектыўная. Зноў жа – хочацца есці. Здаецца, я і не паабедаў сёння. Адно толькі выпіў паўшклянкі гарэлкі.

І я паварочваю да вакзала. Дзяўчаты ззаду гукаюць:

– Грамадзянін, не ў той бок! Цэнтр – туды.

– Дзякуй. А я – сюды.

Не азіраючыся, я чую, як яны там хіхікаюць.

– Дзівак! Ён дзейнічае ад адваротнага...

Спакоем і вячэрняй утульнасцю свецяцца вокны, цьмяна гараць вітрыны зачыненых магазінаў. На рагу з вялікага гастранома выгружаюць тару. Высокія стосы жалезна-драцяных скрынак з бутэлькамі, бразгочучы, сунуцца праз тратуар. Рабочыя спрытна ўпраўляюцца сваімі жалезнымі кручкамі. Адна за другой бягуць, спяшаючыся дадому, жанчыны – з сумкамі, хлебам, кулькамі: таропкія пакупкі на канцы дня... Ім не да свята. Да адпачынку ім таксама яшчэ не блізка – трэба прыбраць, накарміць, падрыхтаваць сняданне. Па ўскрайку тратуара дзядзька, ашчадна прытрымліваючы, коціць веласіпед з кардоннай скрынкай, адмыслова прымацаванай да багажніка. Няйнакш тэлевізар. Побач ідзе жонка. Яны ўвесь час аб нечым паціху спрачаюцца – мусіць, вырашаюць, у які кут ставіць гэтую радасць. Што ж, у час Добры!

За магазінам на рагу адкрываецца шырэйшая вуліца, у канцы якой – залітая святлом плошча. Гэта вакзал. На тратуары паток пешаходаў адтуль – з чамаданамі, клункамі, пакункамі. Відаць, прыйшоў поезд. Няўклюдна абмінаючы людзей, я кідаюся ў бакі. Ідуць па адным, групамі, парамі. Праходзяць шчаслівыя закаханыя, мабыць, толькі што сустрэўшыся пасля ростані. Ён у нейлонавай сарочцы з падкасанымі

рукавамі. Яна ў вузенькай спаднічцы, з-пад якой даверліва мілыаюць каленкі. Абое радасна заглядваюць адно аднаму ў твар, і яна сцішана туліцца да яго. Прыгожыя, статныя, нейкія дужа дасканалыя, як антычныя скульптуры, яны так і поўняцца найлепшым з пачуццяў юнацтва.

**12**

За акном уладарыць марозная ноч.

Часу між тым мінае нямала: ужо, мусіць, апоўначы. Я не сплю і пасля ўсяго, што адбылося тут, самотна гляджу ў печ. Агонь горача палае, ганяючы па тынкаванай сцяне над ложкам мільготкае зарава.

Ля печы тупаюць, шархацяць саломай санітары і Каця – яны вараць бульбу. Каця, – без паўшубка, расчырванелая, уся неяк па-добраму ажывелая ад гэтай хоць, відаць, і не дужа прывычнай для яе, але такой хатняй і жаночай работы, – спрытна лязгае па прыпечку казанамі. Сяржант, страціўшы ўжо цікавасць да немца, які сцішана сядзіць побач, перавешваецца грудзьмі цераз ложак і шырокімі сваімі лапішчамі ўсё імкнецца лішні раз ухапіць дзяўчыну. Тая ледзьве ўвільвае ад яго рук, часам не балюча ляскае сяржанта вілачнікам па плячах. Сяржант рагоча, стрымана ўхмыляецца немец. Дзядзькі-санітары не звяртаюць залішняй увагі на гарэзы маладых.

У хаце ціхая гамана, дым ад цыгарак перамешваецца з гаркавым чадам саломы. Сцішана стогне ў паўзмроку нехта з параненых. Матляюцца па столі і прасценках мядзведзяватыя, скасабочаныя цені. Мільготкія водсветы з печы то горача ўспыхваюць, то цьмяна трымцяць на абшкрэбаных сценах мазанкі.

Хутка, мабыць, зварыцца бульба. Я ўжо адчуваю яе духмяную парнасць у хаце і часам забываюся на рану, на стэп з танкамі, на маю сутычку з Сахно, якая чорт ведае чым яшчэ скончыцца. Я вельмі чуйны да кожнага стуку ў сенцах – толькі рыпнуць дзверы, мне здаецца,

што гэта ідуць па мяне. Але гэта ходзяць байцы, носяць салому, ваду. А аднаго разу ў хату ўвальваецца доўгі, у расшпіленым шынялі санітар. У абедзвюх руках у яго нешта шэрае і мяккае, якое ён адразу кідае на падлогу.

– Ой, што гэта?

Каця спалохана шастае ўбок. Санітар бязгучна смяецца, асклабіўшы шырокія, нібы конскія, дзёсны. На падлозе дзве нерухомыя трусіныя тушкі.

– Дзе ты іх узяў? – здзіўлена пытаецца Каця. Спалоху ў яе голасе ўжо няма, ёсць здзіўленне і лагода – сапраўды, рады былі бульбе, і раптам – трусяціна!

– Там, у сянёх, – ківае санітар. – Норы ого!

Ён зноў выходзіць здабываць з нор гаспадарскіх трусоў. Каця з несхаваным шкадаваннем на вуснах паднімае за доўгія вушы шэрую мяккую тушку, хвіліну ў ціхім роздуме глядзіць на яе і працягвае кароценькаму санітару.

– На-ка абдзяры...

Санітар заклапочана ссоўвае на патыліцу шапку. Аказваецца, ён не ўмее або не хоча зрабіць гэтае звычайнае справы, таксама як і сяржант і Каця. Іншым жа замінаюць параненыя рукі. Тым часам доўгі санітар прыносіць з сянец яшчэ аднаго забітага трусіка. Але ён таксама не ўмее разабраць і ківае на немца:

– Вунь фрыц хай! Няма чаго дармаеднічаць...

Немец, пэўна, ужо асвойтаўся ў гэтай хаце і з затоенай цікавасцю назірае за тым, што робіцца ля печы. Відаць, ён здагадваецца, у чым справа, і не вымагае сябе прымушаць.

– О фройлян, іхь сделайт.

Каця секунду марудзіць. Акругліўшы вочы, выпрабавальна пазірае на немца, потым вочы яе, прыкметна наліваючыся гневам, вузеюць.

– Ах ты, скурадзёр пракляты! Набіў на людзях руку!

– Ладна, ладна! Хай! – абрывае яе сяржант. – Давай, дзелай арбайт, Ганс.

– Няхай папэцкаецца, а што! – зазначае санітар. – Трымай фінку.

Ён дастае з кішэні крывы садовы нажык на ланцужку, адчэплівае баранчык і аддае нож немцу. Той з гатоўнасцю прысядае на калені і ў святле печы проста на падлозе пачынае свежаваць тушку.

– Айн мамент, фройлян. Бістро. Бістро.

Мы ўсе з цікавасцю назіраем, як старанна ён робіць гэта – надразае заднія лапкі, распорвае шкуру на жываце і, не так умела, як дбайна, урэшце, здзірае з тушкі мяккую вільготную шкурку. Сяржант з ложка пахвальвае:

– О, правільна, Гансік. Пакажы клас. Адразу відаць: спец!

Каця хмурыць бровы, назіраючы за ўпэўненымі рухамі немцавых рук. Светлыя доўгія валасы на яго галаве рассыпаюцца, і ён адтапыраным пальцам раз-пораз адкідвае іх назад.

– Ага, глядзі ты! Маладзец! І тут майстар, – кажа нехта з кута.

– Рукасты.

– Рабацяга бо. Не тое, што вы, – кажа сяржант. – Во, глядзі, якую мне люльку падарыў. Ага!

З блазенскаю ўсмешкай на нізкалобым шырокім твары ён прыўзнімае ў пальцах выгнуты адмысловы муншт з мефістофельскай галоўкай на канцы і пакручвае яго ўгары, каб усе бачылі. Падарыў – гэта занадта. Вядома, сяржант прыдбаў яго сам.

– Айн мамент, фройлян! – бадзёра прыгаворвае немец. –

Дас іст карошый братэн. Жаркёя.

– Жаркое! Глядзі, разумее! – захапляюцца ў куце.

– А што ж ты думаў! Ці мала нашага дабра перасмажылі за тры гады!..

– Годзе, не бурчы. Ён добры.

– Ага, яны ўсе добрыя. Вось наляцяць пад ранак, дык адны галавешкі застануцца, – разважна кажа нехта ад перагародкі.

У куце ўскідваецца з саломы апяразаны бінтамі абгарэлы.

– Доктар! Доктар тут ёсць?

У хаце ўсе змаўкаюць і зважліва азіраюцца на невідушчага, нібы здань белага ад бінтоў, чалавека.

– Доктара няма, – кажа Каця. – Ён аперыруе. А вам што?

– Выбрацца з гэтага свінушніка. Колькі можна чакаць?

– Сказалі – уранні.

– Што значыць – уранні? – запальчыва раздражняецца абгарэлец. – Маёра дык адвячоркам павезлі

– Маёра ў авіяцыйны шпіталь. Ён лётчык, – кажа сяржант.

– Лётчык? А я таксама лётчык. Вы што – не бачыце? Я гарэў! Зараз жа адпраўляйце і мяне.

Усе змаўкаюць. Сапраўды, гэта не жарты, калі абгарэла гэтулькі скуры. Да таго ж лётчык. Лётчыкаў мы паважаем, было б на чым везці, напэўна, кожны ўступіў бы яму сваё месца.

– Ладна, патрываеце трохі. Вось зараз трусяціны наварым, – прымірэнча кажа Каця і прыкрыквае на немца: – Ану, Гітлер, паварушвайся мне жывей!

Але немец і так завіхаецца, ажно спацеў. Нашай балбатні ён не слухае – уся яго ўвага на працы. Бадай, ён – неблагі дзядзька. Праўда, амаль як і заўжды ўсе палонныя, трохі дурнаваты з выгляду, бо не разумее па-нашаму. А так просты і ўслужлівы, відаць, лёгкі на рукі і ахвочы да працы. Пэўна, сербануў ліха на вайне і цяпер, у палоне, мусіць дагаджаць, бо баіцца. Вось невядома толькі, як ён трапіў у палон: сам здаўся ці зацапалі хлопцы з нашага батальёна? Хоць, зрэшты, гэта не так і важна. Адваяваўся фрыц, і цяпер, відаць, прачынаецца ў ім чалавек, мірны абывацель, рабацяга. Што ж – хай сабе! Мы добрыя, страляць яго не будзем, а дабрата – таксама зброя. Гэта ўжо відаць і па немцу.

**13**

Мусіць, неўпрыцям задрамаўшы, я зноў ачынаюся, бо гамана ў хаце раптам здорава ўрываецца ў вушы, неяк ажно палохае. Знячывелі, здаецца, быццам штось здарылася, чаго я не магу зразумець. Але ў хаце, відаць, усё па-ранейшаму. Толькі ў печы ўжо не палае, па прыпечку – змрок з іскрамі ў чорнай саламянай трусе. Смачна пахне бульбай і мясам. Каця, сагнуўшыся над казанамі, раскладвае бульбу – у кацялкі, міскі і нават у пустую каску, якую, прысеўшы, трымае перад ёю нізенькі, шыракатвары баец-узбек. Насупраць на падлозе з выглядам пакрыўджанага родзіча сядзіць немец. Кухарская праца ля печы скончылася, патрэбы ў палонным тут болей няма, і ён, відаць па ўсім, адчувае сябе лішнім.

У гэты час за нахіленай Кацінай спіной адчыняюцца дзверы, і ў воблаку сцюжы цераз парог імкліва пераступае нехта ў густа заінелым шынялі.

– Прывет! – весела кідае чалавек ад дзвярэй.

Зусім малады твар яго чырвоны ад сцюжы, голас таксама выдае зусім яшчэ хлапечы ўзрост. Ён паранены і правую руку трымае ля грудзей на бінце-падвязцы.

– О, тут і фрыцы! – радасна здзіўляецца хлопец,

згледзеўшы немца. – Гут абенд, фрыц!

Немец ускоквае з падлогі і цвёрда ляскае абцасамі.

– Гутэн абэнд, гер афіцыр!

– Вольна! – усміхаецца афіцэр.

І тут мне штосьць здаецца знаёмае ў гэтай заінелай постаці. У голасе, паставе, смеху прабіваецца штосьць зусім нядаўна і зноў жа невядома дзе чутае і бачанае. Пастой, ды гэта ж...

– Стралкоў! Юрка! – крычу я са змроку, стараючыся ўстаць ля сцяны.

Хлопец кідае ў мой бок амаль збянтэжаны позірк і ад разгубленасці на момант разяўляе рот. Ён не пазнае. Ды і ці можна тут пазнаць каго, у гэтай цемры, якую ледзьве разрэджвае адна мігалка на прыпечку (другая патухла ўжо – скончылася гаручка). І ўсё ж хлопец здагадваецца:

– Васілевіч?

– Я самы! Давай сюды!

Сапраўды, гэта Юрка, і я на хвіліну забываюся на ўсе мае беды, няўдачы і нават боль у назе. І як не забыцца, калі гэта – Юры Стралкоў, мой аднакашнік, сябар, малодшы лейтэнант, пехацінец, з якім мы паўгода назад скончылі адно вучылішча і пасля доўгага падарожжа ў таварняку трапілі ў адну армію. Пасля тае пахмурнае раніцы пад Харкавам, дзе нас разлучылі кадравікі, я, папраўдзе, ужо і ке спадзяваўся ўбачыць яго. І цяпер вось такая сустрэча!

Шырока стаўляючы між людзей заснежаныя валёнкі, Юрка паспешліва лезе да мяне, хапае адной левай рукой мае пальцы і трасе, трасе.

– Лёнька! Ты жывы, Лёнька!

– Ды вось жыву. А ты? – недарэчна пытаюся я.

Э, вядома, браце, колькі мы пражылі паасобку, адзін без аднаго, – пражылі, наадчуваліся, перапакутавалі. Былі мы зялёныя, толькі і дбалі, што пра свой знешні выгляд ды свежаспечаны воінскі гонар. З адной зорачкай на плячах. А цяпер?

Ледзьве ўтаймоўваючы хваляванне, я гляджу ў заценены прыцемкам такі знаёмы, дужа далікатны, як у дзяўчыны, твар сябра. І я прыкмячаю на ім штось новае, невядомае мне, мусіць, нейкія сляды нялёгкага, пакутна-сталага ўжо, што прыйшло да яго за час пасля нашай ростані. У астатнім жа гэты твар ранейшы – тонкія юначыя рысы, далікатная круглявасць падбародка, якога яшчэ не краналася брытва. Зрэшты, цяпер ёнззяе радасцю нечаканай сустрэчы. Юрка азірае мяне і смяецца.

– Ой, які ты абвязаны, не пазнаць!

– Ерунда! Бінтоў накруцілі. А ў цябе што – рука? – пытаюся я ў сябра.

– Ды, разумееш, падляцеў ненарокам.

– Лёгка?

– Драпіна. Вось толькі страляць замінае. А так... Ну, але ведаеш, мы адыграліся! – Юрка раптам радасна ажыўляецца, вочы яго блішчаць. – Ось ужо адыграліся, каб ты толькі ведаў! Зрабілі пабоішча не горш за Лядовае...

– Ты сядай! Во, на салому.

Юрка адразу апускаецца пад сцяну са мной побач. Хлопцы адусюль пазіраюць на яго – такога заснежанага, гаманліва-ажыўленага. А ён, здаецца, безуважны да ўсяго тут. поўніцца чымсьці сваім – вялікім і радасным.

– Ты разумееш! Ты разумееш – я ж толькі са стэпу! Во гадзіну назад! От жа мы іх ушчушылі! Ды так спрытна, без стрэлу, без гуку падпусцілі на пяцьдзесят метраў... Камбат у гэты раз ну проста маладчага!..

– Пастой, пастой!.. Ты дзе? Я нават не ведаю, у якой ты дывізіі служыш. У Церахава, ага?

– У якога табе Церахава! – гатовы раззлавацца Юрка за такое маё меркаванне. – У палкоўніка Калюжнага. Гвардыя!

– Так, так...

– Ты разумееш! За дзесяць хвілін мы зрабілі з іх мясакамбінат. Ураз як ударылі з усяе зброі!.. Дзевяць станочкаў, дзве саракапяткі. Ты б паглядзеў, што там рабілася!..

Я і так рады, што там здарылася. Яшчэ не ведаючы, што і як, але гатовы зайздросціць Юркавай ратнай удачы. Ды я ўжо і зайздрошчу. Што і казаць, пяхоце не часта выпадаюць на фронце хвіліны, накшталт толькі што перажытых Юркам, калі грудзі распіраюцца ад хмельнага шчасця ўдачы. Нам болей прывычны шэрыя будні вайны – сцюжа, мокрыя ногі, крывавыя бінты на нямытым целе, знішчальны нямецкі агонь і, як узнагарода, – кароткі трывожны сон дзе-небудзь на засланай саломай падлозе. У яго ж здарылася нешта зусім іншае, нешта агромніста-ўдалае, і я рады. Я слухаю і на ўсе вочы пільна гляджу на нядаўняга свайго сябрука-курсанта. Шынялёк на Юрку салдацкі, алс акуратна прыгнаны па росту (на гэта ён быў мастак і ў вучылішчы, бо трошкі фарсун і акураціст). На каўняры роўненька прышытыя пятліцы, наўкось цераз грудзі – партупея, вядома не ў ОВС1 атрыманая, а, пэўна ж, сумленна здабытая на полі бою. Юрка, я вельмі, вельмі рады, што ты жывы, што ты ўрэшце сустрэўся мне, ды яшчэ такі ўзнёсла ўзрадаваны!

– Панімаеш, цэлую калону, чалавек трыста з артылерыяй! Ты разумееш ці не? – тармосіць ён мяне за рукаў.

– Разумею, разумею, Юрка. Але давай спярша падмацуемся. Эй, ты! – крычу я на немца. – Ану, падай кацялочак! На двох!

Немец ахвотна падае нам плоскі кацялок, поўны бульбяное таптухі. Пасля на пагнутае вечка Каця кладзе кавалачак трусяціны.

– Вот вам і ножка, таварышы камандзіры, – кажа санітар, перадаючы вечка цераз галовы іншых.

Юрка чуйнымі ноздрамі прагна нюхае паветра і дзівіцца:

– Што? Мяса? Ось гэта да! Ну, раз так, то... Трымай!

Ён рашуча адшпільвае ад рамяня нямецкую фляжку і працягвае яе санітару. Той, не разумеючы, круціць яе ў руках. Але тут над яго плячом мільгае ўхопістая рука сяржанта, і фляжка апынаецца на ложку.

– Ану, ану...

У хаце лёгкая збянтэжанасць, усе паварочваюцца да парога. Сяржант жа, надаўшы страшэнна глыбакадумны выраз свайму хітраму твару, даследуе фляжку. Для гэтага ён спярша боўтае яе і прыслухоўваецца.

– Шнапс?

– Нешта ў гэтым родзе! – жыва адказвае Юрка. – Трафеі нашых войск.

Сяржант важна адкручвае пробку, грымаснічаючы, нюхае рыльца і выразна хакае ад асалоды. Нехта з кута крычыць:

– Хопіць камедыяннічаць! Разлівай!

Сяржант акругляе вочы.

– А калі атручана? Трэба пробу.

– Ідзі ты! Якая яшчэ проба!

Ну, вядома ж, пробу ён бярэ сам. Задзірае галаву і гучна глытае, зрэшты, па-боску – адзін толькі раз. Усе, не адрываючыся, сочаць за яго тварам, а сяржант на

хвіліну знерухомлівае, як дэгустатар, вызначаючы смак гарэлкі. Пасля рашуча аб’яўляе:

– Люкс! Ану, давай тару! Младшой, ад імя службы табе благадарнасць!

– Служу савецкаму народу, старшыне і памкамузводу! – смяецца Юрка і зараз жа да мяне: – Ты разумееш, я сам спаражніў шэсць стужак. Шэсць стужак – ты разумееш! «Максім», як самавар, распаліўся. Пятнаццаць хвілін, і на снезе тры сотні трупаў!..

Нечаканае трывожнае меркаванне прымушае мяне схамянуцца.

– Стой! Гэта дзе? Ці не каля Аляксееўкі?

– Ага. Непадалёк. Відаць, прарываліся на захад, да сваіх.

– Пяхота?

– Пяхота, ага. І артылерыя.

– А танкі?

– Што?

– Танкаў не было там?

– Не, танкаў не было. Пяхота. Глядзім: ідуць да кукурузы, расцягнуліся, як кішка. Ну, камбат паклаў усіх, камандуе: замры. Так удала падпусцілі, месяц свеціць, ужо гузікі на шынялях відаць сталі. І як урэзалі! – захапляецца Юрка і крыху цішэй паведамляе: – На мяне наградны напісалі. Проста ў полі. На «Айчынную»... Другой ступені.

«Айчынная» – гэта здорава. Трэба б павіншаваць. Але я не віншую – я засяроджана пазіраю ў расчырванелы твар сябра, і ягоныя словы пачынаюць аддаляцца, глухнуць у маіх устрывожаных думках. Сапраўды, гэта адыходзіла пяхота. А дзе ж танкі? Значыць, танкі засталіся. Яны на прыкрыццё. Пяхота, вядома, выйшла

раней, падцягвалася да Аляксееўкі, а танкі... Танкі, выходзіць, нацэліліся на нас.

Чорт, мне зноў робіцца кепска. Нейкая нервовая дрыготка скаланае цела, мімаволі мая ўвага скіроўваецца на панадворак: ці не чуваць? Не, здаецца, гулу не чуваць, толькі здалёк праржаў конь ды нехта, прарыпаўшы снегам, прайшоў каля хаты.

У вёсцы пакрысе ўсталёўваецца начная цішыня.

А ў хаце тым часам ажыўленая, без ладу, гамана.

– Ну, будзьма здаровы!

– Каб хутчэй дзіркі загойваліся.

– Кацюша, не адмаўляцца. Ну, хоць трошачкі. За разведчыкаў.

– За пяхоту-матухну.

– А фрыцу? Хлопцы, фрыцу налілі? – непакоіцца нехта ў куце.

– Не, цябе чакалі, – прастуджаным басам адгукаецца сяржант і з поўнаю алюмініевай шклянкай для галення павяртаецца да немца.

– Ганс!

Немец з крыху празмернай паспешнасцю падхопліваецца ад печы і шчоўкае абцасамі:

– Яволь!

– Трымай!

Сяржант перадае ў немцавы рукі шкляначку. Твару таго, павернутага ад святла, добра не відаць, але, здаецца мне, на ім – задаволеная, дабрадушная ўхмылка. Зрэшты, можа, гэта мне здаецца так у прыцемках. Немец трошачкі прыўзнімае шклянку і абвяшчае ў паўпаклоне:

– Гітлер капут!

– Давай, давай! – адабраюць наўкола.

– Ну, паехалі, рабяты! За перамогу.

Я таксама паднімаю вялікую, на паўлітра, луджаную кварту, на дне якой трохі плёскаецца вадкасці – гэта нам з Юркам. Здаецца, мы п’ём з ім першы раз у жыцці, хоць амаль год прабылі ў вучылішчы разам. Але тады было не да выпіўкі – тады марылі абы досыту пад’есці. Вядома, напаўгалодныя тылавыя блазнюкі. Цяпер вось мы паваявалі ўжо і абодва паранены і таму п’ём, як сталыя. А што ж, хіба не заслужылі такое права? Мы забівалі ворагаў і пралілі сваю кроў, колькі разоў ганялася за намі пагібель, але мы абхітрылі яе і жывём. Хіба гэта мала на вайне?

Перш чым выпіць, я трошкі вагаюся і ўлюблёнымі вачыма пазіраю на Юрку.

– Юрка, дружа! Халера! Як добра, што мы спаткаліся!..

Юрка бесклапотна смяецца.

– Ну, давай! Да дна.

Не, да дна нельга. Тры глыткі пякучае вадкасці, пасля – зацятае дыханне, здрадніцкі кашаль з горла. Ого, мусіць, гэта не шнапс – падобна, што спірт! Ну, але тут – гарачую бульбіну ў рот і пасмачку валакністага белага мяса. Пасля мяне, таксама папярхнуўшыся, з кварты дапівае Юрка.

А нішто сабе – і выпіўка і гарачая бульба (каб яшчэ да яе хлеба). Паспешліва, з лёгкім шумам у галаве, ямо. А з душы ўжо хлынае, ірвецца разам пражытае, тое, што адышло ў нябыт ды раптам уваскрэсла для мяне разам з прыходам Юркі.

– Слухай, а ты Драздоўскага не сустракаў?

– Драздоўскі ж загінуў. Яшчэ на Дняпры. Пад бамбёжку трапіў.

– Глядзі ты! Такі асцярожны. А дзе гэта памстаршына наш, Адзінокаў?

– Го, Адзінокаў! Адзінокаў камбатам быў стаў.

– Камбатам?

– Ну. Ды ненадоўга. Ногі адарвала. Нядаўна, пад Пяціхаткай.

– Шкада трохі. А наогул, паскуда ён.

– Паскуда, праўда, – згаджаецца Юрка.

– А не ведаеш, куды Кузняцоў Валька папаў?

– Кузняцоў? Разумееш, не ведаю нават, дзе ён і ваяваў. У яго ж бацька генерал. Памятаеш, ехалі на фронт, – усё кпілі з яго: Кузняцоў, маўляў, да бацькі ад’ютантам пойдзе. А я неяк аднаго разу, – пагадзі ты, не ведаю ўжо, дзе гэта і было, – неяк адышоўся ад дарогі ў бок, да магілкі. Гляджу – таблічка. Чытаю: малодшы лейтэнант Кузняцоў вэ эс... Точна. Наш Валька. Вось табе і ад’ютант...

– Да-а... Ну, ты еш. Бяры во гэтую костку.

– Не, костку ўжо ты бяры. Я бульбу.

Бульбу мы ямо дружна, костка на вечку застаецца – яе не падзеліш. Чорт з імі – танкамі, я ўжо іх не баюся! Урэшце, нічога яны нам не зробяць. Ротмістраўцы з пятай танкавай ужо, мусіць, акружылі Кіравагcenterград. Мы наступаем, наша перамагае. Пляваць нам на тыя танкі, хай сабе дратуюць у стэпе кукурузу. Заўтра падваляць «ІЛы», зробяць ім Сталінград...

Мне робіцца добра, лёгка, нават весела. Я люблю Юрку, Кацю, гэтага арапістага сяржанта ў дэсантнай куртцы. Тых вунь санітараў, што з блажэннымі ўсмешкамі на зашчаціненых тварах падпіраюць плячыма печ. І нават немца. О, як ён мірна і старанна выскрэбвае бульбу з кацялочка – любата глядзець!..

Гамана ў хаце большае, ажыўленне расце. Ужо не-не ды раздасца смех. Параненыя забыліся на свой боль. І ўсё Юркава фляжка!

У куце сярод воблака махорачнага дыму нехта разважліва, са стоеным жаданнем уразіць сваёй удачлівасцю, нетаропка, смакуючы цыгарку расказвае:

– Да-а. Я гэта даўно запрыкмеціў. Душа, яна пачуццё сваё мае. Яна, брат, таксама кіруе. Надоечы ляжу пад плотам – во там сяло бралі, не ведаю, як і завецца. Ляжу гэта, зацішна, кулі верхам ідуць. Здаецца, ляжаць бы ды ляжаць. Чым не схованка. Ды нехта мяне бы штурхае – ану, Пятро, перабягай! Не хочацца ўставаць, кулі свішчуць. Але неяк устаў і – цераз плот, бліжэй да хаты. І толькі гэта ўпаў, ззаду як ірване. Увакурат на тым самым месцы, дзе я ляжаў.

У другім баку, ля перагародкі, напэўна, сабраліся бывалыя, і ў іх ужо іншая тэма.

– Куля што! Куля акуратная. Цюкне і – маленькая дзірачка...

– Асабліва калі навылёт.

– Бы камар укусіць. Месяц, і ўсё гатова.

– Ну, не кажыце. Бывае з рыкашэта каторая, тожа рве добра.

– Куля, куля! Асколак, во хто калечыць...

– Асколак, яно канешне.

– На чвэрць разварочвае. Ды яшчэ дактары на дзве чвэрці распаласуюць.

– Ага. Рассячэнне гэта называецца. Я ведаю. Ужо чацвёрты раз трапляе.

– Ну. Во тады паякочаш. На квартал, не меней.

А аднекуль, са змроку, між людской гаманы

прабіваецца ціхі, раздумны голас чалавека, у якога, відаць, набалела на душы, ные і патрабуе падзяліцца. Але не з усімі наўкола, а, пэўна, з адным, тым, хто зразумее і не абсмяе, не пакпіць.

– Панімаеш, прыйшоў... А яна ля мяне ўвіваецца... Кажу, як жывеш, Глафіра?.. Так спакойна, але гляджу, мяльцешыцца ў вачах. А знаеш, людзі мне ўжо што-колечы шапнулі... Сцерва, кажу, каму ізмяняеш? Савецкаму байцу ізмяняеш... Панятнае дзела, рамень ён хоць і брызентавы, ды каляны... Ну, завязаў вешчмяшок і – на станцыю... Капітан кажа: «Ты што, Сакольнікаў, дасрочна?» Дасрочна, кажу, жалаю хутчэй врагоў біць... «Маладзец, – кажа, – патрыёт. Бярыце прыклад з радавога Сакольнікава».

Накінуўшы на сябе паўшубак, цераз людскія ногі да нас пералазіць Каця.

– Ану, пасунься...

– Калі ласка, сястра, – кажа Юрка і паслужліва адсоўваецца, даючы ёй месца ля сцяны. Каця моўчкі садзіцца, захінуўшы калені палой паўшубка.

На ложку з п’яным задавальненнем на твары асклабліваецца сяржант.

– Ганс, ком!

Немец з выдрэсіраванай гатоўнасцю ўскоквае з падлогі.

– Ты за каго? Ану, скажы! Каб усе чулі.

Палонны стараецца зразумець, але гэта яму не ўдаецца, і ён пакутліва лыпае вачыма. Сяржант растлумачвае:

– Ну, хто ты? Буржуй? Рабочы? Фашыст?

– Іх бін дойч лерэр! – урэшце здагадаўшыся, аб’яўляе немец.

Але байцы наўрад ці разумеюць яго і няўцямна глядзяць з куткоў, з лаўкі, з падлогі. Яны пакуль што адваявалі

сваё і цяпер добрыя. У вачах задаволенасць і спакой. І хоць бялеюць у змроку забінтаваныя рукі, ногі, галовы, але тое ўспрымаецца цяпер не як бяда, а амаль як удача, бо галоўнае – жывыя. І калі ўсё ж баліць дзе, дык хіба ў тым віна гэтага вось ціхманага, услужлівага і нават палахлівага немца, які здаўся ў палон? Немец, відаць, гэта адчувае і спакойна глядзіць, як з кутка да яго падступае нізенькі, рабатвары, у абмотках пехацінец. Пад накінутым шынялём у яго тоўста забінтаванае плячо. Гэта, здаецца, той, што непакоіўся, а ці налілі немцу выпіць.

– Слухай, фрыц! А ў цябе дзеці ці ёсцека? – пытаецца ён.

Немец няўцямна пазірае на яго.

– Ну, дзеці, панімаеш? Малыя, во такія?

– Кіндэр? – здагадваецца немец і паспешліва адказвае: – Цвай кіндэр. Дава дзіеці...

– І ў мяне двое дзяцей! – нібы здзіўляецца пехацінец, і ягоны рабаваты твар ззяе прастадушным задавальненнем.

І тады з-пад шынялёў з кута вылазіць вялікая цёмная постаць. Не разбіраючыся, што пад нагамі, на кагось наступіўшы і хіснуўшыся, гэты чалавек кідаецца да немца.

– Брэшаш, гад! Свалата ты! Ух, я цябе!..

Вялізны і нязграбны, у прамазучанай целагрэйцы, ён дрыготкімі рукамі выдзірае з кірзавай кабуры наган і шчоўкае, узводзячы курок.

Немец адступае на крок, рукі яго інстынктыўна ўскідваюцца насустрач танкісту.

– Стой! – крычыць з ложка сяржант.

– Ты што?! – крычу я, нязграбна ўстаючы з-пад сцяны.

Нехта яшчэ крычыць. Побач хутчэй за мяне ўскоквае на

ногі Юрка. Адною рукой ён хапае танкіста за локаць.

– Спакойна! Спакойна!

Сяржант, саскочыўшы з ложка, засланяе немца.

– Ану, схавай пушку! – уладарна загадвае ён. – Ваяка!..

– Навошта ж дзяцей гэта самае... сіраціць? – збянтэжана пытаецца васпаваты баец.

І тады вялікі ўзрываецца:

– Ах, дзяцей! Такую вашу матары! Ягоных дзяцей шкада! А маіх хто шкадаваць будзе?

Ён бухае кулаком у свае грудзі. На буйным касцістым твары яго лютасць, вусны дрыжаць, вочы закаціліся пад лоб і не абяцаюць дабра. Але ўсё ж хлопцы не дадуць тут яму ўчыніць забойства. За сяржантам, прыкметна апанураны, стаіць немец.

– Што ты ўсхапіўся, як Гітлер? – кажа да байца сяржант і кладзе руку на яго плячо. – Ты ж рускі. Рускі, так? Ну, дык чаго ж ты, як бандзюга, пушку настаўляеш? Ён жа палонны...

У хаце робіцца ціха. Чуваць, як у куце стогне абпалены лётчык. Ягоны вялізны сусед яшчэ раз надзяляе немца ненавісным позіркам і неахвотна вяртаецца да таварыша. Здаецца, канфлікт ліквідаваны. Сяржант, перш чым узлезці на ложак, лёгенька штурхае немца.

– Не дрэйф, Гансік. Давай, траві далей...

Немец нерашуча яшчэ ступае на вальнейшае месца.

– Іх бін кайн нацы. Іх бін лянд лерэр[3], – даводзіць ён пацішэлым голасам.

Я апускаюся ля сцяны, побач садзіцца Юрка. Каця, хутаючыся ў паўшубак, кажа:

– Не веру я яму.

– Ну, чаму? – не згаджаецца Юрка. – Бываюць і сярод іх людзі. Калі рабочыя. Ці настаўнікі.

– Гад ён, а не настаўнік.

– Чаму так?

– Так.

– Гэ! А гэта што такое? – здзіўляецца сяржант. У ягоных руках каўпачок ад Юркавай фляжкі, у які ён наліваў суседу па ложку. Каўпачок стаіць некрануты.

– Эй, землячок! Ты што – махлюеш?

Ён ашчадна штурхае параненага ў плячо, які яшчэ нядаўна трудна стагнаў, а цяпер і не кратаецца.

– Эй! – сяржант устрывожана прыглядаецца да яго твару. – Вось табе і на! Ён жа «ўжо»!..

Да ложка падыходзяць санітары, устае ад сцяны Каця. Яны доўга мацаюць у байца пульс, ды, здаецца, той сапраўды «ўжо».

– Фу ты, халера! – не стрымлівае прыкрасці сяржант. – І сто грамаў не дапіў, дзівак...

Санітары ў маўклівай зацятасці нязграбна, за полы шыняля, сцягваюць з ложка труп і, напусціўшы сцюжы, выносяць яго з хаты. Ім памагае немец, які потым, не ведаючы, дзе сябе дзець, ціснецца да парога. Але яго адразу прыкмячае сяржант.

– Ганс, ком сюды! Месца ёсць. Ну, але плакаць не будзем. За здароўе землячка! – кажа ён і спрытна куляе каўпачок. Немец пачціва сядае на ложку.

– На здрове!

Сяржант кракае ад задавальнення і ляпае немца па плячы.

– Правільна, Ганс. Але дзе ты гэтак па-руску навастрыўся?

– Русішэ шпрэхен? О, біль фаль, – сціпла адказвае немец.

Фаль! Быццам знаёмае слова, але я ўжо не памятаю, што яно азначае, у галаве маёй усё стомлена і п’яна блытаецца, і я гукаю сябра:

- Юрка! А, Юрка!

Юрка, прысланіўшыся да сцяны, маўчыць. Я зазіраю ў яго заценены твар: вось табе і на – ён жа заснуў!

**14**

Юрка зняможана спіць побач, звесіўшы на грудзі светлую галаву. Здаровай рукой ён засцярожліва ахінае параненую і ціха пасопвае ў нос – па-хатняму мірна і соладка. На ложку словамі і жэстамі спрабуе нечага дабіцца ад немца сяржант. Навокал угамоньваюцца, ладзячыся на ноч, параненыя. Гамана ў хаце пакрысе заціхае. Густа, не прадыхнуць, смярдзіць шынялямі, потам, бінтамі. У мяне мацней пачынае балець нага. Гарыць, пячэ ў ступні. Заснуць я ўжо не магу і моўчкі гляджу на свайго соннага сябра.

Эх, Юрка, Юрка! Сапраўды гэта здорава, што мы вось гэтак нечакана-негадана сустрэліся сёння. Можа, гэтак жа разам сядзем заўтра ў санітарную машыну і рванём І у тыл – прэч ад танкаў, агню і бясконцых франтавых трывог. І там – ложак, чыстая бялізна, спакой і сон, І сон... Магчыма, нам пашанцуе яшчэ болей і мы трапім у адзін шпіталь. Тады будзе не лячэнне, а рай. У такім разе я гатовы прымірыцца з маёю вымушанай разлукай са ўзводам, у якім так мала ўжо засталося старых стралкоў. Мусіць, праз які месяц усе будуць новыя, незнаёмыя, з папаўненняў. Зноў трэба будзе вучыць ды прывыкаць да кожнага. Ну, але не бяда, прывыкнем – я да іх, яны да мяне. Гэта толькі здаецца так, што новыя горш за старых, проста яны невядомыя. Праўда, сярод іх розныя – і лепшыя і горшыя, як і сярод старых. Хаця гэта пасля. Цяпер вось самае галоўнае – мы разам з маім самым найлепшым сябрам, маім Юркам.

Гэтак жа паўтара года назад, зусім нечакана і яшчэ не ведаючы адзін другога, мы трапілі ў адзін строй у вучылішчы і апынуліся ў адной роце, у адным узводзе і нават у адным аддзяленні. Год мы праспалі на нарах побач, і амаль кожную ноч пад ранак ён нецярпліва штурхаў мяне ў бок за маю недарэчную прывычку храпці. Нам было дужа не соладка там – зусім яшчэ навабранцам, амаль саплякам, учарашнім школьнікам, якіх жорсткі лёс вайны кінуў ад кніжнай навукі ў бязлітасную суровасць вайсковага вучылішча, з яго ўшчыльненай праграмай, бяссоннымі нарадамі, знямогласцю абарончых работ. Заўжды хацелася спаць, есці, адпачыць, а ўзводныя з нашага ж брата, курсантаў папярэдніх выпускаў, якія самі не ведалі тут паблажак, не песцілі імі і нас. Казалі, так было трэба, каб фронт здаўся раем пасля таго гранічнага напружання, да якога нас прызвычаілі ў вучылішчы. Сапраўды, дзесяць гадзін заняткаў у поўнай выкладцы, маршы, вучэнні, земляныя работы ў ваколіцах горада (будаваўся знешні абараняльны рубеж Саратава), ноччу – абавязковыя дзяжурствы на заводах, якія бамбілі немцы. Там яшчэ да фронту мы пазналі вайну, агонь і вострую жалобу па сябрах, расшкуматаных бомбамі, і па тых, хто без рэшты згарэў у вялізных пажарах.

Гэта было вельмі нават нялёгка, асабліва калі ўлічыць журботнае сіроцтва многіх з нас, родныя мясціны якіх былі пад ворагам. А немцы ўсё пёрлі і пёрлі на ўсход, на Сталінград, на Каўказ, стаялі непадалёку ад Масквы. І калі ўсё ж знайшлося такое, што давала нам душэўныя сілы вытрымаць, дык у ім нямала значыла пачуццё таварыства з яго неадмысловым гумарам, добрасцю, шчырасцю. Усё, аказваецца, можна пераажыць, калі ў цябе ёсць сябар, з якім многае дзеліцца напалам. Тады ўсе турботы і скруха меншаюць роўна ўдвая, а радасць – дзіўная справа! – удвая павялічваецца. І які б ён ні быў, твой сябар, калі ў цябе няма лепшага, ён робіцца другою часткай цябе самога, і ты ўжо не можаш уявіць сябе асобна ад яго. Адным з такіх сябрукоў быў для мяне Юрка Стралкоў.

Можа, гэта і непрыемна ўспамінаць цяпер, але нашае

зближэнне пачалося з таго, што мы пасварыліся. Пасварыліся, як дурні, без слушнай на тое прычыны, проста, мабыць, таму, што яшчэ дрэнна ведалі адзін аднаго. На палітзанятках, якія ў нас праводзілі проста ў казарме, на праходзе між ыараў, палітрук Шаяхметаў пытаўся пра задачы, пастаўленыя ў першамайскім загадзе Вярхоўнага, і я не мог іх пералічыць правільна. Не тое каб я не ведаў гэтыя задачы, але палітрук быў фармаліст і патрабаваў адказаць слова ў слова, як гэта было запісана ў загадзе. Я ж вучыць іх на памяць не меў часу.

Калі была апытана палавіна ўзвода, аказалася, што толькі курсант Стралкоў мог адказаць больш-менш правільна. Вось тады палітрук і прымацаваў Стралкова да траіх адставак па палітграмаце. Але калі Юрка падышоў да нас пасля заняткаў, мы яго не паслухаліся, болей таго, мы з ім пасварыліся (падумаеш, знайшоўся без пяці мінут нампалітрука!). Мы самі не горш за яго маглі вывучыць тыя чатыры або пяць пунктаў. Толькі мы не вучылі.

Стралкоў, вядома, пакрыўдзіўся, бразнуў дзвярыма і пайшоў – думалі, дакладваць начальству, аднак ён не далажыў. Апошняя акалічнасць трохі парушыла нашу непрыязнь да Стралкова, і, каб не падвесці яго (ды і сябе таксама), да наступных заняткаў мы ўсё вызубрылі.

Зімой у вучылішчы стала холадна, у нятопленых вялізных казармах вельмі даймала сцюжа. Напорысты заволжскі вецер на шматгадзінных палявых занятках наскрозь прадзьмуваў нашыя пацёртыя шынялькі. Мы дужа калелі і таму яшчэ болей хацелі есці. Пра яду мы думалі заўжды: на занятках, у нарадзе, на вячэрняй паверцы і нават прачынаючыся ў казарме ноччу. Ля сталоўкі і каля прадсклада заўжды таўкліся курсанты – хворыя, вызваленыя ад заняткаў, тыя, у каго парваўся абутак і не было ў чым ісці ў поле. Усе з галоднай тугой у вачах чакалі шчаслівага выпадку раздабыць што з’есці.

Аднойчы мы з Юркам былі ў каравуле і прастаялі ноч

на двухзменным пасту, які на дзень звычайна знімаўся. Гэты пост даваў нам права адляжацца ў каравулцы на нарах (калі толькі не было да нас ніякай патрэбы ў грознага бога роты – старшыны Шкварыь). Зрэшты, у той дзень першы зранку заваліўся спаць я, бо ўжо адстаяў сваё на пасту, і хроп амаль да снядання. Юрка ж, змяніўшыся пазней, пабег да сталоўкі на здабычу харчу, і там яму надарыўся проста неверагодны па тым часе выпадак.

Узрушаны, ён куляй уляцеў у каравульнае памяшканне і, ледзьве расштурхаўшы мяне, яшчэ адурэлага ад сну, павалок да прадсклада. Аказваецца, там нас чакала крытая аўтамашына, у якой вазілі з горада хлеб і да якой Юрка толькі што занарадзіўся грузчыкам. Загадчык склада, маўклівы пажылы дзядзька ў ватоўцы, нецярпліва чакаў Юрку, хоць побач, наперабой прапаноўваючы свае паслугі, стаяла чалавек шэсць курсантаў. І ўсё ж Юрка, рызыкуючы застацца ні з чым, пабег па мяне, і мы, ледзьве здыхваючыся ад стомы, урэшце залезлі ў жалезны кузаў машыны. Загадчык сеў у кабіну.

Мы ехалі, мяркуючы праз гадзіну вярнуцца, наеўшыся свежага хлеба, і (калі пашанцуе), можа, яшчэ і прыхапіць якую буханачку-другую на заўтра. Дзеля хлеба мы свядома ахвяравалі сняданнем – двухсотграмоваю пайкаю, міскай супу і чаем, – нам даражэй быў хлеб.

Праўда, загадчык склада неўзабаве расчараваў нас. Аказалася, што перш чым ехаць па хлеб, трэба прывезці мяса. Гэта было ўсё ж не тое, што хлеб, але што зробіш – калі ўлезлі ў кузаў, дык мусілі слухацца. З гадзіну мы цягалі на мясакамбінаце баранія тушы ў машыну і наклалі іх столькі, што ледзьве ўлезлі самі. На першы погляд гэта было вельмі заманліва – цэлая гара бараніны, толькі, вядома, карысці з яе мы не мелі ніякай.

Галодныя, мы згрузілі тушы на вучылішчным складзе і, не паснедаўшы (бо спазніліся), на той жа машыне зноў выправіліся ў горад. Але і ў гэты раз хлебазавод

застаўся ўбаку, мы прыехалі на базу, дзе нам была падрыхтавана яшчэ горшая нечаканка ў выглядзе цэлага штабеля мяхоў з мукой. Гэта было жахліва. Мабыць, кожны з нас упаасобку важыў меней, чым кожны з гэтых стандартных шасцідзесяцікілаграмовых мяхоў, якім мы проста не маглі даць рады. У нас занадта было мала сілы, каб падняць мех на вагі і з вагаў вынесці ў двор на машыну. Але што мы маглі зрабіць, калі напрасіліся ў грузчыкі? Праўда, памог загадчык склада, і пакуль мы мураўіным спосабам перавалаклі ўсю муку ў машыну, дык выйшла, што сілы ў нас засталося толькі на тое, каб самім залезці ў кузаў. А наперадзе чакала яшчэ і разгрузка. Да таго ж мы празявалі і абед і спазніліся ў каравульнае памяшканне. У перспектыве была гаўптвахта, а можа, і яшчэ горшае.

Але трэці рэйс быў сапраўды па хлеб, і мы рызыкнулі – усё роўна ўжо ўліплі. Што ўжо бедаваць па якой гадзіне самавольнай адлучкі, калі мы адлучыліся з казармы ўвогуле не меней чым на восем гадзін.

Хлебазавод сустрэў нас такой канцэнтрацыяй хлебнага паху, што мы гатовы былі забыць пра ўсе нашыя беды і наогул не вяртацца ў той дзень у вучылішча. Паджарыстымі, духмянымі да п’янасці боханамі былі выкладзены дзесяткі ячэістых сцелажоў з вузенькімі праходамі паміж імі. Цэлымі сцелажамі ўзважвалі і аддавалі на пагрузку ў машыны. Мы былі болей чым галодныя, здавалася, маглі з’есці па дзесяць буханак кожны, але з’есці нават кавалка тут было нельга. Мы думалі: хай! Пад’ямо пасля.

Гэтае «пасля» выдарылася толькі тады, калі ў закрытай машыне мы трэсліся побач з цёплаю грудай буханак і глыталі, мабыць, не жуючы, мяккія распараныя скарынкі. Толькі ці многа можна было іх праглынуць за якіх пятнаццаць хвілін дарогі па калдобінах зімовай вуліцы? Пасля мы разгружалі, – сумленна, да апошняй буханкі. Дарэчы, кантроль на нашу працу быў усюды болей чым строгі. Але мы спадзяваліся недарма.

Загадчык склада памучыў нас добра, але і няблага аддзячыў. На разлік мы атрымалі тры яшчэ цёплыя

боханы і пусціліся ў свае казармы. Спяшацца, зрэшты, не мела вялікага сэнсу, бо на паверку мы даўно ўжо спазніліся, у гарадку ўсё сціхла, толькі па дарожках каля казармаў хадзілі патрулі. Яны і затрымалі двух вельмі падобных на зладзеяў або дыверсантаў парушальнікаў вайсковага распарадку.

Сутычка з імі была не дужа прыемная, але затое нядоўгая. Каб не трапіць да дзяжурнага па вучылішчы і не страціць усё, давялося ахвяраваць адною буханкай. Другую мы прадбачліва прыхавалі ў снезе каля плота, а з апошняю пад палой у Юркі, ледзьве пераборваючы страх, адчынілі дзверы казармы.

Аднак нам да канца не шанцавала ў той дзень, і мы канчаткова зразумелі гэта, як толькі пераступілі парог і ўбачылі на праходзе між нараў нашага старшыну Шквару. Двое нарадчыкаў пачыналі мыццё падлогі, а старшына, па-напалеонаўску скрыжаваўшы на грудзях рукі, сцюдзёным позіркам усёбачачых вачэй глядзеў на нас. «Дзе былі? Адказвайце! Маўчаць, калі размаўляеце са старшыной! Я ў вас пытаюся, дзе былі? Маўчаць! На губу захацелі?..» І раптам старшына змяніўся: «Ану, ану, што гэта ў вас? Ану?..»

Так беззваротна загінула наша другая сумленна заробленая буханачка, замест якой старшына тут жа надзяліў нас чатырма нарадамі (мала нам у той дзень было яшчэ працы!). Зняўшы шынялі і амаль глытаючы слёзы, мы ўзяліся шараваць падлогу.

Мы праклілалі тады старшыну, ледзяную ваду, якую трэба было цягаць у вёдрах ад самай сталоўкі, праклілалі загадчыка склада, лкі давёў нас да такіх пакут, і ўсё на свеце. Адзіным нашым суцяшэннем была тая апошняя буханачка, якая да пары чакала нас пад плотам.

Але тую буханачку, тую апошнюю надзею галодных, раней за нас адшукалі сабакі.

Калі мы, ужо далёка за поўнач справіўшыся з падлогай, убачылі ля плота здратаваны сабачымі лапамі снег з

чырвонымі, як кроў, крошкамі хлеба, то на хвіліну знямелі. Я гатовы быў ашалець. Юрка, мабыць, першы раз у жыцці, вылаяўся і без сіл апусціўся на снег. Я хацеў некага забіць. Мы ледзьве дабрылі да нараў...

Праўда, назаўтра, паснедаўшы, ужо з меншай тугой паглядзелі адзін аднаму ў вочы, і ў гэтых позірках значылася: «Якія ж мы дурні!» А яшчэ праз тыдзень расказалі хлопцам пра наш злашчасны заробак. І хлопцы надрывалі жываты ад смеху. Ды і мы таксама.

...У хаце густы, не прадыхнуць, смурод. Нехта мармыча ў сне, нехта стогне. У двух месцах нават храпуць. На прыпечку дагарае наша апошняя «кацюша». Немец на ложку таксама заціх і, наваліўшыся на калені, спіць. На сцяне за ім змрочна цямнее яго касы і шырокі цень. Дрэмле ля парога санітар. Адзін толькі сяржант варушыцца нешта, зручней уладкоўваючы нагу, ды захінаецца ў дэсантную куртку. Пасля ён збіраецца закурыць і піхае цыгарэту ў свой мефістофельскі мундштук.

Я папраўляю на падлозе маю небараку-нагу. Сяржант паднімае галаў.

– Баліць?

– Ды баліць, халера...

– Мая таксама баліць. Удзень яшчэ цярпіма, а ўночы пячэ, як крапівой.

– Мусіць, ноччу ўсе раны болей баляць.

– Ну, а ты думаў!.. – згаджаецца сяржант і кажа: – Слухай, младшой, а твой немец быццам нішто.

– Хто яго ведае. Можа, і нішто.

– Панімаеш, – сяржант засяроджана прыкурвае ад запальнічкі. – Панімаеш, я было хацеў яго шпокнуць. Спачатку. Злы я на іх. Ёсць такая прычына. Ды гляджу – нейкі ён дужа ўжо не такі, гэты фрыц. Настаўнік. Двое дзяцей... Каб хоць буржуй які... Ці эсэс...

Я маўчу. Я разумею ягоную прычыну і яго злосць да немцаў. Толькі я думаю: дужа ўжо спрытныя ў нас сталі на суд і расправу. Ні табе начальства, ні трыбунала: захацеў і – шпокну! Якая самаўпэўненасць! А можа, ён трэба там, дзе-небудзь у штабе. Зрэшты, мабыць, вінаваты і я – палонных трэба даводзіць да месца, а не таўчыся з імі па санітарных часцях, дзе скрозь параненыя, знерваваныя, злыя. Ну, але гэта ўжо іншая справа.

– Панімаеш, трэці раз не шэнціць, – выдыхаючы дым, сцішана кажа сяржант. – Усё не магу. Ці, можа, цюхцяй такі стаў?.. Першы дужа паранены трапіўся, устаць не мог. Узяў ягоную вінтоўку, думаю, зараз я цябе даканаю. Загнаў патрон у патроннік, а ён гэтак паглядзеў на мяне і кажа: «Данке, рус! Найн Сібір!» Ах ты, думаю, гад, Сібіру баішся... Тады жыві. Паспытай Сібіру. Не стаў страляць. Другога пад Залачовам сцапаў. У разведцы. Хацеў пырнуць фінкай, ды не змог – малады такі, пацан пацаном. Як наш Макоўчык. Быў такі ў роце. Худзенькі, тонкі і кашляе. Ну і адвёў у штаб. Чорт з ім, думаю. Трапіцца ж мне ўрэшце эсэс, тады сквітаюся.

Сяржант, крэкчучы, ямчэй прыладжваецца на ложку і хвіліну прыслухоўваецца да грукату нейкай спозненай машыны за акном.

– Заўтра эвакуіруюць... На якіх месяцы два цяпер адпачынак... Перавязкі. Сястра – вутку! Паскудства адно. Не люблю! – адразае ён і зацягваецца з свайго трафейнага муштука. Пасля хмурыцца. – А Макоўчыка праз тыдзень асколкам у пазваночнік... Эх! Разразі цябе ў тысячу трах-тарарах!..

Ён адмыслова лаецца пяціпавярховым матам і злосна плюе ў парог. Побач узнімае галаву Каця, і я здзіўляюся: выходзіць, яна таксама не спіць – панылая сядзіць, насцярожана скурчыўшыся, нібы адасобіўшыся ад усяго ў гэтай хаце. У яе вачах поўна слёз. Я аж палохаюся.

– Вы што?

Яна нават і не паварочвае галавы.

– А табе што за дзела?

– Ну, я так. Думаў...

– Адстань.

Можна і адстаць, калі няма ахвоты адказаць. Сапраўды, чаго мне набівацца са спачуваннем, хіба ў мяне мала свайго клопату і свайго болю? Да таго ж адольвае стома, і мяне таксама пачынае браць сон. Да ранку, напэўна, яшчэ далёка...

**15**

Чым бліжэй да вакзала, тым усё больш людзей. На стаянцы таксі – вялізная чарга, якой спрытна распараджаецца дзяжурны з чырвонай павязкай. Спазнелыя пасажыры бягуць на прыгарадны поезд. З флегматычнай самотай бавячы час, па тратуары праходзіць каменданцкі патруль – двое салдат і маёр. У пятліцах – тэхнічныя эмблемы. Маёру на выгляд пад сорак пяць. Аднак, састарэлі цяпер у арміі, не тое што ў вайну... Некалі ў нас у палку самы стары афіцэр – начальнік артузбраення – меў трыццаць восем. Камандзір палка – трыццаць два. Батальёнамі камандавалі дваццаці-дваццацівасьмігадовыя хлопцы. Зрэшты, нам, узводным, яны ў той час здаваліся амаль старымі.

Вакзальны вестыбюль гудзе ад народу. Гамана, мітусня і штурханіна. Аднак, здаецца, і плач. Сапраўды, ля дзвярэй на пероне плача жанчына, толькі нічога не відаць – цікаўны натоўп абступае яе суцэльнай сцяной. Відаць, нешта здарылася.

Уступаючы сваёй цікаўнасці, я ўзнімаюся па прыступках на другі паверх і спыняюся ля парэнчаў. Адсюль ужо можна нешта ўбачыць. Сцэна здаецца не зусім звычайнай, прынамсі, для нашага часу. На шыі ў збянтэжанага мужчыны з амаль ужо сівой галавой вісне жанчына. Касынка яе збілася на плечы. Валасы

раскудлаціліся. Яна наўзрыд плача і прыгаворвае нешта незразумелае. Развітваецца, ці што? Але куды гэта ён выпраўляецца? Мужчына з пакутніцкім тварам стрымана суцяшае яе, гладзіць па плячы адною рукой. Ля ног яго стаіць чырвоны чамадан. Але там ёсць і блізкія ім людзі. Два даволі дарослыя хлопцы – у стракатай тэнісцы і ў вельветавай куртцы – спрабуюць суцешыць жанчыну.

– Мама, ну хопіць!

– Ну, што ты? Людзі глядзяць. Канчай!

– Ай, няхай глядзяць! – закідае голаў жанчына. На яе счырванелым, залітым слязьмі твары – нястрыманая роспач няшчасця. – Няхай глядзяць на маё горачка! Родненькі ты мой Колечка, навошта ж я цябе спазнала! – лямантуе яна ўжо зусім па-бабску і зноў прыпадае да грудзей збянтэжанага чалавека.

Незвычайнае і дзіўнае нейкае развітанне... Нібы ў сорак першым. Я недаўменна паціху сходжу па прыступках. У вестыбюлі з’яўляецца дзяжурны па вакзалу.

– Граждане пасажыры! Прашу разысціся! Прашу разысціся, не нарушаць правіл. Граждане пасажыры!..

Але пасажыры яго не слухаюць – усіх захапіў гэты балючы крык чалавечай душы. Толькі ніхто яшчэ нічога не ведае, і кожны імкнецца зазірнуць у сярэдзіну натоўпу.

Аднак праз хвіліну плач прыціхае, і жанчына з сівагаловым чалавекам кіруюцца да выхаду. За імі, несучы адзін чамадан, ідуць двое хлопцаў. Натоўп неахвотна расступаецца. Жанчына горнецца да чалавека і ўсё яшчэ хліпае.

З натоўпу вылазіць цётка з кошыкам, ставіць кошык на падлогу і пачынае перавязваць на галаве квяцістую хустку. Яе абступае вакзальны люд. Усім карціць дазнацца пра сэнс незвычайнай сустрэчы.

– Ай, бабачкі, гэтую ж кабеціну ейны муж адшукаў! З

вайны пагублялі адно аднаго. Цяперака гэта ён прыехаў. Але ж з ім новая жонка. Вунь, у зялёнай кофце, – сцішыўшы голас, гаворыць яна, азіраючыся на выхад.

Яшчэ мала што разумеючы, усе ўраз паварочваюць твары на сярэдзіну. Сапраўды, прысланіўшыся плячом да мармуровай калоны, стаіць, сцяўшы бровы, жанчына. Ні на каго не зважаючы, яна, нібы ў трансе, глядзіць на падлогу. Пасля, нібы раптам штось зразумеўшы, павяртаецца і рашуча выходзіць у другія дзверы. На перон.

– Ой, бабачкі! Як жа гэта? – пытаецца нейкая кабета, мабыць, першая адчуўшы ўвесь драматызм гэтай недарэчнай сітуацыі.

Аднак усё зразумела. Я болей не хачу на гэта глядзець. Гэта дзіка і страшна. Гэта б’е ў самае сэрца. Ці не хопіць, праклятая вар’ятка вайна! Ці не мала табе таго, што ты нарабіла на зямлі дваццаць гадоў назад? Навошта ты яшчэ і цяпер джаліш людзей сваім зазубленым джалам?

Але я ведаю: яе шальмоўскім звычкам няма межаў. Пакутуюць маці, што пагублялі дзяцей. Гадамі баляць у калек адарваныя ногі. Тояцца ў зямлі, чакаюць сваіх ахвяр міны. Спознена адкрываюцца людзям нечуваныя злачынствы вылюдкаў. На рахунку гісторыі ўсё большае бязвінных неадпомшчаных ахвяр. Дзе віноўнікі?

Вядома, адны ў зямлі. Другіх судзілі і прах развеялі ветрам. Трэція мараць пачаць усё спачатку. Але ёсць і чацвёртыя, якія вельмі здзівяцца, калі іх абвінавацяць у некаторых, даўніх ужо, справах.

Трымаючыся за падрапаныя парэнчы, я паднімаюся на другі паверх. Здаецца, у дадатак да ўсяго, з кожным годам горшае сэрца. Задышка прымушае спыняцца і хапаць ротам паветра. Вось табе і малады чалавек! Зрэшты, я ведаю: гэта, лечачы лёгкія, я пасадзіў сэрца. Пракляты трышкаў каптан!.. Дранае ашмоцце, а не здароўе!

Я раздражнёны і злы. Бываюць такія хвіліны. Ля буфета ў зале транзітных пасажыраў – чарга. Доўгі шэраг людзей уздоўж прылаўка аж да самых дзвярэй. Хацелася б выпіць кавы. І што-колечы з’есці. Толькі прыйдзецца доўга стаяць. Але куды мне спяшацца!

– Хто апошні?

– Я.

Кароткі, нібы бляск, позірк. Прыгожанькі юны тварык пад бронзавым стажком валасоў. Імгненна ўспыхвае і згасае цікаўнасць у шырокіх вачах. Вядома, чым тут цікавіцца? Худы, з залысінамі на лбе дзядзька. Да таго ж – кульгавы... Але, чорт вазьмі, я хацеў бы нечым ёй спадабацца. Ну, хоць трошачкі. Толькі навошта? Ды я і разумею, што гэта немагчыма. І дзіўлюся з свайго жадання.

Не, мусіць, трэба забыцца. Маё адышло. Адгрымела. Побач, выглядваючы кагосыдзі ў чарзе, ходзяць дваццацігадовыя хлопчыкі. Нічога не скажаш – ладныя, прыгожыя хлопчыкі. Спартыўная пастава. Свежыя каўнерыкі адпрасаваных белых кашуль. Якія дурні некалі наламалі столькі дроў з-за вузкіх штаноў! Гэта ж прыгожа. А для моладзі, мусіць, гэта галоўнае. Прынамсі, у дваццаць год. У нас, праўда, усё было інакш. Мы насілі няўклюдныя шаравары хабэ. І кірзачы. Яны не спрыялі каханню. Праўда, і не ў стане былі яго супыніць. Памятаю, калі мы з ёй дзе садзіліся побач, ногі ў нас былі аднолькавыя, не адрозніць. Хіба што яе боты – меншыя памерам. І такія ж аднолькавыя шынялькі. Жорсткія, цяжкія ў макрэдзь ды цяпло і сцюдзёныя ў сцюжу. І тварык яе быў зусім мала дагледжаны. Аднойчы мы ляжалі пад абстрэлам у разоры, і выбухам яе ўсю заляпіла гразёй. Трапіла ў твар і ў вочы. Яна абмывалася слязьмі і нічога не бачыла. І трэба было бегчы. Тады я ўхапіў яе за руку. Байцы ў ланцугу дзівіліся: чаго яны бягуць, пабраўшыся за рукі? Нібы на гулянцы.

Тая пагулянка пад міннымі выбухамі зрабіла сваю справу. Да і без таго немалых турбот прыбавілася

новая. Я пільнаваў яе, дзе толькі мог. Пры кожным выпадку мерыўся збегаць у батальённы тыл. Меў некалькі непрыемнасцей з ротным. Я збіраўся ёй нешта сказаць. Самае важнае і самае першае маё слова. Толькі я прыпазніўся. Кастлявая мяне апярэдзіла. У вялікім прыдняпроўскім сяле над Паплавамі застаўся жвіровы курганок, які адабраў яе ў жывых. Усё астатняе, што здаралася ў мяне потым, было не тое і не такое. Ды і сам я стаў не такі.

Аднак чарга чамусь разыходзіцца. Скончыліся піражкі. Міла хмыкнуўшы, пайшло і маё дзяўчо. Тыя, што засталіся ў чарзе, пасоўваюцца, і я апынаюся ля самага прылаўка. Кава яшчэ ёсць. І то няблага. Пасля той гарэлкі даймае смага. І тут я бачу яго.

Нейкі час, нібы змярцвеўшы, моўчкі гляджу на яго. Ён адыходзіць ад чаргі і спыняецца. Пасля зноў вяртаецца да стойкі і нешта там разглядвае за шклом. Бразгае драбязой у жмені. Выгляд у яго маўкліва-заклапочаны. Сахно! Далібог, Сахно!

Так, цяпер або ўжо ніколі! Я буду блазнюк, калі яго ўпушчу. Зараз я дам у морду. Галоўнае не прамарудзіць. Біць коратка і ад сябе, усім корпусам на руку. Ён упадзе на падлогу. Або на бар’ер буфета. Будзе скандал. Прыбяжыць міліцыянер. І я скажу, чаму так зрабіў. Няхай тады мяне судзяць.

Я выходжу з чаргі і раблю два крокі наперад. Сэрца маё адразу пачынае галоп. Аднак чакай, сэрца! Патрымайся! Не падводзь!

Але тут нехта падыходзіць да прылаўка і становіцца з ім побач. Я прыкусваю вусны – ён мне перашкаджае. Раптам Сахно паварочваецца і глядзіць проста мне ў твар.

Яго бровы ўздрыгваюць. Пазнаў, гад! Але вочы адразу спакайнеюць. Ён совае ў паліто руку і звонка ссыпае ў кішэнь драбязу.

– Не ўдалося?

– Што?

– А ў гасцініцы.

– Не. Не ўдалося, – кажу я не сваім голасам. І, нібы заварожаны, гляджу ў яго выцвілыя, нерухомыя вочы.

– Пракляцце! Паесці не даб’ешся. Вы вячэралі?

– Не.

– Можа, падыдзем у рэстаран? Тут насупраць.

Я, абмярцвеўшы, стаю. Як дурань. Як ідыёт. Ён, мабыць, і лічыць мяне ідыётам. Але я зноў не ведаю, што рабіць. Я не пазнаю яго. Сахно і не Сахно.

– Ну? Саставіце кампанію?

Ён ідзе між людзей у дзверы, і я збянтэжана іду за ім. Першы, самы спрыяльны момант упушчаны. Цяпер я ўжо не магу наважыцца. Мяне скоўвае сумненне. Хіба патрабаваць у яго дакументы? Або запытаць прозвішча? Аднак гэта не можа цягнуцца доўга. Я не ўтрываю.

Мы выходзім з залы чакання. Ён азіраецца на мяне.

– Бардзель. У нас варта пазваніць, і гасцініца забяспечана. А тут не могуць забраніраваць адно месца. Рэспубліка называецца!

Сволач! Што ты ведаеш пра гэтую рэспубліку? Не дасталося месца ў гасцініцы? Скончыліся піражкі? А пра паўмільённую армію партызан у гэтай рэспубліцы ты чуў? Пра дзевяць тысяч беларускіх арудараў і лідзіцэ ты ведаеш? Пра два з лішкам мільёны бязвінных ахвяр? Пра тое, што і дасюль гэта рэспубліка яшчэ не дасягнула даваеннай колькасці жыхароў?

Я ледзьве стрымліваю нервовую дрыготку ўнутры. А ён распранаецца ў гардэробе. Перад люстэркам старанна расчэсвае рэшткі свае чупрыны. Пасля мы заходзім у залу. Тут таксама бітком. Вольных сталоў няма, і мы ідзём між радоў. Але вось ля акна ўстаюць з-за стала

чацвёра афіцэраў. Мы адразу займаем іх месцы. На абрусе – гара непрыбранага посуду. Ён грэбліва адсоўвае ад сябе талеркі.

Размаўляць са мной у яго, відаць, прапала жаданне. Мусіць, субяседнік я кепскі. Але мне зусім не да размовы. Мяне точыць пытанне: ён ці не ён? У галаве зачынаецца прарэзлівы звон, рукі прыкметна дрыжаць. Ён жа мяне, напэўна, не пазнае. Ну што ж, тым лепей! Я напружваюся, як перад скачком у атаку, і пытаю ва ўпор:

– Вы – Сахно?

– Што? Не, не Сахно.

Не Сахно! Іншай магчымасці дазнацца, хто ён, у мяне няма. Я напружваю розум, каб знайсці, што рабіць далей. А ён закідвае на калена нагу і адхінаецца ў крэсле. Дастае з кішэні газеты. Здаецца, ён вельмі спакойны. Зусім заняты сабой. Ніводная жылка на ягоным твары не здрыганецца. Шархочучы газетай, кідае на мяне позірк.

– А чаму вы пытаецеся? На некага падобны? Ага?

– Падобны.

– Бывае, – выдыхае ён і ажыўляецца: – Я ў Харкаве аднаго інжынера, мусіць, цэлы год блытаў з бухгалтарам упраўлення. Падобныя як дзве кроплі вады.

Чорт! Здаецца, я ўліп! Няўжо сапраўды не ён? А мо прытвараецца? Нешта адчувае і баіцца? Пэўна ж, штоколечы з свайго мінулага ўтаіў.

Аднак не. Паводзіць сябе натуральна і ўпэўнена. Шырока разгортвае «Праўду», «Труд» працягвае мне.

– Пачытайце. Пакуль тут дачакаешся...

І, не дагаварыўшы, засяроджваецца ў чытанні. Я машынальна аглядаю загалоўкі. І не разумею нічога.

Калі не Сахно, дык гэта жахліва. Я ж мог яго пакалечыць. А калі ўсё ж ён? Няўжо я і цяпер застануся ў дурнях. Як дваццаць гадоў назад...

Што ж, пачакаем.

Ён чытае засяроджана і грунтоўна. За наш столік болей ніхто не садзіцца. Афіцыянтка таксама не ідзе. Я няўцямна гляджу на шчыльныя газетныя радкі і не магу заглушыць у сабе амаль роспачнага крыку памяці...

**16**

Сон разрываецца выбухам:

– Тр-р-рах!.. Лоп-лоп-лоп... Шы-ш-ш-ш-ш-ш...

І яшчэ:

– Тр-р-рах! Тр-р-рах!.. Шр-рык!

Што гэта? Дзе гэта? Фу ты, пляснула чымсь мокрым па твары, па спіне: мурашкі ці, можа, пясок... Я ўсхопліваюся і адразу разумею – бяда!

У хаце амаль відна, у вокнах світальны ранак. Мяне абдае хваляю сцюжы, снегавой пацярухай сыпле на галаву, за каршэнь. На падлозе збянтэжаныя твары людзей. Ля ложка, лежачы ніц, ашчаперваe голаў сяржант. Зверху сыплецца перамешаная са снегам тынкоўка.

– Тр-р-рах! – здаецца, пад самым акном грымотна б’е новы выбух.

У акно шугае косма снегу з зямлёй. Дробныя асколкі шкла шротам абдаюць патыліцу. Міжвольна хіснуўшыся ад выбуху, я зусім пазбаўляюся ад санлявае няўцямнасці і палохаюся – дзе Юрка? Але Юрка побач, ён таксама недаўменна лыпае заспанымі вачыма і пытаецца:

– Што такое? Га? Бамбёжка, га?

Не, Юра, не бамбёжка і нават не звычайны агнявы налёт. Гэта іншае. Я баюся яго, гэтага іншага, ад аднае толькі думкі аб ім у мяне халадзее ўсярэдзіне. «Тр-р-рах! Тр-р-рах!» – б’юць два разрывы далей, знадворку. Там нехта ў дзікай лютасці лаецца – чуваць абрыўкі нервовай апантанай гаманы, тупат ног. Нешта там робіцца кепскае. А я з усяе сілы ўслухоўваюся скрозь гэтую мешаніну гукаў, і – прападзі яно пропадам, гэта ўчарашняе маё прадчуванне! – яно не ашуквае. Між выбухаў чуваць, як недзе далёка яшчэ, але досыць выразна і цягуча гудуць танкі.

Ну вось і дачакаліся! Даспаліся, даадпачываліся, даспадзяваліся, так яе растак! Цяпер расхлёбвай!

Мусіць, іншыя таксама ўжо нешта чуюць. Сяржант, за ім Каця і Юрка кідаюцца да ўшчэнт разнесеных выбухамі акон. Ускокваю на адной назе і я, яшчэ нехта шастае да акна. О, там карціна! Самая брыдкая з усіх карцін на вайне – «драп»!

Па вуліцы, па гародах, міма нашай хаціны і воддаль бягуць з сяла людзі. Адзіночкі, групы, шалёна скачуць коні; раскідваючы абланцужанымі скатамі снег, па адной імчаць машыны. Відаць, усе, хто тут быў, рыьшуліся на аколіцу, міма пабітых асколкамі мазанак, сігаючы цераз плятні, падаючы і ўскокваючы. Непадалёк, ля суседняй хаты, на вуліцы дымна палае разнесены выбухам «студэбекер». Побач з перакуленай фурманкай, канаючы, дрыгае нагамі конь. «Тр-р-рах! Тр-р-рах! Пі-і-іў... Ш-у-у-у... Тр-р-рах!» Там і тут б’юць выбухі. Але мы ўжо не зважаем на іх – мы ўпіваемся позіркам у далячынь за сялом. Там па крутаватым схіле са стэпу ўпаўзаюць у ваколіцу танкі.

– Жвік – жвік – жвік! Тр-р-рах!

Выбух кідае нас на падлогу. Хата прыўзнімаецца і асядае. Здаецца, рушыцца столь. Пыльным, сухім смуродам забівае дыханне. Нехта енчыць, хтосьці раз’юшана лаецца і, ускочыўшы, кідаецца да дзвярэй.

– Лажысь! Лажысь, так вашу растак! – крычыць у

пыльным смуродзе Каця.

Яна па-мужчынску лаецца, але цяпер гэта нікога не дзівіць – як жа інакш, калі такое творыцца! Тынкоўка са сцен і столі густа зацярушвае галовы і спіны. Юрка ўзнімае твар, яго не пазнаць – адзін толькі поўны трывогі і збянтэжанасці позірк: што рабіць?

– Сястра! Сястрычка! Ой, ратуй жа!.. Ой! – лямантуе хтосьці ў хаце.

Пыл хутка выдзьмувае ветрам, сапраўднаю снегавой віхурай, бо ўжо ні вокан, ні дзвярэй. Дзверы, прынамсі, расчынены, і на парозе распласталася нерухомая постаць. Гэта наш санітар, што ўчора на тое самае месца кідаў трусоў. Над кутам у столі пралом з дзіркай на вуліцу. У ёй курыцца снег, і пад ім на саломе слепа таўчэцца абвязаны пыльнымі бінтамі лётчык. Каленямі і локцямі ён штурхае-тармосіць суседа.

– Эй, таварыш! Таварыш!

З-пад шыняля тырчаць доўгія ногі ў кірзачах, яны не крануцца. Здаецца, ягоны сусед, які ўчора кідаўся на немца, «ужо». Але папала ў хаце, відаць, не аднаму.

– Сястра! Сястрыца! – енчыць хтосьці ў другім куце (ці не той рабаваты). – Кроў... У другі раз гвазданулі, гады!

– Што ж гэта робіцца, браткі? Трэба ж нешта рабіць!

– Ціха! Ціха! Лажысь! – камандуе Каця і з трэскам разрывае чарговы перавязачны пакет. Яна з распушчанымі валасамі, без шапкі кідаецца па хаце, то ў кут, дзе не ўнімаецца звар’яцелы, невідушчы лётчык.

– Сястра! Сястра! Дзе сястра?

Каця нахіляецца над абвязаным і, безуважная да ягонага суседа, настойліва ўкладвае небараку.

– Ладна, ладна... Усе будзе добра. Ты ляж. Ляжы.

Яе надзіва роўны, спагадлівы цяпер голас на хвіліну

ўціхамірвае байцоў. Абпалены неяк нерашуча прымаўкае. Каця цераз людзей ступае ў другі куток, да перагародкі. Там хтось нема стогне.

Ля печы ўзнімаецца з падлогі апошні наш санітар – маленькі спалоханы пажылы чалавек, і Каця крычыць яму:

– Ты! Бягом да начальства! Ну, жыва! Падводы жыва!

Санітар, прыгнуўшыся, боязна сігае цераз труп напарніка на парозе і знікае ў сенцах. За акном з грукатам шалёна мчыцца падвода. Панадворкамі бягуць людзі. Трашчаць разрозненыя таропкія чэргі.

– Счас, родненькія! Счас! Усё будзе добра. Усё добра, – прыгаворвае Каця.

Я азіраюся на Юрку, ён ляжыць на баку побач і кусае вусны. У вачах майго сябра напружанне трывожнае думкі. Мусіць, у маім позірку ён бачыць запытанне і поціскам рукі хоча супакоіць.

– Ладна. Ладна, чакай.

Чакаць, вядома, не самае лепшае – хутчэй горшае. Якраз чакаць цяпер і нельга. Кожная хвіліна прамаруджання, пэўна, неўзабаве будзе нам каштаваць многа. Але што рабіць? Ось дык трапілі з полымя ў пекла! Называецца, пакімарылі ноч – усё пракімарылі. Спазнелае шкадаванне за ўчарашняе, прыкрасць, боль і страх урываюцца ў мае пачуцці. Хочацца зараз жа нешта перайначыць, некага абвінаваціць. Толькі хто тут вінаваты? Хіба што я. Трэба ж было ўчора гэтак супакоіцца, забыцца ў зацішку, аддацца радасці сустрэчы з Юркам, махнуць на тую сустрэчу ў стэпе! Цяпер вось атрымлівай!.. Паспадзяваўся, называецца, на мудрую дбайнасць іншых...

Скурчыўшыся на саломе, я ўслухоўваюся ў грымотную калатнечу на вуліцы. Побач, таксама ўвесь насцярожаны, – Юрка. Выбухі распласталі нас на падлозе, і мы жывём хваравітым, напружаным слыхам.

На двары тупат ног, зморaны стогн, кароткая гамана. Раптам нада мной чуецца труднае дыханне. Я паварочваюся – у акне потны, устрывожаны твар, і ў вачах ашалелая зацятасць спешкі.

– Эй, славяне, дзе тут сястра?

– А што, падвода? Ага? Давай сюды!

З падлогі ўскоквае сяржант і хапаецца за падаконнік. Але твар там знікае. Кароценькая надзея ўзгараецца ўнутры – авось па нас! Хаця для адной падводы замнога людзей. І тут я ўпершыню за гэты ранак сустракаю забыты ўжо, самотна-цярплівы позірк. Гэта курчыцца пад ложкам мой немец. Як госць на чужой бядзе, забіўся туды і чакае. Чаго толькі чакае?

Кулі або асколкі б’юць па падстрэшшу. Ветрам заносіць саламяную пацяруху са снегам. Мы ўгінаем галовы – халера, відаць, яны ўсё ж даканаюць нас! У сенцах у гэты час тупат. Праз расчыненыя дзверы, пераступіўшы цераз санітара, увальваецца баец у целагрэйцы. За ім другі з вінтоўкай за спіной – яны ўвалакваюць некага ў шынялі і апускаюць ля печы.

– Сястра! Дзе сястра! Во паглядзі хутчэй...

Каця таропка завязвае канцы бінта на нечай голай, скрываўленай спіне і цераз людскія целы лезе ў парог.

– А што вы мне яго прынеслі? – праз хвіліну крычыць дзяўчына. – Я не пахавальная каманда! Ану, выносьце назад!

Я пазіраю на збялела-жаўтлявы твар чалавека, і мне здаецца, што гэта ўчарашні прыдзіра-капітан, які правяраў нашы дакументы. Вось табе і на: не памагла і пільнасць! Каця, аднак, не пазнае яго, а мяне ён чамусьці здзіўляе і бянтэжыць. Я заўжды не магу паверыць у гібель людзей строгіх і ўедлівых наконт вайсковае службы. Толькі, мабыць, я памыляюся. Гэта не ён.

На потным твары байца – здзіўленне, амаль што спалох.

– Як гэта назад? – ціха пытаецца ён.

– А так. Не ведаеце як? – кідае яна і падаецца ў кут да амаль звар’яцелага лётчыка.

– Ляж! Ляж! Ну што ты – ляж! – угаворвае яго Каця, бо ратаваць яго суседа позна, таксама як і таго капітана.

Баец збянтэжана стаіць ля печы. Мне вельмі добра відаць тое страхавітае здзіўленне, што адбіваецца на яго схуднелым, зашчаціненым твары. Хвіліну ён недаўменна пазірае на труп у доле і ўрэшце паднімае рукавіцу, каб абцерці пот. І тут:

– Тр-р-рах!

Гэта блізка, але не так, як у папярэднія разы. На Юркаў шынель адлятае адшчэпленая ад падаконніка гнілаватая трэска, а баец з рукавіцай, ацярушваючы спіной пабелку, хуценька спаўзае долу. Я яшчэ не спраўляюся даўмецца, што адбылося, як ён абмякла валіцца на бок і глуха дзёўбаецца галавой аб падлогу. На ашчэраных ягоных зубах пузырыцца пена. Яго напарнік кідаецца ў сенцы.

На падлозе лаецца сяржант:

– Дзе той санітар? Дзе начальства? Праз хвіліну паўграбляе ўсіх!..

Хапаючыся за ложак, ён няўклюдна ўстае і, выстаўляючы наперад прамую, як бервяно, нагу, ступае да мяне.

– Дай аўтамат! Я ім, у бога душу, навяду парадак!..

Гэта так упэўнена і катэгарычна, што я адразу, не падумаўшы, аддаю яму свой ППС. Сяржант таропка скача да дзвярэй. Каця крычыць з кута:

– Падводы! Падводы давай сюды! Чуеш?

– Не глухі! – далятае ўжо з сянец.

Мы зноў чакаем, прыпаўшы да закіданай друзам падлогі. У сяле бой. На ўсю грымяць танкі, гахаюць іх гарматы, імпэтна залiваюцца кулямёты. Аднак штось там застопарылася – усё ж, відаць, апомніліся «славяне», упёрліся і пакуль што трымаюцца на той ускраіне. Толькі ці надоўга?

Юрка, мусіць, непакоіцца аб тым жа і, прыўстаўшы, пачынае выглядаць з-за касяка. Я гляджу на яго знізу, але на твары сябра ні кропелькі палёгкі. Здаецца, у гэты раз бяда ўзвалілася на нас як мае быць.

Неўзабаве Юрка апускаецца на дол.

– Ты ісці не можаш?

Я варушу параненай ступнёй. Баліць, халера! Як тут ісці? Юрка без слоў разумее.

– Так. Значыць, так. Я... Трэба туды, – ён ківае галавой за акно. – Там зусім мала. Панімаеш?

Я разумею. Вядома ж, трэба біцца. Аказваецца, вайна для нас учора не скончылася, перадыху не будзе (дурныя наіўныя мары). Барацьба прадаўжаецца, і трэба ісці ў бой. Лацно здаровым – вунь колькі іх дало волю нагам! Нам жа выбар невялікі – палон або смерць. Ну што ж!.. Толькі вось рана...

Юрка тым часам ссоўвае наперад кірзавую кабуру, левай рукой дастае ТТ. Магазін у яго няпоўны. Адной рукой ён няспрытна шарыць у кішэнях, дастае некалькі патронаў, нязручна запіхвае іх у магазін. Я таксама выграбаю з сваёй кішэні, што ёсць там з боезапасу. Набіраецца жменя аўтаматных патронаў, і я аддаю Юрку. Той з рашучасцю на твары, хоць, здаецца, трошкі паныла, устае на ногі.

– Ну, трымайся...

Ён кароценька ўсміхаецца аднымі вуснамі, і ў гэтай яго ўсмешцы – горкая абнадзеянасць, у якую ён сам не верыць. Значыць, зноў ростань, зноў ён ідзе, і, можа, на гэты раз назаўжды. Ну, вядома ж, наўрад ці ён

вернецца адтуль. Але тады і я не хачу быць тут – паміраць, дык разам. І я ўсхопліваюся ў першым парыве – была не была! Так ці не так – дадумваць цяпер няма калі.

– Дай руку...

Ён няўцямна азіраецца, на імгненне марудзіць і нерашуча дае здаровую руку. Я ўстаю і, прытрымліваючыся за ложак, скачу ў парог. Чорт, на адной назе вельмі нязручна! Каб хоць на што абаперціся. Я прыпыняюся. Юрка наперадзе, зразумеўшы мае турботы, кідае наўкола позірк. У куце ля парога чыясь вінтоўка, ён хапае яе і дае мне. Гэта звычайны нямецкі карабін, толькі з чорнаю ложай, і я абапіраюся на яго, як на палку.

Ужо з большай упэўненасцю мы пералазім цераз траіх забітых і выбіраемся на закіданы кавалкамі зямлі двор.

**17**

На двары нас адразу аглушае выбух. Мы абое падаем, пасля Юрка, ускочыўшы, перабягае за рог нейкага хлеўчука. Там ён азіраецца, маючы намер бегчы далей, але я ў гэтай справе яму не раўня, і ён, прысеўшы ля вугла, цярпліва чакае мяне. А я кульгікаю на адной назе і шныпару наўкола вачыма – каб дзе якую гранату... Трэба гранаты, бо з вінтоўкай і пісталетам мы нядоўга наваюем супраць танкаў. Ад хлеўчука Юрка дабягае да пахіленага выбухам плятня і зноў прысядае. За плятнём на снезе шэрая пляма варонкі, далей заснежаны, стаптаны слядамі і закіданы гузакамі зямлі гарод.

- Пі-у-у-у!.. Ш-у-у-у!.. Пі-у-у-у-у...

Эге, ды тут не адны толькі танкі – тут яшчэ міны! Тры перуны-выбухі скаланаюць паблізу зямлю. Між хат узлятае ў неба шызае снегавое воблака. Юрка хоча пераскочыць цераз пляцень, ды азіраецца на мяне і прысядае. Я дакульгікваю да яго і каленам апускаюся ў снег, чакаючы, пакуль скончыцца доўгі, прарэзлівы

скогат мін. Б’юць з аколіцы навяснымі крутымі траекторыямі. Міны ляцяць доўга і сваім скогатам, здаецца, выварочваюць нутро. Колькі я на фронце, а ўсё не магу прывыкнуць да гэтага іх праклятага віску. Я пазіраю на Юрку – мне яшчэ не даводзілася бачыць яго пад агнём. Э, ды ён малайчына: сабрана-засяроджаны, пружыністы, хуткі! Ён бы, вядома, адным махам адолеў гэты гарод і ўжо быў бы там. Каб не я.

– Калі тут не стрымаем, у полі – хана! – крычыць Юрка праз скрыгат, які дасягае свайго апагею і вось-вось абарвецца выбухамі.

У такі момант не да размовы, і я ў думках згаджаюся: вядома, у полі – пагібель…

– Тр-р-рах! Тр-р-рах! Тр-р-рах! – ззаду і з бакоў ірвуць мёрзлы дол блізкія выбухі.

Мы распластваемся пад плятнём. Камякі зямлі б’юць па спінах, галовах, нагах, пасля на снег падаюць кавалкі сярэдняй велічыні, а земляная пацяруха яшчэ доўга будзе церусіць з неба. Юрка пасля трэцяга выбуху хуценька ўскоквае і таропка з кароценькай цеплынёй у вачах азіраецца.

– Ты, калі што… Адрас не забыў?

– Ну што ты!

Адрас я памятаю: Ачынск, Прыстанскі завулак. Там жыве Юркава маці, бухгалтар-касір дзіцячага сада. Пра сябе я маўчу. Мой адрас цяпер не спатрэбіцца – ён па той бок, пад немцам.

– Ну, давай першы! – лёгенька штурхае мяне ў плячо Юрка.

Пэўне ж, ён не хоча адрывацца, страчваць мяне, кульгавага, з свайго поля зроку і робіць мне гэтую паблажку. Каб не адстаў.

Абапіраючыся на карабін, я пералажу праз пахілены пляцень, раз-другі наступаю на сваю падкручаную нагу.

Баліць, але трэба трываць. На адной назе не пабяжыш… Юрка, прыгнуўшыся, сігае за тры крокі побач. Моцны парыў ветру нізка сцеле чорны, кудлаты хвост дыму ад «студэбекера» з вуліцы. Хвост гэты накрывае снегавы дол, які закапцеў, нібы абсыпаны попелам. Мы кідаемся туды, пад дым, і зараз жа зноў: «Ш-у-у-у… пі-у-у-у…»

– Ні чарта яны нам не зробяць! – крычыць Юрка. – Ану, давай хутчэй!

Ён рэзка парываецца наперад. Нас накрывае дымам. Побач ірвуцца міны. Снегавой пацярухай б’е ў твар. На момант я перастаю бачыць і, прыгнуўшыся, тырчком лячу ў змрочную смярдзючую паласу дыму і выбухаў. Вочы заліваюцца слязамі, я ледзьве не натыкаюся на падрапаную сцяну. Падаю, выразна адчуваючы, як асколкі з лёту прапорваюць полы майго шыняля. Але ногі, здаецца, уцалелі – гэта галоўнае. Пад сцяной праціраю запарушаныя вочы і азіраюся.

Юркі няма.

Спачатку ні спалоху, ні жалю, адно толькі недаўменне – ён жа толькі што быў побач. Потым раптоўная трывога прымушае мяне ўсхапіцца. Шызае курава ад мін асядае, вецер трошкі адварочвае дымны хвост, і я бачу на снезе Юрку. Ён ляжыць ніцма, шырока раскінуўшы рукі, і не кратаецца.

Амаль здзічэлае ўтрапенне апаноўвае мой мозг. Не ашчаджаючы ўжо болей параненую нагу, я кідаюся назад і праз некалькі крокаў распластваюся ля Юркі. Я перакочваю яго на бок. Падстрыжаная пад бокс светлавалосая галава яго бездапаможна закідваецца патыліцай на снег. Шапкі на ёй няма. Паўзакрытыя векі сябра хутка-хутка сінеюць і зусім закрываюцца.

– Юрка! Юрка! – крычу я, няўцямна абмацваючы ягонае цела, бо не бачу раны і не магу зразумець, куды яго ўдарыла!

Усё ва мне нема пратэстуе супраць гэтай самай вялікай бяды: не, ён жывы, ён выжыве. З’яўляецца надзея, што

яго толькі аглушыла, кантузіла выбухам. Але ён, відаць, не чуе мяне. Зубы яго чамусьці сутаргава сціскаюцца, і, не разнімаючы іх, ён ціха, у адзін выдых, гаворыць:

– Халера... Не ўдалося...

І затым хрыпіць, паўзакрытыя яго векі дрыжаць. На вуснах выступае крывавая пена. Ён захлёбваецца гэтаю пенай, гнутка напружваецца ў маіх руках, быццам хоча перавярнуцца на другі бок. Я палохаюся, адчуваючы, што ён канае і што я бяссільны што-небудзь зрабіць.

– Юрка! Юрачка, куды цябе?.. Што табе?.. – недарэчна лямантую я, абмацваючы ягонае цела, і толькі цяпер адчуваю на руках кроў. Так, кроў на шынялі і на снезе пад ім.

– Жвік-жвік-жвік! – праносіцца блізкая чарга. І зараз жа:

– Тр-р-рах!

Нас зноў накрывае выбухам. Ля локця, зашыпеўшы, дзёўбаецца ў снег гарачы асколак. Рудое воблака сцелецца па гародзе. Гэта ўдарылі ў мазанку, ад якой я адбегся сюды. У свядомасці мільгае водбліск кароценькай радасці – абмінула! Але толькі мяне, а не яго. Яго не абмінула, і ў гэтым маё няшчасце і, здаецца, мая пагібель. Я адчуваю, што немцы набліжаюцца. Бой з ускраіны падступае сюды. Яны зашчамілі нас у вогненныя абцугі, якія сціскаюць усё цясней. Наўкола ўжо нікога не відно, і я не ведаю, як ратаваць Юрку. Але вунь на ранейшым месцы хаціна, з якой мы гэтак нядаўна выскачылі. Ой, не ў час выскачылі, спазнела шкадую я.

Я закідваю за спіну свой карабін, хапаю Юрку пад пахі і амаль тут жа падаю з ім разам у снег. Несці яго я не здолею. Тады я чапляюся за яго партупею і, нізка схіліўшыся, волакам цягну яго да паваленага плятня, назад у хату.

– Жвік-жвік-жвік-жвік! Фіць-фіць!

Гэта чэргі. Яны скрозь шкуматаюць саламяныя стрэхі, дзіравяць гліняныя сцены мазанак. У паўзах між громам выбухаў я лаўлю слыхам блізкае лязганне гусеніц – танкі ўжо на вуліцы.

Задыхаючыся, увесь у сцюдзёным поце, я падвалакваю цежаленнае Юркава цела да парога хаціны. Там моўчкі курчацца на падлозе некалькі параненых. З кутка на мяне няўцямна азіраецца Каця.

– Э, памажыце! – крычу я, бо ўжо не ў стане перацягнуць Юрку цераз парог. Да таго ж я вельмі баюся, што ўжо будзе позна. Я злы і чакаю, што яны кінуцца да мяне. Але кідацца тут няма каму – людзей стала зусім небагата. Так, параненыя, відаць, не чакаючы горшага, паразбрыліся, хто куды мог. Я бачу толькі Кацю, якая завіхаецца ля абгарэлага лётчыка, і некалькі цел у парозе. Ды во яшчэ немец! Сапраўды, нейкі дзівак фрыц, ён не ўцёк і, убачыўшы Юрку, жахаецца:

– О, майн гот! Юнгофіцір!

– Майн гот табе! – ад злосці крычу я і клічу Кацю: – Сястра! Хутчэй! Хутчэй!

Толькі Кацю, здаецца, падганяць не трэба. Яна ўжо тут і хуценька расшпільвае на Юрку партупею і рэмень. Я задыхаюся ад знямогі і падаю на дол.

– Танкі... Танкі ўжо там!..

Каця кідае на мяне жорсткі, бязлітасны позірк.

– Дзе сяржант? Дзе той свалата? Ты не бачыў? – Я адмоўна кручу галавой. Каця выпальвае з лютасцю: – Уцёк, зараза! Балбатун, трапло праклятае! Страляць такіх гадаў! Падлюга! Цяпер прападаць!

Да гэтага недалёка. Сапраўды, справы нашы кепскія. Страляць няма каму і няма чым, ды і наўрад ці паможаш гэтым бядзе. І ўсё ж дарма я аддаў таму аўтамат. Чым цяпер будзем адбівацца? Хіба што адным карабінам. Ну і ну!

Некалькі куль з вуліцы б’юць па сценах. Адна праз акно адбівае кавалак ад печы. Нас абсыпае глінай. Каця схіляецца над Юркам, пакрыквае на немца – цяпер той памагае. Я хапаю Юрку за галаву – на скронях у яго моцна торгаюцца жылы – яшчэ жывы.

– І на халеру я звязалася з вамі! Ужо ў Аджамцы была б! – незадаволена бурчыць Каця.

– Хутчэй! Хутчэй, Каця! Ён жа задыхаецца... – раздражнёна прашу я.

– Чакай ты!.. Ось яно што! – кажа Каця. Яна поркаецца пад загорнутай Юркавай вопраткай. Там усё акрываўлена.

Я ўжо нямала бачыў акрываўленых – жывых і мёртвых, а тут не магу глядзець: гэта ж Юрка...

– Та-а-ак... – засяроджана кажа Каця і, таропка захінуўшы сарочку, абматвае бінтом паверх гімнасцёркі.

– Ён выжыве, га? Выжыве, Каця? – пытаюся я.

– А я што – Бог? – з незразумелаю злосцю крычыць у адказ Каця. – Я не Бог табе!

Пасля яна запіхвае ў сумку бінты і кідаецца да акна.

– Дзе падводы? Дзе падводы? Дзе тая свалата балбатлівая?

Але ні сяржанта, ні падвод няма. Наогул, нідзе амаль ужо нікога няма. У гэтым канцы сяла мы засталіся адны.

Хату скаланае выбух. У акно патыхае пылам і трацілавым смуродам. Каця падае, мы ўсе прынікаем долу. А калі ўзнімаем галовы, бачым у дзвярах вялізную постаць у незашпіленай цёмна-шэрай куртцы з пухнатым каўняром, накінутай проста на белую споднюю сарочку. У яе разрэзе відацьваласатыя грудзі.

– Бінта трэба! У каго ёсць бінт?

Чалавек адной рукой заціскае рану на шыі, з якой між пальцаў у рукаў, на куртку струменямі ліецца кроў. У другой руцэ ў яго ППС. І тут я здзіўляюся – гэта ж мой ППС! Вунь і знаёмая почапка з меднай драцінкай замест трэнчыка.

Але перш чым я спраўляюся што-небудзь сказаць, да чалавека падскоквае Каця.

– Дзе ўзяў? Дзе ўзяў гэта? – яна рэзка тузае яго за палу курткі.

На твары дзяўчыны лютасць. Чалавек спярша не разумее, лыпае вачыма то на Кацю, то на сваю куртку. І тады я раптам здагадваюся, што і аўтамат, і куртка былі ў нашага сяржанта, якога мы чакаем цяпер.

– Гэта? – урэшце цяміць чалавек. – Не ўкраў. Вунь у забітага ўзяў.

– Дзе забіты? – крычыць Каця, аж скаланаючыся ўсім целам.

Чалавек, таксама раздражняючыся, у тон ёй адказвае:

– А ты што – пракурор? Вунь на дарозе ляжыць.

Каця, разам абвяўшы, паныла апускаецца на падлогу. На яе твары – пакутная грымаса болю. Не адолеўшы яго, яна расслабленымі рухамі зашпільвае сумку і, не пазіраючы на яго, пытае:

– Дзе танкі?

– Пруць, сястра. Вам тут не месца. У хаце, стогнучы, крычыць лётчык:

– Зараз жа адпраўляйце мяне! Не маеце права! Я да Героя прадстаўлены!..

Каця ўскідвае на нас позірк. У яе вачах – рашэнне.

– Выносіць! Выносіць усіх! На дарогу! Хутка! Куляй!

Жыва!

Так, выносіць! І ўсё ж гэта не самае ўдалае. Выносіць, значыць, цягнуць на сабе параненых. Толькі ці далёка пацягнеш ад танкаў?..

І ўсё ж рабіць болей няма чаго. Седзячы тут, мы дачакаемся горшага, і я падхопліваю пад паху Юрку. Чалавек у сяржантавай куртцы абмотвае бінтом шыю і, запіхнуўшы за каўнер канцы, бярэ Юрку з другога боку. Немец без прынукі, паслужліва падскоквае да Каці. Ён ужо ў нечым шынялі і падобны на чырвонаармейца. Толькі шапка ў яго нямецкая. Удвух яны паднімаюць лётчыка.

– Агародамі, агародамі давай! Туды, у канец! Дарогай не пройдзеш, – камандуе мой памагаты.

Мы выграбаемся ў двор, аббягаем разбіты вугал хаты, у якой мелі прытулак, і кідаемся па гародах. Збоку цягнецца тын, наверсе якога напята заінелая калючая драціна. Мы шыбуем уздоўж тыну. Толькі я хадок усё ж дрэнны, і Каця з немцам нас абганяюць. Добра яшчэ, што ад агню ззаду прыкрывае хаціна. Але з вуліцы нас, мусіць, ужо ўбачылі. Не паспяваем мы трохі адбегчыся, як лютая чарга ўразаецца ў страху гэтай будыніны. Наверсе ўшчэнт разлятаецца комін, і аскалёпкі яго градам сыплюцца са страхі. У паветры салома і снег. Паўз нашы галовы праносяцца кулі.

– Ото даюць, сволачы! – злосна азіраецца баец. – Такі драп наладзілі... і хоць бы табе хто! Не вайна, а расправа. Я вунь кідаўся, кідаўся з тым вашым бязногім. Чалавек з дваццаць мы затрымалі. Ды ўрэшце самі напароліся...

Я ў нейкім няўцямным зняменні. Думкі паблыталіся. Запальчывая гарачнасць не дае мне даўмецца, як дзейнічаць лепш. Я толькі адчуваю, што Юрка гіне, што я не ўратую яго, не паспею. Мяне кідае ў жах ад таго нутранога хрыпу, якім ён заходзіцца. З рота яго ўсё пузырыцца крывавая пена, і мне здаецца, што ён задыхаецца. Я раз-пораз затрымліваю хаду і няспрытна

падхопліваю яго за галаву, якая жахліва адкідваецца долу. Юрка то стогае, то раптам змаўкае, і мне здаецца: канец!

У канцы тыну мы прадзіраемся праз тугія, як дрот, галіны вішанніку на ўзмежку. Новая блізкая чарга кладзе нас у бур’ян. Як толькі яна мінае, мой памагаты ўсхопліваецца і адхінае мяне ад Юркі.

– Пастой! Давай я!

Доўгі, рукасты і, відаць, дужы, ён адным махам узвальвае на спіну Юрку. Прыгнуўшыся, шырачэзным крокам шыбуе ў снег. Я азіраюся – танкі ўжо ўсе ўцягнуліся ў сяло. На касагоры па той бок пуста. Неўзабаве яны будуць тут.

Абедзвюма рукамі абапіраючыся на карабін, я бягу за чалавекам. Цяпер мне куды лягчэй, калі б не нага...

– Чорт пабяры! – кажа ён, няспрытна паварочваючыся да мяне пад ношай. – Выскачыў без гімнасцёркі. З ёй і ўсе дакументы накрыліся. Далося ж, на халеру, заначаваць у крайняй хаце!

«Заначавалі! – механічна паўтараю я, бо іншага і не чую. Іншае не даходзіць да мае свядомасці. – Заначавалі. І праспалі, праваронілі ўсё на свеце...»

– А вы хто? – пытаюся я ззаду.

– Я? Ды старшына з ДОПа. Еўсюкоў. Не чуў такога? – кажа ён, шырока сігаючы па снезе.

Хто яго ведае, можа, і чуў. Сапраўды, у ДОПе – не ў батальёне: там нават сяржанты вядомы ўсёй дывізіі. Толькі цяпер я ўжо не прыпомню. Цяпер гэта і няважна. Я адкідваю прэч жардзіну, якая замінае, і мы пералазім у суседні гарод. Наперадзе бяжыць Каця з немцам.

– Нічога! – супакойвае мяне або, можа, самога сябе старшына. – Стрымаюць! Павінны ж стрымаць! Што гэта за безабразіе такое!

Так, сапраўды, няшчасце, пракляцце! Ну і сяло! Ну і ранне! Што толькі робіцца! Душа гарыць болем і крыўдай. Толькі што зробіш?

Раптам мы чуем: Каця з немцам штось крычаць нам і паварочваюць між хат да вуліцы. Я аж прыпыняюся: і слыхам улоўліваю на секунду, як дзесьці непадалёк за хатамі грукоча фурманка. У грымоцці выбухаў мы не адразу ўчулі яе і, мабыць, спазніліся. Старшына кідаецца бягом. Я зноў адстаю. Мы перабягаем закіданы саломаю двор і выскокваем на вуліцу. Пасярэдзіне дарогі проста на нас шалёна імчыць нечым нагружаная з каптуром фурманка.

**18**

– Стой! Стой! – крычу я з роспаччу і лютасцю, бо адчуваю, што гэта – апошняя наша магчымасць уратавацца. Другой ужо не будзе.

– Стой! – раве Еўсюкоў.

На мае рукі ён звальвае з сябе Юрку і кідаецца проста пад капыты коней. Але пара рыжых, відаць, напалоханая не менш за людзей, шалёна праносіцца міма. З-пад капытоў на мяне пырскае ашмёткамі снегу. У возе цэлая гара нейкіх цюкоў і зверху на іх, як на брычцы з сенам, – баец. Другі на перадку апантана паганяе коней.

– Стой! Хусаінаў, стой!

Старшына кідаецца наўздагон. Падвода, завярнуўшыся ледзьве не ўпоперак вуліцы, спыняецца. Да яе ўжо бягуць Каця з немцам – ім бліжэй. Я з усіх сіл валаку пад пахі Юрку. Ён усё ў непрытомнасці і страшэнна цяжкі. Ногі мае вязнуць у мяккім, як пясок, перацёртым коламі снезе – хоць бы паспець! Ззаду нас закрывае паваротак, дзе мы ўначы наскочылі на прыдзірлівага капітана. З таго канца вуліцы яшчэ не відно. Танкі яшчэ нас не бачаць.

– Тр-р-рах! Тр-рах! Ціў-у... Бах!

Гэта ўсё яшчэ там, за павароткам, адкуль, на нашае шчасце, выскачыла гэтая фурманка. Але што гэта – здаецца, мы ўсе ў яе не ўлезем: столькі грузу! Добра, што хоць там нейкі старшыновы знаёмы. Можа, паложым Юрку... Старшына падбягае да фурманкі і хапаецца за вяроўку, якой звязаны груз.

– Скідай шмуццё! Згружай усё! Хутка!.. – задыхана крычыць ён таму, на самым версе воза.

Але той, відаць, не спяшаецца разгружацца. ён яшчэ ніжэй угінаецца на сваім грузе і штурхае ездавога:

– Пашол! Нелзя скідай! Не разрешал!

– Ты што, ачмурэў? Параненыя! – крычыць старшына і зрывае з воза вяроўку.

Два цюкі цяжка звальваюцца на дарогу, некалькі іх кідае ўбок старшына. Баец на возе ўскоквае на шырока расстаўленыя ногі.

– Нелзя! Я отвечал! Я распіска давал! Ён зверху нагой штурхае ў плячо старшыну. Той, аднак, хапае яго за валёнак і з сілай тузае ўніз.

– Дурань! Прэч адсюль!

Хусаінаў, нязграбна выгнуўшыся, падае з воза задам у снег. Старшына ў адно імгненне ўскоквае на падводу і пачынае шалёна скідваць усё на дол.

– К чортавай матары! Людзі гінуць! – крычыць ён на возе і паварочваецца да ездавога, які спалохана трымае коней. – Ану, скідай хутчэй!

Я з усяе сілы валаку Юрку і прагна спадзяюся на ўдачу: авось паспеем? Паспеем! Ля падводы ўжо Каця з немцам, яны падвалакваюць туды лётчыка і, пасадзіўшы яго на снег, таксама пачынаюць скідаць з фурманкі цяжкія цюкі. Цяпер мне відаць, гэта – ватоўкі, пэўна, з нейкага склада ОВС. Хусаінаў тым часам пругка ўскоквае з долу. Нешта дзіка закрычаўшы, хапаецца за карабін, які тырчыць у яго за спіной. Ён здзірае яго

цераз голаў і адскоквае на крок. У той жа момант гахае стрэл. Схапіўшыся за руку ніжэй локця, старшына на возе няўцямна выпростваецца. З пальцаў на цюкі капае кроў.

– Ах ты, гад! – пасля секунднае збянтэжанасці вызвяраецца ён на Хусаінава. – Ты так? Так, свалата?!

– Стойце! Пастойце! Што вы робіце! – крычу я.

Да Хусаінава прама на яго вінтоўку кідаецца Каця. Але ён ухіляецца.

– Стралал вас буду! Убівал буду. Я распіска давал. Прыказ бірал! – У раз’юшаным гневе крычыць Хусаінаў, зноў лязгаючы затворам.

Старшына, аднак, хутчэй за яго тузае рукаятку аўтамата і проста з грудзей б’е кароценькаю, у тры кулі, чаргой. Паўз галовы. Хусаінаў спалохана ўзмахвае рукой, нібы спрабуючы засланіцца.

– Дурань! Ідыёт! Гад! – крычыць на возе старшына.

Я апускаю Юрку на снег – бог ты мой, што гэта робіцца! Што творыцца! Навошта так? Але маё недаўменне тут жа знікае, зусім блізка рвецца снарад. – Тр-рах! – Пыльныя кавалкі гліны градам абсыпаюць усю дарогу. Ззаду адным канцом асядае ў снег мазанка, што стаяла на паваротку. Але гэта не міна – гэта ўжо танкі. Відаць, падыходзяць. Хутка ўлупяць і нам.

Выбух нас ацвярожвае. Я падхопліваю Юрку. Ад воза да мяне кідаюцца Каця з немцам – дзякуй ім абодвум. На твары ў Каці адчай і рашучасць. Валасы выбіліся з-пад шапкі, паўшубак расшпілены. Немец рухава-напружаны і маўклівы, ён, здаецца, увесь у слыху. Быццам ягоная ўвага не тут, а недзе далёка, можа, там, дзе бой. Прыслухоўваецца да сваіх, Ці што? Толькі цяпер чорт з ім, цяпер бы хутчэй!

– Хутчэй! – крычыць з падводы старшына.

У ёй амаль ужо пуста, у дне корчыцца лётчык. Мы

ўскладваем туды Юрку, следам увальваюся я. Каця скача ўжо на хаду. Ездавы бязлітасна лупіць коней. Фурманка ўздрыгвае, я ледзьве ўтрымліваюся ззаду, азіраюся – з-за паваротка пакуль нікога.

Няўжо вырвемся?

І раптам наперадзе трэск, агонь і грымоцце. Хмара зямлі са снегам ускідваецца да неба, і мы з лёту ўскокваем у гэта змрочнае пекла дыму, зямлі і снегу. Коні кідаюцца ўбок, фурманка жахліва хіліцца. Каб не вылецець, я аберуч чапляюся за яе борт. Побач роспачна лаецца Каця:

– Вярні! Вярні ўбок!.. Разявон!..

Ездавы, ледзьве не ўскочыўшы з коньмі ў глыбачэзную варонку, як-колечы мінае яе. Здаецца, пранесла! Мы вырываемся з выбуху, фурманка выроўніваецца, коні кідаюцца галопам. Але тут жа пад коламі трэск – нешта ламаецца. Гэта мы наскокваем на разбітую выбухам пустую павозку. У аглоблях распластаўся на снезе конь. Пад брухам ручаіна крыві. Непадалёк пад плятнём нерухомая салдацкая постаць у скамечаным задраным шынялі.

Я хапаюся за Юрку, аглядваю нашых. Здаецца, абышлося – усе цэлыя. Толькі старшына чамусьці не ў возе, а бяжыць за фурманкаю. Разам з немцам яны хапаюцца за перакладзіну ззаду і разгоніста сігаюць за возам. З старшыновых пальцаў на палу майго шыняля цячэ кроў.

Фурманка шалёна кідаецца па калдобінах, я адной рукой прытрымліваю Юрку, другой напружана трымаюся за край дошкі – хоць бы не валіцца...

Скрозь выбухі і густое ціўканне куль мы прарываемся на аколіцу. Далей за грэбляю – шырокая балка-лагчына. Снег у доле стаптаны дзесяткамі ног людзей і коней, коламі фурманак, машын. Усе з гэтага сяла пашыбавалі туды. Мы, напэўна, апошнія. На грэблі пакінуты «ЗІС» з расчыненымі дзверцамі кабіны. Ён нізка асеў на

прастрэленых скатах, касабочыцца разбіты кузаў.

Фурманка наша зварочвае з вуліцы ў балку. Калатнечы яшчэ прыбаўляецца. Я ўжо хапаюся за барты абедзвюма рукамі.

– Ой! Ой! Стойце! Не магу! Што ж гэта робіцца! – енчыць захутаны ў паўшубак лётчык.

Каця моўчкі прытрымлівае яго забінтаваную галаву, каб не білася аб дошкі перадка. Ззаду мокрыя твары немца і старшыны. Яны бягуць за фурманкай. Еўсюкоў, відаць, усё не можа супакоіцца ад свае сутычкі на вуліцы і асвалачэла лаецца:

– Дурань набіты! Абармот! Пагражае!.. За кучу вашывага шмоцця. Ось гад! Асталоп іспалніцельны! Лепш бы ўжо разгільдзяй, да з галавой каб!..

Сапраўды, гэта жахліва: свой – свайго! За што, падумаць толькі! Добра яшчэ, што трапіў у руку. Рана ў старшыны, здаецца, не страшная, і крыві не так ужо і многа.

Людзі групамі і ў адзіночку бягуць балкаю. Конных ужо не відаць. Далёка наперадзе хаваюцца за павароткам фурманкі. Шмат каго мы ўжо і абганяем. Ужо мы – не самыя апошнія. З’яўляецца надзея – авось вырвемся. Я падаюся да Юркі. Шынель на ім акрываўлены, мусіць, збілася павязка. Ён па-ранейшаму маўчыць, зубы моцна сцяты. Эх, Юрка! Трывай, браце, як-небудзь мацуйся, намажыся, цярпі! – малю я ў думках, ледзьве сам трымаючыся ў фурманцы. І ў гэты момант над нашымі галовамі размашыста бліскае першая агністая маланка. Мы знячэўку ўгінаемся, – далёка наперадзе ўзлятае ўгару слуп снежнага пылу. Гэта балванка.

Мы ўсе, як па камандзе, азіраемся. Так і ёсць – танкі ўжо выйшлі на ўскраіну. На грэблі каля «ЗІСа» з-за крайніх хат іх выпаўзае з дзесятак. Некаторыя спыняюцца, бліскаюць агеньчыкамі з дымам і хутка скіроўваюць у балку, за намі следам.

– Тр-рах! Трах! – ірве ззаду і збоку.

Над намі ў паветры праносіцца снарад. Ягоны разгоністы фыркат кладзе нас у фурманку. Наперадзе, на схіле балкі, вырастае прыгожы клубчаста-пульхны выбух. Ззаду ў снежнай прасторы густа рассыпаецца кулямётны трэскат.

– Гані! – крычыць Каця. – Гані ты, няўклюда!

Ездавы прыўстае на перадку і з-за пляча лупіць палкай коней.

Тыя ўсе ў мыле і імчацца так, што, здаецца, растрасуць фурманку. Мы наганяем некалькі байцоў у расшпіленых шынялях, без дзяг. Адзін, маладзенькі, без шапкі, з абстрыжанай пад нулёўку галавой, на хаду спрабуе прычапіцца да фурманкі. Старшына гоніць яго:

– Куды? Куды прэш?! Тут параненыя!

Хлопец з роспаччу ў вачах збочвае і нейкі час загнана хакае побач. Я чакаю новага выбуху. Сапраўды, колькі можна праехаць на прыцэле ў танкаў? Хоць бы яны не спыніліся – з ходу яшчэ мо не пацэляць. Але ж дагоняць. Халера на яго – дзе ж тады выйсце?

Так, гэта жахліва! «Гані, браток, гані!» – нема прашу я ездавога, ды ён і сам гоніць куды як добра. Толькі ці надоўга? Наперадзе, здаецца, паваротак. Вось бы паспець да яго!

А кулямётны трэскат усё бліжэй.

Тут ужо многа байцоў – маўклівыя, задыханыя, расчырванелыя, са страхам у расшыраных вачах. Імі ніхто не камандуе. Гэта тылы – абознікі, кладаўшчыкі, ездавыя, тэхнікі... Многім такая калатнеча, відаць, у навіну: да агню яны не прывыклі. Я ведаю, адзінае, што цяпер пануе над іх пачуццямі – гэта ўлада страху. Сродак да паратунку ў іх цяпер – ногі. Толькі сродак гэты не самы лепшы. Хутчэй наадварот. Гэта безвыходнасць.

Старшына люта лаецца.

– Стойце, растакую вашу няладную! Куды вас прэ! Задушаць, расстраляюць, як зайцаў. Стойце! Спыніцеся!

Людзі азіраюцца на крык, толькі не спыняюцца. Незнаёмы чалавек у куртцы – для іх не начальства. Тым часам па-над самай падводай зноў фыркае. За паўсотні крокаў наперадзе выбух. Коні становяцца на дыбы і кідаюцца ўбок. Нас абдае снегам. Фурманка ледзьве не перакульваецца. Здаецца, яна вось-вось абернецца на касагоры. Нейкім цудам мы не трапляем у засыпаную снегам рытвіну.

І раптам зусім побач на схіле я бачу знаёмага ў паўшубку і чорнай кубанцы. Адна рука пад палой: напэўна, паранена. Пусты рукаў матляецца на ветры. Гэта Сахно. Ён азіраецца на нас, твар яго разгублеыы і потны. На лбе прыліпла чорная пасма валасоў, рот шырока раскрыты.

– Эй, рабяты! Пастой!

– Прытрымай! – кідае ездавому Каця.

Коні трошачкі сцішваюць бег. Сахно знясілена падбягае, а ў мяне сціскаецца сэрца: навошта ён тут? Аднак капітан, прытрымліваючы на галаве кубанку, няспрытна куляецца ў воз. Ён паранены, і ў падыспадзе майго пачуцця міжвольна мільгае злараднасць: ага, дапякло! Гэта яму не пратаколы пісаць!

Ездавы гоніць коней. Фурманка імпэтна кідаецца на прысыпаных снегам гузаках. Недзе ззаду гахаюць запар два выбухі. Старшына лаецца.

– Што толькі робіцца, га? І дзе начальства? Праспалі к чортавай матары ўвесь Кіравагград!

Сахно ў возе аддыхваецца, раз-пораз клопатна азіраецца, але маўчыць. Старшына злуецца ўсё болей.

– Разведка – хрэн ёй у вочы, шнапсу, відаць, надулася! На радасцях! Што ж: ударылі, прарваліся, пайшлі куды

як добра! Давай наградныя пісаць. Ведама ж, абы на перадку ўсё па графіку, а тут што робіцца – напляваць!

У каршуновых вачах Сахно ўзгараецца строгасць. Нядобрым позіркам ён акідвае старшыну, але той знарок гэтага не заўважае. Здаецца, старшына можа сказаць і болей, і не толькі такому начальніку, як гэты капітан. Ён робіць уражанне дужага ва ўсіх адносінах. Такія заўжды падабаюцца, асабліва на вайне. З імі надзейна.

Дрыгоцце тым часам робіцца нясцерпным. Здаецца, разваліцца фурманка. Лётчык пад паўшубкам крычыць:

– Сястра! Не магу я! Стойце! Спыніце коней!.. Я не магу...

З перадка ў злой нястрымнасці азіраецца Каця.

– Змоўкні! Змоўкні зараз жа! Што ты енчыш! Не можаш – злазь к чортавай матары!

– Баліць! Баліць жа... У-у-у-у...

– Цярпі!

Мы ўзлятаем на ўзгорак. За ім спуск, там нас ужо не дастаць. Ну, яшчэ хвілінку, паўхвілінкі... Ад напружання я ўпіваюся зубамі ў губу, нібы так лягчэй. Яшчэ трошкі... І тут...

– Тр-р-рах! І-у-у-у-у...

Што гэта?.. Чаму гэта?.. – бянтэжыць мяне недаўменне. Фурманка ўзлятае перадком угору, воз перакошваецца. Нейкая сіла выкідвае мяне прэч і балюча куляе галавой у снег. Побач, узараўшы баразну ў снезе, сунецца рог фурманкі. Здаецца, раздушыць. Але раптам спыняецца ля самага майго пляча.

Я тут жа прахопліваюся, адчуўшы сябе на краі пагібелі. На руках і каленях адскокваю прэч. Фурманка абернута набок. Хтось апантана лаецца. Каця падхоплівае лётчыка. Адзін конь, укленчыўшы на пярэднія ногі,

б’ецца галавой аб снег. Другі тузае фурманку ўбок. Яго хапае за аброць старшына.

Але, здаецца, я цэлы і, ускочыўшы, кідаюся да паваленай набок падводы. Юрка, апоўзшы на край, нейкім цудам трымаецца там. Аднак мяне апярэджвае немец. Плячом ён дужа паддае знізу і перакульвае падводу на колы. Наперадзе крык Сахно:

– Рэж пастромкі! Пастромкі!!!

Старшына хапаецца за пастромкі, а Сахно ўвальваецца ў падводу. Немец ужо завіхаецца ля Каці. Удвох яны цераз борт увалакваюць у фурманку лётчыка. На снезе збоч ляжыць ездавы. Галава ў яго... Зрэшты, галавы няма, замест яе адно страхоццe. Лепш туды не глядзець. Старшына чымсь перарэзвае пару тоўстых пастромкаў і хвошча вяроўкай каня. Апошняга нашага каня, які зморана тузае фурманку. Другі, заціхаючы, грабецца на снезе. Яму ўжо не ўстаць.

– Хутчэй! Хутчэй!

Я не ведаю, ці гэта крычыць хто, ці мо гэта рвецца з мае душы. Я толькі кожнаю часцінкай цела адчуваю, што трэба хутчэй, бо вось-вось усмаляць – танкі ўжо даганяюць. Над балкаю гул і лязгат. Гахаюць выбухі, і танкавыя кулямёты захліпаюцца ў агнявой ярасці. Наўкола крыкі і лаянка. Не, гэта не бой – гэта знішчэнне. Да нас падбягае нейкі сяржант у гімнасцёрцы без шыняля. Ягоныя грудзі з ордэнам Славы густа заліты крывёю. Ён задыхана хрыпіць і моўчкі валіцца ў падводу – я толькі паспяваю затуліць Юрку.

Але ўрэшце мы за пагоркам. Тут ужо не пацэляць. Наперадзе, у балцы, праз паўкіламетра сяло. Заснежаныя мазанкі, плятні, ранішнія дымкі з комінаў. І там – дарога. Тут ужо бегуноў болей. Яны, пэўна, думаюць, што ў сяле паратунак, і джгаюць туды з усіх сіл. Але я адразу заўважаю, што ў сяле пуста. Арганізаванай абароны тут таксама няма, тут наогул ужо мала хто і ёсць. Відаць, паддаўшыся паніцы,

прапанулі і тутэйшыя. А дарога засталася – добраўпарадкаваная шаша, мабыць, з Кіраваграда. Зоймуць ды перарэжуць – быць тады і большай бядзе... Нахіленая набок, рызыкуючы перавярнуцца, фурманка коціцца па снезе. Да нас бягуць людзі. Нехта зноў увальваецца ў воз, некалькі параненых чапляюцца за барты. Пажылы баец у расшпіленым шынялі, аслабела трухаючы побач, глуха і моўчкі плача без слёз. Яго шчаціністы падбародак сутаргава тузаецца. Старшына, не перастаючы, лупіць коніка. Мы мінаем адну групу і некалькі адзіночак і яшчэ, мабыць, чалавек з дзесяць. І тады Сахно рашуча саскоквае на снег.

– Ану, стой! Стой! – крычыць ён на байцоў і выцягвае з кабуры пісталет. – Назад! Пастраляю ўсіх, як сабак! Назад!

Кінуўшы лейцы Каці, саскоквае з падводы і старшына. Ён таксама пачынае крычаць «стой», некага даганяе і ў каршэнь штурхае да капітана. Сахно падаецца ў другі бок. Зводдаль па схіле пагорка бяжыць некалькі чалавек, і ён, не цэлячыся, бахае туды з пісталета. Уцекачы спачатку спыняюцца, пасля, разбрыўшыся, ідуць уніз. Ля старшыны набіраецца дзесятка паўтара выпадковых людзей.

– На бугор! Марш на бугор! – крычыць Сахно і паказвае ў поле рукой.

Ад групы аддзяляецца старшына.

– Братва, ану бягом! У каго гранаты – ка мне! Мы ім пакажам кузькіну маць!

Зморана і не дужа рашуча яны бягуць на пагорак. Сахно яшчэ кагосьці спыняе і гоніць за ўсімі. Некага б’е рукаяткай пісталета па шыі. Што ж, можа, гэтак і трэба. Спадзявацца цяпер няма на каго. Ніхто тут нас не абароніць. Толькі самі сябе.

У нейкім бяздумным парыве я таксама саскокваю з падводы. Саскокваю і прысядаю на адну нагу. Мусіць, усё ж паспяшаўся. Але чорт з ім! Гінуць дык гінуць – на

полі бою. На маё месца зараз жа нехта залазіць.

Я кульгікаю ў стэп. Ззаду, аддаляючыся, грукоча фурманка, толькі я не азіраюся. Я ведаю – нам ужо не сустрэцца.

Толькі добра адышоўшыся, я кідаю кароткі позірк назад. Паблізу нікога. Фурманка далёка ўнізе ўязджае ў сяло. Але дзе Сахно?

Капітана нідзе не відаць. Наперадзе яго няма, а ззаду... А ззаду на фурманцы чарнее знаёмая кубанка.

Чамусьці мне робіцца да болю крыўдна. Я не разумею чаму. Але гэта подла. Хіба так можна?

Тым часам невялічкая група старшыны таропка разбягаецца ў ланцуг. Тады, давячыся крыўдай, я здымаю з-за спіны карабін і выходжу на ўзгорак.

**19**

Аднак даволі.

Нам прыносяць вячэру і абед – на сёння ўсё разам. Немаладая паўнаватая афіцыянтка ў наколцы ставіць дзве талеркі з біфштэксам, па селядцу з цыбуляй. Я, апанураны роздумам, назіраю за яе спрытнымі рукамі і думаю, што так можна здурнець. Успамінаць усё гэта ненамнога лягчэй, чым калісьці было перажываць. Усе пакуты ўзнаўляюцца. Зрэшты, яно і зразумела: дужа ўжо многа нерваў і сіл тое мне каштавала.

Мой сусед ажыўляецца. Адкладвае газету і задаволена прысоўваецца да стала. Перш-наперш бярэ круглявы графінчык і налівае дзве чаркі.

– Ну што ж! Паспытаем... Дарэчы, я і не ведаю, як вас велічаць, – кажа ён, затрымліваючы ўзнятую чарку. Я роздумна бяру сваю.

– Васілевіч.

– Васілевіч? Беларускае прозвішча. А я Гарбацюк. Павел Іванавіч.

З-пад ілба я пранізліва гляджу яму ў самыя вочы. Не, чорт вазьмі, для Сахно ён занадта ўпэўнена сябе паводзіць. Здаецца, я марна нарабіў усіх гэтых недарэчных турбот. Ён кідае на мяне кароткі, зусім прыяцельскі, позірк.

– Ну, будзем здаровы!

І са стрыманай асалодай выпівае. Хакнуўшы, бярэ відэлец. Я трымаю сваю чарку ў руцэ. Каб піць за здароўе, трэба яго мець. Інакш гэта пусты і фармальны тост. У мяне, аднак, ёсць іншы. Я буду піць не «за». Я вып’ю «супроць». Супроць усяго, што мяне прывяло сюды. Каб з ім болей не знацца.

Мы пачынаем маўклівую, засяроджаную яду. Я ўжо, аднак, перахацеў есці і без вялікай ахвоты выбіраю з селядца колцы цыбулі. Яшчэ я пазіраю на нашых суседзяў. Яны за спіной Гарбацюка (калі толькі ён Гарбацюк). За двума ссунутымі сталамі чацвёра хлопцаў і трое дзяўчат п’юць шампанскае. Адна, што сядзіць у дальнім канцы стала, маленькая, жывая прыгажунька. Яна ўся чорненькая, і плацце, і бровы, і знарок вольна растрэсеная капешка валасоў. Ні аднае секунды ёй не сядзіцца спакойна: смяецца, пляскае рукамі, нешта імкнецца давесці сябрам. Вочы яе так і гарэць захапленнем. Да яе скіраваны позіркі ўсіх чатырох хлопцаў. Ды і дзве бландзінкі раз-пораз спыняюць на ёй свае падведзеныя чорныя вочы.

– Вы ваявалі? – ні з таго ні з сяго проста «ў лоб» пытаюся я ў Гарбацюка. Той з годнасцю распростваецца ў крэсле.

– А як жа! Усю вайну. На Заходнім, а пасля на Другім Беларускім.

– А на Другім Украінскім не былі?

– Украінскім? Не, не быў. На Украіне, на жаль, не

давялося. Болей у Беларусі. У Польшчы. Берлін браў...

Ён энергічна і са смакам працуе дужымі квадратнымі сківіцамі. І зноў той жа спакой, трохі нават ганарлівы тон – браў Берлін! Не, мусіць, я круглы дурань. Ідыёт. Ледзьве не нарабіў свінства і нахабства. І ўсё таму, што праз дваццаць год не забыўся на тое халернае мінулае. Ці не лепей махнуць на яго? Як іншыя.

Калі б было можна...

Гарбацюк тым часам адсоўвае пустую талерку і зноў паднімае графінчык.

– Ну дык што? Па другой? За перамогу.

Прыпомніў! Пасля свайго дарагога здароўя ён п’е за перамогу. Нішто ваяка! На гэты раз ён працягвае руку, і мы чокаемся. Гарбацюк адразу куляе чарку ў рот. Я нерашуча трымаю сваю ў руцэ. З-за суседняга стала, хітра і бязгучна смеючыся ўсім тварам, дакранаецца вуснамі да бакала чарнушка. Яе кампанія за сталом выбухае рогатам.

– Эрна, восхитительно!

– Любушка, твою лапушку!

Плячысты бландзін у шэрай з кішэнямі сарочцы схіляецца над яе рукой. Гарбацюк азіраецца і шматзначна ківае галавой.

– Тунеядцы напэўна?

Я не адказваю. Посуд на стале адбівае россып рэстаранных агнёў. Побач, ля свайго століка ў прасценку, бразгае відэльцамі афіцыянтка. У зале – прыглушаны гул. Добра, што вакзальныя рэстараны яшчэ абыходзяцца без аркестраў. А то б расшчапілася галава.

Тым часам Гарбацюк бярэцца за нож і відэлец.

– Вы афіцэр? – пытаюся я.

– Гвардыіі маёр запасу.

Ён адразае кавалак біфштэкса ідцпраўляе яго ў рот. Маёр? Можа быць. Вядома, пасля капітана – маёр. Калі сапраўды не Сахно, дык, мусіць, які камандзір батальёна. А мо палітработнік? Ці пампатэх? Калі, скажам, танкіст. Калі танкіст – я яму прызнаюся ва ўсім і папрашу прабачэння. Перад танкістам я зніму шапку.

**20**

З пагорка дванаццаць нямецкіх танкаў відаць як на далоні. Звузіўшы інтэрвалы, усе ў рад яны паўзуць па шырокай разлегласці балкі-лагчыны. Праўда, паўзуць асцярожна, відаць,не імкнучыся гусеніцамі душыць уцекачоў – яны іх нішчаць агнём. Глыбінны нутраны гул, усё мацнеючы, плыве над зямлёй.

На фланг я ўжо не бягу. Прыгнуўшыся, уваходжу ў ланцуг, дзе ён трохі радзейшы, і падаю ў снег. Снег тут не глыбокі, навокал тырчыць шэрае дуддзё быльнягу. Справа ад мяне шавеліць ствалом нехта ў паўшубку – ці не камандзір які? Толькі ён не камандуе. Цяпер ён, як і ўсе, радавы ў гэтым ланцугу старшыны Еўсюкова. З другога боку ад мяне таропка месціцца ў снезе даўганогі баец у кароценькім шыняльку. Над заснежаным марозным стэпам блішчыць у смузе невысокае зімовае сонца.

Здаецца, мы ўсе загінем. Каб вызначыць тое, не трэба быць празорцам – дастаткова паглядзець наперад. І, па сутнасці, так недарэчна! Пасля загіне Юрка, Каця. Наўрад ці ўратуецца і Сахно. Можна лічыць, што кожны з нас адзін для другога – ужо не існуе. Я – для Юркі, ён – для мяне. Застаюцца хвіліны. Апошнія мае хвіліны. Самотнае гэта прадчуванне раптам бурыць недалёкі крык. Гэта ў ланцугу прыўстае на каленях старшына. Яго цёмная куртка дэсантніка здалёку відаць на аснежаным доле.

– Агонь! Якога храна ляжаць! Агонь!

Так, вядома, трэба агню. Інакш, чым мы можам стрымаць гэтыя танкі? Толькі што мы ім зробім нашым агнём? Каб хоць парачку ПТР. Ды каб гранаты...

З ланцуга рэдка і бязладна пачынаюць бахаць вінтоўкі. Нехта пускае доўгую чаргу з аўтамата. Танкі, напэўна, пакуль нас не бачаць. Я ляжу ў нейкім здранцвенні, увабраўшы рукі ў мокрыя рукавы шыняля. Мерзнуць пальцы. Да самага калена гарыць, ные нага. У маім карабіне ўсяго пяць патронаў, і я выпушчу іх, калі танкі падыдуць бліжэй. Каб пацэліць хоць бы ў які трыплекс...

Танкі хутка сунуцца ўсё бліжэй. У балцы цяжкі маторны гул, прыглушанае стракатанне гусеніц. Уцекачоў перад ім ужо не відаць – жывыя ўсе за павароткам. На шырокім бязладным шляху, здратаваным мноствам ног, – некалькі трупаў, разбітая фурманка, бліжэй – наш, напэўна, сканалы, конь. Аднак нехта там ажывае і пачынае грабціся з-пад самых танкаў. Знямогла валочыць па снезе, відаць, перабітыя ногі. Зараз жа на лбе пярэдняга танка ўспыхвае агністая бліскаўка, і чалавек назаўжды выцягваецца на снезе.

– Агонь! Агонь!.. – крычыць Еўсюкоў.

Я кладу на далонь карабін і прыцэльваюся. Прыклад туга б’е ў плячо, і мне шкада марна патрачанага патрона. Мусіць, неўзабаве ён мне ой як спатрэбіцца! Нетаропка пачынаю цэліцца зноў. І тут выбух грымотна рве побач. Позірк губляе цэль, мяне абдае смуродам і снегам. На выбух я не азіраюся – я толькі адчуваю: ну вось і ўбачылі! Цяпер трымайся! Цяпер дадуць жару.

Але што гэта? Збоч па снезе цераз балку, нібы парваўшыся, мільгае чырвоная нітка. Раз, другі. І над адным танкам на касагоры з’яўляецца дымок. Я кідаю позірк на суседа ў паўшубку. Так і ёсць – гэта ён б’е трасіруючымі. Толькі чаму дым? Няўжо падпаліў?

– Тр-р-рах! Тр-р-рах!

Ірве з недалётам, перад ланцугом. На некалькі секунд танкі прападаюць за снежна-земляной хмарай выбухаў.

Я тыцкаюся тварам у дол. Наўкола шастаюць камякі, і калі вецер зганяе з варонак дым, наперадзе – незразумела радасны цуд: адзін танк гарыць!

Проста не верыцца, але так. Танкісты з яго ўжо павыскоквалі. У борце і ў вежы расчынены люкі, зад увесь у агні. Два бліжнія да яго танкі спыняюцца. Пагорак адзываецца траскотнай вогненнай ярасцю.

– Па бочках агонь! Па бочках! – праз гул і грукат прарываецца зводдаль крык Еўсюкова.

І тут толькі я разумею: на танках бочкі з гаручым. Таму і такая ўдача.

Я прыцэльваюся ў нейкі бліжэйшы да нас танк, які марудна паварочвае свае шырокія грудзі на наш пагорак. Здаецца, у яго на борце нешта тырчыць. Бочкі ці не, адсюль не разгледзіш. І я паспешліва страляю збоку, пакуль гэтае нешта яшчэ не закрыла вежа. Толькі знаку ад майго стрэлу ніякага – ні агню, ні дыму. А побач яшчэ і яшчэ бліскаюць трасіруючыя суседа ў паўшубку.

Той, задні, ужо апантана гарыць. Чырвоныя космы агню шугаюць на ветры, і чорны хвост дыму размашыста сцелецца над стэпам. Астатнія яго пакінулі, абышлі і паспешліва разварочваюцца ўнізе на наш пагорак. Паветра над ланцугом туга ніжуць іх густыя малапрыцэльныя чэргі.

«Не, гэта вам не ў балцы! Гэта вам не ў балцы!» – крычыць ва мне злы, няўрымслівы голас. Нядаўняя паныласць знікае. Я ўжо гатовы біцца. Я нават хачу, каб яны хутчэй падышлі. Дзіўнае, незразумелае жаданне! Але ўсё роўна хачу. Мяне распірае запал і зларадства. І, мусіць, толькі таму, што гарыць іх падпалены куляй танк. Астатнія ж адзінаццаць сунуцца бліжэй. Неўзабаве нам будзе туга.

Але хай!

Ланцуг дружна бахае, стракоча, грукае бязладнымі

стрэламі. Упарта б’е трасіруючымі сусед. Я прыглядаюся да ягонай вінтоўкі, і ў мяне з’яўляецца здагадка, што яна трафейная, як і мой карабін. Гэта нараджае пэўную думку. Я падхопліваюся са свайго месца і на каленях і руках кідаюся ў снег. Ззаду зноў блізка гахае. Зямля пада мной пругка ўздрыгвае, асколкі распорваюць неба. Я падграбаюся да чалавека ў паўшубку.

– Як бы патрончыкаў? Хоць абойму, га?

Чалавек, не зважаючы на мяне, засяроджана цэліцца і страляе. Пасля сутаргава хапаецца за рукаятку затвора. Ён ужо немалады, з сівымі скронямі. Пад белым каўняром паўшубка відаць чырвоны кант кіцеля – значыць, камандзір.

– Няма патронаў, – хрыпіць ён пракураным шапялявым голасам, які мне здаецца знаёмы.

Ды гэта ж наш учарашні знаёмы – капітан, які ў сяле разгружаў «студэбекеры». Вось табе і ДОП! Не паслухаў тады, а цяпер прыпёрла! У яго адтапыранай кішэні тырчаць каляровыя дзюбкі патронаў. І вось не дае...

Мяне ахоплівае злосць. Так і карціць аблаяць яго, але цяпер не да гэтага.

– Хоць адну абойму! – раздражнёна прашу я. Капітан паварочваецца ад карабіна.

– Ды ну, каціся адсюль! Не дэмаскіруй!

Ён коратка зыркае на мяне, і я ўпершыню бачу яго напалоханы твар, мітуслівыя вочы, разяўлены рот – ён яўна баіцца. Як жа гэта ён падбіў тады танк? Баючыся? Насуперак страху? Але і я, мусіць, такі. Толькі я не бачу сябе. Усе мы тут не ў лепшым выглядзе, і не дзіва. Вылаяўшыся ад прыкрасці, я па снезе грабуся ад яго на сваё месца. Але не прапаўзаю і паловы шляху, як ззаду люта расшчэпліваецца зямля, мяне аглушае. Адначасна нешта хлёстка выцінае па бядру і карку. Праўда, у

секунднай яснасці я адчуваю: гэта не асколак – гэта камякі. Крутнуўшыся на снезе, зараз жа азіраюся – наўздагон шугае тугі, змрочны клуб дыму. Секунд пяць капітана зусім не відаць, потым праз дым на доле пачынае краямі азначацца варонка. Адна пустая, свежая, пыльная варонка, і больш нічога. Разграбаючы рукамі снег, я кідаюся да яе. Там цяпер схавішча, а мо і паратунак. Я ўжо ведаю: другі раз у адно месца снарады не падаюць.

Мяккая і цёплая варонка хавае мяне ад агню. Праўда, тут моцна смярдзіць трацілам і неглыбока, не болей чым на аднаго. Але кулям мяне не дастаць. Капітана нідзе няма. І нічога ад яго тут няма. Нават дзіўна! Толькі вось пад бокам у мяне нешта муляе, я мацаю рукой – гэта закапцелы прыклад карабіна з абарванай почапкай. І ўсё. Адкідваю абломак прэч. І тады бачу нешта недарэчнае воддаль. Пашкуматаны, вывернуты поўсцю наверх паўшубак з абрыўкам партупеі. Ля яго нешта шызавата-парнае, залітае крывёй. Кроў і наўкола, на перамешаным з зямлёю снезе. Эх, капітан, капітан!.. Але патроны! Гэтая думка надае мне раптоўнае жвавасці. Азірнуўшыся на танкі, я выскокваю з варонкі. Нізка прыгнуўшыся, сігаю да акрываўленых рэштак чалавека, ад якіх на марозе прыкметна ідзе пара. Зацяўшы гідлівасць, ліхаманкава варушу ашмоцце вопраткі. У дзіравай кішэні сапраўды дзве абоймы бранябойных патронаў. Адна, праўда, ужо расчатая, але бог з ёй. Побач у рукаве паўшубка пруцянее на снезе адарваная капітанава рука. Васковага колеру пальцы паціху растапырваюцца і заміраюць. Я хапаю патроны і кідаюся ў варонку.

«Ну, гады, цяпер ідзіце! Цяпер мы падзіравім вашыя бочкі!» – думаю я, піхаючы ў магазін патроны. Тым болей што танкі ўжо падышлі бліжэй; цяпер ужо можна выбіраць, куды цэліць.

Толькі чамусьці яны не ідуць. Яны ўсе сталі ў рад метраў за чатырыста ад ланцуга і скіроўваюць на пагорак свае гарматы. Я прыладжваюся на краі варонкі і не паспяваю яшчэ даўмецца, як быць далей, калі

пагорак ва ўсю глыб скаланаецца ад некалькіх выбухаў. Над галовамі фыркочуць высокія асколкі. У паветры патыхае серная горыч трацілу. Я прыціскаюся да мяккага, пабітага асколкамі боку варонкі, уцягваю ў плечы галаву. Танкі пачынаюць беглы агонь з гармат.

– Тр-рах! Тр-р-р – р-рах!.. Трах... рах! Ого, сабакі, вось гэта даюць! Пагорак завалаквае пылам, у паветры змрочны туман выбухаў. Снежны дол хутка чарнее ад безлічы воспін-варонак. Я бачу, як на тым фланзе нехта перабягае. Але не зразумееш куды – назад ці ў варонку. Цяпер неакапаным – ліха.

Я страляю. Праўда, карысці ад таго пакуль што ніякай. Наперадзе толькі мільгане бліскаўка, і ўсё. Куды трапляюць кулі, не зразумееш. На танках калі і ёсць бочкі, дык яны ўжо ўсе прыкрыты вежамі. Цяпер іх не возьмеш – гэта не з борта. Біць жа ў браню – марная справа.

І тут гахае зусім побач. Мяне зноў глушыць, бы затыкае ватаю вушы. Зверху сыплецца, сыплецца без канца. Ну і ну! Палой шыняля я захінаю карабін і курчуся ў варонцы. Ірве яшчэ і яшчэ. Пры кожным выбуху цела незнарок туга, да болю сціскаецца. Нутро маё, раз-пораз скаланаючыся, прымае на сябе штуршкі ад зямлі. Але трэба паглядзець, дзе танкі. Аказваецца, яны не спяшаюцца. Пасля першага дружнага напору іх страляніна радзее. Радзеюць і выбухі. Цяпер яны б’юць прыцэльна. Сволачы! Што робяць! Стрэл – выбух, і аднаго байца ў нашым ланцугу няма. Пасля выбух на месцы другога. Ось гэта тактыка! Такой я яшчэ не бачыў. Яны выбіваюць нас паасобку. На месцы байцоў у ланцугу рад чорных варонак. Так нас ненадоўга хопіць.

Каб хоць пашэнціла пацэліць у трыплекс! Асляпіць які танк! Я зноў прыкладваюся і страляю ў каўпак перыскопа, што ледзьве ўгадваецца на плоскай вежы. Толькі не трапіш – далёка... Хапаюся за рукаятку, каб перазарадзіць, як раптам нешта размашыста сцёбае па твары, заляпляе вочы, рот... Ацёршыся рукавом, бачу – за два крокі наперадзе тырчыць у снезе снарад. Ірване! Я сцінаюся ў варонцы, ашчаперыўшы голаў. Але праз

секунду разумею: не рване, гэта балванка. Яны ўжо б’юць па нас і балванкамі.

Пераседзеўшы з паўхвіліны, я зноў асцярожна высоўваюся з варонкі. Няцяжка здагадацца, каторы з танкаў стрэліў па мне балванкай. Вунь ён непадалёк ад таго, што дагарае ззаду. Мне добра відаць чорнае зрэнка яго гарматы. Яна скіравана сюды. Значыць, стрэліць яшчэ. Хоць бы не асколачным. Але што рабіць? Я прыцэльваюся ў гэтую зрэнку, думаецца, мо дастану каго праз гармату. Можа ж так здарыцца, калі перазараджаюць і адкрыты затвор. Гэта, вядома, малаверагодна, але іншай магчымасці ў мяне няма. Я вельмі старанна цэлюся, цяпер я не магу прамахнуцца. Аднак яшчэ не паспяваю націснуць на спуск, як ззаду, цяжка дыхаючы, нехта валіцца ў варонку. Стрэл адбываецца заўчасны, і я адчуваю – не пацэліў.

Я падбіраю ногі і азіраюся. У варонцы малады баец з замурзаным зямлёю тварам і ў касцы, якая спаўзла яму на самыя вочы. Адзін рукаў ягонага шыняля прадраны і ў крыві. Я думаю, хлопец папросіць перавязаць.

– Фу, дабег! – задышліва кажа ён, зыркаючы вачыма па маіх пагонах. – Я во, каб чым-небудзь звязаць…

З-за пазухі на палу шыняля ён выкладвае некалькі гранат. Гэта «лімонкі». Я гляджу на іх і не цямлю: навошта іх звязваць? Звычайна звязваюць РГД, калі кідаюць пад танкі. А «лімонкі»? Усяго тры, ды і тыя немаведама як змацаваць разам.

– Я б сам, ды во! – варушыць ён акрываўленай без рукавіцы левай рукой. – Адной не ўпраўлюся.

– А кінеш? – недаверліва пытаюся я. Хлопец узнімае на мяне свае ўпартыя вочы.

– Кіну. Правая ж – во! Хай падыдуць.

– Сапраўды, можа, і варта паспрабаваць. Толькі чым іх звязаць у адно?

– А во, можа, абмоткай? – падказвае хлопец.

– Давай.

Мы хутка раскручваем з ягонай нагі зялёную скарэлую абмотку. Адклаўшы карабін, я неяк завязваю ў яе тры гранаты. Гранаты чорныя з зялёнымі ўзрывальнікамі. На планцы ў адной вышкрабана нечым вострым: «Коваль М.».

Побач зноў гахае, на галовы сышіецца снег. Я пазіраю на ланцуг – мабыць, хутка тут нікога ўжо і не застанецца. Вось тады яны, вядома, і пойдуць. А так навошта ім рызыкаваць?

– А вы, мусіць, снайпер? – кажа хлопец. Я азіраюся, і ён ківае галавой на танкі, – Лоўка яго! Бранябойным, ага?

– Гэта не я.

– Ды ну! Я ж бачыў, – з нярвовай упартасцю пярэчыць Коваль, скурчыўшыся на дне ямы.

Ён малады і нейкі дужа заядлы ў наіўнасці свайго намеру. Мяне гэта пачынае раздражняць.

– Ты вось што, – з прыкрасцю кідаю я. – Шпар лепш у тыл. Паранены... Няма чаго тут аціраццa.

Хлопец незадаволена зыркае на мяне чыстымі, але злымі вачыма.

– Не. Я падарву хоць аднаго гада.

– Падарвеш! Вось зараз як усмаліць – дык сам спярша падарвешся!

– Ды ну!

Баец недаверліва выглядае з варонкі. Здаецца, ён сапраўды наважыўся сваімі «лімонкамі» падарваць танк.

Так, яны смаляць. Яны ўвачавідкі выбіваюць наш ланцуг. Б’юць балванкамі і асколачнымі. Для кожнага – персанальны снарад. Ці не замнога гонару! Мусіць,

снарадаў у іх многа, вось яны і помсцяць за спалены танк. Капітана даўно няма, а танк, ім падпалены, усё гарыць.

– Тр-рах!

Мы абодва ўраз угінаемся, стукнуўшыся ў варонцы галовамі. Выбух акатвае плечы хваляю зямлі і снегу. Гэта, здаецца, па нас. Але варонка ратуе. Хлопец паднімае твар і пазірае на мяне. У ягоных вачах, аднак, ніколечкі страху. Толькі насцярожанасць і бязрадасная ўпартая цярплівасць.

– Ты даўно такі герой?

– Чаго? – не разумее хлопец.

– Ну, смелы такі даўно? – крычу я праз грымоцце выбухаў.

– Я злосны. А не смелы.

– Злосны?

– Ну! Бо безабразіе!..

Неарганізаванасць, бязладдзе – гэта факт. Адбілі палову Украіны, прарвалі фронт, акружылі Кіраваград. А тут вось няўвязка.

Мы вытрасаем з-за каўняроў снег і зямлю, і я думаю, ці не занадта яны ўжо выдаткаваліся на нас? Два снарады на адну цэль. Хоць трэці, мабыць, ужо будзе апошні. Ідыёцкая ўсё ж справа – чакаць пагібелі ў гэткай бездапаможнасці. У безвыходным, пакутным напружанні з’яўляецца жаданне, каб танкі зрушыліся з месца, хай пайшлі б хоць назад, хоць наперад, абы толькі ўнялі свой агонь. З часам я таксама пачынаю паглядваць на шэрую абмотку, у якой звязаны тры «лімонкі».

І тады невыразным бакавым позіркам я прыкмячаю над стэпам трасер. Не, гэта не куля. Чырвоная агнявая зорачка, пыхнуўшы на вежы танка, шырока сігае ў неба.

Я азіраюся на сяло – у вішанніку ля крайняе хаты стаіць «трыццацьчацвёрка». Адкуль яна ўзялася? І другая выпаўзае з двара і спыняецца за плятнём. Пераводжу позірк на вуліцу – і там, за мазанкамі і вішнякамі, варушацца шэрыя ў аблезлым зімовым камуфляжы танкі. Відаць, яны толькі што падышлі. Гэта нашыя танкі, іх не дужа багата, але яны падмога, паратунак, з імі ўжо нам лацно. «Ага, не падабаецца!» – крычу я. Той нямецкі танк, па якім выцяў снарад, затузаўся на месцы і спешна разварочвае вежу. Яшчэ адна бліскаўка мільгае цераз край пагорка над балкай, але нятрапна. Бранябойны плёскае ахапкам снегу ў борт рабога танка. Потым, адскочыўшы, рыкашэтам б’е ў снег яшчэ раз і знікае. Але тут джагаюць новыя трасеры. Сяло пачынае ярасную гарматную гаману, і яна так цяпер нам мілая.

З ланцуга ўжо нехта бяжыць уніз, да хат. Нехта ўстае і падае, мільгае сярод закапцелай, перамешанай са снегам зямлі, мусіць, хаваецца ў варонку. Ці не адыход? Здаецца, так і ёсць. Я неўзабаве бачу на снегавой шэрасці знаёмую постаць у куртцы – гэта Еўсюкоў. Ён бяжыць між варонак і махае астатнім рукой: назад!

А нямецкія танкі на схіле балкі, трывожна заварушыўшыся, заднім ходам таксама даюць назад. Выбухі на нашым пагорку амаль усе разам сціхаюць. Увесь свой агонь немцы пераносяць у сяло. Цераз нашыя галовы з двух бакоў джагаюць трасеры. Фурк-фурк! – ледзьве не збіваюць галовы балванкі. Але з балкі танкі не адыходзяць – яны перастройваюцца і забіраюць правей, збоч ад сяла. І мы нічым не можам перашкодзіць ім – там мы бяссільныя.

Што рабіць далей? Можа, цяпер мы тут і не патрэбны? Сапраўды, трэба адыходзіць – пагібель пакуль адтэрміноўваецца. Мо яшчэ ўсё і абыдзецца? Я падхопліваюся ў варонцы і гукаю байцу. Але ён, насупіўшы свае светлыя бровы, чамусьці не праяўляе ніякага спрыту.

– Ану, перабежкамі!

Коваль сапе і не варушыцца ў мяккім доле.

– Не пайду.

– Што? Ты каманду чуў?

– А што каманда? Я ранены.

Ён кратае нягнуткай левай рукой, другою прыцiскае да грудзей пакунак з гранатамi.

– Ты што, з глузду з’ехаў? – крычу я. – Што ты цяпер iм зробiш?

Нашыя ўсе перабягаюць па схiле ўнiз. Там нямецкiя танкi ўжо iх не ўбачаць. Гахае ў стэпе i на тым баку ў сяле. Пачалася танкавая дуэль, у якой пяхоце ўжо няма чаго рабiць.

– Не, – упарцiцца хлопец i выцягваецца на маiм належаным месцы. – Гады! Яны Маскальчука забiлi!

Ён раптам хлiпае i па брудным твары размазвае слёзы. Позiрк яго панылa ўпiраецца ў нямецкiя танкi. А тыя кудысь паўзуць i паўзуць. Напэўна, абходзяць сяло.

Тады хлопец хлiпае мацней i падхоплiваецца з варонкi. Я яшчэ не паспяваю сцямiць, як ён бяжыць з сваiмi гранатамi некуды ўбок. Цi не напярэймы танкам?

– Стой! Ты куды? Вярнiся!

Але ён нават не азiраецца. Неўзабаве падае ў нейкую варонку, пасля падхоплiваецца i бяжыць далей.

Вось дурань! Упартасцi i злосцi нават залiшне, а памяркоўнасцi – нi на грош. Няхай нават... ён iх дагонiць, дык што карысцi?

Хутка ён дзесьцi знiкае сярод варонак, мне ж трэба ў сяло. Як гэта нi дзiўна, а здаецца – яшчэ выпадзе пабачыць Юрку. Як ён там, дружа!.. I я выпаўзаю з варонкi на размецены выбухамi снег.

Знясіленыя і прыгнечаныя, мы брыдзем па неглыбокім снезе ў сяло.

Нас зусім мала, чалавек з дзесяць. Аднаго двое нясуць на шынялі. Адзін знямогла пляцецца, абапёршыся на таварыша. Усе маўчаць. Нехта проставалосы. Нехта прыціскае да боку абвіслую, як бізун, руку. Я шкандыбаю апошні. Карабін, які нічым не паслужыў мне супроць танкаў, цяпер памагае замест кастыля.

Вузенькай сцежкай па-над тынам мы выходзім на вуліцу і адразу натыкаемся на «віліс» і «додж». Яны дбайна прытулены пад сцяной хаты. Ля іх некалькі камандзіраў. Наперадзе відаць высокая шэрая папаха на маленькім вяртлявым палкоўніку. Гэты палкоўнік нейкім злым вокрыкам раптам спыняе ўсю нашу групу.

– Хто камандзір?

Хлопцы, па адным спыняючыся, паныла маўчаць, поўныя яшчэ перажытым. Нават не верыцца, што мы ўцалелі. А колькі пагінула ў варонках!.. Палкоўнік нецярпліва пераступае валёнкамі і ляскае сябе дубчыкам па халяве. Побач пастала некалькі камандзіраў з ягонай світы. Усе змрочна глядзяць на нас.

– Хто старшы, я пытаюся? – са стоенай пагрозай выкрыквае палкоўнік.

– Ну, я старшы, – падыходзячы, кажа Еўсюкоў. Ён па-ранейшаму расхрыстаны, з прарэхі курткі праглядае нацельная сарочка. Бінт на шыі ўвесь у крыві.

– Хто вы такі? Ваша званне? – тонам, які не абяцае дабра, пытаецца палкоўнік і сціскае голеныя пашчэнкі.

– Старшы артмайстар старшына Еўсюкоў, – змрочна рапартуе старшына, прыставіўшы нагу да нагі.

– Пачаму ўйшлі з вышыні? Хто дазволіў? – строга пытаецца палкоўнік і ва ўпор набліжаецца да старшыны.

Той напружваецца і нядобра зыркае на палкоўніка зацятым позіркам.

– А хто нам загадваў там быць?

Палкоўнік скаланаецца ад гэтае дзёрзкасці і робленым басам крычыць:

– Што? Я вас пытаюся, хто дазваляў пакінуць вышыню?! Вы што – у трыбунал захацелі?

Еўсюкоў неяк няўлад з гэтай строгасцю трудна ўздыхае і расслабляецца ўсёй сваёй вялікаю постаццю.

– Эх, дзе вы раней былі, таварыш палкоўнік!

Маленькі, чыста выгалены твар палкоўніка чырванее ад абурэння.

– Маўчаць! Вы з кім размаўляеце?..

– А пайшлі вы!.. – раптам кідае старшына і, схіліўшы голаў, рашуча крочыць на вуліцу.

Ён неяк аж хістаецца, бы п’яны. Нехта з камандзіраў адступае ўбок, даючы яму дарогу. Двое ўзнімаюць з долу параненага. Хлопцы памалу ідуць за сваім камандзірам.

– Старшына! Загадваю вярнуцца! – крычыць палкоўнік, на абцасах павярнуўшыся назад.

Следам за ўсімі іду я. Якраз параўноўваюся з ім, і недзе ўнутры ва мне загараецца крыўдлівае пачуццё несправядлівасці.

– Ён танкі спыніў. Каб не ён, немцы ўжо тут былі б!

Палкоўнік упіраецца ў мяне вострым позіркам і хвіліну няўцямна глядзіць, нібы не разумеючы, што я сказаў.

– Вы хто такі?

– Малодшы лейтэнант Васілевіч! – адразу ж выпальваю я, з выклікам уставіўшыся ў яго злы твар. Я не баюся.

Што ён мне зробіць, параненаму? Усё, на што мы намагліся, было па напіай добрай волі. Не думаючы ўжо выжыць, мы ляглі пад самыя танкі. Сапраўды, дзе ты тады быў, таварыш палкоўнік?

– Марш туды, малодшы лейтэнант! Загадваю падраздзяленню абараняць вышышю!

– У мяне няма падраздзялення.

– Як няма? Дзе ваша падраздзяленне? Марш адзін, сам! Чорт вас вазьмі! Я вас прымушу!..

– Я ранены! Во, не бачыце? – крычу ў адказ. Пасля перажытага гэты тон і патрабавальнасць, увесь гэты наскок невядомага палкоўніка раздражняе і злуе да ашалеласці.

Палкоўнік нешта крычыць і кідаецца да мяне, замахнуўшыся сваім дубцом. Але тут недзе побач гахае выбух, які, мабыць, першы раз у жыцці, мяне не палохае. Саломай і нейкай трухой б’е ў нашыя твары, чымсьці гарэлым густа асыпае наўкола снег. Палкоўнік падае, і тады я, наперакор сабе, нечакана спахопліваюся: ці не забіты? Чорт з ім, хай бы лепш жыў! Усё ж які-ніякі, а камандзір! Але я дарма палохаўся. Неўзабаве палкоўнік ускоквае, ускокваюць з-пад машын ягоныя камандзіры, і нечы ўстрывожаны голас вусцішна гукае:

– Таварыш палкоўнік, генерал!

На вуліцы да нас збочвае яшчэ адзін «віліс». Палкоўнік таропка абтрасае ад снегу бекешу, а я, абыякавы да ўсяго, брыду сабе, куды пайшлі нашы. Мяне ўжо не трымаюць: не да мяне. Неўзабаве чую, як генерал пачынае бэсціць палкоўніка:

– Што ў вас тут робіцца? Пачаму дарога не перакрыта? Пачаму не выкананы загад аб перадачы ІПТАПа?[4] Разгільдзяйства і галавацяпства! Я адхіляю вас ад камандавання...

Аказваецца, ён сам не выканаў загад, таму так і

накінуўся на нас. Але мы не можам замяніць сабой супрацьтанкавы полк. Мы не здольны загладзіць яго разгільдзяйства. Мы можам толькі загінуць. Аднак мы ўжо зрабілі нешта даволі значнае, да чаго не мае адносін гэты палкоўнік. І гэта дае нам права не падпарадкавацца. Не зусім усвядомлена яшчэ я адчуваю непахіснасць нашай праваты ў гэтым канфлікце.

Я бачу наперадзе, як нейкі баец з забінтаванай рукой аб чымсь пытае другога, сустрэчнага, і той паказвае яму ўздоўж вуліцы. Няцяжка здагадацца, што яны маюць на ўвазе. Я іду за гэтым, перавязаным, стараючыся не ўпусціць яго з вачэй. Тым болей што ўжо цямнее. Сонца на небе ўжо няма, і між хат туліцца вечаровы паўзмрок. Проста дзіўна, як хутка скончыўся дзень, які там, на пагорку, здаваўся бясконца доўгім. Танкі ў другім канцы сяла кудысьці адыходзяць. Цяпер страляніна і скогат балванак чуваць за пагоркам у стэпе. Там жа дым – ці то ад таго, падпаленага капітанам, ці мо ўжо ад новага. А можа, і нашага – магчыма і такое...

Ранейшыя перажыванні меншаюць, і мяне ўсё болей агортвае непакой за Юрку – ці жывы хоць? Няўжо не выжыве, сканае цяпер, калі цудам выбраліся з самага пекла. А цяпер нашыя танкі, мусіць, немцаў сюды ўжо не пусцяць. Тым болей калі з’явіўся генерал. Пэўна, ён навядзе парадак. Так я мяркую, шкандыбаючы па вуліцы. Дакладней, мне хочацца, каб было так. Я страшэнна змораны, пачуцці мае адранцвелі. Адзінае жаданне валодае мной – прыбіцца дзе-небудзь да цяпла і прылегчы...

Баец наперадзе зварочвае ў нейкую будыніну з абведзенымі сінім вокнамі. Гэта нейкі нежылы дом пад бляхаю, з высокім ганкам, мусіць, які былы сельсавет або ўправа. Неўзабаве з дапамогай свайго кастыля-карабіна дакульгваю туды і я. Скрыпучыя дзверы неахвотна адчыняюцца, прапускаючы мяне ў цемру.

– Ну, можа, і па трэцяй? Раз не пашанцавала з гасцініцай, дык хоць вып’ем, – расчырванеўшыся з твару і прыкметна падабрэлы, кажа Гарбацюк. – А чаму не ясі?

– Я ем.

– Што гэта за яда! Успомні, як, бывала, на фронце елі... Кацялок пшонкі на двух і праз хвіліну – як вылізаны. Ардынарцу і мыць не трэба.

– Кацялок давалі на чатырох. Прынамсі, у пяхоце.

– Ну, у пяхоце я не быў, – дабрадушна прызнаецца Гарбацюк.

Перад намі яшчэ нешта блішчыць у графінчыку. Ён пад’еў, паўнаватыя яго шчокі сыта блішчаць, вочы жмурацца ў добрасці. Я таксама гатовы падабрэць. Урэшце, чорт з ім, з гэтым Сахно! Памыліўся – дык яшчэ і лепш. Навошта мне з ім сустракацца? Ды і наогул ці жывы ён? Напэўна прыбілі дзе немцы, і ўсё. А я дваццаць год турбаваўся...

Гарбацюк адкладвае відэлец і камечыць у кулаку папяровую сурвэтку. Я аблакачваюся на стол. Карціць даведацца пра яго да канца. Каб ужо без сумненняў.

– Скажыце, вы не танкіст?

- А як жа! Танкіст! – з ганарлівай радасцю кажа Гарбацюк. – Тры гады ў танкавай арміі. Ад Вялікіх Лук да Берліна. Усе сцежкі-дарожкі прайшоў.

Выбух вясёлага смеху за ягонай спіной абрывае фразу. Ля чарнушкі, паклаўшы на яе плячо шырокую руку, усміхаецца плячысты бландзін.

– А цішэй нельга? – строга пытаецца Гарбацюк.

– Можна, – адказвае крайні за сталом, круглатвары і светлабровы ў цёмным гарнітуры хлапец. – Эрна, просяць на паўтона ніжэй.

– На паўтона ніжэй! – з гуллівай уладарнасцю загадвае Эрна суседу.

Той, пачакаўшы, пакуль за сталом уціхне ажыўленне, з тым жа знарочыстым пафасам гаворыць далей:

– Ну, скажыце! Скажыце, чаму я яе кахаю? Што ў ёй? Пастава? Грацыя? Хараство? – наіўна акругляючы вочы і жэстыкулюючы шырокай далонню, пытаецца ён. – Шпінгалет! Каго яна можа нарадзіць, такая блыха? Хіба што другую блыху. Гэта ў біялагічным плане. А ў грамадска-палітычным?..

– Адставака! Хвост па палітэканоміі... – самавыкрывальна напамінае Эрна.

– Грубіянка! – падказвае бліжэйшая да яе бландзінка.

Іншыя за сталом крычаць:

– Задзіра і насмешніца!

– У сценгазеце прадзёрнута!

– Паспрачалася з рэктарам...

– Правільна. Усё правільна. Дзякуй за дапамогу. Суцэльны перажытак мінулага. І часткова будучага. А я кахаю яе. І ўсё! Дык вытлумачце, чаму? Вы! Філосафы! Маралісты! Камсоргі! Біёлагі! Чаму, га?

Ён прытворна паціскае плячыма. Хлопцы наперабой штосьць спрабуюць давесці. Адна Эрна вельмі хітра ўсміхаецца пад яго рукой. Яна-то разумее гэта ягонае «чаму».

– Ну дык што ж! Узялі? – дзеля прыліку пытаецца Гарбацюк і разлівае рэшту. – Як кажуць, каб не апошнюю...

- Ну...

– А ўрэшце куды спяшацца? Пасядзім да закрыцця. – Ён адстаўляе чарку і закурвае. Смачна зацягваецца. Пасля

ўглядаецца ў мяне.

– Гляджу, нешта невясёлы. Што, характар такі?

– Характар.

- Адкуль прыехаў?

– Ды тут недалёка. З-пад Мінска.

– Ага. Беларус, значыць. А дзе працуеш?

– У клубе.

– Значыць, па культурнай лініі?

Мне непрыемны гэтыя роспыты, і, каб іх прыпыніць, я звяртаюся да яго:

– А вы на якой лініі?

– Я? Юрысконсульт. На паўстаўкі. Болей нявыгадна – пенсію рэжуць.

– Зразумела. Пенсіянер?

– Ды накшталт. Пяцьдзесят два гады. Але ў мяне выслуга. Усяго дваццаць восем. З ільготнымі, вядома.

«Нішто сабе, як кажуць, пратрубіў чалавек! Дваццаць восем год салдацкае лямкі – не жарты! У мяне тры, і то перажыванняў на ўсё жыццё...»

– Эх шкада, піўка не заказалі! Духата такая.

Ён паварочваецца да залы і кліча афіцыянтку:

– Дзевушка! Дзевушка! На хвілінку...

Але «дзевушка» не чуе або не хоча пачуць і ідзе сабе між сталоў на кухню. Тады ён устае.

– Ты пасядзі. Я закажу ўсё ж...

За сталом я астаюся адзін.

## 23

У хаце зусім цёмна (ці, можа, мне так здаецца) і вельмі людна. Так людна, што секууд некалькі я не ведаю, куды ступіць ад парога. І я стаю, узіраючыся праз паўзмрок у невыразныя плямы твараў, бінтоў, людскіх постацей на лаўках і на падлозе. У нос востра шыбае перакісам вадароду. Гэта абнадзейвае – значыць, медык тут ёсць, будзе на каго паспадзявацца.

– Во яшчэ адзін зашчытнічак! – з лёгкім гумарком гукае нехта ад сцяны. – Ну, як там: турнулі нямецкіх захопнікаў?

Я не маю ахвоты ні да якой размовы. Тым больш з такім вось дасціпнікам. Але па нейкіх ягоных гуллівых нотках адчуваю, што тут ёсць жанчына, і прыглядаюся ў паўзмрок, ці не Каця?

– Адбіліся, – кажу я.

Ад чорнай круглай грубкі, ля якой поркаюцца байцы, на мой голас павяртаецца нехта ў паўшубку. Сапраўды з-пад шапкі ўскідваюцца знаёмыя вочы Каці.

– А, младшой! А тут дружок ужо зусім нос павесіў. Думалі, хана табе.

Каця ўстае, і тады я бачу ў доле на разасланых шынялях Юрку. Ён ляжыць на спіне, без гімнасцёркі, па грудзях туга спавіты бінтамі, і ледзьве прыкметна спрабуе ўсміхнуцца мне куточкамі сваіх вуснаў.

На некага наступіўшы, не зважаючы на лаянку, я падаюся да сябра і нязграбна апускаюся ля яго на калена.

– Юра! Юр... Ну, як табе? Лягчэй? Га, Юрка?

Я ўзіраюся ў яго шэры, без адзінай крывінкі твар з вострым, нейкім не Юркавым носам. Без адказу адчуваю, справа яго дрэнь. Блага Юрку! І нават яшчэ як блага!

– Так, нічога... Лягчэй... – шэпча вуснамі Юрка.

У яго зацененых вачах на секунду загараецца радасць, якая, аднак, зараз жа і гасне. Я ўсё гэта бачу. Я разумею... і я хачу яго падбадзёрыць:

– Знаеш, адбіліся! Танкі падышлі. А то былі б нам канцы. Цяпер мы цябе ў шпіталь. У першую чаргу, – кажу я, верачы, што адпраўлю яго. Цяпер я ўжо дамагуся. Але тут побач нехта недаверліва сапе:

– Глядзі, адправіш! На самалёце хіба?

– Чаму на самалёце? – няўцямна пытаюся я, і раптам гэтая рэпліка мяне насцярожвае. Я павяртаю галаў – пад сцяной ля самых дзвярэй з вінтоўкаю між каленяў сядзіць ды смокча цыгарку нейкі баец. І побач (глядзі ты: зноў тут як тут!) дрэмле мой немец.

– Чаму самалётам? – падазраючы нядобрае, пытаюся я. – Машынай, падводай адправім. Бачыце, цяжкапаранены?!

– Гм!.. Мы-то бачым. А вось ты...

– А што? Што я не бачу?

Я ўжо гатовы ўзарвацца, бо стрыманасці мне не хапае, не трываюць нервы. Што тут яшчэ здарылася?

– Трапілі, во што. Між молатам і кавадлам...

– Ну ты там! – строга раздаецца з кута ад стала знаёмы голас. – Пракрашчай разгаворчыкі!

Ну, вядома, тут і капітан Сахно... У цёмным куце. Яго адсюль амаль не відаць, – ён жа, мусіць, бачыць усіх. І нешта ён тут дужа па-начальніцку прыкрыквае – мусіць, старшы па званню. Як ад болю, сцяўшыся ад нядобрага прадчування, я пазіраю то на яго, то на байца ля парога. Але той змаўкае і толькі падміргвае мне адным вокам:

– Паняў?

Так, зразумеў. Ведама ж, няхітрая справа зноў трапіць пад удар, калі ў тыле чорт ведае што. Чаго тут чакаць, апроч як удару, акружэння, разгрому. Але ж ёсць і нашыя танкі. Гэта ім не сорак першы год. Не, мабыць, панікаваць яшчэ рана. Яшчэ пабачым, хто трапіць на кавадла...

– Ладна, годзе вешаць насы, – кажа Каця, прабіраючыся ад дзвярэй. Яна нясе кацялок з гарачай вадой. З-пад вечка густа ідзе пара. – На во, напаі гарачым. Ды сагрэць яго трэба. Ану, славяне, у каго кажух лішні? – гукае яна да параненых. – Тут цяжолага сагрэць трэба.

– Бяры мой, – чуецца ў цемры. – Усё роўна не ўсцягну. Толькі во рукаў адарваны.

– Ладна, давай.

Нехта з забінтаваным плячом падае ёй паўшубак. Каця клапотна ўхутвае ім Юрку. Затым я, разліўшы трохі вады, паю сябра. Яго сцятыя зубы ціха лязгаюць па алюмініевым краі кацялка. Напіўшыся, Юрка часта ды трудна дыхае.

– О так... Цяпер лепей...

– Ну і добра, – кажа Каця. – Сагрэйся і засні. Сон лечыць лепш за прафесара.

– Ладна. Дзякуй... – шэпча Юрка, і ягоныя пасінелыя вейкі знямогла заплюшчваюцца. Каця павяртаецца да мяне:

– А як твая нага, малодшы? Ану, пакажы. – Яна рашуча і бесцырымонна лапае маю бедалагу-нагу і сварыцца: – Гэта называецца перавязка! Паглядзі, што тут у цябе робіцца!..

Я і сам ведаю, што там робіцца. Бінты мае раскіслі ад снегу, спаўзлі, разматляліся. Усё там скрываўленае і мокрае. Хваравіта-чуйная да цвёрдых Каціных рук, нага, мусіць, яшчэ і памарожана. Пальцы, здаецца, зусім ужо анямелі. Каб не перажываць залішне, я, сцяўшы зубы, адварочваюся. Насупраць пад сцяной сядзіць «мой»

немец. Трымаецца ён ціха, нават баязліва, з пакорай на твары. На ягоных плячах усё той жа шынялёк, на галаве казыркастая шапка. Рукамі ён ашчапервае калені і быццам дрэмле. Ягоны канваір ля парога, зарослы шчаціннем дзядзька, дакурвае цыгарку, і нехта са змроку просіць:

– Сараковачку пакінь, браток. Га?

Баец яшчэ разы два цмыгае і, ступіўшы між целаў на падлогу, цягнецца да выстаўленай з цемры рукі. Мае вочы пачынаюць ужо што-колечы бачыць у гэтым сутонні. Між байцоў я пазнаю на лаўцы ўратаванага намі лётчыка. Ён нерухома ляжыць, бы нежывы, пад сваімі бінтамі і толькі час ад часу стрымана стогне. Але стогнуць многія. Ціхіх стогнаў, крэкту і вохаў тут поўная хата.

– Ану, назад! – зараз жа раздаецца з-за стала каманда Сахно. – Не забывайцеся, да каго прыстаўлены! Баец вяла апраўдваецца:

– Ды не ўцячэ! Я ж усё бачу.

– Дрэнна бачыце!..

У гэты час зусім побач са мной пачынае варушыцца нехта ў паўшубку з настаўленым каўняром. Здаецца, ён дагэтуль драмаў, прыхінуўшыся да сцяны, і цяпер асіпла са сну гаворыць:

– Не турбуйцеся. Я пагляджу.

Затым адкашліваецца і, зусім як немец, нешта скорагаворкай звяртаецца да палоннага. Гэта мяне здзіўляе: глядзі ты, ведае па-нямецку! На фронце такое здараецца не часта. Немец ціха нешта адказвае, і мой сусед абвяшчае:

– Ён гаворыць, што сам здаўся ў палон і назад перабягаць не збіраецца.

– Прыпёрлі, дык здаўся. А наогул я не пытаюся, што ён там гаворыць! – суха абрывае яго Сахно. – І вы лепш

памаўчалі б, лейтэнант.

Лейтэнант бяскрыўдна змаўкае, а маю нагу раптам працінае востры нутраны боль. Я незнарок скаланаюся. Каця нязлосна прыкрыквае:

– Ціха, ты! Што брыкаешся, як дзеўка!

– Ого, так ірванула...

– Ладна. Стрываеш. А галава як? Нішто?

– Галава нічога, – кажу я, абы не чапаць раны.

Каця пачынае туга аббінтоўваць ступню, і я зноў пазіраю на лейтэнанта, які пачынае ладзіць сабе закурку. Ён абуджае ў мяне цікавасць. Тое, што ён так складна загаварыў па-нямецку, яго тон і яшчэ нешта амаль незаўважнае ў яго голасе няўлоўна выдае ў ім інтэлігента, відаць, прызванага з запасу. Гэтыя людзі заўжды выклікаюць ва мне нейкую павагу, бо ёсць у іх штосьці цікавае і значнае, чаго часцяком не хапае кадравым. І хоць няёмка мне набівацца цяпер у знаёмства, усё ж я пытаюся:

– Вы не са сто адзінаццатай?

Лейтэнант слініць паперку і не вельмі спрытна склейвае з яе цыгарку. Адразу відаць, што да самакрутак яшчэ не прывык.

– Не. Я з упраўлення арміі. З газеты.

– Што, з рэдакцыі?

– Угадалі. А што вас здзіўляе?

– Ды так, нічога, – адказваю я, хоць сапраўды трошкі здзіўлены такім знаёмствам.

Мне яшчэ не даводзілася сустракаць журналістаў, тым болей на фронце. І я проста не магу ўжо схаваць мае цікаўнасці да гэтага чалавека. А ён, здаецца, абыякавы да ўсяго тут. Засяроджана прыкурвае ад запалкі і

смачна зацягваецца. Шчокі яго, калючыя ад чорнага маладога шчаціння, здаюцца глыбока запалымі. Хударлявы, нейкі нават хваравіты твар непрыгожы. Хоць па званню гэты чалавек амаль раўня нам, па ўзросту ён старэй за нас год на пятнаццаць. Я кідаю позірк на Юрку і таксама лаўлю ў ягоных вачах стоены водбліск цікаўнасці. Дзіва што: я памятаю, як некалі Юрка расказваў пра свае даваенныя мары стаць журналістам...

Лейтэнант моўчкі курыць, і размова наша не вяжацца.

– Ну вось і ўсё, – кажа Каця нарэшце, абрываючы бінт. – Беражы рану. А то столькі бруду набілася!..

Яна зазірае на Юрку, але вочы ў таго ўжо заплюшчаны, і дзяўчына сцішана, толькі мне аднаму, паведамляе:

– За ім глядзець трэба. Слабы ён. Каб часам не...

Я ўздыхаю. Здаецца мне, Юркавы вейкі ледзьве ўздрыгваюць у цемры. Мабыць, ён прыкмячае нашую на сабе ўвагу.

– Нічога. Як-небудзь...

– Сястра! Мне во перавязаць трэба! – кліча хтось Кацю.

– Раней мне. Я ўжо даўно чакаю.

– Зараз, зараз, родненькія. Не ўсім адразу.

Каця прабіраецца між людзей далей, а Юрка, прыкметна напружваючыся, каб стрымаць стогн, пытаецца:

– Што, пяхоты ў немцаў багата?

– Знаеш, пяхоты не было, Юрка. Калі б пяхота, нам бы не ўтрымацца. А так з тузін танкаў. Двох падпалілі.

Юрка расплюшчвае пакутніцкія вочы і нерухомым поглядам устаўляецца кудысь у змрочнае невысокае падстолле.

– Ведаеш, дэсант – гэта сіла. Калі давядзецца ўдзельнічаць, трэба як мага... бліжэй пад’ехаць. Галоўнае... не спяшацца саскокваць. Чым бліжэй да іх, тым... лепей. Я ведаю...

– Ну, вядома, – згаджаюся я, хоць у танкавым дэсанце яшчэ не быў. Але я бачу, як трудна Юрку гаварыць: засмяглыя яго вусны няслушна шавеляцца.

– Так... Дай вады. Пячэ вельмі, халера... Я прыўзнімаю яго галаву і нагінаю кацялок. Юрка, аднак, бярэ ў рот маленькі, трудны глыток.

– Блага? Ты ляжы. Маўчы лепш.

– Ладна...

Юрка пакутна апускае вейкі і выдыхае.

– Цяпер я няхутка. Даўбанула як мае быць... Цяпер паваляюся. А калі будуць машыны?

– Машыны? Будуць, Юр. Ты пацярпі трошкі. Я чуў, там генерал распараджаўся ыаконт параненых.

– Ну што ж... – цярпліва згаджаецца Юрка. – Што гэта я хацеў табе сказаць?.. Будзеш ваяваць... раздабудзь эмга сорак два. Не глядзі... што нямецкія. Гэта кулямёты... Класныя... Навучыш хлопцаў... лепш за станкачы будуць. Патронаў... у наступленні хопіць. У мяне чатыры было. Падабраў...

Сэнс ягоных апошніх слоў наводзіць мяне на пэўнае падазрэнне. Падобна на тое, што ён ужо не мае надзеі выкарыстаць свой вопыт і хоча перадаць яго мне.

– Добра, Юрка. Яшчэ паваюем. І дзегцярамі і эмга. Не ўнывай, Юра!

– Та-ак! І яшчэ трэба страляць. У наступленні. А то... яны нас нішчаць, а мы... Слабы ў нас агонь. Стралковы. Панімаеш? Слабіна...

Ён змаўкае, і я не адзываюся. Здаецца, ён засынае. Я

толькі пільна ўзіраюся ў ягоны схуднелы за гэты дзень твар, які нерухома шарэе на скамечаным сукне шыняля. Думка-сумненне точыць мяне: ці выберамся адсюль? Я-то яшчэ як-колечы маюся. А вось Юрка... Эх, Юрка, Юрка!..

Я пачынаю прыслухоўвацца да сцішанай гаманы ў хаце, па гукаў знадворку. Цяпер у такім нашым становішчы ўсё мае сваё значэнне... Я думаю, што параненых пара б адправіць у тыл, калі б была дарога. Але калі ніхто аб тым не турбуецца, дык, мабыць, сапраўды ходу адсюль няма. Тады трэба чакаць. Толькі чаго дачакаемся?

За акном неяк адразу віднее – гэта ўзыходзіць месяц. Край яго ярка ўразаецца ў замутнелую ад прымаразку шыбу. У хаце таксама святлае. Толькі па кутах і ў падстоллі туляцца мяккія, шэрыя прыцемкі.

Лейтэнант пад сцяной усё ж ціха перагаворваецца з немцам. Я прыслухоўваюся, і карэспандэнт, заўважыўшы гэта, гаворыць:

– Ён кажа, што вы яго ў палон узялі?

– Не ўзяў. Толькі вёў. Ды не давёў.

– Чаму?

– На танкі наскочылі. Было трое, ды вось адзін застаўся.

Лейтэнант вымаўляе да немца нейкую доўгую фразу. Немец ахвотна і падрабязна адказвае. З іхняй гаманы я разумею толькі некалькі слоў: лерэр, Бунцлау, яфрэйтар.Лейтэнант выслухоўвае і павяртаецца да мяне.

– Яго прозвішча Энгель. Ён сельскі настаўнік з Сілезіі. А яго камарад быў нацыст. Той выпадкова трапіў у палон. Звычайна такія не здаюцца.

І яны напаўголаса перагаворваюцца зноў.

Я міжвольна прыцінаю дыханне, спадзеючыся пачуць нешта цікавае. Аднак разумею па-нямецку я не багата і

не магу разабраць сэнсу іх хуткіх невыразных фраз. Здаецца, яны кранаюць філасофію, бо я чую знаёмыя імёны: Кант, Ніцшэ, Шапенгауэр. Лейтэнант пры тым ажыўляецца. Энгель адказвае коратка, нярэдка паціскаючы плячыма.

Аднак яны выпускаюць з-пад увагі Сахно, які, не марудзячы, напамінае аб сабе.

– Лейтэнант, падыдзіце сюды! – стрымана кліча ён з-за стала.

– Вы хочаце мне нешта паведаміць? – пытаецца лейтэнант.

Сахно, аднак, зацята маўчыць, і лейтэнант, памарудзіўшы, нетаропка ўстае з-пад сцяны.

З хвіліну ў іх там адбываецца, відаць, не вельмі прыемная размова, якой мне адсюль не чуваць. І калі лейтэнант вяртаецца на сваё месца, па ягоным выглядзе я разумею, што гутаркі з немцам у іх ужо не будзе. Лейтэнант шматзначна ўздыхае.

– Да, дзіўная камандзіровачка!.. Паехаў напісаць нарыс пра наступленне. Ды вось абярнулася, што сам на аловак трапіў...

– А вы напішыце і пра гэта.

Лейтэнант соўгае бровамі.

– Пра гэта не напішаш.

**24**

У хаце робіцца ціха...

Мусіць, я пачынаю драмаць, ды раптам прахопліваюся, бо, здаецца, штосьці гаворыць Юрка. Сапраўды, ён неспакойна матляе галавой. Паўшубак споўз з ягоных грудзей, вочы заплюшчаны. З раптоўна ахапіўшай мяне трывогай я дакранаюся да яго лба. Ён сухі і палае ў

гарачцы. Юрка на мой дотык, аднак, не рэагуе.

У хаце па-ранейшаму відна. Гамана, зрэшты, прыціхла. Мусіць, параненыя спяць. Хоць наўрад ці ўсе спяць – ля парога варушыцца канваір. На нерухомым твары суседа пад сцяной напружана раскрытыя вочы. У іх раздумна трымціць знаёмы мне неспакой – як усё гэта абернецца?

– Юр... Вады, га? На вады, Юра...

Юрка не адказвае, толькі матляе крута адкінутай галавой і дробненька-часта дыхае. У грудзях у яго мокры булькотны хрып, які чуваць нават зводдаль. На вуснах – роспачна-трывожны шэпт:

– Ну!.. Што ты? Мамачка!.. Не трэба!.. Не трэба!.. Ну, што ты! Так!.. Інакш нельга...

Я прыслухоўваюся і разумею – Юрка трызніць. Гэта ўжо кепска: ён у непрытомнасці. Але што рабіць?

– Чаму ты не ідзеш?.. Оля!.. Аленка!.. Ты даруй... Я ўсё разумею... Олечка... Мама!..

Вядома, гэта трызненне, але нейкі час я міжвольна стараюся пранікнуць у сэнс Юркавых слоў. Толькі дарма. Тады я пачынаю баяцца, каб з Юркам не здарылася тое самае горшае, што цяпер так блізка ля яго. І ў гэты час водгукі новай падзеі далятаюць да нашай хаціны.

Спачатку нехта быццам спрасонку няпэўна заўважае: «Гудуць, га?» Заняты сваім клопатам, я не звяртаю на тое асаблівай увагі. Потым да слыху пачынае даносіцца знадворку знаёмы вышынны гул. Ён хутка мацнее, і вось у зямлі пад намі аддаюцца першыя выбухі. Гэта бамбёжка. Праўда, бамбяць дзесь далёка. Ва ўсякім разе, не ў гэтым сяле. Але бамбяць, чуваць па ўсім, немцы. Нехта, напусціўшы ў хату сцюжы, выходзіць на двор. За ім да дзвярэй лезе другі. Сонны спакой у хаце мінаецца. Па кутках пачынаецца буркатня і застарэлы прастудны кашаль.

– Наляцелі каршуны праклятыя! Цяпер дадуць

прыкурыць...

– Хоць бы не сюды. Хай іх халера! Страх не люблю бамбёжак.

– Хто іх любіць!

І раптам гул нібы прарываецца з месячнай нябеснай вышыні. Недзе, ужо зусім блізка (ці не на ваколіцы?) гахаюць запар некалькі раскацістых бомбавых выбухаў. Наш дом спуджана ўздрыгвае ўсімі сваімі чатырма сценамі. У куце з бразгатам падае на падлогу кацялок.

– Дачакаліся! – выпальвае хтось у змроку, і па рэзкім крыўдлівым голасе я пазнаю нашага знаёмага лётчыка. – Дачакаліся, маць іх за нагу! Дзе начальства?! – амаль роспачна выкрыквае ён.

Але начальства няма. Мы ўсе тут аднолькава радавыя – параненыя. І толькі Каця, як і шмат ужо разоў у такіх выпадках, грубавата прыкрыквае:

– Ану, усе ўніз! Усе на падлогу! Прэч з лавак!

Параненыя неахвотна злазяць са сталоў, з лавак і месцяцца на доле.

Я пазіраю ў кут – за сталом ужо нікога няма. Сахно, пэўна, недзе схаваўся. І толькі на сярэдзіне хаты – падсветленая месяцам постаць Каці ў накінутым на плечы паўшубку.

– Лажыся, лажыся! І каб ціха. Ніякай панікі!..

Блізка за сялом пачынаецца грымотная калатнеча бамбёжкі. Выбухі, адзін мацней за другі, разрываюць ноч. Зямля кожны раз апантана здрыгаецца. Са столі на нашы галовы нешта сыплецца. Мы, стаіўшы дыханне, ціснемся да падлогі, услухоўваемся і напружана чакаем, калі ж урэшце скончыцца гэтае праклятае выпрабаванне. Нехта тым часам лаецца. Нехта ціха сам сабе стогне. На вуліцы бегатня і ўстрывожаныя рэдкія воклічы. А ля мяне ўсім целам калоціцца, кідаецца ў гарачцы Юрка.

– Мам... Мамачка, стой! Не ідзі. Агонь... Куды ён? Куды коціцца? Трымайце ж вы...

Над хатай цяжкі маторны грукат. Здаецца, з неба рушыцца нешта агромніста-страшнае. Але яно праносіцца ўгары міма, і ноч скаланаюць два выбухі. Агнявыя водбліскі ў вокнах на некалькі секунд асляпляюць нас. Здаецца, разляціцца дашчэнту хата. І нават дзіўна, калі праз імгненне аказваецца, што яна стаіць, як стаяла. Толькі чамусь са спазнелым грукатам расчыняюцца на ганак дзверы. Але гэта не ад бомбы. Гэта нейкі баец урываецца ў наш прытулак.

– Гэй, славяне! – утрапёна крычыць ён з парога. – На тым канцы немцы!..

У хаце сутаргавы рух, і ўсе нямеюць. На імгненне нас скоўвае збянтэжанасць, за якой нехта нядобра лаецца.

– Гінуць, ці што? У канцы канцоў...

– Чаму нас пакінулі? Дзе справядлівасць? Дзе клопат пра раненых?

– Ціха! Ці-ха! – прарываючы гаману, зноў раздаецца голас Сахно. – Я забараняю! Спыніць размовы!

– Хто там забараняе?! – крычыць з-пад лаўкі лётчык. – Ты вунь забарані нас дабіваць. Дзе начальства? Давай начальства!

– Трэба да начальства!..

– Генерала сюды! – гудуць устрывожаныя галасы. Нехта, кульгаючы, спешна выходзіць з хаты.

За ім да дзвярэй прабіраюцца яшчэ двое. Тады ў парог аднекуль з кута лезе сутулая постаць Сахно.

– Стой! Спыніць паніку! Я загадваю!

Хата робіцца як раз’юшаны, растрывожаны мурашнік.

– Пры чым тут паніка?!

– Пайшоў ты...

– Знайшоўся пугала! Не такіх бачылі!

– Ты начальства давай!

– Давай транспарт! Мы таксама жыць хочам.

Людзі ўстаюць, хто можа. Іншыя ляжаць. Бамбёжка, здаецца, уціхае. Гул угары аддаляецца. Мабыць, самалёты павяртаюць назад. Затое становіцца мацнейшай кулямётная траскатня. З расчыненых дзвярэй у хату валяць клубы сцюжы.

Ціха, але зусім па-мужчынску вылаяўшыся, да выхаду лезе Каця.

– Не, ужо ўчарашняга не будзе! – кажа яна. – Я зараз...

Дзяўчына хоча выйсці, але шлях ёй загароджвае Сахно. Упершыся нагой у вушак, ён стаіць у расчыненых дзвярах. У здаровай яго руцэ пісталет.

– Назад!

– Ты што – ачумеў? Ану, пусці! Я да начальства.

– Назад! – у нейкай звярынай зацятасці гыркае Сахно.

Каця раптам дужа штурхае яго і, прыгнуўшыся, шмыгае ў дзверы.

– Назад! Застрэлю!

Ён і сапраўды страляе, нечакана глушачы ўсіх нас. У мяне здрыгаецца сэрца: ці не здурнеў ён, гэты законнік? Побач узнімаецца з падлогі лейтэнант і разважлівым голасам звяртаецца да раз’юшанага капітана:

– Паслухайце, што за спектакль? Сапраўды трэба далажыць начальству. Трэба ж эвакуіраваць параненых. Што вы ўперліся?

– Маўчаць! Я загадваю – маўчаць!

Шырока расставіўшы ногі, Сахно шэраю нязрушнай глыбай стаіць у дзвярах. Шсталет ягоны скіраваны ў хату. На падлозе робіцца вельмі сцюдзёна.

– Яму абы маўчаць! – злосна зазначае нехта.

Аднак патроху ў хаце змаўкаюць. Хто ведае, чаго можна чакаць ад гэтага чалавека.

Сахно стаіць так даволі доўга, і мы ўсе маўчым. Толькі абпалены гучней, чым раней, стогне пад акном. Юрка сціхае і дробненька, булькотна дыхае. Я не магу даўмецца, што рабіць з ім, калі зноў, як і раніцай, давядзецца ўцякаць з сяла. Ці не лепш ужо адразу застрэліць яго і сябе?.. Аўтаматныя чэргі за аколіцай то прыціхаюць, то зноў густа рассыпаюцца ўначы.

Але вось на вуліцы ўсчынаецца гамана. Пад акном рыпяць нечыя таропкія крокі – там група людзей. Ці не па нас? Коратка рыпае ганак, і прамень ліхтара ярка ўпіраецца ў настырчаную постаць Сахно.

– Тут хто?

– Тут параненыя, – змрочна, быццам нават незадаволена, адказвае Сахно. Аднак з парога не саступае.

– А вы хто? Што вы тут робіце? – асвятліўшы пісталет у руцэ капітана, строга пытаецца камандзір.

Раптам яркі прамень з ліхтарыка мільгае па нас на падлозе. Усе жмурацца.

– Я прысякаю паніку! – усё тым жа тонам кажа Сахно.

– Паніку?

– Іменна так. Паніку.

– Якую там паніку! – развяжліва кажа нехта з цемрадзі хаты. – Нас у шпіталь трэба. Тут цяжкапараненыя ёсць.

Постаць невядомага павяртаецца да людзей. Ягоны

моцны ліхтарык гойсае туды-сюды па аблеглых на падлозе людзях і спыняецца. Скрозь – шынялі, паўшубкі, бінты і насцярожаныя нерухомыя твары...

– Я не ўпаўнаважаны наконт эвакуацыі, – цвёрдым камандзірскім голасам абвяшчае апяразаны рамянямі чалавек. – Сяло абыходзяць немцы... Палкоўнік Гардзееў загадаў: усіх у строй. Хто можа, прашу за мной! Зараз жа!

– Гэта іншая справа, – пасля кароценькай паўзы адгукаецца нехта ў куце.

– Па-людску. А то пісталетам грозіцца...

– Ану, выходзь, хто можа!

– Вядома, выходзь! А то ўсім крышка.

З кута неўзабаве выбіраюцца двое. Устае нехта ад парога. Уздыхнуўшы, нялёгка ўзнімаецца лейтэнант з рэдакцыі. Я не ведаю, як быць мне. Няёмка адставаць ад іншых і не хочацца больш пакідаць Юрку. Адчуваю, без мяне ён загіне. Зноў праклятая нага востра разбалелася на ноч.

– Стой! – нібы спахапіўшыся, зноў крычыць Сахно. – Маёр, спыніце людзей! Тут неправераны элемент.

Маёр, які ўжо рушыў з дзвярэй, недзе спыняецца і бліскае на Сахно ліхтарыкам.

– Які элемент?

– Распрапагандаваны, антынастроены элемент. Тут размовы...

– А кіньце вы, капітан! Якія размовы...

Маёр выключае ліхтарык і знікае на ганку. За ім выходзяць чацвёра байцоў. Сахно некалькі секунд збянтэжана стаіць у дзвярах, пасля кідаецца за імі следам.

– Маёр, вы будзеце адказваць! Я далажу палкоўніку! – даносіцца ўжо знадворку.

Нехта ў хаце зноў брыдка лаецца.

Лейтэнант ля сцяны няспешна рыхтуецца ісці. Спачатку ён старанна апускае вушы свае шапкі. Затым дастае з кішэні трохпалыя рукавіцы. Усе яго рухі паныла-замаруджаныя. Я бачу і ўсё разумею, як не хочацца яму ісці туды, адкуль, хто ведае, ці суджана будзе вярнуцца. Ля яго ног пакорна сядзіць, чагосьці чакаючы, немец. Я ў разгубленасці – што рабіць? Лейтэнант кідае позірк уніз на мяне, пасля – на Юрку. І я думаю, калі толькі ён скажа «пойдзем» – я ўстану. Але ён старанна ўсцягвае на пальцы рукавіцы і кораценька ўсміхаецца.

– Ну, будзьце жывыя. Жадаю як-небудзь выбрацца адсюль.

– Шчасліва! – кажу я, амаль расчулена. Не ведаю чаму, але за якую гадзіну ў маёй душы выспела нейкая неўсвядомленая яшчэ прыхільнасць да гэтага чалавека. З'яўляецца і знікае кароткае шкадаванне, што не пазнаёміліся як след, не пагутарылі. Але што ж... Мне хочацца напаследак чым-колечы памагчы яму.

– Вазьміце мой карабін.

– Не, дзякуй. У мяне пісталет, – кранае ён сваю кірзавую кабуру, – А зрэшты, усё адно. Там танкі.

Ён пераступае цераз маю нагу і выходзіць праз расчыненыя дзверы на заліты месячным святлом двор. Я ж застаюся, пакутліва развважаючы над невясёлым сэнсам ягоных апошніх слоў. У хаце робіцца самотна і пуста.

Ведама ж, не першы раз – кожны дзень адыходзяць назаўжды людзі. Таварышы, малазнаёмыя і зусім незнаёмыя. Адыходзяць, нечым закрануўшы душу і пакінуўшы ў ёй не заўжды зразумелы след. Многія і не вяртаюцца болей у наша жыццё, і сярод іх – слаўныя, так сабе, а то і благія таксама. І нам неўздагад часам,

што ўсе яны пэўным чынам фарміруюць нас, нярэдка насупраць нашае волі лепяць нашы характары, нашы чалавечыя якасці. Пайшоў вось і Сахно, і нам тут ажно палягчэла – ну і чалавек! А з лейтэнантам я не хацеў бы ніколі разлучацца. Хоць і зусім не ведаю яго.

Юрка, што мне рабіць з табой? Няўжо на гэты раз мы не выберамся з праклятага ліха, у якое гэтак нечакана ўвязлі? Няўжо я так і не ўберагу цябе? І дзе ж гэта наша ратавальніца Каця, нешта ўжо яна бавіцца. Мо пакінула нас? Сапраўды, хто мы ёй: выпадковыя спадарожнікі? Навошта ёй гінуць з намі?

У хаце прастарнее і сцюдзянее. На падлозе ляжаць адны цяжкапараненыя. Ля парога, на ранейшым месцы, хутаецца ў шынель немец. Канваіра ля яго ўжо няма. Знік Сахно, мусіць, уцёк і канваір. А немец не ўцякае. Скурчыўся і чакае чагосьці, забыты і пакінуты няўдака-палонны, да якога тут ні ў кога няма справы. Пад акном трасецца ў нейкім нервовым параксізме лётчык. Я падтыкаю пад Юрку канцы паўшубка і на каленях падпаўзаю да гэтага абгарэлага бедалагі. Хоць, папраўдзе, ён ужо нямала і надакучыў нам. Але і яму не соладка.

– Як вы? Можа, памагчы чым?

– Так. Павінен памагчы! – хуценька і настырна просіць лётчык. – Друг! Не дай мне загінуць. Мяне камандуючы ведае. Я дваццаць «месераў» збіў. Я да Героя прадстаўлены. Ты павінен звязацца з камандуючым. З самім камандуючым. Ты разумееш?

– Як тут з ім звяжашся?

– Ты павінен звязацца. Або хай выдзеляць танк. Хай адвязуць мяне ў танку. Я не павінен загінуць...

Не, гэта не тое. Гэта занадта банальна. Ён баіцца загінуць! Быццам астатнім тут усё роўна – жыць ці памерці... Нібы таму, што ён прадстаўлены да Героя, яго жыццё зрабілася даражэйшае. А Юрка прадстаўлены толькі да «Айчыннай», дык што ж яму –

гінуць?

Зануда! Спачуванне да яго раптам мяняецца на прыкрасць. Дае ж Бог такіх вось людзей! Я нават не ведаю, хто ён – афіцэр ці сяржант. Але ён мне канчаткова агідны.

– Друг, ты панімаеш? Інакш я загіну! Ты чуеш?

Так, я чую. Але я вяртаюся да Юркі, не маючы жадання яго суцяшаць. У самога ад тужлівага прадчування заходзіцца сэрца. За ваколіцай ваўсю грыміць бой – і танкавыя стрэлы, і аўтаматы. Я адчуваю: будзе ой як кепска! Каб хоць вярнулася Каця, з ёю неяк спакайней. Мы ўжо прывыклі за гэтыя суткі да яе грубаватага клопату. Я дзіўлюся: сапраўды, толькі адны суткі, як я сустрэў яе, а здаецца, ведаю ўжо даўно! Дзіўна, яна непрыгожая, рэзкая, а ўвогуле такая надзейная. Мабыць, на вайне гэта галоўнае.

Сцішыўшыся, я прысланяюся да сцяны поплеч з немцам. Услухоўваюся ў траскатню бойкі і пачынаю чакаць Кацю. Неўзабаве чую, як нехта тупае па ганку, потым мацае рукой клямку. Я ўжо гатовы ўбачыць Кацю, але замест яе на парозе з’яўляецца Сахно.

– Так. Хто ўдзень быў на вышыні? – суха пытаецца ён тонам камандзіра, які атрымаў несправядлівы наганяй ад начальства.

Людзі ў хаце насцярожана прыцінаюць стогны.

– Я пытаюся: хто абараняў за сялом вышыню?

– Якую вышыню? – пытаецца нехта з абвязанай, у шынах, рукой. – Тую, дзе танкі?

– Да. Тую.

– Ну, і я абараняў. А што?

– Прозвішча? – зацята пытаецца Сахно.

– А навошта? Ордэн дасцё, ці што? – зусім не ў тон

капітану жартуе паранены. – Цвіркун, ну…

– Як?

– Яфрэйтар Цвіркун.

– Малодшы лейтэнант Васілевіч, запісвайце! – загадвае мне Сахно.

«Не хапала клопату», – думаю я. У самога рука падвязана, дык ён прымушае мяне… І адкуль яго прыгнала на нашыя галовы? У абарону, глядзі ты, не пайшоў, а зноў ужо нешта расследуе. Некага падазрае ўжо і абвінавачвае. Таксама ваюе…

– Яшчэ хто? – зноў пытаецца і чакае Сахно.

Але болей, здаецца, абаронцаў таго пагорка тут няма. Усе, нядобра апанурыўшыся, маўчаць.

– А вы, Васілевіч, там не былі? – раптам павяртаецца да мяне Сахно.

– Ну, быў. А што?

– Пачаму скрываеце? Запісвайце і сябе.

– Я і так не забуду.

– Вы ўсё памятаеце, так? А дзе старшына Еўсюкоў? – раптам шматзначна пытаецца Сахно. – Вы ж, здаецца, разам былі?

– Разам. Ды тут разышліся. У сяле.

Усе напружана маўчаць, пазіраючы на капітана. Ён таксама маўчыць, відаць, нешта мяркуючы. Робіцца ціха, і ў гэтай цішыні з’яўляюцца новыя гукі. Недзе па вуліцы ідуць танкі. Іх грукат сунецца ўсё бліжэй, бліжэй… «Хоць бы свае, не нямецкія, – б’ецца ў галаве спадзяванка. – Але калі і нашы, дык куды яны ідуць?»

– А што, капітан, здарылася?

– Што здарылася? – з’едліва перапытвае Сахно. – Не

ведаеце, што здарылася? Абарону кінулі, во што здарылася.

Ну, вядома, недзе няўпраўка, хтосьці правароніў, і цяпер шукаюць вінаватага стрэлачніка – Еўсюкова. Але пры чым тут Еўсюкоў?

Заглушаючы грукатам блізкую ўжо бязладную страляніну, паўз нашыя вокны праходзіць адзін танк, затым другі. Нехта ў шапцы з растапыранымі вушамі паўзе да акна і ўзіраецца ў светлаватую прыпатнелую шыбу. Першыя танкі, чуваць, аддаляюцца. Але з другога канца сяла зноў нарастае грукат.

– Вось табе, кума, і хрэсьбіны! – гучна гаворыць ад акна баец. – Танкі-та ўходзяць.

– Як уходзяць?

– Куды ўходзяць?

З раптоўна апанылым сэрцам, я таксама кідаюся да акна. Сапраўды, напоўніўшы сяло грукатам, некалькі танкаў хутка коцяцца па зімовай вуліцы. Іх браня густа аблеплена шэрымі сілуэтамі аўтаматчыкаў.

Сахно, раптам нібы забыўшыся пра нас, моўчкі выскоквае на вуліцу. Я падпаўзаю да Юркі. Што ж гэта робіцца? Я тармашу сябра: думаю, можа, ачнецца. Як бы не трапіць у новую пастку.

Параненыя таропка адзін за адным выпаўзаюць з хаты. Хто са стогнам, а хто моўчкі. Цяпер толькі б на вуліцу, па якой адыходзіць апошняя надзея.

На вуліцы бягуць людзі, фыркочуць танкі. У іх свае клопаты, свае баявыя справы. Што ім параненыя! Лётчык, лаючыся, устае на калені і, охаючы, слепа грабецца да выхаду.

Як-колечы ўздзеўшы Юркавы рукі ў рукавы паўшубка, я ўхутваю ім сябра. Затым толькі хапаю яго, каб валачы ў дзверы, як у хату ўбягае змораная, рухавая ад паспешлівасці Каця. Я ледзьве не ўскокваю ад радасці,

бо ўраз адчуваю: гэта па нас! І сапраўды, Каця голасна выпальвае:

– Ану – на машыны! Хутка! Хто сам не здолее – гукніце!

«Эх, паспяшаўся!» – са шкадаваннем мільгае ў свядомасці пра таго, у куце, і я тут жа забываюся аб ім. Я падхопліваю Юрку пад пахі, немец услужліва паднімае яго за ногі. Каця дае нам на праходзе дарогу і сама кідаецца да лётчыка, які капошыцца ля парога. Мы выцягваем Юрку на двор і там сутыкаемся з высокім і няўклюдна тоўстым камандзірам у танкавым шлеме і камбінезоне. З жартоўнай лёгкасцю ён прытопвае валёнкамі і ляскае рукавіцамі.

– Жывей, арлы! Жывей, ядрона вошка! А то коні астынуць. Ану, давай падмагу.

І падхоплівае за паўшубак Юрку. Да яго падскоквае другі, у шлеме. «Таварыш падпалкоўнік, я!» Яны ўдвух пераймаюць з маіх рук Юрку. І я адчуваю шчымлівую ўдзячнасць да гэтага падпалкоўніка. Глядзі, які маладзец, – спыніў для раненых танкі! Але ўсё, мусіць, Каця? Яны ўдвух з дапамогай немца ўсцягваюць Юрку на браню танка, следам, бязладна чапляючыся за бакавы трос, узлязаю я. А падпалкоўнік лёгка саскоквае, каб памагчы Каці.

– Давай гэтага туды, на тройку. Эй, герой, падсабі! – звяртаецца ён да немца.

Той у фукаце малых абаротаў матора, аднак, не чуе або не разумее. Стаіць унізе ля танка, відаць, не ведаючы, ці можна яму сюды ўзлезці. І тут між танкаў аднекуль з’яўляецца Сахно.

– Таварыш падпалкоўнік, гэта – немец. Яго трэба ліквідаваць. Зараз жа.

Падпалкоўнік, несучы з Кацяй параненага, здзіўлена ўскідвае галаў у рабрыстым шлеме. Сахно тым часам расшпільвае кабуру. Ён ужо ўпэўнены, што падпалкоўнік не запярэчыць. Гэтая яго

самаўпэўненасць адзываецца ва мне шаленствам. Не ад жаласці да немца, а каб дапячы Сахно, я крычу:

– Не слухайце! Таварыш падпалкоўнік... гэта язык... Яго да генерала загадана...

– Да якога генерала? – няўцямна пытаецца падпалкоўнік і тут жа махае рукой. – Хай едзе, чорт з ім! Шлёпнуць паспееце.

«Ага, выкусі!» – зларадна мільгае ў мяне, і я крычу немцу:

– Ком! Хутка!

Сахно, бачу, хоча запярэчыць, але танкісты спяшаюцца. Вежавы люк за маёй спіной, лязнуўшы, зачыняецца. Абодва танкі, зафыркаўшы, дадаюць абароты, і Сахно, ссунуўшы кабуру, кідаецца да нас на браню.

– Ты май на ўвазе: уцячэ – пад трыбунал загрыміш! – узлезшы, крычыць ён мне ў самае вуха.

«Пайшоў ты да такой-сякой матары!» – з лютай нянавісцю думаю я.

## 25

Бавячы час, мы з ленаю асалодай п’ем піва. Гарбацюк распрануўся і сядзіць у адной светлай шаўковай тэнісцы. Ягоны пінжак вісіць на спінцы стула. Яму душна. З маіх плеч, здаецца, спадае гара. Ён – не Сахно. Я толькі дзіўлюся цяпер, якая гэта нячыстая сіла асляпіла мяне і не дала даўмецца, што я памыляюся. Гэта зусім іншы чалавек.

Людзей у рэстаране меншае. Некаторыя столікі зусім пусцеюць, і афіцыянткі страсаюць абрусы. Нашы маладыя суседзі ўсё яшчэ сядзяць, весела паміж сабой гамонячы. На стале ў іх тры парожнія бутэлькі з абадранай фалыой. Гарбацюк варочаецца, сапе, аблакочваецца на спінку стула і з дабрадушнаю сытасцю пазірае ў залу. Наколькі гэта можна зразумець

за вечар, ён трошкі з ганарком, але ўвогуле – праставаты і дабрадушны дзядзька.

– Ведаеце, а я прыняў вас за другога, – шчыра прызнаюся я. – За аднаго свалачнога чалавека. З вайны яшчэ. Гарбацюк спагадліва ўсміхаецца.

– Мусіць, якога здрадніка?

– Не. Ён – не падобны на здрадніка.

– Трус?

– І не трус. Дзе гэта было трэба, ён нават быў храбры. Ды і іншым баяцца не даваў.

– Строгі, значыць?

– Строгі – не тое слова. Хутчэй – бязлітасны.

Гарбацюк павяртаецца да стала.

– Ну, на вайне бязлітаснасць – не грэх...

Нешта мы губляем ніць узаемаразумення. Здаецца, ён не згодны са мной. Але гэта непаразуменне. Як бы яму лепш давесці, што гэта не проста выкананне загаду. Тут іншае. А Гарбацюк тым часам паблажліва ўхмыляецца: у нашай маленькай спрэчцы ён адчувае сябе разумнейшым. З гэтаю ўхмылкай ён далівае ў фужэры піва – спачатку ў мой, а пасля ў свой – і прысоўваецца да мяне бліжэй.

– Я табе скажу з уласнага вопыту. На вайне – там быў парадак, дзе салдаты баяліся камандзіра болей, чым немца, – шматзначна паведамляе ён і далонню рубам б’е па стале. – У такога камандзіра ўсё: і задача выканана і грудзі ў ордэнах.

– А людзі?

– Што людзі?

– А людзі ў магілах?..

Гарбацюк недаўменна моргае вачыма і ёрзае ў крэсле. Відаць па ўсім, маё пытанне застала яго знянацку. Дзе ў такога камандзіра людзі, аб тым ён не думаў.

– Ну, ведаеш... На вайне з гэтым не лічацца.

Ну і ну! Я зусім перастаю яго разумець. Гэты танкіст пачынае мяне здзіўляць. Я даўно не чуў такіх выказванняў. Проста дзіка чуць такое ад франтавіка ў наш час.

Гарбацюк залпам выпівае піва і нахіляецца да мяне.

– Слухай сюды! Вось ты кажаш: людзі, людзі. Памятаю такі выпадак. Пад Віцебскам судзілі аднаго. Малады такі. Ванька-ўзводны. Скараспечаны лейтэнанцік. Вёў батарэю. Адступалі. Наперадзе рачулка. Трэба знайсці брод. Яму б, дурню, паслаць каго. А ён пашкадаваў: той паранены, той хворы, той стары, а той плаваць не ўмее. Ну і пайшоў сам з ардынарцам. Брод знайшоў, перабраўся на другі бок. А там немцы. Ну і сцапалі. Раненага. А ў яго карта. І маршрут. А ў батарэі ніводнага камандзіра. Так і накрылася батарэйка. Лейтэнант, праўда, вырваўся з палону, праз тыдзень прыходзіць. Тут, вядома, і спёкся. А як жа? Пашкадаваў людзей...

– Проста ён дурань, гэты лейтэнант.

– Вось іменна дурань, – дабрадушна згаджаецца Гарбацюк. – А то вось другі прыклад. Судзілі камандзіра танка. Выскачыў з экіпажам раней, чым падбілі. Ударыла балванка, ну ён і крыкнуў: «Пакінуць машыну!» На судзе кажа: хлопцаў пашкадаваў. Ці бачыш, быў упэўнены, што другім стрэлам яго падпаляць. «Тыгр» страляў. Падпаліў сапраўды. А лейтэнант з танка ў штурмбат загрымеў.

Гарбацюк соладка зацягваецца сігарэтай. Нечаканая здагадка прымушае мяне здрыгануцца:

– А вы не пракурорам былі?

Ён чамусьці азіраецца і прыжмурвае ў дыме адно вока.

– Старшынёй трыбунала.

Мне здаецца, што я недачуў.

– Чаго?

– Ваеннага трыбунала, – выразна паўтарае Гарбацюк.

Я не ведаю, што казаць далей, і паціху пераводжу позірк на стол. Цяпер усё зразумела.

Гарбацюк, відаць, прыкмячае маю кароткую збянтэжанасць і адчужана хмурыць бровы.

– А што гэта вы... здзіўляецеся?

– Ды так...

Пальцамі я кручу на абрусе фужэр, няўцямна пазіраючы, як слізгаюць на ягоным баку іскрыстыя адлюстраванні бра.

Гарбацюк засцярожліва азіраецца на маладзёжны стол і ўздыхае.

– Ты, мабыць, думаеш: трыбунал – гэта парушэнне законнасці? Цяпер так модна лічыць. Модна рэабіліціраваць. Модна валіць усё на суддзяў. І ніхто не задумаецца: у імя чаго яны ўсё тое рабілі? Стараліся, выконвалі, недасыпалі, недаядалі, ездзілі на перадавыя, траплялі пад бамбёжку. У імя чаго?

Аднак яго фальшывы запал мяне не кранае. Маімі пачуццямі да гэтага чалавека ўсё болей авалодвае злая іронія.

– Можа, у імя перамогі?

– А як жа? Што, ты думаеш, у ёй няма і нашае пайкі?

– І вялікая гэта пайка?

– А то малая?

Уся нядаўняя да яго прыхільнасць у мяне міжвольна

знікае. Я не ведаю, які ён чалавек і які быў старшыня трыбунала. Але па чымсьці няўлоўным у ягоных паводзінах я адчуваю, што гэтая яго гарачнасць у адносінах да свайго мінулага – не так сабе. Ён чымсьці пакрыўджаны, з нечым нязгодны і – ужо гатовы спрачацца, адстойваць сваю незразумелую мне праўду.

Але я з ім спрачацца не буду.

Я не хачу з ім спрачацца, бо я адмаўляю яму ў гэтай ягонай праўдзе. Не можа быць ягонай праўды там, дзе ёсць яго віна. У маіх пачуццях і памяці дагэтуль жыве нямала несправядліва труднага з тых далёкіх часоў. Не забылася, як пайшлі з палка і не вярнуліся хлопцы за здачу пазіцый, якіх нельга было ўтрымаць, за невыкананне невыканальных загадаў, за сутычкі з начальствам і за недазволеныя размовы таксама. Я прыпамінаю ўрэшце старшага лейтэнанта Кротава, які, на шчасце ці на бяду, не дайшоў да рук такога вось старшыні. І за што? Я дык выдатна ведаю, што нізавошта, але гэта зусім не азначае, што Кротаў вярнуўся б у батальён. Але няўжо цяпер, праз шмат гадоў пасля вайны, калі столькі перавярнулася ў грамадскім жыцці краіны, няўжо нічога не змянілася ў свядомасці гэтых людзей?

Я хачу запытаць яго аб тым, але Гарбацюк апярэджвае мяне:

– А я і не думаю таіць, хто я і што я, – прыкметна адчужэўшы за хвіліну маўчання, кажа ён. – Я паступаў паводле закону. Калі што, можна падняць архівы. Там усё наліцо. Афармлена і зацверджана. Я грахоў за сабой не лічу. Можна запытаць саслужыўцаў, начальства. Бывала, прыеду ў полк – пачот і павага. Камандзір палка першы чэсць аддае. Хоць я і капітан, а ён падпалкоўнік. Вось як!

Я маўчу. Ён, адчуваю, аднак, хвалюецца, то ёрзае на стуле, то адкідваецца да спінкі. На ягоным мясістым твары – выраз крыўдлівай замкнёнасці.

– Вайна – бязлітасная справа. Там цвёрдая рука трэба.

На смерць нікому не хочацца ісці. А што ж – сазнацельнасць? Сазнацельнасць – у газетах. А тут прымусіць трэба. Каб баяліся.

– Слухайце, Гарбацюк! А таго не магло здарыцца, што хто-колечы з асуджаных вамі цяпер рэабілітаваны?

Гарбацюк робіць наіўныя вочы.

– Ну і што ж! Зусім магчыма. Рэабілітаваны – і з Богам. Я ўсяцэла далучаюся і падтрымліваю.

– А вы не баіцёся з такім вось спаткацца на вуліцы? Гарбацюк кідае на мяне насцярожаны позірк і шчыра здзіўляецца:

– А чаго мне баяцца? Пры чым тут я? Тады былі адны законы, цяпер іншыя. – Ён азірае залу і дадае ўжо спакайней: – Ды і не сустрэнуцца... Яшчэ не сустракаліся...

– Што, усіх да вышэйшай?

– Чаму ўсіх? Не ўсіх. Разбіраліся, – кажа ён і засоўвае рукі ў кішэні штаноў. У вачах яго з’яўляецца выраз нахабнаватай самаўпэўненасці, якою ён нема і амаль варожа працінае мяне.

Так, гэта яго супакойвае. Не сустрэнуцца. Асуджаныя не пагражаюць, сумленне не дакучае. Яшчэ б трохі абяліць, падфарбаваць сябе перад людзьмі, і тады можна лічыцца сумленным чалавекам, нароўні з іншымі.

Гарбацюк устае і, адхінуўшы гардзіну, рашуча расчыняе акно. У залу шырока хлынае паток начной прахалоды. Праз хвіліну робіцца ўжо даволі сцюдзёнавата, і ён надзявае цёмны ў дробную клетачку пінжак з акулярамі і дзвюма аўтаручкамі ў нагруднай кішэньцы. Выгляд яго замкнёны, аднак у думках, мабыць, таксама, як і ў мяне, працягваецца не дужа прыемная размова.

– Не, ты памыляешся, дарагі. Гэта цяпер развялі дэмакратыю. Гатовы ўсіх сваалачэй рэабілітаваць.

Прэзумпцыя невіноўнасці! Доказы! Балбатня гэта, скажу табе. Калі што, ён усё так перакруціць, што хоць ты яго ўзнагароджвай. Тут трэба пачуццё мець. Нюх. Праўда, у мяне вока было намётана. Я, бывала, на такога зірну – і наскрозь бачу. Доказы дзесятае дзела. Доказ, калі трэба, на кожнага можна сабраць. Вось так!

Ад суседняга стала ўстае той плячысты, у шэрай куртцы бландзін.

– Акно можна закрыць? Дзяўчаты просяць. Гарбацюк незадаволена павяртаецца і няўцямна глядзіць на хлопца. Той шырокім жэстам захлопвае фрамугу.

– Ану, адчыніце! – змрочна загадвае Гарбацюк і ўскоквае. Бландзін ужо ступае да свайго стала, а Гарбацюк шырока расчыняе акно. – Не вы адчынялі, без вас і зачыняць...

На твары бландзіна кароткая разгубленасць. У шэрых ажыўленых яго вачах пыхае востры агеньчык.

– Дзяўчаты замерзлі! Вы панімаеце?

– Замерзлі – хай дома сядзяць. У рэстаран, як і ў манастыр, са сваім уставам не ходзяць.

– Ну, знаеце!..

Зрабіўшы амаль фехтавальны выпад, хлопец з трэскам захлопвае акно. Гарбацюк з трэскам яго расчыняе. Моладзь за сталом павяртаецца ў іх бок.

– Ігар, хопіць! Нам ужо не холадна.

– Ігар, Ігар! Пакінь яго. Мы зараз пойдзем! – прыўстаўшы, кліча сябра Эрна.

Ігар праз зубы кідае штосьці абразлівае і вяртаецца за свой стол. Гарбацюк, задышліва сапучы, сядае на сваё месца. Хапаецца за сігарэты. Рукі яго дрыжаць.

– Бачыў! – ківае ён мне. – Бачыў, што робіцца? Блазнюк, малако на губах не абсохла, а глядзі ты! Нахабства

колькі!

Ён прыкурвае, кідае на падлогу запалку, на стол – карабок.

– Распусціліся, разумнікі... Як тыя, у вайну. Старэйшы каторы маўчыць ды вініцца. А трапіцца лейтэнант, толькі з вучылішча, на губе пушок, а ўжо філасофію разводзіць. Як жа – дзесяцігодку скончыў! То зброя яму не тая. То загад няправільны. Нахабнікі!..

Я пазіраю на яго прыкметна пакамечаны жыццём твар, маршчыністую кароткую шыю. У глыбока схаваных пад бровамі вачах злосць і яшчэ нешта не то боязнае, не то нахабнаватае. Адбітак нейкай стоенай думкі блукае ў іх глыбіні. Я не хачу думаць пра гэтага чалавека кепска. Але я не бачу ў ім і таго, што мне хочацца бачыць – ні ценю шкадавання, добрасці, адбітка перадуманага і перажытага. Перада мной з выглядам несправядліва пакрыўджанага сядзіць раззлаваны мужчына, які заўпарціўся і не мае намеру ні ў чым адступаць. І ад гэтай ягонай упартасці ў мяне паціху накіпае шаленства. З намаганнем я змагаюся з сабой. Трэба быць спакойным. Маёй зброяй цяпер павінна быць толькі логіка. Яна мне паслужыць верна, бо я – правы.

– Скажыце, Гарбацюк! А вы забілі на вайне хоць аднаго фашыста? – пытаюся я спакойна, наколькі гэта мне ўдаецца.

– Я? А навошта? Навошта мне было іх забіваць? Гэта не мая справа. У дваццатае стагоддзе – поўнае раздзяленне працы. У тым ліку і на вайне. Каму бегчы ў атаку, каму страляць з гарматы. Каму лятаць у небе. А другі ўсю вайну прасядзеў за сталамі ў штабах або варыў сталь. У кожнага свая справа.

– Вашай было – судзіць?

– Ну і што ж? Судзіў.

– Няшчасных за палон? Камандзіраў – за няўзяцце вышынь і вёсак? Лейтэнантаў за размовы? За выдуманы

кантакт з ворагам? За начлег у адной вёсцы?

Я амаль крычу. Нешта ў маіх паводзінах своевольна вырываецца з-пад кантролю. Ён хмурыцца, ёрзае на стуле і крывіць у фымасе вусны.

– Здаралася. Каралі і за гэта.

– І цяпер вы не раскайваецеся?

Ён ускідвае голаў. У вачах яго застарэлая крыўда і нянавісць.

– У чым?

Ужо мы абодва крычым. За суседнім доўгім сталом паварочваюцца ў наш бок. У другім радзе азіраюцца афіцэры. Я ўскокваю з-за стала. У грудзях знаёмая пустата і слабасць. Зала хістаецца. Я хапаюся за грудзі і, зачапіўшы стул, таропка сігаю на выхад.

Ля швейцара апранаюцца двое маладых. Ён ашчадна ахінае яе плечы плашчом. Яна ўсміхаецца ў трумо, і я падаю побач на стул. Падлога плыве ўбок, сцены хістаюцца. Сэрца рэдкімі, моцнымі ўдарамі б’е ў грудзі. Двое пакідаюць рэстаран.

Стары швейцар аблакочваецца на стойку і з пагардлівым асуджэннем глядзіць на мяне. Я разумею яго маўклівы дакор і думаю, як недарэчна ўсё гэта! Не хапае хіба трахнуцца аб падлогу і апынуцца ў бальніцы. Вядома, скажуць – ад перапою...

– У вас выпадкам валідолу няма? Швейцар, перш чым адказаць, уздыхае.

– А навошта ён тут будзе? Рэстаран – не бальніца, – бурчыць ён. – Можна піць, але трэба знаць меру.

– Не ў пітве справа, ацец. Тут... панерваваўся...

– Дужа нервовыя сталі, – недаверліва бурчыць стары і тупае ў кут. Наўрад ці ён верыць мне, але ўсё ж неўзабаве вяртаецца да стойкі з нейкай паперкай.

Нетаропка разгортвае яе і пракуранымі да рудога пальцамі дастае беленькі круглячок-таблетку.

– Што гэта?

– А ты глыні. Паможа, калі што...

Разважыўшы, я глытаю таблетку. У роце застаецца непрыемны металічны прысмак.

– Ну як?

– Трошкі адыходзіць. Сэрца, ведаеце...

– Эх, сэрца, сэрца! – з мудрай старэчай разважнасцю бурчыць швейцар. – Сэрца, яно – матор. Сапсуецца – з капылоў далоў. Не беражэцеся вы, маладыя.

– Не той час, каб берагчыся.

– Не той? А які ж вам яшчэ трэба. Грошы ёсць. Кватэры дзяржава дае. Пасады. Якога ражна не хапае? Мы, бывала, у вашы гады – абы паесці сыта... А вы?

– Бачыце, калі наясіся дасыта, дык захочацца і жыць па справядлівасці.

– Справядлівасць! – з іроніяй кажа швейцар і ўпіраецца ў мяне цяжкім позіркам выцвілых, відаць, нямала бачыўшых на вяку вачэй. – Вунь збялеў як. У поце. Вось табе і справядлівасць... Ты, гэта, каля акна сядзь. На вецярок. На вецярку яно лепей будзе.

Я перасаджваюся да акна. Фрамуга трохі прыадчынена. Начны вецер варушыць фіранку. За акном дзесьці непадалёк на пуцях асіпла пыхае паравозік. На запасных доўгія саставы зялёных вагонаў. Некалькі жанчын са шлангам мыюць іх блішчастыя жалезныя бакі. На віадуку таропка праходзяць пешаходы. Па той бок за станцыяй свеціцца доўгі рад вулічных ліхтароў. Недзе далёка адзінокім вугальком у святлявым небе гарыць чырвоны агеньчык на заводскай трубе.

Сэрца маё марудна і вельмі неахвотна спакайнее.

Заліты месяцам стэп, грымоцце танкаў, смурод газойлі, калючы вецер у твар і цяпло. Так, цяпло. Праўда, толькі ля ног, дзе густа паддзьмувае нафтавым духам праз жалюзі. І ўсё ж рай! Адно трэба трымацца, каб не скульнуцца ад мяккай, але разгоністай танкавай гойданкі.

І мы трымаемся за вежу, учапіўшыся рукамі за яе настылыя поручні. На маіх каленях ляжыць галава Юркі, я адною рукою прытрымліваю яе; немец жа, седзячы збоку, відаць, заняты ўласным клопатам і абыякавы да ўсіх нас. Ля яго, прыхінуўшыся да вежы, стаіць Сахно. На бакавінах і закрылках танка нейкія скрынкі (мабыць, снарады), ля мяне побач слізкае абкоранае бервяно. Следам грукоча другі танк. Там Каця. Яе кароценькая постаць ыевысока вытыркаецца з-за вежы. Здаецца, нам урэшце пашанцавала – цяпер мы ўжо вырвемся.

Але мы адсталі ад галоўнай калоны і, спяшаючыся, наганяем яе. Марозны вецер пякуча б’е ў твары. Неба ўгары ярка мігаціць мірыядамі зор, і сярод іх гушчару ярка ззяе месяц. Рэзкія сінія цені ад прыдарожных слупоў цягнуцца да самых каляін. Навокал відаць далёка-далёка. У гэтай далечы ззаду засталіся немцы – бачна, як на краявідзе сыплюцца ў ночы імклівыя бліскавіцы трас. Там бой. Там тыя, што па загаду палкоўніка засталіся на прыгорку за сялом, каб даць нам магчымасць вырвацца з бяды. Толькі куды? Здаецца, мы едзем далей на захад, значыць, не ў свой тыл, а туды, глыбей у нямецкі. Гэта не радуе і, вядома, нясе з сабой новы клопат. Але я не хачу думаць кепска: там войска, там сіла баявых часцей, там начальства і арганізацыя, там не дадуць прапасці. Праўда, ззаду, мусіць, не адстануць ад нас немцы. Ім, акружаным, таксама трэба прарвацца туды, на захад.

Я адварочваюся ад сустрэчнага ветру, глыбей у каўнер уцягваю настылую, у бінтах галаву. Але ў такім стане замінае за спіной карабін. Я знімаю яго і з тугою ў

душы ўзіраюся ў далёкія адзнакі бою, што бліскаюць у начным мроіве. Толькі мы ўсё ж аддаляемся ад таго злапамятнага сяла. Магутна равучы на пад’ёме, танкі мінаюць стэпавую балку, праскокваюць клін палеглага, няўбранага ўвосень сланечніку. Іскры-трасёры ўдалечыні паступова знікаюць, толькі часам рэдкая чарга невысока ўзлятае над краявідам і гасне. Навокал жа спакойна, і ўсё было б добра, калі б не Юрка. Ён непрытомны. Я шчыльней захутваю на ім паўшубак. Цела яго выдае тут доўгім і няўклюдным, боты ледзьве не дастаюць да выхлапных труб. У гойданцы толькі і чакай, можа спаўзці ў снег. Хоць бы жывым давезці яго да якога санбата. Хоць бы паспець... Наш танк даганяе заднія ў калоне машыны, гойданне і штуршкі робяцца меншыя. Нечакана да мяне нагінаецца і гамоніць Сахно.

– Што?

– Кажу, прыедзем, пойдзеце са мной! – гучней крычыць ён проста ў твар.

– Куды?

– Няважна. Куды загадаю.

Ну вось табе і радасць! Не паспелі вырвацца з аднаго ліха, як наперадзе з’яўляецца новае. І, дзіўная справа, гэтыя скупыя словы Сахно ўражваюць тут куды больш, чым усе ягоныя пагрозы там, пад носам у немцаў. Тут ён – сіла, а я – слабак, тут ужо не пашлеш яго куды не трэба – мусіш падпарадкавацца.

АпануранЫ, я сяджу, прыхіліўшыся плячом да шархоткага боку вежы, і пазіраю ў хмыззё сланечніку, што зноў абступае дарогу. Напружанне мае волі спадае, я зусім абнядужаў за гэтыя суткі. Здаецца нават, што я адчуваю, як тоненька і балюча трымцяць, прагнучы якой-ніякой перадышкі, мае растузаныя нервы.

Ногі, аднак, угрэліся, і ў параненай ступні нібы мітусяцца мурашкі – зайшлася ці адыходзіць, не зразумееш. Затое мерзне рука на вежы. Я хачу пагрэць

яе, і толькі расшпільваю кручкі шыняля, каб сунуць за пазуху, як грымотны перуновы выбух расколвае свет. Танк усхопліваецца на дыбкі і на момант нібы завісае ў паветры. Нейкая шалёная сіла адрывае мяне ад брані і шпурляе ў снегавое прадонне.

У першую секунду я не разумею, што здарылася, і, толькі адчуўшы пад сабой дол, няпэўна здагадваюся: міна?! Затым, выплюнуўшы з рота парушысты пякоткі снег, ускокваю сярод бадылёў на калені і зноў падаю. На дарозе, збоч ад яе і яшчэ недзе наперадзе начное сутонне рвуць агняна-чырвоныя выбухі.

– Гр-р-р-р-рах! Гр-рах! Грах-х-х-х...

Не, гэта не міна... Але тады што? Адкуль? У гарачцы я ніяк не магу ўцяміць. Я толькі адчуваю: мы папаліся! У тое ж імгненне мяне пранізвае спалох за Юрку. Спатыкаючыся аб гузакі, я кідаюся да танка. Ён стаіць наўскасяк дарогі. На вежы вёртка мільгае нечая постаць – хтось нібы выскоквае праз люк. І раптам сярод секунднае вусцішнасці да майго слыху даносіцца цяжкі, густа замешаны ў небе гул.

Бамбёжка...

Гэта жахліва! Такая светлая ноч. У стэпе хоць ты збірай іголкі, а тут, на дарозе, танкі. Ну ведама ж, чаго было чакаць? На што спадзявацца? Усё вельмі звычайна, інакш і не магло здарыцца...

Працяты трывогаю, я дабягаю да танка. Абсыпаны снегам, ён, аднак, цэлы. Зверху на ранейшым месцы раскінутыя ногі Юркі. «Нежывы!» – б’е ў голаў спалох. Я кідаюся да борта, каб узлезці наверх, і ледзьве не падаю, спатыкнуўшыся аб немца. Той курчыцца ў доле, прыціснуўшыся да апорных каткоў, абхапіўшы голаў рукамі. Нібы на мерцвяка, я прыступаю на яго спіну і ўзвальваюся грудзьмі на танк.

Зноў зверху абвальны грукат і віск. Але ў зорнай чарнаце не відаць нічога. Тады я зжахаюся, што не паспею, і недарэчна крычу немцу:

– Фрыц! Фрыц!..

Ён, відаць, разумее і зараз жа ўскідваецца да танка. Я хапаю за плечы Юрку. Немец, выцягшы знізу доўгія рукі, прымае на іх Юркава цела. Абодва яны зараз жа падаюць на снег. Ззаду, спераду і навокал расколваюць зямлю магутныя бомбавыя выбухі. Я не спраўляюся скульнуцца з танка, як самы бліжэйшы з іх праглынае мяне ў яркую, на паўнеба агняную прорву, і я з болем апынаюся дзесьці ў снезе. Аднак я цэлы. Я гэта адчуваю і зараз жа ўскокваю на чацвярэнькі. Толькі чамусьці я нічога не бачу – ні танка, ні Юркі. У вачах чырвонае ззянне, і ў ім чорны рой матылёў. На хвіліну я зусім бянтэжуся, не разумеючы, што са мной і дзе я?

Рукамі ў роспачы заграбаю снег, хапаюся за мёрзлы бадыль, кудысь паўзу. У рукавах да локцяў снег. Снег за каўняром, у вушах. А ў вачах – палыхае агняны змрок.

Новыя выбухі зноў кладуць мяне ніц. Пластам снегу завальвае спіну, галаву, ногі. Але я жывы і зноў ускокваю на калені. Нічога не бачачы, я ашалела кручуся на снезе, не разумеючы, куды падацца. І раптам непадалёк з цемры праразаецца штосьці яркае, нейкі агонь... Ага: гэта гарыць танк. Не, не наш, далей на дарозе. Спакваля зямля ў маіх вачах аддзяляецца ад неба. Змрок хутка радзее, я бачу закіданы зямлёй снег, чорнае неба і знаёмы сілуэт нашага танка. З раптоўнай палёгкай кідаюся да дзвюх недалёкіх постацей – немца і распластанага на дарозе Юркі.

Юрка ляжыць на баку. Я перш захінаю ягоныя полы і рыўком падсоўваю яго ацяжалелае цела бліжэй да гусеніцы. Пасля, прыпаўшы да яго, перажываю новую пакутна бясконцую серыю выбухаў. Яны цягнуцца вечнасць. Я чакаю, зацяўшы ў сабе ўсе эмоцыі – і страх і надзею, – намогшыся толькі на адно – стрываць. Выбухі, нават не верыцца, урэшце сціхаюць. Задыхаючыся ад трацілавай горычы, я некалькі секунд прагна хапаю ротам паветра і чакаю новага віску. Але яго нешта няма. Паўза зацішку ўсё большае, вісклівы звон у вушах мацнее. Невядома, ці гэта – цішыня, ці мо я аглох... Але вось наперадзе даносяцца невыразныя галасы, лаянка –

здаецца, нешта крычаць ці, можа, камандуюць. Танк побач, нібы жывая істота, здрыгаецца ад матора. Няўжо ехаць?

Я нешта ўскрыкваю. Немец вёртка ўскоквае на танк. З усяе сілы напружыўшыся, я паднімаю Юрку. Немец з натугай узвалаквае яго за каўнер на браню.

І тут танк, люта зароўшы маторам, зрываецца з месца.

Крыўда і злосць, звіўшыся ў клубок, аднак, надаюць мне сілы. Танк мінае мяне, але я ў апошняе імгненне кідаюся ззаду ў гарачыя струмені яго выхлапаў. Лацвей пад рукі трапляе пятля троса. Я хапаюся за яе. Толькі яна нечакана падатна цягнецца, я грузна спаўзаю з брані і нейкі час роспачна валакуся ў дымнае гарачцы выхлапаў. Я хачу крыкнуць, ды ў грымоцці дызеля не чую свайго голасу. І раптам угары – сагнутая постаць немца. Ён нагінаецца і падхоплівае мяне пад паху. З яго дапамогай я ўзграбаюся на танк і знясілена распластваюся на жалюзях.

Немец моўчкі сігае да вежы, і я не дзякую яму. Мне, як ніколі за сённяшні дзень, хочацца крычаць, выць, лаяцца: што ж гэта робіцца? Але я маўчу. Побач ляжыць Юрка. Ягоная галава, матляючыся, б’ецца аб рог зацярушанай снегам скрынкі. Я адчуваю, як мной авалодвае абыякавасць. Да ўсяго. І так спакусліва ёй паддацца. Сахно, здаецца, ужо тут няма, мусіць, дастукаўся. Чорт з ім: у мяне ні радасці ад таго, ні смутку. Мне ўсе роўныя, нават немец. Толькі не Юрка. Крышачку аддыхаўшыся на брані, я з асаблівай вастрынёй адчуваю, што Юрка – мой вечны боль і мой непазбыўны клопат. Радней за яго ў мяне на свеце нікога няма. Устаўшы на калені, я падсоўваю сябра да вежы і тады ў нейкай незвычайна абвостранай да яго чуйнасці здагадваюся: ён стогне. Значыць, яшчэ жывы.

Гэта кранае мяне да слёз, акрыляе, як шчасце. Занадта вялікаю душэўнай цаной аплочана яго жыццё, каб цяпер пагадзіцца на яго пагібель. Я нахіляюся над Юркам, павекі яго ўздрыгваюць і шэры, васковы твар ажывае.

– Юрка!.. Юрачка!.. Юр!.. – крычу я, не ведаючы, што сказаць, чым суцешыць яго. Але я бачу, ён пазнае мяне. Толькі ён не ўсміхаецца, як раней, а скошвае позірк убок і секунд пяць, нібы напружана згадваючы штось, глядзіць угору на месяц. Відаць, ён толькі што апрытомнеў і яшчэ дужа знямоглы. Вусны яго, аднак, слаба варушацца, я нізка нахіляюся вухам, – здаецца, ён штосьці пытаецца.

– Усё добра! Усё добра, Юра! Хутка прыедзем!

– ...куды?

– Куды едзем? У шпіталь, Юра! У Знаменку! Там армейскі шпіталь, ты ж ведаеш! – апантана хлушу я. Вядома ж, ён цяпер слабы, як дзіця, і я хачу аберагчы яго ад труднае нашай праўды. Хай ён не ведае яе і не трывожыцца. Так будзе лепш.

Нас рэзка кідае ўбок, я хапаюся за вежу. Побач палае разварочаны бомбаю танк. Груда агнянага жалеза заняла ўсю дарогу; крутымі рыўкамі мы аб’язджаем яе. А там гарыць снег, гарыць гума каткоў, гарыць браня. У каляінах перакруціліся гусеніцы, за канавай ляжыць сарваная выбухам вежа. У паветры гар, дым, смурод. Навокал дарогі густыя вывараціны мёрзлай зямлі і скрозь – глыбачэзныя прорвы варонак. Я з асцярогай пазіраю ў неба, ці не ўдараць яшчэ? Няўжо яны адчапіліся ад нас?

На вежы лязгае люк. Мусіць, каб лепш бачыць дарогу, адтуль вылазіць чорная постаць у шлеме. Чалавек азіраецца на вогнішча і дужым голасам крычыць нам:

– Ну што? Цэлыя?

– Цэлыя, – адказваю я, хоць ён ці чуе мяне.

– Ну-ну! Трымайцеся! Гэта вам не пяхота-матухна. Танкі!

Пайшоў ты са сваімі танкамі, думаю я. Лацно табе ў гэтай сталёвай скрынцы... А вось як нам? Але я не паспяваю што-небудзь адказаць, як на вежы варушыцца

другі люк і з яго невысока вытыркаецца ссунутая на бок кубанка. Сахно?..

Так, Сахно. А я ўжо думаў, што ён прапаў. Але, ён не прападзе! Ён адразу акідвае нас маўклівым позіркам, нібы лічыць, і, відаць, задаволены тым, што ўсе на месцы, адварочваецца, каб глядзець наперад.

Толькі доўга глядзець гэтым двум з люкаў не выпадае. Я, мабыць, першы заўважаю, як у зорным небе нібы штосыді мільгае, ці, можа, мне толькі здаецца так. Але зараз жа абапал дарогі ў снезе зноў вырастаюць некалькі высозных выбухаў. Праўда, у гэты раз яны быццам слабейшыя, чым раней. Можа, таму, што рвуць далей? Я дзёўбаюся галавой аб браню. Побач разгоніста лязгаюць люкі. Танк прыбаўляе газу.

Як мага ніжэй мы ціснемся да брані. Танк шалёна імчыць, і мы ледзьве ўтрымліваемся наверсе. А наўкола пачынаецца пекла. Зямля перамешваецца з небам, гаснуць усе да адной зоры. Над дарогай, густа начыненая асколкамі, бушуе снежна-земляная віхура. Я пластам ляжу на брані, цесна падбіўшыся пад выступ вежы, і аберуч трымаюся за Юрку. Я ўжо разумею, што яны не адвяжуцца. Мусіць, яны даканаюць нас. Але будзь што будзе, абы толькі не скінула з танка! Хай б’е разам – чорт з ім! Калі суджана гінуць ад адной бомбы – не страшна. Не такое яно, наша жыццё, каб за яго столькі пакутаваць. Гінуць і не такія!.. Так думаю я, бадай што ў роспачы. І ўсё ж пакутна і страшна чакаць таго моманту, калі ў тваё цела лясне зазублены сталёвы чаранок, здольны перабіць рэйку.

У паветры суцэльны перуновы гром. Выбухі, грукат танкаў, бомбавы віск, скогат асколкаў. Добра яшчэ, што нас з аднаго боку прыкрывае вежа і наша машына апошняя. Дастаецца болей пярэднім. Але перападае і нам. Асабліва з бакоў. На Юрку ляцяць буйныя трэскі ад бервяна. На вежы з таго боку, дзе немец, ярка пыхае, нібы электразамыканне. Бліскае другі раз ужо зусім побач – ля майго пляча... З незвычайнай, амаль фізічнай выразнасцю я адчуваю жахлівую мяккасць майго цела. Як проста яго пранізаць, прабіць,

расшкуматаць. Раз за разам асколкі высякаюць з брані пякоткія іскры, пырскаюць на нас акалінай. Але танк, малайчына, не спыняецца. Ён імчыць па дарозе, часам збочваючы. У адным месцы абмінае нерухомую, мусіць, падбітую машыну з адкінутымі люкамі і вялікай дваццаткай на вежы і рэзка тармозіць. Некалькі чалавек чапляюцца за барты, за трос і ўвальваюцца да нас. Я баюся, што затопчуць Юрку, яны і сапраўды не дужа асцерагаюцца. Адзін з іх паранены і сціскае пальцамі акрываўлены бок. Другі, што ў расшпіленай ватоўцы, лаецца і, узлезшы, адразу запускае аўтаматную чаргу ў неба.

– Агонь! Усім агонь! Чаго сагнуліся? Агонь! – крычыць ён на нас з немцам.

Танк кідаецца з боку на бок, я адною рукой зноў хапаюся за скабу на вежы, а немец разам з усімі пачынае гахаць у неба. Я не адразу цямлю, што ў яго – мой карабін, я толькі слаба дзіўлюся: па сваіх? Але неўзабаве разумею, што тут ужо не да меркаванняў маралі, палітыкі – тут бой, і трэба абараніць сваё жыццё.

Яны то бязладна, то залпамі б’юць па-над дарогай, і, мабыць, нікому не ў знак, што крайні ля іх – немец. І я маўчу пра тое – хай страляе. Цяпер я не баюся, што ў яго зброя. Я амаль упэўнены: нам ён благога не зробіць.

Я страчваю адчуванне часу і не ведаю, колькі прадаўжаецца бамбёжка.

І ўсё ж у нейкую хвіліну самалёты ад нас урэшце адвязваюцца. Робіцца нібы аж ціха, і ў гэтай цішы – скрыгочуць гусеніцы і выюць маторы танкаў. Мусіць, хутка займецца ранне, неба робіцца асабліва чорным. (Праклятае начное неба, ад якога мы столькі стрывалі сёння!)

Пад ранак дзевяць танкаў уязджаюць у нейкае вялікае, па-начному пустое сяло.

Я думаю, што мы яго хутка праскочым і дзе-небудзь нарэшце далучымся да перадавых часцей. Але танкі

чамусьці збочваюць да плятнёў і па адным спыняюцца.

Сонная глухая цішыня б’е ў вушы. Абнадзейвае і азадачвае. Што далей?

**27**

Нас ссаджваюць з танкаў і зводзяць у адно месца на вуліцы. Набіраецца чалавек з дзесяць – здаровых, што ўначы прыбіліся сюды з іншых часцей, і параненых. У тым ліку трое цяжкіх – Юрка, адзін аўтаматчык з прастрэленым жыватом і ўсё той жа лётчык. Дзіва, які ён жывучы – мабыць, пераажыве ўсіх! На шчасце, з намі зноў Каця. Грубавата прыкрыкваючы, яна адразу распараджаецца перанесці ляжачых у хату.

Астатнім загадана чакаць, і мы моўчкі стаім пад глухой, пакрэмзанай вугалем сцяной мазанкі, пакуль ад першых у калоне танкаў хуткім крокам да нас не падыходзіць знаёмы падпалкоўнік. З ім поплеч Сахно. Пусты рукаў капітанскага паўшубка лёгка целяпаецца ля боку.

– Ну як, арлы? Далі жару? – жвава пытаецца падпалкоўнік і сам сабе адказвае: – Далі, сволачы! Лепшыя экіпажы ўгробілі. Значыць, так: далей пойдзеце самі. Мы павяртаем контратакаваць. А вы да Лялекаўкі. Восем кіламетраў. Ясна?

Мы ўсе маўчым. Восем кіламетраў – не многа, але пры той умове, калі здаровыя ногі. А калі прастрэленыя? Ды яшчэ трое цяжка параненых? Як іх дацягнеш? Толькі пра што пытацца – і так дзякуй гэтаму чалавеку за яго добрасць. Не пакінуў, як іншыя – выхапіў амаль з-пад агню. Цяпер у яго свой клопат.

– Ну, ясна не ясна – нічога не папішаш! З сабой я вас не вазьму. Самі разумееце. Тут заставацца не раю. Раніцай яны зноў ударацць. – Падпалкоўнік махае рукой па дарозе. – Дык так: старшы вось гэты капітан, – ківае ён на Сахно. Той моўчкі пераступае на снезе. – Ён павядзе.

«Здорава!» – думаю я. Усё жыццё марыў мець такога

старшага. Лёс ці д'ябал нібы насміхаецца з мяне. Але чорт з ім. Хай вядзе. Камандзіраў, на жаль, не выбіраюць. Паглядзім, як прывядзе. Падпалкоўнік паварочваецца і рухава крочыць да пярэдніх машын, якія ўжо заводзяць маторы. Зараз жа па адной яны пачынаюць зрывацца з месца, і неўзабаве мы застаемся адны. Месяца ўжо няма, угары гаснуць зоркі, цьмее няроўная паласа Млечнага Шляху. Здаецца, пачынае світаць. Нязвыкла ціха і пустэльна робіцца на вуліцы гэтага маўклівага сяла, у хацінах якога дзе-нідзе ўжо слепа асвечваюцца вокны.

Калі танкавы грукат на вуліцы глохне, да нашай прымоўклай кучкі падступае Сахно.

– Так... Усе тут? Раз, два, тры, чатыры, пяць...

– Трое цяжолых у хаце, – кажа нехта з параненых. Сахно адразу пакідае лічыць.

– Чаго гэта ў хаце? Ану, усіх сюды!

Некалькі чалавек здаравейшых, рыпучы снегам, ідуць цераз вуліцу ў хату і неўзабаве вывалакваюць адтуль двух. У адным я яшчэ з вуліцы пазнаю Юрку. Яго нясе немец і танкіст у ватоўцы – камлюкаваты, плячысты хлопец, відаць, адзін з нямногіх, каму ноччу пашэнціла, страціўшы танк, застацца ў жывых. Лётчыка нясуць двое разведчыкаў у белых падраных маскхалатах, якіх падпалкоўнік далучыў да нашае групы. Ззаду іх ідзе Каця. Сахно нецярпліва ступае насустрач.

– Та-ак... А дзе трэці?

– Там, – кідае на хату Каця. – Не варта чапаць.

– Гэта чаму?

– Чаму, чаму... Безнадзейны. Даходзіць. Сахно хвіліну маўчыць, відаць, нешта рашае, а пасля азіраецца і ківае на мяне:

– Ану, давайце па трэцяга!

– Я не магу.

– А калі цераз «не магу»? Я загадваю.

– Што яго браць? – агрызаецца Каця. – Памірае чалавек. Што яго мучыць?

– Не ваша справа. Бярыце параненага! – ледзяным тонам загадвае Сахно, стоячы ў насунутай на лоб кубанцы і задзірыста выставіўшы наперад квадратны свой падбародак.

Каця ўпаўголаса кідае да яго нешта абразлівае і вяртаецца ў падворак. За ёю кульгікаю я.

Паранены, увесь мокры ад поту, нерухома ляжыць на ложку. Над яго галавой гарыць газнічка. Ля парога з гаротным, мокрым ад слёз тварам хутаецца ў кажушок напалоханая жанчына.

– Ой, дзетачкі! Ой, лышанько! Куды ж вы його? Він жа такі слабы...

– Ану, пастараніся, цётка, – безуважна да яе гаманы кажа Каця і прыўзнімае небараку– Дайце якое радно.

Пакапаўшыся ў рыззі, гаспадыня рассцілае на падлозе нейкую пасцілку, і мы перакладаем на яе параненага. Але ён распрануты, увесь у бінтах і без шыняля, як яго несці?

– Цэ ж він замэрзне, загубіцца!.. Ой, у його ж матуся е дзесьці, – ледзьве не галосіць жанчына і скідае з сябе кажушок. – Натэ, ухутайце, усё тэплішэ будэ.

Цётка пачынае свяціць над галовамі газнічкаю, Каця хутае аўтаматчыка ў паўшубак і незнарок наступае на маю нязграбную аббінтаваную нагу. Я ледзьве не падаю ад болю.

– Яшчэ не адмарозіў? Ну, дык адмарозіш! – зацята абяцае Каця. – І гангрэна яшчэ насядзе. Чакай! – І раптам са злоснаю нястрыманасцю гукае: – Ану, рвані! Годзе корчыцца.

Наступіўшы нагой на рукаў кажушка, яна спрабуе яго адарваць, але не можа і кідае ў мае рукі. Я рву мацней, яна прытрымлівае, і рукаў урэшце з трэскам адрываецца.

– Ой, што ж вы робытэ? Што вы ірвэтэ маю адзежыну! Каб вам рукі адірвала, ногі папераламала! – раптам сварліва прыгаворвае жанчына.

Каця строга прыкрыквае на яе:

– Замаўчыце! Вам не ўсё роўна? Таго шкада, а таго не.

– Нялюдска ты людына! Лайдачка. Моя світка, што вы наробылы!

Чорт, звязаліся яшчэ з гэтай кабетаю! Раскрычалася, быццам яе хто падмяніў... Мне няёмка і хочацца кінуць ёй і рукаў і кажушок, абы адчапілася. Але Каця, не зважаючы на сварку, загадвае:

– Во і нацягвай. Цёпла і мякка будзе. На марозе дзякуй скажаш.

Я маўчу, зацяўшы ў душы няёмкасць, і моўчкі дзякую гэтай агонь-дзяўчыне. Акалелай назе ў рукаве сапраўды робіцца ўгрэўна і мякка, трохі, праўда, нязграбна, але не бяда. Галоўнае цёпла. Да болю я ўжо прытрываўся.

Мы выносім чалавека на вуліцу, дзе нас чакаюць, і Сахно нецярпліва падыходзіць да Каці.

– Усе?

– Усе.

Капітан яшчэ раз акідвае байцоў працяглым маўклівым позіркам (напэўна, лічыць) і, нічога не сказаўшы, ідзе ўсё ў тую ж хаціну. Калі крокі яго сціхаюць, Каця апускае параненага на снег.

- Гад!

Я не пытаюся – я ўжо ведаю, пра каго яна гэта. І я

маўчу, бо сам гэткай жа думкі аб нашым начальніку. Цяпер – я ведаю – ён пайшоў правяраць, ці не застаўся там хто. Нам ён не верыць. Ну і якраз дарэчы, там расплачацца тая кабета, будзе скандал. І сапраўды, неўзабаве вярнуўшыся, Сахно строга аб'яўляе:

– Вось што! Без майго дазволу ў хаты не заходзіць! Кожны адказвае за сябе і за суседа таксама. Параненых не пакідаць. Што б там ні пагражала. Насельніцтву залішне не давяраць.

– Ды ўжо ж?! – упаўголаса сумняваецца нехта ззаду.

Сахно, аднак, пакідае рэпліку без адказу.

– Калі ў выпадку прыпячэ, жывымі не здавацца. Ясна? Зброя ёсць? У каго няма – я памагу. Слабанервовым таксама. Пытанні будуць?

– Ясна. Не на лекцыі. Хутчэй трэба, – кажа танкіст.

– Гэта не лекцыя! – змрочна аб'яўляе Сахно. – Гэта загад. І я патрабую яго выканання.

## 28

Гарбацюк выбягае з залы і як быў, у пінжаку і без капелюша, кідаецца ў другія дзверы, на выхад. Але дзверы зачынены, ён рэзка тузае іх, і тады з-за перагародкі выходзіць з ключом швейцар, які яго выпускае.

Я здзіўляюся, што гэта там здарылася? Чаму ён не апрануўся і нават не азірнуўся? Можа, не разлічыўся? Уцёк, ці што? Але тады, мусіць, узяў бы паліто і капялюш.

Я ўжо крыху адышоў ад свае раптоўнай знямогі і заклапочана вяртаюся ў залу. Адразу з дзвярэй бачу, як моладзь з-за стала павяртае галовы ў мой бок. Усе глядзяць на мяне. Там жа, чакаючы, стаяць дзве афіцыянткі. Калі я падыходжу да свайго стала, адна таропка выдзірае з блакнота старонку.

– Адзінаццаць трыццаць з вас.

Аказваецца, ён не разлічыўся. Я адлічваю палавіну. У кішэні ў мяне застаецца траяк, акурат на дарогу. Афіцыянтка незадаволена скошвае позірк.

– А вы не разам?

– Не. Не разам.

– Піць дык разам. А плаціць...

Яна адыходзіць, пакідаючы ва мне брыдкае адчуванне вінаватасці. Звязаўся на сваю галаву... Трэба было...

Сядаць за гэты стол мне болей не хочацца. Мусіць, трэба ісці адсюль зусім. Перахапіўшы мой позірк, за суседнім сталом павяртаецца Ігар.

– Ну і таварыш у вас! Выліты пeражытак мінулага.

– Па міліцыю пабег, – па-сяброўску, як саюзніку, усміхаецца Эрна. – Зараз прывядзе. Пасядзіце з намі.

Так яно і павінна здарыцца. Гэта зусім лагічна. Старая звычка ўзяла верх. Але чорт яго бяры! Хай вядзе міліцыю...

– Сядайце, сядайце! – запрашаюць дзяўчаты і Ігар.

Я сядаю збоч ля стала між Эрнай і бландзінкай з густа пачэрненымі вейкамі. Гаварыць мне нічога не хочацца – толькі слухаць. Яны ўсе ўзрушаны інцыдэнтам, але, здаецца, ніколькі не трацяць свае бесклапотнай жартоўнасці.

– Ледзь не пабіўся з Ігарам, – паведамляе Эрна.

Суседка з другога боку пытаецца:

– Ён ваш саслужывец? Ці былы аднапалчанін?

– Аднапалчанін, – падумаўшы, кажу я.

– Сволач ён!

Ігар прыўстае і цягнецца да мяне з бутэлькай.

– Прыдраўся, нібы я ягоныя планкі сарваў. А я не бачыў у яго ніякіх планак. Ці былі хоць у яго якія планкі?

– Не ў планках справа.

Ігар налівае мне палову бакала.

– Ладна, чорт з ім! Хай вядзе. Давайце лепш вып’ем. А то пасадзяць яшчэ.

Эрна за сталом аж падскоквае і пляскае ў далоні.

– Ой, гэта здорава! Я буду табе насіць перадачы, Ігарочак! Мядовы месяц у турме.

– Паўмесяца, – кідае крайні ў чорным гарнітуры. – Пятнаццаць, болей не дадуць.

– Гледзячы чаго? Сутак ці год?

– Чорта з два – год!

Я ціха сяджу, як госць на чужым свяце, і пачынаю ўсміхацца. Мне добра. А яны нястрымна радуюцца чамусьці, як дзеці. Хоць, вядома, даўно ўжо не дзеці, асабліва Ігар. Рослы, рукасты, шырокай касці дзяцюк. І ўсё ж мне ў два разы болей, чым кожнаму з іх. Мы розныя пакаленні. Розны жыццёвы вопыт, адукацыя ды, мабыць, і адносіны да таго, што тут адбылося. І тым не менш, я іх разумею. Яны блізкія мне пазіцыяй. А гэта галоўнае.

– Ну, дык узялі! – Ігар паднімае бакал і, заўважыўшы маю нерашучасць, тлумачыць: – Ёсць маленькі повад: мы з Эрнай жэнімся.

– Вось які Ну, віншую!

– Дзякуй! – Ён левай рукой лагодна прыгортвае да сябе нявесту. – У гадавіну Перамогі. Так сказаць, па сямейнай традыцыі. Як дзеці ваенных бацькоў. У Эрны – генерал-лейтэнант. У мяне – проста лейтэнант.

Невялічкая розніца.

– Амаль ніякай, – устаўляе Эрна і нецярпліва прыгубляе бакал.

Я па справядлівасці ацэньваю дасціпнасць яе іроніі. Трапяткі, рухавы, нібы жывое срэбра, твар гэтай дзяўчыны тоіць столькі стрыманай гуллівасці, што аж не верыцца ў сур’ёзнасць іхняга намеру.

– А дзе ж... вашы бацькі-лейтэнанты? Ці вы без іх?

– На жаль, без іх, – коратка ўздыхае Ігар і, разліўшы ў бакалы рэшткі віна, сядае. – Лейтэнанты далёка. Яе пад Харкавам, мой у Дзямянску. На вечнай прапісцы.

У першы момант я не знаходжу, што адказаць. Гэта не весела. Гэта вельмі і вельмі нават журботна. Толькі сваю журбу яны, напэўна, даўно пераражылі, і пасля паўхвіліннае паўзы Ігар паднімае бакал.

– Ну, дык салют!

– Ну што ж! За ваша шчасце, лейтэнанцкія дзеці! – кажу я.

Нешта тужліва-светлае шчымлівай добрасцю запаўняе мае пачуцці. На хвіліну я забываюся і на Сахно, і на Гарбацюка, і на ўсе мае сённяшнія турботы.

Усе за сталом патроху выпіваюць. Ігар адстаўляе бакал і нервова разгортвае цукерку.

– Толькі той дурань вечар сапсаваў. Усё ішло ладна...

– Нічога. Гэта яшчэ не самае горшае... Аднак я не спраўляюся даказаць думку, як побач ускокваюць дзяўчаты.

– Вунь ідуць! Ідуць! Дзевачкі, два міліцыянеры! Адзін, глядзі, які бравы! Сімпацяга!

Па праходзе да нас сунецца Гарбацюк. За ім, трохі прыадстаўшы, са службовай важнасцю на тварах ідуць

два міліцыянеры ў белых кіцелях і чырвоных фуражках. Пярэдні даволі пажылы ўжо, з маршчыністым тварам дзядзька, задні ж – сапраўды сімпатычны хлопец. Гарбацюк спыняецца ля нашага стала і паварочваецца да міліцыянераў.

– Вось, калі ласка! П’яныя. Нахабства, хуліганства і ўрэшце палітычныя выпады. Вунь той. І гэты ў чорным. Старшына міліцыі афіцыйна-бясстрасным позіркам акідвае ўсіх за сталом, аглядае бутэлькі, даўжэй затрымліваецца на мне.

– Так. Папрашу названых грамадзян прайсці ўслед за намі.

За сталом ускоквае Эрна. Устаюць дзяўчаты і хлопцы.

– А мы?

– Вы можаце заставацца.

– Не. Калі забіраць, дык усіх. Я Ігара аднаго не пушчу! – рэзка аб’яўляе Эрна.

Я таксама ўстаю.

– Усё ж яны – сведкі. Калі ўжо весці, дык разам.

Гарбацюк працінае мяне ненавісным позіркам.

– У сведкі вы не набівайцеся. Вы мне таксама адкажаце. За знявагу.

– Ах, за знявагу! Ну што ж! Я гатовы! Пайшлі!

Я першы выходжу з-за стала. За мной іншыя. Малодшы міліцыянер праходзіць наперад. Уздоўж сталоў мы ідзём да дзвярэй. З усіх бакоў да нас павяртаюцца людзі. Аднекуль чуецца:

– Дастукаліся!

– Хуліганнё!

– Туняядцы!

– Можа, валютчыкі!

Сцяўшы ў сабе няёмкасць, мы як найхутчэй праходзім каля швейцара, спускаемся па прыступках. Пярэдні міліцыянер услужліва расчыняе нам дзверы, ад якіх спалохана кідаецца жанчына. Дзяўчаты ззаду ціхенька пырскаюць смехам. Ігар, аднак, выдаўлівае на шчоках жаўлакі. Наогул, гэта не смешна.

Мы выходзім на плошчу.

Ва мне ўсё кіпіць. Я ведаю, што прычын для сур’ёзных вынікаў ніякіх няма. І я не баюся міліцыі. Але сам факт гэтага прыводу амаль пад канвоем абурае да глыбіні душы. Я бачу помсту. Дробязную, недарэчную, подлую. І я прагну кары. Толькі да кары яшчэ далёка. Яшчэ невядома, як паставяцца да нас у міліцыі. Невядома, хто там. А раптам гэткі ж былы старшыня трыбунала?

Міліцыянеры праводзяць нас праз службовы ход і спыняюцца ля дзвярэй з таблічкай. Старшына павяртаецца да ўсёй групы.

– Усім не заходзіць. Толькі вы, вы, вы і вы, – ківае ён мне, Ігару, хлопцу ў чорным і Гарбацюку.

Эрна хапаецца за Ігараву руку.

– І я таксама.

– Прашу астацца.

– Не астануся. Ён мой муж! – выпальвае яна тонам найвялікшае важнасці.

– Гэта няважна.

– Не, важна!

– Так? Тады прашу! Астатнія свабодны.

**29**

Мы доўга яшчэ брыдзем прыціхлаю вуліцай, пакуль

выходзім з сяла.

Тым часам настае ранак. Неба канчаткова растварае ў сабе світальную рэдказорную сінь і святлее. Гаснуць дробныя зоркі. З шэрага сутоння выступае пярэстая сельская аколіца. Ля мастка цераз ручаіну стаіць збочаны, з адкрытымі люкамі танк, падбіты ці пакінуты – не зразумееш. Далей, востра смердзючы разлітым па снезе бензінам, валяюцца два перакуленыя матацыклы з каляскамі. Яшчэ далей, на ўзбочыне горбіцца бок конскага трупа з утаптанай у снег грывай. Ля дарогі некалькі чорных аграмадных варонак – значыць, і тут бамбілі. Тут пачынаецца поле, вялікае гэта сяло скончылася. На высокім слупе тырчыць указальнік з чорным гатычным надпісам: «Gruskoe».

Разам з танкістам і Кацяй я нясу Юрку. Мой сябар ціха гойдаецца на трохкутнай нямецкай палатцы і нават не стогне. Мне чамусьці здаецца, што ён проста стаміўся і спіць. Прынамсі, вельмі хочацца, каб было так. Хай паспіць яшчэ, хай! Бо што я скажу яму, калі ён ачнецца? Чым абнадзею яго, калі сам не ведаю, дзе мы і куды ідзём.

Дарога за сялом крута загінаецца па схіле ўгору. Наматаўшы на руку парусінавы рог палаткі і вельмі ашчаджаючы параненую нагу, я марудна шкандыбаю ў каляіне. З другога боку валюхае танкіст – чорны, як грак, чубаты хлапчына ў прамазучанай целагрэйцы. На ягонай галаве – камандзірскі, на футравай падкладцы танкавы шлем з шлемафонам, провад якога целяпаецца на плячы. Дарога на пад’ём добра ўпарыла танкіста, хлопцу душна, і ён усё спіхвае шлем на патыліцу. А ў мяне ўжо, мабыць, адмерзла галава. Хочацца папрасіць шлем, ды ці варта: не дасць. Каця прытрымлівае палатку ззаду. Двое разведчыкаў наперадзе валакуць дахадзягу аўтаматчыка. Ззаду за ўсімі, дужа сагнуўшыся, нясе на сабе бездапаможнага лётчыка немец. Гэта яго прымусіў Сахно. Дарэчы, інакш і не панясеш – няма каму. І лётчык, відаць, зразумеўшы нешта, ужо не патрабуе, як раней, забіць немца. Прыціхлы, ён цярпліва сядзіць у таго на спіне,

абхапіўшы забінтаванымі рукамі-култышкамі доўгую немцаву шыю. Адзін толькі капітан улегцы крочыць збоку. Але ён таксама паранены, ну і да таго ж – начальства...

Урэшце невялічкая наша група ўзбіраецца па пагорку на стэпавую разлегласць і спыняецца. Не згаворваючыся, мы разам кладзем параненых на снег і знямогла падаем побач. Сахно трохі марудзіць, але пагаджаецца:

– Пяць хвілін!

Мой напарнік-танкіст, шырока расставіўшы ў каляіне свае кірзачы, з лёгкаю зайздрасцю кажа пра яго:

– Строгі!

– Дурны, а не строгі, – папраўляе Каця.

Лежачы на баку, яна клапатліва захінае на Юрку паўшубак. Юрка дробненька дыхае. Танкіст павяртае да яе голаў.

– Ну, чаму? Не ведаю, як хто, а я люблю строгіх. З імі ў баі лягчэй.

– Нядоўга ты, мусіць, у баі быў, – кідае Каця. Танкіст зноў збочвае разгарачаны твар. Вочы яго хмурнеюць.

– Ды ўжо ж, мусіць, больш за цябе. З-пад самага Курска газую.

Каця іранічна хмыкае:

– З-пад Курска! Ваяка! Ты б у сорак першым пагазаваў! Або ў сорак другім! Лацно цяпер газаваць...

– Ты ўжо з сорак першага? – недаверліва азірае танкіст дзяўчыну.

– А ты што ж думаў? Са жніўня сорак першага. Пабачыла такіх вас. Строгіх і ласкавых.

– Яно і відаць! – хітравата зазначае танкіст і адным

вокам падміргвае мне.

Я, аднак, не падзяляю ягонай іроніі – Каця для мяне ўжо набыла сваю асаблівую годнасць, якую не можа прынізіць нічога з таго, што ён мае на ўвазе.

Зрэшты, мне не да размоў. Я ўжо адчуваю, што сілы мае канчаюцца. Баюся не вытрываць. Мокрая ад поту спіна пачынае люта мерзнуць, а ў грудзях па-ранейшаму ўсё гарыць ад знямогі. Зноў жа – нага. У ступні быццам тузае хто за які нерв: нага на снезе сама па сабе прыкметна торгаецца. Болю ў ёй, аднак, я не чую, сцюжы таксама. Яна паступова робіцца мне чужой. Гэта, ведаю, кепска.

Здаецца, мінае ўжо болей за пяць хвілін. Хлопцы зморана сапуць, разваліўшыся ў доле. Я пазіраю наперад, дзе сядзяць двое разведчыкаў, і думаю: хоць бы ўжо канаў хутчэй той іх аўтаматчык. Можа, гэта подла – жадаць смерці таварыша, але інакш мы тут, пэўна, засядзем. Аднак там, здаецца, штосьці адбываецца. Адзін разведчык нешта капошыцца над бедалагам і неўзабаве гукае Кацю:

– Эй, сястра. Глянь-ка сюды...

Каця стомлена ўстае на адну нагу, потым на другую і з заснежанай палою ідзе да разведчыкаў. Да іх жа падыходзіць Сахно. Яны там яшчэ нешта калупаюцца, але і так ужо зразумела: аўтаматчык сканаў. (Варта было цягнуць з сяла.) І я з надзеяй на нейкую палёгку пазіраў туды. Побач, бы прысмак, грызучы грудку снегу, паварочваецца ў каляіне танкіст. Нават апатычнага, знямоглага немца кранае клапотная цікаўнасць, і ён прыўзнімаецца з дарогі. Што ж, можа, так лепей.

Толькі што гэта час ад часу гудзіць? Нібы дзе недалёка прагазуе і сціхне матор. У сяле ці далей? Можа, аднак, дзе ў стэпе? Я ўглядаюся ў крывізну сельскіх вуліц, але там нічога падазронага не відаць. Праўда, дальні канец сяла хаваецца за паваротам балкі. Ці не падыходзяць ужо туды немцы? Я напружваю слых, толькі гул

неўзабаве глухне. А можа, гэта мне здаецца так ад ператомы?

Тым часам над сялом, над шырачэзнаю балкай і стэпам у ранішняй марознай смузе ўзыходзіць сонца. Нейкае яно сёння надзвычай вялізнае і чырвонае. Проста дзівосна бачыць такі яго ярка-крывавы шар, які нетаропка выкочваецца з-за краявіду і неўпрыкмет сунецца ўвысь. Небакрай на ўсходзе таксама чырвоны – шырока і густа залiты нейкай мутнай, слаба падсветленай чырванню. Штось нядобрае тоіцца ў сённяшнім усходзе... Нешта трывожна-вусцішнае нараджаецца разам з днём і гняце. Я не ўмею асэнсаваць свайго адчування, але нейкая тужлівая прыкрасць завалодвае маім пачуццём, і я ведаю: гэта не к дабру.

Я стараюся зацяць у сабе трывогу і пазіраю на Юрку. У высока паднятым каўняры паўшубка знерухомеў на снезе ягоны засяроджана-знямоглы твар. Юрка ўсё ў непрытомнасці, і калі б не рэдкія ціхія стогны, здаваўся б зусім нежывы. Танкіст спакойна хрумстае сабе снег, бы нічога асаблівага навокал няма. Я ж прыслухоўваюся да галасоў тых, ля аўтаматчыка, і разумею: Сахно загадвае несці нябожчыка далей. Разведчыкі ж аднекваюцца. Каця маўчыць. Вядома, нягожа пакідаць яго на дарозе, але і мы не жалезныя... Я ўстаю і, больш чым дагэтуль кульгаючы, падыходжу да капітана. Сахно, адкінуўшы палу паўшубка, засоўвае ў кішэню дакументы памёршага.

– Трэба пра жывых болей падумаць!

Сахно крута павяртаецца да мяне і высока ўскідвае няголены свой падбародак.

– Гэта вы пра што?

– Пра тое, што чулі. Хай байцы бяруць малодшага лейтэнанта.

– Вашага сябра?

– Сябра. Ну і што ж? Або таго, – ківаю я ў бок лётчыка, які цярпліва скурчыўся ля немца.

– Што, немца шкада?

– Не шкада, а брыдка.

– Ах, брыдка! А я думаў, шкада. Спачуванне, так сказаць, – сцяўшы квадратныя пашчэнкі, кпліва цэдзіць Сахно. І раптам уладарна загадвае разведчыкам: – Узяць труп!

Спатнелыя і стомленыя, разведчыкі пераступаюць з нагі на нагу. Запэцканыя і падзёртыя іх халаты падпяразаны скуранымі нямецкімі дзягамі. І раптам у аднаго ля спражкі я бачу знаёмыя гранаты. Так і ёсць: выскраблены чымсьці вострым надпіс «Коваль М.». Я не магу ўтрымаць здзіўлення і раблю крок да разведчыка.

– Слухай, ты дзе іх узяў?

Замест таго каб адказаць, разведчык чамусьці тузае галавой, хіліцца, хіліцца да мяне і раптам усім целам грузна валіцца на дарогу. У наступнае імгненне, не паспеўшы здзівіцца, я таксама падаю. У паветры над галовамі праносіцца блізкая чарада куль: «Жві-у, жві-у, жві-у...» Немцы?

Я тут жа крута перакідваюся тварам назад – ну, вядома ж, мы праваронілі – у сяле немцы! Чатыры ці пяць аўтамашын або транспарцёраў (а можа, і танкаў) сунуцца па вуліцы, і з пярэдняй у наш бок джгаюць бляклыя ўранку трасы.

Зразумеўшы ўсё, я рыўком кідаюся да Юркі. Побач усхопліваецца з долу танкіст. Ззаду да нас падбягае Каця. Танкіст азіраецца і ашалела лаецца нядобрымі словамі:

– Гад, здурнеў, ці што? Пэўна ж, свой...

– Свой! Знайшоў сваяка! Трымай палатку! – крычыць Каця.

– Бягом! Бягом! – крычыць зводдаль Сахно (ці, можа, разведчык).

Мы ўтрох нязграбна хапаем Юрку, але яго цела тут жа спаўзае з вузкай палаткі на дол. Новая чарга пырскае ў вочы снегам. Каб затуліцца ад куль, я рэзка пхаю сябра ў каляіну, дзе глыбей, і звальваюся туды сам. Калі чарга мінае, ускочыўшы, падхопліваю Юрку пад паху. Побач узнімаецца з долу танкіст. Усё лаючыся, ён рэзка рве яго за другую руку, ногі падбірае Каця. Над галовамі зноў імпэтна праносіцца агняны струмень, але міма. Здаецца, мы цэлыя. Адчуванне маё прытупляецца, у гарачцы дубее развага, і адзінае, амаль падсвядомае імкненне вымушае: «Хутчэй!» Я ўжо не азіраюся, уся мая ўвага скіроўваецца толькі наперад. Сахно і разведчык, прыгнуўшыся, далёка бягуць па дарозе. За імі цягне лётчыка немец. Другі разведчык ляжыць між каляін побач з трупам аўтаматчыка. Вядома, тыя іх кінулі. Але і нам няма як затрымлівацца – хутчэй! Хоць бы якіх сто крокаў за пагорак – там бы мы захінуліся.

Чэргі б’юць то пад ногі, то праносяцца паўз галовы, вецер абдае снегавым пылам. Мы ўскокваем і зараз жа падаем, але з усіх сіл валачом Юрку. Урэшце, каторы ўжо раз распластаўшыся ў каляінах, бачым – схаваліся. Сяла не відаць, кулі ідуць верхам. Тады мы аслабела ўстаём, і я аддаю сябра танкісту, які за каўнер дужа цягне яго за сабой па каляіне. Я плятуся апошні і слухаю: вось-вось загрукочуць маторы.

Эх, чорт, трэба гранаты! Як трэба цяпер гранаты. І я лаю сябе, што не ўзяў тыя, у разведчыка. Толькі як было ўзяць?..

Наперадзе снегавая роўнядзь, і па ёй пралягае дарога. Далей два рады слупоў, нейкая будыніна, – там, здаецца, чыгунка. Туды аслабела клумаюць Сахно і разведчык. Разведчык, аднак, прыпыняецца і, прычакаўшы, пачынае памагаць немцу. Юрка ў надзейных руках танкіста і Каці. А я ўжо не магу. Я дастаю з-за спіны мой карабін і падаю ў каляіне.

Памерці, ці што? Пэўна, гэта было б удачай – так вось

ціха заплюшчыць вочы і сканаць. Толькі, ведаю, такая смерць – для мяне раскоша. Будзе зусім інакш: перабітыя косці, разарванае цела, кроў і пакуты... І будзе хутка – вось-вось. Як толькі пакажуцца з балкі немцы. Тады і канец...

Аднак у магазіне чатыры патроны. Я перазараджаю карабін і пачынаю чакаць. Каляіна пада мной мелкая і шырокая. Грубы след «студэбекера» сям-там зацёрты Юркавым целам. Камякі снегу. Сляды. Конскі памёт. Калі добра пацэліцца, першымі стрэламі я магу падбіць пару фрыцаў. На большае разлічваць цяжка. Але і для таго трэба аддыхацца, супакоіцца. Хоць бы паспець!..

Аднак немцаў няма. І з-за пагорка не чуваць нічога. Што за дзіва? Нешта даўгавата яны марудзяць. А можа, ім напляваць на нас? Можа, павярнулі куды на іншую дарогу?

Я азіраюся. Танкіст з Кацяй на ўвесь рост нясуць Юрку. Астатнія ўжо ля будыніны. Здаецца, там пераезд. Якое-ніякое сховішча. І, значыць, жыццё... Гэта раптам абнадзейвае. А можа, і я паспею!

**30**

Не верачы, што ўсё абышлося, я пераходжу шасейку, якая на гэты бок бяжыць поруч з чыгункай, і кульгікаю на пераезд. Але гэта не пераезд, а хутчэй будка абходчыка – цагляная дамоўка, хляўчук, штабель шпал і некалькі абсыпаных снегам рэек на нізкай падстаўцы. Шлагбаумаў тут няма.

Хлопцы ляжаць у снезе за рэдзенькім паламаным штыкетнікам. Праз ягоныя шчыліны тырчаць на дарогу два аўтаматныя ствалы. Чакаюць. І лаюцца. Прынамсі, лаецца адзін Сахно.

– Якое вы мелі права? Я вас пытаюся? Яго сусед-разведчык варочаецца ў снезе і запальчыва апраўдваецца:

– Дык жа забіты! Што я сляпы, ці што? У галаву ж

куля...

Дашкандыбаўшы да хлопцаў, я бокам падаю ля танкіста і прасоўваю ў дзірку карабін. Наперадзе так нікога і не паказалася. Відаць, сапраўды, плявалі на нас немцы. Папалохалі, забілі аднаго і задаволіліся.

– Васілевіч! – гукае мяне Сахно.

– Я!

– Вы забітага бачылі?

– Ну, бачыў. А што?

– А вы ўпэўнены: ён забіты, а не паранены?

– Я не глядзеў. Вы ж самі там стаялі... Маглі пацікавіцца.

Сахно хвіліну маўчыць, разважаючы. Пасля рашуча ўстае.

– Вось што! – катэгарычна аб’яўляе ён і павяртаецца да разведчыка: – Зараз жа пойдзеце і даставіце сюды труп. Зразумела?

Разведчык таксама ўзнімаецца са снегу.

– А нашто труп?

– Каб я бачыў, што ён забіты! – трацячы раўнавагу, раптам крычыць Сахно. – Вы разумееце ці не? Ці вам трэба зброяй гэта ўнушыць?! Ну!

Ён гатоў азвярэць, размахвае пісталетам, і я цяпер не зайздрошчу хлопцу. Уставіўшыся ў капітанаў твар, відаць, разумее гэта і разведчык. Трохі памарудзіўшы, ён злосна плюе ў снег і, ні на кога не зірнуўшы, ідзе на дарогу. Пад плотам нас застаецца трое. Астатнія, напэўна, у дамоўцы.

– Саплякі! Разгільдзяі! – бушуе Сахно. – Я вам пакажу, як выконваць загады!

«Здорава!» – думаю я. Відаць камандзірская рука. І прынцыповасць. Аднак навошта гэтулькі крыку? Самі – не дурні, разумеем, што да чаго. Накрычаўшыся, Сахно сціхае, бы замыкае свае сківіцы, і кладзецца ў снег. Мы глядзім на дарогу. Разведчык хутка ідзе сабе з аўтаматам пад пахай. Справа, недзе зусім блізка – Кіравагград. У небе над ім расплываюцца дымы. Блізкая канаыада калоціць пад намі зямлю. Аднак у якім баку перадавая – не зразумець: грыміць кругом. Невысока ўгары, абрынуўшы на зямлю крута замешаны грукат, праносіцца чарада «ІЛаў» – пайшлі на штурмоўку. На небасхіле бяспромнаю бляклай плямай праз рэдзенькую смугу блішчыць халоднае сонца.

На дарозе па-ранейшаму пуста.

Я пачынаю мерзнуць. І галава, і нага. У кажушковы рукаў набілася снегу. Там мокра. Турбуе думка: як Юрка? Такая дарога, мусіць, далася яму ў знакі. І тут, быццам у адказ на мой клопат, з-за рога дамоўкі з’яўляецца Каця.

– Младшой! А младшой! Друг кліча...

Ад кепскага прадчування ў мяне захлынаецца сэрца. Я ўскокваю з-пад плота. Зводдаль ускідвае голаў Сахно. У ягоным позірку прыдзірлівая строгасць службіста.

– На хвіліну, – кажу я і брыду за рог.

У дамоўцы паўзмрок. Выбітыя вокны завешаны вопраткай. На падлозе зляжалая салома. (Відаць, за гэтыя суткі забрыдаем сюды не мы першыя.) Але тут цёпла. Мяне сустракае пажылы прыгорблены чалавек у чорнай ватоўцы. У куце на саломе паныла сядзіць немец. Побач на нейкай світцы дрыжыць-калоціцца ў брудных бінтах лётчык. Немец час ад часу ахінае яго шынялём. Бліжэй да акна суцішана ляжыць мой спакутнелы сябар.

– Сядзь, – ціха кажа Юрка, адкрыўшы і аслабела заплюшчваючы вочы.

Я апускаюся ля яго на салому і маўчу. Я не ведаю, што з ім? Ці не самае горшае?..

– Цябе там не параніла? – ціха пытаецца Юрка.

– Не, Юра. Абышлося. А ты чуў? – пытаюся я, сцяўшы дыханне. Няўжо ён усё чуў, што рабілася на дарозе?

– Я разумею, – маючы на ўвазе нешта сваё, кажа Юрка. – З намі вазні!.. Самім столькі бяды! Але знаеш... Не кідай. Дужа прашу. Я-то чорт з ім... Але маці ў мяне, ведаеш жа... Не перажыве яна...

Ён змаўкае, і ў мяне адлягае ад сэрца.

– Юр! Ну што ты! – дзіўлюся я, адчуваючы сваю няшчырасць. Бо я не ведаю, куды мы яшчэ падамося? Як выкруцімся з гэтай бяды? Ці здолеем вынесці яго жывога? Не ведаю чаму, але мая рашучасць ратаваць яго пахіснулася. І ўсё ж я з раптоўнай упэўненасцю абяцаю: – І не думай пра гэта: не кінем!

Юрка нешта ўзіраецца ў столь і ўздрыгвае.

– Знабіць, халера. А наогул – мне лепш. Я цяпер адчуваю: выжыву. Учора, прызнацца, думаў, хана, – вуснамі ён спрабуе ўсміхнуцца. І зноў сур’ёзна: – Выбрацца б толькі...

– Выберамся, Юра. Тут ужо недалёка. Во немец паможа. Яшчэ ёсць двое здаровых. Не турбуйся.

Я азіраюся на Кацю, якая ціха стаіць ззаду, і раптам бачу яшчэ некага на падлозе ў другім куце. Прыкрыты шынялём, ён ляжыць у цені. Толькі ногі ў нямецкіх, дбайна падкутых ботах выцягнуліся да парога.

– Хто гэта?

– Немец. Хто ж яшчэ... – кажа Каця.

– Немец, сынок, немец, – пацвярджае стары, пэўна, гаспадар гэтай дамоўкі. Ён расслаблена шкандыбае ад парога і сядае на край тапчана. Пасля раздумна знімае

шапку. На белай галаве тапырацца зблытаныя ссівелыя космы.

– Адкуль немец?

– Ды тут, учора... Паміраў на шашы. Ну, падабраў...

Я ўстаю, адкідваю край шыняля. На скрываўленай саломе зжаўцелы, здаецца, малады яшчэ твар. Паўрасплюшчаныя нерухомыя вочы. Худая кадыкастая шыя. На пагонах па два афіцэрскія знакі. Обер-лейтэнант вермахта.

– Усю ноч кідаўся. І плакаў, як дзіця. Нялёгка адыходзіў, не дай Бог. Цяпер ужо што?.. Цяпер царства нябеснае.

– Ты што, у немцаў служыў? – кальнуўшы яго позіркам, строга пытаецца Каця.

Чалавек з дакорам паднімае на яе вочы.

– Чаму так кажаш, дачка?

– Бо дужа жаласлівы.

– Ну, хай сабе жаласлівы... Не блага гэта. А немцам я не служыў. Я працаваў тут. Дваццаць год тут працаваў на чыгунцы, – крыўдліва кажа чалавек. – Сябе карміў. Нявестку з дзецьмі. Ды яшчэ вашых двух у сорак першым выхаджваў... Пакуль раны загаіліся. Што ж, сам салдат быў. У тую мікалаеўскую пабачыў ліха... У палоне ў іх быў. Ведаю.

– А гэта? – ківаю я на немца пад шынялём.

– А што гэта? Быў, можа, фашыстам. А паміраў – Бога ўспамінаць стаў. Гота па-іхняму. Які ўжо тут фашыст? Перад канчынай-та. Смерць, яна ўсіх уроўнівае. Цяпер ён проста чалавек. Нябожчык.

– Ачалавечыш яго! – кажа Каця. – Мала ты, напэўна, пабачыў іх...

Да ўжо ж колькі давялося, – сапе стары і аблакочваецца на калені. Вузлаватыя ягоныя рукі сашчапляюцца ў вузел.

Мне здаецца, у немца на дзязе зброя. Нагнуўшыся, я тузаю кабуру – сапраўды, там невялічкі варанёны пісталет. На баку надпіс бельгійскай фірмы. Надзіва зручная рукаятка шчыльна ўліваецца ў далонь. Іншае мяне мала цікавіць, а зброя спатрэбіцца. Тым больш што ў магазіне поўна патронаў. Ударам далоні я заганяю магазін назад у рукаятку і лаўлю на сабе позірк Юркі.

– У цябе ёсць? Няма? На, вазьмі гэты. Хай будзе.

Юра аслабелаю рукой бярэ пісталет. Але ў ягоных вачах ужо няма і крошкі цікаўнасці, звычайнай для такіх выпадкаў. Я ўжо заўважыў, што за пакутны час ранення ў паглядзе майго сябра з’явілася нешта новае, невядомае мне раней. Нейкая ўнутраная насцярожанасць усё настойлівей авалодвае ім, робячы амаль чужым такога знаёмага і звыклага для мяне Юрку. Гэта засмучае і міжвольна пачынае аддаляць яго ад мяне, і я не ведаю, што сказаць яму. Ранейшая трывалая еднасць між намі парушаецца, бясслоўная сувязь знікае, і я маўчу. Маўчыць, пераабуваючыся на падлозе, Каця, маўчыць стары на лаўцы. І раптам пад вокнамі раздаецца вокліч Сахно:

– Васілевіч! Васілевіч!

У мяне абмірае сэрца – немцы? Я выскокваю ў дзверы і на парозе сутыкаюся з Сахно. Ледзьве не збіўшы мяне з ног, капітан хапаецца за карабін.

– Дай сюды!..

І бяжыць за рог да штыкетніка. Я кульгікаю туды ж, чакаючы адразу ўбачыць бяду. Але танкіст, бяспечна лежачы на сваім месцы, неяк ужо дужа спакойна ўзіраецца ўдалячынь. Пасля паўзмроку дамоўкі асляпляе снежная яркасць, аднак мне здаецца, быццам па полі нехта ідзе. Далёка і нібы толькі адзін. Тым часам Сахно таропка перазараджае карабін і, прыткнуўшы яго

да штыкецiны, цэлiцца. Неўзабаве гахае срэл.

– Што такое?

Танкiст азiраецца, ягоны твар, аднак, да абыякавасцi спакойны. Хлопец кiвае ў стэп.

– Ды той вунь драла дае...

Разведчык? Ну, так i ёсць. Далёка, пад самым пагоркам, варушыцца адзiнокая блеклая постаць. Вiдаць, добра адышоўшыся ад нас, ён збочыў з дарогi i цяпер наўпрасткi некуды шыбуе па снегавой цалiне. Спярша гэтая навiна апякае мяне гневам, потым прыходзiць здзiўленне – куды ж ён кiруе? Каб да немцаў, не трэба было сходзiць з дарогi: немцы ж у сяле... Тым часам Сахно зноў страляе.

– Стойце! – крычу я. – Што вы робiце?!

Аднак капiтан, не слухаючы, страляе яшчэ, толькi, вiдаць, усё ж далёка: не трапiш. Разведчык жа, мабыць, пачуўшы яго стрэлы, прыпыняецца i разы два ўзмахвае над галавой: маўляў, чорта мяне дастанеце!

– Што вы робiце? Хiба ён да немцаў?

Сахно, як затраўлены воўк, азiраецца i ўскоквае на ногi.

– А вы замаўчыце! Замаўчыце! – крычыць ён. – Вы разгiльдзяй! Вас у штрафную трэба! Вы разлагаеце дысцыплiну! Я ў трыбунал вас перадам!..

Я ўнутрана смяюся. Напалохаў! Трыбунал! Дурань ты, хочацца мне сказаць, але я ведаю, цяпер з iм лепей не звязвацца. Я нагiнаюся за карабiнам, якi ён аднаруч кiдае мне пад ногi, i адыходжу. Сахно ж, выкрычаўшы пагрозу, таропка iдзе ў дамоўку. На рагу, аднак, сутыкаецца з Кацяй. За ёй шкандыбае стары. Каця ўстрывожана.

– Што за пальба?

Не адказваючы, капiтан запальчыва ўскiдвае свой

падбародак.

– Ану, збірайце манаткі! Марш адсюль!

– Куды марш? Навокал немцы, – спакойна кажа Каця.

Сахно з кароткай збянтэжанасцю пазірае на яе.

– Туды! Упярод! Да сваіх! – махае ён за дамоўку ў поле.

Каця ўздыхае і адварочваецца. Да Сахно, хутаючыся ў ватоўку, падыходзіць стары.

– Там міны, сынок. Надоечы немцы раскладвалі. Сам бачыў. Тут увакурат грузавікі стаялі. А яны па полі разносілі.

Каця, стоячы збоку, зашпільвае паўшубак. Танкіст, падышоўшы ззаду, ссоўвае на патыліцу свой зухаваты шлем і прыслухоўваецца да размовы. Сахно пранозліва глядзіць на старога. А я амаль фізічна адчуваю, як нешта ў маім нутры панылa і відавочна асядае.

– Дзе край міынага поля? Дзе абход? Будзеш паказваць! – загадвае Сахно.

Стары разводзіць рукамі.

– А хіба ж я ведаю? Спярша дык бачыў. А пасля яны мяне ў горад завезлі. Колькі яны тут наклалі – д’ябал іх ведае!

На маленькім падворку настае напружаная паўза. Чуваць толькі самалётны гул. Некалькі вераб’ёў злятаюць са страхі і рухава скачуць па снезе ля нашых ног. Сахно азірае аколіцу.

– Так, – рашае капітан. – Раненых пакінуць. Немца шлёпнуць. Хаця адставіць. Немец пойдзе з намі.

Падаўшыся наперад, я апынаюся перад капітанам.

– Малодшага лейтэнанта таксама возьмем.

Мой голас дрыжыць. У тоне нічым непрыкрыты выклік.

На гэты раз я яму не саступлю. І Сахно, здаецца, разумее гэта. Строга бліснуўшы на мяне злым позіркам, ён адварочваецца.

– Толькі пры ўмове, што ты яго панясеш.

– Памогуць. Яны памогуць, – кажу я і ўмольна пазіраю на Кацю.

Тая, аднак, скіроўвае свой позірк у поле. Тады я паварочваюся да танкіста:

– Друг, ты ж падсабіш?

Танкіст незадаволена чмыхае:

– А я што – конь?

Мая стаўка рушыцца. Я ледзьве стрымліваю слёзы. Сволачы абое! І Каця таксама. А я спадзяваўся!.. Цяжка! Страшна! Вядома, свая кашуля прыліпла да цела. Баягузы праклятыя! Ну, але чорт з вамі! Яшчэ пабачым – хто выгадае.

Мяне душаць крыўда і гнеў. Трэба б ім нешта сказаць, абразіць, зняважыць. Але я не знаходжу слоў і кідаюся ў хату.

Дзвярэй я за сабой не зачыняю – цяпер мне пляваць на ўсё ў цэлым свеце. Я схіляюся над Юркам. Ён з намаганнем узнімае запалыя вейкі.

– Юр, ну як ты?

– Так, нішто, – ціха, перасільваючы стогн, кажа ён і пытаецца: – Чаму стрэлы былі?

Я не адказваю.

– Юра, ты можаш? Як-небудзь бярыся за мяне. Рукамі бярыся.

З раптоўнай трывогай у вачах ён паслухмяна цягне да мяне свае рукі. Я паварочваюся бокам, каб падставіць яму свае плечы. У гэты час у дамоўку нячутна заходзіць

Каця. Побач на падлозе я бачу яе валёнкі.

– Ну, якраз. Толькі табе і несці! – злуецца яна, і ад гэтае яе злосці нешта ва мне расслабляецца ў добрасці. Каця азіраецца: – Эй, фрыц, ану, падсабі!..

– Яволь! Айн мамэнт!..

Немец з гатоўнасцю ўскоквае. Я чую, як тупацяць па падлозе ягоныя падкаваныя боты. З дапамогаю Каці ён пераймае з маіх плячэй даволі-такі цяжкае Юркава цела. Палаткі, аднак, няма, і яны бяруць Юрку за каўнер і полы паўшубка. І тады на падлозе ўсхопліваецца лётчык.

– А я? А мяне? Кідаеце? Завялі ў акружэнне і кідаеце?.. Сволачы вы! Пяхота праклятая! – ашалела крычыць ён, размахваючы ў паветры рукамі-кульцяпкамі. І раптам істэрычна хліпае: – Браточкі! Што ж вы робіце? Не кідайце! Я камандуючага вазіў. Я яго асабістым шафёрам быў. Ён з вас душы павытрасае! Сволачы! Вы чуеце? Я не дарую!

– Ах, вось што! – спыняючыся, кажа Каця. – Вось які ты лётчык!

– Я не лётчык. Я шафёр камандуючага. Зразумелі! Цяпер вы мяне не пакінеце. У мяне вайсковая тайна. Я маю тайну. Ага!

Я бянтэжуся і не ведаю, што рабіць. Агідна і жахліва адначасна чуць усё гэта. Але ён такі здаравенны – нам яго не падняць. Хіба, можа, возьме танкіст? Трэба б як перанесці яго з гэтае будкі куды ў лепшае месца?

Мы выносім Юрку на ганак, і я крычу танкісту, які разам з Сахно стаіць на двары. Аказваецца, тут усё чутна.

– Эй, чуеш? Вазьмі!

Танкіст без слоў закідвае за плячо аўтамат, але Сахно груба спыняе яго:

– Стой! Я сам...

І рашуча праціскаецца паўз нас у хату.

Згінаючыся, мы выносім Юрку на падворак і ямчэй бяром зноў утрох: я, немец і Каця.

Танкіст кідаецца ў дзверы следам за Сахно. Мы моўчкі чакаем.

– Ось што будзе з кожным! – крычыць Сахно:– З кожным панікёрам і ныцікам! У мяне рука не ўздрыгне!

Сцюдзёным ветрам павявае ў душу. І мы раптам адчуваем – гэта не пустыя пагрозы. Рашучасці ў яго хопіць.

Сахно выбягае на падворак.

– Ну! Шырай шаг!

Падаўленыя і прымоўклыя, мы хутка сігаем па дарозе ў поле. Ззаду ў варотцах застаецца стары. Ён моўчкі і доўга глядзіць нам у спіны. Я зноў кульгікаю з нацягнутым рогам паўшубка ў руцэ. Юркавы ногі валакуцца па снезе. А мне раптам робіцца шкада шафёра. І з кожным крокам усё шырэе нянавісць да капітана Сахно. Я ўжо выразна адчуваю: ён здольны на ўсё. У горшым выпадку, літасці ад яго не чакай. Але і шафёр, гэты самазваны лётчык, таксама зануда: столькі ашукваць нас.

**31**

У міліцыі нас, мусіць, не вельмі чакаюць. Пакуль мы па адным пралязаем праз вузкія дзверы, за сталом у пакоі дагульваецца партыя ў шахматы. Гуляюць малодшы лейтэнант у срэбных пагонах, які сядзіць за сталом, і міліцыянер, што стаіць збоку. Пры нас ужо яны па чарзе робяць некалькі паспешных хадоў. Але да мата, відаць, далёка, і міліцыянер ашчадна прыбірае дошку. Малодшы лейтэнант, хмурачы светлыя броўкі, акідвае нас позіркам, у якім начальніцкая прыдзірлівасць

змагаецца са звычайнай хлапечай цікаўнасцю.

– Да сценкі! Да сценкі! Не таўпіцеся ля дзвярэй.

– Не ўцячэм! – кажа наш хлопец у чорным.

Трымаючы пэўную дыстанцыю ва ўзаемаадносінах, афіцэр суха кідае:

– Ахвотна веру.

Ён зусім яшчэ малады, мусіць, нядаўні выпускнік міліцэйскага вучылішча, і строгасці на ягоным твары праз меру. Старшына, што прывёў нас, становіцца ля дзвярэй. Мы ўсе выстройваемся ў рад, за тры крокі ад адзінага тут стала, і малодшы лейтэнант апускаецца на стул.

– Ну, у чым справа? Хто растлумачыць?

Гарбацюк памыкаецца да стала.

– Яны зняважылі мяне. Апроч таго, планкі...

– Вас мы ўжо чулі, – даволі рашуча перабівае яго афіцэр іківае на мяне. – Скажыце вы!

– Што казаць? Планак у яго не было. Я іх не бачыў. Малодшы лейтэнант кідае беглыя позіркі на іншых і спыняецца вачыма на Ігару.

– А вы што скажаце?

– Я далучаюся да таварыша. На жаль, не ведаю прозвішча.

– Так. Значыць, не прызнаяцеся. Тады будзем пісаць. Ён разгортвае на стале канцылярскую кнігу. З кішэні кіцеля дастае аўтаручку.

– Та-ак! Пішам. Па парадку. Вас першым. Прозвішча, імя, імя па бацьку.

– Васілевіч Леанід Іванавіч.

– Год нараджэння?

– Іысяча дзевяцьсот дваццаць чацверты.

Ручка яго, аднак, не хоча пісаць, драпае паперу, і малодшы лейтэнант страсае яе ўбок. На чырвоным, заляпаным чарнілам абрусе з’яўляецца новая пляма.

– От, чорт! Далей?

– Кавалевіч Ігар Пятровіч. Тысяча дзевяцьсот трыццаць чацвёрты.

– Так. Далей.

– Цяслюк Віктар Сямёнавіч. Трыццаць восьмага.

Ручка ў афіцэра зноў драпае, і ён, павярнуўшыся, рэзка страсае яе ў гэты раз на падлогу.

– Цяслюк. Далей.

– Фогель Эрна Дзмітрыеўна. Тысяча дзевяцьсот сорак другога.

Малодшы лейтэнант узнімае твар.

– А вы што – сведка?

– Яна ні пры чым, – аб’яўляе Гарбацюк і з зацятым выразам закладвае рукі за спіну.

– Не. Я пры чым. Пішыце і мяне.

Гаспадар пакоя з недаверам пытаецца ў Гарбацюка:

– Яна, значыць, не абражала вас?

– Не. Яна не.

Малодшы лейтэнант вагаецца, і Эрна з раптоўнай рашучасцю ў вачах падскоквае да стала.

– Пішыце, пішыце! Я яшчэ абражу.

Малодшы лейтэнант амаль збянтэжана знізу ўгору

глядзіць на яе. У чорных вачах дзяўчыны бунт і рашучасць. Афіцэр, не адрываючы ад яе позірку, вяла страсае ручку.

– Фогель?..

– Фогель Эрна Дзмітрыеўна. Тысяча дзевяцьсот сорак другога года нараджэння. Запісалі? А цяпер я скажу.

Вёртка крутнуўшыся ад стала на сваіх вастранькіх шпільках, яна апынаецца тварам у твар да Гарбацюка.

– Вы, нягоднік! Чуеце! Нягоднік і правакатар!

Ігар падаецца да дзяўчыны, хапае яе за руку.

– Эрна!

– Эрна, ды кінь ты! – з другога боку да яе падыходзіць Цяслюк.

Ігар ставіць яе з сабой побач. Жывы, рэзка акрэслены твар дзяўчыны гарыць ад абурэння.

– А я не баюся! Ваша шчасце, што іх у вас не было. Я б іх сама сарвала. Вы іх нявартыя. Вы правакатар!

– Вы чуеце? Вы чуеце, таварыш малодшы лейтэнант! Я прашу запісаць.

Малодшы лейтэнант ускоквае за сталом і, як утрапёны, глядзіць на дзяўчыну.

– Замаўчыце!

Эрна змаўкае, але ўся аж калоціцца ад узбуджэння.

Гарбацюк тыкае ў нас пальцам і крычыць афіцэру:

– Вы бачылі? Яны ўсе п’яныя. Прашу запісаць.

– Ану, вядзіце сябе прыстойна. Тут не рэстаран, – строга кажа малодшы лейтэнант.

Эрна марудна супакойваецца. Абхапіўшы за плечы, яе

туліць да сябе Ігар. Я з усяе сілы стараюся стрымацца, каб выглядаць спакойным, хоць адчуваю – маёй вытрымкі хопіць ненадоўга.

Хмурачы рэдзенькія броўкі, стаіць малодшы лейтэнант, стаяць міліцыянеры ў парозе. Зацяўшы ў сабе прыкрасць і гнеў, моўчкі стаім мы. Адзін толькі Гарбацюк прыкметна ажыўляецца і ўсё памыкаецца да стала.

– Ось, бачыце! Ось, бачыце. Прамыя выпады! Так, так! Урадавыя ўзнагароды ёсць акт Савецкага ўрада. А яна што сказала? Я папрашу ўсё запісаць. Я не дарую. Я гэтыя ўзнагароды заслужыў у баях!

– Безумоўна! – парушае напружанае маўчанне афіцэр. – Ніхто не даў права зневажаць тое, што заслужана на франтах Вялікай Айчыннай вайны.

З акамянеласцю, якая зусім не пасуе да яго маладога твару, ён сядае. Яшчэ раз кінуўшы позірк на Эрну, моцна страсае ручку.

– Ну, не ўсё, што блішчыць на грудзях, у баях заслужана, – кажа ў цішыні Цяслюк.

Гэты хлопец увесь час трымаецца неяк надзіва роўна і спакойна. На яго поўных сімпатычных вуснах, здаецца, пастаянна блукае дабрадушная ўсмешка. Нібы ўсё, што тут адбываецца, яго ніколечкі не датычыць.

Малодшы лейтэнант замірае з занесенай над паперай ручкай.

– Вы не мудрыце мне тут...

– А я не мудру, – ва ўвесь свой круглявы твар усміхаецца хлопец. – У мяне дзядзька – бацькаў брат – падпалкоўнік у адстаўцы. Усю вайну прасядзеў у Архангельску ў ваенным вучылішчы. Фронту і не нюхаў. А звольніўся – тры ордэны...

Малодшы лейтэнант недаверліва хмыкае.

– Раскажыце гэта каму-небудзь іншаму.

– Дарма не верыце, – кажу я. – Бывае і так.

– Бувае, – падтрымлівае мяне старшына.

Ён прысланяецца да сцяны і дастае з кішэні партсігар.

– Факт! – кажа Цяслюк. – За выслугу год і бездакорную службу.

Малодшы лейтэнант павяртаецца да старшыны.

– Прахарэнка, у цябе «Шыпка»? Дай-ка адну...

Ён раструшчвае канец цыгарэты і, нібы разважаючы аб нечым, усё аглядае нас. Мы ўсе ўставіліся ў яго. Цяпер ён – наш бог, уладар нашага лёсу. І мы адчуваем у ягонай нядаўняй настроенасці супраць нас шчарбінку.

Старшына Прахарэнка тым часам раскурвае цыгарэту і ссоўвае на вуха фуражку. Ягоны грубы, немалады твар кранае дабрадушная ўхмылка.

– У тыле іх больш давалы, чым на фронце, – з разважлівай дабрадушнасцю кажа ён.

Гарбацюк крута павяртаецца да старшыны.

– Гэта не сіаша справа...

– Чаму ж не наша? Наша.

– Калі не наша, то чыя ж? – кажу я з выклікам. – Гэта што, справядліва па-вашаму, калі ў тылавіка больш ордэнаў, чым у камандзіра палка?

Гарбацюк, гляджу, выклік прымае. Вочы яго загараюцца нядобрым агнём.

За сталом ускоквае малодшы лейтэнант.

– Спыніць гэтыя размовы! Спыніць зараз жа!

Ён зачырванеўся і хвалюецца. Я таксама хвалююся. І

ўсё ж шкада, што нам не даюць тут схліснуцца як мае быць. Я б яго вывеў на чыстую ваду...

– Таварыш малодшы лейтэнант! Я прашу гэта запісаць у пратакол! – тыцкае пальцам у паперы Гарбацюк. Чырвоны, спатнелы твар яго пыша абурэннем.

– Запішам! А як жа? Гэта так не пройдзе! – з пагрозай кажа малодшы лейтэнант і пачынае таропка выкладаць на паперы нашу сутычку. У канцы кожнага радка ён страсае ручку.

Гарбацюк з помслівай важнасцю падцінае вусны. Падобна, што ён перамог.

– Сволач ты, Гарбацюк! – кажу я з ледзьве стрыманай лютасцю.

– Гад! – падтрымлівае мяне Ігар. У ягоных вачах таксама нянавісць да гэтага чалавека.

Гарбацюк хоча нешта адказаць, але ззаду праз шырока расчыненыя дзверы ў пакой уваходзяць двое. Абодва афіцэры міліцыі.

– Э-э! Што за грубасці? Што за грубасці? Маладыя людзі!

Лейтэнант за сталом ускоквае і аддае чэсць.

– Таварыш капітан!..

– Так. Што здарылася? – міралюбіва пытаецца капітан і знімае фуражку. Пасля, прыгладжваючы не надта пышныя валасы, глядзіць на мяне. – Па якому праву вы аблаялі гэтага грамадзяніна?

– Па праву франтавіка! – кажу я занадта цвёрда і, можа, занадта ўзрушана.

Але дабрадушна настроены капітан на мой адказ ніяк не рэагуе. Ён пераводзіць позірк на Ігара.

– А вы, малады чалавек, па якому праву? Мусіць, вы-то

не франтавік?

Шэрыя вочы Ігара робяцца жорсткія, тугія скулы на шчоках выпінаюцца яшчэ болей.

– Па праву сына франтавіка. Дарэчы, забітага. Капітан счапляе на жываце пальцы і павяртаецца да Гарбацюка.

– Ну, але ж і вы, мабыць, франтавік? Гарбацюк падцягваецца ўсёй сваёй постаццю.

– Так точна. Гвардыі маёр запасу.

– Ай-я-яй-яй-яй-яй! – прытворна бядуе капітан. – Таварышы франтавікі! У Дзень Перамогі такія абразы! Як вам не сорамна? Што ў вас такое здарылася? Ану, Сямёнаў, дай-ка пратакол.

Малодшы лейтэнант падае аркуш паперы і з важнасцю ў тоне тлумачыць:

– Палітычныя выпады, таварыш капітан.

– Так, так, так... Так, – прыгаворвае капітан і хутка прабягае вачыма па радках пратакола. – Так! Гм! Ды глупства ж гэта! Чапуха! Звычайная склока. Курам на смех...

Малодшы лейтэнант збянтэжана хмурыцца і чырванее.

– І такім глупствам вы марочыце мне галаву? – урэшце пытаецца ў яго капітан. – Пусцяковая справа. Згодны, Сямёнаў?

– Так точна. Я думаў...

Рыпаючы новымі ботамі, капітан падступае да нас.

– Ну што вы, як дзеці? Ай-яй! Франтавікі! Ці варта зводзіць старыя рахункі? У такі дзень. Ну, можа, што і было ў вайну. Але ці варта тое ўспамінаць? Столькі гадоў... Мірыцеся і – з Богам. Нават і пратакола пісаць не будзем.

– Не! Пішыце. Калі мы ўжо тут апынуліся, дык усё

пішыце, – кажу я.

Мяне пыдтрымлівае Ігар.

– У нас не проста сварка. Мы прынцыпова... Капітан падыходзіць да яго і спыняецца.

– Кіньце вы. Якія там прынцыпы? Ну выпілі і паспрачаліся. Заўтра праспіцёся – самім сорамна будзе.

– Мы не п’яныя.

– Ну, тады проста вы злыя. Маладыя і злыя. Ай-яй...

– Мы не злыя! – кажа Эрна. – Мы за справядлівасць! Павінна ж быць элементарная справядлівасць.

– Справядлівасць? Безумоўна. Гэта пахвальна. Чаму ж тады вы зняважылі гэтага грамадзяніна. Ён жа вам у бацькі гадзіцца.

– Не пра мяне гаворка! – з адценнем пакутніка ў тоне адзываецца ад парога Гарбацюк. – Я дакладваў і прасіў запісаць: яны дапусцілі выпады.

Капітан змаўкае і, асцярожна ступаючы блішчастымі ботамі, накіроўваецца да парога.

– Якія іменна выпады?

– Выпады! – цвёрда вымаўляе Гарбацюк. – Вы разумееце якія.

– Хлусня, – кажу я. – Гэтага не было. Капітан спыняецца пасярод пакоя. Вусны яго строга падціскаюцца.

– Не, было... – фальшыва гарачыцца Гарбацюк. – Я не магу тут пры ўсіх паўтарыць, што ён казаў у рэстаране. Але я напішу... Калі вы не прымеце адпаведныя меры, я напішу куды трэба.

Капітан робіцца строгі. Яго тон мяняецца на адрывісты.

– Сведкі ёсць?

– Я сведка! Я чалавек асаблівага даверу. Гэтага дастаткова.

– Вы памыляецеся, грамадзянін. Гэтага недастаткова.

Ад гэтых слоў у мяне выбухае зларадства. Ага – праўда за намі. Чорта з два ён нас праглыне! Падавіцца... Ён толькі іграе на нервах. Пракляты рудымент. З якой шчыліны вылез гэты змарнелы без людской крыві клоп? Няўрымслівы прыліў гневу і рашучасці падхоплівае мяне з месца і штурхае да расчырванелага потнага Гарбацюка.

– Чуў? Не тыя часы! Ты трохі спазніўся!

Я ледзьве валодаю сабой. Да болю ў арбітах напружваюцца мае вочы. І сціскаюцца кулакі.

Ззаду крычыць малодшы лейтэнант:

– Грамадзянін! Спыніць! Зараз жа адыдзіце на месца!

Але потны Гарбацюкоў твар таксама люцее. З лютасцю ён падаецца мне насустрач.

– Магчыма! Тваё шчасце. Я спазніўся. А то б я зламаў табе хрыбет! Не такім ламаў. Шкада, мала! Не ўсім! Засталіся...

Мае кулакі раптам робяцца важкімі. У вачах зноў туман, і ў тумане не Гарбацюк – Сахно. Ззаду патрабавальны суровы крык, якога я ўжо не слухаю. Нехта падскоквае збоку, каб ухапіць мяне за руку. Але я апярэджваю і, паддаўшы ўсім корпусам, б’ю яго ў сківаіцу.

Далей – крык, віск. Гарбацюк кідаецца да мяне. Але яго ўжо хапаюць. Мяне хапаюць за рукі раней. Ля пляча насуплены твар старшыны. Я, аднак, не вырываюся. Я яго болей не ўдару. Гэта адзін раз. І – дзіўна – мне робіцца лягчэй. Я хутка спакайнею. Я чую побач адабралыше – «Правільна». Гэта Эрна.

А ён яшчэ тузаецца з міліцыянеравых рук. Ды дарма.

Хлопцы трымаюць моцна.

– Гэта безабразіе! Дайце мне начальніка аддзялення! Я буду скардзіцца!..

Моладзь ля сцяны ажыўляецца.

– Колькі ўлезе.

– Ага, заспяваў Лазара!

– Мярцвяк жа! Нябожчык. Труп. Смярдзіць, а не выносяць, – хуценька гамоніць Эрна.

– Спадзяюцца, што самі выпаўзуць! – адказвае ёй Цяслюк.

Гарбацюка саджаюць у кут на табурэтку. Яго трымае малады міліцыянер. Капітан павяртаецца да моладзі.

– Ану, марш адсюль!

І да мяне:

– А вы застаньцеся. Вас мы аформім.

Хлопцы і Эрна нерашуча топчуцца ля сцяны і са спагадай глядзяць на мяне. Капітан павышае голас:

– Што, не зразумела? Вызваляйце памяшканне! Жыва!

На ягоным твары знікае і след нядаўняга дабрадушша. Цяпер гэты твар не абяцае дабра. Ну, але гэта датычыць толькі мяне.

– Ладна, шчасліва, – кажу я хлопцам і Эрне.

Ігар першы робіць крок да мяне.

– Дайце вашу руку.

Ён моўчкі і вельмі цвёрда цісне мне пальцы і адыходзіць. Эрна, усміхаючыся, падае мяккую цёплую далоньку.

– Не бойцеся!

– Глупства! Я не баюся. Шчасліва вам!

З прыкметнай палёгкай яны прапускаюць Эрну і зачыняюць за сабой дзверы. У пакоі адразу прастарнее. За стол сядае капітан. Засяроджана прыкурвае ад запальніцы. Падсоўвае да сябе паперы.

– Ну, франтавічкі! Падалі прыклад моладзі! Вельмі прыгожа! Што ж, цяпер я разбяруся з вамі.

**32**

«Minen» – папярэджвае надпіс на дошцы, прыбітай да вешкі, што тырчыць на дарозе. Надпіс не знялі, значыць, нашых тут яшчэ не чакалі, мы першыя. Гэта, вядома, шмат дабра не абяцае. Але танкавыя часці ўсё ж недзе прайшлі. Аб тым сведчыць грымоцце бою, якое калоціць зямлю недалёка наперадзе. Недзе ў тым жа баку нізка над гарызонтам каруселяй уюцца «ІЛы» – штурмуюць немцаў. Злева ж далёка за балкай відаць доўгія будынкі прыгараднага саўгаса. Пад іх сценамі туляцца машыны і фурманкі. Вядома, там немцы.

Мы ўсе разам спыняемся, кладзём на снег Юрку. Сахно выдзірае з дарогі вешку, адрывае ад яе дошку і кідае ў снег. Пасля з палкай павяртаецца да свае прыціхлай чацвёркі.

– Так... Пойдзем праз міннае поле! – аб’яўляе ён і па чарзе, нібы выпрабоўваючы, з-пад ілба аглядвае нас. Каця ўскідвае голаў.

– Вы што? Ці ў сваім розуме?

– Не ваша справа. Я з вамі не жартую. Я загадваю, – уставіўшыся ў дарогу, змрочна аб’яўляе Сахно. – Зрэшты, калі хто не згодны, гаварыце адразу. Для таго я знайду іншае выйсце.

Хвіліну мы ўсе маўчым. Я таксама не зусім разумею яго. Калі б ён выпраўляў нас адных, дык усё было б проста.

Але ж, відаць, па мінным полі прыйдзецца ісці самому. Гэта ўжо бянтэжыць.

– Пайшлі вы к д’яблу! – шырока раскрыўшы гняўлівыя вочы, лаецца Каця. – Вы нас пагробіце. І раненых. Ці вы звар’яцелі?

Сахно цярпліва выслухоўвае дзяўчыну, стоячы да яе бокам, і бровы яго ўсё ніжэй асаджваюцца на сцюдзёныя вочы.

– Я выконваю загад. У арміі палагаецца выконваць загады. Апроч, як праз міны, дарогі ў нас няма. Немцам жывымі я вас не пакіну.

У вачах яго жалезная цвёрдасць. Набычыўшы голаў, ён пранізвае Кацю вострым, нядобрым позіркам.

– Чаму ўжо немцам? Калі пакідаць, дык абавязкова немцам? – кажа Каця і, павярнуўшыся ад яго, паныла адыходзіць убок.

Сахно, сцяўшы сківіцы, нешта абдумвае. Настае пакутная паўза, і, каб скараціць яе, я кажу:

– Пападрываемся ж!

Сахно адказвае не адразу.

– Падарвецца адзін – наперад пойдзе другі. А вы як думалі?

Самаўпэўненасці ў яго нават залішне. Нібы перад намі не міннае поле, а вучэбны пляц. Але ж што рабіць – падацца болей няма куды: з трох бакоў немцы. Можа, як і праскочым... Капітан тым часам, ашчадна несучы за пазухай свій локаць, павяртаецца да нас:

– Ну! Хто першы?

Мы ўсе прыціхлі і маўчым. Глядзім кожны сабе пад ногі. Аднак Каця, зусім не бянтэжачыся, злым позіркам мерае немца.

– Калі так, хай фрыц! Іхнія міны. Няхай па іх і топае.

Сахно нязгодна дзёўбае палкай у снезе.

– Фрыц цябе завядзе?!.

Можа, і так. Можа, і завядзе. Або кінецца ўцякаць. Даганяй тады па мінах. Відаць, і напраўду пускаць яго першым нельга. Але тады каго? Не Кацю ж! І не мяне. У мяне нага адразу дзве міны зачэпіць. Застаецца танкіст...

Спадылба я тайком пазіраю на гэтага чарнявага хлопца. Сахно ўжо, як на прызначанага, ва ўпор глядзіць на яго. Танкіст нерашуча топчацца, пазіраючы некуды ўбок, але, відаць, адчувае, што першым прыйдзецца ісці яму.

– Ось так! – кажа Сахно. – Бярыце палку і – шагам марш!

Танкіст вяла закідвае за спіну аўтамат і прамазучанай рукой моўчкі бярэ палку. Капітан паўз сябе прапускае яго на снегавую цалшу.

– Так. Дыстанцыя пяцьдзесят метраў. За ім пойдзеце вы! – тыцкае ён у мяне і прыкрыквае на танкіста: – І хутчэй! Не ўзарвешся!

Мы скіроўваем у стэп да бліжняга з трох скіфскіх курганаў, што высяцца на снегавой белізне. Юрка ў гэты раз дастаецца Энгелю, які без загаду ўзвальвае яго на сябе. Ў стэпе зачынаецца пазёмка. Снегавыя космы рвуцца з-пад ног і далёка распаўзаюцца ў доле. Скрозь дробненька трымціць на снезе быльнёг. Сцюдзёна дзьме вецер, і невысока на небе праз смугу сіратліва блішчыць зімовае сонца. Я старанна крочу па танкіставых слядах. За мной ідзе Каця. За ёй, сагнуты пад цяжарам нялёгкае ношы, немец. Сахно замыкае пяцёрку.

Унутры ў мяне ўсё пакутна напружваецца. Здаецца, аж замірае сэрца. Ідзеш, як па лязе брытвы. Як па гарачым вуголлі. Увесь час трэба ўглядацца пад ногі, каб ступаць след у след. А вочы міжвольна імкнуць наперад – туды, да танкіста, дзе – невядомасць і смерць. На

перамеценым снегавымі пасмамі доле сапраўды дзе-нідзе старыя сляды. Аднак яны ледзьве прыкметны. Міны ж усе ў снезе, які тут зусім неглыбокі, да шчыкаладкі. Выдатная маскіроўка. Добра яшчэ, што ў пярэдняга палка. Снег мяккі.

Ужо добра адышоўшыся ад дарогі, танкіст спыняецца і, пакалупаўшы палкай, вывальвае на снег нешта круглае. Гэта – міна. Сахно ззаду крычыць:

– Не чапай! Не чапай! Марш упярод!

– Процітанкавая! – басіць танкіст і, грэбліва пхнуўшы нагой шэры смертаносны кругляк, ідзе далей.

У нас крыху прыбаўляецца смеласці. Калі міны процітанкавыя, то яшчэ паўбяды. Пад намі яны не ўзарвуцца. Калі няма проціпяхотных. Тады, лічы, нам пашанцавала.

Танкіст наперадзе, бачу, жывее. Рухі яго робяцца зграбнейшыя, відаць, і страх у яго меншае. Хлопец сігае шырэй. Я дык ужо і не зганюся з ім і паступова адстаю. Але ззаду мяне падганяе Каця. Занадта вырваўшыся наперад, танкіст заўважае гэта і прыпыняецца.

– Шырэй крок! Ні чарта тут няма! – упэўнена кажа ён.

Я стараюся крочыць хутчэй. І раптам усё ва мне абрываецца. Грымотны выбух, здаецца, расколвае неба. Знячэўку я прысядаю, ускінуўшы да галавы локці. Нешта са свістам праносіцца ўгары. Наперадзе ж чорная рваная пляма на снезе і пыл. Воблака яго, хутка радзеючы, сцелецца ў полі.

У наступную секунду я азіраюся. Ззаду ўсе ляжаць, але быццам усе жывыя. Прыніклі да зямлі і анямелі. А танкіста няма. На тым самым месцы, дзе ён толькі што быў, вывараціны мёрзлай зямлі і груды снегу.

Мяне абдае сцюдзёным потам. Чамусьці набіраецца поўны рот горкай сліны. Наўкола робіцца ціха-ціха, і ў гэтай цішы аднекуль з-за балкі ад саўгаса даносіцца далёкая кулямётная чарга.

Першай ускоквае з долу Каця. Зноў, як і некалі ў хаце, яна рашуча, па-мужчынску лаецца.

– Растакую вашу маць!.. Куды завёў? Куды ты нас завёў, сволач!

Капітан паднімаецца на адно калена і стаіць, увабраўшы галаву ў плечы.

– Маўчаць! Упярод! – сваім басам заглушае ён крык Каці. – Вы, упярод!

– Ах, я ўпярод! Мяне гоніш. А табе боязна? Не хочацца паміраць? Малых дзетак шкада? Ласкавай жоначкі?..

Сахно, сцяўшы сківіцы, грозна чакае. Каця крычыць. Я адчуваю, што, па справядлівасці, ісці першым цяпер трэба мне. Толькі ад страху баўлю час. Мне трэба загад. А загад ён аддае Каці. І, відаць, не мае намеру яго мяняць.

Не зводзячы здзічэлага позірку з дзяўчыны, ён дрыготкай рукой вырывае з кабуры пісталет.

– Гад ты! Душагуб! Думаеш, я баюся? За сябе дрыжу? Даганяй, гад! – крычыць Каця і раптам зрываецца з месца.

Бягом яна абмінае мяне, дасягае варонкі і без секунды развагі кідаецца далей. На шэрым, затрэсеным зямлёй і гараю снезе пралягае роўны шнурок яе свяжутка-белых слядоў.

Нейкі час мы яшчэ стаім, не ў стане адолець страхавітай нерашучасці. Але вось з саўгаса зноў грукоча даўжэзная, настойлівая чарга. Некалькі куль угары віскліва прарэзваюць паветра. Гэта надае жвавасці, і мы ўраз подбегам рушым з месца.

Я зноў напружваюся, стараючыся як мага раўней ступаць у Каціны сляды. Пад кулямётны строкат дабягаем да неглыбокай варонкі. Тут мін няма. Але тут горш, чым на снезе. Тут вее не магчымай, а ўжо рэальнай смерцю. Смерцю таварыша. І тое, што

пагібель трапіла другому, а не табе, цяпер ужо не абнадзейвае. Пад нагамі нейкі шкумат вопраткі, збоч з снегу жахліва тырчыць костка – крывава-белая на земляной шэрасці. Зводдаль, адкінуты выбухам, валяецца чорны танкавы шлем. Гэта ўсё. Іншае расхрыстана, расшкуматана мінай і разматляна з зямлёй і снегам.

Але Каця, бадай, ашалела. Што яна робіць? Без палкі, не разбіраючы дарогі і нават не азіраючыся, яна хуткім крокам і подбегам, без усялякай асцярогі шыбуе па снезе да недалёкага ўжо кургана. Быццам ёй вядома, што там канец міннага поля. Сахно нешта крычыць ёй, але яна нават не азірнецца. І мы ідзём па яе слядах. Мы мусім ісці. Заміраючы сэрцамі. З дрыгоццем у нагах. Кожную секунду чакаючы выбуху.

І здараецца цуд. Каця падбягае да кургана. Спыняецца, павяртаецца да нас і стаіць. Ва ўсёй яе маленькай постаці – дакор і выклік. Па полі ад нас, нібы з пагібелі ў жыццё, цягнецца слабенькі і выратавальны ланцужок слядоў.

Неяк незразумела павесялеўшы, я прыбаўляю кроку і неўзабаве даганяю яе. Ззаду спяшаецца немец з Юркам на спіне. Ён добра ўходаўся і аж хістаецца. Відаць, знарок адстаўшы, ззаду за ўсімі бяжыць Сахно.

– Размініравана! Куды далей? – супакоена, але з рэшткамі нядаўняга гневу кажа Каця.

І мне чамусьці няёмка глядзець на яе счырванелы, зморany твар. Вядома, мы вінаваты перад ёю. Перад яе смеласцю і яе безразважнасцю, якім цяпер абавязаны жыццямі. Але ў тым не хочацца прызнацца нават сабе. Лепш за ўсё вытлумачыць неразумным жаночым капрызам. Гэта дазваляе захаваць наш гонар.

Хвіліну мы стаім ля яе. Немец з-пад Юркі стараецца зірнуць наперад. Юрка ніцма ляжыць на яго шырокай спіне. Шэры твар сябра павернуты набок. Вочы ледзь-ледзь прыадплюшчаны.

Тым часам падбягае нахмурана-зацяты, увесь увасабленне вайсковае ўладарнасці, Сахно. За пяцьдзесят крокаў ён спыняецца і сарваным голасам крычыць:

– Васілевіч, упярод!

Так. Цяпер нічога не скажаш. Цяпер павінен ісці я. Капітанава бязлітаснасць поўнаю мерай перадаецца мне. Я пайду.

Толькі куды – упярод?

Пляскаты пагорачак ад кургана паката загінаецца ўніз. З саўгаса нас ужо не відаць. Крыху ўбаку і ззаду, у неглыбокай доўгай нізінцы, пралягае насып чыгункі. У ім чарнее круглая адтуліна трубы.

– Упярод! – з пісталетам у руцэ люта патрабуе Сахно.

Іду, іду. Я і сам адчуваю, трэба хутчэй. Трэба вырвацца з гэтага праклятага поля. Толькі хутчэй!

З вялізнаю асцярогай я крочу ў снег. Мой бот грузне да самай халявы. Параненая ступня ў рукаве нязручна заграбае снег. Каця выпраўляецца следам. Тады ззаду падае голас Сахно:

– Дыстанцыю! Дыстанцыю трымай!

Дзяўчына нешта агрызаецца, але слухаецца і прыпыняецца, даючы мне адысці далей. Праўда, мне зусім не хочацца адрывацца ад іх далёка. Неяк разам з усімі спакайней. Стараючыся крочыць як мага ўважлівей, я азіраю перад сабой снег. Чужых слядоў тут, здаецца, няма. Месцамі снег спрасаваны завеяй да цвёрдага, і я міжволі выбіраю нагамі гэтыя цвярдзейшыя лапіклы. На іх мне смялей. І не так грузнуць ногі.

Спакваля ўмацоўваючы ў сабе ўпэўненасць, я пераходжу грыўку бур’яну, у якой несціхана шархаціць снег, і азіраюся. Ужо не відаць і будкі абходчыка. Мы ў лагчынцы. Трэба б ісці хутчэй, але боль у параненай

назе ўпарта не дае крочыць шырэй. Да таго ж са ступні спаўзае рукаў. Прыпыніўшыся, каб падцягнуць яго, я нагінаюся і раптам застываю ў жаху. Мая рука сама па сабе, нібы апёкшыся, спуджана адторгваецца. З снегу каля нагі, струнка напружыўшыся, тырчаць тры тоненькія мінныя вусікі. Крыху далёй, нібы галоўка баравіка, выглядвае са снегу круглае зеленаватае вечка «шпрынгенмінэн».

Адчуўшы, як холадам занялося нутро, я рэзка адхінаюся. Але разагнуцца, мусіць, не паспяваю. Траскоткі выбух гулка ляскае ззаду. Асколкі ці снег жорстка сцёбаюць па маім шынялі. Я ледзьве ўтрымліваюся, каб не кульнуцца на тыя па-здрадніцку напятыя вусікі.

Нейкую секунду затым я ў зняменні маруджу. Я ўжо ведаю, што сталася страшнае. Але я не магу азірнуцца адразу, бо гэта ўжо звыш маіх сіл. Сэнс таго, што здарылася, неяк бы здалёку, марудна даходзіць да маёй свядомасці. І толькі праз нейкі час з натугай адолеўшы сябе, я паварочваюся. Воддаль з Юркам на ўгнутай спіне, шырока расставіўшы ногі, стаіць немец. За ім, згорбіўшыся, чагосьці чакае Сахно. А між імі і мной корчыцца на снезе Каця. Ногі мае раптам наліваюцца неадольным цяжарам. З намаганнем і надзвычайнай асцярогай я выцягваю са снегу параненую ступню, затым бот здаровай. Пераступаю назад – след у след. Затым, высока ўзнімаючы калені, ступаю яшчэ. Не, пакуль не рве. Тады, крыху пасмялеўшы, кідаю позірк на Кацю. Там зноў чорная копаць на снезе. Камякі зямлі. Каця, бязладна перабіраючы навокал сябе рукамі, здаецца, сіліцца ўстаць.

І раптам скамянелыя мае адчуванні ўраз абуджаюцца. Мяне ахінае жах. І гнеў. Гнеў на Сахно. Гэта ён завёў нас на міннае поле! Гад, ён загубіў Кацю! Захлынуўшыся крыўдай, я імкнуся да яго. Але ўвесь мой намер блытае Каця. Па сваіх слядах я бягу да яе. Дзяўчына сутаргава падымае насустрач свой. шырокі, цяпер асабліва непрыгожы твар. Яго перакошвае грымаса болю. Зубы ў яе сцяты. І ўнутры глохне стогн.

– Каця! Кацюшанька! Каця!..

Упаўшы перад ёй на калені, я хапаю яе за плечы. Потым за талію. І раптам разумею: ногі! З пасечанага асколкамі валёнка ліецца на снег цёплая кроў. Другога валёнка зусім няма: Зрэшты, няма і нагі да калена. Страшны, раструшчаны выбухам, мокры цяльпук. Ватныя штаны і полы паўшубка няшчадна пасечаны асколкамі. З дзірак тырчаць хамлакі ваты і поўсць.

Да нас падбягае немец. Ён кідаецца мне памагаць. Дрыготкімі рукамі я прыўзнімаю яе ногі. Але што з імі рабіць? Кроў ліецца па маіх руках, у рукавы, на шынель. Немец таксама занепакоена мітусіцца і лапоча:

– Гефлехт! Гефлехт![5]

Ён совае мне вузенькі раменьчык, і я разумею: трэба накласці жгут. Каця, усё сцяўшы зубы і душачы стогн, закідвае голаў. Але маўчыць. Яе твар увачавідкі бялее і хутка пакрываецца дробненькім высыпам поту.

Мітуслівымі рухамі азяблых рук я з усяе сілы перацягваю над каленам тое, што засталося ад яе нагі. Немец тым часам адшпільвае рэмень ад майго карабіна. Гэтым рэменем мы ўдвух як-колечы абкручваем другую нагу, у валёнку. Тады я ўскідваю галаву. Насупраць, абапёршыся аб калена рукой, сагнуўшыся, стаіць Сахно.

– Ну, ты рады? Ты рады? Ты гэтага хацеў?

Сахно рэзка распрамляецца. Хуценька азіраецца наўкола. І маўчыць. Але я бачу, вочы яго расшыраюцца і нейк дурнеюць, трацячы свой заўсёдны выраз строгай уладарнасці. Ён разгубіўся. Але тут жа нейкім валявым намаганнем перамагае сябе і зноў робіцца ранейшым – суровым і патрабавальным.

– Замаўчы! – з ціхім шаленствам крычыць ён і загадвае:
– Бяры Кацю! Жыва!

Я азіраюся. Ну, вядома, трэба ўцякаць. Два выбухі на мінным полі наўрад ці засталіся незаўважанымі. І я падпарадкоўваюся Сахно, ужо ведаючы: на міны мы

болей не пойдзем. Абапёршыся на карабін, я ўстаю і нагінаюся. Сахно з немцам узвальваюць на мяне абмяклае цела Каці. Затым яны падбягаюць да Юркі, які, пакорлівы лёсу, цярпліва ляжыць на снезе. Яго бярэ на сябе Сахно. Я не зусім разумею, што ён удумаў. Відаць, не разумее гэтага і немец, якому капітан нешта з надрывам тлумачыць.

Урэшце, відаць, даўмеўшыся, немец улегцы адбягае на паўсотні крокаў і азіраецца. Па ягоных слядах марудна рушыць Сахно. За ім, абапіраючыся на карабін, – я.

Па неглыбокай нізінцы мы брыдзем назад, да чыгункі.

## 33

Але за чыгункай па шашы едуць немцы.

Мы іх не бачым за насыпам, аднак яшчэ здалёк чуем – мноства машын бясконца тарахціць, гудзе, вые маторамі, сігналіць – імкне з Кіраваграда. Яны адступаюць. Але куды дзецца нам?

На шчасце ці на бяду, нас прытуляе труба.

Мы ўпаўзаем у яе бетонны тунель і знясілена падаем у самым пачатку. Труба шырокая, амаль у рост чалавека. У доле пласт спрасаванага снегу. Дужа ветрана і сцюдзёна. Але з шашы нас тут не відаць.

Апусціўшыся на калені, я звальваю з сябе Кацю. Потым падаю сам і сутаргава аддыхваюся. Ззаду на свежанатаптаным снезе – дробныя плямы крыві. Полы майго шыняля таксама ў падмёрзлай крыві. Каця проста сцякае крывёю. Вочы яе шырока адкрыты, але зрэнкі ўвесь час падкочваюцца пад павекі. Гэта мяне палохае. Яе трэба перавязаць. Але перавязаць няма чым. Санітарную сумку мы, спяшаючыся, пакінулі ў полі, на месцы выбуху. Каб як-небудзь дапамагчы дзяўчыне, я ўшчэнт акалелымі рукамі пачынаю расшпільваць знізу яе паўшубак. Там таксама ўсё ў крыві. Але Каця чагось сціскаецца, рукамі ўпарта захінае свае полы. Вочы яе спалохана глядзяць на мяне.

Я зноў настойліва расхінаю паўшубак, але яна сціскае калені, падцягвае іх да жывата і заціскае ўсё так – нагамі і рукамі.

Я не разумею яе і запытальна пазіраю на немца. Той, стоячы на каленях, пільна глядзіць у другі канец трубы, дзе з пісталетам у руцэ застыў Сахно. У доле ціхенька, унутрана стогне Юрка.

– Капітан! Капітан! – сцішана клічу я.

Каця раптам пачынае тузацца і матляць галавой – не трэба! Здаецца, я разумею правільна. Але гэта ўжо чорт ведае што!

– Перавязаць трэба! – кажу я. – Ану, пусці рукі!

Прыгнуўшыся, па трубе прабіраецца Сахно. Каця яшчэ болей сціскаецца і дрыжыць усім целам.

– Вось не даецца! Што рабіць?

– Да? – пазіраючы на выхад, няўцямна перапытвае Сахно.

Каця расслабляецца. Шэры цень атуляе яе нядаўна яшчэ чырванашчокі твар. І тут я разумею: яна памрэ! Але гэта дзіка, гэта жахліва! Гэта злачынна і ненатуральна: чаму гіне дзяўчына, калі мы, трое мужчын і салдат, застаёмся жывыя?

– Каця! Каця! Што ж ты робіш? – пачынаю я недарэчна папракаць яе. – Ты што – саромеешся?

Каця перарывіста і цяжка дыхае і моўчкі глядзіць на мяне. Здаецца, яна чуе, толькі гаварыць чамусьці не можа. Пасля позірк яе сунецца кудысьці ўбок і спыняецца на немцу.

У мяне з’яўляецца здагадка.

– Ён? Так? Хай ён перавяжа? Так?

Каця не пратэстуе, толькі неяк працягла выдыхае і

расслабляецца. Вочы яе паволі заплюшчваюцца. Я не ведаю, ці гэта згода, ці мо сілы назусім пакідаюць яе. Амаль спалохана я гукаю немца:

– Ком! Перавязаць! Бінтаваць. Фарштэйн?

– Я, я.

Немец пачынае таропка расшпільваць яе шматлікую вопратку, – паўшубак, ватныя штаны, – адхінае скрываўленае, пабітае асколкамі шмаццё. Каця ціха ляжыць, абыякавая да яго дотыкаў, і я пачынаю памагаць яму. Удвух мы бессаромна раскрываем Каціна цела – маладое, акрываўленае, усё ў ранах дзявочае цела, якому ўжо не ачуняць. Гэта я бачу адразу. З першага позірку. І я не магу прымірыцца з недарэчнаю гэтай смерцю. Толькі што я магу зрабіць?

Зрэшты, прыняць смерць тут, напэўна, давядзецца ўсім.

Мы яшчэ не заканчваем перавязку, калі недзе паблізу раздаюцца нямецкія галасы. Сахно з пісталетам у руцэ адразу кідаецца ў дальні канец трубы. Адхіснуўшыся ад Каці, я хапаю ўтаптаны ў снег карабін і падаюся туды ж. Ззаду спрабуе прыўзняцца Юрка.

Угнуўшы галовы, мы прыхінаемся спінамі да настылага бетону трубы і слухаем. Я паціху знімаю затвор з ахоўніка. Раз за разам азіраюся на другі выхад. Там, аднак, пуста. Юрка трымае ў кулаку пісталет і не зводзіць з нас поўнага трывогі позірку. Яго вочы рэзка гараць на блеклым, нейкім ужо не юначым, вельмі засяроджаным на чымсьці сваім твары. Немец у нязручнай паставе насцярожана чакае ля Каці.

Галасы недзе блізка змаўкаюць. Настае цішыня, у якой натужна гудзе, грукаціць шаша. Сахно ціхенька выглядвае з трубы і тут жа рэзка адскоквае. Адразу ж зусім блізка чуецца:

– Вэн вір дзіс цум абэнд фон дэн панцыр ніхт цэркутшт вэрдэн зо шлюфэн вір[6].

І адказ крыху далей:

– Міт дэн обэрстэн дон Маер дурх. Ер швінгст унс лебендзіг абэр тот дацу[7].

Гэта зусім кепска. Яны ля самага насыпу. На дарозе, чуваць, бразгаюць дзверцы кабіны, значыць, машыны стаяць. Але іншыя ідуць. Напэўна, спынілася некалькі. Для чаго?

І раптам мяне прымушае зжахнуцца немец. Наш немец. Яго твар напружана выцягваецца, у вачах не то страх, не то якая рашучасць. Рукі далонямі на снезе, як у спрынтэра на старце. Глядзі, кінецца наўцёк. Я крута павяртаю карабін.

– Хальт!

Немец, няўцямна ўслухоўваючыся, кідае на мяне боязны позірк і апускаецца. Ногі яго расслабляюцца. Чорт, пэўна, яго трэба б прыстрэліць... Ды страляць нельга.

І тут усё адтуль жа, ад насыпу, далятае новы гук – слабенькі бразгат салдацкае спражкі. Аглушаны крыўднай здагадкай, я асцярожна выглядваю. Так і ёсць. Зрабіўшы сваю справу ў кювеце, два немцы таропка ідуць да шашы. На хаду зашпільваюць амуніцыю. Яны абвешаны шпулькамі з кабелем. Пэўна, знімалі сувязь.

Раптоўна страціўшы сілы і хістаючыся, я паўзу да Каці. Ля яе падаю ў снег. Пасля, саўладаўшы са сваімі пачуццямі, узнімаю галаву. Каця памірае. Я ведаю, як паміраюць людзі, і, бадай, не памыляюся. Яна напружваецца, тузаецца, выдыхае. Галава яе цяжка перакочваецца на разматляных русых валасах. Вочы напаўадкрыты. Рукой яна разы два махае ля твару, нібы адганяе мух. І раптам кажа:

– Адыдзі. Не цямні.

Мяне гэта здзіўляе. Так цвяроза і так выразна! Міжвольна я азіраюся. Хто цямніць? Я? Ці немец? А яна зноў кажа:

– Міця! Міценька! Цёмна вельмі...

– Каця!

Але яна выдыхае і сцішваецца. Вочы яе спыняюцца на чымсьці ўгары і гаснуць. Абапёршыся на руку, я сяджу побач. З другога боку сядзіць немец. Твар у яго скамянеў. Ён увесь у слыху. І не дзіва: праз дзвесце метраў свае. Ён можа закрычаць, і тады нас усіх схопяць. Але ён не крычыць. Мне нават здаецца, што ён не меней за нас баіцца.

А мне ўжо, бадай, нічога і не страшна. Смерць Каці мяне ашаламляе. Колькі ўжо загінула на маіх вачах – знаёмых і невядомых, але я ніколі не раскісаў так. Мо таму, што яны былі мужчыны і саддаты. Як-ніяк я быў падрыхтаваны да думкі, што яны могуць загінуць. Смерць на вайне – рэч дужа звычайная. Але чаму памірае гэта дзяўчына? Хто яе паслаў на вайну і чаму? Хіба сама папрасілася? Але што яна ведала аб ёй? Тое, што пісалі газеты: гераізм, патрыятызм. А памірае ў нейкай трубе, па недарэчным выпадку расшкуматаная мінай. І мы не можам ёй памагчы. Ды і навошта яна тут? Хіба ў нас мала мужчын? На перадавой, у тылах, у краіне наогул? На кожны дзесятак у ланцугу – добрая сотня ў бліжніх тылах. І якіх мужчын! Дужых, пісьменных, свядомых.

– Дакументы забралі? – пытаецца Сахно і ўкленчвае побач.

Я не адказваю. Каму што, а гэтаму найперш – дакументы. Яму галоўнае – выканаць фармальнасць. Дакументы – вайсковая тайна. Яна не павінна трапіць да ворага. Але што ў тых дакументах? І каму яны цяпер патрэбны? Яе жыцця ён не бярог, а пра нейкія паперкі столькі клопату...

Сахно тым часам запускае руку пад Кацін паўшубак і доўга там шарыць. Я на яго не гляджу. Без злосці я не магу бачыць гэта. Добра, што яна мёртвая і ёй усё роўна. А была б жывая, напэўна стала б у гэтага капітана бітая морда...

Дастаўшы з нагруднай кішэні чырвонаармейскую кніжку, Сахно зазірае ў яе.

– Шчарбенка Кацярына Іванаўна. Вядомае прозвішча, – са з’едлівай ухмылкай паведамляе ён.

Я напружваю памяць. Сапраўды, прозвішча і мне здаецца знаёмым. Толькі дзе я яго чуў? Я запытальна гляджу на Сахно. Той запіхвае ў кішэню яе дакументы і заўважае мой позірк.

– Не прыпамінаеце? Пэпэжэ камбата Маскалёва. З дзевяноста дзевятага, – кажа ён і ідзе ў той канец трубы. – Загад па дывізіі быў.

Падобна на тое, што гэта яго забаўляе. Што яна пэпэжэ і што быў загад наконт яе недазволеных адносін з камбатам Маскалёвым. Ён рады, што хоць пасля смерці знайшоў, чым папікнуць яе.

– Ну і што? – ледзьве стрымліваючы сябе, пытаюся я.

Сахно, азірнуўшыся, бліскае з-пад броваў сваім пранiклівым позіркам, і я зрываюся:

– Ну і што? Калі і пэпэжэ? Ну і што?

– Замаўчыце! Вы што – ачумелі?

Ён знерухомлівае, утуліўшы голаў, і ўнутры ў мяне ўсё ападае. Я ледзьве валодаю сабой. Пэўна, ён мяне давядзе да шаленства. Я не магу яго бачыць... Дзіва, якія мы розныя людзі! Афіцэры адной арміі. Грамадзяне адной краіны. Чорт яго ведае, чаму так? Чаму суседства вось гэтага лакеяватага немца мне лягчэй стрываць, чым яго?

А немец тым часам устае і ідзе да Сахно. Я ўжо заўважыў, што з нядаўняга часу ён наогул стараецца трымацца бліжэй да капітана. Мной ён быццам ужо і грэбуе. Жэстыкулюючы кастлявымі рукамі, ён кажа нейкую доўгую фразу. Сахно пасуровелымі вачыма няўцямна ўстаўляецца ў яго і ўзмахвае пісталетам.

– Ану, назад! Назад!

Немец адступае, але ўсё яшчэ нешта стараецца давесці капітану. Той, вядома, не разумее, але насцярожваецца.

– Што ён кажа? – упаўголаса пытаецца ён у мяне.

– Ён жа вам кажа. Вось вы і зразумейце.

Капітан хмурыцца.

– Ну, ведаеш!.. Я інстытутаў не канчаў. Гэтай брыдоце не вучыўся.

Вядома, гэтай «брыдоце» ён не вучыўся. Чаму ён наогул вучыўся? У школе я таксама не захапляўся нямецкай мовай, але гора і вайна ўсяму навучаць. Некалькі слоў з фразы немца я ўсё ж разумею, пра астатнія здагадваюся. Немец даводзіць, што трэба некуды ўцякаць, бо калі пачнецца штурмоўка (шляхтангрыф), дык салдаты (лёс рэннен дэцкунг) – пабягуць сюды, у сховішча.

Гэта падобна на праўду. Але хай пачынаецца штурмоўка. Дрэнна, калі штурмавікі не наляцяць і калона прарвецца з Кіраваграда. А можа, і добра. Прынамсі, для нас, Чорт ведае што, робіцца ў маёй галаве. Я ўжо не магу разабрацца, што добра, а што дрэнна.

Немец нявесела вяртаецца ад капітана і моўчкі садзіцца ля Юркі.

– Вось наляцяць «ІЛы» і зробяць з вас мясакамбінат! – не хаваючы свае злосці, кажу я немцу.

Той, нечакана згаджаючыся, ківае галавой:

– Я, я.

Гэта мяне злуе яшчэ больш. Скажы, якая пакорлівасць! Можа, гэты фрыц зараз скажа, што ён камуніст? Што з калыскі быў супраць Гітлера? Бывала ж такое. Сорак чацвёрты – не сорак першы. Самыя гарачыя нацысцкія

галовы паспелі ўжо прастыць.

– Мы вас перадушым, як вошай! Разумееш? Як лёйзы – к ногцю! – красамоўна паказваю я рукамі. – Варум гебт аух ніхт гефанген?[8]

Немец, здаецца, разумее, але моршчыцца і ціха сам сабе бармоча:

– Вір зінд аіфахе зольдатэн! Дэр крыг іст фюр генерале унд дэн фюрэр[9].

Гэта іх песня мне ўжо знаёмая.

– Ах, фюрэр? А самі? Самі што вы робіце? Палонных дабіваць таксама вас фюрэр прымушае? Пасылкі з нарабаваным у Германію пасылаеце таксама па загаду фюрэра? Вунь цэлы эшалон у Знаменцы застаўся! Фюрэр дазваляе, вось вы і рады. Вам выгадны такі фюрэр. Ён заахвочвае на злачынствы: біце, хапайце – вы і гатовы! Фюрэр за ўсё адказвае, а вы вядома айнфахермэнш? Вы не разумееце. З вас узяткі гладкі. Так?

Немец уздыхае. Нечым ён заклапочаны ці, можа, адчувае маю шалёнасць і пабойваецца. І ён сядзіць так, надзьмуўшыся, у нашым пакамечаным шынялі паверх свайго шырокага ў каўняры мундзіра. Казыркастая яго шапка перакруцілася набок. Уздыхнуўшы, ён пагаджаецца:

– Я, я. Айнфахермэнш!

– Што ён кажа? – зноў пытаецца здаля Сахно.

– Кажа, што ён маленькі чалавек. Ні ў чым не вінаваты.

– Задушыць яго трэба, – проста вырашае капітан.

Я не пярэчу. Урэшце, чорт з ім: хай душыць! Цяпер мне яго не шкада. У мяне столькі накіпела ў гэтыя дні за Юрку, за сябе, за ўсіх хлопцаў, якія ўжо ніколі не ўстануць са снегу. І асабліва цяпер вось за Кацю... Толькі без немца мы, бадай, не ўправімся з Юркам.

Сахно аднарукі, я, лічы, аднаногі. А калі давядзецца ўцякаць? Не, мабыць, немца трэба пакінуць. Ды і чым ён можа нам перашкодзіць? Здаецца, да сваіх ён не дужа рвецца.

Аднак я маўчу, пачынаючы думаць пра іншае. Мабыць, будзе шчасцем, калі мы тут праседзім да ночы. Уночы мы, можа, і вырваліся б, а ў дзень то наўрад. Хіба што адкуль-небудзь з’явяцца нашы. Я прыслухоўваюся: здаецца, на дарозе пацішэла. Можа, калона прайшла? Цяпер бы не рушыла пяхота... З ёй будзе куды як горш.

Сахно тым часам разраджае пісталет. У яго, бачу, нейкая няспраўнасць з магазінам. Заціснуўшы між каленяў рукаятку, капітан аднаруч ладзіць яго. А я паныла сяджу ля Каці. Яна ўжо, мабыць, застыла. Выцягшыся ў доле, сінее васковым тварам мой Юрка. Тут усё ж моцна холадна, у гэтай праклятай трубе.

– Васілевіч! – сцішана гукае Сахно і змаўкае, ці то прыслухоўваючыся, ці то штось абдумваючы. – Злазь на насып і паназірай. А то яшчэ накрыюць, як куранят.

Вельмі не хочацца ўставаць, але мусіш. Прыхапіўшы карабін, я неахвотна вылажу з трубы. Сонечная яркасць стэпу асляпляе. Ва ўпор высвечаны сонцам, блішчыць шырокі адхон насыпу. Збоч ад яго з-за далёкага пагорка вытыркаюцца стрэхі будынін. Там нейкае сяло. Раптам у мяне з’яўляецца думка: а што, калі па-за насыпам пракрасціся туды і схавацца? Калі там няма немцаў? Толькі вось Юрка...

Перш чым лезці на насып, я кажу ў трубу:

– Немца пакуль не чапайце. Спатрэбіцца.

Сахно азіраецца, але не адказвае.

**34**

Прысыпаны снегам, адхон шархаціць пад локцямі леташняй, жорсткай ад марозу травой. Пругка б’е ў твар сіверкі вецер. Ногі слізгаюць, і я, упіраючыся

рукамі і каленямі, лезу ўгору. Ззаду ляжыць міннае поле з курганамі і доўгай крывулякай нашых слядоў. Я туды, аднак, не гляджу – я адчуваю яго спіной. Апантаная спроба Сахно абхітрыць смерць абышлася нам дужа дорага і найбольшым страхам прадаўжае жыць у маёй душы.

На броўцы я прыпыняюся і па чарзе пазіраю ў абодва канцы чыгункі. Здаецца, на палатне – нікога. Тады, набраўшыся асцярогі, прыпаднімаюся і коратка выглядваю з-за шырокай прамазучанай рэйкі.

О, шаша аж гудзіць ад руху – цяпер, праўда, па ёй пруць абозы. Нямецкія фуры, адкрытыя і пад брызентам, двухколкі, кухні, нейкія падводы, з каптурам накладзеныя дабром і ўвязаныя вяроўкамі. Дзве шэрыя легкавыя машыны, раз-пораз сігналячы, марудна пракладваюць сабе шлях па ўзбочыне. Трухаюць, іржуць, бразгаюць цуглямі коні.

Добра, што ад чыгункі да шашы не дужа блізка, а то б яны ўжо дабраліся да нас.

Трохі паўзіраўшыся, я, аднак, неўзабаве хаваю сваю аббінтаваную галаву. У душы горкая радасць ад таго, што я іх бачу, а яны мяне не. Хоць гэтыя абознікі зусім не глядзяць па баках, мабыць, ім цяпер не да навакольных краявідаў. Ім абы вырвацца з катла, калі застаўся праход.

Зноў высоўваюся, здзіўлены нейкімі крыкамі, і зараз жа заміраю ў цікаўнасці. Дзіва што: на шашы б’юцца. Адна фурманка заварочвае ўпоперак руху. Нейкі немец у кароткім шыняльку хапае за цуглі коней. Таўстазадыя вялізныя біцюгі высока ўскідваюць свае галовы. Ён б’е іх знізу кулаком па мордах. Але да яго тут жа саскоквае з фурманкі ездавы, і вось на шашы – крыкі, саддацкая лаянка. Той, што ў кароткім шынялі, дае ездавому па вуху, ездавы хапае праціўніка за грудкі. Некалькі падвод спыняюцца, некалькі спрабуюць аб’ехаць іх. Здаецца, восьвось будзе пробка. Гэта здорава, думаю я і пазіраю ў неба: вось бы цяпер самалёты! На жаль, самалётаў няма, толькі ззаду, за курганамі, невысока

кружыцца «рама». Ну, але і так няблага: не кожны дзень даводзіцца бачыць, як б’юцца паміж сабой немцы.

Праўда, яны не спраўляюцца як мае быць надаваць адзін аднаму, як між фурманак з’яўляецца коннік. Ладна седзячы ў новенькім жоўтым сядле, ён без лішніх слоў размахваецца з-за пляча бізуном і чыніць хуткую расправу над абодвума. Гэта дзейнічае куды як здорава. Той, у кароценькім шынялі, адразу кудысьці знікае, а ездавы, лаючыся «фэрфлюхтарам» і «швайнам», пачынае зварочваць з узбочыны фурманку.

І тут я скаланаюся, працяты спалохам: ад будкі па лініі ідуць немцы. Яны ўжо блізка і напэўна заўважылі мяне. Крутнуўшыся па мёрзлай жарстве, я ніцма сунуся па адхоне да самай трубы. Над трубой, разрыўшы ботам снег, на секунду затрымліваюся. Немцы ідуць па другім баку лініі. Мне відаць толькі вінтовачныя ствалы на плячах ды адна каска ў пярэдняга. Мозг пранізвае пытанне: заўважылі ці не? Калі заўважылі, тады ўсё скончана: трэба страляць. Трэба біцца і загінуць. Бо магчымасці ўратавацца ў нас амаль што няма. Але свядомасць прагне надзеі – а можа?.. А можа, не згледзелі?

І раптам да майго слыху, бы з іншага свету, даносяцца з трубы галасы. Спачатку я не цямлю іх сэнсу – я толькі калачуся ад напружанасці, да сутаргі сціскаю ў руцэ карабін: цішэй вы! Потым да слыху даносяцца словы, якія збіваюць мяне з панталыку.

– Лёнька! Лёнь!..

Мяне заве Юрка. Яму блага? Але ж там Сахно. І сапраўды, я чую ягоны голас. Капітан раздражнёна кідае:

– Што ты заблажыў? Ён пайшоў.

«Я тут, Юр!.. Я не пайшоў! Чаму ён кажа: пайшоў?» – нема крычу я ў думках і грудзьмі ўціскаюся ў снег ля трубы. Галовы немцаў хаваюцца. Застаецца толькі адна – задняга. Яна на тым баку. Яшчэ трошачкі, і яны ўсе

пройдуць. Яшчэ секунда...

Але з-пад насыпу зноў прарываецца крык:

– Васілевіч!

І тут жа яго заглушае яшчэ болын гучны Сахноў:

– Канчай к чортавай матары! Май мужнасць!..

Яны ашалелі! Што яны робяць? Я ўсхопліваюся са снегу, і тут нечакана і жахліва ў трубе гахае стрэл.

У мяне цямнее ў вачах. Здаецца, у раптоўную прорву правальваецца сэрца. Што ён нарабіў?! У каго гэта ён? У немца? У Юрку? А мо гэта палонны? Ахоплены жахам непапраўнага, я куляюся да самага долу. Ускокваю на адну нагу. У другой тупы боль, ад якога зацінае дыханне.

На ранейшым месцы ля Юркі стаіць Сахно.

– Што вы нарабілі? Немцы!!

Сахно з маленькім, не сваім пісталетам пругка адскоквае ў канец трубы. Шэрым прывідам шастае кудысьці Энгель. Зачапіўшыся, я незнарок спотырч лячу цераз дзяўчыну. Падаю ледзь не на Юрку. Блізка ля майго твару яго галава. З разбітай скроні тырчыць маленькая востранькая костачка, і з-пад яе мкне чырвоны струменьчык, які хутка залівае вуха. На снезе ля пляча расплываецца-большае мокрая ружовая пляма.

Здаецца, я вар’яцею. Я перастаю што-небудзь разумець і ўскокваю на калені. «Хто? – крычу я. – Хто яго?!» Але я не чую ўласнага голасу. І мне ніхто не адказвае. Што ж гэта робіцца? Хто ж так зрабіў? Немец?

Я не зважаю на тых, што ўжо, мабыць, над намі, і хапаюся за карабін. Рукі мае калоцяцца. Правая не адразу знаходзіць рукаятку. У тым канцы я бачу Сахно. Прыгнуўшыся, ён абмёр з пісталетам. Чакае.

– Хто? – крычу я на ўсё горла. Але з грудзей вырываецца чужы, задушаны хрып.

Сахно, аднак, азіраецца і апантана махае рукой. Я ледзьве разумею яго шэпт:

– Ціш ты! Не бачыш?

Мусіць, сапраўды я чагосьці не бачу. Я ўпершыню кідаю на сябра трохі асэнсаваны позірк. Юрка нежывы. Перакошаны смерцю твар. Адно вока з сілаю прыплюснулася. Другое недарэчна глядзіць міма мяне некуды ў бетонную столь. З дзвюх скронь цячэ на патыліцу кроў. І тут я канчаткова разумею, што сталася. Ён застрэліўся.

- Юрка!!

Гэта апошні мой крык. У ім – уся мая роспач. Мой гаеў і жах. У наступную секунду, нібы пярун з неба, моцна бахае ў трубе стрэл. Знадворку шалёна пырскае аўтаматная чарга. Я ўскідваю карабін. Сахно ў тым канцы чамусьці крута ўгінаецца і падае. Там, дзе ён стаяў, аб бетонную сцяну апантана ляскае нешта круглае і адскоквае да другой насупраць. Граната! Я падаю галавой да Юркі. Грымотны выбух скаланае насып.

Аглушаны, я некалькі бясконцых секунд нічога не адчуваю. Усё ў трубе паглынае гарачы, удушлівы смерч. Лёгкія захлынаюцца ад снегу, пылу і прарэзлівага смуроду серы. У шэрай непрагляднасці – віхор. Затым неяк раптам чую, як пякучы боль абцугамі хапае калена. І ўсё болылае, расцякаецца па назе. І ахоплівае яе ўсю, ад сцягна да мезенца. Бедная нешчаслівіца, мая нага! Здаецца, яе даканалі. Ад болю я не магу паварушыцца і мычу, сцяўшы зубы.

Снегавая віхура тым часам цішэе. Я прыўзнімаю галаву. У роце снег і пясок. У вушах і ў руках таксама. Я лапаю навокал рукамі. На пальцах цёплая, ліпкая макрэдзь. Гэта ад Юркі. Мабыць, яго расшкуматала гранатай. Побач чыясьці нага ў валёнку... Дзе мой карабін?

Робіцца трошкі відней. З’яўляецца ніз і верх. Насупраць закапцелы і абдзёрты бок трубы. І светлы круг недалёкай адтуліны. І раптам у гэтай пляме – нерухомы цень. Адстаўлены ў бок локаць. Тонкі, як шчупальца асьмінога, аўтаматны ствол. Немец!

Нешта ва мне падломваецца, і я выцягваюся на снезе. Жахлівасць становішча ўжо не ўспрымаецца. Яна туманіцца ў свядомасці, і я кепска разумею, што адбываецца. Успрыняцце затарможваецца ў нейкім бязвольным трансе. Маё цела – камяк ваты, працяты болем. Галава таксама напхана ватай. Ні намеру, ні жадання, ні думкі. Нешта салёнае падступае да горла. Інстынктыўна я сплёўваю на снег. Кроў.

Цень тым часам, прыгнуўшыся, шырока і нячутна сігае бліжэй. Я ляжу на спіне і ашаломлена гляджу на яе. Я бачу толькі сілуэт. Знаёмы і безаблічны, як, бывала, зялёная мішэнь на стрэльбішчы. Ступіўшы крокі чатыры, ён углядаецца ў Кацю. Ён страшэнна палахлівы і смелы адначасна, гэты прывід. Ён нібы самнамбула. Ачынаецца ён, калі ззаду з’яўляюцца яшчэ двое. Тады ён скідвае з сябе скутасць і зусім па-зямному крычыць:

– Ота! Шау гір! Русішэ Валькірыя![10]

І са злоснай рашучасцю падчэплівае нагой цела Каці. Яно падатліва перакочваецца на бок спіной да святла. Рассыпаюцца па снезе яе валасы. Адна рука ненатуральна заломваецца за спіну. Двое нахіляюцца над целам дзяўчыны. Першага, аднак, цягне далей, і ён, паўглядаўшыся, пераступае цераз адзіную Каціну нагу. І тут раптам сустракае мой позірк.

– Хэндэ хох! Ауфштэген![11]

Ён апантана адскоквае назад. Аднак, тут жа асмялеўшы, ён рашуча сігае наперад і тыцкае мне ў твар аўтаматам. Надзіва, я ніколечкі не баюся. Памалу да мяне вяртаецца адчуванне рэальнасці. Краем свядомасці я саркастычна ўсміхаюся: баіцца! Каб ведаў, не баяўся б. Я не магу ўжо забіць яго. Не магу ўцячы. Я не магу нічога. І не хачу. Жыць не хачу таксама. Хочаш

– страляй! Чорт з табой! У мяне ўсё парахнее ад болю і не стае сілы ўсё гэта трываць. Ды і няма для чаго. Забівай хутчэй...

Аднак ён не забівае.

– Рус! Ауфштэген! Бістро!

Ля мяне ўжо ўсе трое. Адзін коратка і балюча б’е ствалом карабіна ў плячо. Я напружваюся і прыўстаю на руках. Далей не дае боль. Ды і не варта старацца. Усё роўна заб’юць. Я ж ведаю. Дык хай забіваюць адразу. І яны, ашчэрыўшы тры нялюдскія твары, са сцюдзёнаю лютасцю глядзяць на мяне. Потым адзін з іх кідае позірк на Юрку. Нейкімі смярдзючымі ботамі ён пераступае цераз мяне і нагінаецца да нябожчыка. Бакавым зрокам я бачу, як ён шарыць у Юркавых кішэнях, нешта дастае і кідае ў трубу. Пасля падбірае з долу адкінуты выбухам карабін. Чорны мой карабін зноў вяртаецца да сваіх гаспадароў – немцаў.

Трэці раз яны ўжо не камандуюць. Яны хапаюць мяне за рукі і рыўком, як мерцвяка, валакуць з трубы. Я разумею, што ўсё ўжо скончана. Ад болю, сонечнага святла, а найбольш ад невымоўнае крыўды я зажмурваюся. Які недарэчны, люты канец. І менавіта тады, калі менш за ўсё да яго рыхтаваўся. Аказваецца, вось дзе ён быў – апошні мой Сталінград! Выйграны фронтам, краінай і назаўжды і непапраўна прайграны мной.

Неўзабаве, аднак, мяне балюча кідаюць на мулкія пад снегам камякі зямлі. Чыясьці рука расшпільвае на шынялі мой трафейны афіцэрскі рэмень з жоўтай скуры. Лапае зверху па кішэнях штаноў. Я аслабела расплюшчваю вочы і паміж нечых расстаўленых ног непадалёк бачу Сахно. Ён стаіць насупраць у гімнасцёрцы, без дзягі. З ордэнам Айчыннай вайны на грудзях. Пачапку яго, відаць, адабралі, і забінтаваную ў локці руку ён прытульвае да жывата. Ягоны нахмураны позірк разгублена бегае па немцах. Выгляд нейкі аглушаны. Напэўна, капітан не ведае, чаго ад іх чакаць, і прыкметна пабойваецца. Кароткае здзіўленне ад таго,

што і ён у палоне, на момант заглушае мой боль. Як жа гэта ён не застрэліўся? Ён жа павінен застрэліцца. Ён жа не мог здацца ў палон.

Я чагосьці не магу зразумець. Вельмі баліць нага. Ад болю і слабасці мутнее свядомасць. Да горла ўвесь час падкочваецца камяк і блажыць. Немцы таксама маўчаць. Маўчаць тыя двое, што перамаглі мяне ў гэтай вайне і вывалаклі з трубы. Цяпер я добра бачу іх перад сабой. Адзін увесь нейкі дужа руды – рудое шчацінне на шчоках, рудыя бровы, рудыя, аж залацістыя павекі. Цераз плячо ў яго на непадпяразаны шынель надзета трыбухатая сумка з прывязаным да яе кацялком. Другі маладзейшы, амаль мне равеснік, з прышчакаватым тварам і ў акулярах, чорнымі шнуркамі прымацаваных да вушэй. Крыху далей ад іх стаіць яшчэ адзін камлюкаваты дужак у доўгім шынялі і касцы. Флегматычны твар яго ледзьве прыкметна крывіцца, кабура парабелума на жываце засцярожліва расшпілена. Мне здаецца, што ён тут галоўны. За ягонай спіной стаяць і чакаюць яшчэ некалькі салдат. Ніхто з іх на мяне чамусьці не звяртае ўвагі.

Спакутаваны болем і душэўна распяты, я не адразу цямлю, чаго яны ўсе маўчаць. Аднак нейкі цень, што варушыцца побач на снезе, прымушае мяне павярнуць галаву. І тады я бачу ззаду за сабой Энгеля, пра якога ўжо забыўся. Няспрытнымі рукамі ён спрабуе расшпіліць на сабе шынель. Але, відаць, застыглыя на марозе пальцы не могуць саўладаць з незвыклымі для іх кручкамі рускага шыняля. Твар у яго мае нейкі напалоханы і вінаваты выраз, і мне раптам здаецца, што яны збіраюцца яго расстраляць. Афіцэр з-пад сурова сцятых броваў з нядобрай цярплівасцю сочыць за ім. Пасля робіць тры крокі наперад і, акуратна размахнуўшыся, коратка пляскае два разы па абедзвюх ягоных шчоках. Энгель трывае гэта, не варухнуўшыся, як заслужанае. Урэшце, з сілаю тузануўшы палу, выдзірае кручок і торапка скідвае з сябе шынель. Прышчаваты ў акулярах падчэплівае яе канцом карабіна і шпурляе далей у снег. Тонкія яго вусны крывяцца ў гідлівасці, пібы ён адкінуў якую падлу.

Здаецца, тое, што замінала ім, скончылася. Я на хвіліну расслабляюся ад непадуладнага мне напружання і перастаю іх бачыць. Чуваць толькі, як афіцэр, выразна вымаўляючы кожнае слова, лаецца і штосьці загадвае. Салдаты, бразгаючы пражкамі, бяруць з долу нейкія цяжкія зялёныя скрынкі на почапках (мусіць, якія прыборы). Парыпвае снег, да мяне хтосьці падыходзіць. Вялікім намаганнем я зноў расплюшчваю вочы. Побач стаіць Энгель. Цяпер ён зноў у сваім мундзірчыку з абвіслымі пустымі кішэнямі. У яго вінаватых вачах цярплівая пакорнасць і страх. За ім нехта штурхае ў каршэнь Сахно. Капітан, мабыць, не адразу разумее, чаго ад яго хочуць. Тады рудатвары б’е яго ботам у зад, і Сахно апынаецца побач з Энгелем. Удвух з немцам яны паднімаюць мяне пад пахі. У маіх вачах раптам цямнее, і я ледзьве трымаюся, каб не страціць прытомнасць. Я вельмі не хачу застагнаць. Астатняе для мяне ўжо не мае сэнсу.

## 35

Мабыць, з гадзіну я хаджу вакол прывакзальнай плошчы і не магу супакоіцца.

Над горадам – глыбокая ноч. Плошча нязвыкла пустая і вялікая. Роўна і дрымотна гараць угары шары ліхтароў. Пустуюць на бульвары лаўкі. На тралейбусным супынку нікога. Пуста і на стаянцы таксі. У мяне ў падсвядомасці такое адчуванне, нібы ў свеце штось здарылася і людзі пазнікалі. Здаецца, я ведаю што, толькі не магу ўспомніць. Наогул ад перажытага сёння і адператомы я стаў як кантужаны. Ломіць у рамянях пратэза рэштка маёй галёнкі. Я хаджу ад ліхтара да ліхтара. Пад кожным на краі тратуара спыняюся і з асветленага лапіка ўзіраюся ў прыцемкі між дрэў. Здаецца, там хтосьці варушыцца. Я ведаю – гэта прывіды, нікога там няма, як нікога няма на тратуары, за вітрынамі зачыненых магазінаў, у ларку «Саюздруку» на рагу і тралейбусным супынку. Людзі адсутнічаюць, і пакінутыя імі на ноч рэчы працягваюць сваё пачатае ўдзень жыццё. Яны надзіва згодныя і дысцыплінаваныя, гэтыя людскія рэчы. Пакорна і ў

поўным устаноўленым для іх парадку чакаюць сваіх гаспадароў. Іхняя вернасць спакою непахісная.

Асабліва цікавыя ноччу кніжныя вітрыны. Цэлыя роты самых разнастайных выданняў. Поўны давер і шчырасць. Згода і мір. Калісьці я вельмі любіў іх разглядваць менавіта ноччу. Уначы яны выглядаюць зусім інакш, чым удзень. Кнігі ноччу, як разумныя людзі ў жыцці. Кожная ў сабе. З усіх чатырох шкляных сцен ларка яны глядзяць на мяне са сцішанай глыбакадумнасцю мудрацоў. У кожнай канцэнтрацыя розуму, эмоцый, сведчанне эпох і вопыту. І ні ў адной – таго, што баліць у мяне. Яны глухія да маіх боляў, бо кожная з іх поўна сваіх. Яны толькі сведчаць пра тое, што адбалела і памерла ў эмацыянальнай памяці чалавецтва. Але хіба тым самым яны не даюць нам самы надзённы ўрок? Праз гушчы стагоддзяў, галовы пакаленняў іх чалавечая мудрасць перакідвае свой мост у будучыню. Яны сведчаць кожная аб сваім вопыце і засцерагаюць ад мноства памылак у спрадвечнай барацьбе са злом.

– Каторая гадзіна – не скажаце?

Я да агіды палахліва здрыгаюся і не адразу разумею, што гэта вартаўніца. Захінутая ў грубы брызентавы плашч цётка падазрона пазірае на мяне. Чагосьці чакае. Ах, часу! Я зазіраю на гадзіннік – палова чацвёртай.

Цётка не адыходзіць, а прысланяецца да жалезнага прэнта ля шкла і пазяхае. Я памалу іду далей. У грудзях марудна сціхаючы, усё яшчэ тахкае сэрца.

Трэба супакоіцца. Пара супакоіцца. Нічога, па сутнасці, не здарылася. Гнаўся за адным нягоднікам, трапіў на другога. Ну і што ж! Хіба іх усяго двое на свеце? Колькі іх сустракалася раней і, відаць, яшчэ сустрэнецца ў будучым. Пратакол? Глупства, што мне пратакол! Папалохаюць – не болей. Што яны з мяне возьмуць? Мабыць, не пасадзяць...

Як бы там ні было, я ні аб чым не шкадую і ні ў чым не

каюся. Праўда, я не перамог. Ён пайшоў не зламаны і нават не абяззброены. Упартай упэўненасці яго ў сваёй невіноўнасці, відаць, хопіць на ўсё жыццё. Гэты не з тых, хто хварэе ад апёкаў сумлення. Калі, можа, і было ў яго некалі гэта сумленне, дык з гадамі ад яго мала што і засталося. Усе жыццёвыя здольнасці гэтага чалавека развіваліся толькі ў напрамку прыстасавальніцтва. Валявы пачатак задушыў усе астатнія. Жыццёвым прынцыпам для яго стала сіла. У каго сіла, таму не патрэбна праўда. Гэты канёк няблага вывозіў яго ў жыцці. І пакаўзнуўся ён хіба што ў пяцідзесятыя гады. Але і цяпер такія не трацяць подленькай надзеі на зварот да ранейшага. Бач ты яго, разышоўся ў гневе! Ужо з дзвярэй крычаў міліцыянерам: «Распусцілі народ! Дэмакратыю развялі! Вопытных работнікаў шальмуеце. Чакайце! Прыпячэ – паклічаце!»

Наогул гэта падобна на жарт. Ён яшчэ на штосьці спадзяецца. Але разам з тым гэта прымушае задумацца. Бо пакуль адных будзе цешыць подлая надзея выплысці наверх, у другіх будзе жыць страх. Будзе таіцца, хавацца, каб калі-небудзь узяць верх. Занадта глыбока жыве ў свядомасці многіх ганебная нявольніцкая мараль: як бы чаго не выйшла. І калі здарыцца, што дзе-небудзь слязьмі абальецца праўда, хіба хто-колечы не памяркуе: а ці не лепш пераседзець, перамаўчаць, перастаяць за вуглом, адвярнуцца. А яны будуць пільнаваць спрыяльны для сябе момант.

Я забрыдаю ў самы цёмны куток на плошчы. У густым ценю пад дрэвамі на лаўцы прытаілася нейкая пара. Сцішылася, змоўкла, насцярожылася і чакае. Не, я туды не пайду. Ім трэба адзінота, мне таксама. Тут царства спакою і цішыні. Тут ноч. А насупраць, па той бок плошчы, усімі вокнамі свеціцца вялізны будынак вакзала. Мусіць, там ніколі не бывае ночы. Там вечна, дакуль жыве горад, будзе біцца яго бяссонны чыгуначны пульс. Мільёны людзей. Стагоддзі. Эпохі. Вулканы людскіх эмоцый – пад яго сценамі.

Дужа пахне маладая ліства таполяў. У завулку на недалёкай будоўлі пыхаюць водбліскі электразваркі.

Сіне-сцюдзёныя ўсплёскі святла дрыготка трапечуцца ў небе. Аднекуль на плошчу выскоквае машына «хуткай дапамогі» і, імпэтна перасекшы яе асфальтавы прасцяг, знікае на бульвары. Ціхія, стрыманыя адзнакі людскога жыцця поўняць ноч, трэба толькі ўмець заўважаць іх і бачыць.

Аднак пачынае імжыць дождж. Ён з часам гусцее, асфальт патыхае макрэддзю і пылам, мерна сакоча дах на ларку. Мусіць, трэба ісці на вакзал. І я паціху брыду краем плошчы ўздоўж сквера. За жалезнай загараддзю суцэльнае царства ночы, і ў ім прыцішаны лёскат кропель. Зблізку чуцен яшчэ шорхат газетных аркушаў – закаханыя хаваюцца ад дажджу. Упартае ў сваёй празе да адзіноцтва каханне. Зімой, увесну, улетку. У спёку, ноччу, у дождж – там пары. І гэта – таксама вечна...

На вакзале абвяшчаюць пасадку. У вестыбюлі і па сходнях пачынаюцца сонная таўкатня і гамана. Спяшаюцца цёткі з клункамі. Брыдуць заспаныя дзеці. Звесіўшы з плячэй звязаныя чамаданы, штурхаюцца да выхаду дзядзькі. Год пяці абы-як апранутая дзяўчынка валачэ пузатую напханую шмат чым авоську. Знерваваная маці з клункамі ўсё злосна пакрыквае на яе. Ззаду жанчына на высокіх абцасах і заспаны ў кароткіх штоніках хлопчык. Хлопчык незадаволена трэ вочы, і маці ўлагоджвае яго. У абедзвюх яе руках кардонкі, драўляны аўтамабіль, трохколавы веласіпед і нават два чырвоныя шары. Хлопчык надакучліва ные. А мабыць, равеснік дзяўчынцы. Бравы малады лейтэнант ашчадна вядзе пад руку старэнькую згорбленую бабулю ў плюшавай надзёўцы. Падпалкоўнік у шэрым плашчы валачэ на плячы вялізны ружовы абруч – модны занятак для пастарэлай дзе-небудзь у далёкім лясным гарнізоне жонкі. Мінаючы сустрэчных, я лезу на другі паверх – там цяпер вольныя лаўкі. Някепска было б падрамаць. Да майго цягніка яшчэ шмат часу.

Вольных мясцін, аднак, тут небагата. Ля акна ў самым куце палова незанятай лаўкі, і я з асалодай выцягваю на падлозе ногі. Зрэшты, ногі – не зусім адпаведнае для

мяне слова. Спіну падпірае падлакотнік. Не вельмі зручна, але стомленае цела здаволена. Побач клюе носам нейкі хлопец у чорным пінжачку і клятчастай сарочцы. Кепка яго ўжо на паркеце. Хлопцава галава ўсё ніжэй, ніжэй гнецца да калень, і калі, здаецца, дакранецца да іх, хлопец прахопліваецца. Спалоханымі вачыма няўцямна кідае са два позіркі і зноў пачынае драмаць.

Невядома, ці выжыў у гэтай вайне Сахно? Хоць такія людзі, не вельмі пераборлівыя ў сродках, жывучыя. І калі здарылася, што ён застаўся жывы, я ўпэўнены: ён зноў той жа. Усё жыццё ён удасканальваўся ў адным рамястве – прымусе... І на іншае проста няздольны. Я ведаю, сустрэча з ім мне таксама не прынесла б радасці. Ён з пароды Гарбацюкоў, і дзесяць гадоў для іх перавыхавання завельмі малы тэрмін.

Трэба было мець незвычайную па тым часе здольнасць пранікаць у людскія характары, каб западозрыць у Сахно патэнцыяльнага здрадніка. Я, у кожным разе, такім нават не мог яго і сасніць. Здавалася, гэта жалезны ў сваіх перакананнях фанатык, бязлітасны не толькі да іншых, а і да сябе ў імя той справы, якой ён служыў. Праўда, я і раней лічыў гэтага чалавека нягоднікам, але з прычыны іменна гэтай яго бязлітаснай няўхільнасці, якая мяжуе з жорсткасцю, гіпертрафіраванай службісцкай уедлівасцю. Зрэшты, у той час гэтыя якасці не прынята было лічыць заганнымі.

А на справе, ён заўсёды меў падвойнае дно. Ён не набыў яго ў той адвячорак у трубе або пасля пад уплывам якіх-небудзь асаблівых абставін. Цяпер я разумею: ён такім быў праз усё жыццё. Ён зусім не быў крэменем, якім стараўся здавацца, таму што быў беспрынцыповы і гнуткі. Што ён ні рабіў, ён перш думаў пра сябе – аб сваёй кар’еры і сваёй выгодзе. Астатняе яго не турбавала.

Аднак я ўсё ж прытаміўся. Вочы неўпрыцям заплюшчваюцца, прыцішаная гамана нібы мацнее і нібы засяроджваецца ў галаве. Сну няма, але цела ў нейкім

тлумным змярцвенні. Апаноўвае абсалютная нерухомасць. Толькі думкі, вобразы, абрыўкі невыразных фраз рояцца ў галаве.

За вялікім акном насупраць шуміць імпэтны майскі дождж. Нібы зачараваная яго няўрымслівым шумам, узіраецца ў спатнелую шыбу жанчына. Няйначай – з вёскі. Бліштастыя гумавыя боты. Простая спадніца. Цёмны паношаны жакет. На галаве старанна павязана чорная хусцінка ў чырвоныя кветкі. Невясёлы, засяроджаны на чымсьці ўнутраным, яе твар з сеткай зморшчын на лбе выглядае немаладым і стомленым. Мусіць, яна мне равесніца або трохі маладзейшая і, мабыць, адзінокая. Я не ведаю чаму, але нешта няўлоўнае выдае ў ёй шматгадовую горыч жыцця. Зрэшты, адкуль быць шчасцю? Дзе тыя равеснікі і трохі старэйшыя, з кім прамільгнула кароткая яе маладосць? Цяпер бы ім таксама было год па сорак, калі б праклятая вайна не адмерала многім па дваццаць. Вечна маладыя і нежанатыя, маўкліва спяць яны ў тысячах братніх магіл на шырокім прасторы ад Волгі да Эльбы. І вечная самота тлее ў змарнелых на працы і ў клопатах, дачасна састарэлых вачах іхніх былых сяброўак.

Так, можа, недзе і Юркава Ліда. Памятаю, з якой нецярплівасцю ў вучылішчы выхопліваў ён з рук днявальнага яе пісьмы, размаляваныя каляровымі алоўкамі. Колькі ў іх было пяшчоты і адданасці! Гэта было яркае і кароткае каханне, якому я зайздросціў і аб якім марыў усю маладосць. Дзе яна цяпер, яго Лідка?

Жанчына ля акна папраўляе на галаве хустку, захінае жакетку. Ля ног у яе невялічкі руды чамаданчык. Адкуль і куды яна едзе? Які лёс кіруе яе, відаць, невясёлым жыццём? Што яе адасоблівае ад людзей у гэтай зале і кліча ў самотную адзіноту бяссоннае ночы?

Не, я не хачу бачыць Юркаву Ліду такой спрацаванай на мужчынскай рабоце, дачасна змарнелай у адзіноце, з абыякавасцю ў вачах. Я не хачу гэта сабе ўявіць. Адмаўляюся зразумець. І не ў стане пазбыцца ў думках верагоднасці яе менавіта такога лёсу.

Эх, Юрка, Юрка! Ты – самы вялікі мой боль у жыцці. Ты – незагойная мая рана. Іншыя ўсе ўжо даўно пазагойваліся, а ты муляеш, крываточыш і баліш, мабыць, таму, што ты – рана ў сэрцы. Сумленне маё падрэзана тваёй пагібеллю, ад якой я не магу ачуняць дваццаць гадоў.

Так, я вінаваты таксама. Вінаваты перад табой і перад тваёй маці, за якую ты найбольш непакоіўся пры жыцці. Я не забыўся на яе адрас. Але што я мог напісаць ёй? Каюся, я доўга вагаўся і Недзе гады праз два пасля вайны паслаў ёй паштоўку з паведамленнем, што ты без вестак прапаў пад Кіраваградам. Гэта была маленькая хітрасць, якая мне памагла зрабіць выбар, каб зрабіць як найлепш. Я ведаў тваю маці з яе пісьмаў да цябе, кожнае з якіх было на чатырох лістах пад нумарамі. Я не забыўся, як непакоілася яна пра цябе, пра тваё жыццё. Але я памятаю таксама, што яна ніколі не прасіла цябе, як іншыя, што б там ні стала зберагчы жыццё. Яна заклікала цябе, калі прыйдзе апошні той час, не забыцца, што ты савецкі афіцэр і камсамолец і зрабіць так, як патрабуе ад цябе твой абавязак. На іншае яна не магла пагадзіцца.

І неўзабаве я атрымаў ад яе адказ. Невялікі ліст, некалькі скупых слоў святой мацярынскай хлусні. Не без гонару пісала яна, што ты па-геройску загінуў у няроўным баі.

Ці мог я пасля гэтага паведаміць ёй усю праўду аб тваёй пагібелі?

Што ж, я вінюся перад табой і каюся. Але мы разумнеем з гадамі, а ваяваць нам давялося зялёнымі хлопцамі. Цяпер бы я не зрабіў так. Я б пастараўся не аддаліцца ад цябе, як гэта здарылася ў той дамоўцы на кіраваградскім пераездзе. Цяпер я разумею, што ў адносінах да цябе, параненага, паставіўся амаль па-здрадніцку. Трэба было мне не адыходзіць ад цябе да канца. Мабыць, я раней зразумеў бы тваю роспач, і яна б не абарвалася тым недарэчным стрэлам, на які падбухторыў цябе Сахно. Але тады я быў не цяперашні і на некалькі гадзін сапраўды занядбаў цябе, адзінокага ў

сваёй знямогласці.

**36**

Адчуванне маё то праясняецца, то знікае ў млосных правалах свядомасці. У галаве ўсё кружыцца, плыве і гойдаецца. Аднак я разумею, што мяне валакуць наўскасяк па адхоне ўгару. Пасля мая здаровая нага балюча выцінаецца аб рэйку. Я кранаюся ёй долу і пачынаю скакаць па заснежаных шпалах. Кожны рух суправаджаецца невымернай да атупення пакутай. Другая, мне ўжо непадуладная нага сутаргава падкорчваецца ад болю і ціхенька, аслабела калоціцца.

Усё маё цела ў ліпкім сцюдзёным поце. Часам я расплюшчваю вочы, і тады перад імі плывуць-гойдаюцца прысыпаныя снегам шпалы і дзве чорныя рэйкі з абодвух бакоў. Побач мільгаюць боты. З аднаго боку кірзавыя, пацёртыя на шчыкалатках – Сахновы, з другога тупаносыя скураныя – Энгеля. Ля гэтых скураных раз-пораз паказваецца чорны прыклад карабіна, і я здагадваюся: ім узброіўся мой штрафны канваір. Значыць, яго не расстраляюць. Гэта чамусьці адгукаецца ва мне задавальненнем, якое нараджае надзею: а раптам ён паможа. Калі толькі мне яшчэ можна чым-колечы памагчы.

Хутка, аднак, невыносная млявасць ад болю зноў туманіць мой зрок, і я перастаю бачыць. Цьмяна я адчуваю, што мяне вядуць у палон. Вядуць два чалавекі, якія тут менш за ўсіх падыходзяць для гэтага. Сапраўды, аднаго суткі назад я сам павінен быў здаць у палон, а другі... Не хочацца нават і думаць, хто гэты другі.

І вось цяпер яны – мае канваіры.

Але навошта я, такі скалечаны, спатрэбіўся немцам? Хіба, каб нешта ад мяне дазнацца раней, чым забіць? Тады чаму я іду? Хай забіваюць адразу. Праўда, я заўжды хацеў жыць. І цяпер таксама. Каб толькі не боль. Нават насуперак болю. Толькі чым мне абернецца

якая лішняя гадзіна жыцця? Можа, горшым, чым сама смерць...

Галава мая тлумнее ад блытаных думак і неадольных для майго стану пытанняў. Нечага вельмі важнага я ніяк не магу даўмецца. Я толькі адчуваю, што сталася нешта жахлівае, непапраўнае і несправядлівае. Часам я забываюся, дзе я і куды іду. Міжвольна здаецца, што побач Каця. Нават чуецца дзесьці паблізу яе голас. Я не магу сабе ўявіць, што яе ўжо няма і ніколі не будзе... І што ніколі болей не будзе майго сябра Юркі. Здаецца, ці не сон гэта? Было ж колькі разоў у сне, што трапляў у рукі да немцаў, якія нават спрабавалі мяне забіць. Але затым наставала абуджэнне, і ўсё рабілася па-ранейшаму. Можа, і цяпер будзе так? Толькі вось нялюдскі, нясцерпны боль!

Трэба сабрацца, засяродзіцца і нешта зразумець, у нечым разабрацца. Я заўжды няблага разбіраўся ва ўсіх каверзах, што наблытвала перада мной жыццё. Дома, у школе, у вучылішчы. Праўда, тут вайна. Вялізная, лютая, небывалая на зямлі вайна. У ёй сам д’ябал з богам самым старанным чынам усё пераблыталі. Ніводная заканамернасць тут не з’яўляецца правілам. А самая недарэчная выпадковасць часам робіцца табе лёсам. Разбярыся, што тут надзейна і пастаянна? І нязменна?

Пэўна, я мог бы штосьць зразумець, каб не такія пакуты. Боль мне не дае ні аб чым думаць. Ён адбірае сілы. Слабасцю захлынаецца маё сэрца. Столькі трэніраванае на кросах, фізо і на зарадках сэрца. Здаецца, нікуды я не дайду. Я проста сканаю ў руках гэтых двух. На гэтай чыгунцы. У некалькіх кіламетрах ад Кіраваграда.

Так, я хачу сканаць. Я не хачу ісці ў палон. Я не буду даваць ім ніякіх звестак. Я не хачу і не магу болей пакутаваць. Пакуты робяцца звыш маіх сіл. Я нават не ведаю, дзе і што мне баліць. Боль самаўпраўна гаспадарыць ва ўсім целе, невядома чаго дамагаючыся. Я вельмі зайздрошчу Юрку. Яму не баліць. Ён пераступіў свой апошні рубеж і цяпер непадуладны для немцаў. Сілы над ім ужо ў іх няма. І смерць мне

пачынае здавацца жаданым збаўленнем. Толькі дзе яно, тое збаўленне?

Я расплюшчваю вочы і дзіка пазіраю навокал. Паабапал стэпавая роўнядзь, чыгунка, тэлеграфныя слупы збоку. Мерна і настойліва гудуць правады. Наперадзе тупае немец. Каробка закінутага за спіну процівагаза лязгае па затворы яго карабіна. Я паднімаю галаву і бачу сашчэпленыя сківіцы Сахно. Ён усё не страляецца, не ўцякае. Няўжо ён пойдзе ў палон?

– Забі мяне!

Сахно, здаецца, ажно здрыгаецца. Зусім незнаёмымі вачыма пазірае ў мой твар. Мабыць, твар у мяне нялюдскі, бо ў глыбіні ягоных зрэнак – раптоўны спалох.

– Забі мяне! Будзь чалавекам!

Я і сам разумею бязглуздасць мае просьбы-енку. Але гэта енчыць мой боль. І маё спакутаванае цела. Яны самыя ўладарныя цяпер ва мне, і я ім падпарадкуюся. Адзіная мая нага падкошваецца, і я зусім вісну на чужых руках. Сахно тады моцна тузае за плячо і дыхае засцярожлівым шэптам:

– Калі што – ты мяне не ведаеш. Паняў?

Я праглынаю тугі крыўдны камяк. Ага, цяпер ён мяне ўгаворвае. Падобна, ужо ён перайначваецца. Астатніх panішчыў, а сам усё марудзіць. Можа, думае выжыць?

У роспачы я тузаюся з іх учэпістых рук. Энгель нешта незадаволена буркае і ямчэй падхоплівае мяне пад паху. Сахно ж аднаруч не вытрымлівае. Плячом я выцінаюся аб шпалу і ляжу, курчачыся ад болю. Ззаду раздаецца суровы гартанны крык. Сахно, палахліва зазіраючы мне ў вочы, тузае за рукаў.

– Ты што? Уставай!

– Не ўстану! Забівайце! Не ўстану.

У гэтым цяпер маё выйсце. Выйсце з жыцця ў нябыт. Іншага няма. Хай страляюць.

Але яны не страляюць.

Энгель некалькі разоў нязлосна тузае за руку, стараецца падхапіць за другую Сахно, але я настойліва ім не паддаюся. Тады насупраць з’яўляецца той, у касцы. Ягоны позірк крута ўпіраецца ў мяне дзесьці між броваў. Дужы ўдар ботам пад дых зацінае маё дыханне.

– Ауфштэген!

Не, ужо чорта вам, а не ауфштэген! Задыхаючыся, я хапаю ротам паветра і, на жаль, нічога не магу ім сказаць. Свет зноў правальваецца ў млосную імглістую прорву. Рэшткамі адчування я адзначаю, як яны хапаюць мяне за рукі, за нагу, за падраныя полы шыняля, і зямля пада мной знікае. Вірлівая дрыготкая гойданка падхоплівае мяне і ўносіць з свядомасці...

Ачынаюся таксама ад удару. Здаецца, нечым пякучасцюдзёным тупа выцінаюць па твары, і я ўраз апынаюся на скрыпучай нерухомай роўнядзі. Варухнуўшы рукамі, разумею, што яны мяне кінулі ніцма ў снег. Напэўна, зараз прыстрэляць. Нетаропка і вяла, ледзьве адольваючы знямогу, у якой раствараецца боль, паварочваю галаву. Пада мной утаптаная зімовая дарога, рудая наздраватая пляма ад конскай мачы, натрэсеныя ацяробкі сена і побач ногі. Шмат ног у ботах, чаравіках з кароценькімі скуранымі і брызентавымі крагамі. Двое ці болей у валёнках. Бліжэй за іншыя пазнаю выслізганыя ў снезе кірзачы Сахно. На іх скураных галоўках плямы крыві. Здаецца, гэта мая кроў. Аднак рэзкая нямецкая фраза прымушае мяне зірнуць далей, і мае вочы натрапляюць непадалёк на вузенькую, брудную падножку «опель-капітана». Адзін яе край аздоблены цьмянай палоскай нікелю. Канец прыгнуты нейкім ударам, а на сярэдзіне пацепвае падэшвай добра начышчаны хромавы бот.

З патугай я перасоўваю позірк вышэй, здагадваючыся ўжо, што гэта – начальства. І сапраўды, у машыне нейкі

важны, самавітага выгляду афіцэр. Хударлявы і немалады. На галаве новая высокая фуражка. Пад выгаленым падбародкам ляжыць руды футровы каўнер скуранога рэглана. Вачэй, аднак, не відаць, замест іх паблісквюць шкельцы пенснэ. Я першы раз бачу такога важнага немца, і ў іншых абставінах, мусіць, гэта было б цікава. Аднак цяпер ён мне абыякавы. Мне пляваць на ягоны высокі чын. Я яму зараз жа гэта і скажу. Разыкаваць мне ўжо няма чым.

Але чаго яны зноў усе маўчаць? Маўчыць чын. Маўчыць, «з’ядаючы» яго позіркам, знаёмы афіцэр у касцы. Вывернуўшы ад сябе локці, ён навыцяжку стаіць перад машынай. Можа, зараз яны вырашаюць наш лёс?

Аднак напружанне мае канчаецца. Я выдыхаю з грудзей паветра і заплюшчваю вочы. Зноў усё нада мной плыве і кружыцца. Вялікім намаганнем волі ўтрымліваючы сябе ў свядомасці, думаю: чаму я не сканаў па дарозе? Навошта я жыву? Я ведаю, што будуць дапрошваць. Ім патрэбна нешта дазнацца, і таму яны вядуць нас удвох. Другі для кантролю. Для таго яны прывалаклі мяне ў сяло. Гэта – вуліца. Я чую, як у марозным паветры пахне мешанінай дыму – бензінавага і ад саломы. Чуецца далёкая страляніна, гамана і тупат ног. Побач ідуць і бягуць салдаты. І ў гэтую калатнечу блізкіх, перамешаных гукаў урываецца настырны паветраны гул. Дык вось чаму яны змоўклі: у небе ідуць нашы. Гэта штурмавікі, нашы родныя «ІЛы». Яны ідуць сюды! Яны зробяць ім вялікі крывавы дзень.

Напружыўшыся ад вялікага болю, я перакочваюся на спіну. У вочы хлынае бледны высокі блакіт неба. Да болю ў вачах я шныпару позіркам па белесаватай смузе-навалачы. І дарма. Там пуста. Толькі побач унізе тычкі нерухомых галоў – у пілотках, шапках, у касках. Яны таксама ўставіліся ў неба. Самалётаў няма. Ёсць толькі гул. Гудзе недзе паблізу. І гэты гул напаўняе мяне незразумелаю ўпэўненасцю. Родныя мае! Дарагія! Біце іх! Паліце! Нішчыце! Я рады, што я яшчэ жыву. Я не хачу хутка паміраць. Я яшчэ пазмагаюся з імі. Я ім нічога не скажу. Не на такога напалі. Я плюну ў вочы

гэтаму оберсту, ці як там яго велічаць. Няхай страляюць. Няхай пабачаць, як паміраюць рус-афіцэры.

Аднак гул хутка глухне. Мусіць, самалёты праходзяць міма. Некуды ў другі бок. Кароткая радасць мая мяняецца нямым унутраным крыкам. Роспач туманіць позірк, і я ледзьве заўважаю, як іхнія твары ўжо не задзіраюцца ў неба. Яны скіроўваюцца да легкавушкі. Немец у машыне скідае з сябе нерухомасць, хрускае партсігарам, дзелавіта прыкурвае ад запальнічкі. Худыя шчокі яго то правальваюцца, то зноў трохі поўняцца, і падбародак апускаецца на футра каўняра. Ён нешта загадвае.

– Яволь! Яволь! – ляскае абцасамі афіцэр і коратка аб нечым дакладвае.

Здаецца, гэта пра нас – (вас махен цвай русафіцірэн?). Вось калі ўсё вырашыцца... Позіркам я ўпіваюся ў голены, сцюдзёны твар. Зараз ён вызначыць нам кару. Загадае, чаго ад нас дабіцца і як расстраляць. Ці, можа, нават павесіць. Але ён чамусьці не спяшаецца загадаць. Тонкімі вуснамі ён сціскае цыгарэту і нядбайна махае рукой у шэрай пальчатцы.

Я не разумею. Што гэта значыць? Расстрэл? Ці, можа, весці далей па вуліцы? Відаць, чагосьці не разумее і афіцэр у касцы. Ва ўсякім разе я не чую ягонага «яволь». Я толькі бачу, як, сыпануўшы снегам, падхопліваецца ў каляіне кола. На хаду бразгаюць дзверцы.

Афіцэр крута павяртаецца да салдат і ўжо іншым тонам – злосна і рашуча – нешта загадвае. Паўхвіліны ўсе змрочна слухаюць. Пасля разам бяруцца за зброю і за сваё майно на ўзбочыне. Зноў лязгаюць-дзвенькаюць спражкі і зашчэпкі іх жоўта-зялёных скрынак. Гучна хрупае снег. Нехта дужай рукой хапае мяне за каршэнь і ніцма, як дохлага сабаку, валачэ ўпоперак вуліцы. Па снезе, цераз каляіны, разграбаючы маім целам мёрзлыя конскія круглякі. Кручок шыняля ўпіваецца ў горла, я задыхаюся. Я не ведаю, куды гэта? Але я не хачу тут памерці. Я хачу яшчэ пазмагацца з імі. Яны мяне

асудзілі, але за мной яшчэ апошняе слова. Божа, дай мне яшчэ гадзіну жыцця! І сілы. Я ніколі не верыў у Бога, аднак цяпер ён патрэбны мне. Хоць сапраўдны, хоць выдуманы. І я малю яго памагчы мне.

Побач рыпяць на снезе закасцянелыя ад марозу скураныя боты, сунуцца міма пляцень, брамка, кінутая пустая каністра і прыхінуты да прызбы аўтамабільны скат. Ля яго растаптаны на снезе ахапак саломы, на які яны ўзвалокваюць мяне і кідаюць. Ударыўшыся галавой аб тугі гумавы бок ската, я не адразу расплюшчваю вочы. Ляжу, як пласт, ад болю закусіўшы вусны, і калачуся. Побач апускаецца на прызбу і таксама трасецца ад сцюжы Сахно.

**37**

Праходзіць, мусіць, нямала часу, пакуль я, прытрываўшыся да болю, раскрываю вочы.

У двары гамана.

Хата, на падворку якой мы апынуліся, мусіць, пакінутая. У выбітых шыбах акна з рэшткамі шкла – чарната. Дзверы – насцеж. Таму немцы ўсе ў двары. У полах шынялёў яны прыносяць аднекуль сухі паёк і ладзяць падвячорак. На састаўленых разам скрынках дзеляць галеты і асобна кансервы. Кінуўшы нас без аніякай увагі, усе стоўпліваюцца на падворку і ўраз расхопліваюць свае порцыі. Энгель таксама там. Як роўны з роўнымі, і ніхто яму, здаецца, нічога не кажа. Быццам і не было ў яго ні палону, ні кантакту з рускімі. Быццам і ён такі ж шчыры служака фюрэра, як і ўсе яны тут. Ён зграбае са скрынкі свае галеты, і ўдвух з рудым, што вывалак мяне з трубы, адной лыжкай па чарзе пачынаюць вышкрэбваць з банкі. Сахно, скурчыўшыся на завалінцы, пільна сочыць за імі спадылба і штохвіліны глытае слінку. І ўсё дрыжыць. А я ўжо не дрыжу. Здаецца, я марудна і няўхільна замярзаю. Ног сваіх я ўжо не адчуваю. Чужыя мне і рукі, на якіх даўно ўжо няма рукавіц. І яшчэ нясцерпна хочацца піць. Ад страты крыві ўнутры ў мяне ўсё сохне і

паліць агнём. «Ну дзе ж яно, дзе іх начальства? Няўжо ж нікому мы тут не патрэбны?» – паныла думаю я і чакаю, калі хто-небудзь да нас падыдзе.

І адзін падыходзіць. Малады зусім, сімпатычны на выгляд салдат з яснымі прыгожымі вачыма. Ён ступае тры крокі ад гурту ля скрынак і, дажоўваючы галету, расхінае полы шыняля. Робячы сваю справу ў двух метрах ад прызбы, немец сустракае мой позірк. Я чакаю нянавісці, крыку, а можа, і стрэлу, а ён усміхаецца і па-блазенску віхляе задам. Рудая паска перакрэслівае побач снег, дробным лопатам прабягае па маёй спіне раз і другі. Немчык задаволена ржэ, зашпільваецца і адразу адварочваецца, папраўляючы на плячы аўтамат.

Мабыць, першы раз я стагну. Ад пакут іншага роду, чым тыя, што дапякалі мяне раней. Гэта нясцерпныя пакуты. Іх нельга зразумець, не стрываўшы. У роспачы прыпамінаюцца ўсе мае франтавыя няўдачы. Калі я страляў з «дзегцяра», не паставіўшы на планцы прыцэл, з дзесятак немцаў паспела схавацца ў траншэі. І як мы прамарудзілі з атакай і далі іх машынам выскачыць з сяла. І той вечар, калі мой узвод захапіў шасцярых палонных. У хлопцаў былі мокрыя валёнкі, але я не дазволіў ім разуць немцаў, абутых у спраўныя боты. Каб тады ведаць, што чакае мяне! Мне крыўдна, што я мала забіў іх на фронце.

Але, відаць, усе мае пакуты дарэмныя. Ніводнага з іх я ўжо не заб’ю і нічога ім не зраблю. На мяне ім напляваць. Яны адыходзяць. Дажоўваючы хрумсткія галеты, ямчэй ладзяць на спінах сумкі, процівагазы, закідваюць на плечы зброю, і адзін за адным выходзяць на вуліцу. На нас нават не зірне ні адзін. У двары, аднак, застаюцца знаёмыя скрынкі. І ля іх трое. Наш Энгель, малады акулярык, што вывалак мяне з трубы, і яшчэ адзін новы. Ён паджары, ладна складзены, з уедлівымі цёмнымі вачыма і яфрэйтарскім шаўронам на рукаве. Гледзячы па ўсім, гэты тут будзе за старшага.

Я ўжо не ведаю, што і думаць. Страшна крыўдна сканаць, як канае падстрэлены сабака. Мабыць, да ночы мне ўжо не дажыць. А яна зусім блізка. Сонца ў небе

ўжо не відаць. У празрыстае сіняе сутонне марудна апускаецца дол. Пад стрэхамі гусцее і ўстойваецца змрок. Усё настойлівей пячэ твар і рукі мароз. Пэўна, ноч будзе зорная і месячная, як і ўчора. Толькі мне яе ўжо не ўбачыць.

Немцы, пасеўшы на скрынках, кураць. І маўчаць. Бачу – чуйна ўслухоўваюцца ў гукі, якіх шмат далятае, плыве і коціцца з шырокіх ваколіц сяла. Аднак тых, што гэтыя трое чакаюць, пэўна, няма. На вуліцы робіцца пуста. Мусіць, немцы ўжо выехалі адсюль. Чаго тады чакаюць гэтыя трое?

І тут у мяне з’яўляецца апантаная думка: а можа, яны чакаюць нашых? Каб здацца! І ўратаваць нас!.. Праз секунду радаснага знямення я, аднак, разумею: дурная надзея. Не для таго яны тут пакінуты. Ды і той Энгель, падлюга, нават не падыдзе ні разу. Ні разу не зірне нават, нібы баіцца. Але раней не вельмі баяўся. А я так хачу папрасіць у яго вады... Здаецца б, толькі напіцца, а там можна і памерці. Затое Сахно нeяк ненатуральна ажыўляецца. Нібы ўрэшце перамагае ў сабе шок, які валодаў ім з трубы. Ён дазваляе сабе ўстаць з прызбы і пачынае часта прысядаць – грэцца. І яго не лаюць. Толькі акулярык нешта буркае, але яфрэйтар маўчыць, тады і ён змаўкае. Сахно, сеўшы, тупае ботамі. Зямля гулка грукаціць пад ім і болем аддаецца ва ўсім маім целе.

Адубелы і знямоглы, я не адразу заўважаю, як з гэтым грукатам зліваецца далёкі знаёмы трэскат. Я толькі бачу, як усе трое немцаў ураз паварочваюць галовы. Чарга паўтараецца раз, другі, трэці. Немцы ўскокваюць. Двое пазіраюць на яфрэйтара, і зноў усе ўтрох слухаюць.

Няўжо нашы? Я не магу ў тое паверыць. Няўжо яшчэ магчымы які паратунак? Сахно зноў знерухомлівае, сцяўшы на пераноссі бровы. Мне здаецца – гэта «максім». Не, бадай, болей падобны на танкавы. Толькі якога танка? Чэргі, аднак, змаўкаюць. Немцы яшчэ слухаюць. Пасля яфрэйтар сцішана лаецца і дастае з кішэні круглую, нібы яйка, з паскай упоперак, гранату.

Пакратаўшы чаку, планкай чапляе гранату за рамень.

– Іх коме бальд![12]

Ён кудысьці таропка выходзіць са двара. Энгель і акулярык зноў садзяцца ля скрынкі. Энгель, апанурыўшы галаву, пачынае калупаць прыкладам у снезе. Акулярык то ўзіраецца ў гароды з вішаннікам, то ў вуліцу. Відаць, ён пабойваецца. Сахно зноў асцярожна пачынае размінку.

Я ўжо не магу трываць. Смага, здаецца, даканае мяне раней за раны і мароз.

– Энгель, – кажу я і не пазнаю свайго аслабелага голасу. – Энгель, вассэр! Трынкен вассэр!

Энгель ледзь не са спалохам ускідвае на мяне голаў.

– Вассэр! Фарштэйн? Вассэр!

– Швейгт! Вассэр нікс![13] – кажа акулярысты.

Энгель, аднак, бачу, у раздумнай нерашучасці глядзіць на мяне. На фоне вячэрняга неба выраз ягонага твару ад прызбы амаль ужо не праглядваецца.

– Вунь жа калодзеж. Дай вады, калі ты чалавек! – паказваю я на вуліцу. Там над заснежанай страхой задзірае шыю калодзежны журавель.

Энгель устае і ў нерашучасці топчацца ля скрынак. Азіраецца. Услухоўваецца. На адной скрынцы сумка, і ля яе плоскі кацялок – мусіць, таго, яфрэйтара. Энгель урэшце адшпільвае яго і, яшчэ раз услухаўшыся, ідзе да варотцаў. Карабін ён трымае пад пахай. Акулярысты, седзячы на скрынцы, павяртаецца да нас усім целам і з лязгатам тузае затвор аўтамата.

– Швейгг!

Сахно сядае. Ціха сам сабе лаецца. Немец на тое не зважае. Ён слухае. Я ўслухоўваюся таксама.

Навокал усё ціха. Але зводдаль усё ж даносяцца гукі. Іх не адразу і зразумееш нават. Не то крыкі, не то тупат мноства ног. Коні ці людзі? Але стрэлаў няма. Бахае недзе артылерыя. Толькі гэта ў іншым баку і далёка. А гэты перапалох дзесьці за сялом. Праз кіламетр-два.

Разліваючы з кацялка ваду, у двор уваходзіць Энгель. Значыць, усё ж чалавек, думаю я. Маё ўяўленне аб немцах трохі пахіснута. Я ўжо згодны думаць, што сярод іх бываюць розныя. І так сабе. І нішто. І сволачы. Зрэшты, як і ў нас. І, мусіць, як і ўсюды. Людзі ёсць людзі. У агульнай масе сваёй не благія і не добрыя – розныя. Ён працягвае мне кацялок. Я прыўзнімаюся. Адной рукой сціскаю яго за бок. У галаве шалёная хісткая карусель.

І тут за спіной – цяжкі зморany тупат. Нешта здарылася, але я не зважаю. П’ю. Хоць бы выбух – раней, чым памерці, я ўсё ж нап’юся. Але раздаецца нямецкая лаянка. Шалёны ўдар ботам выбівае ў мяне кацялок. З бразгатам той коціцца па падворку. Другі ўдар, у вуха, атрымлівае Энгель. У двары шалее яфрэйтар. Захлынаючыся словамі, ён лаецца.

Гняўліва-крыўдная хмара засцілае маю свядомасць. Я хачу піць. Але, здаецца, ужо не нап’ешся. Энгель вінавата лыпае падслепаватымі вачыма. Яфрэйтар нешта крычыць, размахваючы перад ім кулаком. Акулярык бярэцца за скрынку. Сэрца маё рвецца з грудзей: я адчуваю – зараз нешта адбудзецца.

Неўзабаве яны ўсе хапаюцца за рамяні скрынак. Яфрэйтар, лаючыся, трухае да хлеўчыка за сваім кацялком. Акулярык адну скрынку ўзвальвае на спіну, другую – прадаўгаватую і меншую – бярэ за почапку. Самай вялікай нагружаецца Энгель. Таропка чапляе на сябе амаль кубовую зялёную яфрэйтар. Але на снезе застаецца яшчэ дзве. Яфрэйтар запыхана азіраецца на нас. І тады – о, цуд і подласць! – з прызбы падхопліваецца Сахно. Я нават не разумею, куды? Мабыць, не разумеюць гэта і немцы. А ён без адзінага слова хапае скрынку, другую і абедзве ўскідвае за рамяні на сваё правае, здаровае плячо. Яфрэйтар

збянтэжана разяўляе рот, а пасля з сілай ляпае па гэтым яго ўгнутым ад рамня плячы. – Гут, капітан! І рагоча.

А я выдыхаю ўсё, што ў мяне было ў лёгкіх, і пераводжу позірк угору. Я не здзіўляюся і не абураюся. Мае пачуцці ўжо мала што ўспрымаюць. Я ўжо ўсё перажыў. Я толькі гляджу ў неба.

Там прарэзалася і блішчыць маленькая адзінокая зорка. Яна, мабыць, якраз над Кіраваградам, у які я не дайшоў. Як не дайшлі многія. Цікава, колькі тысяч жыхароў у тым горадзе? Ці атрымаецца хоць па адным на забітага? Было б здорава хоць на хвілінку зірнуць на яго вуліцы. Напэўна, калі-небудзь там будуць цвісці кветкі, зелянець таполі і акацыі. І хадзіць хлопцы з дзяўчатамі. Людзі будуць глядзець кіно, піць піва і есці марожанае. Зорка ў небе гойдаецца і расколваецца на дзве і тры. Смугой зацягвае позірк. Гэта мароз. Ён, здаецца, мяне дабівае. Мабыць, хутка мяне не стане. А той будзе жыць. Будзе. Ён пераадолеў ужо свой шок. І я думаю: недарма кажуць, што вайна любіць кемлівасць. Хто раней здагадаецца, той і пераможа. Ён здагадаўся ў час. Там ён быў узорны штабіст. Тут будзе ўзорны палонны.

Усё іншае даходзіць да мяне нібы з другога свету. Немцы ямчэй ладзяць на сябе скрынкі. Затым таропка закурваюць і выходзяць у варотцы. Я ўсё гэта чую. Але я бачу толькі тую дробненькую зорачку ў зеленаватым блакіце. Яна мільгае, скача, пераліваецца водбліскамі, рассыпаецца на дзве, чатыры і калючымі асколкамі мітусіцца ў вышыні. Вейкі змярзаюцца, і я заплюшчваю вочы.

Здаецца, немцы мяне пакідаюць.

Аднак у варотцах яны раптам спыняюцца. Мне чуваць голас яфрэйтара. Спачатку ціхі, пасля з уладарнаю ноткай загаду. І зараз жа рэзкі скрып ботаў па снезе. Гэты прарэзлівы скрып болем пранізвае маю галаву і спыняецца. Я расплюшчваю вочы.

Згорбіўшыся пад скрынкай на спіне, перада мной стаіць Энгель. Ён нерашуча, нібы баючыся, зазірае ў мой твар. У яго напружана-затоены позірк. І я раптам здагадваюся, чаго ён вярнуўся. Я ведаю. Іншага я і не чакаў.

Але чаму Энгель?

На руках я адкідваюся да прызбы. Упёршыся ў дол абцасам, паварочваюся да яго тварам.

– Ты?

Энгель адступае на крок і дрыготкімі пальцамі бярэцца за рукаятку затвора. Ён з натугай дасылае ў патроннік патрон і мармыча:

– Эс тут мір зэр ляйт.

Я разумею. Ён просіць прабачэння. Гэта няўцямна. І няўяўна. Гэта жахліва. Ці бачылі вы такіх забойцаў? Ці чыталі пра іх у кніжках?

– Эс тут мір зэр ляйт. Абер іх габе бефёль![14]

Ну, вядома, ён мае загад! Гэта ўжо знаёма. Гэта безумоўна.

Ну, але што ж! Трэба канчаць. Мне няма чаго плакаць. Дарма таксама прасіць. Рукамі я раздзіраю на грудзях шынель. На, страляй, гад! Цаляй у самае сэрца. Каб доўга не пакутаваў! Мне неўмагату.

– Бэайльт айх![15] – крычыць з вуліцы яфрэйтар.

Аказваецца, яны пайшлі. Яму цяпер іх даганяць. Яны спяшаюцца. Можа, праз гадзіну тут будуць нашы? Гэтая думка пераварочвае ва мне ўсе пачуцці. Мне да слёз робіцца крыўдна.

– І ты мяне заб’еш? – крычу я ў разгубленыя, падслепаватыя Энгелевы вочы. – Ты ў мяне стрэліш?

У маёй душы раптам узгараецца маленькая зорачка

надзеі. Я ж яго не забіў. Я яго бараніў. Няўжо ён не ўспомніць таго?

На адным калене я падаюся ад прызбы да Энгеля. Ён на крок адступае. Падобна, ён баіцца мяне і чамусь азіраецца. Вочы яго ўсё акругляюцца ў збянтэжанасці. Рукою зноў тузае рукаятку затвора. З карабіна туга выпстрыквае патрон і падае ў снег.

– Іх габе бефёль, – дрыготкім голасам, нібы апраўдваецца ён і таропка адступае яшчэ на два крокі.

Стрэл, як гром, пыхнуўшы ў твар чырвоным полымем, валіць мяне ў снег.

Нейкі час потым я яшчэ чую незразумелыя гулкія ўдары пад сабой – дуг-дуг-дуг… Я не ведаю, што гэта – ягоныя крокі ці развітальны стук майго сэрца. Аднак яны ўсё цішэюць і хутка зусім заміраюць.

**38**

– Грамадзянін! Грамадзянін! Ану, падніміцеся!

– Што разлегліся? Не дома!

– Паднімайцеся! Зараз жа паднімайцеся!

Між лавак ходзіць дзяжурная з чырвонай павязкай на рукаве, і з ёй міліцыянер. Яны будзяць пасажыраў, бо спаць у зале не дазваляецца. Жанчыны, дзядзькі і хлопцы, крэкчучы і сапучы, устаюць. На іхніх памятых тварах санлівая нездаволенасць.

Пасля бяссоннае ночы тупа баліць галава. Трэба б таблетку пірамеіну, але аптэчны ларок, вядома, яшчэ зачынены. У вялізных вакзальных вокнах – празрыстая сінеча світальнага неба. Зачынаецца майскі пагодны ранак.

Хлопца на лаўцы ля мяне ўжо няма, мусіць, адправіўся сваёй дарогай. На яго месцы сядзіць знаёмая з ночы жанчына ў квятастай хусцінцы. Падпёршы рукой

шчаку, яна засяроджана глядзіць у падлогу. Відаць, як і я, таксама не прыдрамнула за ноч. З другога рада лавак да нас забрыдае ранняе на пад'ём малое з бразготкай у руках. Шырока расставіўшы крываватыя ножкі, даверліва ўзіраецца ў мяне, потым глядзіць на жанчыну. Выраз твару той не мяняецца. Малеча, няспрытна павярнуўшыся, таропка тэпае за лаўку. Нас яно пабойваецца.

Мне болей тут не сядзіцца.

На плошчы яшчэ па-начному прахладна і пуста. Ліхтары ўжо не гараць. У шырокім чысцюткім небе над горадам хутка світае. Вось-вось павінна ўзысці сонца. Напорысты майскі дождж прамчаўся па вуліцах, дахах і бульварах, пакінуўшы пасля сябе духмяную свежасць раніцы, мокрую лістоту і люстраныя лужыны-азяркі на асфальце. Лужыны, аднак, хутка вузеюць-меншаюць.

Гаркавата расістым водарам патыхае ў скверы ад таполяў. Вясноваю прэласцю пахне набрынялая вільыаццю зямля. З ночы лістоты на дрэвах нібы прыбавілася, і яна густа зелянее, цярусячы на дол сцюдзёныя буйныя кроплі. На пустой крайняй лаўцы – праседжаная мокрая газета. Я апускаюся побач.

Энгель усё ж аказаўся нядбайным салдатам фюрэра. У сваім старанні выканаць загад ён паспяшаўся. Невядома, па якой прычыне адбылося гэта. Ці мо з нежадання адстаць ад сваіх. Ці баючыся нашых, якія недзе абходзілі сяло. Ці, можа, Усё ж маючы нейкую спагаду да мяне. Не дужа цаляючы, ён стрэліў толькі адзін раз. А трэба было, відаць, два. Адзін стрэл мяне не забіў. Толькі на шмат год нарабіў клопату дактарам. І калі я зараз жывы, дык зямны паклон іхнім залатым рукам і іхнім вялікім турботам. Але найперш паклон цётцы Марылі. Гэта яна, стараватая вясковая бабылка, не дала мне сысці крывёй і замерзнуць. Яе рукі найперш затрымалі ва мне невялічкія рэшткі жыцця, хоць гэта было не проста і амаль безнадзейна. І цяпер разам з нянавісцю да подласці ў маіх грудзях жыве вялікая любоў і ўдзячнасць тысячам тысяч нашых бабулек, цётак, дзяўчат і старых, якія і кармілі і

абагравалі, а нярэдка і ратавалі нас ад кашчавай.

Шырокія стрункія промні нябачнага за дамамі сонца запальваюць ранішні блакіт, і ён у вышыні гарыць, ззяе, звініць чысцінёй і першатворнай свежасцю. Недарэчна доўгая і турботная ноч ззаду. Дзіва, якою магутнай, гаючай сілай валодае прырода. Кожнага ранку ўзыдзе сонца, і ўсё на душы робіцца інакшым, чым уначы. Куды толькі знікаюць сумненні і пакуты адзіноцтва. Выходзіць усё куды прасцей і лягчэй, чым уяўлялася. Вялізным зарадам бадзёрасці прырода кожнага ранку абнаўляе людзей.

Так, лютая была вайна. Смяртэльная бітва з найвялікшаю няпраўдай і несправядлівасцю, якія калі-небудзь нараджала зямля. Гэтая барацьба ўзяла ў чалавецтва безліч ахвяр і іхняй крывёю напісала ўрокі, якія немагчыма забыць. Найпершы з іх, мусіць, заключаецца ў тым, што воля і мір – занадта кволыя дрэўцы, каб іх можна было вырасціць без усеагульнага клопату ўсёй трохмільярднай сям'і. Занядбанне гэтым урокам каштавала б зямной катастрофы.

Вайна перад усім светам пацвердзіла нашу магутнасць і многім раскрыла вочы на нашыя хібы. У сорак пятым мы не толькі здабылі перамогу. За чатыры гады вайны мы, як ніколі, згуртаваліся ў адно цэлае і ўбачылі, на што з немагчымага мы здольныя. Дух свабодалюбства і непадлегласці злу здабыў сабе ў той барацьбе магутныя крылы. Я веру, яны не апусцяцца.

Струмені свежага, як газіроўка, паветра цякуць у мае грудзі. Мне добра. І нават невядома, чаму робіцца радасна. Мабыць, таму, што я ўсё ж абмінуў смерць і цяпер вось, як ні дзіўна, жывы. Хоць і з пратэзам замест левай нагі. З нядаўна залечаным ачагом у лёгкіх. Прамінуўшы ў бальніцах юнацтва, недавучыўшыся, недакахаўшы. З дваццаці год інвалід. І ўсё ж жыццё – мабыць, галоўнае. Яно і кара і ўзнагарода. Маё ў поўнай меры можа служыць пацверджаннем гэтага, і таму яно набыло для мяне своеасаблівы сэнс.

З прывакзальнай плошчы ў сквер уваходзяць двое з

рэчамі. Зрэшты, рэчаў няшмат: у высокага даўгарукага хлопца – чамадан з металічнымі накутнікамі і паліто. У яе, – маленькай і вастраносенькай, з выгляду зусім яшчэ дзяўчо, – вялізная дарожная сумка. З-пад просценькага паношанага плашчыка дужа выдаецца жывот.

– Ось давай тут і прысядзем, – кажа яна, ставячы на лаўку насупраць сумку. І раптам усхопліваецца:– А дзе ж плашч?

Ён, малады і нязграбны побач з ёю, збянтэжана азіраецца.

– У зале пакінуў?

– А! – здагадваецца ён і бягом кідаецца са сквера.

– Машка ты разгубляшка! – кідае яна наўздагон і смяецца. Пасля сядае побач з рэчамі на лаўку. Заўважыўшы маю да яе ўвагу, таропка захінае полы цеснага ў стане плашчыка.

– Такі забывака – жах!

– Нічога, прывыкне, – кажу я.

– Трэці ўжо раз забывае. У вёсцы ў маіх пакінуў, калі ад'язджалі. Пасля ў аўтобусе забыўся. Проста бяда. Усё роўна як прафесар які, – ахвотна, быццам нават з затоенай радасцю, паведамляе дзяўчо.

– Далёка едзеце? – Яна раптам сур'ёзнее.

– Ой, на цаліну едзем. У Какчатаў і далей яшчэ кіламетраў дзвесце. Першы раз з дому – аж страшна. Кажуць, там ніводнага дрэўца няма, а я так лес люблю. Вось паехала, а ўсё сумняваюся: можа, кепска будзе.

– А ён як? Нішто?

– Хто? Сашка? – дзяўчына паднімае вочы і сарамліва ўсміхаецца. Шэрыя зрэнкі яе напаўняюцца святлом і добрасцю. – Ён добры, – кажа яна нараспеў,

разгладжваючы палу плашчыка. – Турботны толькі. Пасля арміі на цаліну завербаваўся. Камбайнерам. Вырас у стэпе, дык вельмі ўжо прастор любіць.

– Гэта горш?

– Што?

Дзяўчына насцярожваецца. У яе паглядзе амаль трывога. Я стараюся ўсміхнуцца.

– Ды не, нічога. Прывыкнеце. Да стэпу, вядома.

– Праўда? Ну, што ж! Як-небудзь трэба. Сям’я ж цяпер.

Яна ўздыхае і нецярпліва пазірае ў кірунку вакзала, адкуль з плашчом на плячы ўжо бяжыць яе муж.

Неўзабаве яны прыладжваюцца на лаўцы снедаць. Яна клапатліва выкладвае з сумкі вясковы харч: яйкі, бутэльку малака, кавалак сала. Каб не назаляць ім, я адварочваюся. Міма па дарожцы сквера, палязгваючы абцасамі кірзачоў, праходзіць салдат. Напэўна, спазняецца са звальнення. Шчокі яго расчырванеліся, лоб потны. Спяшаецца. Па сабе ведаю: дужа нялёгка гэта – мірыцца службе з каханнем. Ціха перагаворваючыся аб нечым, суседзі мае пачынаюць сняданак. Я чую, ён яе называе Кацяй, і мне вельмі карціць азірнуцца. Але не, я ведаю, той Каці не будзе. Гэта другі чалавек, іншы лёс. Зрэшты, што ж, жыццё прадаў-жаецца... Ніштo яго не спыніць. Як не спыніў у свой час Гітлер.

Я гляджу ў дальні канец сквера, дзе з’яўляецца яшчэ адна пара. Цесна прытуліўшыся адно да аднаго, яны марудна ідуць да апошняй у радзе лаўкі. Ён беражліва ўкрывае яе сваім пінжаком. У самога спіну аблягае мокрая сарочка. Але што там сарочка, калі цёмнавалосая галоўка аддана і шчасліва туліцца да пляча. Гледзячы на іх, я слухаю хуткія салдацкія крокі, што аддаляюцца, і думаю: хто і якія б гэтыя людзі ні былі – ім належыць будучыня, і ў тым іх перавага. Ім ствараць яшчэ ненапісаную гісторыю краіны. У

загадкавым заўтра прадаўжаць жыццё. Іх чалавечнасць і мужнасць будуць вызначаць лёсы зямлі.

Няхай жа яны будуць шчаслівейшыя за нас.

## Праклятая вышыня

### 1

Мы наступалі. Надвор'е выдалася такое, што горш не прыдумаеш: увесь дзень ішоў дождж напалам са снегам. Не падсохлая яшчэ ад вясновага разводдзя зямля зусім раскісла, гразь на дарозе перамяшалася са снегавой кашай, у якой агідна хлюпалі нашыя змакрэлыя ногі. Пад вечар, да таго ж, усчаўся напорысты, віхурны вецер. Увесь час мяняючы кірунак, ён апантана круціў над шляхам. Наперад часам немагчыма было зірнуць – золкая снегавая макрэдзь сляпіла вочы. Угнуўшы голаў, я бачыў толькі, як мільгалі заляпаныя гразёй кірзачы камандзіра роты Ананьева; мокрая плашч-накідка на ягонай спіне надзімалася крутым пухіром, камроты ўгінаўся, хапаючыся рукой за капюшон, накінуты на самаробную, з мацерчатым казырком фуражку, і, злосна мацюкнуўшы бога і надвор'е, рашуча крочыў па гразкай дарозе. Перакураў мы не рабілі.

Калі пачало змяркацца і раскіслы, у лужынах, прасёлак завярнуў на касагор, Ананьеў павярнуўся тварам да калоны і нейкае паўхвіліны прайшоў так, задам наперад. Ён зіркаў на строй, хоць, мусіць, не шмат што ўбачыў на прыцьмелай дарозе. Рота расцягнулася, і старшы лейтэнант, моршчачы хударлявы, з бачкамі на шчоках твар, нягучна паклікаў:

– Старшына Піліпенка!

Аднак Піліпенка, мабыць, не чуў і засяроджана брыў у непагодным паўзмроку акрай дарогі.

– Глушэц стары! – буркнуў Ананьеў. – Заснуў, мабыць.

Не чакаючы ягонага загаду, я выйшаў з калоны і хуценька падбег да старшыны. Піліпенка няўцямна ўскінуў насустрач немалады ўжо, не чыста голены і крыху брузглаваты твар, але тут жа згледзеў наперадзе цыбатую постаць камандзіра роты і ўсё зразумеў адразу. Са спазнелай паспешнасцю старшына крутануўся да свайго ўзвода (строй якога быў даволі бязладны, болей дакладна – не было ніякага строю). Разбрыўшыся па дарозе, аўтаматчыкі зморана валакліся ў мільготкіх прыцемках – хто бокам, хто ўгнуўшы галаў, а хто і адвярнуўшыся ад напорыстых парываў ветру. Брылі, дзе каму здалося зручней: па ўзбочыне, па-над шырокай, поўнай снегавой слоты канавай і нават за канавай – па краі аблепленага мокрым снегам палетка.

Пазнавата спахапіўшыся, Піліпенка сцішаным голасам, каб не пачуў камроты, пачаў падганяць байцоў. Трое ці чацвёра пярэдніх заварушыліся жывей або, можа, зрабілі выгляд, што заварушыліся, іншыя ж проста пакінулі без увагі яго каманду-прынуку. Вядома, прамінуць такое камандзір роты не мог і, са злой цікаўнасцю сочачы за марнымі намаганнямі ўзводнага, выйшаў на ўзбочыну.

– Ану, варухні нагой, ядрона вош! Жыва мые!

Камроты – не ўзводны. Аўтаматчыкі паскорылі крок, заднія пусціліся нават подбегам, усе прыкметна заварушыліся. Ананьеў болей не падганяў, толькі пачакаў-памарудзіў з прыдзірлівай строгасцю на худаватым насупленым твары, і строй памалу пачаў выроўнівацца.

Тым часам Піліпенка сышоў на ўзбочыну і пакорна спыніўся збоч ад камандзіра роты. Той, безуважны, аднак, да старшыны, зноў гукнуў у калону:

– Ваніна ка мне!

Каманду ўраз падхапілі, перадалі далей, – камроты

цярпліва прасачыў за гэтым, прыдзірліва ўзіраючыся ў валюхастыя постаці сваіх аўтаматчыкаў. Ён чакаў камандзіра другога ўзвода, але, замест яго, на дарозе з’явілася Пулька, маленькае вяртлявае сабачанё, якое тыдзень назад аднекуль прыбілася да роты і якое прытуліў у сваім узводзе малодшы лейтэнант Ванін. Ананьеў выказаў цярплівасць, нават нейкую да часу затоеную цікаўнасць да гэтага, і вось ужо некалькі дзён другі ўзвод забаўляўся з гэтым кудлатым, па-маладому гарэзлівым шчанюком.

Пулька з рухавай бесклапотнасцю прабегла краем дарогі, але раптам згледзела камандзіра роты, нібы зразумеўшы штосьці, гаўкнула і кінулася назад да Ваніна. Баец у доўгай палатцы, рог якой валокся па гразі, знарок тупнуў ботам – снегавое слізгоцце з-пад ног шырока пляснула на сабачанё, тое крыўдліва віскнула і кінулася за канаву. Аднак канава тут была шырэй, чым здалося: Пулька да жывата правалілася ў снег, распырскваючы слоту, выскачыла на той бок і трывожна замітусілася, не ведаючы, як выбрацца на дарогу.

Ванін прыпыніў бег і крута павярнуў у строй.

– Абармот! Ты што робіш? У цябе галава на плячах ці кацялок нямыты?

– А чаго яна брэша?

– Не тваё дзела! Ану, лезь цяпер, даставай!

Лезці за канаву баец, аднак, не хацеў і памалу забіраў убок, далей ад камандзіра чужога ўзвода. Пулька некалькі разоў сунулася ў макрэдзь, але скрозь было глыбока, і яна, павіскваючы, адскоквала назад. Тады Ванін рашуча сігануў у набрынялую снегам ваду і пераняў сабачанё на рукі.

– Дарма, – сказаў Ананьеў. – Трэба б таго абармота прымусіць.

Ён, як гэта часта рабіў, неяк раптам павярнуўся і, нібы

забыўшы пра ўсіх, хутка пакрочыў па дарозе.

На хаду ўжо нас дагнаў Ванін, тулячы пад ватоўкай мокрую Пульку, якая адразу сцішылася там, вытыркнуўшы з-за пазухі маленькую чорную мордачку і дзве мокрыя лапкі. Узводны не паспеў яшчэ абазвацца, як наперадзе з ветраных прыцемак з’явіўся наш нампаліт лейтэнант Грыневіч. Захутаны ў даўгаватую для яго невялічкага росту палатку, ён крыху прычакаў камандзіраў і запытаўся ціхманым, з хрынатой голасам:

– Што там здарылася?

– Ды вунь дурань адзін Пульку ў ваду загнаў, – стрымана сказаў Ванін. Нампаліт страсянуў наліплы на плячах снег і пайшоў побач.

– А наогул – нашто вам сабака?

– Як гэта нашто? – не зразумеў Ванін.

– Каб хоць сабака, а то...

– А то шчанюк карослівы... – скончыў за лейтэнанта Ананьеў.

– Вот іменна. На месцы камандзіра роты я б загадаў прыстрэліць, і ўсё.

– Хай жыве, – са змрочнай рашучасцю абвясціў Ананьеў. – Ці баішся: нас пераажыве?

Перш чым адказаць, Грыневіч зноў памаўчаў.

– Нас гэта не датычыць. А вось брэша зусім недарэчы.

– Калі на Піліпенкавых, дык дарэчы, – нязгодна падхапіў ротны. – Камандзір узвода не камандуе, дык хоць Пулька...

Я ішоў ззаду за ўсімі і зглядзеў, як Піліпенка, варухнуўшы каскай, неяк крыўдліва насцярожыўся пад мокрай палаткай.

– Усэ вам Пылыпэнка! Шо, я буду гнаты кожнага?

Бачытэ, яка дарога! – сказаў старшына, і твар яго зморшчыўся амаль у пакутніцкім выразе. Ананьеў рэзка азірнуўся.

– Пры чым тут дарога! Камандзір размазня!

– Камандзір...

– Ага, камандзір! Бо камандаваць трэба! – выпаліў ротны.

Усе непрыемна змоўклі: як заўжды ў такіх выпадках, злосць старшага лейтэнанта чапляла не толькі вінаватага, але і тых, хто быў побач. Здавалася, пасля Піліпенкі Ананьеў возьмецца за наступнага, і кожны адчуваў сябе гэтым наступным. Па схіле рота выходзіла на пагорак, вецер памацнеў; мокры снег з дробным дажджом сек па плячах і касках. Мы хуткім крокам абміналі калону.

– Недзе паблізу немцы, – пасля гнятлівае паўзы паспакайнелым голасам сказаў камроты. – Падцягніце людзей. Падвоіць назіральнікаў па баках. Назначце слухачоў. Піліпенка, вам змяніць галаўны дазор!

Старшына, адтапырваючы полы палаткі, здзіўлена развёў рукамі.

– Так мої ж од півдня ішлы... Шчэ ёго час не выйшаў, – павярнуўся ён да Ваніна.

– Што – ёго! – павысіў голас Ананьеў. – Я табе загадваю. Ці не зразумела?

Камандзір роты злаваў, але я думаў, што прычынай тае злосці наўрад ці быў Піліпенка. Старшы лейтэнант нерваваўся ўвесь надвячорак, з таго самага часу, як роту аўтаматчыкаў вылучылі з палкавога рэзерву і павярнулі ўбок, каб заткнуць нейкую прарэху на фланзе. Батальёны пайшлі па бальшаку, а мы ўлезлі ў гразь на прасёлку, перайшлі балота, вымаклі, намарыліся ды яшчэ, у дадатак, засталіся без фурманкі з такім-сякім ротным майном, мяшком сухароў і патронамі. Праўда, ПНШ абяцаў, як пад’едуць тылы,

паслаць фурманку следам за ротай, але, мусіць, здарылася няўпраўка, фурманка нас не дагнала, і мы, апроч таго што згаладнелі, маглі яшчэ і застацца без боепрыпасаў.

Піліпенка бурчаў:

– Кого я назначу? Попрыставалы усі.

– А мне напляваць! – строга абарваў яго Ананьеў. – Хоць сам ідзі, калі назначыць не маеш каго.

– Ну і піду, – змрочна гааабяцаў Піліпенка.

– Толькі без «ну»...

Старшына памарудзіў і адстаў на крок, апынуўшыся са мной побач. Выгляд яго зрабіўся зусім пакутніцкі, як заўжды, калі ён атрымліваў вымову ад начальства, што ўвогуле здаралася нярэдка. Справа ў тым, што Піліпенка служыў у дывізійнай АХЧ і толькі перад наступленнем за нейкую правінку быў пераведзены ў роту аўтаматчыкаў. Яго паставілі камандзірам узвода, але ўзводны з яго, здаецца, атрымаўся ніякі, і ён часта камандаваў недарэчы, а галоўнае – зусім не мог змаўчаць перад начальствам, калі тое, як яму здавалася, рабіла што-небудзь няправільна ці несправядліва.

Як заўжды, даўшы выказацца камандзіру роты, у спрэчку ўступіў яго намеснік.

– Як гэта вы дзіўна разважаеце... – азіраючыся, сказаў Грыневіч, – У вас жа ўзвод.

– Якый цэ взвод? Двадцяць чоловік та й ті не ідуць, а валакуцця.

– Быццам адны вашы так валакуцца... – папракнуў Ванін.

– Так у тэбэ скількы? Трыццаць два. А у мэнэ двадцяць тры.

– Мае ноч у ахраненні былі.

– А мае копалы.

Увогуле, слухаць гэта было не дужа прыемна, але спрачаліся ўзводныя не першы раз, і Ананьеў глядзеў на тое не строга. Праўда, ён заўжды быў на баку Ваніна, які, зрэшты, і сам мог абараніць сябе, толькі часам у малодшага лейтэнанта не хапала на тое ўпартасці. Піліпенка ж мог спрачацца бясконца.

– Ладна, – ні да кога не звяртаючыся, сказаў Ванін. – Я сам змяню. Толькі трэба б і совесць мець.

Ненастойлівы, быццам між іншым выказаны папрок малодшага лейтэнанта, аднак, зачапіў Піліпенку.

– А што я для сэбэ выгадую? Вы глянтэ, які в мэнэ ваякі. Та й бісова дорога...

Угінаючы галаў ад ветру, Грыневіч азірнуўся на старшыну.

– Ну і што ж: баявая абстаноўка. А ў прысязе як сказана: стойка пераносіць усе цягаты і лішэнні ваеннай жызні.

– Та чулы, – буркнуў Піліпенка.

– Ось і кепска, што чулі, а байцам не ўнушаеце.

На тое Піліпенка не адказаў. Мы прыпыніліся, бо камандзір роты, адвярнуўшыся ад ветру, з трафейнай цыгарэтай у зубах, пачаў шукаць па кішэнях запальніцу. Вецер апантана рваў полы ягонай накідкі, пад якой у старшага лейтэнанта быў кароткі шынэлак, падпяразаны абвіслай камсастаўскай дзягай з трафейным «вальтэрам» у кабуры. Іншага рыхтунка – партупей, сумак, компасаў – Ананьеў не прызнаваў і хадзіў ва ўсім салдацкім, вылучаючыся хіба што пагонамі з адною палоскай без зорак ды даўгалыгім ростам. Мы пачакалі, пакуль ён, заціснуўшы між калень палку, прыкурыў пад палою накідкі.

– Што мараль чытаць, – холадна сказаў камроты. – Сам не ўломак. Адставакі ёсць?

– Няма, – трошкі паспешлівей, чым звычайна, адказаў Піліпенка.

З-пад капюшона накідкі Ананьеў падазрона скасавурыўся на яго.

– Правяраў?

– Ну... – насцярожана адказаў старшына, і ўсім стала зразумела, што не правяраў.

Камандзір роты хуценька акінуў позіркам байцоў, што, хлюпаючы абуткам, праходзілі міма.

– Дзе Чумак?

– Тут быў, здаецца...

– Быў? А цяпер дзе?

Піліпенка дужа пакутна хмурыўся, надзімаўся, і мне міжволі стала шкада старшыну. Як-ніяк з усіх камандзіраў у роце ён быў самы старэйшы, паводзіў сябе стрымана, з нейкаю нават годнасцю, але Ананьеў чамусьці не зважаў на тое і спаганяў са старшыны, мабыць, болей, чым з іншых. Ідучы побач, я напружана ўзіраўся ў постаці ягоных аўтаматчыкаў. Аднак дарма. Чумака, як на тое ліха, нідзе не было, і Ананьеў з прыкрасцю тыцнуў палкай у гразь.

– Ось так і палучаецца! Знайсці і далажыць! – са злосцю загадаў ён і вылаяўся.

Піліпенка моўчкі павярнуўся і валюхаста зашлёпаў па гразі. Ананьеў крыкнуў:

– Адставіць! Вядзі ўзвод! – і штурхануў мяне ў плячо: – Васюкоў – бягом! І заадно глянь падводу.

Распырскваючы «снегавую слоту, я пабег краем дарогі ўніз. Засцерагацца макрэдзі не мела сэнсу: і так на мне ўсё было мокрае да пояса і нават болей – не ратавала і старая, куцая нямецкая трохкутка з абкладзенымі бляхай петлямі. Насустрач зморана брылі аўтаматчыкі – знаёмыя, што ўцалелі ад зімовых баёў, і навічкі, якія за тыдзень да наступлення прыбылі ў роту. Я ведаў далёка не кожнага. Мяне ж тут ведалі, мабыць, усе: як-ніяк я быў у іх на віду, заўжды з камандзірам роты, – хоць у калоне, на прывале або ў ланцугу. Пры Ананьеве яны, вядома, паводзілі сябе стрымана, а цяпер, убачыўшы мяне аднаго, далі волю сваёй гарэзнай цікаўнасці.

– Што, Васюкоў, немцы?

– Куды бяжыш? Можа, заначуем, ага?

– Ардынарац, ком перакурым!

Я нікому не адказваў, толькі ўзіраўся ў іх нястройныя рады, стараючыся ўбачыць Чумака. Але яго нідзе не было, і я бег усё далей па схіле пагорка ўніз.

Ардынарцам да Ананьева я трапіў нечакана ў той самы дзень, як прыбыў у роту. Не ведаю, чым я прыглянуўся яму, але калі толькі нас пачалі размяркоўваць па ўзводах, Ананьеў прайшоўся ля строю прыціхлых, у каляных шынялях навічкоў і, спыніўшыся ля мяне, загадаў: «Пайдзеш ардынарцам. Паняў?» – «Паняў», – сказаў я, хоць у той час амаль нічога не разумеў у гэтай нечаканай для мяне пасадзе. Пасля, аднак, прывучыўся: хітрага ў ёй было нямнога. Часам толькі было неспакойна, часам боязна, асабліва пад агнём, калі ўсе ляжалі, уціснуўшы галовы ў ямкі, а Ананьеў пасылаў мяне ў які-небудзь узвод, ці да кулямётчыкаў, або з данясеннем да камандзіра батальёна ці проста паглядзець, хто займае лясок, або паклікаць старшыну роты. Але ён і сам не дужа бярогся і бегаў не менш за мяне, часам разам са мной. Рызыкавалі мы з ім нароўні, так што ў гэтай справе былі, мабыць, квіты.

За Чумаком я таксама бегаў не ўпершыню – гэты Чумак быў проста насланнё наша. Праз яго Піліпенка ледзь не

кожнага дня атрымліваў наганяй ад начальства – то ён згубіцца, то стане не ў свой узвод на пастраенні, то не паспее ў час паабедаць, бо не мае лыжкі, або пад агнём вылезе на самае ўбойнае месца – ідзі тады заганяй яго ва ўкрыцце. Лапаткі, вядома, у яго не вадзілася. На маршы ж ён адставаў ужо мо дзесяты раз.

Прабягаючы міма аўтаматчыкаў, я ўсё ўзіраўся ў іх цьмяныя, аблепленыя снегам постаці, аднак байцоў усё менела, і нарэшце на дарозе не засталося нікога. З прыцьмелага неба па-ранейшаму парушыла дробным дажджом і снегам. Я спыніўся, паслухаў: не, здаецца, яшчэ нехта брыў ззаду. Тады я памалу прайшоў насустрач, і сапраўды праз хвіліну з прыцемак паказаліся двое: Чумак, які, падаткнуўшы пад дзягу полы шыняля, ледзьве валокся па гразі, і наш замыкаючы – сяржант Цвяткоў. Відаць, Чумак і яму ўжо даўся ў знакі, бо Цвяткоў зморана, не хаваючы свае прыкрасці, дакараў байца:

– Усё вам трудна, да? Толькі ля кухні, мабыць, не трудна, так? Ану, шырай шаг!

Я саступіў убок, і Цвяткоў, пазнаўшы мяне, узрадаваўся:

– Ты не за гэтым?

– Ну а за кім жа?

– Ужо абрыдла штурхаць! Як бязногі... – паскардзіўся сяржант.

Я разумеў яго, але такія ўжо былі абавязкі замыкаючага ў калоне, каб штурхаць тых, хто адставаў. Звычайна гэта рабіў старшына, які цяпер, на бяду, недзе прапаў разам з падводай.

– Што, падводы няма?

– У тым-та і справа, – уздыхнуў Цвяткоў. – Што рабіць з ім?

Сапраўды, што было рабіць з гэтым Чумаком, які яўна

выбіўся з сілы і далёка ўжо адстаў ад роты? Не несці ж яго на руках! І тут, нібы адчуўшы ўсю безвыходнасць нашага становішча, Чумак заклапочана азірнуўся.

– Хай бы вы ішлі. Я ўжо сам як-небудзь.

– Ага! – сказаў Цвяткоў. – Мы хай бы ішлі, так? А ты – у кусты. Знаем такіх!

– Яй-богу не! Я паціхеньку. Мне б толькі вадзіцы глынуць. Няма ў пляшачцы, га?

– Няма, – сказаў я.

Чумак недаверліва агледзеўся – нізенькі, крываногі, у абвіслым мокрым шынэлку, з апалым рэчмяшком на спіне – і зусім ужо жаласна папрасіў:

– А, мусіць, у сяржанта е. Дай, будзь ласкаў!

– То не вада, – сказаў Цвяткоў. – То гарэлка.

Чумак змоўчаў, у немалай натузе выцягваў з гразі ногі, па-качынаму валюхаючы з боку на бок. І раптам з нечаканай для яго рашучасцю папрасіў:

– А дай гарэлкі!

– Яшчэ што прыдумаеш!

Цвяткоў шырока сігануў цераз лужыну, бліснуўшы з-пад палаткі меднай камсастаўскаю спражкай, якую ён акуратна кожнага дня націраў спецыяльна для таго прыдбанай фланелькай. Таксама кожнага дня ён знаходзіў магчымасць падшыць свежы каўнерык, выдраіць боты. І наогул сваім знешнім выглядам гэты сяржант хутчэй нагадваў якога-небудзь дбайнага штабнога пісара, чым санінструктара роты аўтаматчыкаў, якім ён быў.

Трохі заклапочаны ягонай няўступчывасцю, я на хвіліну завагаўся. Было шкада прысталага небараку, але ў мяне не было ўпэўненасці, што будзе карысць, калі даць яму выпіць. І ўсё ж нешта трэба было рабіць з Чумаком.

– Ладна, – сказаў я прымірэнча. – Дай. Можа, падужае...

– Што – дай? Мая гэта хіба? Старшыыова пляшка, – крыўдліва азваўся Цвяткоў.

– Глядзі, які чэсны! – сказаў я. – Абыдзецца твой старшына. Не апошняя, мабыць.

– А можа, і апошняя. Калі ўжо яе прывозілі? У суботу?

– Аднак жа збярог. Дык падзяліся.

Цвяткоў зусім ужо надзьмуўся і адышоў ад нас далей.

– Чаму ж ты не падзелішся? Дык, мабыць, сваё выпіў, так? А ў вас там і гарэлачка, і дадатковы паёк...

– Успомніў! Хіба я атрымліваю той паёк?

– Хапае і табе.

Ось жа зануда, падумаў я, раптам амаль збянтэжаны гэтым яго папрокам. Для старшыны або камандзіра роты ён бы знайшоў выпіўку пад зямлёй, а небараку Чумаку шкадаваў глытка.

Напаткаўшы ў змроку доўгую снегавую лужыну, мы разышліся па абодва яе бакі, і, калі зноў сышліся ў канцы, Цвяткоў адшпіліў ад дзягі трафейную абшытую лямцам пляшку.

– На. Толькі глыток – не болей...

– Не, не...

Чумак задраў голаў – у пляшцы ціхенька булькнула, і Цвяткоў тут жа схапіўся за яе. Але раней, чым ён паспеў адабраць, булькнула яшчэ раз.

– Я ж сказаў: глыток! – амаль закрычаў санінструктар. – А то – дарваўся!..

Я маўчаў – што ўжо там адзін толькі глыток? І Чумак, мабыць, заўважыў гэта маё маўклівае заступніцтва.

– От дзякуй, – сцішана сказаў ён, выціраючы рукавом падбародак і амаль не заўважаючы Цвяткова. – Дзякуй табе, таварыш ардынарац.

– А мне за што? – сказаў я. – Яму дзякуй.

Чумак змоўчаў. Цвяткоў пачаў прышпільваць пляшку, ды нешта запоркаўся там з баранчыкам на дзязе. Мы зноў спыніліся. Нікольки ўжо не тулячыся ад снегавой макрэдзі, што ляпіла ў твар, Чумак падступіў да мяне.

– У вас кірзоўкі, ага?

– Кірзоўкі. А што? – Чумак валюхаста пераступіў на дарозе.

– Ды гэта... У мяне, во – ніштo боты! Нямецкія, праўда. Калі што, дык гэта... Няхай вам будуць.

Я зірнуў на яго аблепленыя гразёю, мокрыя, звычайныя трафейныя салдацкія боты з нізенькімі халявамі і яшчэ не зусім зразумеў сэнс яго слоў, як Цвяткоў побач іранічна хмыкнуў.

– Хахмач! Хіба на фронце ўгадаеш! Вось заўтра ляпне, і – абодва дагары капытамі...

– Дык я кажу...

– Тожа ты скажаш! – пагардліва абарваў яго санінструктар. – Маўчы лепш.

– Ладна, – сказаў я. – Пабачым. Давайце даганяць.

Мы хутка пайшлі па дарозе. Увогуле Цвяткоў казаў праўду. Толькі кожны раз, калі заходзіла аб тым гаворка, рабілася не па сабе. Хто раней, хто пазней – не адгадаеш, але няварта і кпіць з гэтага дзядзькі, які па прастаце душэўнай памкнуўся за дабро адплаціць дабром, вядома, у межах свае не надта вялікай салдацкай магчымасці.

Чумак заклыпаў трошкі хутчэй. З усяе нашай гамонкі ён, мусіць, мала што зразумеў і нібы апраўдваўся на

хаду:

– Не, я ж не тое, каб... Калі што, дык... Харошыя ж боты.

**3**

Толькі ён сказаў гэта, як угары ярка пыхнула: неба над пагоркам дрыготка асвяцілася вялізнаю агнянай плямай. На некалькі секунд у паветры замітусіўся рой мільготкіх сняжынак, пляма паніжэла, хісткае святло атуліла край неба, пагарэла трохі, пасля неяк хутка прыцьмела і згасла. Мы прыпыніліся.

– Ого! – у думках ці, можа, уголас сказаў я, адразу разумеючы, што гэта для нас азначае.

– Напароліся! – паныла пацвердзіў Цвяткоў.

Я тут жа спахапіўся, згадаўшы, што павінен быць там, наперадзе, ля камандзіра роты, і, пакінуўшы двух ззаду, апантана пабег па дарозе. Ракета была не дужа блізкая, пры такой непагадзі наўрад ці яна здолела б асвятліць калону, але, пэўна, немцы ўсё ж нешта згледзелі. Значыць, трэба неўзабаве чакаць стрэлаў. Звычайна ў такіх выпадках страляніна клала канец трывожнай невядомасці і пачынала знясільваючую агнявую барацьбу, што ўвогуле на вайне было чымсь дужа звычайным, хоць і кожны раз новым. Але стрэлаў у гэты раз нешта не было, і пэўна таму Ананьеў не спыняў роту, якую я неўзабаве дагнаў у прыцемках.

Праз хвілін пяць усё ў тым жа месцы засвяціла зноў – на святлявым мільготкім фоне адбілася некалькі ценяў аўтаматчыкаў на дарозе. Бліжэй да галавы калоны яны, відаць, самі, не чакаючы каманды, спыняліся, усе з маўклівай трывогай пазіралі наперад, дзе былі камандзіры.

Матляючы мокрымі крыламі сваёй трохкуткі, я дабег да пачатку калоны і крыху прыцішыў крок. Воддаль ад байцоў на краі дарогі змрочнымі сілуэтамі маячылі Ананьеў, Грыневіч, камандзіры ўзводаў – малодшы лейтэнант Ванін і старшына Каліпенка. Усе

насцярожана ўзіраліся ў змрок.

– Гэта не дазор... – занепакоена сказаў Ананьеў.

– Дазор бліжэй быў, – пацвердзіў Грыневіч. Яны памаўчалі, услухоўваючыся, і Ананьеў з прыкрасцю вылаяўся.

– Якога ж хрэна тады ён маўчыць? Мо сігналы праваронілі?

– Не. За сігналамі я сам сачыў, – упэўнена аб’явіў Ванін і звыкла паварушыў тугімі плячыма пад мокрай ватоўкай.

– Разгільдзяі! – нерваваўся камроты. – Сядзяць і маўчаць! Гэта ж трэба, ядрона вош. Ану, бяры чалавека і дуй сам, – загадаў старшы лейтэнант Ваніну. Той хуценька павярнуўся да строю.

– Крывашыяў!

– Я.

– За мной!

Трошкі ўгнуўшыся, яны прачвякалі па слэчы падэшвамі і зніклі ў шэрых прыцемках.

– Піліпенка, сачы за дарогай. А то, калі што – душу вытрасу. Паняў? – пагрозлівым шэптам аб’явіў Ананьеў.

– Паняв. Шчо тут нэ паняты, – тонам задарма пакрыўджанага адказаў Піліпенка. – Тількі як побачыш: ні бісового батька нэ выдна.

– Без адгаворак мне!

Нейкі час мы ўсе маўчалі, напружваючы слых. Углядацца пад вецер было дужа кепска, снегам хутка заляпляла твар, увесь час карцела ўгнуць голаў і адвярнуцца. Злубянелыя палаткі страшэнна шархацелі ў цемры. У мокрых ботах пачалі мерзнуць ногі. Раптам у тым баку, куды ішла дарога, зноў засвяціла ракета,

праўда, на гэты раз намнога далей, і Ананьеў напаўголаса вылаяўся.

– Ану, пайшлі!

Ён імкліва рушыў у змрок, за ім адразу падаўся Грыневіч, трохі запазніўшыся – я. На хаду ўжо я зняў з-за спіны аўтамат і накінуў яго на плячо паверх палаткі. Піліпенка застаўся з ротай.

Хуткім крокам мы ўтрох пашыбавалі сярод дарогі. Па некрутым пагорку дарога кіравала ўніз. Чым далей мы адыходзілі ад роты, тым рабілася ўсё болей ніякавата, усведамленне адарванасці ад сваіх усё мацней ахоплівала нас у гэтай цемрадзі. Я ўжо думаў, што мы павінны спыніцца, як насустрач з прыцемак з’явілася невялічкая постаць у аблепленым снегам бушлаце. Не аклікаючы, мы пазналі аўтаматчыка Шапу з дазору. Ананьеў замарудзіў крок, Шапа падбег і спыніўся насупраць. Ён ледзьве перадыхваў.

– Ну? – не ўтрымаў камроты.

– Немцы, таварыш старшы лейтэнант

– О, навіна! Дзе Ванін?

– Ён там, – паказаў Шапа ў цемру– Сочаць. Немцы за логам на ўзгорку капаюць.

– Што капаюць?

– А ліха іх ведае. Абарону, мусіць.

– На ўзгорку?

– Ну.

– А вёска далёка?

– Якая вёска?

– Ну, гэта... Як яе...

– Рудакі, – падказаў Грыневіч.

– Не, вёскі не бачылі. Во тут унізе рэчка. Але неглыбокая. Перайсці можна. А далей узгорак, а на ўзгорку капаюць, – прыцішана, з прыкметнай шапялявасцю ад таго што ў яго выбіты спераду зуб, гаварыў Шапа.

Мы паглядзелі ў змрок, паслухалі. Аднак усюды было ціха – ні стрэлаў, ні ракет, адно па мокрых палатках дробна лапацеў дождж. Побач чулася змаранае дыханне Шапы. Тады Ананьеў аднекуль з-пад накідкі выцягнуў карту.

– Ану, захіні...

Ён прысеў у доле спіной да лагчыны, абхінуўся палаткай да яго схіліўся Грыневіч. Паверх іхніх галоў я накінуў яшчэ палу сваёй трохкуткі, і Ананьеў бліснуў слабаю плямкай з ліхтарыка. Праз шчыліну ля іх пляча мне сталі відаць іх рукі і краёчак карты. Карта была старая, страпаная, надрукаваная адной чорнай фарбай. Сапучы ад нязручнасці, камандзір роты пачаў разбірацца ў яе блытаных крывульках.

– Тут, здаецца, дарога? Ага?

– Якая дарога – то гарызанталь, – глухавата папраўляў яго нампаліт. – Во, глядіце, Рудакі. А далей на схіле павінна быць дарога. Во яна!

– Да? А гэта што? Ну-ка прачытай. А то язык зламаеш...

– Гэта рака. Во: «Флюс Све-тли-ца». Рака Святліца. Так, мусіць. Да яе мы яшчэ не дайшлі.

– Значыць, мы тут? Ага?

– Мабыць, так. Пагорак, дарога. Ну а мы – прыблізна от тут...

Ананьеў павёў светлым пятаком далей, вялікім пальцам выраўняў зморшчыны на паперы.

– Тады, мусіць, насупраць вышыня 117,0? Так?

– Мабыць, так.

– Нішто сабе ўзгорачак, ядрона вош! Гэ! – раптам узрадавана гукнуў камандзір роты. – Ды за ім жа станцыя?

– Ну, – пацвердзіў Грыневіч.

Сапраўды, на згібе аркуша прабягала тоўстая лінія чыгункі з характэрным кубікам станцыі на краі. Ад яе да вышыні было зусім блізка, і я падумаў тады, што гэтае станцыі нам не мінуць. Тут ужо як ні хітруй, а да станцыі выйдзеш, і пачнецца калатнеча – не дай бог. Не так даўно, у лютым, адна такая маленькая станцыя кашта-вала палку ледзьве не трох тыдняў баёў і васьмі брацкіх магіл.

У Ананьева, аднак, гэта выклікала зусім іншую рэакцыю.

– Ось яно што! А то надоечы Сырамятнікаў: «Станцыя, станцыя!» А я не ўцямлю, дзе гэтая станцыя! – падабрэла казаў ён. – Ось бы захапіць!

– Яшчэ што! – буркнуў Грыневіч.

Старшы лейтэнант выключыў ліхтарык. Яны абое ўсталі. Раптам Грыневіч трывожна ўскінуў галаў: стала чуваць, як нехта бег па дарозе знізу. Ананьеў таропка сунуў за пазуху карту і ступіў тры крокі наперад, я зняў з пляча аўтамат. Неўзабаве зусім побач з цемры вынікла постаць байца. Убачыўшы сваіх, ён з бегу перайшоў на цяжкі таропкі крок.

– Ты, Крывашыяў? – ціха гукнуў Ананьеў. Крывашыяў яшчэ зводдаль усхваляваным шэптам загаманіў:

– Таварыш старшы лейтэнант, трэба ўдарыць! Капаюць на гары, аховы з гэтага боку няма ніякай. Мы іх голымі рукамі, як куранят, возьмем. Ванін кажа: толькі хутчэй!

Ён выпаліў усё гэта, ажыўлена тыцкаючы ў цемру рукой, з такім шчаслівым выглядам, нібы тое, што яны там убачылі, было для ўсіх найвялікшаю радасцю. І як

ні дзіўна, гэтае пачуццё рызыковае ўзнёсласці ўраз перадалося камандзіру роты – той адразу напружыўся, напяўся і крутануўся да нампаліта.

– Ударым!

– Можа, спачатку разведаць? – без жаднага ўздыму сказаў Грыневіч, старожка ўзіраючыся ў ноч.

– Тожа скажаш: разведаць! Напалохаеш толькі. А то – пакуль ціха...

– Ага, пакуль ахранення не выставілі, – падхапіў Крывашыяў.

– А ракеты нічога не свецяць: снег з дажджом забівае.

Мы падпаўзлі да самай траншэі – відаць, як зямлю выкідваюць, – ад узбуджанасці дрыготкім голасам даводзіў дазорны.

Ананьеў, здаецца, не слухаў: яго самога ўжо ахапіла відавочнае нецярпенне – як заўжды, прадчуванне баявой удачы выцясняла з свядомасці ўсе іншыя меркаванні.

Грыневіч, аднак, па-ранейшаму заставаўся стрыманы і нерухома стаяў збоч, уцяўшы голаў у плечы. Нібы ўслухоўваючыся ў бязладныя парывы ветру, ён з паўзамі зазначыў:

– А суседзі? Трэці батальён вунь дзе. І з другім разрыў у два кіламетры.

– Падцягнуцца ўначы твае суседзі. Не дзе дзенуцца...

Грыневіч памаўчаў.

– Ну, хай – падцягнуцца. А патронаў у нас хопіць? Дапусцім, саб’ем. А ўтрымаем?

Сапраўды, патронаў магло не хапіць, іх у нас было надта ж небагата, і гэта з відавочнаю абгрунтаванасцю пляжыла такі зманлівы намер ротнага. Ананьеў на

секунду застыў, нешта прыкінуў, і мне здалося – зараз загадае разгортваць узводы ў абарону. І сапраўды, ён павярнуўся тварам у тыл, паслухаў, зноў зірнуў у бок нябачнае вышыні і, з канчатковасцю прынятага рашэння, махнуў кулаком.

– А, была – не была!.. Рубанём – пабачым! Васюкоў, дуй за ротай!

Грыневіч маўчаў: пярэчыць у такіх выпадках было бескарысна.

**4**

Праз дзесяць хвілін я прывёў роту. Паўсотні аўтаматчыкаў са слабым ляскатам збеглі з пагорка. Нейкі час па ўзбочыне шыбавала Пулька, але хтось у касцы выскачыў з калоны і схапіў сабачанё, мусіць, каб лішні раз не трапляла на вочы начальству. Не паспелі, аднак, мы наблізіцца да камандзіраў, як Ананьеў скамандаваў:

– За мной марш!

То хуткім крокам, то подбегам рота пашыбавала ўніз. Цяпер яна падцягнулася, сабралася ў адну купку, і зноў, нібы не было ні атак, ні страт, ні розных малых і вялікіх бядот, стала згоднай, чулай, пакорнай камандзірскай волі істотай. Яна была лепшай ротай у палку, і камандзір яе з нампалітам былі найлепшымі сярод ротных. Перад наступленнем сам генерал на мітынгу ставіў роту ў прыклад іншым. Васемнаццаць нашых аўтаматчыкаў атрымалі тады ўзнагароды, у тым ліку і я – медаль «За адвагу». Як і многія, я адчуваў у сабе ў той час ціхі і светлы гонар за свой такі ўдачлівы вайсковы лёс. Зрэшты, я заўжды быў задаволены тым, што давялося трапіць у такое падраздзяленне, да такога камандзіра, якім быў Ананьеў. Часам, праўда, гэта адчуванне слабела, часам знікала зусім, але вось у такія моманты, калі рота пачынала жыць адной мэтай, яно рабілася выразным і хвалявала. Стома, што нядаўна яшчэ атупляла, цяпер міналася, маўклівае трывожнае

імкненне надавала сілы і рашучасці. Ніхто не пытаўся, што здарылася, куды бяжым, усе і без таго адчувалі, што неўзабаве штось праясніцца. І мы гатовы былі да ўсяго – перажыванняў, трывог і страт, абы толькі ў канцы была ўдача.

Ананьеў з Грыневічам і двума дазорнымі беглі наперадзе. Шапа маўчаў, а Крывашыяў узбуджаным шэптам даводзіў:

– Мы ім збоку зойдзем. Яны ўправа развярнуліся, а мы з фланга. Далібог! Так улеглі ў работу – ні чорта не бачаць. Турнём, што і не пікнуць!

– Ладна... – стомлена абарваў яго Ананьеў. – Памаўчы пакуль.

На бягу азіраючыся, камандзір распарадзіўся:

– За рэчкаю – у ланцуг! Камісар – з Піліпенкам, я – з Ваніным. І – бягом!

– Ясна.

Стойваючы дыханне, рота збегла ў нізінку. Дождж быццам пераставаў, сняжынкі ж пасыпаліся гусцей. Стала трохі відней: абапал цёмнай ад гразі дарогі туліліся сівыя, у мокрых плямах палеткі. Ананьеў увесь час пазіраў наперад, ды і Грыневіч таксама – трывожыла думка: а раптам засвецяць ракету. Нам трэба было яшчэ хвілін дзесяць-пятнаццаць. Галоўнае, каб перабрацца цераз ручай, які ўжо вірыў побач з дарожным насыпам, поўны чорнай вады.

Неўзабаве мы ўбачылі перад сабой і масток. Зрэшты, гэта быў не масток, а хутчэй тое, што ад яго засталося: высакавата над вадой ляжалі тры мокрыя палкі-бэлькі, па якіх трэба было перайсці роце. Адразу ж на тым баку аднекуль з’явілася двое – адзін у плашч-палатцы, другі ў знаёмай, падпяразанай рамянямі ватоўцы; у ім няцяжка было пазнаць Ваніна. Малодшы лейтэнант спрытна перабег па бервяне на гэты бок да Ананьева.

– Капаюць! Давайце хутчэй!

На хвіліну яны спыніліся, напаўголаса абмяняліся некалькімі фразамі, затым камроты імкліва падаўся на мост.

– Пойдзеш накіроўваючым, – падштурхнуў ён Ваніна і сам ступіў на бэльку.

Не спыняючыся, яны даволі ўпэўнена перайшлі на той бок, за імі перабег Крывашыяў, пасля, зацяўшы ў сабе страх ад магчымасці апынуцца ў ледзяным віры, перабраўся я. Грыневіч сышоў уніз і пачаў спрабаваць ботам бераг, каб перайсці ўброд; некалькі байцоў падаліся з насыпу за ім. Ананьеў жа стаў ля мастка і жэстамі прыспешваў хлопцаў. Аўтаматчыкі па адным, не вельмі, праўда, рашуча, перабягалі па двух бярвеннях, бо трэцяе было танчэйшае і не надта для таго зручнае. Мы з Ваніным хвіліну страхавалі хлопцаў у канцы іх не дужа бяспечнага шляху. Некаторыя, аднак, – тыя, што меней смелыя або не надта спрытныя, – лезлі ў ваду і следам за Грыневічам пераходзілі ручаіну ўброд.

– Хутка, хутка! – ціха падганяў Ананьеў. – І ў ланцуг.

Байцы, знімаючы на хаду аўтаматы, разбягаліся ўшыркі, ланцуг звыкла выстройваўся на касагоры. На тым беразе заставалася ўжо нямнога, і тады, не чакаючы іх, мы ад моста падаліся да роты.

Дарога павярнула кудысь управа, пад нагамі раптам заквякаў раскіслы, узараны пад зябліва палетак, у ім па шчыкалаткі загрузалі нашы боты. Нехта паціху вылаяўся. Ванін кінуўся ўбок, на сушэйшае, за ім скіравалі іншыя, але край ланцуга зблытаўся, усе збіліся ў кучу, і Ананьеў замахаў рукой, адганяючы байцоў далей. Яго, аднак, не дужа разумелі ў гэтай прамозглай цемры. Тады Ванін, амаль штурхаючы кожнага, трохі расцягнуў узвод управа і бягом вярнуўся да ротнага. Як ні дзіўна, мне з імі двума было амаль спакойна: думалася, калі яны тут, дык благога не будзе. Да таго ж, я міжвольна любаваўся Ваніным, ягонаю вытрымкай і асабліва спрытам, у глыбіні душы хацеў бы стаць такім, як гэты камандзір узвода, які, зрэшты, быў

не намнога старэйшы за мяне.

Было яшчэ што-колечы бачна, снег на траве не таяў. Схіл усё падымаўся ўгору, мусіць, недалёка была вяршыня, але прыцемкі ўсё ж хавалі яе. Вецер паранейшаму нёс рэдкае ахлоп’е снегу, дажджу не было, хоць ад таго не стала сушэй.

Урэшце Ванін, які бег крышку ўбаку і наперадзе ад нас з ротным, у цішыні шчоўкнуў затворам аўтамата. Ананьеў дастаў з-за накідкі свой «вальтэр». Я таксама зручней перахапіў ППШ – падсвядомае адчуванне сведчыла: неўзабаве пачнецца.

Пэўна, ужо ўся рота як-колечы разышлася ў няроўны блытаны ланцуг. Праўда, той яе фланг нябачна знікаў у прыцемку, а на гэтым аўтаматчыкі зноў збіліся ў густаваты для атакі шэраг. Схіл між тым патроху выроўніваўся, бегчы стала лягчэй, але наперадзе ў шэрым заснежаным паўзмроку ўгадвалася новая круцізна, і там жа нешта чарнела – хмыззё або зноў ворыва. Магчыма, аднак, там былі немцы. Каб у такі час не аказацца за спіной у Ананьева, я трошкі аббег яго і пайшоў амаль поруч. Ён адразу заўважыў тое і раптам крута падаўся бліжэй.

– Гранаты ёсць?

У кішэнях у мяне заўсёды былі дзве «лімонкі», якія я бярог на крайні выпадак. Цяпер я мусіў дастаць адну, і камандзір роты амаль выхапіў яе з маіх рук.

Тады ўпершыню спераду данёсся чужы, трывожлівы гук. Было падобна, быццам нехта пастукаў дрэвам па дрэве – можа, насаджваў на чаранок рыдлёўку або збіваў з яе гразь. Ананьеў на секунду спыніўся, але зноў шырока засігаў па мокрай, аснежанай траве.

Так мы падбеглі да самай крутой мясціны і, хапаючыся за галлё нейкіх кусцікаў, бокам, каб не паслізнуцца, нязграбна палезлі ўгору, нехта ўсё ж паслізнуўся, упаў, але тут жа вёртка падхапіўся. Ванін, тонкі і спрытны ў сваёй ватоўцы, некалькі разоў узмахнуўшы рукамі,

хуценька ўзбег на пагорак. Мы з Ананьевым трохі запазніліся і адсталі ад узводнага крокаў на дзесяць. Я стараўся як мог, але ледзьве паспяваў за камроты: у баі той таксама паказваў проста дзіўную для яго няўклюднага цела рухавасць.

На самай броўцы я, на няшчасце, таксама паслізнуўся і ўпаў. Добра, аўтамат быў на шыі і не загрымеў уначы, каска таксама затрымалася на галаве, а то б быць бядзе. Ананьеў ужо выскачыў на роўнае, папраўляючы каску, я таксама вытыркнуўся з-пад абрыву і тут жа прысеў, адчуўшы няладнае.

Наперадзе не болей чым у дваццаці кроках была траншэя.

Пэўна, мы натрапілі на яе самы фланговы канец. Раскапаная зямля выразна чарнела ў шаравата-заснежаным доле. Мяркуючы па невысокім, шырока раскіданым брустверы, траншэя была яшчэ мелкая, толькі пачатая. Чорная яе крывуліна кінулася ў вочы з першага ж позірку. Там, у ёй, варухнулася нешта жывое. Жывое гэта раптам прыпыніла свій рух і замерла. У наступнае імгненне стала зразумела, што гэта – немец і што ён ужо ўбачыў нас, але не мяне і, мабыць, не Ананьева, а некага, хто ўжо апынуўся побач з траншэяй. Немец, прыгорблены, з рыдлёўкай зямлі ў руках, змярцвеў на імгненне, затым глуха ўскрыкнуў. У той жа час да яго цераз бруствер спружыніста матлянуўся хтосьці з нашых (я не адразу зразумеў, што гэта Ванін), коратка ткнуў немца, і той хіснуўся на спіну, знік у траншэі. Ванін прапаў разам з ім, некалькі пакутліва доўгіх імгненняў не было відаць яго, аж потым у баку за брустверам слізганула ў змроку прыгнутая постаць з малаю пехацінскай лапаткай у руках.

Мы з Ананьевым шырокімі скачкамі кінуліся да траншэі. Але мы яшчэ не паспелі дабегчы да яе, як зводдаль хлёстка шчоўкнула ў цішы, і прыцьмелую высь над полем з шыпучым трэскам прарэзаў агняны хвост асвятляльнай ракеты. Яна распусцілася крышачку ў баку ад вышыні, неба навокал шырока запалілася

сцюдзёным, ліхаманкава дрыготкім святлом. Аслепленыя яе прарэзліваю яркасцю, мы ўсё ж згледзелі, як у загінастай зяпе траншэі сям-там знерухомелі постаці немцаў. І тады недзе побач з пругкім пранозлівым трэскам ударыў аўтамат.

Мільготкае святло зверху трывожна хіснулася ўніз, мноства выгінастых даўжэзных ценяў шаснула па зямлі ўбок. Стараючыся не згубіць Ананьева, я следам за ім сунуўся ў траншэю. Пад ногі трапілася нешта незразумела мяккае, з гідлівасцю і страхам я сігануў далей, штурхнуўся ў прыцемках аб камандзіра роты. Ананьеў стрэліў. Прысеў, ды раптам дужа тузануўся правым бокам угору – кінуў гранату. Не чакаючы выбуху, я памкнуўся наперад, але камроты дужым рыўком за палатку асадзіў мяне ўніз, у цеснату траншэі. Недзе побач ля самае галавы паветра прапарола чарга: я гэта адчуў нейкай надзвычай абвостранай часцінкай пачуцця, якая, мабыць, адна і кіравала ў баі. У той жа час зусім блізка за бруствeрам люта грымнула, зямля, пыл і трацілавы смурод горача пыхнулі ў твар.

– Упярод! – крыкнуў Ананьеў. – Гранатамі – агонь!

Сквозь на вышыні горсткім трэскатам зайшліся аўтаматы, у паветры знаёма дзігалі чэргі. Хто і адкуль страляў, было не разабраць. Грымнулі адзін, два разам, тры і чатыры выбухі, – мусіць, гэта нашы пачалі біць гранатамі. Ананьеў прыўзняўся ў мелкаватай яшчэ, па грудзі, траншэі, азірнуўся і зноў закрычаў:

– Упярод, такой тваёй матары! Наша бярэ! Упярод!

Натыкаючыся на павароты траншэі, чапляючы плячыма сцены, мы некалькі дзесяткаў метраў беглі яе хадамі. Нехта тупацеў папераду, не зразумець было – свой ці немец. Але вось зблізку ў траншэі стрэлілі – з цемры амаль ва ўпор востра бліснула чырвоным агнём. Ананьеў пругка ўтнуўся, нібы права-ліўся: я аж спалохаўся за яго і цераз галаў камроты наўздагад стрыкнуў туды з аўтамата. На шчасце, ён тут жа ўскочыў, і якраз у час. Нешта вялікае матлянулася непадалёк цераз бруствер, ротны торапка ткнуў у той

бок пісталетам. Я, аднак, не чуў яго стрэлу – сам дрыготкімі ад хвалявання рукамі ўскінуў па-над бруствeрам аўтамат і даў наўздагон траскотную, мусіць, занадта доўгую чаргу. Затым яшчэ нехта скочыў з траншэі ў поле, нехта другі на бягу перамахнуў бруствер. У змроку і там і тут бліскалі чырвоныя і белыя пыхаўкі стрэлаў. Кулі нізалі паветра ва ўсіх напрамках, ваўсю ішоў бой, але падобна было – немцы ўцякалі.

Тады мы спынілі свой сляпы бег у траншэі, каленямі скочылі на мяккія глыжы бруствера. Перш чым пусціцца далей, я азірнуўся: уздоўж траншэі за намі, прыгнуўшыся, бегла двое. З кароткіх супынак яны дзігалі чэргамі міма нашых галоў у паўзмрок, дзе наўкось ад траншэі з усіх ног ратаваўся хтось у даўгаполым расхрыстаным шынялі. Мне ён быў бліжэй. Ускочыўшы, я таропка і кораценька стрэліў. Той упаў на калена, і тут жа з-пад яго рук востра бліснула ў наш бок. Ананьеў выкінуў наперад руку з пісталетам, аднак стрэлу не атрымалася: мусіць, штось сталася з яго «вальтэрам». Камроты апантана закрычаў мне: «Васюкоў, бі!», а сам, угнуўшыся, аберуч схапіўся за зброю. Прыпыніўшыся, я зноў тыркнуў кароценькай чаргой, ды, мабыць, міма: немец крутануўся, ускочыў і імкліва пусціўся ў паўзмрок. Ананьеў разлютавана лаяўся. Скрозь пырскат чэрг я выразна чуў гэтую яго лаянку, аднак у мяне таксама заела аўтамат – стрэлаў не было.

Я кляў сябе за той промах, але затвор толькі дарма лязгаў: мусіць – апаражнеў дыск. (І трэба ж здарыцца такому ў самы крытычны момант!) Прыпаўшы на калена, я выхапіў дыск з аўтамата і сунуў за пазуху. Я не паспеў яшчэ перазарадзіць, як Ананьеў рынуўся наперад проста на немца. Тады і я ўскочыў. Адной рукой я стараўся расшпіліць сумку з магазінамі і не спускаў позірку з ротнага. Той нешта крычаў. Немец яшчэ раз грымнуў таропкім вінтовачным стрэлам, аднак прамахнуўся і, прыгнуўшыся, кінуўся ў цемру. Вінтоўка яго чамусь засталася на доле. Ананьеў тут жа падхапіў яе і, шырока размахнуўшыся, шпурнуў немцу пад ногі. Немец спатыкнуўся, ледзьве не паляцеў тварам у гразь,

але ўтрымаўся і азірнуўся. Мабыць, убачыўшы аднаго даганятага, ён раптам зрабіў выпад насустрач, гатовы кінуцца на камандзіра роты.

Але тут паспеў я.

Вобмацкам запхнуўшы ў аўтамат новы дыск, я ва ўпор даў па ім доўгую агняную ў цемры чаргу. Немец прутка выгнуўся і разам асеў. Я ўзрадавана кінуўся далей, але тут жа выразна сцяміў, што паспяшаўся. Мы зарваліся. Паблізу у прыцемках мільганула некалькі постацей, адначасна ў трох кроках ад мяне штось імкліва ляпнула вобзем. Я не ўбачыў, што гэта было, я адчуў толькі ўдар, тут жа ў твар пляснула гразёй, і тады я зразумеў: граната! Яна падскочыла і матлянулася дзесь пад самыя мае ногі. З незвычайнай выразнасцю, як гэта бывае толькі за імгненне да пагібелі, я адчуў: канец. Спалох штурхануў мяне ад гэтага месца, ды так апантана, што ногі не ўтрымалі гэтага выратоўчага штуршка, і я цераз голаў пакаціўся па мокрай зямлі.

Выбуху я чамусь не пачуў, – адчуў толькі, як люта дзеранула на спіне палатку і нібы зубілам звонка дзёўбнула ў каску, адно вуха адразу аглухла, шчака здранцвела, на нейкі час я перастаў адчуваць сябе і, калі падбег Ананьеў, як дурань, не мог зразумець, што здарылася і што яму ад мяне трэба. Пакуль я няўцямна курчыўся на зямлі, камроты тузаў мяне за палатку, затым нешта пракрычаў у твар – я адчуў толькі яго зморанае гарачае дыханне. Тут жа сам паспрабаваў узгрэбціся на калені і застагнаў ад пякучага болю ў плячы.

Ананьеў ускочыў, некуды пабег у цемру, затым зноў апынуўся побач, камусь замахаў рукой. І раптам, нібы вынырнуўшы з-пад вады, я пачуў яго незразумела чужы і дужа далёкі голас:

– Стой! Рота, стой! Назад! У траншэю назад!

Тады я нібы ачнуўся ад гарачай задухі, зразумеў, што жывы, і пачаў марудна ўставаць на ногі. Плячо пякотка мярцвела, рука аблівалася чымсьці гарачым, з рукава

хуценька і часта закапала ў мокры дол.

**5**

Я чуў, як камандзір роты некага паклікаў, той неўзабаве падбег да мяне, падняў з долу аўтамат, паправіў на галаве каску. У гэты час я ўжо ўстаў і зрабіў са два крокі. Ногі мае былі цэлыя. Рану на плячы я сціснуў здаровай рукой, але з Рукава ўсё капала – штораз то болей. Баец падхапіў мяне пад паху здаровай рукі. – Пастой, Васюкоў, перавязаць трэба. Чуў я, здаецца, толькі адным вухам і па голасе пазнаў яго – то быў Лутохін з узвода Піліпенкі. Але я не хацеў тут спыняцца, – непадалёк усё яшчэ трашчалі аўтаматы, і ўгары ва ўсіх кірунках дзігалі кулі, Ананьеў прапаў недзе, мусіць, з узводам Ваніна пабег далей, на другі схіл вышыні. Частка роты, аднак, асела тут, у траншэі, я трохі чуў галасы і ішоў туды. Лутохін зважліва падтрымліваў мяне. Вецер насіў у паветры мокрыя сняжынкі.

Мы саскочылі ў гразкую траншэю, у якрй ужо гаспадарылі аўтаматчыкі, трое ці болей з іх выкідвалі прэч забітага немца, але, мусіць, не дабралі сілы і ніяк не маглі ўзваліць яго здаравеннае цела на бруствер. Тады адзін вылез з траншэі, і з яго дапамогай байцы як-колечы ўзвалаклі забітага наверх. Цягнуць яго далей у іх не было ахвоты.

– Хай пруцянее. Усё ад куль укрыцце.

Баец прысеў над забітым і пачаў дзелавіта абмацваць яго кішэні, іншыя гідліва выцерлі аб шынялі далоні і далі прайсці нам. Нехта, пазнаўшы мяне, пацікавіўся:

– Што, накалолі, Васюкоў?

– Накалолі, – замест мяне адказаў Лутохін. – Не бачылі, дзе Цвяткоў?

– А хто яго... Пад гарой, мусіць.

– Ззаду, ведама, чаго яму тут быць?

Лутохін клапатліва зняў з мяне рэшткі пашкуматанай выбухам палаткі, неяк адчапіў лямкі рэчавага мяшка, таксама пасечанага асколкамі. Хістаючыся, я прайшоў яшчэ некалькі крокаў па свежавыкапанай траншэі і на паваротцы сутыкнуўся з старшыной Піліпенкам. Шорхаючы аб вохкія сцены палаткай і аддаючы каманды, той шыбаваў па траншэі. Згледзеўшы мяне, закрычаў:

– Ты куды? Ану, гэць на месцэ! – і спахапіўся: – Цэ хто?

– Гэта я, – стараючыся заставацца спакойным, сказаў я. – Дзе Цвяткоў, не бачылі?

– Васюкоў? – здзівіўся старшына. – А дэ ж камандзір роты?

– Там, – кіўнуў я ў бок, дзе ўсё яшчэ патрэсквалі чэргі.

– Тэбэ параніло? Ага? А цэ хто? Лутохін? – пазнаў Піліпенка. – Вас тэ ж параніло?

– Ён памагае, – сказаў я.

– Ніякіх памагатых! – адрэзаў Піліпенка. – Па ўставу забаронэно. Шагам марш, Лутохін. Далажыць камандзіру аддзялення.

Глядзі ты, якая строгасць, раздражнёна падумаў я. Перад камандзірам роты ён маўклівы няўклюда, а тут – такая непрыступнасць! Піліпенка, аднак, узяў у байца мой аўтамат, і Лутохін паныла паплёўся па траншэі да свайго аддзялення.

– Пішлы. Цвіткоў бліндаж асвоюе, – сказаў Піліпенка. – Такый гарный бліндаж...

Старшына павярнуўся і, па-ранейшаму дзеручы палаткай сцены траншэі, вузкаватай для яго шырокага цела, напорыста рушыў кудысьці ў змрок.

Мы прайшлі, мабыць, метраў дзвесце. Траншэя, віляючы ў бакі, цягнулася па ўсёй вышыні – ад схілу да схілу. Месцамі яна была зусім мелкай – да пояса і нават

да калень, у дне валяліся кінутыя немцамі рыдлёўкі, утаптаныя ў гразь палаткі. Там і сям аўтаматчыкі з узвода Піліпенкі таропка дзяўблі яе тыльную сцяну – уразалі стралковыя ячэйкі. Скіраваныя ў другі бок, нямецкія цяпер былі без патрэбы. Піліпенка па-начальніцку пакрыкваў:

– Швыдэнька, парубкі! Удараць міны – траншэя мамачкай будэ.

Ён ужо рыхтаваўся да абароны. Вядома, немцы маглі ўдарыць, але на тым флянзе ў Ваніна яшчэ ішла перастрэлка. Ці не варта было б памагчы? Праўда, камандзір роты, здаецца, аб тым не загадваў, а Піліпенка без загаду не меў завядзёнкі залішне выпінацца наперад.

Цвяткова мы знайшлі ля ўвахода ў бліндаж, які ён завешваў палаткай.

Піліпенка гукнуў:

– Цвіткоў!

– Ну...

– Ось параніты.

– Хто? – затыкаючы ўгары канцы палаткі, абыякава запытаў Цвяткоў. Я азваўся. На санінструктара маё раненне, аднак, не зрабіла ніякага ўражання.

– Чакай. Зараз закончу – паглядзім.

– Багато ранэных? – запытаў старшына.

– Ерунда, тры чалавекі, Не лічачы Крывашыява.

– А што Крывашыяў?

– Гатоў – што? Перавязаў – толькі бінты папсаваў.

– Крывашыяў? – чагось не мог даўмецца Піліпенка.

– Ну. Чаго здзівіўся? Хіба ён ад куль заварожаны.

– Так він жэ так ірвався сюды! – прастадушна сказаў Піліпенка. – Турнэм, кажэ.

– Вось і турнулі. Сем куль у грудзі – не жартачкі. Ну, заходзьце...

– Зараза! – сказаў старшына і, раптам павярнуўшыся, сутка пашыбаваў назад да свайго ўзвода.

Я падлез пад палатку і апынуўся ў суцэльнай сырой цемры. Моцна смярдзела порахам, паленым рыззём, яшчэ нечым – чужым і агідным. Пад нагамі трапілася нейкая адзежына, я адкінуў яе нагой з праходу. За мной у бліндаж сунуўся Цвяткоў.

– Не можа да забітых прывыкнуць. Ведама ж, у АХЧ забітых не было. Але тут яму не АХЧ.

Цвяткоў меў на ўвазе нядаўнюю тылавую службу Піліпенкі і, мусіць, выклікаў мяне на размову пра старшыну, але я прамаўчаў. Дужа балела плячо, на боты з рукава капала кроў, і я проста губляў трыванне: калі ж ён дабярэцца да мяне, гэты памочнік смерці? Цвяткоў між тым засвяціў запалку, агледзеўся. Пасля запаліў другую. Земляныя сцены ў бліндажы былі сырыя і голыя, ля ўвахода абрушыўся пласт глею і засыпаў кут. Насупраць ля сцяны валяўся нямецкі шынель, некалькі скамечаных коўдраў; раскіданыя карты свежымі плямамі бялелі на зямлі. Па другі бок ад увахода ляжала напаўразбітая выбухам жоўтая скрынка ад боепрыпасаў – відаць, хтось з нашых сунуў сюды гранату. Над скрынкаю ў сцяне, аднак, аказалася зграбная маленькая палічка, на якую ў зямлянках звычайна ставяць свяцільнік. Цвяткоў з запалкаю ў руках нахіліўся, пашукаў і сапраўды знайшоў у доле скінутую выбухам плошку. Здзьмухнуўшы пясок, ён запаліў яе, і змрок у бліндажы трошкі рассеяўся.

Санінструктар аб чымсь запытаў, але я недачуў, бо стаяў да яго глухім вухам.

– Аглух, ці што? – крыкнуў ён дужэй. – Куды цябе?

– Ды во – у плячо.

– Сядай.

Я паслухмяна сеў на край скрынкі. Цвяткоў скінуў з сябе мокрую, страшэнна шархоткую палатку і дастаў з ножнаў на дзязе разведчыцкі нож.

– Ты што – рэзаць?

– А што ж яшчэ?

– Здзену як-небудзь.

Не без яго дапамогі я распеbecause разаўся, зняў сумку з магазінамі, палявушку-кірзоўку і аднаруч расшпіліў свой зялёны англійскі шынель. Але потым стала так балюча, што аж памутнела ўваччу, і я думаў – сканаю, пакуль ён здзёр з мяне гэты мокры, у некалькіх месцах прабіты шынэлак. Рукаў гімнасцёркі быў рассечаны асколкам ніжэй ад пагона і скрываўлены аж да манжэты. Тут ужо я не рызыкаваў пярэчыць, і Цвяткоў спрактыкавана распаласаваў яго зверху данізу. Я толькі адвярнуў галаў.

– Так, так, – няпэўна сказаў ён, мацаючы рану. – Касацельнае асколачнае. Два тыдні санбату.

Толькі ўсяго! Гэтае вызначэнне здалося мне занадта аптымістычным. Праўда, я ведаў, што медыкі заўжды суцяшаюць параненых, нават і тады, калі тыя дыхаюць на ладан. Аднак цяпер, здаецца, Цвяткоў не хітрыў – у мяне ж увесь час было такое ўражанне, што рука прапала.

– А косць як? Цэлая?

– Абсалютна, Васюкоў.

Цвяткоў, прыслухоўваючыся да гукаў наверсе, дастаў з

шырокі скрутак бінту і туга абматаў мне плячо. Затым ватай збольшага выцер кроў на руцэ і прыладзіў для яе почапку на шыю.

– Не раненне, а ўкус камара. Першы раз?

– Першы, – сказаў я.

– Гэта, можна сказаць, пуцёўка на адпачынак. Гарантыя на два тыдні жыцця.

Я, аднак, не адчуваў ад гэтай гарантыі вялікае радасці – рана балела ўсё болей, нешта нядобрае, узрушана-трывожлівае тачыла маё адчуванне. Па даўняй франтавой звычцы нейкая частка маёй увагі ўвесь час была звернута на тое, што чулася зверху, аслабелы слых лавіў кожны гук адтуль, ад немцаў. Чэргі на тым схіле, здаецца, прыціхалі, бой змаўкаў. З траншэі сюды часам прарываліся стрыманыя галасы аўтаматчыкаў, пранікаў сцішаны шоргат рыдлёвак. І раптам між іх пачуўся кароценькі сабачы віск. Цвяткоў, які ўжо збіраў у сумку сваё медыцынскае начынне, здзіўлена варухнуў брывамі.

– Глядзі, і Пулька тут!

Калі тут Пулька, падумаў я, значыцца, недзе паблізу павінен быць і Ванін, якога я так і не бачыў пасля ягонага адчайнага скачка ў траншэю. Неўзабаве, аднак, Пулька гаўкнула бліжай, пачуўся бас Піліпенкі, і на ўваходзе зашэрхала палатка.

Здалося, неслі параненага. Нехта там нязграбна затупаў, у шчыліну ля краю адхінутай палаткі працягнуліся рукі, якімі чалавек неяк дужа няўпэўнена намацаў сцяну-апору. Затым пад палатку сунулася прыгнутая галава, плечы, і мы абое з Цвятковым аж здрыгануліся – у бліндаж лез немец. Праўда, следам за ім ішоў Ванін, я адразу пазнаў яго крутаплечую, у ватоўцы, апяразаную рамянямі постаць. Між іхніх ног шмыганула Пулька. У бліндажы яна павярнулася да немца і некалькі разоў пагрозліва на яго гаўкнула.

Увайшоўшы, немец прыпыніўся, трымаючыся рукой за сцяну і з нейкім здурнелым выразам у вачах коратка зірнуў на нас. Левая напаўсагнутая ў калене, разутая яго нага была, відаць па ўсім, параненая.

– Куды б яго тут? – азіраючы бліндаж, запытаў Ванін. – Во давай на шмуткі. Садзіся, фрыц! Біттэ!

Перабіраючы па сцяне рукамі, немец разы два скокнуў на адной назе і цяжка плюхнуўся задам на шмуткі-коўдры. Затым ён нізка ўгнуў голаў у зімовай казыркастай шапцы і схаваў ад нас твар. Пулька зноў выскачыла перад ім і злосна-страхавіта вурчэла, не могучы чагось супакоіцца.

Ванін валюхаста пераступаў мокрымі ботамі, у якіх чвякнула гразь, і сказаў Цвяткову:

– Перавязаць трэба.

Цвяткоў, не скрануўшыся з месца, працяў яго злосным позіркам.

– А што я – нямецкі фельчар?

У гэты час знадворку, ледзьве не сарваўшы палатку, улез шумны, камлюкаваты Піліпенка.

– Ну, дэ ваш фрыц? Давай ёму расход зробымо?

Санінструктар моўчкі стаяў з незадаволена-зацятым выразам на чыстым, прыгожым, нейкім дзяўчачым твары. Параненая нага немцава моцна крывавіла, на зямлі ля яе ўжо з’явілася і шырэла невялічкая цёмная пляма.

– Сяржант Цвяткоў, перавяжыце немца! – загадаў Ванін тонам, які адразу выключаў усе размовы.

Піліпенка шчыра здзівіўся:

– Кого? Німця? Да вы шчо, жартуете?

Ванін, аднак, маўчаў, не зводзячы вачэй з інструктара, і той урэшце ўзяўся за сумку. Расшпіліўшы яе, ён дастаў рэшту бінту, якім перавязваў мяне.

– Во, пры сведках... – змрочна папярэдзіў ён. – Я быў супраць.

Піліпенка плюнуў і незадаволена затупацеў ля выхаду.

– Я б ёго пэрэвязав! Хай бы здох, падлюка! Як наші от іх здыхаюць...

Ванін між тым тузануў немца, які, здавалася, задрамаў, але зараз жа з нейкай нервовай гатоўнасцю ўскінуў вузкі худаваты і белы твар. І раптам вочы яго пагрозліва звузелі, рот перасмыкнуўся ў няпэўнай грымасе. Я не паспеў згледзець, што там здарылася, як Цвяткоў узмахнуў над галавой бінтом і адскочыў назад, моцна штурхануўшы Піліпенку. Абое яны стукнуліся аб сцяну зямлянкі, зачапіўшы Ваніна, які, аднак, нават не зрушыў з месца.

– От гад!

– Дай ёму, падле!

Не дужа зграбна Піліпенка ўскочыў на ногі, некуды матлянуўся Цвяткоў. Плошка на сцяне ледзьве не захліпнулася, агняны яе язычок роспачна заматляўся ў кардоннай баначцы. Апантана залямантаваў Пулька. Аднак немец не збіраўся ні біцца, ні ўцякаць, здаровай нагой ён бараніўся ад сабакі. Я бачыў яго перакошаны ўсё той жа грымасай твар і сцятыя кулакі, ён упёрся спіной у сцяну, трымаючы напагатове абутую ў бот нагу.

– Сука! – крыкнуў Цвяткоў ужо з маім аўтаматам у руках.

– Тыркні ты ёму! Шо з ім важдатыся! – крычаў Піліпенка.

– Спакойна! – сказаў Ванін і стаў паміж імі і немцам. Звыклым рухам рукі ён паправіў на сабе тоненькую планшэтку. – Спакойна, фрыц. Хочаш здохнуць – нічога не выйдзе. Цвяткоў, бяры бінт!

Рашуча сігануўшы, Ванін наваліўся на немца, згроб яго, перавярнуў і прыціснуў тварам уніз. Немец задрыгаў нагой у боце, пракапаў земляную баразну ў доле і сціх.

– Перавязвай!

– Я? – амаль спалохана здзівіўся Цвяткоў.

– Ты, а хто ж! – ускіпеў Ванін, ашчаперваючы немца.

З прыкметнай нерашучасцю падступіўшыся да яго, Цвяткоў здзёр з параненай немцавай нагі скрываўленую суконную шкарпэтку і таропка абматаў лытку бінтом.

– Ось так! – сказаў Ванін, устаючы на ногі.

Немец ваўкавата і моўчкі сеў, забіўшыся далей у кут.

У бліндажы не мог супакоіцца Піліпенка.

– Шчо вам утэмяшылася ёго перэвязуваты? Бінта тількі папсувалы, а свайму Івану не хопіць! Тыркнуць ёго, і ўсэ! – махаў ён рукой.

Ванін, не паднімаючы позірку, сказаў:

– Вы б менш балбаталі, старшына!

– А шчо, нэ правда? Пэрэвязуваты ёго! Можа, шчэ тушонкай корміты будэтэ?

На момант затрымаўшы на старшыне клапотны позірк, Ванін уздыхнуў.

– Мы за ім ледзь не да станцыі беглі. Ён у мяне ўвесь парабелум разрадзіў. А вы – тыркнуць. Заўтра ў полк адправім.

– Нэ бачылы ў палку такэй гныды, – бурчаў трохі паспакайнелы Піліпенка.

Цвяткоў, штось затаіўшы ў сабе, маўчаў. Малодшы лейтэйант падняў з-пад ног стаптаную шапку.

– Ладна. Пільнуйце, я пайшоў.

Ён тры раз чвякнуў ботамі і вылез з бліндажа. За ім выбегла Пулька. Пасля выйшаў Піліпенка, які ўсё

бурчаў на немца. Але не паспеў ён змоўкнуць у траншэі, як сюды ўлезла аж трое параненых, якія шукалі санінструктара.

У бліндажы стала цесна і холадна, сесці не было дзе. Цвяткоў па-начальніцку прыкрыкваў на байцоў – то не там сталі, то не так павярнуліся. Я не мог сабе знайсці месца і, праклінаючы новую для сябе долю параненага, накінуў волкі яшчэ шынель і вылез у траншэю.

**6**

Неба як быццам пасвятлела, дажджу не было, сняжынкі ўсё лёталі ў паветры, пранозліва дзьмуў вецер. Бой ужо ўсюды сціх, немцы, мусіць, уцяклі на станцыю, і я падзівіўся, як усё ж лёгка ўдалося іх выбіць з вышыні. Канешне, ударылі знянацку, яны праваранілі нас на падыходзе. Але наўрад ці яны прымірацца са стратай гэткага зручнага ва ўсіх адносінах апорнага пункту.

Плячо, не перастаючы, балела ўсё мацней, у вуху надакучліва гуло, нешта замінала там, як бывае, калі, купаючыся, набярэш вады, і я падумаў, што, мабыць, сапраўды адваяваўся. Не мінаваць санбата, гэта – пэўна. Але перад тым, як адпраўляцца туды, усё ж, мусіць, трэба было пабачыць Ананьева, каб хоць развітацца, ці што.

Траншэя была доўгая, з няроўным бруствeрам, ужо добра прысыпаным снегам. Праз пэўныя прамежкі, аднак, бруствер чарнеў свежай зямлёй – у тых месцах, дзе аўтаматчыкі абсталёўвалі сабе ячэйкі. Некаторыя ўжо зморана стуліліся ў іх, скурчыўшыся ў тры пагібелі, іншыя, данятыя сцюжай, сноўдаліся па траншэі, прытупваючы абцасамі ў доле. Над прыцьмелаю вышынёй ляжала маўклівая ноч. Ракет немцы не кідалі.

Мне сказалі, што Ананьеў далей у траншэі, я мінуў яшчэ некалькіх аўтаматчыкаў і тады пачуў яго голас, якім старшы лейтэнант звычайна размаўляў уначы з байцамі – развaжліва, па-хатняму сцішана (занепакоены агульнаю справай і не хаваючы таго непакою). Ноччу,

як я заўважыў, камандзір рабіўся прасцей, бліжэй і спакайней, чым заўсёды. Крыклівы пехацінскі камандзір у гэтую пару сутак у ім знікаў зусім. Я ціха падышоў бліжэй.

– Канешне, могуць лупануць, – казаў камроты. – Ну, але не на голым полі. Хай паспрабуюць... Вось пераначуем, а заўтра ранічкай усіх параненых у тыл. К абеду ў медсанбаце будзеш.

Хтосьці аслабелым голасам вяла пярэчыў:

– Не, ужо – усё... Не дажыць мне...

– Ды ну, кінь ты, ядрона вош! – нецярпліва супакойваў яго Ананьеў. – Не дажыць, не дажыць... Дажывеш! Трапіш у шпіталь – праз месяц-два такі герой будзеш!

Выйшаўшы з-за павароту траншэі, я адразу наткнуўся на іх. Тут быў недабудаваны, кінуты немцамі бліндаж – яма збоч ад траншэі, без даху і без дзвярэй, з чатырма бёрнамі-стаякамі ў кутках. У гэтай яме на шынялі ляжаў нехта, спавіты бінтамі, ля яго ў нагах сядзеў і курыў Ананьеў. Таксама хтось нерухома застыў ля галавы. Грыневіч з Піліпенкам маўкліва стаялі ў траншэі, ля іх прысланіўся да сцяны аўтаматчык з другога ўзвода Зайцаў. Згледзеўшы гэтага Зайцава, я міжвольна адчуў у сабе нешта нядобрае: чаму ён тут? Зараз жа з’явілася здагадка, ад якой крыўдліва зашчымела ў душы – усё ж я яшчэ быў у роце і нават яшчэ невядома, можа, абышоўся б і без санбата. Аднак той, што ляжаў у доле, мяркуючы па ўсім, быў цяжка паранены, і я, зацяўшы ў сабе раптоўную прыкрасць, запытаў напаўголаса:

– Хто гэта?

Ананьеў падняў галаву.

– А, Васюкоў! Ну як?

– Ды нічога, – стрымана адказаў я. – У плячо вось...

– Магло быць горш, – сказаў камандзір роты. – Я дык

падумаў – табе хана...

Падумаў, ну і хай! І так дзякуй, не кінуў, паклапаціўся. Што ж было надта тужыць пра гэта? І ўсё ж дакучлівая туга не міналася, засела недзе ў свядомасці і патроху занепакоена там ныла.

– Васюкоў, – слабым голасам паклікаў мяне паранены. Я падышоў бліжэй і ў змроку ледзьве пазнаў небараку – то быў Крывашыяў. – Васюкоў... і ты таксама?

– Папала. Толькі мяне лёгка, – сказаў я з трошкі робленай бадзёрасцю ў голасе і гучней, чым было трэба.

– А я вось... – вышыхнуў, не дагаварыўшы, Крывашыяў.

Ананьеў устаў і паглядзеў па-над бруствeрам.

– Нічога. Будзеш жыць. Не такія выжывалі.

Не, тут жа падумаў я, наўрад ці яму прыйдзецца выжыць. Не ведаю чаму, але я адразу зразумеў, што Крывашыяў на гэтым свеце ўжо не жыхар. Побач ціха ўздыхнуў той, што сядзеў у глыбіні бліндажа. Прыгледзеўшыся, я пазнаў у ім Гумянюка. І тады прыпомнілася, што яны з Крывашыявым землякі, здаецца, з аднае вёскі – калісьці ў адной камандзе і разам мы прыйшлі ў роту. Ад тае каманды засталося, мабыць, чалавек дзесяць, а цяпер будзе яшчэ на аднаго меней.

– Ну, дзе той разгільдзяй Цвяткоў? – вылаяўся камроты. – Што гэта за гадства такое!

– Цвяткоў у бліндажы, – сказаў я. – Там трое параненых.

– Цяжка?

– Лёгка, здаецца.

– Лёгка, лёгка... Тут во гэтага ратаваць трэба. А то перавязаў і кінуў. Ну, пачакай: прыйдзе – я яму дам разгон!

– Пасля, – ціха сказаў з траншэі Грыневіч.

Ананьеў ускінуў голаў.

– Не ўжо. Без адкладу. Я яго навучу, як радавога байца любіць. А не – дык к чортавай матары: аўтамат у рукі і – у ланцуг!

Паранены слаба заварушыўся ў доле.

– Таварыш старшы лейтэнант... Не трэба. Не трэба ўжо. Што ён...

– Як гэта не трэба, Крывашыяў? Кінь ты панікаваць. Трапіш у шпіталь, у цяпло, на белыя прасцінкі – ураз палепшаеш. Дактары, яны цяпер такія, – налаўчыліся за вайну – разарванага на кавалкі сшыюць, залечаць – будзь здароў... Яшчэ лепшы атрымаецца. Сам прайшоў праз іхнія рукі, знаю.

Гумянюк трудна, працяжна ўздыхнуў.

– Я як чуў, – гаротна сказаў ён. – Малодшы лейтэнант як клікнуў, ёкнула маё сэрца. То былі заўжды разам, і нічога. А тут адлучыўся, і вось...

Да яго ніхто не азваўся, усе і без таго перажывалі тужлівую непапраўнасць гэтай бяды. Грыневіч з Піліпенкам маўкліва стаялі ў змрочнай траншэі. Ананьеў услухаўся і ціха вылаяўся.

– Ну, я дачакаюся ці не?

Аднак па траншэі ўжо ішлі – неўзабаве хтось спыніўся на ўваходзе ў яму-бліндаж, і да параненага пралез з сумкай на жываце Цвяткоў. Ананьеў пагрозліва маўчаў. Цвяткоў яго, мусіць, не адразу заўважыў і трошкі прыпазніўся з дакладам:

– Сяржант Цвяткоў па вашаму загаду...

– Ты чаму кінуў параненага? – уладарна абарваў яго камандзір роты.

– Я перавязаў.

– Гэта і ўсё?

– А што яшчэ? Ён безнадзейны.

Ананьеў рэзка адхіснуўся ад сцяны.

– Я табе вось як дзвіну! Па тваёй ідыёцкай галаве! Тады пазнаеш, хто безнадзейны! – з лютай прыціхласцю пагразіў ён санінструктару.

Цвяткоў адразу пакрыўдзіўся.

– Што я сляпы, ці што? У яго ж тры пранікаючыя ў брушную поласць, так? Ды яшчэ грудзі навылёт...

– Маўчаць! – здушаным ад гневу голасам крыкнуў камроты. – Каб мне ні слова! Ён павінен жыць!

– Быццам я супраць. Хай жыве! Але ж... Во, глядзіце!

Цвяткоў ступіў да параненага і разгарнуў ягоны шынэлак. Затым нешта памацаў там, насцярожыўся, схапіў Крывашыява за руку і, чагось не знайшоўшы, хуценька схіліўся вухам да накрыж забінтаваных грудзей.

– Ну во! Я ж гаварыў...

– Не можа быць! – занепакоена выйшаў з траншэі Грыневіч. – Толькі ж размаўляў тут...

Цвяткоў рашуча выпрастаўся і саўгануў назад сумку.

– Усё. Гатоў!.. – упэўнена аб’явіў ён і з усведамленнем свае праваты адвярнуўся ўбок.

Ананьеў ускіпеў:

– Узрадаваўся: «гатоў»! Я без цябе, дурня, ведаў – будзе гатоў! Але ён не павінен быў ведаць. Паняў? Ён павінен на нас спадзявацца, што аб ім паклапоцяцца. Ён жа чалавек, а не сабака, ядрона вош!..

Гуманюк тым часам, мабыць, не верачы санінструктару, кінуўся да земляка. Стоячы на каленях, ён затармашыў яго, заштурхаў, пасля неяк адразу апусціў рукі і крыўдліва, як дзіця, заплакаў.

Цвяткоў зацята маўчаў, мусіць, не прызнаючы сябе вінаватым. Ананьеў засунуў рукі ў кішэні і таксама змоўк, Сварка неяк адразу страціла свой сэнс. Сэрца маё жаласна затрымцела ў грудзях, нейкім чынам я адчуў сваю еднасць з гэтым небаракам, нібы ён быў маім братам. Але мяне даймаў і другі боль – на сцюжы дужа разбалелася плячо і ўся рука аж да пазногцяў на пальцах. Трэба было ісці, а я ў тупым змярцвенні ціха стаяў над Крывашыявым.

– Ладна, – падабрэла сказаў у цішы Ананьеў. – Хай паляжыць да раніцы. Прыйдзе падвода – адвязем пахаваем.

Ён выйшаў з бліндажа і пайшоў у тыл. За ім скіравалі Грыневіч, Зайцаў і, крыху счакаўшы, Цвяткоў. Мне камроты нічога не сказаў, і я невядома чаго застаўся тут з Гумянюком і прыціхлым Пілiпенкам.

Я ледзьве стрымліваў сябе ад прыкрасці. Мала было раны, дык яшчэ гэты Ананьеў, я да яго ішоў, шукаў яго, спадзеючыся на хай сабе кароценькую ўвагу, звычайную пры расставанні, а тут, на табе, – новы ардынарац. І камроты ні слова не сказаў мне, быццам ужо назаўжды выкрасліў мяне са свае памяці і свае роты, нібы я ніколі і не клапаціўся пра яго ўтулак, не падшываў яму падкаўнерыкі, не бегаў па абед, не гібеў з ім усю зіму ў баях!

А зрэшты – ці варта крыўдаваць на чалавека, у якога людзі, баявая задача, якому дапякае клопат, каб утрымаць вышыню. Да таго ж, яму заўжды патрэбны чалавек, каб бегаць, выклікаць камандзіраў: калі тут разводзіць сантыменты з параненым ардынарцам? Яму быў патрэбны здаровы. Зайцаў някепскі баец, я ведаў яго і разумеў Ананьева, аднак ад таго не рабілася лягчэй.

Але што ж было рабіць тут? Сядзець у гэтай яме побач з нябожчыкам Крывашыявым і мерзнуць? Ісці з роты ўначы не мела сэнсу, можна было лёгка трапіць ў рукі да немцаў, ды і не хапала сілы валачыся па такой гразі добрых дваццаць кіламетраў да медсанбата. Значыць, трэба шукаць нейкі прытулак да раніцы. Кепска, што, апроч камандзірскага, болей бліндажоў немцы, здаецца, не збудавалі, вяртацца ж туды мне не хацелася – хай там цяпер гаспадарыць Зайцаў. Прыйдзецца, мабыць, ісці ў другі ўзвод, да Ваніна. Ён мяне прыме.

– Дзе другі ўзвод? – запытаў я Піліпенку.

– Далей па траншэі.

Я памалу пайшоў, куды паказваў Піліпенка, і ён таксама чамусьці паплёўся следам. Неўзабаве мы набрылі на нейкі траншэйны адростак-тупічок, у якім на святлявым фоне неба адзінока тырчала галава ў касцы. Тупічок гэты, здаецца, сама далей выдаваўся ў поле – мусіць, то быў недакапаны ход у нямецкі тыл. Піліпенка гукнуў:

– Чумак, цэ ты?

– Ага, я, таварыш старшына.

– Ну, што чуваты?

Мы падышлі бліжай, Чумак зважліва адступіў перад камандзірам узвода. На брустверы стаяў нямецкі МГ з закладзенай у прыёмнік стужкай. Пачуўшы нас, у доле заварушыўся нехта, мабыць, кулямётчык. Калі ён устаў, дык аказалася, што гэта баец Шнэйдар. Пазнаўшы камандзіра ўзвода, ён талкова, без залішняе паспешлівасці вытлумачыў:

– Спачатку стралялі. Вунь з той пляміны. Яр там ці балота якое – чорт яго ведае. Біў кулямёт. Пасля перастаў. Чалавек пяць перабеглі па краі і схаваліся. Цяпер ціха.

Мы маўкліва паўзіраліся ў той бок. У твары дзьмуў рэзкі сцюдзёны вецер, прабірала дрыготка. Параненая мая

рука здорава стыла пад незашпіленым мокрым шынялём, асабліва пальцы, паварушыць імі было вельмі балюча.

Піліпенка, падумаўшы, сказаў:

– Ні чарта. Воны не дурні в рові сыдзіць. Драпанулы на станцыю. Заўтра падапруць, канэшно.

– Заўтра дадуць прыкурыць... – заклапочана пагадзіўся Шнэйдар.

– Можэ, заўтра, а можэ, і сёгодня, – нечакана сказаў Піліпенка. – Не здумайтэ спаты. Гранаты хоць е?
Шнэйдар памацаў кішэні.

– Ёсць адна.

– А ў тэбэ, Чумак?

– Ды няма.

– Хіба вы ўсі пакідалы?

– Пакідаў! – сказаў Шнэйдар. – Дзе ён іх пакідаў? Толькі ў траншэі ўзвод дагнаў.

Чумак маўкліва таптаўся ў доле.

– Мо вам не давалы?

Баец маўчаў.

Піліпенка ўпіўся ў яго настырным, учэпістым позіркам. Выгляд у Чумака быў такі вінавата-няшчасны, што я не вытрымаў і дастаў апошнюю сваю «лімонку». Усё роўна мне яна ўжо была без патрэбы.

– Во, бярыце маю.

Чумак моўчкі і, як здалося, не дужа рашуча ўзяў яе, надта ўжо беражна паклаў у кішэню.

– Колькі вам год? – запытаў я.

– Мне? А пяцьдзесят.

– Ого! Дык як жа вас узялі?

– Брэша він! Якіх пяцьдзесят? – усумніўся Піліпенка. – Міні сорак шість. Так што – він старэйшый?

– Яй-бо, не брашу! – хуценька запэўніў Чумак. – Каб мне так жыць – пяцьдзесят. А бралі мяне ў нестраявыя.

– Так ужэ і ў нестроёві?

– Яй-богу, праўду кажу. Спярша так. У транспартнай роце быў. Ну, старшына нягодны папаўся. Чапляцца пачаў. Перавялі ў каменданцкі. А з каменданцкага, як пад Драздамі няўпраўка выйшла, тады да вас накіравалі. Хто ўцалеў, пасля назад забралі. А мяне, мусіць, забыліся, ці што?

Гэта я ўжо ведаў. Толькі не забыліся ў каменданцкім узводзе вярнуць свайго байца Чумака – просга яго пакінулі, бо замест узялі лепшага. З нашае роты пераводзіць далей ужо не было куды, так ён і застаўся тут, на сваё ліха і на бяду яго камандзірам.

– Ну што ж, – сказаў я. – Шчасліва вам. Толькі не адставайце больш.

– А ўжо не буду, – лёгка паабяцаў Чумак і ступіў у мой бок. – Слухай, гэта самае... Цябе параніла?

– Як бачыце. У плячо, – сказаў я амаль бесклапотна. – Так што Цвяткоў праўду казаў.

Чумак на гэта не сказаў нічога, толькі неяк апанурана знерухомеў і, як здалося, са шкадаваннем паглядзеў на мяне.

Зрэшты, магчыма, і з зайздрасцю – у поцемках гэта разгледзець было цяжка.

**7**

У Ваніна ішла работа – узвод акопваўся. Немцы на

гэтым схіле вышыні папрацавалі найменш – траншэя атрымалася мелкая, да калена, і цяпер ванінцы, не зважаючы на ноч і слоту, дзяўблі яе ўсім узводам.

Камандзір таксама капаў – распрануты, у адной гімнасцёрцы, ён з нейкай запальчывай заўзятасцю размашыста кідаў рыдлёўкай, пахакваючы ў такт кожнаму кідку. Тут жа, у траншэі, адпачываючы, стаяў ягоны памкамузвода, ціхмяны сяржант Закіраў, ля якога на броўцы варушылася Пулька. Я спыніўся побач.

– Што, Васюкоў? – спытаў Ванін. – Памагаць прыйшоў?

Ведама, памагаты з мяне быў ніякі, і таму гэтае пытанне трохі збянтэжыла з самага пачатку. Трэба было неяк выказаць яму маю просьбу, але я не ведаў, як пачаць, і стаяў на брустверы.

– Глыбей капаеш – даўжэй жывеш, – памаўчаўшы, сказаў Ванін.

– Вам не пашэнціла, – зазначыў я. – У Піліпенкі дык гатовая траншэя.

– А ён заўжды на гатовае. Такі жмот, ого! – Ванін апусціў лапату. – Калі разабрацца, дык гэта ж яго ўчастак. На правым фланзе ягоны ж узвод ішоў. Ды як толькі ў траншэю ўскочыў, так і засеў. А мы немцаў вунь куды гналі...

– З вамі ж камандзір роты быў.

– Вось іменна. А з Піліпенкам – Грыневіч. Тым усё сказана, – намякнуў Ванін і выпрастаўся. – Во ўгрэўся! На, Закіраў, капай.

Памкамузвода ўзяў рыдлёўку, а Ванін скочыў на бруствер і, узіраючыся ў шэры ветраны прыцемак, нацягнуў на плечы ватоўку.

– А ты чаго ў тыл не ідзеш? Ананьеў жа сабе Зайцава ўзяў.

– Ну і хай, – сказаў я.

Размаўляць з ім аб гэтым мне не хацелася, і я маўкліва таптаўся на брустверы, чакаючы, што Ванін пачне ўгаворваць ісці лячыцца. Але ён раптам сказаў:

– А ўвогуле правільна. Пойдзеш – наўрад ці вернешся. А табе ж на медаль паслалі.

Зашпіліўшы партупеі, малодшы лейтэнант на кукішках прысеў побач і адной рукой палашчыў Пульку, якая радасна заварушылася на зямлі.

– Яны там не глядзяць, з якой часці, а пасылаюць, куды трэба. Я во да гэтай дывізіі ў гвардзейскай служыў. У разведцы. А са шпіталя аддзел кадраў сунуў сюды. Я ім даказваў – дзе там! І слухаць не хочуць. Дывізія на фарміроўцы, камандзіраў недакамплект, кадры патрэбны. Так што старайся далей санбата не ехаць.

– Як пастараешся!

Не адказаўшы, Ванін кінуў насцярожаны позірк уздоўж траншэі.

– Зноў там перакур. От сачок! Ну, я яму дам!

Ён імкліва ўскочыў і хутка пайшоў па брустверы, пакінуўшы мяне ля Закірава. За ім жа пабегла і Пулька.

Закіраў моўчкі ўзяўся капаць, ужо не зважаючы на мяне. Ён наогул быў маўчун і тугадум: размаўляць з ім кожны раз было пакутай.

Я пачакаў крыху, мяркуючы, што Ванін неўзабаве вернецца, але ён не вяртаўся, тады я памалу рушыў па брустверы і непадалёк ад Закірава зноў напаткаў яго. Малодшы лейтэнант шпарка ішоў насустрач і, яшчэ не дайшоўшы да памкамузвода, гукнуў:

– Закіраў, ты дзе Лукіна паставіў?

– У сваім аддзяленні быў.

– Ды няма яго там...

Заняты сваім клопатам, Ванін быццам і не заўважаў мяне – на хаду павярнуўся і хутка пакрочыў назад. Я ж спыніўся, не ведаючы, ісці за ім ці чакаць тут. Неяк няёмка было перабіваць яго турботныя справы сваёй дробязнай просьбай.

Двое аўтаматчыкаў у траншэі моўчкі і засяроджана калупалі ў цемры рыдлёўкамі. Выкапалі яны ўжо глыбакавата, ледзьве не ў рост, а ўсё яшчэ дзяўблі там у дне. Адзін з іх, што воддаль варушыўся ў змроку траншэі, заўважыў:

– Зараз ён дасць Лукіну.

– І правільна зробіць, – зморана хакаючы, пацвердзіў другі. – Хай не сачкуе...

Па голасе я пазнаў аднаго – гэта быў Гаркавы, самы стары аўтаматчык у роце, які служыў тут ці не ад самай нават Масквы.

– Што, здорава ганяе? – запытаў я і ступіў да чорнае шчыліны траншэі, з якой тырчалі іхнія галовы.

Яны абодва ўгледзеліся ў мяне, пасля Гаркавы сказаў:

– Ганяе, бо клапоціцца. Не тое, што іншы – абы крычаць. А наш і сам умека на што ні вазьмі.

– Як ён тады вартавога зняў! Ого! І не пікнуў, – дадаў другі голасам, у якім гучала захапленне.

На ветры было холадна, я прысеў на край траншэі і захінуўся каўняром, невядома чаго чакаючы. Правае вуха то быццам адыходзіла ад глухаты, то яго зноў затыкала; параненая рука нямела ад болю і сцюжы.

– Ванін хоць і малодшы лейтэнант, а смялейшы за якіх капітанаў, – налягаючы на рыдлёўку, казау баец. – Яй-богу.

– Не ў званнях смеласць, – зазначыў Гаркавы.

– Так. Але і разумны. Розумам, мусіць, не ўступіць і

камандзіру палка.

– Гэта Сырамятнікаву? Ну, зраўняў!

Такая іх катэгарычнасць у ацэнках мяне трохі здзівіла. Дапусцім, яны не перабольшвалі наконт Ваніна, але што яны ведалі пра камандзіра палка, тэтыя радавыя чырвонаармейцы, каб так меркаваць аб ім?

– Кіньце, – сказаў я. – Каб так казаць, трэба ведаць. Гаркавы далёка за бруствер шпурнуў рыдлёўку зямлі.

– Хе, ведаць! Я ў ягоным батальёне паўгода прапоўзаў. Ён жа да палка батальёнам камандаваў. Строгі – ага. Баяліся – гэта праўда. А – розуму...

– Адкуль гэта відаць?

– Салдату ўсё відаць.

– Аднак не надта, мусіць?

– Не надта? Можа, нават лепей, чым каму. Бо ён гэта самае крывёй сваёй спрабуе: які камандзір разумны, які – не.

Увогуле, пэўна, так, тут, можа, і не запярэчыш. Аднак я і маёр Сырамятнікаў займалі дужа рознае становішча ў палку, каб мне з упэўненасцю меркаваць аб яго якасцях. Што датычыць Ваніна, дык ён быў вядомы на ўсю дывізію, ніводзін чалавек у ёй не мог сказаць пра малодшага лейтэнанта кепскага слова.

Гаркавы здыхаўся трохі і зноў узяўся за рыдлёўку. Ягоны напарнік зазначыў:

– А ў нас і ротны нішто. Шумлівы, а ўвогуле някепскі мужык. Ваяваць можа.

– Талковы, ага, – пагадзіўся Гаркавы. – Ды не надта смелы. Не з немцамі. У баі ён – арол! З начальствам.

– Ну, гэта ўжо ерунда, – сказаў я і ўстаў, не таму, што насядзеўся, а проста прапала ахвота слухаць гэтага

самадзейнага разумніка.

Пра каго другога ён яшчэ мог мяне пераконваць, толькі не пра Ананьева. Ва ўсякім разе, старшага лейтэнанта я ведаў лепш за яго.

І тым не менш Гаркавы з лёгкай настойлівасцю пярэчыў:

– Хай ерунда. А на Грыневіча занадта азіраецца. Іой не глядзі, што ціхманы. Як каторая жонка: ціхенькая, а мужык у яе пад абцасам...

– Нічога ён не азіраецца, – сказаў я.

– А ты вось прыгледзься – прыгледзься калі... Дзіўны чалавек гэты Гаркавы. Я амаль быў упэўнены, што ён гаворыць няпраўду, што Ананьеў не такі камандзір, каб азірацца на свайго намесніка. Тым не менш сказана гэта было такім пераканаўчым тонам, што і сапраўды ў маёй памяці пачалі ўсплываць некаторыя выпадкі. І як ні дзіўна, а выходзіла, што і сапраўды часам ротны чакаў, што ў тым ці другім разе скажа Грыневіч. Хоць зусім магло быць, што так было трэба, што яны проста раіліся дзеля карысці справы.

Я ўжо амаль з цікавасцю ўзіраўся ў невыразную, шэрую ў прыцемках постаць Гаркавага, з шапкай-растапыркай на галаве, адчуваючы нейкую павагу да немаладога, звычайнага, малапрыкметнага байца, з якім праваяваў у роце паўгода, але амаль ні разу дагэтуль не звярнуў на яго ўвагі. Ва ўсякай справе Гаркавы заставаўся надзіва староннім і ціхім, а, глядзі ты, – пра многае меў сваю адметную і нават нечаканую думку, не палічыцца з якой было не так проста. І разам з тым гэтая яго разумная назіральнасць міжвольна насцярожвала, нават, невядома чаму, настройвала крышку не ў карысць Гаркавага.

Мне стала цікава, і я ўжо наважыўся застацца з гэтымі двума – хоць на сцюжы, а ўсё весялей будзе скаратаць ноч. Але толькі я падумаў аб тым, як з прыцемак паказаўся Ванін. Цяпер чамусьці ён ішоў не адзін і,

згледзеўшы мяне, сказаў таму, хто ішоў ззаду:

– Вунь Васюкоў.

Я паціху падняўся з бруствера.

– Тут во цябе Зайцаў шукае.

Я ўраз насцярожыўся, нешта трывожна-радаснае варухнулася ў грудзях і замерла.

– Камандзір роты заве, – сказаў Зайцаў. – Вячэраць.

Хвіліну я вагаўся, адчуваючы, як нешта ва мне дзіўна і ўвачавідкі перайначваецца ў адносінах да камандзіра роты, да Ваніна і нават да гэтага вось Гаркавага. Зноў усіх засланіўшы сваёй вялікай постаццю, вырас у маім уяўленні Ананьеў. Праз хвіліну я ўжо дзівіўся з сябе ранейшага: было чаго крыўдаваць! Нічога кепскага ён мне не зрабіў, проста яго галава, як заўжды, забіта сваім клопатам. Хіба гэта не відаць было адразу! А калі, во, павальнела, адляглі справы – успомніў і спецыяльна паслаў Зайцава шукаць мяне, дурня, уначы па траншэі.

– Давай, – падагааў Ванін. – А мне некалі. Акапаемся, тады забягу.

**8**

У бліндажы было людна і накурана, затхла смярдзела мокрымі шынялямі, земляной сырасцю і трацілам.

Звычайна, дзе б Ананьеў ні быў удзень, але ўвечары, вярнуўшыся ў сваю зямлянку-капэ, склікаў камандзіраў узводаў, старшыну, прымаў іх даклады, даваў указанні. Пасля ўсе разам вячэралі. Яда была не бог ведае якая: гуляш з канцэнтратам, сухары, банка свіной тушонкі. Часам да таго дадавалася што-небудзь з трафеяў, калі ў наступленні, ну, і, вядома, – наркомаўскія сто грамаў.

Цяпер наркомаўскіх, мусіць, не прадбачылася, не было старшыны, але на скрынцы, што прыладзілі на сярэдзіне бліндажа, ляжала жоўтая нямецкая банка з

адгорнутым вечкам – там быў мармелад. Ананьеў, у расшпіленым шынялі, з цыгаркай у зубах, адвінчваў знаёмую, абшытую сукном пляшку. Ту жа сядзеў змрочны Цвяткоў, стрыманы, заўсёды сур’ёзны Грыневіч. Зайцаў, як толькі ўвайшлі, выняў з-за пазухі паўбохана хлеба, які, мусіць, расстараўся недзе ва ўзводзе, і ўзяўся яго рэзаць. За ім ля сцяны сядзелі двое параненых, і далей у цёмным куце, апанурыўшы светлавалосую галаву, туліўся немец.

– Хто гэта? Васюкоў? А дзе Ванін? – запытаў камандзір роты, узіраючыся ў парог.

– Там, ва ўзводзе, – сказаў Зайцаў.

– Чаму не прыйшоў? Ты сказаў, што я заву вышыню замачыць?

– Не ідзе. Кажа, не п’ю.

– Ну і дурань, – проста абвясціў ротны. – Хай не п’е. Нам болей застанецца.

Ён адкруціў з пляшкі вечка, якое заматлялася на лан-

цужку, і са скрынкі ўзяў кварту.

– Сядай, Васюкоў. Павячэраем напаследак. Заўтра ўжо будзеш у медсанбаце. Як рука?

– Баліць.

– Правільна, павінна балець, – пагадзіўся Ананьеў. – Мне, калі прадплечча перабіла, паўмесяца, сабака, балела.

Побач скупа ўсміхнуўся Грыневіч.

– Помніцца, казаў – бядро. А цяпер – прадплечча.

Камроты апусціў кварту і амаль гняўліва зірнуў на свайго намесніка.

– Што, бядро? Бядро гэта ўжо ў пяты раз. А то летась зімой. У руку. Не верыш – на, паглядзі.

Ён рашуча саўгануў на правай руцэ манжэт, адкрываючы на белай скуры сіні прадоўжны шрам.

– Ды я жартую, – прымірэнча сказаў Грыневіч. Ананьеў моўчкі пляснуў у кварту.

– Трымай, Васюкоў. Вып’еш – лягчэй будзе. Знаеш, калі мяне ў сцягно пад Нялідавым трэснула, толькі гарэлкай і ратаваўся. А то б здох ад болю ды голаду.

Я ўзяў кварту, там было небагата, і выпіў усё за адзін глыток. Пасля таропка закусіў хлебам з кавалкам студзяністага ружовага мармеладу.

– Цяпер па старшынству, – распараджаўся Ананьеў, зноў наліваючы ў кварту. – П’ю я. Каб ты хутчэй гэта самае... Ды ў роту. А пакуль Зайцаў пабегае. Дык – за папраўку! – кінуў ён у мой бок і ладна глынуў усё, што было ў кварце.

І нават не паморшчыўся, толькі хакнуў і, не закусваючы, наліў зноў.

– Добра. Цяпер чарга камісара. Ці ты не будзеш?

– Не, не буду, – ціха, без шкадавання сказаў Грыневіч.

– Во другі дурань. А, ведаю: ты пажэрці меціш. Толькі не выйдзе. Не п’еш – мармеладу не палучыш. Паняў?

– Што ж, – напаўсур’ёз сказаў Грыневіч. – Пацерпім.

– Во-во – цярпі. Бог цярпеў і нам, дурням, вялеў. Дык ты чаго стаіш, Васюкоў? Ідзі сюды, пасядзім разам.

Ён пасунуўся трохі, я ступіў у змрок між ботаў і здаровым плячом уціснуўся між ім і Цвятковым. Не ведаю, можа, таму, што выпіў, але мне раптам здалося, што Ананьеў нібы перамяніўся да мяне – стаў такі таварыскі, клапатліва-прыветлівы, якім, можа, ні разу не быў за час мае ў яго службы. У маёй ужо захмялелай галаве заварушыліся здагадкі на гэты конт – ці не прычынай таму наша сумесная і такая паспяховая ўвогуле атака? А можа – маё раненне, якое ў адну

хвіліну зрабіла мяне ўжо не ягоным падначальным, а амаль роўным, таварышам па мінулых баях, і толькі. Нічога падобнага раней мне не даводзілася адчуваць. Як гэта добра – мець у адносінах гэтую сціплую тарыскую роўнасць, хмельна думаў я, адчуваючы амаль што любасць да свайго камандзіра роты.

– А лоўка мы іх турнулі, га? – запытаў ён, павярнуўшы да мяне грубаваты, з кучаравымі бачкамі на шчоках, цяпер па-добраму ўсмешысты твар. Праз секунду, аднак, гэты твар спахмурнеў. – Шкада Крывашыява, ядрона вош! Харошы салдат быў... Ну, дык што? – цераз голаў Зайцава ён зірнуў на заўжды маўклівага пры начальстве старшыну Піліпенку– Выпіць чарку не забудзь, на тым свеце не дадуць. Давай, старшына! Твая чарга...

Піліпенка моўчкі ўзяў з ягоных рук кварту і адразу ж пацягнуўся да самага вялікага кавалка на скрынцы. Ананьеў трасянуў пляшкай.

– Шчэ ёсць. Цвяткову не дамо – не заслужыў. Фрыц тож аблізнецца. Гэта – для Ваніна. Ванін – маладзец!

У траншэі зашэрхала палатка. Грыневіч, які сядзеў насупраць увахода, узняў голаў.

– Здаецца, лёгкі на ўспамін, – сказаў ён.

Аднак, замест Ваніна, у бліндаж уваліўся доўгі няскладны Шнэйдар.

– Таварыш старшы лей...

– Шнэйдар, – перабіў яго Ананьеў. – Ну-ка во гэтага цуцыка дапытай.

Аброслы чорнаю шчэццю Шнэйдар, каб не згінаць галавы, зняў з пляча аўтамат і ўкленчыў ля ўваходу. Ананьеў згроб недзе між ног кіпу папер палоннага, зверху якой была салдацкая кніжка, і працягнуў перакладчыку.

– Спярша паглядзі, во. З якой ён часці, фрыцок гэты.

Шнэйдар стрымана пераняў дакументы, не выказаўшы ніякае цікавасці да немца. Той, аднак, мабыць, зразумеўшы, што гаворка ідзе пра яго, адвярнуў убок свой набычаны твар. Шнэйдар дастаў з кішэні абтрапаную кніжачку ў каленкоравай вокладцы. Гэта быў нямецка-рускі ваенны размоўнік, У якім баец хутка знайшоў патрэбную старонку.

– Ві іст ігр Намэ унд Діенстград?1

Быццам трохі здзівіўшыся, пачуўшы сваю мову, палонны варухнуў галавой, зірнуў на Шнэйдара і насупіўся. Цяпер ён быў чамусьці распрануты, без шыняля, у адным фрэнчы з трыма знакамі на пятліцах. На ягоных грудзях цьмяна блішчала з паўтузіна нейкіх значкоў ці медаляў: ромбік гітлерюгенда, значок сталёвага шлема, медаль за зімоўку ў Расіі. Былі і невядомыя мне, у тым ліку і нейкая прадаўгаватая эмблема-нашыўка з кінжалам і гранатаю у сярэдзіне дубовага лісця.

– Ві іст ігр Намэ унд Діенстград? – настойліва паўтарыў Шнэйдар

Ананьеў, сцяўшы над пераноссем белыя бровы, пільна сачыў за немцам, чакаючы яго адказу, як той раптам ваўкавата бліснуў вачыма.

– Вэк, юдэ!

Тое зразумелі і без перакладчыка. Грыневіч амаль са спалохам на твары памкнуўся ўстаць на ногі, Піліпенка вылаяўся. Шнэйдар раптам зрабіў рэзкі выпад, і, перш чым мы паспелі што зразумець, галава немца рэзка баўтнулася назад і глуха стукнулася патыліцай аб земляную сцяну. Ананьеў з раптоўнай і не дужа натуральнай весялосцю зарагатаў.

– Адставіць! – на ўвесь бліндаж крыкнуў Грыневіч. – Вы што?

– А што ён?! – у шаленстве выгукнуў Шнэйдар і змоўк.

Ад хвалявання ён нічога не мог сказаць і апусціўся на

калені. Ананьеў, ужо не смеючыся, аднак з фальшываю жвавасцю паўтарыў:

– Здорава! Ну і здорава, Шнэйдар! Ты не баксёрам быў?

– Я слесарам быў! – са стрыманай лютасцю адказаў Шнэйдар, не адрываючы позірку ад немца.

Немец знерухомеў пад сцяной, у ценю не бачны быу яго твар, але адчувалася, як ён набычыўся, напяўся, крадком сочачы адтуль за перакладчыкам. Светлыя валасы на яго галаве распаліся надвае і звісалі на вушы. Грыневіч з асуджэннем, якое не зразумець, да каго адносілася, паглядзеў па чарзе на перакладчыка, камандзіра роты і немца.

– Вы што – чапэ захацелі? Ёсць жа загад па арміі наконт палонных!

– Загад! У нас адзін загад. А ў іх другі загад: бый, давы! – нервова загаманіў Піліпенка. – Я б ёму шчэ не так врізав.

Грыневіч асуджальна і строга паглядзеў на старшыну і памалу пачаў усаджвацца на сваё месца. Ананьеў кісла паморшчыўся.

– Ладна, чорт з ім! – сказаў ён. – Паглядзі ў кніжку, якая часць.

Дрыготкімі рукамі Шнэйдар разгарнуў немцаву салдацкую кніжку, пагартаў яе і трохі паспакайнелым тонам аб’явіў:

– Трыста дваццаць чацвёрты асобны сапёрны батальён. Трэцяя рота. Камандзір узвода обер-фельдфебель Фердынанд Грос. Далей тут праходжанне службы. Узнагароды. Група крыві. Адрас сям’і: Дзюсельдорф…

– Начхаць на адрас: пісаць не будзем. Запытай лепш, якое падраздзяленне абараняла вышыню? Шнэйдар пагартаў размоўнік.

– Вас фюр… Вас фюр айн Абтэйлюнг… вертэйдзіген

Іегэ?

Немец толькі ваўкавата, з-пад ілба зірнуў на яго і не адказаў.

– Мо ён не разумее? – усумніўся Ананьеў. – Гляджу, з цябе перакладчык, як з мяне гарманіст.

– Зразуміе – чакайтэ! Кулак він лепш зрозуміе! – сказаў Піліпенка.

Ананьеў кінуў Шнэйдару:

– Ану, яшчэ!

Шнэйдар запытаў і яшчэ, ды ўсё дарма – немец дэманстратыўна не звяртаў на яго ўвагі, быццам яго і не было тут. Ён не хацеў размаўляць, гэта стала відавочна, і тады Ананьеў з маўклівай пагрозай устаў на ногі. Высокая яго постаць У пакамечаным шынялі перагарадзіла бліндаж, камандзір роты пераступіў цераз нечыя ногі і ботам дужа піхнуў бот немца.

– Ты, цуцык! – сказаў ён з такім выразам, што ўсе ў бліндажы прыціхлі. – Калі ты будзеш мне тут выпендрывацца, дык я з цябе бешбармак зраблю. Не пагляджу на загады – капут зраблю ў дзве секунды. Паняў?

Твар Ананьева зрабіўся сурова-бязлітасны, і для мяне не было ніякага сумнення, што сваю пагрозу ён здзейсніць. Немец па-ранейшаму ваўкавата горбіўся пад сцяной, старшы лейтэнант змераў яго ўладарна-пагрозлівым позіркам. Затым позірк яго ўпаў на кварту з гарэлкай, якая стаяла на скрынцы. Ананьеў схапіў яе і павярнуўся да немца.

– Пі, сволач!

Немец зразумеў, на імгненне прыціх, нібы ў нерашучасці, але нечакана падаўся наперад і ашчаперыў кварту. Ён выпіў га-рэлку з таропкай рашучасцю асуджанага і працяг кварту ротнаму.

– Нох!

– Што?

– Нох!

– Шнэйдар! – павярнуўся ротны да парога.

Перакладчык са злой зацятасцю на твары гартаў свой размоўнік, але, мусіць, не знаходзіў таго, што шукаў.

– Здаецца, яшчэ просіць.

– Яшчэ?

Ананьеў яўна здзівіўся і з нейкім новым пачуццём павярнуўся да палоннага.

– А, сукін сын! Цвяткоў, дай пляшку.

Ён выліў у кварту ўсё, што заставалася ў пляшцы, немец, як і першы раз, усё гэта з прагнай рашучасцю выпіў да дна і вяла шпурнуў пад ногі апусцелую кварту.

– Глядзі! Глядзі ты! От гэта фрыц! – здзівіўся Ананьеў. – Ну, цяпер ты развяжаш язык! Шнэйдар, давай бліжай! Пытайся пра вышыню.

Шнэйдар задаў усё тое ж пытанне, але немец, нават недаслухаўшы яго, раўнуў:

– Шыссен!

Нешта напружана згадваючы, Ананьеў нахмурыўся. Грыневіч таксама з прыкметнай трывогай пазіраў на палоннага, які аберуч дзеранўў на сабе мундзір.

– Шыссен, рус швайн!

– Падлюга! – з нянавісцю сказаў Шнэйдар, які першы, відаць, зразумеў гэты крык немца. – Застрэліць патрабуе.

Обер-фельдфебель яшчэ некалькі разоў пракрычаў сваё «шыссен!», дзеручы сябе за канцы каўняра. Два гузікі з

грудзей скаціліся ў дол. Але ніхто яго не страляў, і немец, мусіць, зразумеў, што не даб’ецца нічога. Тады ён абмяк, ап’янела адкінуўся да сцяны, прамармытаў некалькі незразумелых адрывістых фраз. І раптам, сіпата картавячы, загундзеў:

*Вен дзі зальдатэн*
*Юбер дзі маршырэн,*
*Офнэн дзі Медхен*
*Фэнстэр унд дзі цірэн...*[16]

Усе, хто быў у бліндажы, глядзелі на яго, бы на вар’ята – такога немца, мусіць, яшчэ не бачылі. Траплялiся палахлівыя размазні, прававерныя гітлераўскія фанатыкі, стрымана маўклівыя прусакі, але такога балбеса бачылі ўпершыню. Ананьеў хвіліну заставаўся яўна збянтэжаны, бровы яго ўсё ніжай асядалі на гняўлівыя вочы. Немец тым часам, матляючы галавой, спаўзаў усё ніжэй, нешта сонна гугнявіў і раптам зусім змоўк.

Старшы лейтэнантсмачна вылаяўся.

– Піліпенка, ану, трасані яго!

Піліпенка, падаўшыся на каленях да немца, ахвотна раз і другі пырануў яго ў бок. Але немец толькі прамармытаў нешта і сціх, бяссільна перакаціўшы голаў на другое плячо.

– Эй, Гітлер! Эй! Спыць, падлюка, шчоб ёму не праснутысь!

– Што ты пораш! – прыкрыкнуў Ананьеў. – Трасяні, каб душа з яго выкацілася!

Піліпенка згроб немца загрудкі і сапраўды трасануў так, што аж затрашчаў яго фрэнч. Але зноў ніякага выніку.

Грыневіч з цікаўнасцю пасунуўся да палоннага і гідліва паўзіраўся ў яго. Ананьеў нешта паразважаў, потым нагнуўся і кулаком падняў немцаў падбародак. Немец ап’янела бяспросыпна спаў.

– Ах, абармоціна! Ды ён жа быў п’яны! – даўмеўся старшы лейтэнант. – А я на яго шчэ гарэлку псаваў! Ось жа гад! Паскуда! Дапыталі, называецца. Цьфу, дурні набітыя!..

**9**

– Як бобікаў абхітрыў! – абураўся камандзір роты. – Цяпер чакай! Да раніцы ты з яго ні чорта не выцягнеш. Гэта ўжо я знаю!

– Мне дазвольце ісці? – змрочна запытаў Шнэйдар.

Ананьеў павярнуўся да яго, але адказаў не адразу.

– Глядзіце там. Могуць сунуцца ўначы. Каб не праспалі.

– Не праспім, – буркнуў перакладчык.

– То-та!

Закінуўшы за плячо аўтамат, Шнэйдар вылез у траншэю. Ананьеў сеў на ранейшае месца побач са мной, падабраў доўгія ногі.

– Піліпенка, давай талковага хлопца. Данясенне адправіць.

Старшына, не мяняючы гняўлівага выразу твару, моўчкі ўстаў і пасунуўся да выхаду.

У бліндажы настала маўчанне.

Цвяткова пляшка ляжала на скрынцы нават не завінчаная, хлеба застаўся адзін невялічкі кавалак. Камандзір роты згроб яго і адразу адкусіў палавіну.

– Камісар, – сказаў ён, жуючы, – дай-ка паперку.

Грыневіч расшпіліў пульхную, як пакунак, кірзавую сумку, пашукаў там, выдраў з нейкага сшытка старонку, дастаў з скураной ячэйкі аловак і ўсё гэта падаў камандзіру роты.

– Думаў, пакуль што пашлю пару звестак аб праціўніку, – казаў Ананьеў. – Ды во пашлеш! Абармот, а не фельдфебель. Цвяткоў, ану пасвяці – ні чорта не відаць.

Цвяткоў зняў з палічкі плошку і на каленях паслужліва схіліўся да камандзіра роты.

Дажоўваючы хлеб, Ананьеў пачаў пісаць. Мне не відно было, што ён там не дужа бойка выводзіў цвёрдым чарнільным алоўкам, маёй увагай завалодаў Цвяткоў, які адным вокам касіў туды, і выраз яго асветленага знізу твару неяк дзіўна мяняўся. Нешта паблажліва-ўсмешыстае з’явілася ў гэтым яго позірку адным вокам. Неўзабаве санінструктар грубавата заўважыў:

– Не данісенне, а данясенне.

Ананьеў кінуў на яго недаверлівы позірк.

– Ну да? Скажы мне! Можа, яшчэ вучыць будзеш?

Цвяткоў неяк не адрэагаваў на гэтую не сказаць каб дабрадушную рэпліку – нібы яна яго зусім і не датычыла – і зусім бяскрыўдна зазначыў:

– І не заніў, а заняў. Заняў вышыню, так трэба.

Ананьеў, нібы шукаючы падмогі, знарок няўцямна зірнуў на мяне, затым на Грыневіча. Намеснік з нейкім стрыманым разуменнем перасмыкнуў вуснамі, але змоўчаў. Звяртаючыся да яго, старшы лейтэнант сказаў:

– Глядзі, ён і сапраўды вучыць! Ха! Быццам я сам не ведаю! Заніў – заняў. Канешне, заніў, – упэўнена аб’явіў ротны.

Трохі падзівіўшыся гэтай яго самаўпэўненай настойлівасці ў яўнай памылцы, я зірнуў на сшытак. Якраз у той момант аловак Ананьева з націскам выпраўляў «і» на «я», што без слоў вырашала спрэчку. Мусіць, тое як след ацаніў і Цвяткоў, бо далей ужо маўчаў. Праз пяць хвілін старшы лейтэнант адхінуўся ад паперы і ўслых прачытаў напісанае:

– «Вэ-чэ 35004 – Маёру Сырамятнікаву. Данясенне. Заняў вышыню 117,0. Узяў палоннага обер-фельдфебеля. Знішчана каля пятнаццаці немцаў...» – нібы прыслухоўваючыся да чагось, ён моўчкі паглядзеў на Грыневіча. – Мала пятнаццаць, ага?

– Адкуль там пятнаццаць? – падумаўшы, сказаў Грыневіч. – Колькі трупаў было? Штук восем? Дык што ж ты... Папраўдзе трэба.

Ананьеў нахмурыўся.

– Ды ну цябе! Папраўдзе, папраўдзе! Усё табе папраўдзе. Падумаеш – трупаў! А можа, яны з сабой трупы панеслі?

Грыневіч маўчаў. Ананьеў трохі паразважаў і рашыў:

– Напішу дваццаць пяць. Не – дваццаць сем, каб кругла не было. А то не паверыць. Маёр Сырамятнікаў – ён таксама не промах на гэтыя штучкі.

– Вось іменна! – сказаў Грыневіч. – Навошта ж тады фантазіраваць!

Ананьеў падкрэслена, са значэннем, уздыхнуў.

– Знаеш, камісар! Харошы ты хлопец. Але ёсць у цябе адзін недахоп.

Апатычны Грыневіч з нечаканай цікаўнасцю зірнуў на ротнага. У ягоных шэрых вачах прамільгнула паблажлівая ўсмешка.

– Гэта які ж?

– Які? Занадта правільны. Усё табе правільна-няправільна. А я чхаць хацеў на гэтае правільна! – з уладарнай рашучасцю аб’явіў Ананьеў. – Мне каб лепей! Для роты каб лепей. Паняў?

Грыневіч зноў паблажліва ўсміхнуўся і, нагнуўшыся, без патрэбы падабраў карту з тых, што багата было рассыпана ў доле.

– Не будзе правільна – не будзе і лепей, – разважліва сказаў ён. – Будзе горш. Бо, апроч роты, ёсць яшчэ полк, дывізія, армія. Вось як!

Ананьеў няўцямна зірнуў вакол, мабыць, не ведаючы, як запярэчыць яму.

– Знаеш што?.. Ты гэта скажы байцам, а не мне. Я, брат, з сорак першага між куль хаджу. Таму – ведаю... Калі байцам лепш, дык і роце лепш, і палку, і дывізіі.

– Памыляешся, камандзір.

– Чорта з два!

Грыневіч задумёна разадраў напалам трэфавую дзецятку і кінуў абрыўкі пад ногі. Камандзіру роты ён не адказаў, і я разумеў яго: навокал былі байцы, сяржанты – іх падначаленыя, і тактоўны нампаліт не хацеў у іх прысутнасці развіваць спрэчкі.

– Вось напішу сорак сем! – раптам вырашыў Ананьеў. – І будзе правільна. Паняў? Хай хто палічыць. Ну, ды сьвяці ты! Нічога не відаць...

– Няма чым: дагарае...

Плошка сапраўды дагарала, болей святла ў нас не было, рэшту ночы выпадала сядзець у цемры. Ананьеў торапка падпісаў данясенне, агеньчык у далонях Цвяткова сцяўся да маленькай іскрынкі і патух. Суцэльны змрок апанаваў бліндаж.

– Так, – сказаў у гэтай цемры камандзір роты. – Кімарнем на пераменку. Давай, камісар, пачынай першы.

– Ды ну! Не дужа кімарнеш тут...

Нампаліт не дагаварыў, але і без таго ўсе мы разумелі ход яго думак. Людзі стаміліся за гэтае наступленне па гразі, было галаднавата, патронаў хапала на адзін нядоўгі бой. Да раніцы наўрад ці падыдуць суседнія батальёны: другі завязнуў пад Курапяцінам, трэцяга

нешта зусім не чутно. А недзе побач стаіўся вораг. Хто ведае, што ён задумаў?

Нібы адгукаючыся на яго клопат, камандзір роты сказаў:

– Трохі пасяджу і пайду ва ўзводы. А ты, Васюкоў, давай даві вуха. Прывыкай. Цяпер у цябе новая пасада – ранбальной.

Ля ўвахода пачуліся крокі, зашэрхала палатка, нехта нябачны ўвайшоў у бліндаж і сціх, аслеплены цемрай.

– Хто гэта? – запытаў Ананьеў.

– Радавы Шапа, таварыш старшы лейтэнант, – пачуўся са змроку знаёмы шапялявы голас.

– А, Шапа! Слухай сюды, Шапа! Табе важнае баявое заданне. Рванеш у Бражнікі з данясеннем. Знаеш Бражнікі? Ну, дзе нас «юнкерсы» бамбілі. Там знойдзеш маёра Сырамятнікава – уручыш... Паняў?

– Паняў, таварыш старшы лейтэнант.

– Кіламетраў дванаццаць. Знаю, не спаў, не еў, не адпачываў. А трэба. Спаткаеш старшыну – напраўляй сюды. Скажы: я з яго душу выму і другую ўстаўлю.

– Ясна.

– Калі ясна, бяры дакумент і – алюр тры красты...

Шапа хуценька выйшаў, Ананьеў вальней выцягнуў ногі, прыхінуўся спіной да сцяны бліндажа.

– Камісар, не спіш?

– Не. А што?

– Знаеш, вось думаю: маёр, таварыш Сырамятнікаў... Выконваючы абавязкі камандзіра палка. Двойчы ардэнаносец і так далей. Выклікае якога Івана-ўзводнага – у таго калені дрыжаць. А ты знаеш, год назад мы з ім у трэцім батальёне ротамі камандавалі.

– Ну і што? – супакоена азваўся ў цемры Грыневіч. – Што ж тут дзіўнага? Вайна, вылучэнне.

– Вось іменна, вылучэнне. Ох, гэтае вылучэнне! Кажуць: не пазнаеш друга, пакуль ён тваім начальнікам не пабудзе. Рэдка каторы застаецца ранейшы. А то – нібы яго падменяць. Спачатку імя тваё забудзе, пасля на «вы» стане. Такая гэта дзіўная завядзёнка – выкаўка. Цярпець не магу! Ну, калі начальства, старэйшага каго – гэта зразумела. А то я – старшы лейтэнант, і ён старшы лейтэнант. Мне дваццаць восем, і яму столькі. І адзін аднаму – «вы»!

– Ты пра каго? Пра Кузняцова?

– Ну, хоць бы і пра яго. Стаў камандзірам батальёна, ужо ён мяне – на «вы». Сырамятнікаў, праўда, не такі. Увогуле ён някепскі мужык. Неяк перад наступленнем у штабе вечарком клікнуў – па чарцы сарганізавалі. А што – усё ж дружкі старыя. Ядрона вош!

У бліндажы было цёмна і ціха, знадворку данесліся нечыя крокі ў траншэі. Недзе паблізу дзяўблі рыдлёўкай – у зямлі за сцяной размерана і глуха аддаваліся яе ўдары. Грыневіч слаба падтрымліваў размову, мусіць, драмаў. У куце насупраць дужа соп немец. Ананьеў упоцемку згарнуў цыгарку і прыкурыў ад запалкі.

– Летась на Волхаўскім пошук разведчыкаў забяспечвалі, – сказаў ён, памаўчаўшы. – Во дзе была калатнеча, ядрона вош! Фрыцы ў абароне: калючы дрот у чатыры калы, камбінаванае міннае поле, дзоты – вазьмі іх! А трэба язык. Навошта трэба? Каб знаць: сядзіць ад балота да лесу саракавы пяхотны полк або які іншы. Вось і пошук разведчыкаў. Група з разведроты паўзе па языка, батальён забяспечвае, адцягвае ўвагу, завязвае бой і так далей. Ну і адцягнулі. Ад роты Сырамятнікава засталося дванаццаць чалавек. А ў мяне семнаццаць. Спаўзлі мы з ім у варонку, утулілі галовы, а фрыц лупіць – месца жывога няма... Кажу: на якога хрэна мы тут людзей ложым? Языка бярэм, кажа, нумар нямецкай часці ўстанавіць. Ну, у тую ноч пашэнціла:

прыводзяць языка. Дарэчы, разведчыкаў таксама палавіна пад дротам засталася. Вядуць у бліндаж і першым дзелам за кніжку: якая часць. Аказваецца, усё той жа саракавы грэнадзёрскі полк. Што б ты прапаў, кажу. Сырамятнікаў маўчыць ды таксама зубамі скрыгоча: за тры ночы ўсіх яго камандзіраў узводаў паклалі.

– Што ж, бывае… – азваўся Грыневіч. – На вайне ўсё бывае.

– Бывае! А то я не знаю, што бывае. Не ў тым справа. Вунь пад Мар’янаўкай зноў тое ж: выклікае начальнік штаба, загадвае падрыхтаваць групу для захопу языка. Ёсць даныя, што ў немцаў змянілася часць. Ну і чорт з ёй, хай мяняецца, кажу. Вялікая важнасць, які яе нумар. Усё роўна біцца будзе, у палон не здасца. Начальнік штаба як напусціцца: «Недарэчныя размовы! Загад не абмяркоўваецца, загад выконваецца». Бы я сам не ведаю. Але стаю, маўчу. А Сырамятнікаў гэты – намеснікам тады ўжо стаў – таксама тут. І маўчыць. Я гляджу на яго, ён – на мяне. Думаю: прыпомніць ці не? Чорта з два! Нібы і не было нічога. Нібы і не скрыгаў зубамі ў той варонцы, як шасціствольныя ігралі. Во – перамяніўся. Бо самому ўжо не трэба з траншэі вылазіць. Другіх пасылае. У тым уся справа.

Грыневіч памяркоўна маўчаў. Ды і што было пярэчыць: справа гэтая дужа звычайная на вайне. Для адных загад – каманда па калоне: прыняў, перадаў далей. Для тых жа, каму яго выконваць, – ён робіцца пытаннем жыцця і смерці.

– Ніколі не забуду падпалкоўніка Багданава, – успамінаў Ананьеў. – Такіх камандзіраў ужо мала – павыводзіліся. Пад Невелем гэта было ў сорак першым. Я тады яшчэ старшыной хадзіў. Біліся, помню, двое сутак: у батальёне ніводнага сярэдняга камандзіра не засталося, байцоў – жменька. Ну, я за камбата. Сем атак адбілі, а на восьмай не ўтрымалі. Танкамі, сволач, збіў з пагорачка: гранаты ўсе выйшлі, артылерыя дагары коламі… Надвячоркам адбегліся за рэчку, брыдзем, як шызафрэнікі, нічога не чуем, не разумеем.

А тут насустрач з ляска камандзір корпуса, яшчэ нейкае начальства і камандзір палка падпалкоўнік Багданаў. Камкор дастае пісталет: «Стой!» «Так вашу растак: застрэлю, у трыбунал аддам!» І да Багданава. Давай яго з гразёю мяшаць. Накрычаўся – у эмку і – далей адгэтуль... Ну, думаю, цяпер ад камандзіра палка яшчэ будзе. А наш Багданаў, калі камкор схаваўся ў ляску, спакойна гэтак падыходзіць да мяне. «Дай тваю руку, герой! Малайцы, столькі трымаліся. Ад ліца службы табе падзяка. І яшчэ – чым бы цябе ўзнагародзіць?» Дастае з кішэні гадзіннік, адшпільвае ланцужок і ўручае мне. Знаеш, не вытрымаў я, заплакаў, яй-богу.

– А дзе ён цяпер, Багданаў гэты? – запытаў я.

– Багданаў? Месяцы два камандзірам дывізіі быў. Не нашай, праўда, суседняй. А затым я ў шпіталь загрымеў. А калі вярнуўся, у арміі яго ўжо не было. Казалі, нібыта таксама па раненню выбыў. А гадзіннік той у мяне, у непрытомнага, санітары, сволачы, вынялі... Не збярог... усё жыццё шкадаваць буду... Ён быў мне даражэй за ордэн.

Ананьеў дакурыў і абцасам старанна прытаптаў акурак.

– Ну, хопіць балбатаць. Пайду прайдуся, – сказаў ён і, штурхануўшы мяне, устаў. – Вы тут хаця не ўсе спіце. Не курорт вам, ядрона вош!

Мы не спалі – мы сядзелі і слухалі. Чутно было, як ён вылез і прашлёпаў па гразі ў траншэі. Калі яго крокі сціхлі, Цвяткоў з-за мяне пацягнуўся рукамі да скрынкі, забразгаў там чымсь – мусіць, шукаў пляшку.

Стала ціха і самотна.

Як-колечы я прыцярпеўся да болю ў плячы і, здаецца, пачаў драмаць. Адчуванне рэальнага блыталася з разнастайнымі малюнкамі былога, урыўкамі нейкіх фраз, думак. Знадворку нехта дзеўб сваю ячэйку: «тук-тук» – чулася за маёй спіной, і паступова, у цягучай дрымоце, я пачаў успрымаць гэты гук, як знаёмы,

напаўзабыты стук сякеры ў дзяцінстве, які на ўсё жыццё ўбіўся мне ў памяць.

Тое лета наш бацька ставіў новую хату. Варта заплюшчыць вочы, як дагэтуль выразна бачна яго прыгорбленая, у непадпяразанай сарочцы постаць на зрубе, заскарузлыя вялікія ступні, упертыя ў смаляныя бакі бярвён – бацька высякае вуглы. Цэлае лета пад гэта «тук-тук» бацькоўскай сякеры я засынаў увечары і прачынаўся ўранні. Пазней, калі наставаў час сняданку і яго жаданая абвесніца-мама ласкава-ціхім голасам будзіла нас, дзетвару, у сенцах стуку ўжо не было, бо не было бацькі – у гэты час ён ужо выганяў соткі на палявой рабоце, з якой заўжды была няўпраўка ў калгасе. Я не ведаў, калі бацька спіць, не бачыў яго хоць бы на хвіліну раздумным. Ён і курыў на зрубе, не выпускаючы з рук сякеры, еў хутка, спяшаючыся, не хадзіў – заўжды бегаў, згружаў, нагружаў каменне, паднімаў цяжкія бёрны, бясконца сек і часаў. І так усё лета – без выхадных і святочных, у спёку і ў дождж, раненька на зары, упоўдзень, да глухой цемры ўвечары. Заўжды прагны да працы, ён проста надрываўся на будоўлі, здзіўляючы людзей сваёю нястомнасцю. Яго нават і празвалі тады Двухжыльным. Але ён не быў двухжыльны. Я бачыў, як бацька стамляўся і як яму было цяжка. Проста нам патрэбны быў дом, новая хата – старая ўжо струхлела, правалілася па самыя вокны ў зямлю, падгніла, не захінала ад ветру, а зімой прамярзала па ўсіх чатырох вуглах. Мы, малыя, часта прастуджваліся, і мама плакала, кажучы, што гэта халупа ўгоніць яе ў труну. І вось бацька ўзяўся будаваць хату. А нам усім сказаў, што кроў з носа, а зімаваць будзем у новай, хопіць, нажыліся ў старой. Мама коратка ўсміхнулася, тут жа згасіўшы радасць уздыхам, бо надта добра ведала, чым абыходзіцца ўсім нам гэта новая хата. У той год мы амаль пераасталі бачыць малако (хіба кіслае з бульбай), масла, яйкі, твораг. Рэшта парсючка з кубла таксама пайшла на кірмаш ды зімой на талаку, калі вазілі з лесу бярвенні. А яшчэ не было рамаў у вокны, дошак на падлогу, цэглы на печ... Дапамогі нам ніадкуль не было, усе спадзяванні толькі на сябе, на ўмелыя бацькоўскія рукі. Але калі ўжо

бацька сказаў, дык з’явілася ўпэўненасць, бо ён у нас быў не толькі двухжыльны, але і ўпарты, проста ашалелы, калі хацеў чаго-небудзь дабіцца.

Ён нібы адчуваў, што яму ўжо не шмат засталося, і спяшаўся, стараючыся як мага скарэй падвесці пад кроквы нашу невялічкую смалістую, поўную лясных таямнічых пахаў хатку. Да крокваў заставаўся недарублены адзін апошні вянец, калі бацькі не стала.

Месяц мы не даравальна для сябе правалынілі – маці бегала па ўсёй акрузе, па знаёмых і родзічах, разоў дзесяць ездзіла ў раён, – усё, вядома, дарэмна. Скаргі на лёс і слёзы – кепскія памочнікі ў справе, а зіма насоўвалася ў спрадвечны свой час. Стаяў на агародзе зруб з утыркнутай у вугал сякерай – бацька як пакінуў яе ўвечары, так болей ужо і не выняў. Мама пабедавала, паплакала ды аднойчы ўзлезла на зруб і аберуч выдрала тую сякеру. Было пакутай глядзець, як яна дзёўбала там. І вось аднойчы, вярнуўшыся з школы, на зруб узлез я. У мяне неяк пайшло зручней, чым у маці, хоць, вядома, далёка не так, як у бацькі. І ўсё ж я дарубіў недарублены ім вугал. Праўда, трохі зачапіў вострай пяткай калена, прасекшы штаны.

З таго дня пачалася мая будаўнічая пільніца.

Самым пакутным было ўставаць на світанні, да чаго я доўга не мог прывучыцца, жахліва хацелася спаць. Маці будзіла мяне ў тры прыёмы, і ўжо я замест бацькі будзіў уранку сваім стукам малодшых сясцёр – так кожны дзень да глыбокай восені. Школа мяне мала цікавіла. Вучыцца ў сёмым класе ўвогуле было няцяжка. Куды болей сур’ёзныя справы займалі маю свядомасць. Надвячоркам, прыбегшы з калгаснай работы, да мяне на зруб узлязала маці. Удвох мы перакочвалі бервяно, падняць якое з зямлі памагаў хто-небудзь з суседзяў. Калі ж нікога паблізу не было, мусілі паднімаць удвох. Спачатку мы клалі яго канцом на плот, потым паднімалі на сярэдзіну зруба і ў трэці прыём, стаўшы на драбіну, узвалаквалі канец бервяна наверх. Затым гэткім жа спосабам паднімалі другі канец. Так дарубілі і самшылі. Ставіць кроквы памог дзядзька Ігналя. Накрываў

кулявой саломай мамін сваяк з суседняе вёскі. Астатняе дарабляялі самі з маці. Гэта было нялёгка, ды і вечна не хапала таго-другога. На зіму мы ўсё ж перанесліся ў сваю новую хатку, вокны ў якую паставілі з старой, дзверы таксама. Падлогі яшчэ не было зусім, але печ змураваў самы лепшы ў раёне пячнік, з ім расплачваліся некалькі год потым, – і ў першы ж вечар, прыгрэўшыся каля яе сырога яшчэ, смярдзючага ад гліны боку, мама сказала:

– Як-небудзь будзем жыць, дзеткі...

Дзяцінства маё тым летам і скончылася, на плечы ляглі зусім не дзіцячыя клопаты, пачалася праца, а болей працавітых за нашу сям'ю не было ў вёсцы. Без бацькі спадзявацца не было на каго, кавалак хлеба трэба было зарабіць самім. У першы ж год мама выгнала 430 працадзён у калгасе, я – 210. Ленка і тая 60. Адна Наталка заставалася дома – на яе абавязку была карова, куры, праполка. Усе ў нас мелі свае справы і свае абавязкі – як і дарослыя. Было не да гульняў і дзіцячых забавак. І хоць даводзілася цяжка, часам галаднавата і сцюдзёна, здавалася, што ўвогуле зусім нармальна. Іншага жыцця мы ў тую пару не ведалі. Да вайны ж заставалася яшчэ тры гады.

**10**

Гадзінніка ў нас не было, мы не сачылі за часам, якога, мусіць, мінула нямала. Я ўжо некалькі разоў браўся драмаць, але прахопліваўся кожнага разу, калі хто заходзіў у бліндаж або выходзіў з яго. Ананьеў усё не вяртаўся, і Грыневіч, здаецца, таксама прыдрамаў. У бліндажы было зусім ціха, чуліся ўсе гукі знадворку: прыглушаны кашаль, рэдкія скупыя словы паблізу; часам нехта праходзіў тудысюды па траншэі. Ніводзін рух там не застаўся для нас безуважны – слых нават і ў сне быў насцярожаны да ўсяго наверсе.

Але ноч, здаецца, мінала.

Праўда, мяне трохі непакоіла, чаму так доўга не

вяртаўся камандзір роты. Што яму было рабіць там, калі ўсё спакойна? Узводы акапаліся, і байцы ў аддзяленнях па чарзе таксама адпачываюць, як-колечы з цыгаркай і прытопам бавячы на сцюжы непагодную ноч. Бліндаж пры такім надвор’і – раскоша. Але ўсім нельга ў бліндаж.

Пэўна, я ўсё ж прыдрамаў і прачнуўся ад нейкіх трывожлівых, спрасоння не зусім зразумелых гукаў. Я падняў галаў і ўслухаўся – па траншэі хтось бег, усё набліжаючыся, нешта гукнуў паблізу і сціх. Але тут жа на дзвярах тузанулася палатка, чалавек, прыгнуўшыся, зазірнуў у бліндаж.

– Таварыш лейтэнант! Таварыш лейтэнант Грыневіч! Грыневіч, чутна было, спахапіўся, але, сонны, мусіць, чагось не даўмеўся і азваўся не адразу.

– Таварыш лейтэнант...

– Я. Што такое?

– Таварыш лейтэнант! – задыхана казаў баец. – Камандзір роты выклікае.

– А што здарылася?

Баец памарудзіў, перавёў дыханне.

– Ды там... Немцы шурудзяць нешта.

Грыневіч хуценька падхапіўся і, спатыкнуўшыся аб чыесь ногі, выйшаў з бліндажа.

Санлівасць мая імгненна мінулася. Збоч у змроку заварушыўся Цвяткоў, насупраць ля сцяны насцярожыліся параненыя. Я зразумеў, што будзе пакутай сядзець тут у невядомасці, і таксама ўстаў, захінуў на плячы шынель і вылез у траншэю.

Снегу за ноч падбавіла, ім быў добра замецены бруствер і дно траншэі, на якім месцамі расплываліся цёмныя гразкія плямы. Наўкола павіднела, стала далей відаць поле, кустоўе, быльнёг на ўзмежку. Над пярэста-шэрым

сутоннем вісела змрочнае, без аніводнае зоркі неба.

Піліпенкавы байцы стаялі па траншэі і глядзелі кудысь убок. Двое грэліся – маўкліва сапучы, штурхалі адзін аднаго плячом. Яны далі мне прайсці і таксама пасталі, узіраючыся ў прыцемак.

Камандзір роты быў на сярэдзіне траншэі, якраз на месцы стыку пазіцый двух узводаў. Тут жа стаялі Грыневіч, Піліпенка, некалькі байцоў і Ванін. Ля ног малодшага лейтэнанта цёрлася Пулька.

– Ды не там!.. Вунь лявей бяры. Бачыш кусцікі? Во каля іх, – нешта паказваў камандзір роты Грыневічу.

Грыневіч старанна паўзіраўся і паціснуў плячыма.

– Нічога не бачу.

– А ты ўгледзься. Не сляпы ж, мабыць? Да іх важна павярнуўся Піліпенка, які цяпер быў без палаткі, у шынялі з вы-сока настаўленым каўняром.

– Мы тэж сперва нэ бачылы. А прыдывыліся – хтось варушыцца. Всім нэ можа здатыся.

Ананьеў азірнуўся, убачыў мяне і, нікольні не падзівіўшыся маім тут з’яўленнем, тузануў за рукаў.

– Ану, Васюкоў, глянь! У цябе зрок востры.

Сказана тое было зноў па-сяброўску, нібы да роўнага. Я старанна ўгледзеўся ў шэры прыцемак, у якім слаба мроілася воддаль нешта падобнае на кустоўе ці, можа, пагорак. Але нічога, што б выдавала там прысутнасць жывога, я не заўважыў.

– Ну, бачыш?

– Не.

Ананьеў нахмурыўся, счакаў і зласнавата кінуў Піліпенку:

– Нясі кулямёт!

Піліпенка моўчкі падаўся па траншэі і неўзабаве ярывалок РПД з прымкнёным магазінам. Камандзір роты кутка прыладзіў яго на брустверы.

– Ану, паназірайце!

Чарга амаль громам разарвала начную ціш, чырвоныя водбліскі ад ствала ліхаманкава заскакалі па брустверы, у траншэю сыпанула жменяю гарачых смярдзючых гільзаў. Счакаўшы, пакуль у далечы заглухне рэха, Ананьеў адняў ад пляча прыклад і выпрастаўся.

– Ну, што?

– А нычога, – сказаў Піліпенка. – Ні гу-гу.

– Гадства! – падумаўшы, вылаяўся камандзір роты.

Яму ніхто не адказаў. Усе моўчкі стаялі, не ведаючы, што прыдумаць, каб адгадаць гэтую трывожную загадку ночы. Тады ад бруствера павярнуўся Ванін, які дагэтуль сціпла стаяў побач з Ананьевым у сваёй кароценькай ватоўцы.

– Дайце я схаджу, – сказаў ён проста, нібы гутарка ішла аб якой драбязе. – Калі што – кулямётам...

Заклапочаны, Ананьеў няўцямна зірнуў на яго.

– Давай! – раптам нібы ўзрадавана сказаў ён.

Грыневіч, аднак, запярэчыў:

– Адзін? Не паложана. Двое трэба.

Ванін азірнуўся.

– Пласкуноў, айда!

Невялічкі крываногі аўтаматчык Пласкуноў, што стаяў ззаду ў непадпяразаным шынялі, нерашуча пераступіў з нагі на нагу. У адной руцэ ён трымаў жалезную скрынку з дыскамі ад РПД.

– Дык я гэта...

– Шчо – ты? – злосна гыркнуў да яго Піліпенка.

– Дык гэта... кулямёт.

– Нэ втэчэ твій кулэмэт. Бэры автамат і дуй.

Ванін тым часам выняў з кішэні гранату і дакладным рухам уставіў у яе запал. Гранату планкай пачапіў на дзягу ля спражкі.

Пласкуноў яшчэ раз пакутліва пераступіў, азірнуўся. Уся яго худзенькая постаць была ўвасабленнем нерашучасці. З натугай асільваючы яе, баец зняў з пляча аўтамат, паправіў шапку і, калі Ванін, абапёршыся каленам аб край бруствера, вылез наверх, таксама пачаў выбірацца з траншэі.

Ванін прыпыніўся, ступіў да камандзіра роты.

– Патрымайце пакуль. А то...

– Нэ вэртайсь! – крыкнуў Піліпенка.

Скінуўшы цераз голаў планшэтку, малодшы лейтэнант аддаў яе Ананьеву і таропка збег з бруствера.

– Вэрнувся! От дурэнь... – бурчаў Піліпенка.

Нехта няўцямна спытаў:

– А што, як вярнуўся?

– Шчо, шчо! Нэ знаеш шчо?

Пулька жалліва заскуголіла, забегала ўнізе, імкнучыся выскачыць з траншэі. Піліпенка злосна пхнуў яе ботам:

– Халера, тэбэ шчэ не хапала!

Баец у бушлаце спрабаваў злавіць сабачанё, але тое, выскачыўшы, прашмыгнула між ног, усё скачучы на бруствер. Грыневіч раздражнёна прыкрыкнуў злым шэптам:

– Што за сабачнік яшчэ? Качамасаў!

– Я.

– Прыстрэльце сабаку.

– Ну што вы, таварыш лейтэнант! – здзівіўся баец. – Як можна!

Грыневіч азірнуўся.

– Сідарэц!

– Так сліпота ў мэне куріна. У траншэі нэ бачу нычога.

Нампаліт моўчкі выняў пісталет і, штурхнуўшы кагось у траншэі, прашчаміўся ў той бок, дзе мітусілася Пулька.

У мяне непрыемна сціснулася ўнутры: няўжо ён прыстрэліць яе! Я зірнуў на камандзіра роты, але той стаяў, здавалася, нічога не бачачы і не чуючы навакол: уся яго ўвага цяпер была ў полі, куды пайшоў Ванін. У траншэі нягучна хлопнуў пісталетны стрэл. Пулька віскнула, пасля хлопнула яшчэ раз, і ўсё змоўкла... Ніхто ні словам не азваўся на смерць сабачкі, усе як і раней нерухома стаялі наўкола камандзіра роты, і штось востра непрыязнае да нампаліта коратка ўспыхнула і згасла ў маім пачуцці... Зрэшты, які «б» блізкі для нас ні быў лёс Пулькі – свой уласны турбаваў куды больш. Усе ў траншэі ўзіраліся наперад, куды ішоў Ванін. Малодшы лейтэнант не аглядваўся і не падганяў Пласкунова, які трохі адстаў. Спакваля яны ўсё болей цямнелі, расплываліся ў шэрым сутонні. Неўзабаве ўжо трэба было дужа ўглядацца, каб згледзець іх. А затым яны і зусім зніклі.

Мы яшчэ пастаялі, слыхам чакаючы стрэлаў ці крыкаў, толькі нічога нідзе не было. Напружанне памалу пачало спадаць, людзі ў траншэі заварушыліся. Нехта прысеў закурыць. Піліпенка запытаў пра час. Даўжэй за ўсіх у начную прыцьмеласць углядаўся Ананьеў, але і ён, нарэшце, адступіў ад кулямёта і прыхінуўся да тыльнага боку траншэі.

– Так! Васюкоў! – клікнуў мяне камандзір роты. – Забірай немца, параненых і марш у санроту! За рэчку

Цвяткоў правядзе.

«Ну вось, значыць, ужо будзем развітвацца», – падумаў я.

Увогуле, мусіць, гэта звычайна на фронце, але цяпер чамусьці мне стала самотна. Я збянтэжана пастаяў у траншэі, не ведаючы, што сказаць. Напэўна, адчуваючы маю нерашучасць, Ананьеў павярнуўся ад кулямёта.

– Давай, давай! Пакуль ціха, – сказаў ён амаль спакойна.

І ўсё ж я добра ведаў камроты, каб не адчуць у яго тоне старанна прыхаваныя ноткі трывогі. Зрэшты, і ў выглядзе яго нешта сведчыла аб непакоі. Я проста не памятаў яго такім рэзкім у рухах і словах. Нечакана для самога сябе мабыць, упершыню я зразумеў, што зусім ён не такі самаўпэўнены і ўладарны, якім заўжды мне здаваўся. Гэтае адкрыццё жаллівай паныласцю кранула мае пачуцці, але, знешне не выдаючы таго, я сказаў:

– Ну што ж... Тады – да пабачэння...

– Давай лячыся...

Ён коратка і амаль абыякава паціснуў маю руку і зноў павярнуўся да змрочнай далечы. Моўчкі, не выходзячы з-пад улады звычайнай напускной незадаволенасці, падаў мне шырокую далонь Піліпенка, стрымана кіўнуў галавой Грыневіч. Затым я таропка паціснуў сцюдзёныя рукі байцоў, якія маўкліва праводзілі мяне занадта ўважлівымі позіркамі.

Ідучы назад па траншэі, я ўсё ўслухоўваўся, але трывогі пакуль не было, аўтаматчыкі па-ранейшаму сцішана пераседжвалі ноч: тупалі, курылі, а некаторыя, не гледзячы ні на што, спалі, скурчыўшыся ў сваіх ячэйках. Цяпер, аднак, усе яны – знаёмыя і незнаёмыя – адсоўваліся ад мяне ў мінулае, у маё былое і сваё будучае, але без мяне, бо праз гадзіну я, мабыць, буду адсюль далёка.

З новым клопатам я рвануў з увахода палатку і ўлез у

бліндаж.

## 11

Параненыя хутка паўставалі, разабралі зброю. Мы расштурхалі немца і павылязалі ў траншэю. Оберфельдфебель трохі праспаўся і, мабыць, пацверазеў, бо хоць і не адразу, але ўсё ж выконваў нашы каманды. Праўда, ісці яму было цяжка, ён амаль не прыступаў на параненую нагу і скакаў на адной, перабіраючы па сценах рукамі.

Тым часам займаўся світанак.

Неба паяснела, на ўсходзе стаў бачны край лесу над пагоркам, дзе была дарога: з шэрага змроку нясмела яшчэ выплываў аснежаны прыцьмелы прастор. Было ветрана, сцюдзёна, снег, аднак, не ішоў. Можа, нават падмарожвала, але толькі ледзь-ледзь.

Мы трохі прайшлі па траншэі, далей трэба было вылазіць наверх. Цвяткоў першы ўскочыў на бруствер і падаў мне руку. Затым выбраўся аўтаматчык з абвязанай бінтамі галавой. Удвох яны вывалаклі другога аўтаматчыка і працяглі рукі немцу.

Обер-фельдфебель нерашуча паглядзеў знізу ўгору – наўрад ці ён разумеў, куды яго вялі, мабыць, думаў, расстрэльваць, і толькі цяпер пачынаў аб чымсьці здагадвацца.

– Ну, што льгаалы выкаціў? Давай руку.

Ён даў руку, утрох мы неяк узвалаклі яго на бруствер. Але тут аказалася, што ён зусім не можа прыступіць на нагу і адразу апусціўся долу. У дадатак да ўсяго, ноччу нехта сцягнуў ягоны шынэлак, немец прыкметна дрыжаў ад сцюжы ў сваім кароткім мундзірчыку. Цвяткоў вылаяўся.

– Як жа яго весці? Падвода трэба.

– Мо пашукаць лапату? – сказаў я. – Замест кастыля.

Аднак мяне не падтрымалі – пэўне ж, вяртацца назад у траншэю нікому не хацелася, світанак прымушаў спяшацца. Поле на захадзе, здаецца, болей, чым уначы, злавесна чарнела ад навіслай над ім цемрадзі, у якой таілася нейкая нязнаная, загадкавая і таму асабліва страшная небяспека.

– А што, хіба Ананьеў не да санроты мяне выпраўляў? – раптам з насцярогай у голасе запытаў Цвяткоў, стоячы на заснежаным брустверы.

– Толькі да рэчкі.

– А ад рэчкі вы як? Во з гэтым?

– Як-небудзь.

Цвяткоў падумаў і з яўнай незадаволенасцю тузануў за рукаў немца.

– Ану, устаць!

Немец устаў, і санінструктар узяў яго пад руку, што мяне ўвогуле здзівіла: то не хацеў перавязваць, а тут бярэ пад руку, хоць гэта мог бы зрабіць той жа паранены ў галаў аўтаматчык, які, не зважаючы на рану, трымаўся ўвогуле ўпэўнена.

Мы зышлі з бруствера і па слізкім ад снегу травяністым схіле пайшлі да мастка ўніз.

Цвяткоў даволі бесцырымонна валок немца, той, часта падаючы на вольную руку, ледзьве спраўляўся з ім. Мы ўтрох абмінулі іх, коўзаючы па снежнай траве, сышлі да рэчкі і ўсё па тых жа бэльках былога мастка перайшлі на другі яе бок. Далей, мусіць, трэба было пачакаць Цвяткова, каб пераняць у яго обер-фельдфебеля, і я прытрымаў хлопцаў, якія з прыкметнай паспешнасцю імкнуліся ў тыл.

Аднак правесці аднаногага чалавека па бервяну было не проста, ва ўсякім разе, Цвяткоў не наважыўся на тое. Падышоўшы да мастка, ён нерашуча спыніўся і паглядзеў на мутны вадзяны паток, які хутка вірыў між

мокрых, аснежаных берагоў.

– Ну, што? – спытаў я.

– Не прайсці. Якая тут глыбіня?

Чорт яе ведаў, якая тут была глыбіня, але я ўспомніў, што Ўночы некаторыя з аўтаматчыкаў пераходзілі недзе ўброд.

– Давай, не патонеш...

– Што – давай? Ідзі памажы...

Лезці ў ваду не хацелася, у ботах маіх і без таго ўжо было мокра, і ўсё ж аднаруч я падабраў полы шыняля і пайшоў у раку. На шчасце, глыбіня тут была не дужа вялікая, я хуценька перабег на той бок, і ўдвох мы ўзялі немца. Оберфельдфебель згодна павіснуў на нашых руках. Мы з намаганнем прыўзнялі яго даволі цяжкаватае цела. Ён разы два скокнуў здаровай нагой у вадзе і ўрэшце апынуўся на другім беразе.

– Гадская работа... – сказаў Цвяткоў. – Поўныя боты вады...

У ботах, вядома, здорава чвякала, ногі пачалі стыць, трэба было хутчэй ісці, каб сагрэць іх, але Цвяткоў не пусціў ад сябе немца.

– Удвох павядзем.

– А ў роту не вернешся? – спытаў я.

Стала віднець. Я бачыў шараваты ад бессані твар Цвяткова, які трошкі паморшчыўся і, мабыць болей для заспакаення самога сябе, вытлумачыў:

– Санінструктару палагаецца суправаджаць параненых да санроты. Так што...

Ён не даказаў фразы, аднак сэнс ягонага «так што» быў без таго вядомы, і мы моўчкі пайшлі па дарозе, якая тут пралягала па даволі высокім насыпе. Увогуле, гэта было

парушэннем загаду камандзіра роты, але не мая справа паказваць на тое сяржанту: я перадаў яму ўсё, што мне сказаў Ананьеў, а там хай рашае сам. Зрэшты, можа, гэта нават і лепей, што ён з намі: увесь час валачы немца – справа нялёгкая, а так, мусіць, мы б неяк мяняліся. Усё ж у нашым становішчы здаровы чалавек варты некалькіх параненых.

Немец пры кожным скачку здорава шлэпаў падэшваю бота. Мне трохі нязручна было трымаць яго аднаруч, ды яшчэ замінаў аўтамат на правым плячы. Я ўжо хацеў паклікаць на змену аўтаматчыка з забінтаванай галавой. У той час, занятыя сваімі справамі, мы трохі забыліся пра тыя трывожныя абставіны, што ўсё яшчэ віснулі над ротай і намі. Перайшоўшы ручай, мы адчулі ў сабе палёгку, быццам нядаўняя небяспека засталася далёка ззаду. І менавіта ў гэты час ззаду штосьці здарылася.

Я нават не паспеў сцяміць, што данеслася да нас у першае імгненне – толькі, мабыць, не стрэл і не выбух, здаецца, гэта быў і не крык. Тым не менш нешта грымотна-нечаканае ўдарыла па адчуваннях так пагрозліва, што я аж спатыкнуўся. Я адчуў яшчэ, як страпянуўся ў маёй руцэ немец – вёртка крутануўшыся, ён азірнуўся, і я злавіў на яго твары кароценькі водбліск радасці. Але ў гэты момант порстка затрашчаў аўтамат, пачуліся крыкі, некалькі адначасных гранатных выбухаў прагналі прэч ноч. Золак раптоўна абудзіўся стрэламі і апрыклым да паныласці дзіганнем куль.

Па звыклай франтавой завядзёнцы, мы борздзенька сунуліся з насыпу і хто як стаіліся на касабокім мокрым адхоне. Ніжай была канава і гразь, але высокі насып някепска прыкрываў нас, кулі з вышыні сюды не далягалі.

Тады ў галаву шыбануў страх – не за сябе (па нас, здаецца, яшчэ і не стралялі) – страх быў за роту: што там? Я хуценька вытыркнуўся з-за насыпу – на схілах, аднак, нікога не было, але на самай макаўцы вышыні ў прыцемку ўжо ўгадваўся рух, пыл, бляск стрэлаў. Калі я зноў вытыркнуў галаў, аказалася, што ля мяне застаўся

адзін толькі немец. Іншыя, у тым ліку і Цвяткоў, прыгнуўшыся, перабягалі за насыпам далей, па-над дарогай угору.

Спярша я не зразумеў, куды яны, але хутка ўсё стала надта выразна, і я, сам таго не чакаючы, закрычаў ва ўсё горла:

– Стой! Назад!

Цвяткоў прыпыніўся, угнуўшы галаў, няўцямна азірнуўся, я бачыў яго здзічэлыя вочы на пабялелым, спалоханым твары. Сяржант яўна чагось не разумеў, і я з лютасцю паўтарыў:

– Назад!

Я зусім не думаў у той час, які сэнс вяртаць гэтых людзей да рэчкі, але я ўсім сваім нутром адчуваў, што ў роце бяда і што менавіта таму мы не павінны ўцякаць. Аднак чым мы маглі памагчы ёй – таго я не ведаў.

Двое параненых зразумелі маю каманду па-свойму і ляглі за насып, а Цвяткоў пасля нядоўгага вагання, падбег да немца.

– Устаць!

Ён тузануў палоннага за рукаў, аднак той адкінуўся долу, нешта загергетаў, замахаў рукамі і не ўстаў. Цвяткоў ткнуу яго ботам і схапіўся за аўтамат.

– Устаць, падла! Фашысцкая морда!

Незразумела, нашто было ўставаць – хіба каб уцякаць адсюль, толькі гэтага я ўжо ім не дазволіў бы. Ды і немец, адчуўшы нешта, раптам перамяніўся, выраз яго ўпартага твару стаў жорсткім і непаслухмяным, ён яўна не хацеў падпарадкавацца сяржанту.

– Кінь! – крыкнуў я санінструктару. – Ідзі сюды.

Цвяткоў паныла паглядзеў у той бок, дзе ляжалі астатнія двое, і нерашуча палез на адхон. Ён яшчэ не

паспеў апусціцца, як аб дарогу ўдарылі кулі – за каўнер мне пляснула гразёй, абое мы тыцнуліся галовамі ў макрэдзь. У той жа час на вышыні сталася нешта і горшае. Яшчэ без дай прычыны я адчуў гэта сваёй абвострана чуйнай цяпер падсвядомасцю і зноў выглянуў з-за насыпу. Мусіць, тады я ўскрыкнуў, бо Цвяткоў таксама спалохана зірнуў з-за дарогі – збоч ад вышыні па схіле ўніз навыперадкі і бязладна беглі аўтаматчыкі.

Гэта было неверагодна, але я мусіў верыць сваім вачам і не мог памыліцца. Спярша ўзвод Пііпенкі, а затым і ўся рота выскачыла з траншэі і ўрассыпную памчалася да ракі. Некалькі чалавек ужо ўпала, хтось ззаду спрабаваў падняцца, пагрэбаўся ды і заціх на снезе. Некаторыя, коратка прыпадаючы на калена, таропка адстрэльваліся чаргой-другою. Іншыя тым часам беглі ўніз, ды так, што дай толькі бог ногі. Рота рассыпалася па ўсім схіле. Над вышынёй выла, трашчала, дзігала; гахалі выбухі гранат.

Хвіліну я не ў стане быў сцяміць, што сталася: немцаў, здаецца, пакуль не было відаць, але, мяркуючы па ўсім, ударылі яны куды як здорава. Проста пад дых ударылі, сволачы.

Пярэднія з уцекачоў ужо набліжаліся да мастка, іншыя кіравалі збоч ад яго, у кустоўе на балацявіне. Некалькі чалавек з ходу, не затрымліваючыся, сунуліся ў ваду, і тады ззаду, у дадатак да ўсяго, імпэтна затрашчаў кулямёт. Трасіруючыя агнянымі пісягамі сцебанулі наўкось па схіле, рыкашэтам матлянулі ад зямлі ў неба. Ля мастка нехта ўпаў, нехта, мусіць параненны, голасна, з роспаччу залямантаваў, але тут жа гэты яго лямант і згас у стогалосым грымоцці бою.

І тады між дзігання куль і траскоцця чэрг, прыглушаны, як з невядома якой далечы, данёсся з-за рачулкі знаёмы, здушаны голас. Я адразу пазнаў яго і страпянуўся: ён даў хоць колькі надзеі, ён ратаваў. Падхапіўшыся з насыпу, я кінуўся да мастка.

– Стой! Стой!.. Стой, такую тваю!..

Хутка я ўбачыў яго: без шапкі, у расшпіленым шынялі, з пісталетам у руках Ананьеў кідаўся між байцоў па схіле, імкнучыся затрымаць уцекачоў і адначасна дагнаць пярэдніх, каб за імі спыніць усю роту.

– Стой! Стой!..

– Стой! – не сваім ад лютасці голасам закрычаў я, выскокваючы да мастка. Па бёрнах яго на мяне ўжо ляцела двое байцоў, позіркі іх неслі недаўменне і страх, потныя твары – разгубленасць. Аднак я ўжо ведаў, чаго ад іх патрабаваць, і ведаў, як перамагчы гэты іх страх. Страшным голасам вылаяўшыся, я затрос аднаруч аўтаматам, і ўцекачы, здаецца, зразумелі штосьці. Хіснуўшыся ад блізкіх udараў куль, яны хуценька шаснулі за насып. Туды ж бягом скіравалі яшчэ некалькі, што вылезлі з рэчкі. З іх мокрых шынялёў цурком лілася вада.

Два кулямёты на вышыні захліпаліся ў агнянай гарачцы. Чэргі, кожная трэцяя куля з якіх была трасіруючая, джгалі зямлю, снег, ваду ў рацэ, пырскалі снегам і гразёю з-пад ног тых, што беглі, і між тых, што ляжалі на схіле.

## 12

Ананьеў выскачыў з рачулкі ледзьве не апошнім, – брудны, мокры, з пісталетам у руцэ, затвор якога заела ў заднім становішчы, пакінуўшы высунутым наперад тонкі варанёны ствол. Кулямётная чарга абдала ротнага пырскамі снегу, але ён не адхінуўся ад яе – адным махам узбег на ўзмежак, і я падаўся яму насустрач. Камандзір роты, аднак, нават не зірнуў на мяне, бы не пазнаў. Зрэшты, з першага позірку я таксама ледзьве пазнаў ягоны такі мной ніколі не бачаны, счарнелы, перакрыўлены ад лютасці, твар, з якога ліў пот. Грудзі і жывот старшага лейтэнанта былі螺 выў валяны ў мокрай гразі, шынель на баку раздзёрты. Кідаючы наўкола разгарачаныя позіркі, ён люта камандаваў:

– У ланцуг! У ланцуг, такую вашу... У ланцуг!

Ананьеў падбег да насыпу і, згледзеўшы тут байцоў, што бязладна палеглі на адхоне, амаль з нянавісцю кінуў:

– У ланцуг!

Яго хуценька паслухаліся. Некалькі чалавек падняліся і, прыгінаючыся, адбеглі, каб легчы радзей. Нікольки не хаваючыся ад куль, якія дзігалі ўгары, Ананьеў гняўлівым позіркам прасачыў за байцамі, затым азірнуўся ў другі бок і вылаяўся.

– Васюкоў!

Здаецца, толькі цяпер ён заўважыў мяне і крыкнуў так дужа прывычна і будзённа, нібы ўчора, заўчора ці калі раней, калі яшчэ не было ні гэтай бяды, ні майго такога недарэчнага цяпер ранення. Я таксама, як рабіў гэта заўжды, без слоў ускочыў з адхона і, сігануўшы цераз лужыну, кінуўся па ўзмежку. Там, за кусцікамі над балацявінкай, дзе быў узвод Піліпенкі, яшчэ прадаўжаўся бязладны рух, некаторыя з байцоў залеглі ля рэчкі, а чалавек з пяць прыстала трухалі ў тыл на пагорак. Кулямёт з вышыні цяпер біў туды.

– Усіх – у ланцуг!

Я не азірнуўся, але я чуў ягоны загад і бег кароткімі перабежкамі, штораз плюхаючыся бокам у гразкі, падталы снег, дзесяць секунд аддыхваўся і ўскокваў зноў. Спярша з вышыні па мне не стралялі, затым, мусіць, усё ж заўважылі адзінокага бегуна, і кулямёт з рассейваннем у глыбіню сыпануў наўкола жменяю куль. Адна з іх порстка шчоўкнула пад рукамі, штосьці святлявае мільянула ў доле. Я з маху ляпнуўся на бок і выцягся на зляжалым, перасыпаным снегам іржэўніку. Падаючы, мусіць, павярэдзіў руку, плячо жудасна забалела; сцяўшы зубы, я хвіліну мычэў, ледзьве адольваючы боль. Тым часам чарада куль па-дзёўбла зямлю і аддалілася. Трэба было бегчы. Я зручней перахапіў аўтамат, прыклад якога быў расшчэплены.

Працірка і ёршык, выпаўшы з адбітага затыльніка,

валяліся на снезе.

Аднак піліпенкаўцы былі ўжо блізка. Яшчэ адзін ускок, і я схаваўся за алешнічкам, які хоць і не бярог ад куль, але ўсё ж прыкрываў ад варожых вачэй з вышыні. Крайнія ў ланцугу аўтаматчыкі, распоўзшыся па ўзмежку, пачалі акопвацца. Я падбег і ўпаў ля аднаго з іх, што нерухома ляжаў, шырока раскінуўшы ногі. Здаецца, ён штосьці жаваў.

– Дзе Піліпенка?

Баец моўчкі кіўнуў кудысь убок і нацягнуў на патыліцу каўнер шыняля. Акопвацца ён чамусьці і не збіраўся.

– У вас што – няма лапаткі? – запытаў я.

Баец моўчкі варухнуў бядром, ля якога тырчаў чаранок пехацінскай лапаткі.

– Дык капайце хутчэй!

Перастаўшы жаваць і павярнуўшы ў мой бок худы з шэрым шчаціннем твар, ён акінуў мяне абыякавым, змораным позіркам.

– А нашто?

– Як нашто? – не зразумеў я. – Каб уцалець!

– Дурны ты, гляджу... – раптам з яўнай пагардай сказаў баец. – Доўга ты думаеш уцалець? Да абеду? Ці нават да вечара?

Я не думаў пра тое. Я перажываў няшчасце, якое звалілася на роту, усё ва мне кіпела ад узрушання, а ён во якую захоўвае цвярозасць погляду. І самае недарэчнае заключалася ў тым, што ўвогуле ён казаў праўду. Адкрыццё гэтае, вядома, не прынесла мне суцяшэння, і, каб задушыць у сабе нечаканую прыкрасць, я падаўся ад яго далей. Прыгнуўшыся за голымі, месцамі густаватымі кусцікамі, я пабег уздоўж ланцуга, і неўзабаве, замест Піліпенкі, у нейкай ямцы-раўку наткнуўся на лейтэнанта Грыневіча. Нампаліт

быў паранены і, адхінуўшыся на локаць, з пакутніцкім выглядам ляжаў на баку. Штаны яго былі ссунуты да калень. Незнаёмы баец у целагрэйцы, схіліўшыся над лейтэнантам, таропка і няўмела бінтаваў ягонае сцягно. Рукі байца кепска слухаліся, дрыжалі, бінт скручваўся, і Грыневіч раздражнёна прыкрыкваў:

– Ды тужэй ты!.. Закручвай! Не бойся!

– Зараз, зараз...

Я ўбег у равок і прысеў побач.

– Што – здорава?

Баец не адказаў, лейтэнант коратка з-пад каскі зірнуў на мяне і паморшчыўся. З твару, аднак, ён выглядаў не так кепска, як мне здалося ўпачатку, толькі, як і ўсе, быў брудны і стомлена дыхаў. Я падумаў, што рана ў яго, мабыць, не цяжкая. Сапраўды, замест адказу ён даволі бадзёра спытаў:

– Дзе камандзір роты?

– Там. Ля мастка.

– Сволачы! – зноў паморшчыўся нампаліт, – Што парабілі! Дражнілі з аднаго боку, а ўдарылі з другога...

– Камандзір роты загадаў: усім у ланцуг, – сказаў я.

Грыневіч прыўзняўся на локці.

– Бяжы, перадай Піліпенку, каб ні кроку назад! А то на схіле ўсіх пакладзе.

Я падхапіўся было бегчы далей, але тут жа згледзеў старшыну – голасна лаючыся, той гнаў у ланцуг трох байцоў, якіх вярнуў, мабыць, з самага пагорка.

– Гэць! Гэць вашу маць! Я вам пакажу тікаты!

Нашы ў ланцугу не стралялі, спакваля спынілі агонь і немцы – напэўна, біць не было па кім ці ўжо стала далекавата нават для кулямётаў. Піліпенка зморана

прабег яшчэ крыху, пакуль не захінуўся ад немцаў кустоўем, затым па-над узмежкам павярнуў у наш бок.

Я апусціўся на мокрую палу шыняля.

Аднак не паспеў яшчэ старшына дабегчы да нашага раўка-ямкі, як з другога боку таксама запляцкалі ў гразі боты. Усе азірнуліся – рашучай нядобрай хадой сюды кіраваў камандзір роты. Ён па-ранейшаму быў без шапкі, толькі захінуў на пару кручкоў расхрыстаныя полы шыняля, паверх якога целяпалася знаёмая планшэтка Ваніна. Убачыўшы яе, я зразумеў, што Ваніна няма. Старшы лейтэнант нейк раптоўна спыніўся перад раўчуком, нібы нечакана для сябе наткнуўся на нас.

– Ну! – сказаў ён такім тонам, што ва ўсіх нас пахаладзела ўнутры. – Што расселіся? Што расселіся, так вашу растак! Бяжыце далей! Драпайце к ... матары!

Гнеўна-бязлітасны позірк свой ён утаропіў у нейкую невядомую для нас кропку ля ног нампаліта і стаяў так, пагрозліва ўзвышаючыся над раўком. Грыневіч, аўтаматчык, які перавязваў нампаліта, і потны Піліпенка, што, на тую бяду, якраз сунуўся сюды, – усе мы маўчалі. Старшына змарана дыхаў і адно ніякавата шморгаў прастуджаным носам, не адважваючыся высмаркацца, мабыць чуючы нейкую сваю віну перад ротным.

– Пачаму драпанулі? Драпанулі чаму? Я ў вас пытаюся, старшына Піліпенка!

– Так цэ ж... Обкружалы! – няўпэўнена пачаў апраўдвацца Піліпенка, але раптам асекся і збянтэжыўся пад пранозлівым позіркам Ананьева. Праз момант, аднак, ён смялей ужо выпаліў: – Хіба тількі мої драпанулы?

– Ах, не толькі твае! – падхапіў Ананьеў. – Апраўдаўся! Выкруціўся, як змоўж! Не яго адны! І Ваніна тожа – гэта ты хацеў сказаць? Але ж Ванін на вышыні астаўся, а ты тут! На якога ж тады хрэна ты тут патрэбны?

Ананьеў здзекаваўся, помсціў за бяду, крычаў і быў страшны ў гэтым сваім, мусіць справядлівым, гневе. Такім я не ведаў яшчэ майго ротнага і адчуваў тут сябе да недарэчнасці боязна. Я то ўскокваў, то садзіўся – карцела прэч ад гэтага здзічэла-разлютаванага позірку, якога я не мог трываць, хоць і ні ў чым не лічыў сябе вінаватым.

Грыневіч таксама ніякавата варушыўся ў доле, нешта памкнуўся сказаць, але Ананьеў нікому не даваў вымавіць слова. Урэшце нампаліт зазначыў:

– Што цяпер мацярыць! Трэба акопвацца.

– Мацярыць! – грозна сказаў Ананьеў. – Вас не мацярыць нада! Нада заставіць вярнуць вышыню! Панялі?

Грыневіч, з непранікнёнай засяроджанасцю на цьмяным, кранутым адзнакамі болю твары, сказаў:

– Наўрад ці вернеш...

Ананьеў, мусіць, і сам сумняваўся ў тым, бо не адказаў і, хвіліну памарудзіўшы, запіхнуў пісталет у кабур. Рота ўжо ўся залегла дзвюма групамі; на гэтым баку рачулкі не відно было ніякага руху, але пазіцыя тут была болей чым няўдалая – усе падходы з тылу відны немцам.

– А цяпер што ж! – памаўчаўшы, злосна сказаў камандзір роты і павярнуўся да вышыні. – Палучаецца, Ананьеў ашуканец! Данёс пра вышыню, а сам у балоце сядзіць.

– Я ж казаў учора! – з нечаканай ажывеласцю заварушыўся ў доле Грыневіч. – Не трэба было атакоўваць. Хай бы сядзелі, чорт з імі. Загаду ж не было: чаго было выпевдрывацца!

– Ты мне пра атаку не дудзі, – зноў пачынаючы злавацць, загарачыўся Ананьеў. – Атака першы сорт! А вось сёння абас...я! – закрычаў камандзір роты і павярнуўся да апануранага Піліпенкі. – Я ж загадаў табе спыніць узвод! Якога ж ты д’ябла сам кінуўся за ўсімі?

– Так біглы ж...

– Ці бачылі яго: біглы! І ты пабег! Ну, тады і бегай. Радавым бегай. Я знімаю цябе з узвода. Паняў?

– Знімайтэ! – пакорна сказаў старшына, пацiснуўшы плячыма. Затым неяк ураз паспакайнела абвяў, здзеў шапку і пад-кладкай яе выцер спатнелы твар. – Така міні бяда! Цьфу!

– Табе статкам авечак камандаваць, а не ўзводам. Балбес!

– Та хто е.

Кулямётчык з вышыні, мабыць, нешта заўважыў на гэтым баку і праз кустоўе пусціў доўгую, рассыпістую чаргу. Дзве кулі шчоўкнулі на ўзмежку, пырснуўшы ў неба чорнай зямлёй. Ананьеў, аднак, не варухнуўся і па-ранейшаму нязручна стаяў над раўком.

– Грыневіч, камандуйце ўзводам! Усім закапацца і назіраць за праціўнікам!

– Лейтэнант паранены, – сказаў я.

– Што?

– Нічога страшнага, – махнуў рукою Грыневіч.

З залішняй паспешлівасцю ён ускочыў на параненую нагу, але тут жа паморшчыўся і зноў апусціўся на дол. Ананьеў бачыў усё гэта, але не сказаў нічога – крута павярнуўся і імклівай хадой пашыбаваў да дарогі.

Я вылез з раўка і пабег следам.

**13**

Заняўшы свае акопы, немцы зусім сціхлі на вышыні, нібы ўсё астатняе іх не цікавіла. Па нас яны чамусь не стралялі. Ананьеў спярша пабег, нават прыгнуўся на адкрытым, але стрэлаў не было, і тады ён проста пайшоў хуткім крокам. Я дагнаў ротнага і, штораз

пазіраючы на вышыню, сігаў крыху ззаду. Нас было лёгка падстрэліць тут, але Ананьеў не бег, а бегчы мне аднаму было проста сорамна перад камандзірам роты. Так мы ішлі па амаль адкрытым полі.. Стрэлаў не было.

Мяне, прызнацца, гэта трохі дзівіла, падумалася: ці не рыхтуюць яны нам двум што-небудзь і яшчэ горшае? Але, здаецца, для таго было пазнавата: мы перайшлі ўжо адкрытую балацявіну, набліжаліся да насыпу ля мастка. І тады на тым месцы, дзе нядаўна мы сядзелі з палонным, я ўбачыў Шапу. Відаць было, аўтаматчык чакаў камандзіра роты, ля яго ног ляжаў аўтамат і напакаваны чымсь рэчмяшок.

Ананьеў таксама ўбачыў яго, але ніяк не выказаў свае зацікаўленасці – зрэдку пазіраючы на вышыню, дайшоў да насыпу, пераскочыў лужыну ў канаве і па адхоне далез да броўкі дарогі.

Шапа павярнуўся да камандзіра роты.

– Ваш загад выканан, таварыш старшы лейтэнант. Ананьеў, аднак, моўчкі лёг на адхон і, высунуўшы галаў, упершыню засяроджана агледзеў схілы вышыні.

– Там другі батальён разварочваецца, – паказаў убок Шапа. – Па ўзгорку за дарогай.

У ветраным небе густа плылі шызыя, набрынялыя сцюжай хмары, было золка, сцюдзёна, аднак снег болей не ішоў. Той, што застаўся з ночы, памалу таяў у траве. На дарозе, на схілах вышыні яго ўжо засталося няшмат, паласа зямлі за рачулкай гразка чарнела раскіслым зляжалым ворывам. У некалькіх месцах на схіле відаць былі трупы забітых – шэрыя нерухомыя камякі шынялёў на стаптаным мокрым снезе.

– Дзе старшына? – ваўкавата запытаў Ананьеў.

– А там, за ўзгоркам, – падхапіўшы рэчмяшок, пасунуўся вышай Тапа. – Падвода зламалася. Вось тут перакусіць пакуль што.

Старшы лейтэнант скоса зірнуў на мокры рэчмяшок у

ягоных руках.

– Ён што – рэчмяшком думае роту накарміць?

– Ды гэта пакуль што. Для вас.

Баец таропка развязаў лямкі і дастаў некалькі сухароў, бляшанку кансерваў і белую алюмініевую пляшку. Ананьеў працягнуў руку і перш-наперш згроб ёю пляшку:

– Дай сухара...

Шапа ўслужліва выбраў яму найбольшы сухар. Старшы лейтэнант разламаў яго напалам. Аўтаматчык няўцямна зірнуў на камандзіра роты.

– Астатняе падзеліш на ўсіх. Паняў?

– Што дзяліць, таварыш старшы лейтэнант?

– Што ёсць.

Лежачы на баку і зусім безуважны да нас, Ананьеў адвінціў пляшку і, ускінуўшы яе, адпіў некалькі глыткоў. З выгляду ён памалу спакайнеў, грубаваты твар яго набываў звыклы выраз зласнаватай суровасці. Байцы на адхоне старанна акопваліся, кідаючы запытальныя позіркі на камандзіра роты, Шапу і мяне таксама, быццам я ведаў што-небудзь невядомае ім. Але пра тое, што здарылася ўранку, я ведаў меней за іх. Дагэтуль нельга было зразумець, як усё тое сталася, хто вінаваты і што роту чакала далей. Праўда, побач быў Ананьеў, толькі ён зацята маўчаў, і я не адважваўся загаварыць з ім.

Вядома, гэта была бяда, якая, зрэшты, здаралася не ўпершыню. Было нават і яшчэ горш. Але і цяпер нас стала дужа ўжо мала, узводныя ланцужкі здаваліся занадта кароценькія – дзесятка паўтара аўтаматчыкаў ляжала за хмызняком ды столысі ж за насыпам. Да таго ж, тут былі і параненыя, якіх неўзабаве трэба будзе адпраўляць з роты, – колькі ж тады нас застанецца? – думаў я.

Аб тым жа, мабыць, думаў і ротны, які, грызучы сухар, змрочна азіраў свае баявыя парадкі.

– Ось табе і рота! – сказаў ён, – Дакамандаваліся, у тры госпада маць...

– А што – і Зайцава няма? – асцярожна запытаў я.

Ананьеў не адказаў і не зірнуў нават на мяне, ён зноў угледзеўся ў вышыню, нібы чакаў кагосьці адтуль.

Але чакаць было некага – мёртвыя не вярталіся. Шкада было многіх небарак, асабліва малодшага лейтэнанта Ваніна, яго памкамузвода Закірава, ды і Зайцава таксама. Зрэшты, да Зайцава мае адносіны былі болей складаныя. Вядома, я не жадаў но-ваму ардынарцу злога, ён быў хлопец някепскі, але, не ўсвядоміўшы яшчэ да канца, я міжвольна адчуваў нейкае як бы задавальненне ў душы, што замест яго ля камандзіра роты зноў я.

Ананьеў праглынуў рэшту сухара і з нейкай ужо новаю думкай агледзеў узвод.

– Так. Дзе Цвяткоў?

– Куркова перавязвае, – сказаў Шапа.

– Перадай, хай збірае параненых, гэтага цуцыка, – ротны кіўнуў на немца, які, сцяўшыся, panyла сядзеў у мундзірчыку пад насыпам, – і па канаве ў тыл.

Шапа, прыгнуўшыся, пабег па адхоне, а я ў каторы ўжо раз адчуў шчымлівую самоту ад таго, што вось-вось, мабыць, і для мяне ўсё скончыцца. Вядома, у медсанбаце горш не будзе, у чымсьці санбат нават здаваўся зманлівым. Ды вось бяда: ён быў дзесьці далёка, у невядомасці, ва ўсякім разе, па-за ротай. А ўсё, што не было маёй ротай, здавалася мне непатрэбным, нецікавым, пастылым.

Я выпрабавальна зірнуў у твар камандзіру, але той, туга сцяўшы пашчэнкі, унікнуў ці не заўважыў гэтага позірку. Пакуль што ён не казаў нічога, здаецца, ён

наогул пра мяне не думаў, відавочна, яго клапаціла іншае. Лежачы на адхоне, ён усё кідаў позіркі то на вышыню, то ўбок, куды нядаўна паказваў Шапа і дзе, здаецца, сапраўды падыходзілі нашыя батальёны. Некалькі разоў – чуваць было – там прагрукацеў «максім», бахнулі вінтоўкі. Аднойчы вецер данёс нават крык, мабыць, каманду. Праўда, адсюль, з лагчыны, яшчэ нічога не было відаць. І ўсё ж блізкая прысутнасць сваіх супакойвала, несла нейкую ўпэўненасць, што страшнага болей не здарыцца.

Паляжаўшы так, Ананьеў пасунуўся ніжай, сеўшы, падцягнуў на жываце дзягу. Мусіць, ад выпітай гарэлкі, яго счарнелы зашчацінены твар ажыў, позірк набыў спакойнасць, былое звераватае ўладнасці ў ім заставалася ўсё меней. Аднак напружана-пакутніцкая зморшчына пад пераноссем не знікала – свежае перажыванне ад няўдачы рэзка адбілася на твары камандзіра роты.

Праз хвіліну Ананьеў ускочыў на ногі і імкліва збег па адхоне. Я, як гэта рабіў заўжды, падхапіў свой аўтамат з разбітым прыкладам і памкнуўся следам. Але я трошкі замінаўся аднаруч, – плячо ўсё ж пакутна балела, – і не паспеў збегчы ўніз, як аднекуль здалёку пачуўся крык. Нешта падобнае на працяглае: «Гэ-эй!» даляцела ад вышыні і сціхла.

– Таварыш старшы лейтэнант! – раптам выкрыкнуў аўтаматчык на адхоне: застыўшы з лапаткай у руках, ён выглядваў па-над дарогай, і ў голасе гучалі трывога і здзіўленне.

Камроты спыніўся.

– Што такое?

– Гляньце!

Тое, што заўважыў аўтаматчык, здаецца, ужо было відно ўсім на адхоне. Байцы трывожліва замерлі ў сваіх акопчыках, ніхто не прамовіў ні слова. Ананьеў счакаў з недаверлівай прыкрасцю на твары, затым, нібы

сцяміўшы нешта, у некалькі скачкоў адолеў насып. Я таксама хуценька ўзбег па адхоне і апусціўся на бок непадалёк ад ротнага.

Усіх над дарогай скавала недаўменне і цікаўнасць, з вышыні зноў данеслася далёкае, яўна не нашае: «Гэ-эй!», і на схіле ля верхняй мяжы ворыва мы ўбачылі двух. Яны нетаропка ішлі ўніз – другі амаль ушчыльную за першым. Задні пры тым шырока махаў рукамі, пэўна, падаваў знак, каб не стралялі.

– Гэ-эй! Ніхт шыссен! Нікс стгаляй!

Вядома, гэта былі немцы, і мы ўсе змярцвелі ад напружанага, нямога здзіўлення, ледзьве верачы сваім вачам. Але тыя сапраўды ішлі да нас. Толькі нейкія трохі дзіўныя былі гэтыя немцы. Добра ўгледзеўшыся, я перш-наперш адзначыў, што апрануты яны нецяк неаднолькава. Задняга нельга было разгле-дзець, а на пярэднім быў вельмі падобны на наш шэры караткаваты шынэлак без гузікаў і ыепадпяразаны. Ды і шапка на ім была наша – зімовая з растапыранымі ў бакі вушамі. І тут мяне раптам бы штось штурханула знутры – выразна і ўпэўнена, я зразумеў, што гэта...

– Чумак?!.

Я і сам здзівіўся свайму адкрыццю і, мусіць, здзівіў камандзіра роты, які, аднак, паволі прыўзняўся і стаў на калені. Двое на схіле неяк засцярожліва сышлі ўздоўж ворыва ніжэй і спыніліся. І тады ўжо ўсёй роце стала беспамылкова відаць, што між падталых плям раскіслага снегу, уткнуўшы голаў і вінавата ссутуліўшыся ў сваім пакамячаным шынэлку, стаяў наш Чумак. За ім, акуратна за самай спіной, яўна хаваючыся, падаваў знакі немец з аўтаматам на грудзях, у касцы, з круглай проціvагазнай каробкай на баку.

Як толькі яны спыніліся, немец нешта пракрычаў цераз Чумакова плячо, але мы не зразумелі ніводнага слова з гэтага яго крыку. Я няўцямна зірнуў на Ананьева, той, у напружанай позе прыўстаўшы на каленях, зноў

зрабіўся счарнела-пагрозлівы і таксама, відаць, не мог сцяміць, што там адбываецца.

– Шнэйдар! – страпянуўся Ананьеў, калі немец крыкнуў яшчэ. – Дзе Шнэйдар? Шнэйдара сюды! Ану!

Гэта ўжо – да мяне. Я ўскочыў на адхоне, але ўспомніў, што Шнэйдар быў ва ўзводзе Піліпенкі, і цяпер мне дужа не хацелася бегчы туды. Аднак піліпенкаўцы таксама ўжо ўбачылі гэтых двух на схіле і, паўставаўшы ў сваіх акопчыках, пазіралі на вышыню.

– Шнэйдар! Шнэйдара сюды!

Там пачулі, нехта паўтарыў каманду, і я зноў, захоплены трывожнай цікаўнасцю, падаўся да камандзіра роты. Ананьеў, зусім забыўшыся на небяспеку, высунуўся з-за насыпу амаль да сярэдзіны і мацюкаўся.

З панылай пакорнасцю ва ўсёй нехлямяжай постаці між намі і немцамі стаяў наш аўтаматчык Чумак. Спярша мы думалі, што ён пачне нешта гаварыць, можа, агітаваць, каб здаваліся ў палон – такое ўжо было аднойчы і цяпер не здзівіла б нас. Але ён маўчаў. Тады здалося, што ён наважыўся чэсна загінуць, каб не саслужыць немцам подлае службы здрадніка, і гэта выклікала спачуванне да небаракі. Але пакуль што абодва яны нерухома стаялі на схіле. Немец так шчыльна ціснуўся да Чумаковай спіны, што стрэліць, каб не трапіць у Чумака, было немагчыма. Аўтаматчыкі ў ланцугу загаманілі, кожны па-свойму разумеючы гэтую падзею.

– Ось гад! Прадажнік, канешне.

– Які там прадажнік! Уліп ён.

– Ды бяжы ты, расцяпа!

– Дзе Шнэйдар? – раўнуў, павярнуўшыся да мяне, Ананьеў.

Але Шнэйдар ужо бег. Толькі гэты доўгі, няўклюдны

чалавек проста, відаць, не ўмеў спяшацца. Бег яго хутчэй напамінаў леную хаду з прыскокам – згорбіўшыся, ён то вяла трухаў, то блытана клыпаў па мокрым палетку.

– Бягом!! – крыкнуў з насыпу камандзір роты.

Шнэйдар урэшце перабег адкрытую балацявінку, перасяг лужыну ў канаве і з нейкай няўклюднай развалкай палез на адхон. Ротны, трохі памякчэла, спытаўся:

– Што ён крычыць? Ану, паслухай.

Шнэйдар крыва перасмыкнуў вуснамі.

– Што слухаць? Таго фрыца выменьвае.

Ананьеў пакутна зламаў брыво, расслаблена асеў ніжай, а затым і зусім адвярнуўся ад вышыні. Шнэйдар узлез наверх і, не ведаючы, што рабіць далей, укленчыў на адно калена, адставіўшы ўбок доўгую, у ватных штанах нагу. Халява ягонага кірзача была рвана распората чымсь, мабыць, асколкам.

Наступіла трудная паўза. Хлопцы ў ланцугу зусім прыціхлі. Ніжэй, пад адхонам, напружана застыў палонны, над якім, чагось чакаючы, стаяў сяржант Цвяткоў.

Уздоўж канавы да нас бег Шапа.

Не ведаючы, што і думаць, я зноў перавёў позірк на схіл і адчуў у сабе міжвольнае шкадаванне да гэтага небаракі Чумака. Трэба ж было яму трапіць у такое становішча, якога не дай бог нікому! Ён і сам, мабыць, разумеў гэта і цярпліва стаяў, з выгляду зусім абыякавы да свайго лёсу, напалоханы, збянтэжаны, наўрад ці да канца разумеючы ўвесь драматызм таго, што здарылася.

У ланцугу, перабіваючы адзін аднаго, гаманілі:

– За Чумака – гэткага фрыца? Няма дурных.

– Дык што ж – Чумаку прападаць?

– Уцякаць трэба!

– Глядзі ўцячэш, калі на мушцы трымаюць.

– З кулямёта тады абодвух... Усё адно...

Ананьеў на адхоне зрабіўся як сам не свой – пакутна круціўся сюды і туды, паглядзеў на схіл, напаўголаса вылаяўся. І ўсё ж на нешта трэба было наважыцца. Пасля хвіліннай нерашучасці камроты зноў крутануўся да вышыні.

– Кулямёт сюды!

– Кулямёт – да камандзіра роты! – перадаў па ланцугу Шапа.

І тут жа пад насыпам з’явіўся невялічкі вузкавокі Батурбаеў з зараджаным РПД у руках. Падбегшы, ён узлез на адхон, і Ананьеў з каменным выглядам счакаў, пакуль той устанаўліваў на броўцы перад ім кулямёт. Нарэшце Батурбаеў шчоўкнуў затворам, зірнуў на вышыню, пасунуў хамуцік прыцэла, планка якога крута паднялася ўгору – да цэлі аказалася даволі далёка. Кулямёт быў гатовы, баец адхінуўся, уступаючы месца камандзіру роты. Аўтаматчыкі ў ланцугу нядобра прымоўклі, чакаючы самага, можа быць, драматычнага.

Раптам Ананьеў закрычаў:

– Ты што мне яго суеш? Сам не ўмееш? Батурбаеў збянтэжана перамігнуў вузенькімі шчылінкамі вачэй:

– Умею, таварыш камандзір. Пачаму не ўмею?

– Умееш! – з’едліва перадражніў камроты, выцягваючыся за кулямётам. Ён паляжаў нядоўга, нібыта нават прыцэліўся і зноў падняўся, абапершыся аб адхон. Пальцы на яго шырокай руцэ ледзьве прыкметна ўздрыгвалі. – А ён спраўны?

– А як жа! Спраўны, таварыш камандзір...

– Дзе ён к д’яблу спраўны! – злосна закрычаў Ананьеў. – Ён гразёй забіты!

Батурбаеў вінавата скалупнуў з прыклада прысохлы камячок гразі.

– Убірай к чортавай матары свой драндулет! – пракрычаў камандзір роты і, сеўшы, адвярнуўся.

Батурбаеў з гатоўнасцю падхапіў кулямёт і збег уніз да канавы.

Дзякуй Богу, пранеслася ў галаве, хоць няспраўнасць кулямёта наўрад ці мяняла што ў становішчы Чумака, які па-ранейшаму заставаўся на краі пагібелі, хіба што цяпер не ад сваёй кулі. Там, на схіле, відаць, счакаўшы зададзены час і не атрымаўшы адказу, немец-канваір пачаў адступаць назад, як і раней прыкрываючыся Чумаком. Яшчэ хвіліна, і яны аддаляцца так, што, мабыць, будуць недасягальныя для нашага агню.

Ананьеў пакутліва штосьці рашыў і ўскочыў на ногі.

– Цвяткоў, давай фрыца!

Цвяткоў паслухмяна падштурхнуў фельдфебеля, той, аб чымсьці здагадваючыся, нясмела яшчэ падняўся і з гатоўнасцю заскакаў аднаnож, падаючы рукой на адхон. Камроты крутануўся да перакладчыка.

– Шнэндар, адвесці! Размяняць і – з Чумаком назад!

Штосьці падобнае на ўздых палёгкі пранеслася над дарогай і, хоць многае было яшчэ не зразумела і нявырашана, тым не менш з’явілася адчуванне, што галоўнае ў гэтай справе набывала лепшы кірунак.

Але Шнэйдар адрэагаваў на загад зусім нечакана. Не варухнуўшыся з месца, ён раптам пабялеў з твару, аднак не ад страху – ад страху бялеюць зусім інакш. Мусіць, гэта было асіленае ў сабе абурэнне, бясслоўны пратэст: у чорных вачах аўтаматчыка нешта ўзгарэлася і атухла. Ён ссунуўся ніжай і ціха, але выразна сказаў:

– Я не пайду.

– Што?

– Не пайду. Што хочаце – не пайду.

Ананьеў таксама пабялеў:

– Гэта чаму?

– Ён мяне абразіў. Я не магу.

– Ах, не магу!. Растакую вашу, беларучкі праклятыя! А я – магу?.. Камроты пагрозна пасунуўся да аўтаматчыка, здалося – ударыць, але не ўдарыў – у апошняе імгаенне крута павярнуўся ад яго ўбок. – Шапа!

– Я.

– Адвесці немца! – з суровай няўхільнасцю, якая ўжо адным сваім тонам выключала нязгоду, загадаў Ананьеў.

Шапа з гатоўнасцю тузануў затвор аўтамата і скочыў да немца.

– Марш!

– Ды не марш! Бяры пад руку і валяй! І не трусь – прыкрыем. Кулямёт сюды!

Батурбаеў узбег на адхон, зноў устанавіў кулямёт, за які, рашуча адхінуўшы кулямётчыка, зноў лёг камроты.

Шапа падхапіў немца пад руку і ўзвадок яго на насып дарогі.

**14**

Аднак кулямёт не спатрэбіўся, ніякага ашуканства не было. Як ні дзіўна, а праз дваццаць хвілін, жывы і нават павесялелы, Шапа прывёў Чумака, які, сышоўшы з насыпу, стаў ля канавы, ні разу ні на каго не глянуўшы. Затое на яго цяпер глядзела ўся рота. Хлопцы забыліся

на свае недакапаныя акопчыкі, на макрэдзь, нават страцілі цікавасць да рэчмяшка з сухарамі, што яшчэ непадзеленыя ляжалі на адхоне – усе, як на дзіва, з недаўменнем глядзелі на недарэку-аўтаматчыка.

Ананьеў, набычыўшы ўскудлачаны галаў, зверавата прасачыў з-пад ілба за яго няўпэўненай, хісткай хадой. Калі аўтаматчык спыніўся, ротны марудліва падняўся на адхоне.

– Ну! – сказаў камандзір роты, і ўсе ўраз сціхлі. – Ну, палоннічак! Чаму не застрэліўся?

Чумак тады ўпершыню падняў ад долу дарэшты разгублены, атупелы позірк і неяк скоса, боязна і жалліва паглядзеў на камандзіра роты.

– Чаму не ўбёг? Чаму врагу здаўся? Так тваю растак! Адказвай, я пытаюся! Праспаў?

– Праспаў, – прастадушна пацвердзіў Чумак і ўздыхнуў.

– Ах, праспаў? – з’едліва ўсумніўся Ананьеў. – А аўтамат дзе?

Чумак, не пераступаючы, тулавам павярнуўся да вышыні сваім кароткім непадпяразаным, без хлясціка шынэлку і ткнуў туды пракураным заскарузлым пальцам.

– Там.

Гэтая наіўнасць дарослага чалавека, здольная ў іншых абставінах рассмяшыць, цяпер яшчэ болей абурыла ротнага.

– Там? Глядзі ты – помніць! Цябе ж расстраляць, дурня, трэба! Ты ж – здраднік! Ты ворагу здаўся. І зброю здаў. Ну!

Чумак толькі трудна, вінавата ўздыхнуў.

– Ах ты, размазня! Страляць трэба было! Абараняцца! Аўтаматам! Лапаткай, зубамі грызці ім глоткі! А ты?!

Аўтамат, вядома, у яго адабралі. Каб адбівацца лапаткай, трэба трохі болей спрыту, чым яго была ў Чумака. І тут раптам я прыпомніў гранату, якую даваў яму ўначы.

– А граната?

Чумак, бы глухі, няўцямна паміргаў вачыма, нібы не разумеючы сэнсу майго пытання.

– Граната! Граната. Помніш, я даваў табе?

Успомніўшы, ён хуценька сунуў руку ў кішэню і асцярожна выцяг адтуль маю зараджаную, з запалам і некранутай чакой «Ф-1».

Ананьеў плюнуў і закавырыста, па-мацернаму вылаяўся.

– Дурня кавалак! Ну і чорт з табой! Не навучыў я – штрафная навучыць. Загрыміш у штрафную... Паняў?

Чумак апусціў галаву яшчэ ніжэй. Шапа падышоў да яго і спакойна ўзяў з рукі гранату. Ананьеў раздражнёна адкінуў назад планшэтку, якая замінала ля ног, зрабіў два крокі на адхон і спыніўся.

– Ваніна не бачыў?

– Не. Мяне ж скруцілі ды – у бліндаж... У бліндажы сядзеў.

– У бліндажы! Растакую тваю матары!..

Але злосць ротнага, як заўсёды, хутка міналася, ён патаптаўся крыху і стомлена сеў на адхон. Мы ўсе – я, Шапа, Шнэйдар, некалькі байцоў – стаялі навокал, не ведаючы, радавацца ці абурацца.

Ананьеў палой шыняля выцер брудныя рукі і падняў злосны позірк на Шнэйдара.

– Ты! Забірай гэтага чмура! Каб я яго тут не бачыў!

Счакаўшы трохі, Шнэйдар моўчкі кіўнуў Чумаку, пералез канаву і ўсё так жа нязграбна патрусіў цераз

балота. Ужо на бягу ён паглядзеў у бок вышыні. Чумак, плюхаючы па лужынах ботамі, кіраваў следам. Гэты нікуды не пазіраў, ён нібы ў сне, хістка і слепа трухаў за Шнэйдарам. У мяне цеяк павальнела на душы: можа, яшчэ абыдзецца? Ананьеў строгі, крыклівы, але не зласлівы. Калі адправіў ва ўзвод, дык, мабыць, пакуль што не пашле пад арышт. А там ці мала як ўсё можа перайначыцца... Мы праводзілі небараку трохі павесялелымі позіркамі, і, калі абодва дабеглі да кусцікаў, дзе ўжо было схоўна, Ананьеў закрычаў на байцоў:

– Што разявіліся? Ану, капаць! А то і адсюль драпанеце! Заечая парода!

– Не драпанём, – бяскрыўдна сказаў хтосьці ў ланцугу.

Камандзір роты паглядзеў у бок кусцікаў.

– Яго шчасце, што гэты фельдфебель папаўся. Хаця... – ён пашукаў вачмі Шапу. – Данясенне ўручыў?

– Уручыў, таварыш старшы лейтэнант. Самому камандзіру палка.

– Што ён сказаў?

– Сказаў: маладзец Ананьеў. Камроты зморшчыўся, нібы ад болю.

– Лепш бы ты яго згубіў. Заблудзіў, камандзіра палка не знайшоў. На якога хрэна ты яго ўручыў?

Шапа паціснуў плячыма і сеў. Ананьеў даволі паныла ўздыхнуў.

– Вось так заўжды. Толькі настараешся дзе, тут цябе як шарахне! На нагах не ўстоіш. Ды яшчэ гэты чмур...

– Таварыш старшы лейтэнант, – зацікаўлена пад’ехаў Шапа, – гэта сапраўды яго ў штрафную?

– А ты што ж думаў? У бірулькі тут вам гуляць? Вайна – не хаханькі.

– Калхознік ён… – зазначыў Шапа, нібы гэта само сабой усё вытлумачвала. – Чацвёра дзяцей…

Ананьеў няпэўна паёрзаў на адхоне.

– Чацвёра, чацвёра…

І, падхапіўшыся, амаль вызверыўся на Шапу:

– Што ты мне дудзіш: чацвёра! Хоць сто! Шапа болей не дудзеў, наставіў ад ветру каўнер і бокам прылёг на адхон.

– Вунь камісар бяжыць, – сказаў ён спакойна.

Дзіўна, Ананьеў нібы чакаў таго, хуценька азірнуўся, і заклапочаны твар яго спахмурнеў яшчэ болей. Але гэта толькі на секунду. Тут жа ён строга самкнуў над пераноссем бровы і павярнуўся да нас з Шапам:

А вы чаго? Чаго ляжыцё? Ану, марш акопвацца! Ядрона вош! Я вам пакажу, разумнікі!

Што ж, капаць – справа няхітрая. Шапа адшпіліў ад дзягі трафейную нямецкую лапатку і, адышоўшыся на пяць крокаў, ёмка падрэзаў ёю дзірван. Мне ж капаць не было як і нечым, таму я ціха сядзеў на адхоне, прытрымліваючы пад шынялём параненую руку.

Аднак Шапа перабольшваў, сказаўшы, што Грыневіч бяжыць – нампаліт ледзьве клыпаў, здорава кульгаючы на левую нагу і штораз пазіраючы то на вышыню, то на нас ля дарогі. Ён яўна спяшаўся ці то па нейкай справе, ці, можа, баючыся немцаў, якія пакуль што абыходзілі нас сваёй увагай і сваім агнём. Зрэшты, яны атрымалі свайго фельдфебеля і цяпер, мусіць, радаваліся з тае прычыны: усё ж не часта гэтак здараецца на вайне. А нам вось, мяркуючы па ўсім, радасці было нямнога.

Я гэта зразумеў яшчэ да таго, як нампаліт прыклыпаў да адхона. Яшчэ зводдаль на яго твары можна было прачытаць крайнюю меру клопату, нават абурэння, зусім відавочна – ён быў узрушаны, што ўвогуле з ім было рэдка. Дужа кульгаючы, Грыневіч з-пад каскі раз-

пораз кідаў на нас гняўлівыя позіркі. І чым ён падыходзіў бліжай, тым усё болей хмурыўся Ананьеў. Урэшце нампаліт, яшчэ не пераскочыўшы канавы, зводдаль загаманіў тонам. які не пакідаў ніякага сумнення ў тым, што сталася няшчасце.

– Ты здурнеў? Ці напіўся? Што ты нарабіў?

– А што? – сказаў Ананьеў знарок абыякава, але ўсім стала зразумела, што ён і сам выдатна ведае што.

– Як – што? Ён яшчэ пытаецца! Абмен устроіў! Ты ведаеш, чым гэта пахне?

– Чым?

Грыневіч спыніўся ўнізе і шырока развёў рукамі.

– Я проста не знаю! Ён яшчэ пытаецца чым? – ледзьве не з роспаччу, аж трасучыся, гаварыў нампаліт. На адхон ён не палез, а таптаўся на мокрым травяністым дзірване пад насыпам. Камандзір роты вяла махнуў рукой, з фальшывай бесклапотнасцю адкінуўся на локаць, але зараз жа сеў зноў.

– Саўсім здурнець трэба. Ты загад ведаеш?

– Пайшоў ты са сваім загадам! – не дужа рашуча крыкнуў Ананьеў. – У мяне рота. Бачыш? А вунь – немцы!

Грыневіч уважліва, знізу ўгору, паглядзеў на камроты, той раптам адвярнуўся і высунуў з-за насыпу галаў. У ланцугу зноў прыкметна насцярожыліся, некаторыя аўтаматчыкі, пакінуўшы капаць, пачалі прыслухоўвацца да сваркі. Я першы раз бачыў, як Ананьеў дазваляў намесніку так абыходзіцца з сабой, – гэта зусім было на яго не падобна. Падобна было, што ён і сам адчуваў, што дзесьці даў маху, парушыў нейкі строгі загад, цяпер перажываў, і толькі характар не дазваляў яму пагадзіцца з намеснікам або прамаўчаць.

З намаганнем адолеўшы круцізну, Грыневіч узлез на насып і спыніўся непадалёк ад ротнага.

– Ну якога чорта! – сказаў ён цішэй. – Было б каго, а то – Чумака! З-за Чумака такога гада адпусціў...Увайшоў у кантакт з праціўнікам! Трэба ж надумацца!

Ананьеў на чвэрць абароту павярнуў да яго свой твар.

– А што, Чумак – не чалавек, па-твойму?

– Не пра тое размова. Чалавек. Ды які?

– Савецкі, – сказаў Ананьеў. – Калхознік! Ды што ж яго – на расцярзанне врагам!

Грыневіч паморшчыўся.

– Давай без агульных слоў. Давай канкрэтна.

– Твае ж словы. Ты ж імі байцам мараль талкаеш.

– Што я талкаю! – павысіў голас нампаліт. – Я палітработу вяду. А ты за адзін раз ўсё насмарку.

Ананьеў зверавата нахмурыўся, шэрыя вочы яго пыхнулі глыбінным агнём.

– А ваяваць з кім? – крыкнуў ён, зусім ужо зрываючыся. – З кім мне ваяваць – ты падумаў?!

Ён спружыніста ўскочыў на калені і рукою шырока ўзмахнуў над насыпам.

– Во бачыў: узводы, – па дванаццаць чалавек! А вунь вышыня, бачыў? Раз не ўдалася, думаеш усё? Гэ, памыляешся! Прыедзе Сырамятнікаў, загадае ўзяць. Кім браць? Га?

Ён у запале адным духам пракрычаў гэта і сціх. Аўтаматчыкі ў ланцугу, пакінуўшы працу, з цікавасцю і трывогай пазіралі сюды. У мяне балюча сцялася сэрца – не хапала яшчэ тае сваркі.

– Гэта не апраўданне, – незгаворліва сказаў нампаліт. – Гэтага Чумака цяпер на кіламетр нельга падпускаць да роты. А ты яго ва ўзвод накіраваў...

Памалу спакайнеючы пасля нервовага выбуху, Ананьеў сеў на адхон. Невідушчы позірк яго спыніўся на вышыні.

– І хай будзе.

– Як гэта – хай будзе! – ляпнуў сябе па калене Грыневіч. Цяпер ускіпеў ён. – Ты што – малы? Ты ведаеш, чым гэта скончыцца?

– Чым бы ні скончылася.

Цяпер ён ужо быў ранейшы, добра знаёмы ўсім нам Ананьеў, які не ўступаў, хоць і памыляўся і зрабіў дзе не так. Шляху назад ён не прызнаваў – як бы там ні было, ён ішоў напралом. Праўда, не заўжды гэта канчалася дабром, часцей наадварот. Але тут ужо ўлады над ім у нас не было.

Настала няпэўная, пакутная паўза. Камандзір роты двума ўдарамі бота выбіў на дзірване ямку, каб ямчэй было ўпірацца, бокам лёг на зваляную мокрую палу шыняля і пачаў засцяроджана глядзець на вышыню. Ушчэнт апануралы Грыневіч нерухома сядзеў побач, і ў выразе ягонага твару з запалымі шчокамі была нічым не суцешная, вялікая самота. Я не мог заглушыць у сабе вострае прыкрасці ад адчування яшчэ болыыай бяды, якая няўхільна насоўвалася і з якой, мяркуючы па ўсім, справіцца не было магчымасці.

Мусіць, гэта разумеў і Ананьеў, інакш бы ён проста прагнаў лейтэнанта, калі б той наважыўся дакараць яго, ды яшчэ б добра аблаяў. Але цяпер і сам камандзір роты пакутна, амаль вінавата, маўчаў.

Зводдаль на адхоне падняў галаву Шапа.

– Таварыш лейтэнант, нашто так? Шкада ж Чумака...

– А табе сябе не шкада? – са стрыманай злосцю падхапіў Грыневіч. – Ты да немцаў хадзіў?

– Ну – я... Дак і мяне не цугундзер? Калі ласка!

– Ану, маўчы! – строга папікнуў яго Ананьеў. – Не твая цялячая справа.

Грыневіч неспакойна круціўся па адхоне сюды-туды, крэкаў, як ад зубнога болю, нешта думаў і, мабыць, нічога суцяшальнага надумаць не мог. Ананьеў жа пасля свайго грознага выпаду стаў нейкі надзіва спакойны, нават абыякавы. І толькі моцна сцятыя крутыя пашчэнкі сведчылі, з якім намаганнем яму давалася гэта абыякавасць.

З самага пачатку свары было відавочна, што камроты ўступаў дасведчанай логіцы Грыневіча, бо, мабыць, сам таго не жадаючы, нешта зрабіў не так – на авось, не падумаўшы. І ўсё ж я не мог сцяміць, як тут было зрабіць іначай? Няўжо лепш пакінуць Чумака ў паломе, абы толькі не выпусціць іхняга обер-фельдфебеля? Хіба што на гэты конт былі адпаведныя загады, і тады ўжо, вядома, нічога не скажаш: загады ў арміі не абмяркоўваюцца. Тады выходзіла, што ротны зрабіў памылку. Але не лішне было зразумець і самога ротнага, якому недарэка Чумак пры ўсёй ягонай нязладнасці быў усё ж свой, падначалены баец, цалкам залежны ад волі і ўлады камандзіра роты. Тады як было адправіць яго на яўную пагібель, хоць і ўзяўшы ў палон такога, відаць па ўсім, заядлага фашыста, як гэты фельдфебель.

Не ведаю, як бы зрабіў я на месцы Ананьева ў падобных абставінах, але цяпер зрабіць як іначай я проста не бачыў магчымасці. Мусіць, і Ванін у такім разе не аддаў бы свайго байца на пагібель – нават, безумоўна, Ванін зрабіў бы ўсё, каб ўратаваць яго. Піліпенка, можа, зрабіў бы інакш: гэты ў адносінах да другіх быў яўны законнік. Але Піліпенку можна было зразумець: у пачатку вайны ён ненадоўга трапіў у палон да немцаў і паспытаў там гора, таму старшыну важней за лёс Чумака было не ўпусціць палоннага. Але ж Грыневіч, здаецца, не меў асабістых рахункаў да немцаў, у палоне і акружэнні не быў, а да Чумака, як і да ўсіх іншых байцоў у роце, меў тыя ж самыя дачыненні, што і Ананьеў. Чаму ж тады ён непакоіўся болей за

камандзіра роты?

– Чорт бы яго ўзяў! – з пакутніцкім выразам на твары прагаварыў нампаліт. – Адкуль яго прыгнала на нашы галовы, гэтага Чумака... Ды і фрыца! Хто яго хоць у палон узяў?

– Ванін узяў, – сказаў Ананьеў.

– Во, яшчэ і Ванін! – успомніў Грыневіч. – Яшчэ адна гісторыя! Што пра гэта напісаць?

– А што пісаць? Загінуў. Так і напісаць, – спакойна зазначыў камандзір роты.

– Ну да! А раптам у палоне?

– Не дуры, камісар! – стараючыся як мага спакайней, сказаў Ананьеў і пацягнуўся за пляшкай. – Не шчыруй у пекле болей за чорта. Такія, як Ванін, у палон не здаюцца.

– Усё можа быць... – уздыхнуў Грыневіч.

– Ні чарта не можа. Я Ваніна ведаю.

Камандзір роты адвінціў пляшку і наводмаш працягнуў яе нампаліту.

– Будзеш?

Грыневіч момант павагаўся.

– А давай! З гора...

Ён трохі выпіў, паморшчыўся. Пасля добра хлебануў Ананьеў.

– Нарабіў ты, нечага сказаць, – ужо болей міралюбіва зазначыў нампаліт. – Як цяпер выкруціцца?

Ананьеў ямчэй уладкаваўся на адхоне і ціха сказаў:

– Няма чаго выкручвацца. Маўчы. Нас тут ніхто не бачыў.

Са спазнелай засцярогай камандзір роты зірнуў на мяне, на Шапу, але тут жа зрабіў выгляд, што ад нас і не тоіцца. Грыневіч пакутна выдыхнуў, затым устаў і паглядзеў на вышыню.

– Ну што ж, трэба ісці. Сюды фрыцы пусцілі. А адсюль...

– А вы трошкі вышэй, – паказаў Шапа. – Во, пад насыпам. А там павернеце. Так схоўней. За пагорачкам.

Грыневіч моўчкі паслухаўся і пакульгікаў уздоўж ланцуга над канавай.

«Можа, як абыдзецца», – падумаў я.

**15**

Але – не абышлося. Не адышоўшы яшчэ і на дваццаць крокаў, Грыневіч раптам спыніўся.

– А Цвяткоў дзе?

– Параненых павёў, – сказаў нехта ў ланцугу.

– Даўно?

– Ды толькі што! Як вы з камандзірам гаварылі.

Нампаліт трывожна настырчыўся, крута павярнуўся і ледзьве не бягом, дужа кульгаючы, зноў скіраваў да Ананьева.

– Чуў?

– Што? – запытаў Ананьеў, і тут ужо было зразумела, што ён не прыкідваўся, а і сапраўды не разумеў, што ўстрывожыла намесніка.

– Цвяткоў змыўся!

– Параненых павёў. Я загадаў. А што?

Грыневіч спыніўся пад насыпам.

– Наіўны чалавек! Каму ты загадаў?

– Санінструктару. А каму ж яшчэ!

– Санінструктару!

Ананьеў на адхоне зверавата нахмурыўся, агідна вылаяўся і вобзем ударыў, мабыць, ужо апусцелую пляшку. Падскочыўшы, тая плоска ляпнулася ў гразь, за канавай.

– Пайшлі яны ўсе к чортавай матары! Паняў? – крыкнуў ён, устаў і зноў сеў.

Грыневіч на гэты раз змоўчаў. На ягоным твары з’явілася нешта новае, нешта чужавата-абыякавае, халодны позірк намесніка скіраваўся ўдалячынь.

– Знаеш, Ананьеў, – пасля хвіліны маўчання сказаў ён неяк нядобра паспакайнелым голасам. – Знаеш, Ананьеў! Расхлёбвайся ты сам. Сам заварыў, сам і хлябай. Я табе не памочнік.

Ананьеў узняў галаў.

– Што – змываешся?

– Не змываюся, а на законных падставах адпраўляюся ў тыл. Я таксама паранены.

– Давай, дуй! – проста сказаў Ананьеў.

– І я табе не зайздрошчу. Усё ж перш чым што выкінуць – трэба падумаць.

– Што я выкінуў?! – зноў вызверыўся Ананьеў. – Чумака выслабаніў? Ну і выслабаніў! У цябе не спытаўся. Сам зрабіў, сам і адказваць буду. Паняў?

– Няма чаго панімаць, – ужо зусім бясстрасна сказаў Грыневіч. – Усё і так ясна.

– А мне напляваць! Я камандзір роты. А вунь немцы. Бачыў?

Грыневіч уздыхнуў.

– Знаеш, мала храбрасці ў атаку хадзіць. Трэба яшчэ што-колечы і разумець.

– Што разумець? Трэба чалавекам быць.

– Да? Ну-ну! Давай! Толькі ці доўга пабудзеш...

Гэта быў ужо скандал. Яны яўна і, відаць, назусім размяжоўваліся ў сваім канфлікце, толькі я, прызнацца, перастаў разумець, у чым справа. Было абсалютна невядома, чаму нампаліта так занепакоіў Цвяткоў, чаму яго нельга было адпраўляць у тыл? Нешта недагаворанае пагрозлівй прысутнічала між імі, аб чым, мяркуючы па ўсім, заўжды памятаў Грыневіч і што толькі зараз пачаў разумець Ананьеў. Я дужа добра ведаў абодвух, і цяпер, можа, не столькі разгневаны выгляд ротнага, колькі безнадзейна прыціхлы нампаліт сведчыў, што праўда, мабыць, за Грыневічам. Я не мог перасіліць у сабе панылай скрухі, якая ўсё большала, і з-пад ілба раз-пораз пазіраў на ротнага.

– Словам, я пайшоў, – сказаў Грыневіч. – Жадаю іюспеху. Хоць які там поспех, – дадаў ён. – Прапашчая рота.

Ён коратка махнуў рукой і, налягаючы на здаровую нагу, пайшоў уздоўж насыпу ў тыл за пагорак.

Ананьеў застаўся на насыпу ўсё ў той жа позе: шырока расставіўшы ногі ў дашчэнту выпацканых ботах, нізка апусціўшы ўскудлачаную бялявую галаву. Здавалася, ён нешта разглядвае ў мокрай траве, часам перабіраючы на халяве бруднымі пальцамі. Але ён не разглядваў, наогул наўрад ці ён заўважаў, што наўкола, – ён думаў. Тая грубаватая самаўпэўненасць, якая часам усплывала ў ягоных вачах, калі ён сварыўся з Грыневічам, цяпер канчаткова мінулася, саступіўшы месца труднай, нязвыклай для яго засяроджанасці. Я мала што разумеў у ягоных перажываннях, хіба здагадваўся пра што-колечы, але я кожным сваім нервам адчуваў ягоную бяду, і мне самому было пакутна.

З нізкага, хмарнага неба зноў замжыла сцюдзёным

дажджом, хлопцы на раскапаным адхоне пачалі нацягваць над акопчыкамі свае нявысахлыя яшчэ палаткі. У мяне ж палаткі не было, камсастаўская накідка Ананьева таксама недзе прапала, мы патроху моклі, але камроты на гэта не звяртаў увагі. Я падумаў, што, напэўна, трэба ісці, ён жа мяне на світанні ўжо выпраўляў з роты, але цяпер я проста не мог наважыцца сказаць яму аб гэтым, зноў жа мне не хацелася ісці ў тыл з Грыневічам. Пасля ўсяго, што здарылася, мая непрыязь да намесніка, якая ўзгарэлася ў траншэі, калі ён застрэліў Пульку, стала амаль пастаяннай, цяпер яе не магло пахіснуць і ўсведамленне таго, што ў гэтай сутычцы з Ананьевым праўда была, напэўна, за нампалітам. Але гэта, здаецца, была тая праўда, якая не надта лепей за вінаватасць.

Я счакаў яшчэ крыху і ўстаў, каб напомніць камроты аб сваім лёсе: колькі ж можна было сядзець тут параненаму?

І тут вышыня, якая некалькі гадзін запар насцярожліва маўчала, раптам загаманіла басіста-нетаропкай буйнакаліберная чаргой.

– Даседзеліся! – павяртаючыся да вышыні, буркнуў І камроты і вылаяўся. – Хутка з мінамётаў лупіць пачне.

Але з мінамётаў пакуль не лупілі, а кулямёт таксама замоўк, хоць, вядома, яго паяўленне на вышыні не абяцала роце дабра. Шапа, акопчык якога быў праз дзесятак крокаў у насыпе, вылез на стаптаны адхон з лапаткай.

– Таварыш старшы лейтэнант, вам дзе выкапаць?

– Чакай ты!

Ананьеў нетаропка ўзлез на сваё ранейшае месца і асцярожна выглянуў над дарогай. Наступная чарга з вышыні ўжо не была нечаканасцю, камроты адно толькі ўгнуўся, штось прыгаворваючы самому сабе. І тут, уражаны раптоўнай здагадкай, я кінуўся да камандзіра роты.

Але я здагадаўся позна.

Ад самага фланговага акопчыка сюды ўжо хтось бег над канавай, трывожна пакрыкваючы і паказваючы рукой на пагорак. Ананьеў павярнуўся ў ягоны бок, мабыць, зразумеў таксама, і на руках і каленях падаўся па адхоне да Шапы.

– Ты і Грыцук – бягом! І глядзіце там...

Шапа, як заўжды, сцяміў загад з паўслова, моўчкі падхапіў аўтамат і пабег за адхонам угору. Камандзір роты, выцягшы шыю, з непакоем глядзеў яму ўслед. У канцы ланцуга, дзе насып ра-біўся ўсё ніжай, яны папаўзлі па канаве і хутка зусім схаваліся.

«Чорт, няўжо падстрэлілі?» – падумаў я і адразу апаныў: мне ж таксама трэба было ісці той жа дарогай.

У трывожнай самоце чакання мінула каля гадзіны. Кулямёт, аднак, не страляў, а дождж усё спарнеў, туманная мгла ў хмарным небе слалася нізка, амаль чапляючы за пагорак. Я падумаў, што гэта добра, непагадзь нас прыхавае лепш за ўсё. Іначай з гэтай лагчыны не вырвацца.

На жаль, наша асцярога спраўдзілася. Яшчэ здалёк стала відаць, што аўтаматчыкі кагосьці нясуць – удвох, на палатцы, няспрытна прыгінаючыся за невысокім упачатку насыпам, хістагочыся пад цяжарам ношы. Калі яны падышлі бліжэй, з крайніх акопчыкаў нехта падскочыў да іх і на хаду пераняў з рук аднаго рог палаткі – слізгаючы, утрох яны пайшлі хутчэй. Ананьеў зышоў з адхону і туга сцяў сківіцы: цяпер ужо не было сумнення – нампаліту папала.

Яны апусцілі палатку ля ног камандзіра роты, Шапа зморана ссунуў з потнага лба мокрую шапку, двое ягоных памочнікаў засмучана стаялі насупраць.

– Вось, – сказаў Шапа. – У галаву. І каску ўшчэнт.

– Куляй?

– А чорт яго... Разрыўной, пэўна.

Жаўтлява-белы, неяк дзіўна паспакайнелы твар нампаліта з насунутай на вочы павязкай раптам крануў непакой.

– Ну што, камісар? – з грубаватай спачувальнасцю запытаў камроты.

– Ось, не атрымалася... – стрымліваючы стогн, сказаў нампаліт. – Не прайшоў.

Ананьеў прысеў побач на кукішкі.

– Баліць?

– Муціць, унутры... – выціснуў паранены. – Дрэнь мая справа

Камандзір роты падняўся.

– Ану, уладкуйце лейтэнанта, каб зручней было...

Шапа збегаў да хлопцаў, прынёс нечую ватоўку, хуценька разаслаў яе на мокрай траве. Пасля ўчатырох мы засцярожліва паклалі на яе Грыневіча і дбайна ўхуталі яго палаткай. Пад голаў загнулі канец рукава.

– Дрэнь справа, – аблізваючы ссінелыя вусны, ціха сказаў Грыневіч. – Ты не крыўдуй, Косця. Сам ведаеш...

– Сволачы! – вылаяўся камандзір роты і крута адвярнуўся.

Ён кінуў погляд на вышыню, якая ўсё болей ахутвалася дажджлівым туманам, зірнуў на пагорак, абстраляны буйнакаліберным. У ажывелых вачах камроты з’явіўся нейкі намер, і я абнадзеена падумаў, што, мабыць, цяпер ён скарыстае магчымасць адвесці роту назад на пагорак. З вышыні, здаецца, нас не заўважаць. Толькі Ананьеў маўчаў, і я не мог гэта падказаць яму – такога роду падказак ад падначаленых ён не прымаў.

– Дай закурыць!

Я не курыў, ён ведаў гэта і ніколі не звяртаўся да мяне па курыва, але цяпер ён, мусіць, проста забыўся, хто ля яго. Праўда, ён тут жа зразумеў сваю памылку і павярнуў голаў да Шапы:

– Ты, нясі закурыць...

– Калі ласка!

Баец увішна падбег да камандзіра роты і, стаўшы на калена, нацярушыў з бушлата трохі махоркі. Затым дастаў і паперы. Ананьеў закурыў, унікаючы нашых стрымана-запытальных позіркаў.

– Пакліч Піліпенку!

Мы абодва памкнуліся бегчы, але старшы лейтэнант жэстам вярнуў мяне на месца.

– Шапа, ты!

Шапа рынуўся з адхону, а камандзір роты яшчэ раз, ужо болей уважліва, паглядзеў на затуманеную вышыню. І раптам ён павярнуўся да ўзвода:

– Падрыхтавацца да атакі!

У мяне ўнутры быццам абарвалася штось, я стаяў, сам не адчуваючы сябе, не зусім верачы таму, што пачуў. Але Ананьеў не жартаваў, гэта было зразумела адразу, камандзір роты быў поўны рашучасці дабіцца выканання свае каманды. А дабіцца ён умеў.

Нехта выскачыў са свайго гразкага сховішча, над акопчыкамі заварушыліся палаткі, кляймёныя трафейныя коўдры, розныя вайсковыя лахманы. Схіл насыпу імгненна ажыў – усе занадта добра разумелі, што для нас азначае гэта кароценькая каманда.

Тым часам па балацявінцы ўжо бег Шапа, за ім, трошкі адстаючы, грузна трухаў Піліпенка з каскай на дзязе. Камандзір роты зацята чакаў на насыпе... Нязграбна пералезшы канаву, старшына з залішняй цяпер афіцыйнасцю адказыраў і спыніўся, неспакойна

пацепваючы плячыма і кідаючы страхавітыя позіркі на прыкрытага палаткай Грыневіча.

– Колькі чалавек маеш? – запытаў камроты.

– Я?

– Ты.

Піліпенка на момант збянтэжыўся, пераступіў на квякучым дзірване. Вядома, ён ужо палічыў сябе радавым і, мабыць, патроху звыкаўся з тым, а тут ротны, нібы нічога кепскага між імі і не здарылася, пытаўся пра ўзвод.

– Пятнаццаць, кажысь, – няўпэўнена сказаў старшына.

– Патронаў ёсць трохі?

– Трохі ё.

– Падрыхтавацца да атакі.

– Зараз?

– Зараз!

– Ёсць! – з незразумелай амаль радаснай рашучасцю гыркнуў Піліпенка. І ні здзіўлення, ні якога пытання – ён успрыняў загад так проста, нібы ад яго патрабавалі строіць узвод на вячэру ці ў лазню. Пасля ўжо я зразумеў, што тым самым Піліпенка без лішніх слоў вяртаўся да свае ранейшай пасады, якая, аказваецца, штосьці ўсё ж для яго значыла.

– І давай усіх сюды. У агульны ланцуг.

– Ну, відома, у агульны, – падхапіў Піліпенка. – Так мацней удрыты.

Камандзір роты ўважліва паглядзеў на старшыну.

– І ты глядзі мне! Каб не цягнуліся, як на базар. Браском!

– Нэ хвалюйтэсь, побіжаць. Я іх...

Ананьеў, не даслухаўшы, павярнуўся да Шапы.

– Прымай другі ўзвод.

– Я?

– Ты.

– Ёсць! – не адразу сказаў Шапа, і было не зразумець, узрадвала гэта яго ці занепакоіла.

– Што – не ўкамандуеш?

– Паспрабуем.

Камандзір роты крыху падумаў ці, можа, прыслухаўся. Але на вышыні было ціха, навокал ледзь чутна шапацеў золкі надакучлівы дождж. Толькі недзе далёка за пагоркам глуха таўклі зямлю выбухі.

– Пятнаццаць мінут на падрыхтоўку і – упярод!

Ананьеў сказаў гэта і змоўк. Новыя ўзводныя стаялі, не варухнуўшыся – насупраць унізе Піліпенка і з боку ад яго Шапа. Яны чакалі, што ён скажа яшчэ, але ён коратка кінуў: «Усё!», і яны хуценька пабеглі – адзін цераз поле, другі ў той канец насыпу. Камандзір роты ўзбег на адхон. Мяне ён быццам не заўважаў.

Што ж, атака – дужа звычайная на вайне справа, хоць, ведама, зусім прывыкнуць да яе нельга. Колькі б разоў ты ні паднімаўся ў атаку і ні асільваў у сабе свой страх, але кожны наступны будзе гэткі ж страхавіта-знобкі, як і ўсе ранейшыя. Ой, як не хочацца вылазіць са свайго выратавальнага акопчыка ў вялікі грымотны свет, скрозь пранізаны кулямі ды асколкамі, самага маленькага з якіх зусім дастаткова, каб скончыць тваё адзінае і такое неабходнае табе жыццё! Боязна ўставаць, але трэба. Кожную атаку вызначае загад вышэйшага камандзіра, план бою. Часам таго вымагае вораг, які, калі не знішчыць яго, знішчыць цябе.

Тут жа атакі не вымагаў ніхто.

Я перажываў і не ведаў, як падысці да чужога, рэзкага, проста злога і зацятага камандзіра роты, каб сказаць яму аб гэтым.

– Таварыш старшы лейтэнант!

Лежачы бокам на растаптаным адхоне, ён назіраў за праціўнікам і не павярнуў нават галавы. Але ён чуў мой зварот, нешта западозрыў у ім і насцярожыўся. І я, стоячы ніжай, у трох кроках ад яго, ціха сказаў, каб учуў толькі ён і ніхто болей:

– Дарма вы.

– Што?

– Дарма, кажу.

Ананьеў марудна, бы ўпершыню мяне тут заўважыўшы, павярнуўся на локці.

– Што? – перапытаў ён такім тонам, што я аж сцяўся, і ён змераў мяне працяглым, варожым позіркам. – А ты якога д’ябла тут акалачваешся? Я табе што загадаў? Ану, марш у тыл! Бягом!!

Ён крычаў на мяне ўпершыню. Ніколі раней я не чуў ад яго злога слова, бо з усяе сілы стараўся не заслужыць нават заўвагі, і ён тое ведаў. А тут крык! І амаль непрыкрытая непрыязнасць у позірку... Спярша мяне гэта здорава такі збянтэжыла, і я моўчкі стаяў з такім уражаннем, нібы пад нагамі загойдаўся і ціха паварочваецца кудысь і адхон, і дарога, і ўвесь белы свет. Але вельмі хутка стала зразумела, што не я быў прычынай нястрыманасці камандзіра роты, а хутчэй яго ліха, ягоная безвыходнасць і, мабыць, бездапаможнасць, а я толькі падвярнуўся яму не ў час. І мне не стала ні крыўдна, ні злосна, было толькі надта ўжо прыкра.

Між тым сюды ўжо бег першы ўзвод. Паўтара дзесятка аўтаматчыкаў гуськом трухалі па ўзмежку. Піліпенка, матляючы поламі даўгаватага шыняля, ужо збягаў у

балацявінку. Я засцярожліва зірнуў на вышыню – на шчасце, вяршыня яе ўсё хуталася ў волкім тумане, інакш не шмат іх дабегла б да насыпу.

Ананьеў сеў на адхоне і саўгануў кабур «вальтэра» бліжэй да спражкі.

– Дай каску! – раптам сказаў ён, ужо без нядаўняй варожасці, нібы тым даючы зразумець, што больш на мяне не злуецца.

Не ведаючы, як рэагаваць на тое, я здзёр цераз падбародак мокры брызентавы раменьчык каскі і аддаў яе камроты.

– Толькі там донца няроўна падвязана, – папярэдзіў я.

– Што?

– Донца, кажу, крыва падвязана.

– Чорт з ім! Донца!..

Ён прывычна сунуў галаў у каску, але мокры раменьчык не налязаў на яго касцістую шырокую сківіцу, і тады ротны закінуў раменьчык на беражок каскі.

– Смажанаму карасю кот не страшны, – са значэннем сказаў ён. – Паняў?

Не, я ўсё яшчэ мала што разумеў у прычынах яго намераў і з жалем і прыкрасцю пакорна стаяў насупраць. Ззаду ўздоўж насыпу ўжо разбягаліся аўтаматчыкі першага ўзвода. Піліпенка, чутна было, са звыклай грубаватасцю пакрыкваў:

– Нэ высовуйся. Нэ лізь попэрэд бацька в пэкло. Чого не бачыв?!

– Ось так! – сказаў Ананьеў, нібы гаварыць нам ужо не было пра што, і гукнуў: – Чумак, ка мне!

Чумак падхапіўся з ланцуга і, нязграбна валюхаючы, пабег да камандзіра роты.

– Ану, бліжай! Не бойся: не ўкушу. Будзеш за ардынарца, паняў? Я цябе вывучу на героя, ядрона вош!

Чумак моўчкі стаяў, мабыць, не ведаючы, як успрымаць гэтыя словы: жартам або ўсур'ёз. Шынэлак яго ўжо быў падпяразаны нейкаю, мабыць ад штаноў, папружкай, на галаву паверх шапкі натыркнута нечая абшкрэбаная каска. І тут я міжвольнаа зірнуў на яго ўсё тыя ж даволі-такі ладныя боты і амаль жахнуўся ад выразнае і зусім недарэчнае цяпер думкі: няўжо і сапраўды яны сёння дастануцца мне?

– Васюкоў, аддай аўтамат! – дзелавіта загадаў ротны. – Паглядзіш нампаліта.

Нампаліта – няхай, але аўтамат мне аддаваць не хацелася, хоць Чумаку, вядома, нельга было без зброі. Пашкадаваўшы трохі ў душы, я зняў з пляча свой ППШ, і Чумак узяў яго з паспешнай гатоўнасцю чалавека, які баіцца, каб той, хто дае, не перадумаў. Праўда, разбіты канец прыклада яму, здаецца, не спадабаўся, але ён тут жа ўздзеў аўтамат на плячо.

Ананьеў зірнуў управа, улева – усе на адхоне глядзелі на яго, чакаючы каманды, і камандзір роты тузануў язычок кабуры.

– Да, – спахапіўся ён у апошні момант і перакінуў цераз галаў тоненькі раменьчык планшэткі. – Трымай!

Я на ляту аднаруч ухапіў ванінскую планшэтку, а ён ускочыў на броўку дарогі і азірнуўся.

– Упярод!

**16**

Аўтаматчыкі хутка паўскоквалі і ўздоўж канавы падаліся да рэчкі. Некалькі чалавек з другога ўзвода пабеглі па насыпе. Перад маімі вачыма замільгалі іх раскіслыя боты, чаравікі, брудныя полы шынялёў са зблытанымі махрамі ўнізе, і я праводзіў кожнага жаласным позіркам, нібы развітваўся з ім. Штось

кепскае, недарэчна-няўхільнае авало дала ротай, я ўсё выразней адчуваў гэта. Але што я мог зрабіць? Я быў толькі радавы аўтаматчык, вельмі маленькі на вайне чалавек, каб мець нейкую ўладу над гэтай жалезнай няўмольнасцю падзей. Я мог толькі адчуваць яе несправядлівасць, і гэта адчуванне кідала мяне ў роспач.

Здаецца, упершыню я апынаўся ў становішчы назіральніка з тылу, упершышо рота пайшла без мяне, упершыню Ананьеў павёў яе ў атакў не са мной – з другім. Ведама, яго словы наконт Чумака-ардынарца я не надта прымаў усур’ёз (якi там з Чумака ардынарац!) і ўсё ж не спускаў з іх вачэй, гледзячы, як яны беглі па дарозе да рэчкі, разам пераходзілі яе па бэльках. І тут мне з невясёлай усмешкай падумалася, што гэты Чумак надта ўжо дбайна ўзяўся за выкананне сваіх абавязкаў – падобна, і на самой справе паверыў, што камроты зробіць з яго героя.

Аўтаматчыкі палезлі ў рачулку, ля дарогі ўжо не засталося нікога, наўкола зрабілася нязвыкла ціха і пуста. Грыневіч, нібыта нежывы, роўна ляжаў пад насыпам, невідушча падставіўшы дажджу бледны з цёмнаю шчэццю твар. Здаецца, папала яму здорава. Цяпер у маю трывогу за роту ўплятаўся яшчэ і непакой за лейтэнанта – хоць бы ён пратрымаўся да адпраўкі ў тыл. Збегшы ўніз з адхону, я ціха спытаў:

– Ну, як вы?

– Васюкоў, да? Кепска, брат, – прастагааў нампаліт.

– Даць вады?

– Дай трохі.

Вады ў круглым кацялку, пакінутым ля параненага, было нямнога, ды і той я палову разліў, пакуль няўмела, адною рукою, паіў небараку. Пакутна глытнуўшы разы два, ён ледзьве не задыхнуўся, чым амаль напалохаў мяне.

– Ну, як?

– Усё добра, – выраўняўшы дыханне, сказаў лейтэнант, – рота пайшла?

– Пайшла. На тым баку ўжо.

Асцярожна я паправіў на яго галаве шапку, якая прыкрывала ад дажджу пухлую няўмелую павязку, вышай нацягнуў палатку. Выгляд нампаліта мне надта не падабаўся – але што можна было зрабіць?

– Не трэба было вам ісці, – сказаў я з папрокам за яго нядаўнюю спрэчку з Ананьевым.

– Не трэба. Пагарачыўся. Але гэты Ананьеў... Не думае, што робіць.

– Што ён такога зрабіў?

– Не разумееш? Зразумееш калі-небудзь.

Магчыма, я чагосьці не ведаў або не разумеў чагось, што было добра вядома ім, болып вопытным на вайне і ў жыцці. Але мне ўсё здавалася, што як Грыневіч у сваёй нядаўняй гарачнасці, так і Ананьеў у апошнім рашэнні на атаку – абое памыляюцца. Апроч таго, усё гэта так заблытвала наша становішча, што яно ўжо вельмі нават проста магло абярнуцца бядой.

Аднак з параненым мне не сядзелася. Надта ўжо журботна было глядзець на яго абяскроўлены, пакутна-нерухомы твар, зноў жа адсюль не было відаць роты. Пакінуўшы лейтэнанта, я ўзбег на адхон і прысеў, высунуўшы з-пад дарогі галаў.

Дожджык усё імжэў, усё шырэй расплываўся туман у лагчыне, снегу на тым баку рэчкі заставалася няшмат – абталыя шызыя плямы на мокрым, гразкім схіле, па якім у трэці раз беглі аўтаматчыкі. З усё большай і болынай тугой у душы я глядзеў, як катастрафічна хутка змяншаецца ў імглістай прасторы кароценькі іх ланцужок. Даўняя звыклая сувязь між намі ўвачавідкі рвалася, штосьці няўхільна-пагрозлівае ўпарта

раз’ядноўвала нас, я невыразна адчуваў гэта, але працівіцца яму не мог, бо гэта невыразнае, неканкрэтнае нешта было мацней за мяне, за іх і за ўсю нашу роту. Ананьеў то бег, то хутка ішоў, наўкось па схіле, аднойчы нагнуўся, таропка перавярнуў на спіну цела забітага, узяў яго аўтамат. Пасля ён хвіліну бег, займаючы сваё месца ў ланцугу, а хтось, што ішоў ззаду – можа, Чумак, – нядоўга затрымаўся над трупам – здаецца, знімаў сумку з дыскамі або гранатамі.

Рота дасягала сярэдзіны схілу. Ужо не лёгка было і згледзець яе за імглістай заслонай дажджу, якая, на шчасце, хавала аўтаматчыкаў і ад немцаў. Толькі ці надоўга? З вышыні іх вось-вось павінны былі ўбачыць, і тады...

Тым не менш немцы маўчалі. Цяжка было паверыць, што яны і ў другі раз так зазяваліся, што не заўважаюць атакі. Кепска было відаць, але мне здавалася, што верх вышыні ўжо зусім блізка. Яшчэ адзін, самы апошні рывок і можна будзе кінуць гранату, выскачыць з-за абрыву і, калі пашанцуе, з ходу заняць канец траншэі. Эх, каб хоць адным аддзяленнем удалося ўварвацца ў траншэю!..

Унізе ў засяроджанай адзіноце маўчаў Грыневіч, я не адразу зразумеў, што і ён чакае вестак з вышыні, і, мабыць, не дачакаўшыся таго, што хацеў, аклікнуў:

– Васюкоў! Дзе рота?

– Пайшла, пайшла.

– А чаму не страляюць?

Гэтага я не ведаў. Не стралялі ні нашы, ні немцы. Тым часам ужо ўся рота схавалася ў імгле. Толькі пільна ўзіраючыся, можна было разгледзець дзе-нідзе пад самай вяршыняй нешта падобнае на рух. І па-ранейшаму не чуваць было ні стрэлу, ні крыку, ні голасу, – вышыня замерла, заціхла, затаілася. Надта падобна было, што аўтаматчыкі і на самай справе дасяглі траншэі.

А можа быць, немцы адышлі?

Было ж такое, і нават не адзін раз, калі нямецкія пазіцыі, за якія мы біліся дзень, два і некалькі дзён, раптам аказваліся непрыкметна пакінутымі, і мы займалі іх без усякага бою. Сапраўды, мы ж не адны тут, нашы часці недзе ўсё ж б’юць фашыстаў, вунь як грыміць убаку, дзе балыпак.

Хада маіх думак раптам набыла іншы кірунак, падумалася: які ж я размазня, калі столькі перадрыжаў задарма. Сапраўды, там жа Ананьеў, ён знае, умее прадбачыць, як зрабіць, каб найлепш. У чым-небудзь іншым ён, можа, і не майстар, у нечым ён, вядома, уступіць Грыневічу, Ваніну, нават Цвяткову, але ў такой справе, як бой, ён выдатна навучаны. Тут ён прафесар, генерал, калі не сам маршал.

Я ўжо адчуў у сабе нешта зусім інакшае, чым хвіліну назад, у свядомасці загарэўся жаданы агеньчык надзеі, каторы, аднак, шукаў сабе пацвярджэння. Так хацелася знайсці і яшчэ хоць бы адну прыкмету таго, што ўсё добра, што і на гэты раз роту ашчаслівіла ўдача.

І тут грымнула.

Спярша здалося, што гэта выбух, але зараз жа імглістае неба над лагчынай туга прарэзалі пранозлівыя струмені куль, наўкола зашчоўкала, задзігала, завыла – дажджлівы прастор у адно імгненне напоўніўся грымліва-скуголістай ліхаманкаю бою. У першыя секунды было такое ўражанне, што вышыня не вытрымае вогненнага грукату, разваліцца на кавалкі, але агнявы напор і яшчэ мацнеў. Адзін раз пачуўся крык, магчыма, каманда або лаянка, праўда, не зразумець было, на якой мове. Баючыся міргнуць, я да рэзі ў вачах углядаўся туды, спрабуючы хоць што-небудзь разгледзець у вірліва-траскотнай імгле, але імгла па-ранейшаму не давала нічога ўбачыць.

У нейкім гняўлівым шаленстве вышыня з паўгадзіны абрушвала ў наваколле стогалосы гром, у якім і на слых ні чарта немагчыма было разабраць. Чэргі

згрувашчваліся ў суцэльны працяглы грукат, з якога разы два, нібы незнарок, выбіўся дальні басовы стук буйнакаліберната, але затым амаль залпам загахалі гранатныя выбухі, яны заглушылі сабой усё. Некалькі выпадковых куль з тугім пошчакам ляснула непадалёк аб насып дарогі, я апусціўся на адхоне ніжэй, уціснуў галаву ў плечы. Агонь быў шалёны, і здавалася надта сумніцельным, каб на такі былі здольны нашы якія-небудзь тры дзесяткі аўтаматчыкаў. Што ж, тады, значыць, немцы? Аднак у такім выпадку рота абавязкова павінна адкаціцца – гэта я ўжо ведаў з уласнага вопыту.

І тым не менш ішоў час, а на схіле не было відаць ніводнага руху адтуль.

Але вось траскотны агнявы напор стаў патроху слабець, тым азначаючы, пэўна, пералом у баі, я зноў пільна ўглядзеўся ў прыцьмелыя схілы, ды ўсё марна. Значыцца, не адступаюць, усе там. Але тады – выходзіць, уварваліся?

Зноў даляцеў як бы нейкі голас, і зноў немагчыма было здагадацца, чый гэта быў голас – нашых ці немцаў. Аўтаматы бязладна патрэсквалі ў розных мясцінах, нібы хтосьці нябачны на вышыні рыўкамі рваў дужа крэпкі сувой зрэбніны. Кулі, аднак, над дарогай не лёталі, і я падумаў, што страляюць, напэўна, у той бок. Але гэта ўжо значыла, што агонь вядуць нашы.

Усё ж поўнай упэўненасці ў тым у мяне яшчэ не было, і я ўсё ўзіраўся праз імглу на раскіслыя плямы снегу за рэчкай – ужо б я заўважыў, калі б там хто бег. Ды з вышыні ніхто не паказваўся.

Яшчэ праз чвэртку гадзіны разрознены трэск аўтаматаў спыніўся, і неяк нясмела ўсё навакол заціхла.

**17**

Я чакаў цярпліва і трывожна: калі рота адбіла вышыню, значыць, Ананьеў павінен быў кагосьці прыслаць за

намі. Яшчэ не верачы, што ўсё абышлося, я ўжо выглядваў яго, заўжды жаданага пасланца з бою, які б канчаткова супакоіў нас весткай, што вышыня ўзята. Але ён чагось бавіўся, што, зрэшты, можна было зразумець толькі скончыўся бой і там таксама, вядома, не абышлося без страт.

Паранены нампаліт унізе, які ўвесь час ляжаў, нібы нежывы, раптам пачаў варушыцца.

Я ўскочыў, паслізнуўся, загарнуўшы полы шыняля, споўз да канавы.

– Што, дрэнна вам?

Да скрыпу сцяўшы сківіцы, ён канвульсіўна напружыўся на зямлі, нібы спрабаваў разарваць на сабе нябачныя путы, галава яго закінулася, забінтаваная патыліца ўціснулася ў гразь. Хвіліну паранены змагаўся з болем або нейкаю нядобрай, адолеўшай яго, сілай, затым адразу абмяк і спытаў:

– Дзе рота?

– Там рота. Здаецца, узялі.

– Дай піць.

Я паднёс да яго сцятых зубоў беражок кацялка, зноў разліў ваду, але, здаецца, хоць крыху, выпіў і ён. Потым нібыта супакоіўся, памаўчаў, праз сілу ўздыхнуў і з перапынкамі не адразу выдыхнуў:

– Не ідуць?

– Хто?

– Па нас не ідуць?

– Не, па нас яшчэ не ішлі, прынамсі, адсюль не відаць было, – і я ўхапіўся за гэта ягонае пытанне, каб зноў узлезці на насып.

– Няма нікога. Але прыйдуць, не забудуць! – знарок

бадзёра пракрычаў я зверху.

Навакол было ціха, мокра і абсалютна пуста. У гэтай цішы болей чутныя зрабіліся гукі далёкіх і блізкіх баёў; дзесь за пагоркам часам пагрукоча ды сціхне кулямёт, здаецца, наш «максім», з поўдня, аслаблены адлегласцю, глуха даносіўся магутны крэкат гармат – быццам хтосьці нябачны і агромністы качаў па зямлі вялізныя каменні: гого-го, гу-гу, гах-гах-гах! Я сеў бокам на адхон, раз-пораз паглядваючы то на туманістыя схілы вышыні, то на майго нампаліта ўнізе. Былой непрыязнасці да яго ў мяне не засталося, я ўжо шкадаваў бедалагу – усё ж параніла яго куды як сур’ёзна. Не ў прыклад камандзіру роты Грыневіча ў нас не баяліся, хоць не так ужо і любілі: ні благога, ні надта добрага ён, здаецца, нікому не зрабіў, паводзіў сябе, праўда, трохі сухавата, па-вайсковаму афіцыйна.

З усіх камандзіраў, якія перабылі за паўгода ў роце, ён быў не найгоршы і ўжо, напэўна, такога жорсткага лёсу нічым не заслугоўваў.

– Ну дзе ж яны? – зноў пачаў ён напружвацца пад плашч-палаткай.

Пакінуўшы сваю наседжаную, больш-менш сухую мясціну на адхоне, я ў каторы ўжо раз збег уніз.

– Зараз, зараз. Хутка прыйдуць, – абяцаў я, сам ужо губляючы ўпэўненасць у тым, што казаў.

Сапраўды, як бы там ні было на вышыні, пара б ужо ўспомніць і пра нас, пакінутых у гэтай гразі.

– Можа, збегаць туды? – прапанаваў я.

– Не! – сказаў ён праз стогн. – Ні ў якім разе.

Я пасядзеў на кукішках ля яго ног і падняўся; гэтае праклятае чаканне ўжо цяжка было трываць. Ды і мая параненая рука балела, хоць і не так востра, як уначы, але, мусіць, недзе стаў прысыхаць бінт, рукой балюча было крануць, трэба б змяніць павязку.

– Нудзіць! – выдыхнуў Грыневіч, скалануўся і, нібы спяшаючыся кудысь, з таропкай рашучасцю сказаў: – Васюкоў, ідзі ў тыл.

– А вы?

– Я ўжо. Адваяваўся. Паглядзі, не ідуць?

Не, ні на схілах, ні на дарозе нікога не было, сыпаў дождж, абмяжоўваючы і без таго сціснутае непагаддзю наваколле.

Зноў з’явілася і пачало мацнсць нядобрае прадчуванне бяды.

Прыкметны непакой прамільгнуў і на збялелым, завостраным твары Грыневіча, калі я зноў спусціўся да яго. Моўчкі хвіліну я ўзіраўся ў гэты ягоны твар, не хочучы турбаваць параненага сваёй тут прысутнасцю, але ён, пэўна, пачуў мяне і з ціхай настойлівасцю выдыхнуў.

– Ты тут? Не трэба. І... гэтае самае... мы ж землякі.

– Як? – сарвалася ў мяне. – Вы хіба з Беларусі?

– Іменна. З Барысава.

Бог мой – як жа так здарылася? Чатыры месяцы мы праваявалі разам, кожны дзень побач – і спалі, і елі, і нават калі-нікалі ён пакрыкваў на мяне, а я і не падумаў нават, што ён – мой зямляк. Чаму ж ён не намякнуў мне аб тым раней – беларусаў жа ў роце, апроч нас, здаецца, не было нікога.

– Чаму ж вы не сказалі? – папракнуў я з прыкрасцю, апускаючыся ля яго на калені.

– А нашто? Нашто аддзяляцца?

Ды не аддзяляцца – пры чым тут аддзяляцца, – проста я зусім другімі б вачыма глядзеў на яго ўсю зіму, можа б, я зрабіў для яго што добрае – столькі было выпадкаў, калі я праносіў міма яго свой клопат і сваю ўвагу, без

якіх, зрэшты, нампаліт надзіва ўмеў абыходзіцца. Ён не меў ардынарца, і ніколі яму нічога не было патрэбна.

На мяне хлынула амаль пяшчота да нампаліта, страх за яго жыццё ахапіў мяне з новаю сілай. Трэба было нешта рабіць, неяк ратаваць лейтэнанта, але я не ведаў, куды цяпер можна падацца.

Раптам ён надта напружыўся, крута адкінуў галаў і, выгнуўшыся, павярнуўся на бок. Шапка ўпала з яго галавы, нязграбная тоўстая павязка з бруднымі слядамі ад пальцаў на марлі ссунулася на вуха. Я ўхапіў яго за плячо, каб не даць яму і зусім скаціцца з ватоўкі, і адчуў пад пальцамі неймаверна гарачае на холадзе яго цела. Грыневіч заторгаў нагамі, нібы спрабуючы скінуць з сябе палатку.

– Што з вамі? Што вам? – спалохана загаманіў я, але ён ужо не адказаў.

Я пачаў прытрымліваць яго на ватоўцы – ён жа ўсё кідаўся ў бакі, адной рукой справіцца мне з ім было цяжка. Да таго ж, здаецца, ён перастаў пазнаваць мяне і не дужа выразна, у нос, як ніколі не гаварыў раней, выкрыкваў:

– Гарохаў, Гарохаў! Эх ты! Бяжы скарэй! Стой! Паклічце Гарохава!..

Ён неўпрыцям скалануўся, абаперся на рукі і прыўзняўся, зблізку і недаўменна зірнуў мне ў твар шырока раскрытымі вачмі, якія наўрад ці што бачылі. І, нібы падкошаны, упаў дагары на ватоўку.

– Здаецца, я ўсе...

– Што вы? Таварыш лейтэнант...

– Ладна. Ты ідзі, – раптам памяркоўна і выразна сказаў ён. – Я буду паміраць.

– Ды што вы?!

Па яго тоне і па ўсім яго выглядзе я зразумеў, што ён

не памыляецца, і не на жарты спалохаўся. Трэба было неадкладна нешта рабіць, але ў мяне нават не было вады – пусты кацялок ляжаў на зямлі, і дождж далікатна барабаніў па ягоным баку.

Не раздумваючы болей, я схапіў кацялок і ля канавы пад насыпам пабег да рэчкі.

Гучна квякаючы абцасамі ў набрынялым вільгаццю дзірване, я падбег да берага. Вада тут была глыбакавата. Каб дацягнуцца да яе, трэба было ўкленчыць, і я, выцягшы руку, таропка ўзмахнуў кацялком. Аднак лёгкі кацялок няслушна віхляў на драцяной дужцы, не хочучы набіраць вады. Я схіліўся ніжэй, але ў тое ж імгненне ад спалоху рэзка ўскінуў галаву і застыў у секунднай разгубленасці.

Насупраць за рэчкай з туманнай дажджлівай імглы ля дарогі вынырнула цьмяная постаць у касцы, побач паявілася яшчэ двое, я павёў позіркам далей і ўбачыў увесь іх ланцуг, які насцярожана і хутка крочыў па стаптаным схіле ўніз.

Упусціўшы кацялок, я адхіснуўся ад вады, здушана крыкнуў:

– Немцы!!

Але было позна. Я паспеў толькі ўскочыць, як блізкая аўтаматная чарга, хлёстка шчоўкнуўшы пад нагамі, распластала мяне на траве галавой да ракі. Захлынуўшыся крыўдай, я апошнім звышнамаганнем пераваліў сваё цела на бок, але ўстаць ужо не мог. Позірк слізгануў па мутнай, усеянай дажджавой рабізной вадзе, у якой ля самага берага ціха пагойдваўся мой круглы скасабочаны кацялок...

## Сотнікаў

### 1

Яны ішлі праз лес глухой, замеценай снегам дарогай, на якой не было ні чалавечага следу, ні каляіны, ні нават знаку ад капыта ці полаза. Тут, мусіць, і ўлетку не часта ездзілі, а цяпер, пасля доўгіх лютаўскіх мяцеліц, дык і ўсё зараўняла снегам, і каб не лес - елкі ўперамежку з хмызам, - які няроўна расступаўся па абодва бакі, пакідаючы ўсярэдзіне вузкую белую крывуліну, дык было б і не здагадацца, што тут дарога. І ўсё ж яны не памыліліся. Углядаючыся праз голы, затуманены прыцемкамі хмызняк, Рыбак усё больш пазнаваў гэтую пуцявіну, якую ён памятаў яшчэ з восені, калі пад нагамі плюхалі лужыны, а ў лесе густа церушыў лістапад і восеньскі вецер імжыў наўкола нудным сцюдзёным дажджом. Тады іх чалавек пяць з групы Смалякова неяк пад вечар таксама прабіралася па гэтай дарозе на хутар, і таксама каб раздабыць харчу, ну і яшчэ адпачыць і пасушыцца ў цяпле. Вунь якраз і знаёмы равок, які доўгім крутабокім языком выцягнуўся да самай дарогі, і тая, ухінаючыся ад яго, брала ўлева, у хмыззё, і неўзабаве знікала ў алешніку, праглынутая змрокам. Тут яны сядзелі тады ўтрох і курылі, чакаючы, пакуль двое, што пайшлі на хутар, не пададуць сігнал ісці следам. Цяпер, аднак, у равок было не ўлезці - з берага звісала намураваная мяцеліцай снегавая застрэха, голыя дрэўцы на схіле з суччам патанулі ў снезе.

Над вяршаллем хвой угары лёгка слізгаў вышчарблены маладзічок месяца, які амаль не свяціў, толькі ледзь бліскаў у імглістым ззянні, аздабляючы змрочнае без зор неба. Але з ім было неяк весялей, нібы хтось жывы рупна праводзіў іх у гэтай дарозе. У лесе ж наўдаль было змрачнавата, няпэўна ад цьмянае мешаніны ельніку, нейкіх плямаў, галля, аднак паблізу, на чыстай белі снегу, няблага ўгадвалася дарога. Тое, што яна аказалася зусім без следу, па цаліку, хоць і давала працы нагам, але засцерагала ад нечаканасцяў: наўрад ці хто будзе пільнаваць іх тут, у гэтай глушэчы марознай начы. Тым не менш Рыбак усё ж асцярожнічаў, асабліва пасля няўдалага заходу ў Гліняны, дзе яны, пэўна, трапілі б у рукі немцаў, калі б не адзін дзядзька, сустрэты імі з дровамі. Дзядзька,

дзякуй яму, папярэдзіў, што пад вечар у вёску наехала немцаў, і яны павярнулі ў лес, да гэтага хутара.

Зрэшты, выпадковай сутычкі Рыбак не асабліва і баяўся, тым болей у лесе ці нават у полі - у іх была зброя. Праўда, трохі малавата назбіралася патронаў, ды і то няблага: тыя, што асталіся на Гнілым балоце, аддалі ім усе лішкі са сваіх таксама болей чым небагатых запасаў. Цяпер, не лічачы пяці штук у вінтоўцы, Рыбак меў яшчэ тры абоймы ў кішэнях кажушка, столькі ж было ў Сотнікава. Шкада, не знайшлося ніводнай гранаты, але і то не бяда - пад ранак яны ўжо будуць у лагеры. Прынамсі, павінны быць. Праўда, Рыбак адчуваў, што яны трохі бавіліся, існі трэба было б шпарчэй, снег быў не дужа глыбокі, месцамі добра спрасаваны завеяй, але падводзіў напарнік.

Увесь час, пакуль яны ішлі лесам, за спіной Рыбака чуўся прыглушаны прастудны кашаль, які гучаў часам бліжэй, часам далей, а цяпер вось дык і зусім прыціх нешта. Каторы ўжо раз Рыбак азірнуўся і збавіў кроку - Сотнікаў ледзь прыкметна варушыўся ззаду ў лясным сутонні. Рыбак не гукнуў яго і не падагнаў, толькі, прыцінаючы ў душы нецярпенне, хвілін пяць глядзеў, як той прыстала шкандыбае па снезе ў сваіх тоўстых стаптаных бурках. Да таго ж ён нешта незнаёма і нязвыкла сутуліўся, апусціўшы галаў у глыбока насунутай, з апушчанымі краямі пілотцы, і, калі падышоў, стала чуваць яго разгарачанае труднае дыханне, з якім той не мог саўладаць, нават спыніўшыся.

- Ну, як? Цярпіма?

- Так, - няпэўна махнуў рукой Сотнікаў і ямчэй закінуў за плячо вінтоўку. - Далёка яшчэ?

Перш чым адказаць, Рыбак памарудзіў, паўзіраўся ў перахлябістую, захінутую ў караткаваты шынелак постаць напарніка. Ён ужо ведаў, што той праўды не скажа; хоць і знямог, але будзе аднеквацца: маўляў, абыдзецца, - каб не прыняць чужой дапамогі, ці што? Чаго іншага, а ўпартасці ў гэтага Сотнікава было на

траіх. Ён і на гэта заданне трапіў, мабыць, з свае ўпартасці - хворы, а не схацеў прызнацца ў тым камандзіру, калі той падбіраў Рыбаку напарніка. Перад тым былі выкліканы двое: Глушчанка і Ўдавец, але Глушчанка толькі разабраў кулямёт, узяўся чысціць, а Ўдавец адгаварыўся тым, што надта намачыў ногі - хадзіў па ваду і праваліўся ў твань на балоце. Тады камандзір клікнуў Сотнікава, і той моўчкі пачаў збірацца, нібы ў яго не знайшлося ніякай прычыны астацца разам з усімі.

Калі яны ўжо выправіліся і Сотнікаў пачаў кашляць, Рыбак запытаўся з папрокам, чаго ён змоўчаў, тады як здаравейшыя адмовіліся, на што Сотнікаў адказаў: «Таму і не адмовіўся, што тыя адмовіліся». Рыбаку гэта здалося не зусім зразумелым, хоць пасля ён падумаў, што ўвогуле турбавацца няма прычыны - чалавек на нагах, ці варта звяртаць увагу на яго кашаль - ад прастуды на вайне не канаюць. Дойдуць урэшце да жытла, абагрэюцца, паядуць гарачае бульбачкі, і ўся хвароба адстане. Найлепшае для салдата лякарства - пад'есці.

- Тут ужо блізка. Патрывай крыху, - бадзёра абнадзеіў Рыбак і павярнуўся, каб ісці, як Сотнікаў ззаду, мабыць, не стрымаўся, закашляў неяк адрывіста, суха. Стараючыся перацяць кашаль, захінуўся рукавом, але ад таго кашаль стаў яшчэ больш нястрымны.

- А ты снегу. Снегу вазьмі, ён перабівае.

Усё змагаючыся з кашлем, які рваўся з ягоных грудзей, Сотнікаў зачэрпнуў жменяю снегу, пасмактаў, і кашаль сапраўды патроху суняўся.

- Халера, прывяжацца - хоць задушыся.

Рыбак нахмурыўся, але змоўчаў, і яны пайшлі далей.

З рова на дарогу па свежым снезе выбег ланцужок ямак-слядоў. Рыбак падумаў - сабачыя, але, прыглядзеўшыся, зразумеў, што сляды былі воўчыя. Таксама, мабыць, вабіла да чалавечага жытла - не

соладка па такім снезе ў лесе. Далей яны ўдвух так і ішлі дарогай па гэтых слядах, немітусліва роўных, упэўнена нетаропкіх. У прыцьмелай шэрасці ночы сляды не толькі азначалі дарогу, але і паказвалі, дзе снег быў мяльчэйшы, - воўк гэта адчуваў добра і заўжды абыходзіў гурбы. Яны таксама не хацелі правальвацца да каленяў, бо і так ужо прытаміліся на хадзе. Рыбак звыкла кідаў позіркі наперад і ў бакі і адначасна сачыў за воўчым следам. Зрэшты, неўзабаве павінен быў паказацца хутар, і гэта выклікала ў Рыбака новыя, больш радасныя думкі.

- Любка там. Агняная дзеўка, - раптам сказаў ён, не паварочваючыся, і Сотнікаў ззаду не ўчуў.

- Што?

- Дзеўка, кажу, на хутары. Пабачыш - ураз падужаеш.

- Табе да дзевак яшчэ!

Прыстала брыдучы ззаду, Сотнікаў расчаравана апусціў галаву - уся яго ўвага цяпер была скіравана на тое, каб не збіцца з кроку, не парушыць пасільны, асвоены ім тэмп...

- А што ж... Ось падрубаць бы толькі...

Але і ўспамін пра ежу не падагнаў Сотнікава. Усё горбячыся на хадзе, ён зноў пачаў адставаць, і Рыбак азірнуўся.

- Учора прыдрамаў на балоце, дык хлеб сасніўся. Цёплы бохан за пазухай. Прачнуўся, а гэта ад агню прыпякло. Во прыкрасць.

- Сасніцца, не дзіва што, - глуха пагадзіўся напарнік. - Тыдзень на параным жыце...

- Ды і паранае ўжо выйшла. Учора Гронскі паследні раздаў, - сказаў Рыбак і змоўк.

Усё, што сапраўды турбавала яго, ён перажываў моўчкі. Да таго ж наперадзе канчаўся лес, дарога выбаўлялася

праз хмызняк у поле, ззаду ў зімовай шэрасці шырокай сцяной чарнеўся ельнік. Далей, збоч ад дарогі, усчаўся расцяроб, замёрзлае балотца з альховымі купінамі, за якім дарога паварочвала ўлева на пагорачак, дзе з-за хмызу вось-вось павінна была выглянуць дзіравая страха пунькі, а там за плотам і дамоўка з падворкам, хлявамі і задраным асверам над студняй. Калі асвер тырчыць канцом угару, то ўсё добра, можна заходзіць, а калі апушчаны круком у калодзежны зруб, значыць - паварочвай назад, у доме чужыя. Так, прынамсі, некалі дамаўляліся з дзядзькам Восіпам. Праўда, тое было даўно, восенню, пасля яны сюды не патыкаліся - кружылі па іншых мясцінах, па той бок шашы, пакуль карнікі не загналі іх зноў туды, адкуль месяц назад выгналі.

Яны падыходзілі да павароткі. Рыбак з нецярплівасцю паглядваў паверх хмызу, але ў шэрым сутонні наперадзе яшчэ нічога не было відаць, адно шарэў перамешаны са снегам хмызняк, які бязладна распоўзся наўкола. Заглушаючы нецярпенне, хвіліну лезлі па схіле ўскрайкам дарогі. Воўк, мусіць, чуючы блізкасць жытла, цiснуўся пад самы хмызняк, ступаў роўна, нешырока, засцярожліва. Яны гэтаксама ішлі па ягоных слядах, спорна, але неспяшліва ступаючы па снезе, і ўсё ўглядаліся наперад.

Нарэшце Рыбак першы ўзлез на пагорачак і падумаў, што, мабыць, ён памыліўся - мусіць, хутар стаяў трошкі далей. Так часта здараецца, што некаторыя ўчасткі малазнаёмай дарогі прападаюць у памяці, і ўвесь шлях тады здаецца карацейшы, чым на самай справе. Рыбака падганяла нецярпенне, але Сотнікаў зноў адстаў і ўсё яшчэ стомлена гробся па схіле. Зрэшты, Рыбак ужо не звяртаў на яго ўвагі - нейкім нутраным адчуваннем ён западозрыў яшчэ невыразную, але адразу шчымліва зарупелую ўнутры трывогу.

Гэтую трывогу данёс да яго вецер.

Пунькі ў начной шэрасці ўсё не было відаць, і не відно было іншых будынін, затое некалькі подыхаў ветру адтуль, з поля, прынеслі гаркавата-едкі пах гару.

Спярша ён падумаў, што, можа, гэта здалося, мо смярдзіць адкуль з лесу, і прайшоў яшчэ сотню крокаў, з усяе сілы стараючыся ўбачыць праз хмызняк звыкла аснежаную страху пунькі. Ды марна: пунькі не было. Затое і яшчэ дыхнула гарам - не свежым, з дымам ці калі з агнём, а халодным гарам ад затухлага вуголля і попелу. Зразумеўшы, што не памыляецца, Рыбак напаўголаса вылаяўся і амаль подбегам адолеў некалькі крокаў, пакуль збоч ад дарогі не ўбачыў плот.

Плот быў на месцы, хоць і паламаны, без верхніх жардзін; некалькі пар пахілых, перавязаных лазінаю калоў коса тырчала з зямлі. Тут, за бульбянішчам, стаяла некалі тая самая пунька, а цяпер быў толькі бялюткі снегавы пагорак, з-пад якога месцамі вытыркала-бугрылася нешта чорнае - недагарэлыя галавешкі, ці што? Далей, у тым месцы, дзе была будыніна, таксама грувасціліся заснежаныя груды з недарэчна аголенай і закапцелаю печчу; там жа, дзе калісь стаялі хлеўчукі, не разабраць было - мусіць, не асталося і недагаркаў.

Рыбак спыніўся і стаяў так ля плота ўсё з той жа несціханай лаянкай у душы, не ведаючы, што рабіць і што думаць. Не верылася нават, што гэта той самы хутар, на які яны наведваліся ўвосень. Перад яго вачыма паўстала ранейшае людское жытло з яго несамавітым сялянскім утулкам. У хаце ля печы завіхалася баба Прося, пякла дранікі, а яны сядзелі без ботаў на пяколку і перасміхаліся з Любкай, якая частавала іх сушанымі арэхамі. Арэхі тыя, як, дарэчы, і сама Любка, асабліва прыйшліся даспадобы Булахаву, гаваркому байцу з пагранічнікаў - некалькі чалавек з іх далучыліся перад тым да атрада. Цяпер ужо з пагранічнікаў не асталося ніводнага. Ён нават не ведаў, калі знік Булахаў, - ён толькі спадзяваўся на кароткі прытулак у гэту сцюдзёную ноч і хацеў пад'есці. Але іх апярэдзілі на тыдзень, не болей - ён гэта вызначыў пэўна.

Тым часам ззаду падышоў Сотнікаў, які таксама зразумеў усё і ад такой навіны апанурыўся, мабыць, не

менш за таварыша. Не прамовіўшы ні слова, ён моўчкі спыніўся і глядзеў на заснежаныя рэшткі былой хутарской сядзібы. Рыбак пералез цераз жэрдку і прайшоў па двары да печы, якая сіратліва, адна на ўсім хутары, тырчала з груды, трымаючы на каптуры свяжуткую гурбу снегу. Дзіўна і нязвыкла было бачыць на ёй гэты снег, які шчыльным пластом ляжаў і на пяколку і нават замуроўваў закапцелы чалеснік. Коміна ў печы не было, мусіць, абваліўся ў часе пажару і цяпер разам з галавешкамі нязладнай кучай грувасціўся пад снегам.

- Сволачы! - вылаяўся Рыбак.

За ім на чысты снег падворка выйшаў Сотнікаў, самотна пастаяў крыху і адышоўся да студні. Калодзеж, здаецца, тут быў адзіным, што збераглося ад пажару. Цэлы быў і журавель, высока задраны вочап якога ціха пагойдваўся на ветры.

Рыбак сюды-туды пахадзіў па падворку, пнуў ботам парожняе дзіравае вядро, што валялася доле, пакратаў вобад паўзамеценага снегам паламанага кола. Болей тут не было чым пажывіцца: тое, што не знішчыў агонь, мусіць, падабралі людзі. І нікога ўжо тут не было, нават не асталося слядоў чалавечых ног, адно толькі воўчыя чарнеліся побач за плотам - мусіць, воўк таксама меў нейкія свае надзеі на хутар. Зразумеўшы, урэшце, што трэба шукаць новае выйсце, Рыбак вярнуўся да студні.

- Ну, што ты на гэта скажаш?

- Выдаў нехта. Ведама - пры лесе, - сіпата азваўся ля студні Сотнікаў і, зябка адхінаючыся ад ветру, бокам прысланіўся да зруба. У ягоных грудзях штосьці ціхенька рыпела, як у сапсутым гармоніку.

Рыбак, памаўчаўшы, запусціў руку ў кішэню шыняля і там пад патронамі і рознай драбязой набраў жменю паранага жыта - рэшту таго, што асталося з яго сённяшняй харчовай нормы.

- Хочаш?

Без асаблівай гатоўнасці Сотнікаў працяг руку, у якую Рыбак адсыпаў з свае жмені. Абодва моўчкі пажавалі сцюдзёнай паранкі.

- Падрубалі, называецца!

Рыбак разумеў, што пачынала ўсур'ёз не шэнціць, другая гэта няўдача злосцю і раздражненнем азвалася ў яго пачуццях. І не так важна было, што самі асталіся галодныя, - болей прыгнятаў успамін пра тых, на балоце, што гібелі цяпер на сцюжы і чакалі іх з якім-ніякім харчам. За тыдзень баёў і беганіны ў лясах людзі надта прыбіліся, згаладнелі, з'явіліся параненыя, траіх няслі з сабой на насілках. А тут карнікі абклалі так, што нідзе не праткнуцца, толькі вось гэты краёчак балота і аставаўся яшчэ не закрыты. Але сюды далёка не сунешся - праз тры кіламетры мястэчка з гарнізонам, патрулі на дарогах, паліцыя, і да таго ж бязлессе - туды ім дарогі няма.

Дажаваўшы ўсё са жмені, Рыбак азірнуў напарніка.

- Ну, як ты? Калі надта кепска, топай назад. Я, можа, куды ў вёску падскочу.

- Адзін?

- Адзін, а што? Не вяртацца ж з пустымі рукамі.

Сотнікаў памаўчаў, нястрымна скалануўся ад сцюжы - на месцы пачаў прабіраць мароз. Яму было холадна, усё нутро сцялася ў ледзяной знямозе. Каб захаваць рэшткі цяпла, ён глыбей насунуў на вушы пілотку і шчыльней захінуўся ў шынелак.

- Што ты шапкі якой не дастаў? Хіба сагрэе гэта аблавушка? - з папрокам сказаў Рыбак.

- Шапкі ж не растуць у лесе.

- Затое ў вёсцы ў кожнага мужыка шапка.

Сотнікаў адказаў не адразу.

- Што ж, з мужыка здзіраць?

- Абавязкова здзіраць? Можна і яшчэ як.

- Ладна, пайшлі! - абарваў размову Сотнікаў.

Яны рушылі ад студні і праз праломіну ў плоце выйшлі ў поле. Сотнікаў ураз ссутуліўся, глыбей уцягнуў у каўнер маленькую, у пілотцы, галаву. На хадзе ўжо Рыбак выдзер аднекуль з-за пазухі замусолены вафельны ручнічок і павярнуўся да Сотнікава.

- На, абматай шыю. Цяплей будзе.

- Ды ладна.

- На, на. Ён, знаеш, як шалік, грэе, - настойваў Рыбак, трымаючы ў выцягнутай руцэ ручнічок, канцы якога адразу заматляў вецер.

Сотнікаў прыпыніўся, заціснуў між каленяў вінтоўку і змёрзлымі нягнуткімі пальцамі тоўста і нязграбна абкруціў прастуджаную шыю.

- Во і харашо. Давай ірванём у Азярышча. Тут недалёка, вярсты дзве. Што-небудзь расстараемся, не можа быць...

## 2

У полі было куды халадней, чым у лесе. Насустрач дзьмуў пругкі, не моцны, але даволі марозлівы вецер, ад яго болем заходзіліся азызлыя без рукавіц рукі - як Сотнікаў ні хаваў іх то ў кішэні, то ў рукавах, то за пазухай - усё роўна мерзлі. Памарозіцца было надта проста, асабліва твар, ды і рукі; за ногі ён быў спакайнейшы - ногі на хадзе грэліся. Праўда, на правай адняліся, не чуваць сталі два пальцы, але яны адымаліся заўжды ад сцюжы і звычайна балелі ў цяпле. Тым не менш на холадзе ныла ўсё яго прастуджанае цела, якое сёння пачало яшчэ і ліхаманіць.

Добра хаця, што снег у полі быў цвёрды або неглыбокі -

яны ішлі амаль скрозь па версе, толькі мясцінамі правальваліся то адной, то другой нагой, ламаючы зацвярдзелую ад марозу скарынку. Кіравалі па быльняжку па-над узмежкам - з касагору ўніз. Ззаду са змроку валакліся два шнуркі іхніх слядоў. У полі было відней, чым у лесе, шэры прывідны змрок расхінаўся шырэй, наўкола ў доле трымцелі на ветры змёрзлыя калівы быльнягу, тамсям чарнелі адзінокія палявыя дрэўцы. Праз чвэрць гадзіны наперадзе, мусіць у лагчынцы, зашарэла нейкае кустоўе - лаза ці які хмызняк па-над рачулкай.

Па праўдзе кажучы, Сотнікаў адчуваў сябе вельмі кепска: пачынала кружыць галава, часам нават штосьці правальвалася - знікала ў памяці, і тады на кароткі час ён забываўся, дзе ён і куды ідзе. Мусіць, сапраўды трэ было вярнуцца або лепш зусім не патыкацца з лесу, ды ён проста не верыў, што можа захварэць. Яшчэ чаго не хапала на вайне - хварэць! Ніхто ў іх не хварэў так, каб вызвалялі ад заданняў, ды яшчэ такіх простых, як гэта. Кашлялі, прастуджваліся многія, але прастуда не лічылася за сур'ёзную хваробу. І калі там, ля кастра на балоце, камандзір назваў яго прозвішча, ён быў гатовы, а калі даведаўся, што па харч, дык аж узрадаваўся, бо быў, як і ўсе, згаладнелы, хацеў пад'есці, да таго ж - вабіла магчымасць пагрэцца якую гадзіну ў хатнім цяпле.

Ды во, пагрэўся.

У лесе было лепш, а тут, на ветры, ён адчуў сябе зусім блага і аж спалохаўся, што можа ўпасці, так кружылася ў галаве; ад слабасці заносіла ў бакі. Рыбак наперадзе рупна шастаў ботамі ў снезе; увесь час ён нецярпліва імкнуўся наперад, і Сотнікаў адставаў. У грудзях яго рабілася горача, спіна між лапатак макрэла ад сцюдзёнага поту, і ён думаў - хаця б абысціся без запалення лёгкіх.

- Ну, як ты?

Рыбак прыпыніўся, прычакаў яго, і ад гэтай кароценькай увагі і пытання, на якое неабавязкова было

і адказваць, у Сотнікава на момант пацяплела ў душы. Сотнікаў адчуваў, як проста было ператварыцца з напарніка ў абузу, і найбольш асцерагаўся менавіта таго, хоць і ведаў, што, калі здарыцца найгоршае - выйсце для сябе знойдзе сам, не абцяжарыць нікога. Нават і Рыбака, на якога, здаецца, можна было спадзявацца. Пасля нядаўняга пераходу шашы, калі ім давялося прыкрыць рэшткі іх групы, яны неяк паволі зблізіліся і ўсе апошнія цяжкія дні трымаліся разам. Мусіць, таму разам трапілі і на гэта заданне.

- Вось цераз нізінку пратопаем, а там за ляском вёска. Недалёка ўжо, - зноў падбадзёрыў Рыбак, стоячы да яго бокам, - чакаў, каб пайсці поплеч.

Сотнікаў дагнаў яго, і яны разам пайшлі па схіле ўніз. Снег тут стаў рыхлейшы, чым на бугры, ногі часцей бухалі, ламалі цвёрды пласт; маладзічок цяпер блішчаў за іх спінамі. Вецер разгоніста гойсаў у пустым полі, матляў поламі шыняля, сцёбаў па абмёрзлых заснежаных бурках Сотнікава. Рыбак зблізку неяк уважліва паглядзеў на сябра.

- У арміі кім быў? Мабыць, не радавым, га?

- Не, не радавым. Камбатам.

- У пяхоце?

- У артылерыі.

- Мусіць, мала хадзіў? А я, брат, у пяхоце ўсю дарогу топаю.

- І далёка пратопаў? - запытаў Сотнікаў, успамінаючы сваё адступленне на ўсход.

Але Рыбак зразумеў гэта інакш.

- Ды во, як бачыш. Ад старшыны да радавога дайшоў. А ты, мабыць, кадравы?

- Не, не кадравы. Да трыццаць дзевятага настаўнікам рабіў.

- Інстытут скончыў?

- Настаўніцкі. Двухгадовы.

- А я вось пяць класаў. І то хоць бы...

Ён не дагаварыў - раптам праваліўся абедзвюма нагамі, нягучна вылаяўся, узяў трохі ўбок. Тут пачынаўся хмызнячок, лазняк, снег стаў рыхлы і амаль ужо не трымаў наверсе; пад нагамі, здаецца, было балота. Сотнікаў нерашуча спыніўся, не знаючы, куды ступіць.

- А ты за мной. Па маіх слядах трымай. Тут нямнога ўжо, - сказаў зводдаль Рыбак і, ямчэй паддаўшы на плячы вінтоўку, даволі рашуча зашыбаваў праз хмызняк, разграбаючы ботамі снег.

Сотнікаў пахіснуўся, не трапіўшы ў ягоны след, але таксама палез у кустоўе.

Некалькі хвілін яны прадзіраліся так у хмызняку; збоч са снегу тырчала сухое трысцё, якое ціха і нудна шархацела на ветры. Неўпрыкмет перайшлі замёрзлую, засыпаную снегам рачулку і зноў пайшлі поплавам, грузнучы нагамі ў рыхлым глыбокім снезе. Сотнікава апаноўвала санліва-знямоглая абыякавасць да ўсяго на свеце. Толькі намаганнем волі ён прымушаў сябе ісці, не спыніцца і не ўпасці - у вушах са звонам гудзела - ад ветру ці, можа, ад стомы.

Урэшце яны выбраліся з кустоўя, але наперадзе іх чакаў пагорак, і на яго шырокім некрутым схіле Сотнікаву стала і зусім кепска: млелі ногі. Добра, што снег тут памялеў, а сям-там яго і зусім не было, пад падэшвамі мулялі пыльныя цёмныя плешыны. Рыбак далёка выскачыў наперад і доўга шыбаваў па касагоры, мусіць, каб выбрацца на хрыбціну пагорка і агледзецца. Але, яшчэ не ўзабраўшыся на яго, ён спыніўся. Сотнікаў падумаў, што той нешта ўбачыў - мусіць, недалёка ўжо была вёска. Снегавы пагорак, над якім вісела прысмужанае зорнае неба, крута задзіраўся ўгору і знікаў у туманным змроку. Ззаду ж шырока разлеглася шэрая роўнядзь поплаву - з кустоўем, нейкімі

невыразнымі плямамі, няпэўнымі ў змроку расплывістымі ценямі, а яшчэ далей, амаль не праглядваючыся, цьмеў дзесьці лес, з якога яны ішлі. Ён быў далёка, той лес, а наўкола стыла на марозе чыстае поле - калі што, тут падмогі ніадкуль не будзе.

Рыбак усё чакаў, і Сотнікаў з гарачнаю задышлівасцю дашкандыбаў да яго, ужо не пільнуючыся следу, - ступаў абы-куды, толькі б не ўпасці. І тады, падышоўшы, згледзеў: Рыбак стаяў на дарозе.

Яны не сказалі адзін аднаму нічога, толькі ўслухаліся, паўзіраліся і памалу пайшлі ўгору - адзін па правай, а другі па левай каляіне. Дарога, напэўна, вяла ў вёску, значыць - яшчэ можа пашчасціць дапнуцца да яе, не зваліцца ў хадзе, думаў Сотнікаў, і тады ўжо будзе відаць, як і што рабіць далей.

Неўзабаве яны выйшлі на вяршыню пагорка. Наўкола мроіўся начны прывідны прастор: шэрань, снег, суцемак з мноствам няўлоўных пераходаў, паўценяў і плямаў, і нідзе не было ні агеньчыка, ні руху - змоўкла, замерла, стаілася зямля. І не дай бог у такі час напаткаць тут людзей - людзі не прынясуць ім удачы, не тых людзей можна цяпер чакаць на дарозе.

- Ціха!

Рыбак ступіў і спыніўся, звыкла рыпнула і сціхла пад яго ботамі, знерухомеў і Сотнікаў. Аднекуль з таго боку, куды ішла дарога, данёсся крык, абрывак нейкага голасу - вырваўся ў марозную ноч і прапаў. Яны ўгледзеліся ў прыцемак - недалёка наперадзе, крышку ў лагчынцы, пэўна, была вёска - паласа чагось нагрувашчанага мякка шарэла ў снегавым змроку. Але нічога пэўнага там нельга было ўбачыць, як нельга было зразумець, ці то быў крык, ці, можа, ім здалося. Наўкола свістаў-шархацеў па снежным полі вецер, ноч ляжала нямая, як сон. І раптам куды ўжо выразней да іх даляцеў чалавечы выкрык-каманда ці, можа, лаянка, а потым, бурачы ўсе сумненні, удалечыні бахнуў і рэхам раскаціўся па полі стрэл.

Рыбак на поўныя грудзі выдыхнуў, а Сотнікаў, мусіць, таму, што нейкі час таксама перацінаў дыханне, пачаў глуха кашляць.

Хвіліну яго неадчэпна біў кашаль, як ён ні зацінаў яго ў грудзях, услухоўваючыся, ці не пачуюцца стрэлы яшчэ. Праўда, і без таго было ўжо зразумела, чый гэта стрэл, - хто ж яшчэ, апроч немцаў і іх прыслужнікаў, мог па такім часе страляць у вёсцы?

Стрэлаў, аднак, больш не было, разы два данеслася па ветры нешта падобнае на голас - размова ці вокліч, не разабраць, - і Рыбак вылаяўся:

- Стараюцца, сволачы. Для вялікай Германіі.

Яны яшчэ пастаялі трохі, услухоўваючыся ў ветраную ціш, занепакоеныя пытаннем: што рабіць далей, куды падацца? Рыбак усё ўзіраўся туды, дзе ў змроку знікала дарога, а Сотнікаў адвярнуўся ад ветру і дробненька ціха калаціўся: яго біла дрыжака.

- Значыць, туды не паткнуцца, - рашыў Рыбак і патаптаўся на рыпучым снезе. - Як ты, нічога? Мо давай лагчынкай пройдзем? Тут недзе за кустамі павінна быць яшчэ вёсачка.

- Давай, - знарок абыякава цепнуў плячом Сотнікаў. Яму сапраўды было ўсё роўна, абы толькі не стаяць на марозлівым ветры і мець у надзеі хоць які-небудзь агеньчык, які б свяціў наперадзе. Пачуцці яго тупелі, засціліліся прывіднай смугой, па-ранейшаму кружылася ў галаве. Усе яго намаганні ішлі на тое, каб не спаткнуцца, не ўпасці, бо тады ён наўрад ці падняўся б.

Яны збочылі з дарогі і пайшлі па снегавым цаліку туды, дзе шырокім лапікам цьмеў уночы хмызняк. Снег на касагорыне спярша быў неглыбокі, па костачкі, але чым далей, тым большаў, асабліва ў лагчынцы. Праўда, лагчынка выдалася нешырокая, яны хутка перайшлі яе і падаліся ўздоўж паскі хмызу, блізка, аднак, не падыходзячы да яго. Сотнікаў тут ішоў упершыню,

нічога не ведаў і спадзяваўся на Рыбака, які тутэйшыя месцы аблазіў яшчэ ўвосень, без следу, калі іхні атрад толькі збіраў свае сілы ў Гнілым балоце. Пачаўшы з невялікай дыверсіі на дарозе, гэты атрад потым перайшоў да больш рызыкоўных спраў - узарваў мост на Іслянцы, спаліў ільнозавод у мястэчку, але пасля забойства нейкага важнага чыноўніка з Германіі немцы раз'юшыліся. У канцы лістапада тры роты жандараў абкружылі Гнілое балота і пачалі аблаву, з якой яны ледзьве вырваліся тады ў суседні Баркоўскі лес.

Сотнікаў у той час быў далёка адсюль і наўрад ці думаў пра партызан - ён лічыў сваім абавязкам прабіцца да фронту. Дванаццаць сутак ён прабіраўся з-пад Слоніма ад рэчкі Шчары з невялічкаю групкай хлопцаў-артылерыстаў, што ўцалелі з усяго некалі магутнага артылерыйскага палка. Але на Бярэзіне ў часе пераправы яны ледзь не ўсе былі расстраляны з засады, а хто ўцалеў або не пайшоў на дно, апынуўся ў палоне ў немцаў.

То былі харошыя хлопцы, яго выхаванцы: наводчыкі Токараў і Галаўня, узводны малады лейтэнант Конкін, ягоны старшы на батарэі, з якім яны цэлы год на выдатна выконвалі ўсе батарэйныя стрэльбы. Менавіта гэтаму Конкіну ён абавязаны палавінай свайго даваеннага поспеху і найперш значком «За выдатную артылерыйскую стральбу» - прадметам яго сціплага гонару. Так, харошая была батарэя, колькі падзяк ад начальства вісела на яе стэндзе ў ленінскім пакоі - за агнявое майстэрства, за розныя іншыя поспехі ў баявой падрыхтоўцы.

А на вайне ўсё склалася інакш. Сталася так, што ў іх распараджэнні асталося некалькі лічаных секунд, і найбольшую карысць прынеслі тыя, хто не разгубіўся, спрытней управіўся зарадзіць, хто проста аказаўся дужэйшы...

Рыбак даволі ўпэўнена крочыў наперадзе, трымаючыся бліжэй да лесу. Снег тут быў неглыбокі, растаптаныя буркі Сотнікава, што нядаўна дасталіся яму ад забітага партызана з мясцовых, роўна шорхалі па снегавой

замеці. Добра яшчэ - цяпер ім трэба было ісці ўніз, вецер заходзіў з плячэй, месячык цьмяна свяціў у небасхіле. Па-ранейшаму было дужа марозліва і сцюдзёна, ажно сцялася, здранцвела ўсё ўсярэдзіне. Здаецца, ніколі ў жыцці Сотнікаў так не пакутаваў ад сцюжы, як у гэтую ноч. Ад стомы і аднастайнага шорхання ног у голаў яго лезла мешаніна выпадковых вобразаў, напаўзабытых твараў, нават асобныя сцэны-прывіды мільгалі ўваччу, і ён ужо не мог вызначыць - былі гэта ўспаміны ці здані. Магчыма таксама, што гэта ўзнаўлялася перажытае ім, яго былое, якое цяпер здавалася прывідам, так яно было мала падобнае на звыклае, рэальнае жыццё.

Найгоршае для Сотнікава было ў тым, што гэта быў яго першы і яго апошні франтавы бой, да якога камбат рыхтаваўся, мабыць, з таго першага дня, калі яго прызвалі на службу. Паслухмяная яму, чакала ягоных каманд грозная тэхніка, былі снарады, напагатове ехалі натрэніраваныя за шмат месяцаў гарматныя разлікі, наперадзе рухалася баявая ахова - усё, як і належыць паводле баявых статутаў... Тое ўспаміналася цяпер Сотнікаву, як страшны прывідны сон, і хоць і пасля на яго долю выпала нямала цяжкіх баёў, той першы яму немагчыма забыць ніколі.

...Яны былі ў руху чацвёрты дзень.

Чацвёрты дзень даўжэзная калона артпалка кідалася па лясных дарогах то на паўднёвы захад, то на поўдзень, адзін раз яе нават павярнулі ледзь не ў тыл, на поўнач. Трактары сваім несціханым ровам аглушалі наваколле, ад перагрэву кіпела вада ў радыятарах, пыл і пот сляпілі вочы байцоў. З самага ранку дацямна над імі вісела нямецкая авіяцыя, «юнкерсы» бясконца сыпалі на іх фугасныя бомбы, усё было закідана пяском, смярдзюча гарэлі цягачы, цэлыя аб'язджалі іх - калона не спыняла руху. Байцы са станін і трактароў бязладна лупілі ўгору з вінтовак, але карысці ад тае стральбы было мала. Яны нават не прымушалі самалёты падняцца вышэй, і тыя насіліся над дарогай, ледзь не кранаючы верхавіны прысадаў. Сотнікаў сядзеў на

галаўным трактары і як збавення, як самага вялікага шчасця чакаў каманды збочыць з гэтай праклятай дарогі, развярнуцца і з ячэйкай кіравання выйсці насустрач немцам. Тады ўжо ён бы абрушыў на іхнія галовы такое, чаго ім і не снілася. Але не было каманды спыніцца, полк усё ехаў і ехаў, і кожныя дзве гадзіны над ім разгружаліся нахабныя «юнкерсы», ад якіх уся гэта наземная агнявая магутнасць была безабаронная.

Так настала апошняя ноч іхняга крывулістага блукання па заходнебеларускіх дарогах.

Полк быў ужо далёка не той, што ўпачатку, некалькі разлікаў загінула, у яго батарэі амаль прамым пападаннем пакарэжыла і скінула з дарожнага насыпу гармату. Праўда, тры аставаліся спраўныя, хіба што з падзёўбанымі шчытамі, з пасечанай гусмацікай колаў, з безліччу асколачных адмецін на ствалах і станінах. У другой гаўбіцы пацёк прабіты накатнік. Чацвёра забітых батарэйцы вязлі ў прычэпе на скрынках снарадаў, сямёра параненых адправілі ў тыл. Зрэшты, гэта былі не найбольшыя страты - іншым батарэям дасталася горш. Палкавая калона пакарацела ледзь не напалавіну, некалькі цэлых гармат асталося на дарозе: былі пашкоджаны трактары. Цяпер амаль усю ноч ехалі на ўсход, і гэта было кепскай прыкметай: камандзіры са штаба пагаворвалі пра акружэнне, яно і сапраўды падобна было на тое. Байцы не спалі чацвёра сутак, некаторыя, седзячы на станінах, крыху прыдрамалі пад ранак - ноч была самай спакойнай парой, калі б не гэтая няпэўнасць у абставінах, якая чорнаю плахай вісела над кожным. Перад світаннем ненадоўга спыніліся ў нейкай вёсачцы, насустрач ішлі пехацінцы; непадалёк, відаць было ўначы, запаленае авіяцыяй, нешта гарэла яркім, на паўнеба, полымем - пяхота казала, станцыя. Ніхто не тлумачыў нічога, але людзям неяк само сабой перадалося, што зусім блізка немцы. Неўзабаве камандзір палка маёр Парахневіч павярнуў калону на бакавую, абсаджаную вербамі дарогу. Паехалі кудысь на поўдзень. Ноччу было спакойней без авіяцыі, затое яны былі сляпыя і глухія - за ровам трактароў нічога не было чуваць, а ў летняй цемры не

шмат што ўбачыш. На самым світанні Сотнікаў, не ўтрымаўшыся, трохі задрамаў на сядзенні, як раптам штосьці здорава грымнула на ўзбочыне. Ён тут жа прахапіўся, «Камсамолец» праваліўся правай гусеніцай, камбата абдало зямлёй і гарачаю хваляй выбуху. І тут пачалося.

Якраз світала, за вербамі добра сінеў край неба і шарэла аўсянае поле, а аднекуль спераду, з галавы калоны, іх пачалі расстрэльваць танкі. Не паспеў ён саскочыць з трактара, як побач загарэўся цягач трэцяй батарэі, намёртва села ў варонку гаўбіца. Праз перуны выбухаў ён скамандаваў развярнуцца ўправа і ўлева, але не так проста было вывернуцца з цяжкімі гарматамі на вузкай дарозе. Другі разлік вёртка кінуўся з дарогі ў авёс і тут жа атрымаў два снарады ў бок, гармата завалілася, задраўшы ўгору кола. Ранак асвяціўся полымем, прысады заслаў саляравы дым - танкі расстрэльвалі полк на дарозе.

Гэта было найгоршае, што магло здарыцца з імі: уся іх агнявая сіла прападала нявыкарыстанай. Зразумеўшы, што ім адведзены толькі секунды, Сотнікаў з байцамі як-колечы развярнуў апошнюю ўцалелую гармату проста на бруку і, не ўпёршы станін, ледзьве паспеўшы садраць чахол са ствала, паслаў цяжкі снарад у бок ворага. Спярша нельга было і згледзець, дзе тыя танкі; галаўныя ў калоне машыны гарэлі, уцалелыя байцы беглі назад, дым і пакарэжаныя трактары на дарозе не давалі прыцэліцца. Але неўзабаве між вербаў ён убачыў першы нямецкі танк, які пёр за канавай і, збочыўшы ствол гарматы, гахаў і гахаў стрэламі наўскасяк па калоне. Сотнікаў адштурхнуў наводчыка (гармата была ўжо зараджана), дрыготкімі рукамі давярнуў таўшчэзны гаўбічны ствол і ўрэшце злавіў гэтае яшчэ цьмянае ўранку страшыдла на перакрыжаванне панарамы.

Стрэл яго грымнуў, як удар грому, гармата здорава аддала назад, балюча ўдарыла панарамай у скулу, у доле з-пад незамацаваных сашнікоў пырснуў сноп іскраў ад бруку, адна станіна ўрэзалася сашнікам у броўку канавы, другая асталася на дарозе. Праз пыл,

узняты стрэлам, ён яшчэ не паспеў што згледзець, але пачуў, як радасна закрычаў наводчык, і зразумеў, што папаў. Ён тут жа зноў кінуўся да панарамы - амаль закрываючы сабой усё яе шкло, за дарогай сунуўся другі танк; камбат скіраваў гаўбічны ствол яму проста ў лоб - так блізка той здаваўся ў оптыцы, - крыкнуў: «Агонь!» Замковы зрэагаваў у час, стрэл зноў аглушыў, але гэты раз ён паспеў адхінуцца і за пылам ад стрэлу ўбачыў - тое, што за секунду да таго было танкам, хруснула, нібы шкарлупіна ад яйка, і ад нутранога магутнага выбуху буйнымі часткамі разляцелася ў бакі. Непаваротлівая, цяжкая, прызначаная для стральбы з тылу гаўбіца сваім магутным снарадам разнесла танк на кавалкі.

Неспадзявана іх ахапіў азарт баявой удачы. Ужо не зважаючы на страты, на забітых і параненых, што сплывалі крывёй на запыленым бруку, на агонь, што жор іхнюю тэхніку, на град куль адтуль, з танкаў, некалькі ўцалелых на дарозе гармат пачалі біць цяжкімі снарадамі па танках. Тым часам развіднела. Ужо стала відаць, куды цэліцца, некалькі пажараў джагалі агнём за дарогай - нямецкія машыны гарэлі.

Сотнікаў выпусціў дзесятак снарадаў і разнёс дашчэнту яшчэ два танкі. Але нейкае падсвядомае, надта абвостранае небяспекай адчуванне падказвала яму, што ўдача канчаецца, што адпушчаныя яму лёсам ці выпадкам секунды выкарыстаны цалкам, што наступныя другі ці трэці снарады адтуль будуць яго. Наперадзе жывых ужо, мабыць, не асталося нікога, апошнім прыплёўся адтуль і паваліўся, абліваючы крывёй станіну, камандзір палка, побач у канаве бахалі з карабінаў некалькі байцоў - цэлілі ў танкавыя шчыліны. Ля снарадных скрынак уткнуўся галавой у зямлю зараджаючы Золатаў, ззаду цэлы астаўся адзін толькі правільны Губайдулін; камбат крыкнуў яму зараджаць, але той, ці аглушаны, ці надта спалоханы, толькі ціснуўся спіной да станіны і невідушча глядзеў на яго. Тады Сотнікаў кінуўся да скрынкі са снарадамі сам, але яшчэ не дапоўз да яе, як ззаду ашалела грымнула. Ён тыцнуўся тварам у зямлю, дол рэзка

падскочыў, дарога і зямля сталі дыбам, на некалькі доўгіх секунд чорнае покрыва заслала ад яго свет. Ён задыхнуўся ад пылу і зямлі, якой забіла яму нос і рот; адчуўшы краёчкам свядомасці, што жывы, тут жа тузануўся з долу і пад градам земляное трухі, якая абрынула зверху, вертануўся да панарамы. Але яго гаўбіца ўжо скасабочылася на краі глыбокай рытвіны, ствол вывернула ўбок, смуродна гарэла гумовае кола. І ён зразумеў, што гэта - усё. Ён не ведаў яшчэ, ці сам цэлы, ён толькі адчуваў, што аглух, выбухі ў ягоных вушах адгарадзіла шчыльнай сцяной, іншыя гукі ўсе разам зніклі, у галаве шыпела і гуло. З носа ішла кроў, ён размазаў яе па твары і кульнуўся з дарогі ў канаву: насупраць за вербамі ішоў, мусіць, той самы танк, што падбіў яго. На ветры хутка мільгалі рваныя чорныя космы дыму ад ахопленага полымем трактара, тлуста смярдзела саляркай і трацілам ад выбухаў, побач тлела гімнасцёрка на плячы ўжо нежывога камандзіра палка. Збянтэжаны нечаканасцю, збіты з панталыку разгромам, Сотнікаў хвіліну нібы не разумеў, што адбылося, не мог паверыць, што гэта не сон. Трываючы дым, які еў вочы, ён толькі глядзеў, як ішлі па той бок нямецкія танкі, ужо добра відаць былі на іхніх бартах лічбы і чорна-белыя, выбітыя па трафарэту крыжы. Свайго жыцця яму было не шкада, ён толькі не ведаў, што рабіць далей. І тады нехта тузануў яго за рукаў. Ён павярнуў голаў і ўбачыў запэцканы сажай і крывёй твар Конкіна, які нешта крычаў яму і паказваў рукой у тыл, дзе, прыгнуўшыся, перабягалі байцы.

Па канаве яны пабеглі за ўсімі.

**3**

Рыбак абышоў мысок хмызняку і спыніўся. У прыцьмелай шэрасці начной прасторы на касагорыне відаць сталі крайнія будыніны вёсачкі. Як яна выглядае адсюль, Рыбак ужо забыўся: у пачатку восені яны праходзілі непадалёк па дарозе, але ў самую вёску не завіталі. Зрэшты, тое цяпер было няважна - важней было вызначыць, ці ціха там у гэтую ноч, каб не напароцца на немцаў або паліцаяў.

Стоячы на краі хмызу, ён хвіліну ўглядаўся-ўслухоўваўся, ды нічога падазронага быццам не было чуваць. Даляцела некалькі няпэўных уночы гукаў, па-ранейшаму пругка і настойліва дзьмуў вецер, ціха пасвістваў побач у мёрзлым галлі, пахла дымам - недзе, мусіць, палілі. Тым часам падышоў Сотнікаў і таксама спыніўся, услухаўся.

- Ну, што?

- Здаецца, ціха. Пайшлі памалу.

Вядома, было б карацей скіраваць да крайняй у гэтай вёсцы хаціны, што вунь стаяла, уросшы па самую страху ў снег, з прыстаўленым да яе жардзём, - там пачыналася вуліца. Але менавіта таму Рыбак і прамінуў крайнюю - калі што, ля яе заўжды рызыкуеш напароцца на непрыемнасць; у канцы вуліцы звычайна канчае свой маршрут вартаўнік ці патруль, наладжваюць засаду паліцаі. І ён узяў па снезе ўбок, уздоўж плота па лагчынцы, беручы кірунак да недалёкіх будынін наводшыбе (мабыць, гумнаў), што цесненька стоўпіліся ўнізе. Там, за растрэсканым вуглом пунькі ці тока з прадранай страхой, яшчэ пастаяў, паслухаў і з аглядкаю падаўся на прыгуменне. Наўсцяж ад гумна было рукой падаць да нізенькай і нейкай адзінокай пры хлеўчуку хацінкі; на снезе да яе нават аказалася цвёрдая сцежка; ён зрабіў па ёй са два крокі і тут жа саступіў убок - дужа рыпела пад ботамі. За ім таксама саступіў Сотнікаў, і яны абапал сцежкі пайшлі па снезе да хаты.

У той час да іх слыху даляцеў стук - хтось нібыта сек дровы, але рабіў гэта неяк вяла, нібы знясілеўшы ці з роздумам. Рыбак трошкі парадаваўся: калі сякуць дровы, то, мусіць, у вёсцы чужых няма. Да таго ж - не трэба стукаць, прасіцца ў хату: што трэба, можна разведаць у дрывасека. Праўда, ён тут жа падумаў, што неасцярожнасцю можна здаля напалохаць чалавека, тады ты яго ўжо не выцягнеш з хаты. Маючы гэта ў думках, ён як мага цішэй абышоў хляўчук, пераждаргнуў кінутыя ў снезе жардзіны, паціху выйшаў з-за вугла на падворак.

У полі на снезе было святлей і відаць далей, а тут, у цемнаватым мроіве двара, ён не адразу зразумеў, што перад ім на дрывотні жанчына. Цяпер яна ўжо не секла, а нешта калупалася там, ціха і зласнавата мармычучы сама сабе. Пачуўшы іх крокі, жанчына страпянулася, кінула сякеру і аж войкнула.

- Ціха, мамаша!

Яна стаяла зусім разгубленая перад ім - нізенькая стараватая кабеціна ў хустцы - і не магла вымавіць слова. Рыбак асцярожліва зірнуў на дзверы ў хату, тыя былі зачынены, болей на двары быццам не было нікога. Зрэшты, ён не надта і баяўся і азіраў наваколле дзеля пэўнасці. Ён ужо зразумеў, што ў гэтай вёсцы спакойна; паліцаі, мабыць, заселі за самагонку, а немцы наўрад ці тут паяўляліся.

- Ах, Божухна, напалохалася я. Ай, Госпадзі...

- Ладна, будзе хрысціцца. Паліцаяў у вёсцы многа?

- А няма паліцыянтаў. Быў адзін, ды ў мястэчка перабраўся.

- Так. - Рыбак прайшоўся па панадворку, выглянуў з-за рога. - Вёска як завецца?

- Лясіны. Лясіны вёска, - поўная ўвагі і яшчэ не апамятаўшыся ад утрапення, казала цётка. Сякера яе глыбока сядзела ў сукаватым яловым палене, якое яна, відаць, марна старалася рассекчы папалам.

Рыбак адразу прыкінуў, што зусім няблага было б тут і атаварыцца: падыход - выхад харошыя, на дарозе гумно, лясок, яны някепска прыкрываюць ад чужога вока. Цікава толькі, чым можна пажывіцца на гэтай сядзібе?

- Хто яшчэ дома ёсць?

- Дык адна ж я, - хуценька сказала цётка.

- І больш нікога?

- Анягож. Адна і жыву, - жалліва сказала кабета, усё надта пільна сочачы за яго рухамі - сілілася адгадаць таемную мэту начнога з'яўлення гасцей.

Рыбака, аднак, гэта мала цікавіла і мала кранала - і яе жалобна-жаласлівы тон і тое, што яна адна. Ён ужо ведаў гэты вяскова-жаночы звычай - разжаліць яго было цяжка. Ён вывучаў абставіны на падворку - убачыў расчыненыя вароты ў хляўчук і зазірнуў у яго глухі, поўны гнойнага паху змрок.

- Што, пуста?

- Пуста, анягож, - з набалеласцю пацвердзіла кабета, не адыходзячы ад сякеры. - Забралі ўсё чыста.

- Хто забраў?

- Ведама ж хто. Як у чырвонаармейскай мацеры. Каб ім падавіцца.

Калі жанчына кляне - значыць, можна паверыць. Рыбак ціха крэкнуў: напаў, ды не на тое, прыйдзецца шукаць дзе яшчэ. Вядома, мусіць, можна б сёе-тое знайсці і ў гэтай бедалагі (курыцу там ці парася), але не да ніткі ж абіраць яе, і без таго ўжо абрабаваную немцамі.

Сотнікаў, ссутуліўшыся, маркотна чакаў пад сцяной, а Рыбак павярнуўся да цёткі.

- Што, рассеч не можаш?

Жанчына ўраз здагадалася, што ён паможа, і, узрадаваўшыся мужчынскай сіле, скінула з сябе насцярожаную панурасць.

- Ды во, каб яго трасца, забіла - не выдзеру. Звечара б'юся - ні туды ні сюды.

- Ану, дай!

Рыбак закінуў за спіну карабін і аберуч узяўся за гладкае сухое тапарышча. Хэкнуўшы, хлёстка выцяў палена аб калоду, пасля яшчэ. Біў трапна, з

прыемнасцю і знаёмым спрытам, адчуваючы сілу ў руках і звыклую з юнацкае пары хватку, калі во гэтаксама зімовымі вечарамі сек з бацькам ці адзін дровы. Пілаваць не любіў, а сеч заўжды быў гатовы з прыемнасцю, выяўляючы ўсю сваю зухаватасць у гэтай спрадвечнай мужчынскай працы.

На чацвёртым удары палена развалілася, крыва абышоўшы сук. Ён пашчапаў яшчэ і палавінкі і паклаў тапор.

- От дзякуй, сынок! Хай табе Бог дае здароўечка, - лагодна дзякавала цётка.

- Дзякуем не аддзелаешся, маць. Харчы якія-небудзь маеш?

- Харчы? Якія ж харчы? Бульбачка ёсць. Дробненькая, праўда. Калі што - заходзьце, звару заціркі.

- Гэта што! Нам з сабой трэба. Скацініну якую.

- Га! Каб жа яна была.

- А там хто жыве? - Рыбак паказаў рукой цераз гарод, дзе за плотам бялела снежная страха суседняй будыніны. Здаецца, там палілі ў печы - вецер гнаў на падворак пах дыму.

- А там Пётра Качан. Ён старастам цяпер тут, - прастадушна паведаміла цётка.

- Тутэйшы староста? Ты чуеш? - звярнуўся Рыбак да таварыша, які цярпліва стаяў пад сцяной.

- Анягож, паставілі старастам.

- Нягоднік, га?

- Не сказаць каб. Свой жа чалавек.

Рыбак, секунду развражыўшы, рашыў:

- Ладна, пайшлі да старасты. Ужо ён багацейшы, напэўна.

Яны не сталі шукаць сцежкі, проста падлезлі пад жардзіну ў плоце, перайшлі гарод і, азірнуўшы стары паркан, праз дзірку ў ім вылезлі на старастаў падворак.

Утулку тут было болей, адчуваўся парадак і гаспадарскі спрыт: з трох бакоў двор абступілі будынкі - хата, хлеў, нейкая лёгкая паветка; у двары пры баку стаялі сані з рэштаю сена ў рэзгінах - пэўнае сведчанне таго, што гаспадар дома. Пад сцяной хлеўчука святлеў ладны штабялёк нарыхтаваных - нарэзаных і пашчапаных - дроў.

Калі яны яшчэ ішлі цераз гарод, Рыбак сваім спрактыкаваным вокам убачыў, што ў хаце гарыць святло - з верхніх шыб замёрзлых акенцаў цьмяна выбіваўся агеньчык газнічкі. Тым лепш, падумаў Рыбак і ціхенька ступіў на рыпучы ганак.

Ён не стукаў, дзверы былі не запёртыя, управіцца з імі яму, колішняму вясковаму жыхару, было звыкла і проста: павярнуў закрутку, і дзверы, трошкі рыпнуўшы, расчыніліся. Пакінуўшы іх так, ён прайшоў у цёмныя сенцы, поўныя знаёмых і паўзабытых сялянскіх пахаў, асцярожна павёў рукой па сцяне. Пальцы натрапілі на нейкую злубянелую ад сцюжы адзежыну, потым на планку ў дзвярах. Намацаўшы сцюдзёную, напечаную марозам завесіну, ён зразумеў размяшчэнне дзвярэй і лёгка знайшоў аднолькавую ва ўсіх вёсках кавальскую штуковіну - клямку. І гэтыя дзверы былі не зашчэплены. Ён пераступіў высакаваты парог, перадаючы клямку ў зледзянелыя рукі Сотнікава.

На перакуленай сярод стала місцы міргала газнічка, агеньчык яе тужліва закалаціўся ад марознага паветра. Стараваты, з каротка пастрыжанай сівой барадой чалавек, які, аблёгшы на стол, сядзеў за газнічкай у накінутым на плечы кажушку, узняў галаў. На яго старэчым, хоць і даволі яшчэ цвёрдым, твары коратка бліснуў сцюдзёны позірк, які адзін толькі і сведчыў пра тое, што ён убачыў захожых. Тут жа, аднак, вочы яго і патухлі пад асаджанымі на іх бровамі.

- Добры вечар у хату, - са стрыманай ветлівасцю

павітаўся Рыбак.

Вядома, можна б і без гэтых вітанак з нямецкім прыслужнікам, але Рыбак хацеў развеяць напружанасць першай сустрэчы. Стары, аднак, не адказаў і не ўстаў з-за стала, толькі паглядзеў на іх з быццам нават нездаволенасцю на сівым твары.

Ззаду ўсё валіў холад - Сотнікаў няўмела бразгаў дзвярыма, якія не зачыняліся. Рыбак вярнуўся і са звыклым стукам зачыніў дзверы. Гаспадар нарэшце выпрастаўся за сталом, не мяняючы, аднак, спакойнага выразу твару, - нібы ён і не здагадваўся, хто гэта, такія познія госці.

- Ты будзеш стараста? - афіцыйна запытаў Рыбак, валюхаста тупаючы ад дзвярэй да стала. У намёрзлых трафейных ботах было трохі коўзка, і ён стрымліваў свой крок на падлозе.

Стары загарнуў таўшчэзную кніжку, якую перад тым, мабыць, чытаў ля газнічкі.

- Стараста, ну, - сказаў ён роўным, без ценю пагарды або ліслівасці голасам.

У той час у запеччы штось шаснула, тупнула, і з-за шырмачкі, папраўляючы на галаве хусцінку, з'явілася не надта старая, бялявая з твару і, відаць па ўсім, рухавая кабета - мусіць, гаспадыня гэтае хаты. Рыбак зняў з пляча і прыставіў да ботаў вінтоўку.

- Ведаеш, хто мы?

Стараста паварушыўся за сталом, нацягнуў на плечы кажух.

- Здагадваюся. Але калі па гарэлку, дык няма. Усю забралі.

Рыбак усмешыста зірнуў на Сотнікава: стары смоўж, ці не прымае ён іх за паліцаяў? Зрэшты, так, можа, і лепей: справа, што прывяла іх сюды, гонару партызанам не прыбавіць. Захоўваючы, аднак, спакойную

самавітасць, Рыбак сказаў:

- Што ж, абыдземся без гарэлкі.

Стараста памаўчаў, нібы штось згадваючы, і пасунуў на край міску з газнічкай. На хаце стала відней.

- Калі так, сядайце.

- Ага, сядайце, сядайце, дзеткі, - узрадавалася запрашэнню гаспадара кабета. Яна ўхапіла ад стала ўслон і пасунула яго бліжай да грубкі, у якой, відаць было, дагаралі дровы. - Во тут цяплей будзе, мусіць жа, намерзліся. Мароз такі...

- Можна і сесці, - пагадзіўся Рыбак, але сам не сеў, кіўнуў Сотнікаву: - Сядай, грэйся.

Сотнікаў адразу апусціўся на ўслон і прыпёрся спіной да пашкрэбанага боку грубкі. Вінтоўку трымаў у руках, нібы апіраўся на яе, пілотку на галаве нават не паправіў - як была глыбока насунута на памарожаныя вушы, так і асталася. Рыбаку рабілася ўсё цяплей, ён расшпіліў на два гузікі свой кажушок і піхнуў з лоба шапку. Гаспадар меў незалежны, нібы нават абыякавы выгляд, а яго кабета, склаўшы на жываце рукі, насцярожана і трапятка сачыла за кожным іх рухам. «Баіцца», - падумаў Рыбак. Ён пратупаў сюды-туды па хаце, нібы незнарок зазірнуў у цёмны запечак і спыніўся ля чырвонай фанернай шафы, якая загароджвала ложак.

Гаспадыня зважліва саступіла ўбок.

- Там нікога, дзетка, нікога.

- Што, адны жывяце?

- Адны. Во з дзедам так і капцім свет, - тужліва адказала кабета. І раптам - не прапанавала, амаль запрасіла: - Можа б, вы паелі чаго? Можа ж, галодныя, га? Пэўне ж, са сцюжы, без гарачага...

Рыбак унутрана ўсміхнуўся і пацёр рукі.

- Можа, і з'ямо. Як ты думаеш? - знарок разважліва, бы з неахвотай звярнуўся ён да Сотнікава. - Падмацуемся, калі пані старасціха частуе.

- Во і добра. Я зараз! - узрадавалася кабета. - Капустачка, пэўна, цёплая яшчэ. І гэта... Можа, бульбачкі зварыць?

- Не, варыць не трэба. Няма калі, - рашуча вырашыў Рыбак і скоса, назіркам паглядзеў на старасту, які, аблёгшыся на стол, нерухома сядзеў у куце.

Над ім цьмелі пад ручнікамі тры старасвецкія абразы. Рыбак пратупаў ботамі да прасценка і спыніўся перад вялікаю зашклёнай рамай з фатаграфіямі. Ён знарок не пазіраў на старасту, але адчуваў, што той таксама спадцішка сочыць за ім.

- Значыць, немцам служыш?

- Прыходзіцца, - уздыхнуў стары. - Што ж зробіш?

- І многа плоцяць?

Пытанне было знарок з'едлівае, але і на яго гэты дзед адказаў роўна і з годнасцю:

- Не пытаўся і знаць не хачу. Сваім абыдуся.

«Ганарлівы, аднак, - падумаў Рыбак. - З характарам».

У бярозавай раме на сцяне сярод паўтузіна розных фота ён выглядзеў маладога, чымсь падобнага да гэтага дзеда, хлопца ў гімнасцёрцы з артылерыйскімі эмблемамі ў пятліцах і трыма значкамі на грудзях. Было ў яго поглядзе нешта грунтоўна-спаважнае, упэўненае і ў той жа час па-маладому наіўнае.

- Хто гэта? Сын, можа?

- Сын, сын, Толік наш, - ласкава пацвердзіла гаспадыня. Цераз плячо Рыбака яна таксама зазірнула на фота, трымаючы ў руках міску.

- А цяпер дзе ён? Не ў паліцыі часам?

Стараста падняў насуплены твар.

- Не ўсе ж, як некаторыя. На фронце, во дзе.

Старасціха паставіла на стол міску з капустай і загаманіла:

- Ай, Божачка, як пайшоў у трыццаць дзевятым, дык і ўсё. Ад самага лета ні слыху ні дыху. Хоць бы ведаць, ці жывы хаця.

- Так, так, - сказаў Рыбак, не адгукваючыся на яе жаллівае прычытанне, якога ён даволі наслухаўся ад пачатку вайны. Цяпер яго займала другое. Счакаўшы, калі яна выгаварыцца, ён важка заўважыў старому: - Апазорыў ты сына!

- Анягож! - з жарам падхапіла ад печы кабета. - І я ж тое гавару яму дзень пры начы. Апазорыў і сына, і ўсіх чыста.

Гэта было трохі нечакана, тым болей што старасціха гаварыла быццам бы са шчыраю набалеласцю ў голасе. Рыбаку здалося тады, што дзед гэты - проста недарэка нейкі. Але толькі ён падумаў так, як твар старога нядобра нахмурыўся і ўвесь ён рэзка павярнуўся да гаспадыні.

- Годзе! Не твая справа!

Кабета адразу ж змоўкла, нібы папярхнулася на паўслове, а дзед з важнасцю падняў дакорлівы позірк на Рыбака.

- А ён мяне не апазорыў? Немцу аддаў. Гэта не пазор?

- Так выйшла: вайна. Не яго тут віна.

- А чыя? Мая, можа? - прыдзірліва, без ценю боязі дапытваўся стары і аб'явіў: - Ваша віна. Маладзейшых.

- Да-а, - няпэўна сказаў Рыбак, прыпыняючы не надта

прыемную і не дужа простую размову, якой, ведаў, па цяперашнім часе не было канца.

Гаспадыня тым часам хуценька разаслала кароценькі, на паўстала, настольнік, паставіла міску з капустай, скаромны пах ад якой уладна прыглушыў усе яго іншыя пачуцці, яшчэ больш абвастрыўшы голад. Вельмі хацелася есці, і ён рашыў пакуль што адкласці падрахунак яго не надта прыемных адносін з гаспадаром.

- Сядайце ж, падсілкуйцеся трошкі. Во хлебца вам, - з ліслівай гасціннасцю запрасіла гаспадыня.

Рыбак, не знімаючы шапкі, піхнуўся за стол.

- Давай паямо, - сказаў ён да Сотнікава.

Той пакруціў галавой:

- Еш. Я не буду.

Рыбак уважліва паглядзеў на таварыша, які ўвесь згорбіўся на ўслоне і, пакашліваючы, калаціўся - мабыць, ад дрыжыкаў.

Гаспадыня, пэўне, мала што разумеючы ў яго стане, здзівілася:

- Чаму ж гэта? Мо грэбуеце нашым? Можа, яшчэ чаго хочаце?

- Не, дзякуй. Нічога не трэба, - рашуча сказаў Сотнікаў і сашчапіў у рукавах рукі.

Гаспадыня занепакоілася:

- Божачка, можа, я не дагадзіла чым? Дык даруйце... Я ж не хацела...

Рыбак добра ўмясціўся на лаве, трымаючы між каленяў карабін, узяў лыжку, лусту счарсцвелага, з кменавым пахам хлеба і не заўважыў, як у поўным маўчанні выеў усю вялікую гліняную міску. Староста нязрушна сядзеў

у куце, гаспадыня стаяла збоч ад стала са шчырай гатоўнасцю дагадзіць госцю.

- Так, хлебушка я прыбяру. Гэта на яго долю, - сказаў Рыбак.

Гаспадыня ахвотна згадзілася:

- Бярыце, бярыце, дзеткі.

Стараста нечага моўчкі чакаў - якога слова ці, нарэшце, гаворкі пра справу. Вялікія яго парэпаныя рукі ляжалі на чорнай вокладцы кніжкі.

Засоўваючы акраец за пазуху, Рыбак кіўнуў з неадабрэннем:

- Кніжачкі пачытваеш?

- А што ж, пачытаць нікому не шкодзіць.

- Савецкая ці нямецкая?

- Біблія.

- Цікава. Ану? Ніколі не бачыў Бібліі, - крыху пасунуўшыся за сталом, Рыбак пакруціў у руках кнігу, адгарнуў вокладку. Аднак ён тут жа адчуў, што не трэба было рабіць гэтага - выяўляць нейкую сваю недасведчанасць хай сабе і ў другараднай справе.

- Не лішне б і пачытаць, - прабурчаў стараста.

Рыбак рашуча загарнуў кнігу.

- То наша справа. Не табе вучыць. Ты немцам служыш, стала быць - нам вораг, - сказаў Рыбак з таемным задавальненнем ад таго, што знайшоў прычыну пазбегнуць удзячнасці і перайсці на болей адпаведны абставінам тон. Ён вылез з-за стала на сярэдзіну хаты, паправіў на кажушку трохі тугаватую цяпер дзягу. Менавіта гэты паваротак у размове даваў яму падставу перайсці да справы, хоць гэты пераход і патрабаваў яшчэ некаторай псіхалагічнай падрыхтоўкі.

- Ты вораг. А з ворагам у нас - ведаеш, які разгавор?

- Сматра каму вораг, - нібы не адчуваючы кепскага, ціха, але цвёрда пярэчыў стары.

- Сваім. Рускім.

- Сваім я не вораг.

Нязрушная ўпартасць старасты пачынала злаваць Рыбака. Не хапала яшчэ даказваць гэтаму паслугачу, чаму ён - хоча таго ці не - вораг Савецкай дзяржаве. Весці з ім такую размову Рыбак не меў намеру, ён толькі падумаў, што, можа, той мае які невядомы ў сваю карысць довад, і болей правакуючы, чым усур'ёз, запытаў:

- Што, можа, сілай прымусілі? Проці волі?

- Не, чаму сілай? - падумаўшы, сказаў гаспадар.

- Значыць, сам?

- Як сказаць? Пахожа, сам.

«Тады ўсё зразумела, - падумаў Рыбак, - няма чаго і гаварыць». Ён ужо выразна адчуў злосць да гэтага чалавека, на спрэчку з якім ён бавіў патрэбны ім час, тады як і без таго з самага пачатку ўсё было зразумела.

- Так! Пайшлі!

Ускінуўшы рукі, да Рыбака кінулася старасціха.

- Ой, сыночак, куды ж ты? Не трэба, пашкадуй дурнога! Стары ён, па дурноце сваёй...

Стары, аднак, не прымусіў паўтараць загад і няспешліва падняўся за сталом. Быў ён зусім ссівелы і, не зважаючы, што ў гадах, вялікі і мажны - як устаў, загарадзіў сабой увесь покуць з абразамі.

- Сціхні! - загадаў ён жонцы. - Ну!

Відаць, старасціха прывыкла слухацца - хліпнула і

адразу ж падалася за шырмачку. Стараста ашчадна, бы баючыся што зрушыць, надзеў у рукавы кажух і вылез з-за стала.

- Вашая воля. Біце! Не вы, дык другія. Вунь, паглядзіце, - ён коратка кіўнуў на прасценак, - ставілі, стралялі ўжо.

Рыбак міжвольна зірнуў, куды паказаў дзед, - сапраўды ў белай сцяне ля акна чарнела некалькі дзірак, падобна - ад куль.

- Хто страляў?

Гаспадар, гатовы да ўсяго, нерухома стаяў на сярэдзіне хаты, падцяўшы сівыя пашчэнкі.

- А такія... Гарэлкі трэбавалі.

Рыбак унутрана паморшчыўся: ён не хацеў на кагось быць падобным. Свае намеры лічыў справядлівымі, але, згледзеўшы нечыя, падобныя да сваіх, бачыў свае ўжо ў трошкі інакшым святле. І не падобна было, каб стараста яго ашукваў, - такім тонам не хлусяць. Ціхенька пахліпваючы, з-за шырмачкі выглядвала старасціха. На ўслоне, згорбіўшыся, кашляў Сотнікаў, але ён не ўмешваўся ў яго справу з гаспадаром - здаецца, бедалагу рабілася не да таго.

- Так. Карова ёсць?

- Ёсць. Пакуль што, - без усякай цікавасці да новага павароту гаворкі адказаў стараста.

Старасціха перастала хліпаць, затаіла дыханне. Рыбак трохі разважаў: вядома, карову надта добра было б прыгнаць у атрад, але, мабыць, адсюль будзе далекавата; можна не паспець да ранку.

- Так, пайшлі!

Ён закінуў за плячо вінтоўку, стараста пакорліва надзеў знятую з цвіка шапку і моўчкі піхнуў рукой дзверы.

Рыбак, кіруючы за ім, кіўнуў Сотнікаву:

- Ты пачакай.

**4**

Як толькі дзверы за імі зачыніліся, гаспадыня кінулася ў парог.

- Ой, божачкі! Куды ж ён яго? Ай, завошта ж ён? Ай, божачкі!

- Назад! - хрыпла загадаў Сотнікаў і, не ўстаючы з услона, выцяг нагу ў бурку, перагароджваючы дарогу да дзвярэй.

Жанчына боязна адступілася і стала на сярэдзіне хаты. Хвіліну яна то хліпала, то змаўкала, прыслухоўваючыся да гукаў знадворку. Сотнікаў таксама чакаў. Ён дрэнна засвоіў сэнс усяе размовы ў хаце, аднак тое, што дайшло да яго затуманенай гарачкай свядомасці, давала меркаваць, што Рыбак, напэўна, застрэліць старасту.

Але ішоў час, а стрэлу адтуль не было. Захінаючыся ражком хусткі, жанчына ўсё войкала і прычытала, а Сотнікаў сядзеў на ўслоне і пільнаваў, каб яна не вырвалася на двор - не нарабіла крыку. Адчуваў ён сябе кепска. Біў кашаль, калацілі дрыжыкі, галава надта балела, і цела каля цёплае печы то мерзла, то аблівалася сцюдзёным потам.

- Сынок, дай жа я выйду, дай пагляджу, што яны там...

- Нечага глядзець!

Жанчына, відаць было па ўсім, надта перажывала і слепа кідалася ў паўзмроку хаты, прычытаючы, напэўна, каб расчуліць яго і прарвацца ў дзверы. Але нічога ў яе не выйдзе, ён не паддасца яе чуллівасці. Ён надта добра памятаў, як аднаго разу яго наіўная даверлівасць да такой вось кабеты ледзь не каштавала яму жыцця. І таксама з выгляду была святая прастата ў

белай хусцінaчцы на гародзе, сярод бацвіння - ён, ідучы з ляска, адразу запрыкмеціў яе ў той раненькі ранак і падумаў яшчэ: во і добра. Яна скажа, як трапіць на сцежку цераз Чорныя Выгары - балота, якое, як сказалі за дзве вёскі адсюль, не ведаючы дарогі, не перайсці.

Ён выйшаў з кусцікаў і па-над ніўкай канапель, нікім не заўважаны, падышоў да яе, калі яна засяроджана корпалася ў баразне. Дагэтуль у яго вачах стаяць яе шэрая спадніца, белыя, незагарэлыя ікры ног і нейкая куртка з латкаю на плячы - жанчына ламала бацвінне і не бачыла яго. Ён сцішана павітаўся, і яна, надзіва, не спалохалася, толькі пільна ўгледзелася ў яго, слухаючы і нібы не разумеючы просьбы.

Пасля яна ўсё як найлепш расказала - і як выйсці на сцежку, і як перайсці кладкі, і па які бок пакінуць грудок, каб не ўбіцца ў багну. Ён падзякаваў і хацеў ісці, але яна не пусціла, сказала: «Пачакай, мусіць жа, галодны», - азірнулася, паклала ў прыпол бацвінне і павяла ў хату. І трэба ж было яму пагадзіцца, не адмовіцца ад гэтай яды. Але ён і сапраўды быў згаладнелы і стомлены, як вясновы воўк, і пайшоў за ёй па мяжы да недалёкай сядзібы.

Пакуль яны ішлі, яна таксама ласкава казала яму «сынок» і яшчэ, памятаў, разы два назвала «гаротнічкам» - быў ён няголены, як цяпер, нямыты, мокры да каленяў ад расы, здыхлаваты ад недаядання і ўвогуле жаласны. Гаварыць па-тутэйшаму яшчэ не ўмеў і схаваць сваё яўнае вайсковае паходжанне не мог - адразу было відаць, хто ён і адкуль. Зброі ў яго ў той час не было - толькі два дні да таго нейкім цудам вырваўся ад смерці, амаль без жаднае надзеі на паратунак...

Старасціха тым часам не магла супакоіцца: усё болей мітусілася па хаце і плакала.

- Сыночак, ну як жа так? Ён жа яго застрэліць!

- Трэ было раней аб тым думаць, - сказаў Сотнікаў, слыхам стараючыся болей пільнавацца гукаў знадворку, чым слухаць яе слёзную жальбу.

- А дзетачка, ці ж я не казала, ці мала прасіла! На якога ж ліха яму было брацца? Маладзейшыя ж ёсць. А дык жа каторыя людскія - не хацелі, а нялюдскіх людзі баяліся.

- А яго не баяцца?

- Пётру? Ай, дык яго ж тут усе ведаюць, мы ж тут спрадвеку жывём, нашай жа тут радні паўсяла. Ён жа да ўсіх па-добраму...

- Наўрад ці выходзіць па-добраму.

- Можа, і так. Можа, і праўда твая, сынок, - не выходзіць. Яны ж яго на ўсё прымушаюць: то хлеб здай, то адзёжу збяры, то на дарогу гоняць - дарогу чысціць. А ён жа дзе возьме - усё людзей трэба змушаць.

- А вы як думалі? На тое і захопнікі, каб змушаць.

- Змушаюць, анягож. Каб іх Бог змусіў! Прыехалі на машынах, пабралі свіней. І нашага парсючка забралі, не паглядзелі, што стараста. Кажуць: сын у Чырвонай Арміі, дык каб загладзіць віну перад Германіяй. Каб яна ясным агнём гарэла, тая Германія.

«Кляні, але не надта я паверу табе», - санліва думаў Сотнікаў, не прыбіраючы выцягненую нагу. Помніцца, тая таксама нешта казала і пра Германію, пакуль бразгала ў пасудніку і кроіла хлеб. Разоў колькі выбягала ў сенцы - па сала і па малако ў гляку, а ён сядзеў на лаўцы ля стала і, глытаючы слінкі, чакаў, дурань, ежы. Праўда, аднаго разу яму пачулася, нібы ў сенцах хтось ціха гукнуў, пасля данёсся кароценькі шэпт, але тут ён пазнаў сонны дзіцячы голас і супакоіўся. Ды і гаспадыня ўвайшла ў хату спакойная і ласкавая, наліла яму вялікую кварту малака, накроіла сала, і ён, памятае, адчуў нешта вельмі ўдзячнае да яе. Пасля ён умінаў хлеб, прысёрбваючы малако, і так, мусіць бы, і ўліп ні за што, каб нейкая інстынктыўная сіла самазахавання без аніякай прычыны не прымусіла яго зірнуць у застаўленае кветкамі акно. І ён на секунду абмёр, разгубіўшыся: па вуліцы хутка ішлі двое з

вінтоўкамі, на рукавах бялелі павязкі, а следам бегла малое гадоў васьмі.

Шкада, у яго тады адняло мову, і ён нічога не сказаў той ласкавай цётцы - ён толькі штурхнуў яе ад дзвярэй і шалёным напорам ірвануў на гарод, цераз платы за каноплі, далей на выган, у роў, у кустоўе. Ззаду стралялі, крычалі. Ужо, мабыць, у рове ён зразумеў, што з іншымі галасамі наўздагон нясецца і крык тае кабеты - яна паказвала, куды ён пабег.

А гэта цяпер вось ласкавая: сынок, дзетачка...

Ад стомы ці то ад гэтай праклятай прастуды, яго свядомасць нібы завалоквалася часам густым туманам, на нейкія нядоўгія прамежкі часу ён забываўся, тут жа прахопліваючыся зноў. Старасціха цяпер прысела перад ім на канец лаўкі і, мабыць, не чуючы пакуль нічога жахлівага са двара, трохі абспакайнела.

- Дзетачка, гэта ж няпраўда, што ён па сваёй ахвоце. Яго ж тутэйшыя мужыкі ўпрасілі. Ой, як жа ён не хацеў! А бумага з раёну прыйшла - старасту на нараду выклікалі. А ў нас, у Лясінах, яшчэ ніякага старасты няма. Ну, мужыкі і кажуць: «Ідзі ты, Пётра, ты ў пляну быў». А ён жа і праўда ў тую, мікалаеўскую, два гады ў пляну быў, у немца рабіў. «Дык, - кажуць, - табе іх нораў ужо знаёмы, пацярпі якіх са два месяцы, пакуль нашыя вернуцца. А то Будзілу паставяць, во бяда будзе». Будзіла гэты тожа з Лясінаў, нягодны - страх. От яго мужыкі баяліся. Дык ён цяпер у паліцыі ў мястэчку. Найшла свіння лужыну.

- Знойдзе і кулю.

- А хай бы, чорт бы па ім плакаў... Дык гэта Пётру, дурня, і ўгаварылі, пайшоў у мястэчка. На сваё ліха. А цяпер ці гэта яму хочацца халуём нямецкім быць? Можа, кожны дзень божы грозяцца, крычаць ды яшчэ наганамі ў лоб тыцкаюць, гарэлкі трэбуюць. Мучаецца ён, не дай бог.

Сотнікаў сядзеў, прыгрэўшыся ля печы, і намагаўся

толькі абы не заснуць. Праўда, драмаць не даваў кашаль, які то адчапляўся на хвіліну, то біў так, што балела ў мазгах. Старасціху ён слухаў і не слухаў, унікаць у яе скаргі не надта хацеў, адчуваў, што варта толькі даць сабе паслабку, як нядоўга і пранікнуцца спачуваннем да няўдакі-старасты, чаго ён нізашто не мог дазволіць сабе. Ён не мог спачуваць чалавеку, які пайшоў на службу да немцаў і так ці інакш выконваў гэтую службу. Тое, што ў таго знаходзіліся нейкія там апраўданні, не кранала Сотнікава, які ўжо ведаў цану такога роду апраўданням. У той барацьбе, якая пачалася з фашызмам, нельга было зважаць ні на якія, самыя важкія прычыны - перамагчы можна было толькі насуперак усім прычынам. Ён засвоіў гэта з самага першага свайго бою і ўсюды трымаўся менавіта таго пераканання, што толькі і давала яму захоўваць цвёрдасць сваіх пазіцый ва ўсіх складанасцях гэтай вайны.

Спахапіўшыся, што дрэмле, Сотнікаў паспрабаваў устаць, але яго так хіснула па хаце, што ён ледзь не ляпнуўся аб сцяну. Гаспадыня, сама спалохаўшыся, неяк падтрымала яго, і ён падабраў з падлогі вінтоўку.

- Фу, чорт.

- Сынок, ды што ж гэта з табой? - заўважыўшы нешта нядобрае ў ім, іншым голасам загаманіла кабета. - Ды ты ж хворы! А Божачка мой! У цябе ж жар, мусіць? Авохці мне! Табе ж легчы трэба. Во як хрыпіць у грудзях. Пачакай, я табе лекаў звару.

Яна са шчырай спагадай шаснула некуды ў запечак, зашархацела там чымсьці з паклажы, а ён падумаў, што, мусіць, сапраўды, ягоная справа дрэнь, калі ўжо так занепакоілася гэта жанчына. Але не хапала лячыцца ў старасціхі!

- Не турбуйцеся, мне нічога не трэба.

Яму і сапраўды не хацелася ні піць, ні есці, і нічога не трэба было, апроч цяпла і спакою.

- Як жа не будзеш, сынок? Ты ж хворы, ці ж гэта не відно? Я даўно прыкмячаю.

- Няважна, - сказаў Сотнікаў.

- Калі, можа, некалі, дык на малінкі сухой, мо дзе заварыш, пап'еш. А гэта во зёлачкі...

- Не трэба!

Яна совала яму нешта з торбачак, што дастала з печы, а ён адхінуўся, не хацеў нічога прымаць ад яе, бо не зычыў гэтай кабеце дабра і таму не мог пагадзіцца на яе паслугу. Але ў той час у сенцах забразгалі, ён пачуў Рыбакоў голас, і ў хату зазірнуў староста.

- Хадземце, таварыш кліча.

Хістаючыся ад слабасці і гулу ў галаве, Сотнікаў устаў і вылез у халодныя цёмныя сенцы. Праз расчыненыя дзверы на снежным двары відаць быў Рыбак, ля яго ног на снезе ляжала авечка, якую той збіраўся падняць на спіну.

- Так. Ты ідзі! - роўным дзелавым голасам сказаў Рыбак да старасты. - І зачыні дзверы, нечага глядзець.

Староста хацеў нешта сказаць, ды, мабыць, перадумаў і вярнуўся ў сенцы. Дзверы за ім шчыльна зачыніліся, пасля чуваць стала, як бразнула клямка ў хату.

- Што, пускаеш? - з папрокам, сіпла запытаў Сотнікаў.

- А чорт з ім.

- Ну і дарма!

Не адказаўшы, Рыбак дужым высілкам ускінуў на плячо авечку і пакрочыў за вугол хляўка, адтуль павярнуў па цаліку да знаёмага гуменца, касабокія будынкі якога цьмелі непадалёк у змроку. Сотнікаў павалокся следам.

Яны ішлі моўчкі па ранейшых сваіх слядах - цераз прыгуменне, уздоўж плота, выйшлі на касагорыну ля хмызняку. У вёсцы ўсё было ціха, нідзе з вокнаў не выбівалася ні плямкі святла, па-начному сонна шарэлі ў прыцемку заснежаныя стрэхі, сцены, платы, дрэвы ў садках. Рыбак хутка крочыў наперадзе, несучы на плячах авечку - адкінутая галава яе з белаю лысінкай на лобе мёртва целяпалася на яго плячы. Час, мабыць, мінаў за поўнач - маладзічок узлез у самую высь неба і ціха бліскаў там, па-ранейшаму завалочаны святлявым мроівам. Зоркі наўкола яго іскрыліся ярчэй, чым увечары, гучней рыпеў снег пад нагамі - у самую сілу ўбіраўся мароз. Рыбак шкадаваў крыху, што надта забавіліся ў старасты, але хоць недарма, адпачылі, абагрэліся, а галоўнае - вярталіся не з пустымі рукамі. Авечка, вядома, не вялікі наедак на дваццаць сем чалавек, але пакуль што голад спатоліць. Хоць і далекавата, ды ўсё ж расстараліся, цяпер трэба паспець да ранку.

Ён спорна крочыў з ношай, не надта ўжо і асцерагаючыся ў начным полі на знаёмай дарозе. Каб не Сотнікаў, якога нельга было кідаць аднаго, ён бы апынуўся і далей. Мабыць, упершыню за сённяшні дзень у Рыбака варухнулася кароценькая незадаволенасць хворым напарнікам, але што зробіш: ці яго ў тым віна. Праўда, міжволі падумалася, што ўрэшце мог бы дзе расстарацца і якую цяплейшую адзежыну, і тады, можа, быў бы здаровы і цяпер вось памог бы яшчэ і валачы гэтую авечку. Спярша дык яна здалася зусім нецяжкой, але неяк даволі хутка стала грузнуць на карку, галава яго пакутна падварочвалася, дрэнна было глядзець наперад. Тады Рыбак пачаў злёгку пасоўваць авечку на плячах: пакуль адно несла, другое адпачывала - так было зручней. На хадзе ён добра ўгрэўся ў цёплым кажушку, нядаўна яшчэ зусім новым, фарбаваным у чорнае, які няблага паслужыў яму ў гэтую сцюжу. Без кажушка ён, мабыць, прапаў бы. А так і лёгка і сугрэўна, і надзець і прыкрыцца дзе на начлезе; дзякуй дзядзьку Ахрэму - не пашкадаваў, аддаў. Хоць, вядома, у Ахрэма былі свае на тое прычыны, і галоўная з іх, безумоўна, датычыла Зосі,

якая - гэта ён ведаў пэўна - сэрцам надта ўжо прыкіпела да яго. Але што ж... Хіба каб не вайна. Зрэшты, каб не вайна, дзе б ён спаткаў тую Зосю? Якім чынам старшына стралковае роты Рыбак мог апынуцца ў той Карчоўцы - маленькай глухаватай вёсцы пры лесе? Мабыць, і не завітаў бы ніколі, хіба што праехаў бы калі па бальшаку на асенніх манеўрах, і толькі. А тут быў змушаны. Уначы прыстыргікаў з параненай нагой, тоўста абкручанай скрываўленай нацельнай сарочкай, папрасіўся ў хату - баяўся: удзень пачнуць ездзіць немцы і хутка падбяруць яго, аднаногага. Толькі развіднела, яны і сапраўды пачалі гойсаць на матацыклах і конна па ўчарашнім полі бою, заваленым трупамі, ды ён у той час ужо быў прыхаваны ў пуньцы пад кучай гарохавін. Ахрэм і Зоська пільнавалі яго ўдзень і ўночы і - зберaглі. А пасля наўкруг стала ціха, прыйшла і асталявалася новая ўлада, не стала нават чутно артылерыйскага гулу ўначы: было надта тужліва. Здавалася, усё ранейшае, дзеля чаго ён жыў і стараўся, чаго дасягнуў сваёй рупнасцю, назаўжды рухнула. Дужа горка яму было ў той час, і тады адзінай уцехай у яго патайным вясковым жыцці стала пульхненькая ласкавая Зоська. Ды ненадоўга.

Здароўя ў яго не бракавала, малака і смятаны было даволі, рана на назе за месяц як-колечы ўгаілася, праўда, трошкі напаміналa аб сабе на хадзе, але нічога. Між ласкі і маладых уцех у гасціннай Ахрэмавай хаце ён усё больш пачаў думаць аб тым, як быць далей. Тады аб'явіліся дружкі, такія ж, як ён, акружэнцы - хто выздаравелы ад ран, хто проста аклемаўшыся на хутарах і ў вёсках ад першага страху акружэння, - пачалі сходзіцца, дасталі прыхаваную зброю. Вырашылі: трэба падавацца ў лес, нягожа былым вайскоўцам туляцца па сялянскіх закутках, ля добрасардэчных маладзіц, нераспісаных, нявенчаных ваенных жонак. І пайшлі. Сумнае і нечакана балючае было яго развітанне ў Карчоўцы. Праўда, ён не стаў, як некаторыя, таіцца ці - яшчэ горш - уцякаць, сказаў усё, як было, і надзіва - яго зразумелі, не скрыўдавалі і не адгаворвалі. Зоська, праўда, заплакала, а дзядзька Ахрэм сказаў толькі: «Раз нада, дык нада. Ведама, дзела ваеннае». І ён і цётка

Ганули сабралі яго, як роднага сына, і выправілі. Рыбак паабяцаў даваць знаць пра сябе, наведвацца пры выпадку. Яно раз і наведаўся ў канцы восені, а пасля стала нельга, а галоўнае - не цягнула; мусіць, адвык, ці што. А можа, не было таго, што прыварожвае назаўжды, а так - з'явілася, перабыло і прапала. І ён не шкадаваў аб тым, сабой быў давольны - не ашукваў, не лгаў, добра ці не - усё зрабіў па шчырасці і адкрыта. Хай людзі мяркуюць, як знаюць, ягонае ж сумленне перад Зоськаю было амаль чыстае.

Ён страх не любіў чыніць людзям зло - знарок ці ненаўмысле крыўдзіць, не трываў, калі на яго крыўдавалі. У арміі, праўда, цяжка было абысціся без гэтага, трэба было - спаганяў, але стараўся, каб тое выглядала па-добраму, дзеля карысці службы, а не дзеля якога асабістага інтарэсу. І яшчэ стараўся абыходзіцца без выпадаў злосці. Цяпер злы, дапяты хваробай Сотнікаў папракнуў яго старастам, што пусціў, не пакараўшы, але Рыбаку стала агідна караць - чорт з ім, хай жыве. Вядома, да ворага трэба адносіцца без усякае літасці, але тут сталася так, што ўжо надта па-сялянску знаёмым здаўся яму гэты Пётра. Калі што, хай яго пакараюць другія. У хаце, пакуль спрачаліся, ён нават і меў нейкі намер правучыць старасту, але пасля, у хляўку, калі разам узяліся лавіць авечку, гэтае жаданне пастуклова знікла. У хляве мірна, звычайна пахла сенам, гноем, жывёлай. Авечкі спуджана кідаліся з кутка ў куток, гэтую ж, з белай плямкай на лобе, стары падлаўчыўся схапіць за шэрсць, і тады Рыбак спрытна ашчаперыў яе за шыю, адчуўшы на момант нейкую паўзабытую, ледзь не дзіцячую радасць здабычы. Пасля, пакуль трымаў, а Пётра рэзаў ёй горла і авечка білася на саломе, па якой цёк ручаёк парнай крыві, у ягонае пачуццё шыбанула незабыўнае з маленства ўражанне страхавітае радасці, калі гэтаксама ў канцы восені бацька рэзаў адну ці аж дзве авечкі і ён, падлетак, памагаў яму. Усё было тое самае: і пахі ў хляўку, і кіданне ў смяротэльным, нібы ўсвядомленым, адчаі жывёліны, і парнасць цёплай крыві на марозе. Тады ён, праўда, баяўся глядзець на такое, затыкаў вушы, каб не чуць перадсмяротнага

бляяння звыклых ад ягнячае пары авечак, кожную з якіх ён ведаў ва ўсіх драбніцах іхняга выгляду і характару. Цяпер жа, аднак, таго страху не было і звання, астаўся адзін успамін.

Поле, на якое ён павярнуў ад хмызняку, аказалася нечакана даўгім і шырокім, і яны ішлі, мабыць, з гадзіну, бухаючы нагамі ў снезе. Рыбак не ведаў пэўна, ды ўсё ж адчуваў, што недзе ўпоперак таго, куды яны ідуць, павінна быць дарога, тая самая, якою яны нядаўна ішлі сюды, пасля пачнецца схіл да поплаву. Але мінаў час, яны адмералі вярсты дзве, а дарогі ўсё не было, і ён пачаў меркаваць, ці не перайшлі яны дзе яе, не заўважыўшы. Тады яны маглі збіцца з кірунку, не ў час павярнуць улева, у лагчыну. Кепска, што гэтую мясцовасць ён ведаў блага, ды і не распытаў як след у хлопцаў у лесе. Праўда, тады планавалася ісці трохі ў іншы бок.

Рыбак спыніўся, азірнуўся на Сотнікава, які зноў далекавата адстаў і знямогла гробся ў суцемку. На месяц угары насунулася нейкая імгла, ноч пацямнела, удалечыні зусім нічога не было відаць. Ён скінуў з карка авечку, паклаў на яе бок карабін і з палёгкай расправіў намуляныя плечы. Праз хвіліну не надта ўпэўненым крокам да яго дашкандыбаў Сотнікаў.

- Ты ўжо як-небудзь. Знаеш, я не памочнік.

- Ладна, куды табе, - адсопваючыся, сказаў Рыбак і перавёў размову на іншае: - Не прымеціў, мы правільна ідзём?

Сотнікаў, цяжка дыхаючы, паглядзеў у ноч.

- Мабыць, правільна. Там лес.

- А дарога?

- Тут недзе і дарога. Калі не павярнула куды.

Абодва моўчкі паўзіраліся ў змрочнае снегавое сутонне, і тады зусім нечакана ў шумлівым павеве ветру іх напружаны слых злавіў нейкі няпэўны гук. То быў голас

- самы звычайны дарожны вокрык на каня: «Нэ-э»... У наступнае імгненне стаў чуцен і ціхенькі ўдалечы тупат капытоў - яны абодва ўраз павярнулі твары пад вецер і не так убачылі, як угадалі далёка ў прыцемках ледзьве прыкметны рух. Рыбак спярша ледзь не збянтэжыўся - здалося, даганяюць, але неўзабаве зразумеў, што гэта не наўздагон, а хутчэй наперарэз, мабыць, па той самай дарозе, якую яны шукалі. Непрыемна адчуўшы, як закалацілася ў грудзях сэрца, ён узяў карабін, хуценька закінуў яго за плячо. Але тут жа аўтаматычным, амаль падсвядомым адчуваннем сцяміў, што небяспека кіруе міма, толькі ці дастаткова далёка ад іх, каб не згледзець уночы, вызначыць таго не мог. І ён, прысеўшы, дужым рыўком зноў узваліў на сябе тушу авечкі. Поле ішло на пагорак, ім трэба было як найхутчэй праваліць цераз яго, і тады, мусіць, іх бы ўжо не ўбачылі.

- Давай, давай! Бягом! - гукнуў ён да Сотнікава, прыбаўляючы кроку. Ногі яго адразу падужэлі, цела, як заўжды ў хвіліну небяспекі, набыло лёгкасць і спрыт. І раптам ён згледзеў за пяць крокаў ад сябе дарогу - раз'езджаныя яе каляіны кіравалі ім наўкось. Цяпер ужо стала зразумела, што гэта тая самая дарога, па якой ехалі; ён зірнуў убок і выразна ўбачыў наводдалі цемнаватыя рухавыя плямы, чутно было ціхае бразганне чагось з вупражы; сані хуценька набліжаліся. Рыбак, нібы замініраваную паласу, з зацятым страхам перабег тую праклятую дарогу, так неспадзявана і не ў час выніклую перад імі, і тут жа выразна адчуў, што зрабіў няўдала. Мусіць, лепей было б падацца назад, па другі бок, ды ўжо было позна пра тое думаць. Раскопваючы ботамі снег, ён шпарыў на пагорачак і думаў, што, пэўна, вось-вось іх клікнуць. Яшчэ не дабегшы да вяршыні, за якой пачынаўся спуск, ён зноў азірнуўся. Сані выразна сталі відаць на дарозе, іх было двое - другія амаль ушчыльную шыбавалі за першымі. Але седакоў пакуль яшчэ нельга было згледзець, крыку таксама не было чутно, і ён з маленькай, надта жаданай надзеяй падумаў, што, можа, гэта сяляне. Калі не крыкнуць, дык пэўна сяляне - мусіць, з нейкай прычыны запазніліся ўначы, - тады дарма ўвесь гэты ягоны спалох. Трохі ўсцешаны нечаканай надзеяй, ён ажно

спакойней разы два выдыхнуў і на бягу павярнуўся да Сотнікава. Той, як на злосць, хістка тупаў наводдалек, нібы ўжо не могучы прабегчы якіх сотню крокаў, што заставаліся яшчэ да вяршыні пагорка.

І тады начную ціш скалануў пагрозлівы вокліч:

- Гэ-эй! Ану, стой!

Адно першае катэгарычна-патрабавальнае «гэй!» дало зразумець, з кім яны маюць справу. Раптам апаўшы духам, Рыбак з новым імпэтам сіганyў па снезе. Яму заставалася зусім ужо трошкі, каб схавацца за пакатай спіной пагорка, далей, здаецца, пачынаўся спуск - там бы яны ўжо ўцяклі. Але менавіта ў той час сані спыніліся, некалькі галасоў хрыпла і сіпата закрычалі ім наўздагон:

- Стой! Стой, страляць будзем! Стой!!

Стала ўсё проста і да душэўнага болю пэўна. Не пакідаючы ні рэшты сумнення, разанула думка: «Папаліся!» Рыбак зморана шпарыў па шырокай спіне пагорка, пакутна цямячы, што галоўнае цяпер - адбегчыся як мага далей. Мусіць, на конях даганяць не будуць, а страляць - хай страляюць: уначы не дужа пацэліш. Авечку, якая так недарэчы ляжала на плячах, ён, аднак, не кідаў - яшчэ меў надзею: авось абыдзецца, як-небудзь прарвуцца.

Неўзабаве ён пераваліў пагорак і шырока зашыбаў па схіле ўніз. Ногі спраўна неслі яго, ажно баяўся, каб не ўпасці з авечкай. Карабін за спіной важка боўтаў, стукаючы ў сцягно, ціхенька лязгалі ў кішэнях патроны. Яшчэ здалёку ён прыкмеціў наперадзе нешта расплывіста-цёмнае, мабыць, зноў хмызняк, і кіраваў да яго. Крыкі ззаду на нейкі час сціхлі, стрэлаў пакуль не было. Мусіць, яны з Сотнікавым ужо схаваліся з вачэй тых, што ў санях.

Але вось крок яго зноў запаволіўся: паглыбеў снег - гэта ён збег па схіле ў лагчыну і, ахоплены новай трывогай, спыніўся. Сотнікаў адстаў так далёка, што Рыбак ажно

спалохаўся: здалося, той зусім не спяшаўся, не бег, а ледзьве валокся ў змроку. Але Рыбак нічым не мог яму пасабіць, апроч хіба як апантана імкнуцца наперад. Цяпер яму як мага хутчэй трэ было дабегчы да таго кустоўя, што ўжо быццам непадалёк чарнела наперадзе.

- Стой! Падлы бандыцкія, стой!! - зноў паляцелі наўздагон пагрозлівыя, з лаянкай воклічы.

Значыць, усё ж даганяюць. Не азіраючыся - няўклюдна было вывернуцца з авечкай, - Рыбак вызначыў па крыку, што тыя ўжо на пагорку і, мабыць, убачылі іх. Надта невыгоднае аказалася іх становішча, асабліва Сотнікава, якому да хмызняку яшчэ бегчы ды бегчы. Але што ж... Як заўжды пры найбольшай пагрозе, кожны дбаў пра сябе, беручы свой лёс ва ўласныя рукі. Што ж да Рыбака, дык каторы ўжо раз за вайну яго ратавалі ногі. Праўда, магчымасці іх былі малыя - да крыўднага абмежаваныя магчымасці дзвюх чалавечых ног. І тым не менш менавіта яны, а не што іншае абяцалі яму паратунак.

Хмызняк, аказваецца, быў далей, чым здалося ўначы. Рыбак яшчэ не дабег да яго, калі ззаду забахалі стрэлы. Стралкі, аднак, былі болей чымся няважныя, ён, не азіраючыся, зразумеў гэта па тым, як напятай струной прайшла над ім куля. Надта высока прайшла - гэта ён зразумеў пэўна. І ён прымусіў сябе пад тымі кулямі дабегчы да хмызу. Мусіць, тут было нейкае лугавое балотца - па снегавой роўнядзі блытаўся голлем алешнік, рыхлы снег пад нагамі бугрыўся купінамі. Рыбак упаў між куп'я, зваліў з пляча авечку. Пэўна, трэба было бегчы далей, але ў яго ўжо не асталося сілы. Ззаду ваўсю ішла перастрэлка, і ён зразумеў, што гэта Сотнікаў стрымлівае іх. Спярша ён ажно парадаваўся: значыць, адарваўся. З карабінам у руках ён на каленях вывернуўся назад, прыўзняўся над грыўкай дробненькага хмызняку і здалёку ўбачыў напарніка. Недзе пад самым пагоркам той варушыўся ў снезе, але адсюль, праз шэры прыцемак ночы, нельга было зразумець, ці ён бег, ці, можа, стаяў на адным месцы.

Пасля трох-чатырох стрэлаў з пагорка адзін бахаў бліжэй - то быў стрэл Сотнікава, які, вядома, затрымліваў іх. Але ўсё ж наўрад ці разумна было ў ягоным становішчы пачынаць перастрэлку з паліцыяй, падумаў Рыбак. Мусіць, трэба б як найхутчэй уцякаць, адрывацца. Гэты хмызняк на дарозе - проста іх шчасце, ён бы даў магчымасць заблытаць свой след і ўцячы. Ды Сотнікаў нібы не разумеў таго - здаецца, залёг і ані не варушыцца нават. Калі б не яго стрэлы, дык можна б падумаць, што ён нежывы.

А калі ён паранены?

Ад гэтае думкі-здагадкі Рыбаку стала зусім ніякавата - то было вышэй за яго магчымасці. Паліцаі зверху, з пагорка, мусіць, добра бачаць адзінокага чалавека на снезе і мала што пакуль не бягуць да яго - яны, безумоўна, застрэляць яго з вінтовак. Калі ён, Рыбак, кінецца на дапамогу, заб'юць абодвух - гэта ж так проста. Як бывала ў фінскую, калі праклятыя снайперы з дрэў набівалі па чатыры-пяць чалавек за хвіліну, і ўсё тым жа самым прымітыўным спосабам: да першага падстрэленага на выручку кідаўся сусед па ланцугу і тут жа клаўся з прастрэленым нутром побач, потым да іх поўз наступны. І кожны з гэтых наступных напэўна ведаў, што яго чакае там, але не мог стрымаць сябе, чуючы, як гэтак блізка стогне-канае таварыш.

Значыць, калі яшчэ можна, трэба ўцякаць. Сотнікава ўжо не ўратуеш, а самому загінуць вельмі проста. Рашыўшы так, Рыбак хуценька закінуў за спіну карабін, рашучым намаганнем узваліў на плячо авечку і, спатыкаючыся ў снезе, прыпусціў краем балотца.

Мусіць, ён далёка ўжо адбег ад таго месца і зноў здорава замарыўся. Стрэлы ззаду на нейкі час быццам сціхлі, і ён, услухоўваючыся ў цішыню, з цьмянай палёгкай падумаў, што там усё скончана. Але праз хвіліну яны пачуліся зноў. Бахнула разы тры, адна куля з віскам прайшла над балотам. Значыць, Сотнікаў яшчэ жывы. І менавіта гэтыя стрэлы азваліся ў Рыбаку новай трывогай, панішчыўшы кволую радасць ад таго, што сам уратаваўся. Яны напаміналі і страхавітаю горыччу

варушылі разгарачанае яго пачуццё. Авечка ўсё цяжэла, часам яе скалянелы цяжар здаваўся чужым і апрыклым, і ён валок яе, думаючы зусім аб іншым.

Праз хвіліну наперадзе паказаўся неглыбокі равок, можа, бераг рачулкі. Пэўна трэба было перайсці на той яго бок, Рыбак сунуўся з берага, але паслізнуўся - ноша яго звалілася на ўзгорак, а ён на спіне ссунуўся ўніз. Войкнуўшы, ускочыў, на руках і каленях выбраўся з раўка і раптам выразна адчуў, што рабіў не так. Як было столькі сілы выдаткоўваць на гэту праклятую авечку, калі там аставаўся таварыш? Ён яшчэ жыў і напамінаў аб сабе стрэламі, а Рыбак, па сутнасці, кідаў яго ворагам. Відочная недарэчнасць ранейшага намеру стала такая выразная, што Рыбак вылаяўся і збянтэжана сеў на ўзгорку. Якраз у той час за хмызняком грымнуў яшчэ адзін стрэл, і болей стрэлаў з пагорка ўжо не было. «Можа, там што перайначылася?» - падумаў Рыбак. Настала няпэўная паўза, яна, аднак, падштурхнула Рыбака, і ён ускочыў.

Стараючыся не разважаць болей, ён хуткім крокам кінуўся па сваім следзе назад.

**6**

Сотнікаў не меў ніякага намеру пачынаць перастрэлку - ён проста ўпаў на схіле, у галаве закружылася, усё навокал паплыло, і такая знямога скавала цела, што ён, бы нежывы, распластаўся ніц, убіўшы ў снег галаву.

Перад тым як упасці, ён убачыў, што Рыбак шпарка шыбаваў наперадзе, але рукі ў таго былі заняты ношай, ды ён, мабыць, і не заўважыў, што стала з напарнікам, які і не азваўся, не крыкнуў, бо ведаў: дарма, яго ратаваць позна. І Сотнікаў ляжаў некалькі доўгіх секунд, пакуль не пачуў ззаду галасы і не зразумеў, што яго хутка схопяць. Тады ён выдзер са снегу вінтоўку і, каб на якую хвіліну адсунуць ад сябе тое самае страшнае, што павінна было адбыцца, не ўстаючы, стрэліў у змрок. Хай ведаюць, што так проста ён ім не здасца. Мусіць, гэта падзейнічала: яны там, у полі, нібы

прыпыніліся, і ён падумаў, што трэба паспрабаваць яшчэ. Хоць ён і ведаў, што шансы яго надта мізэрныя, але ўсё ж неяк саўладаў з сваёй слабасцю, намогся і, абапёршыся на вінтоўку, устаў. У той момант яны паказаліся нечакана блізка - тры чорныя цені на шэрым горбе пагорка, прыпыніўшы бег, насцярожана пазіралі ўніз. Мабыць, згледзеўшы яго, крайні справа штось крыкнуў, і Сотнікаў, амаль не цэлячыся, стрэліў другі раз. Было бачна, як яны там хіснуліся долу ад яго кулі, папрыселі, мусіць, чакаючы новых стрэлаў, а ён, заграбаючы нагамі снег, слаба і няўклюдна пабег, кожную секунду рызыкуючы зноў грымнуць на снегавы дол. Рыбак ужо быў далекавата наперадзе, спорна шыбаваў да ляска, і Сотнікаў падумаў: можа, уцячэ. Ён і сам стараўся з астатніх сіл як надалей адбегчыся ад таго пагорка, ды ззаду ледзь не залпам ураз бабахнулі тры стрэлы.

Некалькі крокаў ён яшчэ прабег, але ўжо ведаў, што ўпадзе, - у правым сцягне жахліва запякло, ліпкая гарачыня палілася па калене ў брак. Яшчэ праз два крокі ён перастаў адчуваць нагу, якая незразумела змярцвела, падвярнулася, і ён спотырч рухнуў грудзьмі на снег. Вялікага болю ён не адчуваў, было толькі млосна і надта горача вышэй калена, у калашыне хутка макрэла. Некалькі часу ён нязрушна ляжаў так, да болю закусіўшы губу. У яго свядомасці ўжо не было спалоху, ён перажыў яго трохі раней, не было нават жалю - было толькі надта выразнае, цвярозае і быццам не яго, а чужое ўсведамленне таго, што гэта - канец.

Ззаду зноў пачуліся галасы - мабыць, гэта ішлі ягоныя забойцы, каб узяць яго, жывога ці мёртвага. Трываючы моцны боль у назе і ледзь перамагаючы слабасць, ён прыўзняўся на руках і сеў. Полы яго шыняля, буркі, рукавы і калені былі густа абсыпаны марозным снегам, на штаніне вышэй калена расплывалася мокрая пляма. Зрэшты, ён не зважаў на тое, выкінуў з патронніка смярдзючую стрэляную гільзу і дастаў новы патрон. Ён зноў выразна ўбачыў тых трох на схіле - адзін наперадзе, а два ззаду - не дужа ўпэўнена яны спускаліся ў месячным мроіве з пагорка ўніз. Тады ён

нетаропка выцяг на снезе параненую нагу, улёгся і старанней, чымся раней, прыцэліўся. Як гул стрэлу адляцеў удалячынь, ён згледзеў, што яны там, на схіле, таропка пападалі, і адразу ж у начной цішы забахалі іхнія стрэлы. Ён зразумеў, што спыніў іх, прымусіў забаяцца сябе, і гэта ціхім задавальненнем кранула яго пачуцці. Расслабіўшыся ад балючага напружання, ён апусціўся лбом на прыклад. Ад стомы ўжо не хапала сілы сачыць за імі ці хавацца ад іх стрэлаў - ён толькі ціха ляжаў, ашчаджаючы рэшткі свае здольнасці стрэліць яшчэ. Тыя ж пачалі па ім біць з вінтовак. Разы два ён пачуў кулі - адна нізка зыўкнула над галавой, другая дзёўбнула недзе ля локця, абдаўшы ягоны твар снегам. Ён не паварушыўся - хай б'юць. Калі заб'юць, дык што ж! Але, пакуль жывы, ён іх да сябе не падпусціць.

Смерці ў баі ён не баяўся - перабаяўся ўжо за дзесятак самых безнадзейных выпадкаў - і не калаціўся за сваё жыццё, якое даўно не было яму асалодай, а з нейкага часу перастала быць і абавязкам. Важна было жыць, калі ён быў камандзірам у арміі, калі ў яго была сіла, якая давала яму магчымасць выконваць свой абавязак, калі ад яго турбот і ўмельства залежалі жыцці людзей. А цяпер ён быў сам, адзін і дбаў толькі аб сабе. Праўда, у іхнім партызанскім жыцці гэта таксама было важна і нялёгка - так дбаць аб сабе, каб не зрабіцца лішнім клопатам для астатніх. Такім, напрыклад, як той узводны Жмачэнка, каторы ў студзені так намучыў усіх у Крыжоўскім лесе. Паранены асколкам у жывот, ён ледзь ліпеў, і яны дзве ночы выносілі яго з-пад носа немцаў і толькі выбраліся ў бяспечнае месца, як ён сканаў.

Сотнікаў болей за ўсё апасаўся такога вось лёсу, але, здаецца, такі яго абміне. Уратавацца, вядома, не ўдасца, затое ён быў пры памяці і меў зброю - гэта галоўнае. Нага ўся дранцвела, ад ступні да сцягна, ён ужо не адчуваў і цеплыні крыві, якой, мусіць, сплыло нямала. Тыя, з пагорка, пасля некалькіх стрэлаў памарудзілі крыху, і нехта з іх там падняўся. Астатнія ляжалі, а ён, гэты адзін, хутка і рухава перабег па схіле ўніз. Ягоны

цень цёмным камяком пракаціўся некалькі крокаў і апаў на снезе. Сотнікаў пацягнуўся рукамі з вінтоўкай, каб уперці прыклад у плячо, і адчуў, як здорава стала балець нага. Балела чамусь калена і сухажылле пад ім, хоць ён адчуваў, што куля трапіла вышэй, у сцягно. Ён сцяў зубы і павярнуўся трохі на левы бок, каб з правага зняць нагрузку. У той час на пагорку мільгануў яшчэ адзін цень - здаецца, яны там па ўсіх правілах вайсковае тактыкі перабежкамі набліжаліся да яго. Тады ён дачакаўся, калі паднімецца трэці, і стрэліў. Стрэліў наўздагад, прыблізна - мушка і проразь дрэнна былі відаць у паўзмроку. У адказ зноў забахалі іхнія стрэлы - на гэты раз многа, можа, стрэлаў з дзесяць, не менш. Счакаўшы, калі яны сціхлі, ён дастаў з кішэні новую абойму і перазарадзіў вінтоўку. Усё ж патроны трэба было ашчаджаць, іх заставалася ўсяго пятнаццаць.

Мусіць, ён ужо даўгавата праляжаў так, цела пачало здорава мерзнуць, нага балела ўсё болей; ад сцюжы і ад страты крыві яго зноў пачала біць дрыготка. А тыя, пастраляўшы, сціхлі, нібы прапалі ўначы - нідзе не відно стала ніводнай постаці. Але ён адчуваў, што наўрад ці яны пакінуць яго тут - пастараюцца ўзяць жывога ці хоць бы мёртвага. І ён падумаў, што, можа, яны да яго паўзуць. А можа, ён ужо кепска бачыць - ад слабасці ў вачах пачалі лётаць нейкія матылі, стала млосна. І ён спалохаўся, што можа страціць прытомнасць і тады здарыцца самае горшае, чаго ён найбольш баяўся на гэтай вайне. Значыць, апошняе, на што ён павінен намагчыся, хоць цераз сілу, хоць самаю апошняй рэшткай свае здольнасці - не здацца жывым.

Ён памалу прыўзняў галаву - недзе наперадзе ў марозных прыцемках мільганула штосьць надта цёмнае - здалося, чалавек. Але неўзабаве ён зразумеў, што гэта на ветры матляўся перад ствалом быльнёг. Тады ён праз боль паварушыў параненай нагой, якую сціскала скразная балючая сутарга, трохі сагнуў яе ў калене. Пальцаў на ступні ён не адчуваў. Зрэшты, чорт з імі, з пальцамі, цяпер яны былі яму непатрэбныя. Другая яго нага была здаровая.

Часу, мусіць, мінула нямала, а можа, і не многа - ён страціў усякае адчуванне яго. Трывожыла самая галоўная думка: не даць сябе захапіць знянацку. Мяркуючы, што яны паўзуць, і каб трохі затрымаць іх, ён прыклаўся да вінтоўкі і зноў стрэліў тры разы ў ранейшым кірунку. Ён чакаў стрэлаў у адказ, але стрэлы нешта марудзілі, і ён падумаў, што, можа, паліцаі запаўзлі дзе ў лагчынку і пакуль не бачаць яго. Тады ён таксама рашыў пакарыстацца здатным для сябе момантам і пакутна пераваліўся на бок.

Намёрзлы яго бурак наогул кепска знімаўся з нагі, цяпер яго трэба было садраць лежачы і толькі аднымі рукамі. Правай нагой ён баяўся паварушыць нават - правая была не памочніца. І ён скурчыўся, напружыўся, да болю сцяў зубы і з усяе сілы пацягнуў бурак. Першая спроба нічога не дала, толькі адабрала большую частку яго небагатай сілы. Праз хвіліну ён засопся, абліўся сцюдзёным потам і спыніў свае намаганні. Але, перадыхнуўшы крыху і агледзеўшыся, з яшчэ большай рашучасцю ўчапіўся ў бурак.

Ён садраў яго пасля пятай ці шостай спробы і некалькі хвілін не мог пакратацца на снезе. Ён ляжаў на баку з буркам у руках, пакуль думка аб блізкай небяспецы не абудзіла яго. Баючыся спазніцца, ён кінуў на снег бурак і падняў галаву. Здаецца, наперадзе не было нікога. Цяпер хай бягуць - ён гатовы быў прыкончыць сябе, варта толькі ўперці ў падбародак рулю вінтоўкі і пальцамі нагі націснуць спуск. І ён парадаваўся ціхай злой радасцю, што ўсё ж выходзіла не па іх - па яго. Але ў яго былі яшчэ дзве абоймы патронаў - імі ён дасць свой апошні бой. Ён прыўстаў вышэй - недзе ж яны павінны быць, не праз зямлю ж яны праваліліся.

Чамусьці іх не было паблізу. Ці, можа, ён кепска ўжо бачыў уначы? Зрэшты, ноч пацямнела, здаецца, маладзічок угары недзе знік, адны зоркі праз марозную смугу мільгалі на небасхіле. Значыць, жыццё ўсё ж скончыцца ноччу, падумаў ён, у змрочным прамёрзлым полі, на адзіноце. Пасля яго, мабыць, завязуць у паліцыю, распрануць, вядома, і там закапаюць дзе-

небудзь на конскім могільніку. Брацкая магіла, якая некалі палохала яго, цяпер была недасяжнаю марай, амаль раскошай. Закапаюць, і ніхто не ўведае ніколі, хто ляжыць у той зямлі. Зрэшты, усё гэта дробязі. У апошнюю хвіліну шкадаваць яму не было чаго, хіба што не хацелася разлучацца з сваёй вінтоўкай, якая слаўна і безадмоўна паслужыла яму паўзімы. Ні разу не заела, ніводзін яе механізм не збракаваў пры стральбе, бой яе быў надзіва спраўны і трапны. Іншыя мелі скарастрэльныя нямецкія аўтаматы, некаторыя насілі СВТ - ён жа не расставаўся з вінтоўкай, якая дасталася яму выпадкам, але ўжо ў тым выпадку выратавала яго жыццё. Здарылася гэта ў восеньскім баі на раз'ездзе, які яны атакавалі ўсёй групай. Рэшта немцаў разбеглася, пакінуўшы машыны, але некалькі чалавек не паспелі ўцячы і схаваліся за штабелем шпал, адкуль адкрылі агонь з карабінаў. Ён упаў тады непадалёку ад насыпу, якраз на самым відавоку, і немцы пачалі біць па ім ледзь не ва ўпор. Адна куля прашыла яму шынелак на плячы, другая ўдарыла пад бок. Ён асыпаў штабель аўтаматнымі чэргамі з «шмайсера», але чэргі тыя мала што маглі зрабіць немцам, укрытым радамі прасмаленых шпал. Праўда, ён у час зразумеў гэта і азірнуўся: непадалёк у канаве ляжаў з паніклаю галавой партызан, ля яго тырчаў з быльнягу ствол вінтоўкі. Сотнікаў задам адпоўз да канавы і пераўзброіўся. Варта было яму, добра прыцэліўшыся, выпусціць туды пяць куль, як нямецкі агонь спыніўся і партызаны пабеглі да будкі. На тым раз'ездзе яны спалілі шэсць цыстэрнаў з гаручым і ўзарвалі стрэлкі. Пасля ён убачыў за штабелем двух забітых эсэсаўцаў і наскрозь прабітыя яго кулямі шпалы, што і вырашыла ягоны выбар: «шмайсер» ён аддаў Мікулічу, а сам узяў вінтоўку. Праз усю партызанскую зіму яна была яго вернай заступніцай і абаронцай. А цяпер, мабыць, дастанецца якому-небудзь п'яніцу-паліцаю, які будзе страляць у вёсках сабак ды збіваць каптуркі з каміноў. Вінтоўка была адзінае яго шкадаванне, іншыя ўсе перабалелі за страшныя месяцы вайны. Але што ж... Там, дзе смерць вызваляла ад пакут, яна не была страшная - была сумнай неабходнасцю, і толькі.

Пачала мерзнуць яго босая нага, і ён падумаў, што не хапала яшчэ адмарозіць яе - як тады націснеш на спуск? Праз боль і знямогу ён паварушыўся на снезе і раптам згледзеў на пагорку рух. Толькі рух не адтуль, а туды. Два цені, надта няпэўныя, размытыя зімовым змрокам, марудна сунуліся па схіле ўгару. Яны ўжо былі пад самым верхам, і ён спярша не зразумеў нават, што там адбылося. Але, пэўна, яны аддаляліся: можа, да саней або па дапамогу, ці што? Гэта было пэўна, ён не мог памыліцца, ён бачыў: яны пайшлі назад, да дарогі. Але што ж тады атрымліваецца? З таемнаю радасцю ў душы ён пабаяўся яшчэ паверыць, што яны пакінулі яго. Зноў жа - ён ведаў, што доўга не працягне паранены на такім марозе ў полі. Значыць, яшчэ выходзіла горш, чым раней, калі абкладвалі яго асадай. Цяпер ён аставаўся прападаць марудна ад страты крыві і ад марозу. Нібы злуючыся на іх за такі паварот справы, а болей ад сваёй безнадзейнасці, ён як-колечы прыцэліўся і стрэліў.

І тут ён здагадаўся, што баяўся дарма: непадалёк з-пад пагорка прагучаў стрэл у адказ. Значыць, вартаўнік усё ж астаўся. Тыя, мабыць, адправіліся па падмогу, а аднаго пакінулі сачыць за ім і трымаць пад абстрэлам. Мусіць, яны сцямілі, што ён паранены і далёка ад іх не ўцячэ. Што ж, усё правільна.

Гэта засмуціла і яшчэ больш. Найгорш, што ён зусім не бачыў таго пад пагоркам, мусіць, добра замаскіраваўся, гад, а па стрэлах уначы не ўгадаеш, дзе ён засеў. Параненейшаму было млосна і трошкі блажыла, нібы ён з'еў што нядобрае. Хацелася піць. Дрыготка ж калаціла ўжо нясціхна, і ён падумаў, што, мабыць, доўга так не прачакае.

Але ён чакаў, невядома на што спадзеючыся, хоць так проста было скончыць з усім. Можа, ён хацеў жыць? Відаць, што хацеў, асабліва цяпер, калі тыя знялі аблогу - сапраўды, яму захацелася выжыць. Толькі як? Балючай нагой ён стараўся не кратаць, нават найменш варушыцца наогул. Але здаровая ступня ўжо, мабыць, адмерзла - значыць, ён зусім аставаўся без ног. А без ног - які ж паратунак?

Пакінуўшы ў снезе вінтоўку, ён павярнуўся на бок, пашукаў побач бурак. Той ляжаў блізка, халявай у снезе. Ён дацягнуўся да яго, высыпаў снег і пачаў намацваць здранцвелай нагою, каб надзець. Надзець, аднак, не ўдалося, гэта аказалася трудней, чым здзерці. Ступня толькі ўлезла ў халявіну, як у яго зноў закружылася ў галаве, поле паплыло кудысь вялізнаю сцюдзёнай крыгай. Стала нясцерпна, і ён сцяўся, стараючыся ператрываць пакуты. У той час здаля бахнуў і пакаціўся гулкім марозным рэхам вінтовачны стрэл - усё адтуль, з-пад пагорка. Бахнуў і другі раз, і трэці. Куль, аднак, ён не пачуў, ды ён і не слухаў. Бокам скурчыўшыся ў сваім снежным лаўжы, ён з усяе сілы стараўся ўздзець бурак. І ён уздзеў яго, хоць і не да канца, неяк ператрываў прыступ асабліва нясцерпнага болю, і яму стала лягчэй. Ён нават павярнуў твар, бо дужа пякло марозам шчаку і лоб. І тады пачуў голас:

- Сотнікаў, Сотнікаў...

Гэта нібы ўдарыла яго нямым здзіўленнем, але ён тут жа падумаў, што, мабыць, яму здалося. Тым не менш ён азірнуўся - ззаду ў змроку варушылася нешта жывое, рухава паўзло і паўтарала ціха, але настойліва:

- Сотнікаў! Сотнікаў!

Вядома, гэта Рыбак. Сотнікаў пазнаў яго басавіты голас і тады зусім ужо апаў у сваім пакутным напружанні. Хоць у той час ён яшчэ не ведаў, добра гэта ці не, што Рыбак вярнуўся, але ўжо разумеў, што як ні дзіўна, але і гэты раз ягоны канец адсоўваецца на няпэўнае, невядома якое будучае...

**7**

Яны папаўзлі да кустоўя - наперадзе Рыбак, за ім Сотнікаў. Гэта быў доўгі і цяжкі шлях. Сотнікаў не спраўляўся за сябрам, а часам і зусім заміраў у снегавой баразне, і тады Рыбак, абярнуўшыся, хапаў напарніка за каршэнь і валок за сабой. Ён таксама выбіўся з сілы - мала таго што памагаў Сотнікаву, дык

яшчэ валок на сабе абедзве вінтоўкі, якія штораз спаўзалі са спіны і блыталіся пад каленямі ў снезе. Ноч пацямнела, у змрочнай навалачы зусім знік месяц. З пагорка два разы грукнулі стрэлы - мусіць, той паліцай нешта ўсё ж заўважыў.

Як-колечы дабраўшыся да кустоўя, яны залеглі між мяккіх заснежаных купін. Шэрае галлё алешніку някепска хавала іх у прыцемках ночы. Рыбак быў увесь мокры - раставаў снег у рукавах і за каўняром кажушка, ад поту змакрэла спіна. Ён так замарыўся, як не марыўся, мабыць, ніколі ў жыцці, і хвіліну немачна ляжаў ніц, толькі пазіраў на пагорак: ці не бягуць за імі. Але ззаду нікога не было, паліцай калі што і заўважыў, дык, мабыць, даганяць не адважыўся - тут нядоўга было злавіць кулю самому.

- Ну, як ты? - нарэшце азваўся Рыбак, усё яшчэ горача дыхаючы густой парай.

- Кепска, - проста прызнаўся Сотнікаў.

Ён ляжаў на баку побач, знясілена адкінуўшы галаву ў шчыльна аблеглай, са змёрзлымі краямі пілотцы. Параненая яго нага была трошкі прыўзнята каленам угору і дробненька нервова дрыжала.

Рыбак ціха пры сабе вылаяўся.

- Давай панясу. А то... Абложаць - не вырвешся.

Трохі прыпадняўшыся, ён выцяг з-пад каўняра ў Сотнікава скамечаны свой ручнічок і дрыготкімі ад стомы рукамі перавязаў ягоную нагу вышэй калена. Сотнікаў здрыгануўся, разы два прамычаў ад болю і змоўк. Потым Рыбак, прыўзняўшыся на каленях, падставіў яму спіну.

- Ну, бярыся.

- Чакай, я сам, можа...

Аслабела заварушыўшыся на снезе, Сотнікаў неяк устаў на адно калена, з хваравітай засцярожлівасцю адставіў

убок параненую нагу, паспрабаваў падняцца зусім, але гэта яму не ўдалося.

- Куды табе! Ану, трымайся!

Рыбак падхапіў напарніка пад руку, і той нарэшце ўстаў; надта асядаючы на параненую нагу, ступіў два крокі. Гэта ўзбадзёрыла Рыбака - калі чалавек на нагах, дык, мабыць, яшчэ не ўсё страчана. А то як падпоўз да Сотнікава і дазнаўся, што той паранены, зрабілася не па сабе: што ён мог зрабіць з ім у такім яго стане? Цяпер Рыбак трохі супакоіўся і падумаў, што, можа, яшчэ якколечы вывернуцца.

З дапамогай Рыбака Сотнікаў нязграбна скокнуў на адной назе, трошкі пасабляючы сабе і параненай. Яны палезлі ў негусты тут драбнаваты хмызняк з рыхлым і даволі глыбокім снегам. Сотнікаў адной рукой трымаўся за Рыбака, а другой хапаўся на хадзе за намёрзлае галлё алешніку і, дужа асядаючы на параненую нагу, з усяе моцы стараўся ступаць шырэй. У грудзях у яго ўсё хрыпела з нейкім нядобрым прысвістам, часам яго пачынаў біць глыбокі кашаль, і Рыбак ажно сціскаўся - іх маглі ўчуць за кіламетр адсюль. Але ён маўчаў. Ён ужо не пытаўся пра адчуванне напарніка - ён меў аб ім пэўнае меркаванне і, не даючы сабе перадыху, упарта валок Сотнікава праз густы аснежаны зараснік.

За кустоўем у лагу, які аказаўся даволі працяглым замёрзлым балотам, зноў пачаўся крутаваты ўхіл на пагорак. Яны наўкось ускараскаліся на яго, і Рыбак адчуў, што сілы яго скончыліся. Ён ужо не толькі не мог падтрымліваць Сотнікава, які ўсё асядаў долу, але і сам так знясілеў, што яны, не згаворваючыся, амаль разам рухнулі ў снег.

Яны доўга і моўчкі ляжалі на схіле, засяроджана і гучна аддыхваліся, з дзіўнай абыякавасцю да ўсяго, што не было іх знямогай. Рыбак разумеў, што кожнае хвіліны іх могуць дагнаць паліцаі, увесь час ён чакаў іх вокрыку, але ўсё роўна цела яго было не здольна адолець немач.

Можа, праз паўгадзіны ён усё ж неяк саўладаў з

дыханнем і павярнуўся на бок. Сотнікаў ляжаў побач і дробненька калаціўся ад дрыжакі.

- Патроны асталіся?

- Адна абойма, - глуха прахрыпеў Сотнікаў.

- Калі што, будзем адбівацца, - рашыў Рыбак, падумаўшы, што з харчам, мабыць, ужо нічога не выйдзе, цяпер хоць бы ўратавацца самім. Пасля ўсяго, што здарылася, гэта таксама было нялёгка, калі не зусім немагчыма. Але, даняты яшчэ сваёй стомай, якая атупляла яго пачуцці, ён амаль абыякава думаў, што, калі іх дагоняць, давядзецца пусціць у ход зброю - іншага не выпадала.

- Не надта адаб'ешся, - сказаў Сотнікаў.

Гэта так, сапраўды, з дваццаццю патронамі доўга не пратрымаешся, але іншага выйсця ён не знаходзіў.

- І адкуль іх д'ябал прынёс! - Рыбак з новаю сілай пачаў перажываць іх няшчасце. - Во ўжо напраўду: бяда адна не ходзіць.

Сотнікаў маўчаў, немалым намаганнем душачы ў сабе стогны. Яго счарнелы на сцюжы, спакутаваны твар з заінелым ад дыхання шчаціннем раптам здаўся Рыбаку амаль незнаёмым, чужым і адразу выклікаў у яго нейкія благія прадчуванні. Рыбак падумаў, што справы напарніка, відаць, сапраўды кепскія, і міжволі пашкадаваў небараку таварыша.

- Вельмі баліць?

- Баліць, - буркнуў, мабыць, каб адчапіцца ад яго, напарнік.

- Трывай, - грубавата сказаў Рыбак. Ён сеў на снезе і пачаў заклапочана прыглядацца да мясціны, якая была зусім незнаёмая яму: нейкае пагоркавае поле, недалёкі лес ці гаёк, а дзе быў вялікі лес, аб тым ён не меў ніякага ўяўлення. Ды і наогул, закруціўшыся ў гэтай пагоні, ён перастаў разумець, дзе яны цяпер і ў якім

напрамку трэба ісці, каб выбрацца да сваіх.

Гэта выклікала ў ім новы клопат і адазвалася ў душы новай трывогай - не хапала яшчэ заблудзіць уначы. Ён хацеў загаварыць аб тым з Сотнікавым, але той ляжаў побач, нібы не адчуваючы ўжо ні трывогі, ні сцюжы, якая рабілася ўсё болей нясцерпная на гэтым марозлівым ветры. Разгарачанае на хадзе цела вельмі хутка пачаў прабіраць мароз. Нейкі час, аднак, знямога ўладна прыкоўвала іх да зямлі, і Рыбак, углядаючыся ў змрочнае наваколле, пакутліва думаў, у які бок падацца.

Ён спрабаваў вызначыць гэта, марна аднаўляючы ў памяці іх блытаны шлях сюды, а яго інстынкт самазахавання ці, можа, страх незразумела штурхаў яго ў напрамку, процілеглым кустоўю, за якім іх дагналі паліцаі. Здавалася, паліцаі зноў паявяцца адтуль - значыць, трэба ўцякаць у другі бок.

Калі гэта адчуванне канчаткова завалодала ім, Рыбак устаў і закінуў за плячо абедзве вінтоўкі.

- Давай! Як-небудзь...

Сотнікаў пачаў пакутліва ўзграбацца на ногі, Рыбак і гэты раз падтрымаў яго, але калі той урэшце ўстаў, дык адразу вызваліў локаць.

- Дай вінтоўку.

- Што, пойдзеш?

- Паспрабую.

«Што ж, спрабуй», - падумаў Рыбак, з палёгкай аддаючы вінтоўку. Апіраючыся на яе, Сотнікаў няўклюдна застыргікаў, і яны памалу папляліся па снежным полі ў ноч.

Праз гадзіну яны ўжо добра адышліся ад таго балотца і брылі па пахілым даўгім касагоры. Ішлі надта марудна. Рыбак адчуваў, што неўзабаве пачнецца світанак, што мінаюць апошнія гадзіны ночы і што вельмі проста

цяпер не паспець. Калі ранак застане іх сярод поля, тады ўжо, відаць, не выкруціцца. Яму ўвесь час карцела ісці шпарчэй, небяспека рупна падганяла яго, але Сотнікаў усё марудней перастаўляў ногі, часта спыняўся і зноў кашляў.

Увогуле, іх ратавала, мусіць, тая акалічнасць, што снег тут быў неглыбокі, ногі правальваліся, але не дужа, не тое што на балоце. Скрозь у доле шарэў быльнёг, дзе гусцей, а дзе зрэдку, па каліве, і Рыбак стараўся ісці па ім, там было найменш снегу. Ён не хацеў спускацца ў лог - баяўся засесці ў гурбах, на пагорках неяк было надзейней. Але іх след ззаду надта выразна азначаўся на касагорыне. Убачыўшы яго, Рыбак ажно жахнуўся: так проста было дагнаць іх цяпер, нават уночы. Азіраючыся назад, ён падумаў: якая б небяспечная ні была дарога, што ўжо ледзь не загубіла іх сёння, - зноў трэба выбівацца на яе, бо толькі на дарозе можна схаваць сярод іншых свой след.

І ён з надзеяй пачаў азірацца па баках - недзе ж павінна быць хоць якая-небудзь дарожка. Між тым наўкола ляжала чыстая снегавая разлога, сям-там цьмяна стракацела кустоўе, адзінокія палявыя дрэўцы; у адным месцы здалёку невыразна зачарнелася штосьці паўзамеценае ў снезе. Падышоўшы бліжэй, Рыбак згледзеў, што гэта валун. Дарогі ж нідзе не было. Тады ён крута павярнуў угору - так было цяжэй, але падумалася, што, можа, наверсе, за пагоркам, яны ўбачаць лес. Можа б, тады ўдалося зашыцца ў яго, а паліцаі невядома яшчэ ці адважацца адразу сунуцца следам - мабыць, спярша разважаць, тым даўшы ім магчымасць адарвацца ад даганятых.

Рыбак не першы ўжо раз трапляў у такое становішча, ды заўжды неяк абыходзілася, найгоршае яго мінала. Галоўным у такіх выпадках былі хуткасць і спрыт, якія ратавалі яго і менавіта якіх цяпер яму не хапала. Неяк восенню ў Заселлі ягоны спрыт і знаходлівасць уратавалі жыццё пецярым хлопцам з разведкі, якія надумалі на світанні завітаць у знаёмую вёску. Ён выпадкам далучыўся да іх і надта не хацеў ісці ў тую

вёску, але разведчыкі сказалі, што ўчора былі ў ёй - чужых там няма. Сумняваючыся ў тым, ён прамаўчаў. Па сцяжыне яны падышлі да ваколіцы; як заўжды, было страшнавата наткнуцца на засаду, але ля крайняе хаты ніхто ім не спаткаўся. Мусіць, які гультаяваты паліцай-вартавы таксама прытаміўся тырчаць на дарозе і на золку захінуўся дзе за вугал хаты. Цяпер ужо не згадаць, як і чаму тое здарылася, толькі варта было ім адысціся ад плота крайняе хаты ў глыб вёскі, як Рыбак пачуў кашаль. Наўкось цераз вуліцу ў двары два паліцаі запрагалі падводу, і іншыя нешта грузілі ў яе ў мяшках. Толькі ён згледзеў гэта, як ззаду вызвярыўся жахлівы крык «Стой!» і грымотна ўдарыў стрэл. Паліцаі ў двары схапіліся за вінтоўкі, ён яшчэ паспеў гэта згледзець, а назад ужо не зірнуў - крыкнуў: «За мной!» - і нырнуў пад жардзіну ў плоце. Хлопцы дружна рванулі следам, ззаду стралялі, але, мусіць, іх кепска бачылі, а яны, усе пяцёра, тым часам імчалі за хляўком па бульбоўніку. Хтось з паліцаяў таксама выскачыў на гарод, некалькі куль цвікнула зусім блізка, але хлопцы за якіх дзесяць секунд скаціліся з бульбоўніку ў равок і там былі ўратаваны. А каб ён на секунду замарудзіў, разгубіўся, кінуўся назад ці наперад, іх бы ўсіх і перастралялі на вясковай вуліцы.

Тут таксама была такая магчымасць, па нейкай прычыне падораная паліцаямі, і ён бы выкарыстаў яе, каб не Сотнікаў. Але з Сотнікавым далёка не ўцячэш. Яны яшчэ не вылезлі на пагорак, як той закашляўся, ажно ўгнуўся, некалькі хвілін цела яго аж скаланалася ад марных намаганняў нешта выкашляць. Рыбак спыніўся, пасля вярнуўся да напарніка, спрабаваў падтрымаць яго пад руку. Але той ужо амаль не стаяў на нагах, і ён апусціў яго на вылізаны ветрам снег.

- Пачакай, дай аддыхацца.

- Што, кепска?

- Відаць, не выбрацца нам...

Рыбак не хацеў цяпер гаварыць аб тым - няшчыра запэўніваць яго ў адваротным, не хацеў і суцяшаць - ён

сам не ведаў, як выбрацца. І нават у які бок выбірацца.

Хвіліну ён стаяў над знямоглым таварышам, які сцяўся на баку, падкурчыўшы параненую нагу. У адчуваннях Рыбака перамешваліся розныя пачуцці да яго: і ціхі жаль, што столькі дасталося аднаму (мала было прастуды, дык яшчэ і падстрэлілі), і ў той жа час пачала з'яўляцца няпэўная яшчэ прыкрасць: як бы гэты Сотнікаў не наклікаў бяды на абодвух. Сярод усяго патаемна трымцела, часам заглушаючы іншае, страхавітая трывога за сваё жыццё. Праўда, Рыбак стараўся гнаць яе ад сябе і трымацца як мага спакойней. Ён ведаў ужо, што страх за ўласнае жыццё - першы крок да разгубленасці, бо варта толькі страціць цвярозую разважнасць, занервавацца, як беды пасыплюцца адна за адной. Тады ўжо сапраўды канец. Цяпер жа хоць і давялося туга, але, магчыма, не ўсё яшчэ страчана.

- Так. Ты пачакай.

Пакінуўшы таварыша на снезе, Рыбак паплёўся ўгору: трэба было агледзецца. Яму ўсё здавалася, што за пагоркам лес. Яны столькі ўжо прайшлі па начы, і калі ішлі правільна, дык павінны апынуцца недзе паблізу ад лесу.

Кепска, што зусім прапаў месяц, воддаль нічога не было відаць - ноч танула ў змрачнаватай туманнай імгле, густое сутонне шчытна абвалакло ўсё навакол. Тым не менш вялікага лесу нідзе не было. За пагоркам зноў слалася поле, убаку нібыта шарэў лясок, мусіць, хвойнічак - надта малы хвойнічак, лапінка ў полі, не больш. Але ў тым кірунку мроілася ў змроку нешта падобнае на прамую кароценькую рысу ў доле. Скрозь былі няпэўныя плямы, цёмныя на снезе пырскі быльнягу, размытыя, з невыразнымі абрысамі кусты, а тут са снежнага паўзмроку вынікала кароценькая рыска - пралегла наўкос і знікала. Рыбак з раптоўнаю лёгкасцю пакрочыў да яе і не заўважыў, як гэтая рыска неяк неўзаметку ператварылася на снезе ў цьмяную паласу дарогі. Даволі ўбітая, з раз'езджанымі каляінамі і слядамі ад конскіх капытоў, яна з'явілася зусім дарэчы

і абяцала памагчы ў іх нялёгкай бядзе.

Раптоўна абнадзееены, Рыбак лёгка збег з пагорка да нерухомае на снезе постаці Сотнікава.

- Дарога тут!.. Чуеш?

Той вяла падняў круглявую і нейкую ненатуральна малую ў пілотцы галаву, пачаў уставаць.

- З дарогі дзе-небудзь сашмыгнём - не знойдуць. Толькі не напароцца каб.

Сотнікаў маўчаў і здаваўся абыякавы да гэтай навіны. З дапамогай Рыбака ён падняўся са снегу, ямчэй ахапіў пальцамі ствол вінтоўкі.

Вельмі памалу яны пабрылі да дарогі, якую Рыбак яшчэ здалёк трывожліва азіраў у змроку - ці не пакажуцца дзе людзі. Ягоны напружаны позірк прабег аж да шараватага лапіка наводдаль, і тады зусім неспадзявана для сябе ён заўважыў, што неба над абсягам па-ранішняму засінелася, зоры прытушылі свой бляск, толькі самыя буйныя сям-там яшчэ ярка гарэлі на небасхіле. Гэтая нечакана ім заўважаная прыкмета світанку ўзварушыла яго болей, чым калі б ён убачыў людзей. Усё ў ім тузанулася, памкнула кудысь наперад, хутчэй з гэтага пагрозліва пустога поля. Але ногі былі скуты стомай, да таго ж стрымліваў таварыш - хочаш ці не, трэба было марудна валачыцца па дарозе, іншага выйсця ў іх не было.

Зразумеўшы гэта, ён прыглушыў у сабе непрыемнае пачуццё і тужэй сцяў сківіцы. Ён ні слова не сказаў Сотнікаву - той і так шкандыбаў ледзь жывы, выдаткоўваючы апошнія свае сілы, і ў Рыбака нешта роспачна сцялася ўнутры: ён пэўна ўжо ведаў - удачы не будзе. Ноч канчалася і тым знімала з іх сваю апеку, дзень жа абяцаў мала прыемнага, і Рыбак з паніклай душой назіраў, як павольна і няўхільна займалася ранне. Угары хутка святлела неба, з-пад начнога змроку ўсё выразней вынікаў самотны снежны абшар; дарога наперадзе даўжэла і рабілася бачнай далёка.

Па гэтай дарозе яны пайшлі да ляска.

**8**

Сотнікаў не горш за Рыбака бачыў, што ў полі віднее, і добра разумеў, якой нечаканасцю для іх можа абярнуцца гэты заўчасны ранак.

Але ён ішоў. Ён сабраў у сабе ўсё, на што яшчэ здольна было яго знясіленае цела, і, памагаючы сабе вінтоўкай, з натугай пераступаў нагамі. Сцягно яго пакутна балела, ступні ён ужо і не адчуваў нават, мокры ад крыві бурак змёрз і закасцянеў, другі, не да канца надзеты, загнуўся на палове халявы, доўгім носам грабучы снег. Сотнікаў ведаў, што повідну іх схопяць, але гэта ўжо не адзывалася ў ім вялікай трывогай - яго апанавала абыякавасць да ўсяго, што не было болем, яго рэальнай штохвіліннай, а не ўяўнай, пакутай. Каб не Рыбак, ён бы, мусіць, даўно ўжо скончыў гэтыя марныя пакуты, але цяпер, пасля ўсяго, што той зрабіў для яго, у Сотнікава ажылі зачаткі нейкага абавязку ў адносінах да намаганняў таварыша.

Пакуль яны дастыргікалі да ляска, развіднела яшчэ болей. Стала відаць поле наўкруг, пагоркі; злева, воддаль ад дарогі, цягнулася па лагчынцы кустоўе, але гэта, мусіць, у тых месцах, адкуль яны ўцякалі. Таго ж вялікага лесу, які так быў ім трэба цяпер, не было нават на краявідзе - нібы ён праваліўся за ноч пад зямлю.

Рыбак, як заўжды, настойліва імкнуўся наперад, зрэшты, гэта было зразумела: яны ішлі як па лязе брытвы, кожную секунду іх маглі згледзець, дагнаць або пераняць. Іхняе шчасце, што дарога ўсё яшчэ ляжала пустая, а купка хвоек наперадзе хоць і патроху, ды ўсё ж набліжалася. Шкандыбаючы, Сотнікаў праз боль раз-поразу кідаў туды кароткія позіркі - ці хутка дойдуць, але найперш не дзеля таго, каб схавацца, а больш - каб знайсці спакой.

Але яны яшчэ не дайшлі да гэтае купкі, як Рыбак разгублена вылаяўся і спыніўся.

- Тваё-маё! То ж могілкі!

Сотнікаў узняў голаў - сапраўды, цяпер ужо было ясна відаць, што той хамлачок хвоек, які ім здаўся ляском, быў вясковымі могілкамі - пад разложыстым суччам хваін тырчала некалькі крыжоў, агароджаў і невялікі цагляны помнік у глыбіні на пагорачку. А найгорш было тое, што з-за могілак выглядвалі саламяныя стрэхі хат; вецер, відаць было, коса цягнуў у неба хамлак дыму з коміна.

Рыбак высмаркаўся на дарогу, выцер рукой нос.

- Ну, куды дзявацца?

Дзявацца сапраўды не было куды, але і не стаяць жа пасярод дарогі. І яны, яшчэ больш апануранaя і ўстрывожаныя, маркотна пастыргікалі да вёскі.

Напачатку ім, мусіць, пашчасціла. Яны дашкандыбалі да могілак, і ніхто ім не папаўся насустрач - мабыць, вёска яшчэ толькі прачыналася. Слядоў жа тут хапала - на дарозе і каля яе ў полі. Па слаба азначанай у снезе сцяжынцы яны паспешліва сышлі з дарогі. Звычайна ў Сотнікава жыло нейкае страхавітае пачуццё да гэтай нярадаснай людской мясціны, заўжды ён імкнуўся абмінуць яе не затрымліваючыся, але цяпер могілкі тыя нібы паслаў Бог ім на паратунак. Хваіны і некалькі агароджаў трохі засланялі абодвух ад вясковых вокнаў, яны пратупалі паўз свежы, яшчэ не прысыпаны снегам, глеісты курганок дзіцячай магілкі. Сотнікаў тут памагаў сабе рукамі, хапаўся то за крыж, то за камель дрэва ці агароджу. Трохі адышоўшыся ад дарогі, ён дабраўся па снезе да таўшчэзнага камля хвоі і ўпаў. Цяпер толькі б сцішыцца, як-небудзь заціць боль у назе, і, здаецца, для яго настала б шчасце. Усё ў ім напакутавалася, намерзлася, зайшлося ад болю, і ягоная прыцьмелая свядомасць часам ледзь успрымала абставіны, свет і сваё ў ім становішча. Вядома, становішча гэта было незайздроснае, калі не зусім безнадзейнае, і найбольшыя яго душэўныя пакуты ішлі ад выразнага ўсведамлення гэтае свае няздольнасці што-небудзь змяніць да лепшага. Так, розум, свядомасць тут

адступаліся ўбок - цяпер усё вырашала элементарная фізічная сіла. А сілы якраз і не было.

Ён ляжаў, прываліўшыся каркам да шархоткага камля хваіны, заплюшчыў вочы, каб не сустракацца позіркам з Рыбаком, не размаўляць з ім. Ён адчуваў сябе нібы вінаватым, што, пакутуючы сам, вымагаў на пакуты таварыша, які без яго, вядома, быў бы ўжо далёка. Рыбак быў здаровы, меў большую, чым Сотнікаў, прагу жыць, і гэта ўскладвала на яго пэўную адказнасць за абодвух. Так думаў Сотнікаў, ніколькі не дзівячыся пэўнай настойлівасці Рыбака выручыць яго ў гэтую ноч - ён адносіў яе да звычайнай салдацкай узаемавыручкі і не меў нічога супроць Рыбаковай дапамогі, калі б яна была скіравана на іншага. Але сам ён, хоць і быў паранены, нізашто не хацеў прызнаць сябе слабым, які апусціўся да патрэбы ў дапамозе, гэта было агідна ягонай істоце. Як мог, ён стараўся ўправіцца з сабой сам, а там, дзе гэта было немагчыма, зменшыць сваю залежнасць ад каго б там ні было. І ад Рыбака таксама.

Але Рыбак, мабыць, мала турбуючыся клопатамі таварыша, па-ранейшаму дбаў пра яго і цяпер, крыху перадыхнуўшы, сказаў:

- Пачакай тут, а я падскочу. Вунь хата блізка. Калі што, мо ў гумне перахаваемся.

Пачакаць - гэта добра, адзначыў у думках Сотнікаў, абы не ісці. Чакаць ён гатовы быў доўга, толькі б дачакацца чаго. Рыбак зморана падняўся на ногі, карабін, каб не кідаўся здалёку ў вочы, узяў, як кіёк або палку, за ствол і пайшоў, ступаючы між перамеценага снегам куп'я магіл. Сотнікаў расплюшчыў вочы і павярнуўся крыху на бок, падабраў бліжэй вінтоўку. У тым канцы могілак між камлёў сосен за пагорачкам відаць была крайняя хата вёскі, развалены хляўчук пры ёй; на паламаным паркане вецер матляў нейкай забытай анучай. Людзей там не было.

Некалькі доўгіх хвілін Сотнікаў самотна дрыжаў за дрэвам, час ад часу пазіраючы між хвой у другі канец могілак. Рыбак неўзабаве прапаў з яго поля зроку, але ў

вёсцы было па-ранейшаму пустэльна і ціха, гэта абнадзейвала. Каб трохі лаўчэй палажыць параненую нагу, ён ухапіўся за шурпатую палку агароджы, і тая, ціха хруснуўшы, асталася ў яго руцэ з іржавым цвіком на канцы. Магілка была старая, даўно закінутая, у агароджы тырчалі з-пад снегу нейкія тры камяні, не было нават крыжа. Струхлелая загародка дажывала свой век, мабыць, гэта было апошняе, што асталося ад чалавека на зямлі. І раптам Сотнікаву стала надта самотна на гэтых могілках, сярод загародак, камення і пахілых крыжоў, гледзячы на якія, ён з маркотай падумаў: навошта? Калі нельга навек, нашто тады на некалькі год - каму гэта трэба? У адвечным змаганні чалавека з часам перамога заўжды на баку апошняга, і ўся гэтая завядзёнка з помнікамі - хай сабе мармуровымі ці драўлянымі - не больш чым наіўная спроба чалавека прадоўжыць сваю прысутнасць на зямлі пасля смерці. Але хіба гэта магчыма? І навошта гэта патрэбна?

Усё, што Сотнікаў перажыў на вайне, яшчэ і каторы раз, даводзіла неабвержнасць не новага ўжо меркавання, што адзіная рэальная каштоўнасць у чалавека на свеце - яго жыццё. Калі-небудзь у дасканалым людскім грамадстве яно стане катэгорыяй-абсалютам, мерай і цаною ўсяго. Кожнае такое жыццё, з'яўляючыся галоўным сэнсам чалавечага існавання, зробіцца не меншай каштоўнасцю для ўсяго грамадства наогул, сіла і гармонія якога будуць вызначацца шчасцем кожнага яго члена. А смерць што ж - смерці не мінуць нікому. Важна толькі пазбыцца гвалтоўных смерцяў, даць чалавеку магчымасць разумна і добра выкарыстаць і без таго не надта вялікі свой час у гэтым свеце. Пры ўсёй сваёйневерагоднай магутнасці над прыродай чалавек, напэўна, доўга яшчэ астанецца ўсё такім жа абмежаваным у сваіх фізічных магчымасцях, калі самага маленькага кавалачка металу даволі на тое, каб назаўсёды адабраць адзінае і такое дарагое для кожнага жыццё.

Суцяшалі хіба што духоўныя магчымасці, часам непадуладныя ніякай самай пагрозлівай сіле. На ўсё

жыццё Сотнікаў запомніў, як улетку ў шталагу немцы дапытвалі старога сівога палкоўніка, пакалечанага, з перабітымі кісцямі рук, ледзь жывога. Гэты палкоўнік, здавалася, проста не ведаў, што такое пачуццё страху, і не гаварыў, а адчайна крычаў у вочы нямецкаму афіцэру гнеўныя словы пра Гітлера, фашызм і не зважаў ні на што. Немец мог бы прыбіць яго кулаком, мог застрэліць, як за гадзіну перад тым застрэліў двух палітрукоў-пехацінцаў, але гэтага чалавека ён нават не абразіў лаянкай. Ён, падобна было, збянтэжыўся, мабыць, упершыню ўчуўшы такое, схапіўся за тэлефон і нешта далажыў, відаць - чакаючы загаду ад начальства. Вядома, палкоўніка потым расстралялі. Але тыя некалькі хвілін перад расстрэлам былі ягоным трыумфам, яго подзвігам, мабыць, не меншым, чымсьці на полі бою, бо палкоўнік не ведаў нават, што яго хто ўчуе са сваіх (яны выпадкам аказаліся побач за сцяной барака).

Трываючы сцюжу, Сотнікаў цярпліва пазіраў на край могілак, дзе адразу ўбачыў Рыбака, як толькі той паявіўся ад хаціны. Рыбак дбайна зайшоў ад поля, каб не відаць было з вёскі, і хуткім крокам кіраваў да напарніка. Праз хвіліну ён задышліва ўпаў пад хваінай побач.

- Здаецца, парадак. Панімаеш, там хата, клямка на шчэпачцы. Паслухаў, быццам нікога...

- Ну?

- Дык гэта, панімаеш... Можа, я цябе завяду, пагрэемся, а пасля...

Рыбак чагось змоўк, заклапочана паглядзеў у ранішняе поле, якое ўжо было відаць ва ўсю далячынь. Голас яго стаў трохі няпэўны, бы вінаваты, і Сотнікаў здагадаўся.

- Ну што ж! Я астануся.

- Да, знаеш, так будзе лепш, - прыкметна ўзрадаваўся Рыбак. - А мне трэба... Толькі дзе той лес, чорт ведае. Зблудзілі мы.

- Папытаць трэба.

- Папытаем... А ты, гэта, патрывай. Пасля, можа, пераправім куды.

- Ладна, нічога, - знарок бадзёрым голасам заспакоіў яго Сотнікаў.

- І не турбуйся, я дамоўлюся. Накажу, каб глядзелі, і наогул...

Сотнікаў змоўчаў. Увогуле ўсё было лагічна і, бадай, правільна, тым не менш штосьці крыўдлівае варухнулася ў яго душы. Праўда, ён тут жа адчуў, што гэта - ягоная слабасць, можа, адператомы і знервsecurityанасці. Чаго было крыўдаваць? Адносіны іх самыя раўнапраўныя, ніхто нікому не абавязаны. І так, дзякуй Богу, Рыбак зрабіў усё, што толькі было магчыма. Можна сказаць, уратаваў у самых безнадзейных абставінах, і цяпер настаў час развязаць яму рукі.

- Што ж, тады пайшлі. Пакуль нікога няма.

Сотнікаў першы спрабаваў падняцца, але толькі варухнуў параненай нагой, як тая люта забалела, і ён прутка выцягнуўся на снезе. Усё ж неяк стрываў боль, сцяў зубы і, апіраючыся на хваіну, падняўся.

Ускрайкам могілак пад навіссю галін яны сышлі з пагорачка. Непадалёк трапілася добра ўтаптаная сцяжына, яна прывяла іх на голы, нічым не агароджаны падворак. Гэта была даволі вялікая, але старая хаціна з замазанымі глінай вугламі, выбітым і заткнутым нейкай зрабнінай акенцам. У счарнелым прабоі на дзвярах сапраўды тырчала наспех уваткнутая трэска - мабыць, нехта непадалёк выйшаў, і дома нікога не асталося. Сотнікаў падумаў, што так, можа, і лепш: абыдзецца без роспытаў і тлумачэння.

Рыбак выняў трэску, прапусціў у сенцы Сотнікава, дзверы ціха прычыніў знутры. У сенцах было цемнавата, пад сцяной стаялі нейкія кублы, вялікая, акутая

ржавымі жалезнымі палосамі скрыня, а ў куце відаць былі жорны. Сотнікаў не раз ужо бачыў гэтую несамавітую вясковую прыладу малоць збожжа: два круглыя камяні ў скрынцы і прымацаваная недзе ўверсе палка-круцёлка. Маленькае, заплеценае павуціннем акенца ў сцяне дало ім згледзець дзверы ў хату.

Трымаючыся за сцяну, Сотнікаў як-колечы дабраўся да гэтых дзвярэй, з дапамогай Рыбака пералез высокі парог. Хата сустрэла іх затхлаю сумессю пахаў і - цеплынёй. Ён хапіўся рукой за абшкрэбаны бок печы - тая была свежанапаленая, і ў яго цела шыбанула такая асалода, што ён ажно застагнаў, мусіць, першы раз не стрымліваючы сябе за ўсю гэту жахлівую ноч. Знясілена і няспрытна ён апусціўся на ўслончык пры печы, ледзь не паваліўшы нейкія чыгункі на падлозе. Пакуль ён уладкоўваў параненую нагу, Рыбак зазірнуў за дыван-занавеску ў хату, дзе разы два насцярожана рыпнуў ложак. Сотнікаў напяўся, навастрыў слых - зараз павінна было вырашыцца самае для іх важнае.

- Вы адны тут? - цвёрдым голасам запытаў Рыбак у дзвярах.

- Ну.

- А бацька дзе?

- Дык нетуці, - пачуўся дзіцячы голас.

- А матка?

- Матка ў дзядзькі Амялляна малоціць. На хлеб зарабляе. Нас жа чацвёра едакоў, а яна адна.

- Ого, як ты разбіраешся! А то едакі спяць? Ладна, хай спяць, - сцішыў голас Рыбак. - Ты чым пакарміць нас знойдзеш?

- А бульбу мамка ўранку варыла, - ахвотна азвалася малое.

Зараз жа там аб падлогу тупнулі босыя ногі, і з-за шырмачкі з'явілася гадоў дзесяці дзяўчынка ў

даўгаватай паркалёвай сукенцы. Яна коратка зыркнула на Сотнікава жвавымі чорнымі вачанятамі, але не спалохалася, на цыпачках звыкла пацягнулася ў чалеснік і забразгала засланкай. Каб не замінаць ёй, Сотнікаў крыху пасунуў убок сваю бедалагу-нагу.

Пад акном стаяў стол, ля стала была лаўка з алюмініевай міскаю, дзяўчынка пераставіла міску на канец стала і вытрасла ў яе з чыгунка бульбу. Рухі яе маленькіх рук былі натужлівыя і не надта спрытныя, хоць і старанныя; бачна было - яна са шчырасцю хацела дагадзіць людзям: дастала лыжкі, шмыганула некуды ў цемнаваты кут і паставіла на стол яшчэ і талерку з вялікімі зморшчанымі агуркамі. Пасля адступіла да печы, з цікавасцю пазіраючы на маўклівых, узброеных, аброслых шчэццю, мусіць, страшнаватых, але, безумоўна, цікавых для яе дзядзькоў.

- Ну, давай падрубаем, - падаўся да стала Рыбак.

Сотнікаў яшчэ не адагрэўся, накалелае цела яго дробна трэслася, але ад бульбы на стале струменіла лёгкая пара, і ён памкнуўся з услона. Рыбак памог яму перабрацца на лаўку, уладкаваў на ёй параненую нагу. Так было лепей. Ён узяў цёплую, падгарэлую з аднаго боку бульбіну і прываліўся плячыма да беленых бёрнаў сцяны. Дзяўчынка з ранейшай спаважнасцю стаяла ў дзвярах, церабіла край шырмачкі, не зводзячы з дзядзькоў свайго зыркага позірку.

- А хлеба няма? - запытаў Рыбак.

- Дык учора Лёнік усё з'еў. Як мамку ждалі.

Рыбак неспяшліва дастаў з-за пазухі старастаў акраец і адламаў ад яго кавалак, потым адламаў яшчэ і моўчкі працягнуў дзяўчынцы. Тая далікатна ўзяла хлеб, але есці не стала - занесла кудысь за перагародку і вярнулася.

- І даўно матка малоціць? - запытаў Рыбак.

- Ад пазаўчора. Яна яшчэ тыдзень малаціць будзе.

- Панятна. Ты - старшая?

- Ага, я большая. Каця з Лёнікам малыя, а мне ўжо дзевяць гадоў.

- Многа. А немцаў у вас няма?

- Раз прыязджалі. Як мы з мамкай да цёткі Галены хадзілі. У нас падсвінка рабога ўзялі. На машыне павезлі.

Толькі Сотнікаў з'еў са дзве бульбіны, як прычапіўся кашаль. Хвіліну ён так біў яго, што аж выпінала ўсё з грудзей. Калі трохі палягчэла, стала ўжо не да бульбы - ён выпіў паўкварты вады і заплюшчыў вочы. У галаве хмельна кружылася, цела калаціла дрыжака. У адчуваннях нешта плыло, гойдалася, хваравітая знямога звабліва клікала туды, дзе забыццё і нябыт. Ён намагаўся асіліць яе, унутрана супраціўляўся, але адчуваў, што сілы яго хопіць ненадоўга. У завалочанай туманам хваравітай свядомасці хутка адплывалі ўдалячынь рэшткі тутэйшай явы, з якой хвіліну яшчэ гучалі пераблытаныя галасы Рыбака і дзяўчынкі.

- А маці тваю як зваць? - хрупаючы гурком, пытаўся Рыбак.

- Дзёмчыха.

- Ага. Значыць, ваш татка Дзёмка?

- Ну. А яшчэ Аўгіння мамку завуць.

Чутно было, Рыбак пацягнуўся за сталом, мусіць, каб узяць новую бульбіну, затупаў на падлозе ботамі. Размова на які час замоўкла, але потым азваўся цішэйшы, з прытоенай цікаўнасцю голас дзяўчынкі:

- Дзядзька, а вы парцізаны?

- А табе нашто ведаць? Малая яшчэ.

- А вот ведаю, што парцізаны.

- Ведаеш, дык маўчы.

- А таго дзядзьку, мусіць, ранілі? Ага?

- Ранілі ці не - аб тым ні гу-гу. Паняла?

Дзяўчынка памаўчала, Рыбак гучна хрупаў гурок.

- Я па мамку збегаю, добра?

- Сядзі і не рыпайся. А то яшчэ наклічаш якую халеру.

- ...Халера на іх! Людзі мы ці...

- Былі людзі...

Але гэта ўжо не цяперашняе - гэта голас з мінулага. Свядомасць яго яшчэ спраўляецца адзначыць амаль няўлоўны пераход у забыццё, і далей ужо Сотнікаў бачыць таго незнаёмага, параненага ў нагу лейтэнанта, які ледзьве шкандыбае ў калоне, апіраючыся на плячо таварыша. У лейтэнанта яшчэ забінтавана галава. Бінт стары, брудны, са счарнелаю карыной крыві над скроняю; ссохлыя вусны і нядобры ліхаманкавы бляск у счырванелых вачах надаюць яго схуднеламу твару нейкі напаўвар'яцкі выгляд. Ад параненае яго нагі ідзе гэткі смурод, што Сотнікава ажно блажыць; саладкаваты пах гнілі атручвае паветра. Іх гоняць калонай у лес - рэдзенькі саснячок пры дарозе, пад нагамі перасыпаецца белы пясок з ігліцай, няшчадна пячэ паўдзённае сонца. Конныя і пешыя немцы ідуць абапал калоны.

Кажуць, гоняць расстрэльваць.

Яно падобна на праўду - тут тыя, каго адабралі з усёй тысячнай масы ў шталагу: палітработнікі, камуністы, жыды і розныя іншыя, што выклікалі чымсь падазрэнне ў немцаў. Сотнікава паставілі сюды за няўдалыя ўцёкі. Мусіць, там, на пясчаных пагорках, у хвойнічку іх і расстраляюць, яны ўжо адчуваюць гэта па тым, як, збочыўшы з дарогі, сабраліся, гучней загаркалі іх канваіры - пачалі збіваць у адзін гурт калону. На пагорках, бачна было, стаялі і яшчэ салдаты, мабыць,

чакалі, каб арганізавана зрабіць сваю справу. Але, відаць, здараюцца непаладкі і ў немцаў. Калона яшчэ не дайшла да пагоркаў, як канваіры нешта загергеталі з тымі, што былі на лясным ускрайку, спыніліся і падалі каманду ўсім сесці на дол - як гэта звычайна рабілі, калі трэба было затрымаць калону. Палонныя паселі - цесненька, як і ішлі, на спякоце - і пад рулямі стрэльбаў сталі чагосьці чакаць.

Усе апошнія дні Сотнікаў быў нібыта ў прастрацыі. Ён мала што знясілеў без вады і харчу, дык яшчэ і зняверыўся ў людзях і сваім лёсе - пасля ўсяго, што здарылася, ужо не надта хацелася і жыць. Ад гарачыні ўнутры ўсё спрагла, але вады не было, як не было надзеі на які паратунак, і ён думаў: хай бы ўжо хутчэй стралялі, абы менш пакутаваць. Ён моўчкі, у паўзабыцці сядзеў так сярод цеснага гурту на калючай, сухой траве, без асаблівых дум у галаве і, мусіць, таму не адразу зразумеў сэнс ліхаманкавага шэпту побач:

«Хоць аднаго, а прыкончу. Усё адно...»

«Чакай, пабачым, што далей».

«Хіба не ясна што?»

Сотнікаў ціха скасіў позірк - той самы лейтэнант даставаў з-пад бінта на назе ножык - звычайны кішэнны складанчык велічынёй з палец, і ў ягоных вачах была такая роспачная рашучасць, што Сотнікаў падумаў: такога не ўтрымаеш! Мусіць, выскачыць і наробіць глупства, бо што ён яшчэ мог зрабіць тым складанчыкам? Той, да каго ён звяртаўся, - пажылы чалавек у камсастаўскай без пятліц гімнасцёрцы, - засцярожліва пaглядваў на канваіраў - двое, паблізу сышоўшыся разам, прыкурвалі жоўтыя цыгарэты, адзін на кані трохі зводдаль пільна азіраў калону.

Яны яшчэ пасядзелі на сонцы, можа, хвілін пятнаццаць, пакуль ад пагоркаў не падалі каманду, і немцы пачалі паднімаць палонных. Сотнікаў ужо ведаў, на што наважыўся ягоны сусед, які цяпер пачаў неўпрыкмет забіраць з сярэдзіны калоны ўбок, бліжэй да канваіра.

Канваір гэты быў дужы прыземісты немец, як і ўсе, з аўтаматам на грудзях, у прапацелым пад пахамі кіцелі; з-пад макраватай ад нізу суконнай пілоткі выбіваўся зусім не арыйскі - чорны, амаль смаляны чуб. Ён спехам дакурыў цыгарэту, цвыркнуў праз зубы і прыкрыкнуў на кагось у калоне, хто аслабела гробся, стараючыся падняцца з долу. Мусіць, ён хацеў падагнаць або выцяць палоннага і ступіў бліжэй. Якраз у той час лейтэнант, бы каршун, уссеў на яго ззаду і па самыя тронкі ўвагнаў складанчык у яго загарэлую шыю.

Немец коратка вякнуў і асеў на зямлю, нехта ў калоне крыкнуў: «Палундра!» - ці не той пажылы ў камсастаўскай гімнасцёрцы - і некалькі чалавек, бы іх хто спружынаю кінуў з калоны, пусціліся ў поле. Сотнікаў ад нечаканасці на імгненне нібы змярцвеў, а потым, падпарадкуючыся бязладнаму інстынкту самазахавання, не разбіраючы дарогі, таксама кінуўся прэч. Тады ж ён ледзь не наскочыў на лейтэнанта, які спярша таксама пабег, ды раптам спатыкнуўся, упаў на бок пад самыя ногі Сотнікаву і тут жа нажом шырока разануў сябе ўпоперак жывата. Сотнікаў пераскочыў цераз яго цела, ледзь не наступіўшы на яго сутаргава скурчаную руку, з якой, коратка бліснуўшы мокрым лязом, выпаў у пясок маленькі, з палец, ножык.

Можа, якія тры секунды цягнулася замяшанне, потым у некалькіх месцах разам пырснулі чэргі, немцы крычалі, але ён бег. Здаецца, ніколі ў жыцці ён не імчаўся з такім шалёным імпэтам - за некалькі скачкоў дасяг выспачкі з сасонкамі. Кулі густа прашывалі голле, з усіх бакоў на яго сыпала ігліцай, але ён шыбаваў наўпрост як мага далей і праз кожную секунду з радасным жахам цвердзіў сабе: «Жыў!», «Жыў»...

На жаль, выспачка аказалася зусім невялічкай, праз сотню крокаў яна нечакана абарвалася: скончыўся сасоннічак, наперадзе было зжатае, у бабках, поле збажыны. Падавацца яму, аднак, не было куды, і ён шыбануў далей - па ржышчы цераз поле, туды, дзе непадалёк кучаравіўся зялёны шнурок алешын.

Тут яго хутка згледзелі, ззаду данёсся крык і недалёкі

стрэл - куля імпэтна сцебанула па ягоных штанах, прасекла пусты партабак у кішэні - Сотнікаў надта добра адчуў гэты ўдар і азірнуўся. За ім імчаў конны. З потным азвярэлым тварам той угнуўся па-над варaной конскай грывай, трымаючы напагатове правую, з пісталетам руку. Ад каня, вядома, не ўцячэш. Сотнікаў сказаў сабе «амба!» і павярнуўся тварам да даганятага. Конь ледзь не збіў яго з ног; з апошнім спрытам ён неяк вывернуўся з-пад капытоў і шаснуў за бабку. Немец крутануўся ў сядле, адкінуў убок руку - стрэл перабіў на верхнім снапе перавясла, салома, пырснуўшы, асыпалася па баках. Але Сотнікаў уцалеў і, каб як бараніцца, схапіў з-пад ног звычайны, з кулак, палявы камень. Зноў неяк ухіліўшыся ад каня, ён спрытна, аднак, ударыў немцу ў скіўіцу, той торапка стрэліў, але і гэты раз міма. Адчуўшы нейкую сілу ў гэтых камянях, Сотнікаў пачаў хапаць іх з іржышча і біць па немцу, які круціўся з канём навакол, усё тыркаючы ў яго пісталетам. Яшчэ два стрэлы прагрымелі ў полі, але і яны не зачапілі ўцекача, які, акрыяўшы ад свае ўдачы, кінуўся па другі бок бабак.

Пакуль немец упраўляўся з канём, ён прабег, можа, пяць крокаў, а потым спыніўся і зноў замахнуўся камянём, каб ударыць насустрач. ён выпусціў запар тры камяні, немец, ухіляючыся, спехам страляў, Сотнікаў круціўся доле, бы ўюн, - і ад куль і ад капытоў, на шчасце, яму пасаблялі бабкі, і ён скакаў вакол іх, нібы заяц. Тады немец скіраваў каня проста на бабку, конь высока сігануў цераз яго, Сотнікаў упаў на калені і неяк вывернуўся з-пад капытоў - конь толькі балюча сцебануў хвастом па яго твары. Бабка, аднак, забурылася, снапы паваліліся, і немец амаль ва ўпор тыцнуў у яго парабелумам. Але Сотнікаў раптам унутрана войкнуў ад радаснага здзіўлення - парабелум яго крута выгнуў затвор: скончылася абойма. Немец зразумеў сваю няўдачу, рэзка асадзіў каня, той стаў на дыбкі, а Сотнікаў з усіх ног ірвануў па полі наперад, да кусцікаў.

Немец страціў некалькі надта важных секунд, пакуль пеpазараджаў пісталет - дзеля таго трэба было

прытрымаць каня, і Сотнікаў за той час якраз дабег да алешнічку. Тут ужо конь яму быў не страшны. Не зважаючы на стрэлы і голле, якое драпала яго па твары, ён бег, пакуль не трапілася імшарына, потым улез у нейкую твань і ўжо не мог з яе выбрацца. Там ён, аднак, зразумеў, што калі не ўтопіцца, дык можа лічыць сябе выратаваным. І ён стаіўся, каб не хлюпаць, па вушы ў багне, трымаючыся рукой за тоненькую лазовую галінку, і думаў: вытрымае галінка ці не? Калі б не вытрымала, ён бы ўжо не выкараскаўся, сілы ў яго не асталося. Але галінка не дала яму з галавой схавацца ў той прорве, спакваля ён адышоў ад стомы і, калі воддаль сціхлі стрэлы, як-колечы выбраўся на цвярдзейшае.

Была ўжо ноч, ён знайшоў у небе Палярную і, амаль не верачы ў сваё выратаванне, пайшоў на ўсход.

**9**

Сотнікаў знерухомеў на лаўцы, мусіць, заснуў, а Рыбак перасеў у куток ля акна і стаў пазіраць з-за вушака на сцежку, каб адразу ўбачыць, калі хто будзе ісці на падворак. Ён трохі перабіў бульбай голад, рабіць яму тут ужо не было чаго, але і ісці не выпадала - трэба было чакаць. Мусіць, таму, ці яшчэ па якой прычыне, у ім пачала нарастаць прыкрасць, якая з цягам часу пераходзіла ў злосць, хоць злавацца быццам і не было на каго. Хіба на Сотнікава, які так вось прывязаў яго да сябе, што не адвяжашся: не мог жа ён пакінуць яго на гэтых дзяцей. Гаспадыня ж усё не вярталася, паслаць па яе ён не наважваўся - як было ў такой справе спадзявацца на нейкае дзевяцігадовае дзяўчо?

І ён сядзеў у кутку ля акна, невядома чаго чакаючы, прыслухоўваючыся да выпадковых гукаў знадворку. Па той бок загародкі паўставалі дзеці, чулася іх стоеная валтузня на ложку - часам на дзвярах адхіналася шырмачка, і ў шчыліну прасоўваўся мурзаты цікаўны тварык, але тут жа хаваўся зноў. Дзяўчынка крыклівa камандавала там імі, нікога не пускаючы з-за перагародкі.

Рыбак ужо да драбніц вывучыў сцежку за акном, рэшту разламанага плота пры ёй, ускраек неагароджаных могілак з калючым галлём хмызняку на мяжы. Выбітая і заткнутая шыбка ў акенцы няблага затуляла яго знадворку. На сырым гнілаватым падаконніку побач стаяла некалькі пустых брудных бутэлечак ад лякарства, валяўся клубок зрэбных нітак і змайстраваная з рыззя лялька, вочы і рот якой былі старанна намаляваны хімічным алоўкам. Побач за сталом задышліва стагнаў у сне Сотнікаў, якога трэба было ўладкаваць болей надзейна, але на тое патрэбна была гаспадыня. Усё болей нервуючыся ў няпэўным чаканні, Рыбак амаль з непрыязнасцю слухаў хваравітае дыханне таварыша і каторы раз думаў, што з напарнікам яму не пашэнціла. Рыбак быў нязлы чалавек, але, маючы неблагое здароўе, ставіўся да хворых трохі безуважна, часам проста не мог уявіць сабе, як гэта можна прастудзіцца, занемагчы, захварэць. Сапраўды, думаў ён, больш недарэчнага на вайне, як хварэць, нельга сабе і прыдумаць.

За час службы ў ім з'явілася грэблівае пачуццё да слабакоў, хварліўцаў, розных няўдак, якія па тых ці іншых прычынах чагось не маглі, не ўмелі, не выконвалі. Ён стараўся ўмець і выконваць усё. Праўда, да вайны ў чым-колечы было і цяжкавата, асабліва што датычыла палітпадрыхтоўкі - бракавала адукацыі, а галоўнае - ён не любіў кніжнай навукі, для якой патрэбны былі трыванне, стараннасць. Рыбаку болей па душы была жывая рэальная справа з усімі ўласцівымі ёй няўвязкамі і клопатамі. Відаць, таму ён тры гады праслужыў старшыной роты - характарам яго Бог не пакрыўдзіў, энергіі таксама хапала. У нейкім сэнсе на вайне яму аказалася лёгка, прынамсі проста: мэта барацьбы была відочная, а над іншымі тонкасцямі ён не шмат разважаў, бо ведаў - чым болей фашыстам шкоды, тым лепш. Дагэтуль увогуле шэнціла, найбольшыя хібы яго міналі; ён разумеў, што галоўнае ў іх партызанскай вайне - не разгубіцца, не спудлаваць, у час прыняць рашэнне. Калі лічыць правільным, што вялікі сэнс барацьбы ў тым, каб, змагаючыся за сваё жыццё, чыніць страты ворагу, дык ён меў усе падставы лічыць сябе

ўдачлівым партызанскім байцом. Ва ўсякім разе, не горшым за іншых.

- Мамка, мамка ідзе! - раптам радасна завішчала дзятва за перагародкай, і ён убачыў на сцежцы жанчыну, якая хуценька бегла да хаты.

Даўгаватая спадніца, кажушок і хустка, якая таўставата абкручвала яе галаву, сведчылі пра не першую ўжо маладосць гаспадыні, але, мусіць, была яна яшчэ і не старая. Цікуючы за ёй, Рыбак трохі захінуўся за шула. Ад дзіцячага крыку за сталом прахапіўся Сотнікаў, чырвонымі са сну вачыма зірнуў на хату, але, згледзеўшы побач таварыша, зноў лёг на лаву.

Калі ў сенцах грукнулі дзверы, Рыбак адсунуўся ад акна на канец лаўкі і з робленым спакоем знерухомеў ля міскі. Трэба было як мага добразычлівей сустрэць яе, не напалохаць, не пакрыўдзіць чым - з ёй трэба было дамовіцца наконт Сотнікава.

Яна яшчэ не адчыніла ў хату дзвярэй, як з-за перагародкі сунулася дзятва: дзве дзяўчынкі асталіся пад адхінутаю шырмачкай, а гадоў пяці хлопчык, босы, у падраных, на шлейцы штоніках, кінуўся насустрач.

- Мамка, а ў нас палцізаны! Палцізаны во!

Яна памкнулася ўзяць яго, ды раптам выпрасталася - з недаўменным спалохам зірнула на незнаёмага за сталом.

- Здраствуй, хазяйка, - як мага прыветлівей сказаў Рыбак.

Але яна ўжо сагнала з твару здзіўленне, хуценька зыркнула на стол з пустой міскай, і ў яе позірку штось нездаволена перасмыкнулася.

- Здраствуйце, - холадна адказала яна, адхінаючы ад сябе малога. - Парцізаны!

- Ды во, як бачыце. Вас чакаем.

- Гэта якая ж у вас да мяне патрэба?

Не, тут штосьці не ладзілася, жанчына была яўна не настроена на той лад, які ёй прапаноўваў Рыбак, - нешта суровае, зласнаватае і нават сварлівае прабівалася ў яе голасе.

Ён пакуль што прамаўчаў, а яна тым часам расшпіліла старэнькі лаплены кажушок, сцягнула з галавы хустку. Рыбак уважліва паглядзеў на яе - зваляныя, нячэсаныя валасы, запыленыя мочкі вушэй, зմораны, не надта стары твар з рэзкімі заўчаснымі зморшчынамі ля вачэй і рота, якія красамоўна сведчылі пра горыч турботнага жыцця жанчыны.

- Якая яшчэ патрэба? - Яна кінула хустку на шасток ля печы, косым позіркам матлянула па канцы стала з міскай гуркоў. - Хлеба? Сала? Ці, можа, яек на яешню захацелася?

- Мы не немцы, - стрымана сказаў Рыбак.

- А хто ж вы? Можа, красныя армейцы? Дык красныя армейцы на фронце ваююць, а вы во па завуголлі шастаеце. Ды яшчэ падавай вам... бульбачкі, агурочкаў... Гэлька, вазьмі Лёніка! - крыкнула яна старэйшай, а сама не раздзелася, а пачала прыбіраць ля прыпечка: чыгункі - на прыпек, цабэрак - у парог, венік - у кут.

За сталом пачаў натужліва кашляць Сотнікаў. Яна пакасілася на яго, нахмурылася, але змоўчала, не пакідаючы прыбіраць, - тузанула брудную фіранку над дзіркай у падпечча. Рыбак устаў. Здаецца, ён даў маху - абыходзіцца з ёй, мабыць, трэба было стражэй, з гэтаю сварлівай раззлаванай бабай.

- Дарма, цётка! Мы да вас па-добраму, а вы сварыцеся.

- Хіба я сваруся? Каб я сварылася, вашай бы і нагі тут не было. Цыц вы, халеры! Вас яшчэ не хапала! - шыкнула яна на дзятву, якая церлася ля занавескі. - Гэля, вазьмі Лёніка, сказала! Лёнік, наб'ю!

- А я, мамацка, палцізанаў глядзець буду.

- Я табе пагляджу! - пагрозліва тупанула яна да перагародкі, і дзеці пазнікалі. - Парцізаны! Адно што звання - парцізаны. Лепей бы ўжо дома сядзелі.

Рыбак пільна сачыў за ёй, згадваючы, чаго яна такая ўзлаваная, гэтая Дзёмчыха. У галаве яго праносіліся самыя розныя меркаванні: жонка паліцая, якая радня іх ці, можа, пакрыўджаная чым пры Савецкай уладзе? Але, падумаўшы, ён адкінуў тыя здагадкі - усе яны не надта стасаваліся да гаротнага жыцця гэтай жанчыны.

- А дзе твой Дзёмка? - раптам спытаў Рыбак.

Яна разагнулася і неяк насцярожана, амаль боязна паглядзела на яго.

- А вы скуль Дзёмку ведаеце?

- Ды ўжо ведаем.

- Чаго ж тады пытаецеся? Хіба цяпер жонкі ведаюць, дзе іх мужыкі? Пакідалі во, жыві як хочаш.

Яна ўзяла з парога венік і пачала замятаць ля печы. Усе яе рэзкія і шырокія рухі сведчылі пра злосць і неспакой. Рыбак сядзеў, не ведаючы, як урэшце падступіцца да гэтай Дзёмчыхі з той размовай, дзеля якой ён і чакаў яе.

- Тут бач, цётка, таварыш таго...

Яна зноў разагнулася, зірнула на Сотнікава ў куце. Той варухнуўся, памкнуўся ўстаць і хваравіта перацяў стогн. Дзёмчыха на момант знерухомела з венікам у руках. Рыбак падаўся к таварышу.

- Ось бачыш, кепска яму, - сказаў ён.

Сотнікаў хвіліну курчыўся ад болю ў назе, аберуч трымаючыся за калена і сцяўшы зубы, каб не стагнаць.

- Халера, прыкарэла, мусіць.

- А ты не тузайся, ляжы. Цябе ж не гоняць.

Пакуль Рыбак уладкоўваў нагу ўздоўж лавы, Дзёмчыха хмурылася, але што далей разкаваты выраз яе стомленага твару пачаў мякчэць.

- Падкласці што трэба, - сказала яна і пайшла за перагародку, адкуль неўзабаве вынесла старую, з клоччам шэрае ваты, ватоўку. - На, мякчэй будзе.

«Так, - адзначыў у думках Рыбак. - Гэта ўжо іншая справа. Можа, яшчэ падабрэе гэта злосная кабеціна».

Сотнікаў прыўзняўся, яна паклала ватоўку ў кут пад яго галаву, і ён, пакашліваючы, тут жа апусціўся зноў. Дыханне яго па-ранейшаму было частае і труднае.

- Хворы, - ужо іншым тонам, спакойна сказала Дзёмчыха. - Жар, пэўна. Вунь як гарыць.

- Гэта пройдзе, - махнуў рукой Рыбак. - Гэта не страшна.

- Ну канешне! - зазлавала жанчына. - Вам усё не страшна. І страляюць у вас - не страшна. І што маці гора - не страшна. Нічога не страшна. А нам... Зёлак зварыць нада, напіцца, спацець. А то вунь могілкі побач.

- Могілкі не самае горшае, - праз кашаль сказаў Сотнікаў.

Ён неяк нядобра ажывеў пасля кароткага забыцця, мусіць, ад тэмпературы, ці што. Рыбак проста не пазнаваў яго: рэзка счырванелы твар, ліхаманкавы бляск вачэй і нейкая ненатуральная парывістасць у рухах.

- Што ж яшчэ можа быць горш? - спытала Дзёмчыха, збіраючы са стала талеркі. - Мабыць жа, у пекла не верыце?

- Мы ў рай верым, - сказаў Рыбак.

- Дачакаецеся раю, а як жа.

Гаспадыня забразгала засланкай, палезла ў печ, пачала шоргаць там чыгунамі. Аднак, падобна было, яна ўжо спакойнела, нават дабрэла. Рыбак адчуваў тое і думаў, што, можа, як-небудзь усё яшчэ ўладзіцца.

- Цёплай бы вады рану абмыць. Ранілі яго, цётка.

- Ды ўжо ж бачу - не сабака ўкусіў. Вунь усю ноч ля Старaселля бахалі, - паведаміла яна і абаперлася на вілачнік. - Кажуць, аднаго паліцыянта падстрэлілі. Невядома, ці выжыве.

- Паліцая?

- Ну.

- А хто казаў?

- Бабы казалі.

- Ну, калі бабы, то пэўна, - усміхнуўся на канцы лаўкі Рыбак. - Яны ўсё ведаюць.

Дзёмчыха зласліва азірнулася ад печы.

- А то не? Мабыць, ведаюць. Вы ж во пытаецеся, бо не ведаеце.

Яна падала ім ваду ў чыгунку, скінула кажушок і ступіла за шырмачку да дзетвары.

- Ну, вы ўжо самі. А то не хапала мне яшчэ вам порткі знімаць.

- Ладна, ладна, - пагадзіўся Рыбак і падступіўся да Сотнікава. - Давай бурак знімем.

Сотнікаў сашчаміў зубы, учапіўся рукамі ў лаўку, і Рыбак як-колечы сцягнуў з яго нагі акрываўлены мокры бурак. Далей трэба было зняць штаны, і Сотнікаў, паморшчыўшыся, выціснуў:

- Я сам.

Было пакутна і балюча, і ўсё ж ён, расшпіліўшы, ссунуў

да каленяў таксама скрываўленыя штаны. Сярод падсохлых крывавых пацёкаў на яго целе Рыбак згледзеў урэшце ранку. Яна аказалася зусім невялічкай, падпухлай, з сіняватым абадком наўкруг - тыповай кулявой ранай, якая трохі яшчэ крывяніла. З другога боку сцягна выхаду не было, што значыла: куля засела ўназе. Гэта ўжо было горш.

- Да, сляпое, - заклапочана сказаў Рыбак. - Трэ даставаць.

- Ты ж не дастанеш, - пачаў раздражняцца Сотнікаў, - дык завязвай, і годзе.

- Нічога, нешта прыдумаем. Хазяюшка, можа, перавязаць чым знойдзецца? - гукнуў Рыбак за перагародку, а сам мокрым ручніком пачаў аціраць падсохлую кроў.

Нага ў Сотнікава нервова падрыгвала, мабыць, было балюча, той, аднак, намогся і трываў, і Рыбак падумаў, што ўвогуле рана не такая і страшная, калі толькі куля не зачапіла косці. Калі яе выняць, дык праз месяц усё загоіцца. Куды важней гэты месяц недзе перабыць, перахавацца, каб не папасціся ў лапы да немцаў.

Калі Дзёмчыха з'явілася ў дзвярах з кужэльным кавалкам у руках, Сотнікаў сарамяжліва схамянуўся, і яна заўважыла тое.

- Не бойся. На во, перавязвайце, чым знайшла.

Увесь час, пакуль Рыбак абкручваў сцягно, Сотнікаў душыў у сабе стогн і, калі ўсё было скончана, пластам упаў на лаву. Рыбак спаласнуў у чыгунку рукі.

- Ну во, аперацыя і скончана. Хазяюшка!

- Бачу, не сляпая, - сказала Дзёмчыха, з'яўляючыся ў дзвярах.

- А што далей, ось загвоздка! - Рыбак з відочным клопатам ссунуў на патыліцу шапку і запытальна паглядзеў на жанчыну.

- А я хіба ведаю, што далей.

-Ісці ён не можа - факт.

- Сюды ж прыйшоў.

Мабыць, яна нешта адчула ў яго далекаватых закідах, і яны пільна і насцярожана паглядзелі адно на аднаго. І гэтыя іх позіркі засведчылі куды болей, чым было сказана ў словах. Рыбак зноў адчуў сваю няўпэўненасць, слабасць свайго лагічнага грунту - як было давесці гэтай жанчыне, што іншага выйсця ў іх няма. Але і яна, відаць, няблага разумела, чым рызыкавала, згадзіўшыся на іх патрэбу, і мела намер стаяць на сваім.

У даволі лёгкай, амаль дробязнай дагэтуль размове настала дакучлівая замінка. Сотнікаў задышліва прыціх на лаве, а Рыбак у клапоткім роздуме зірнуў у акно.

- Немцы!!

Як уколены, ён адскочыў у парог, за якую долю секунды ўсё ж паспеўшы згледзець некалькі ўзброеных постацяў, што стаялі на могілках. Менавіта стаялі, а не ішлі, ён нават не зразумеў, куды яны былі звернуты тварамі, ён толькі ўбачыў абрысы постацяў са ствaламі вінтовак над іх плячамі.

Сотнікаў падхапіўся з лавы, шырока замахаў ля сябе рукой - стараўся схапіць вінтоўку. Гаспадыня як стаяла, так і збялела да белага палатнянага колеру. Рыбак спярша хацеў быў выскачыць за дзверы, ды зноў вярнуўся зірнуць у акно, але яго апярэдзіла Дзёмчыха.

- Ідуць! Трое сюды ідуць!

Сапраўды, трое з могілак накіроўваліся ўніз да сцежкі, якраз, мусіць, па нядаўніх іхніх слядах. Як толькі Рыбак згледзеў тое, усё ў ім апала ўнутры ў шчымлівым прадчуванні бяды. Ніколі ён не палохаўся так, нават сёння ўначы, а цяпер нешта сказала яму, што будзе найгоршае. На нейкае імгненне ён сапраўды разгубіўся. Здаецца, найлепей было ўцякаць, аднак ён зірнуў на

скурчанага на лаве Сотнікава, які сціскаў у адной руцэ вінтоўку, і спыніўся. Уцякаць не выпадала. Дзёмчыха, мусіць, таксама зразумела гэта і трывожлівым шэптам загаманіла:

- На гарышча! Лезьце на гарышча!!

Вядома, на гарышча, куды ж яшчэ можна было падацца ў сялянскай хаце? Яны сунуліся ў цемнаватыя сенцы, у куце якіх чарнеў квадратны лаз на гарышча, але драбіны пад ім не было, і Рыбак ускочыў на круглыя камяні жорнаў. Найперш ён перакінуў на гарышча вінтоўку і азірнуўся.

- Давай тваю!

Сотнікаў, расставіўшы рукі, гробся цераз парог, Дзёмчыха падтрымлівала яго, ён падаў вінтоўку, і Рыбак таксама сунуў яе ў цёмную дзірку гарышча. Потым, ледзь не паваліўшы жорны, узвалок на іх Сотнікава. Верхняе бервяно адсюль усё яшчэ было высока, ухапіўшыся за яго рукамі, ён зашкрэбаў па сцяне ботамі і неяк ускараскаўся. Тут жа ўхапіў працягнутыя рукі Сотнікава. Дзёмчыха ўвесь час старанна і няўлад пасабляла знізу, паўхвіліны Сотнікаў напружана высільваўся на сцяне, але ўрэшце таксама пераваліўся цераз верхняе бервяно і апынуўся на столі хаты.

- Пакулле там! За пакулле лезьце! - падказвала знізу гаспадыня.

Рыбак ступіў па мяккай засыпцы гарышча, тут, як і ў сенцах, панаваў змрок, але з-пад страхі і праз маленькае акенца ў шчытку трохі цадзілася святла, у якім ён убачыў шырокі цагляны слуп коміна, нейкія транты на вешале, зламаны калаўрот у доле. Зводдаль пад дахам грувасцілася ладная куча пакулля.

- Сюды давай!

Сотнікаў, падабраўшы вінтоўку, на кукішках падаўся пад страху ў кут, куды ён паказваў, Рыбак ботам піхнуў

на яго пакулле, потым яшчэ. Потым таксама ціснуўся ў падстрэшак за спіну таварыша, слыхам пранікаючы туды, уніз, дзе непадалёк ужо рыпелі на снезе крокі.

Хвіліну яны, замёршы, ляжалі, ледзь утаймоўваючы дыханне. У нос шыбала рэзкім пяньковым пахам, кастрыца абсыпала твар і калолася за каўняром. Ледзьве спраўляючыся з дыханнем, Рыбак з усяе сілы стараўся згадаць па тым, што ўбачыў: ішлі яны менавіта па іхніх слядах ці так проста кіравалі ў вёску. Калі па слядах, тады, вядома, будуць шукаць. Тады наўрад ці ім тут адлежацца. У грудзях Сотнікава рыпела-гуло, гэта перашкаджала слухаць, яны абодва змярцвелі, стараючыся як мага болей учуць. Галасы былі ўжо так блізка, што іх узяў жах - немцы загаварылі з Дзёмчыхай.

- Прывет, фрава! Як жысць?

То былі паліцаі, гэта было зразумела з першага іх слова, яны пратупалі па падворку, здаецца, накіроўваючыся да ганка. Дзёмчыха чагось маўчала, і Рыбак стаіўся ў чаканні, з усяе сілы прагнучы, каб прайшлі міма.

- Што маўчыш? Заві ў госці, - глухавата пачулася на гарышчы.

- Хай вас на могілкі завуць, такіх гасцей.

«Э, не трэба так, - пранеслася ў галаве Рыбака. - Нашто ты задзіраешся!» Пільна слухаючы, ён балюча пераживаў грубыя словы гаспадыні і баяўся, што яна дастукаецца ўрэшце бяды.

- Ого! Ты што, недавольна?

- Давольна. Радуюся, а як жа?!

- То-та! Гарэлка ёсць?

- А ў мяне хіба крама?

- А закусь! Ану-ка, гані пару кілбас!

- Ого, чаго захацелі!! Зката я іх вам нараблю? Падсвінка забралі, а цяпер кілбас ім!

- Во як ты нас спатыкаеш! - з'едліва заскрыпеў другі голас. - Партызан дык нябось і смятанкай карміла б!

- Мае дзеці смятаны паўгода не бачылі.

- Так мы табе і паверым!

Ну, вядома, нельга было так злосна і сварліва абыходзіцца з імі, вось яны і не прайшлі міма - іх важкія крокі затупалі ўжо ў сенцах, але, здаецца, дзверы ў хату яшчэ не адчыняліся, і Рыбак аж пахаладзеў ад нечаканага і такога простага цяпер меркавання: а раптам палезуць на гарышча шукаць кілбас? Ды не, пакуль што загрукала ў сенцах, - мусіць, адкінулі века ў скрыні, пасля застукала нешта драбнейшае, нешта ўпала на дол і пакацілася з гучным бляшаным лязгатам. Баючыся скрануцца, Рыбак ціха ляжаў за пакуллем, скоса пазіраючы на змрочны, у павуцінні, бок кроквы з адсталай карынкой і думаў: не, прыйшлі не па іх. Шукаюць спажывы - звычайны паліцэйскі занятак у вёсцы, а на могілках, мусіць, пост-засада - будуць пільнаваць дарогу.

Яны яшчэ не скончылі свайго груку ў сенцах, як Сотнікаў побач ненатуральна выпнуўся, спіна яго выгнулася, у грудзях нешта ліхаманкава захадзіла, і Рыбак ажно спалохаўся, што кашляне. Ды ён не кашлянуў, неяк стрымаўся, сціх, а яны там, унізе, ужо бразгалі клямкай, і вось ужо іхнія галасы прыглушана данесліся з хаты.

- Дзе гаспадар? У Маскоўшчыне?

- А я скуль ведаю?

- Не ведаеш? Затое мы ведаем. Стась, скажы, дзе яе мужык?

- Ды, пэўна ж, у войску.

- О, сука, скрывае! Ану, улупі ёй!

- А-яй! Гадаўё вы! - закрычала Дзёмчыха. - Каб вам скруцянець да вечара! Каб вашыя вочы груганы паклявалі! Каб вы дзяцей сваіх не ўбачылі!..

- Ах, во як! Стась!

Невядома, што яны зрабілі з ёй, але ў хаце жахліва закрычала дзятва, загаласіла дзяўчынка, і раптам з напятых грудзей Сотнікава бухнуў кашаль. Бухнуў толькі адзін раз, але ў Рыбака аж пацямнела ўваччу, рукі самі шаснулі ў пакуллі да рота Сотнікава, але той бухнуў і яшчэ. У хаце ўраз усё змоўкла, нібы ўсе выскачылі з яе. Рыбак спазнела сцяў Сотнікаву сківіцы, і той скурчыўся ў сутаргавай нутраной патузе.

- Хто там? - урэшце пачулася з хаты.

- Ды ніхто. Кот у мяне там, прастуджаны, ну, кашляе, - чуваць было, спалохана загаманіла Дзёмчыха, ды яе не надта ўпэўненыя словы, мусіць, нікога не пераканалі.

- Стась! - уладна скамандаваў гучны разлютаваны голас.

Рыбак зацяў дыханне на выдыху, выразна адчуваючы, што вось-вось усё загіне. Мусіць, трэба было абараняцца, страляць, хай бы і яны пагінулі, але невядома адкуль з'явілася апошняя надзея на цуд, падумалася: а раптам пашанцуе, не знойдуць. Ён разумеў, што гэта кволая надзея - сястра роспачы, але іншай у іх не асталося, і ён з усяе сілы прагнуў, каб яна спраўдзілася.

Чуваць было, як паліцэйскія з грукатам статка выскачылі ў сенцы, люта бразнулі аб сцяну дзверы, на гарышчы пад страхой адразу пасвятлела. Над імі чорнаю хрыбцінай азначылася кроква з шызым дрыготкім шматком павуціння і ўваткнутым у салому ржавым сярпом. Некалькі невядома адкуль пранiклівых на гарышча ценяў слізгала сюды-туды пад страхой.

- Драбіну! Давайце драбіну! - басавіта камандаваў звыклы загадваць голас.

- Няма драбіны, нікога там няма, чаго вы прычапіліся?

Дзёмчыха плакала.

Стук, удар у сцяну, шкрэбат ботаў па бёрнах і - зусім блізкі задыханы голас:

- Дык цёмна там. Нічога не відно!

- Што не відно? Лезь, я загадваю, туды т-тваю маць!

Зноў шкрэбат па сцяне, лапанне рук па верхнім бервяне сцяны, зморанае дыханне і нецярплівае знізу:

- Ну што?

- Зачапіўся неяк. Але цёмна.

- Крыкні!

- Эй, хто тут! Вылазь, а то зараз гранатай улуплю! - раздалося, здаецца, пад самай страхой. Але крокаў на столі не было чутна - мусіць, паліцай не адважыўся пералезці сцяну.

- Так ён табе і вылезе! - гуў знізу камандзірскі бас. - Схоў які ёсць?

- Ёсць бытта. Сена, ці што...

- Пырані вінтоўкай!

- Дык не дастану.

- Эй, ідрыт тваю мутар! Тожа ваяка! На аўтамат! Аўтаматам часані!

Гэта ўсё, кропка, сказаў сабе Рыбак і змярцвеў, амаль фізічна адчуваючы, як зараз іхнія целы разнясе ў ашмоцце імпэтная аўтаматная чарга. Але гэта ўжо занадта, гэта ўжо смерць, на якую ён ні за што не мог пагадзіцца.

І ўсё ж ён марудзіў, нават не варухнуў пальцам, хоць побач ля бока муляла вінтоўка. Стараючыся выкарыстаць апошнія секунды, ён шалёна мітусіўся ў думках, шукаючы паратунку, але нідзе яго не знаходзіў:

так ладна папаліся яны ў гэтую пастку. Мусіць, усё было скончана, трэба было ўставаць, і на момант яму захацелася, каб першы гэта зрабіў Сотнікаў. Ён параненя, хворы ўрэшце, ён кашлем выдаў абодвух, яму болей выпадала здавацца ў палон. Але Сотнікаў ляжаў, бы нежывы, толькі напяўся, падобна было - нават перастаў і дыхаць.

- Ах, не лезеш! Ну, я табе!..

Пад дахам пачуўся кароткі металічны шчоўк - надта знаёмы гук аўтаматнага затвора, які адцягваюць на баявы ўзвод. Далей мелася быць тое самае апошняе, за чым нічога ўжо больш не бывае. Можа, якая секунда аддзяляла іх ад гэтага апошняга рубяжа між жыццём і нябытам, але і тады Сотнікаў не варухнуўся, не кашлянуў нават. І Рыбак, напаследак жахнуўшыся, рэзка адкінуў ад сябе пакулле.

- Стой! Не страляй!

- Рукі ўгору! - здзічэла закрычаў паліцай, і Рыбак падумаў, як бы той з перапуду не ўсадзіў у яго чаргу.

На кукішках ён выграбся з-пад страхі і ўстаў. Над бервяном насцярожана застыла паліцаева галава ў кубанцы і нерухомы ствол накіраванага на іх аўтамата. Цяпер самым страшным для Рыбака быў той ствол - ён вырашаў усё. Скоса і пільна пазіраючы на яго, Рыбак падняў рукі. Чаргі пакуль што не было, пагібель нібыта адсоўвалася, гэта было галоўнае, а астатняе для яго ўжо не мела сэнсу - пра астатняе цяпер ён не думаў.

- Ага! Папаліся, галубчыкі! Ану, вылазь, у душу вашу маць!

**10**

Аднекуль прыцягнулі драбіну, на гарышча ўзлезлі ўсе трое, перапаролі куткі, перытрэслі пакулле, забралі вінтоўкі. Пакуль двое завіхаліся тут, палонныя пад аўтаматам трэцяга стаялі ўбаку, ля коміна.

Сотнікаў, падкурчыўшы босую параненую нагу, трымаўся за комін і кашляў. Цяпер ужо можна было не стрымлівацца і накашляцца ўволю. Як ні дзіва, але ён не надта і спалохаўся паліцаяў, не дужа баяўся расправы - яго ашаломіла ўсведамленне ўласнай віны, што гэтак падвёў Рыбака, ды і Дзёмчыху, якой цяпер таксама не паздаровіцца. Ён вельмі шкадаваў, што не застрэліўся, пакуль меў вінтоўку, не загінуў у той перастрэлцы з паліцаямі - навошта было цягнуцца сюды, каб так недарэчна трапіць у іхнія рукі? Ён гатовы быў праваліцца скрозь зямлю, каб толькі не сустракацца з Дзёмчыхай, якая мела ўсе падставы выдраць абодвум ім вочы за ўсё тое, на што яны асуджалі яе. І ён у роспачы думаў, што дарма яны ўсё ж адгукнуліся, хай бы ўжо стралялі - пагінулі б, але толькі ўдвух.

З вокрыкамі і лаянкай іх штурхнулі на драбіну ўніз, у сенцы, дзе ля расчыненых у хату дзвярэй хліпала Дзёмчыха і недзе за перагародкай спалохана румзаў малы. Рыбак злез па драбіне хутка, а Сотнікаў замарудзіў, паўзучы задам, на адных руках, і той старшы паліцыянт - плячысты мужык у чорным чыгуначным шынялі, са звераватым бандыцкім абліччам - так хапіў яго за плячо, што ён разам з драбінай паляцеў цераз жорны. Праўда, ён не надта ўдарыўся, толькі павярэдзіў нагу - уваччу пацямнела, захлынулася дыханне, і ён не адразу, пакутна пачаў уставаць з долу.

- Што вы робіце, злодзеі! Ён жа раніты, ці вы не бачыце! Людаеды вы! - закрычала Дзёмчыха.

Старшы паліцай важна павярнуўся да таго, у кубанцы.

- Стась!

Той, відаць, ужо ведаў, што ад яго патрабавалася, - дзеранўў з вінтоўкі шомпал і з віскам выцяў ім па жанчыне.

- Ой!

- Сволач ты! - трацячы разважлівасць, сіпата выкрыкнуў

Сотнікаў. - За што? Жанчыну за што?

У ім усё нервова затрэслася ад гневу, які, аднак, вярнуў рэшту ягонае сілы, і Сотнікаў неяк узгробся пад сцяной на адну нагу і павярнуўся да таго Стася. Ён, можа, толькі цяпер адчуў, якая яна, гэтая Дзёмчыха, і міжвольна памкнуўся абараніць яе. Падхоплены хваляй гневу, ён зусім забыўся на сябе і ніколькі не баяўся паліцая, хоць і падумаў, што той Стась, мусіць, дасць і яму. Але спрытны, ухопісты Стась толькі ўхмыльнуўся на яго крык і дакладным напрактыкаваным рухам саўгануў шомпал назад у вінтоўку.

- Будзе ведаць, за што!

Сотнікаў пакрысе саўладаў з сабой, пачаў аддыхвацца і спакойнець.

Усё было вядома, проста і надта звычайна - яны самі аддалі сябе ва ўладу вылюдкаў - чаго было іншага ад іх чакаць. Калі не застрэляць адразу, трэба рыхтавацца да допытаў, катавання, пакутнай, зняважлівай смерці. На які паратунак ён ні разлічваў, усе яго шансы-надзеі ўжо беззваротна скончыліся.

У сенцах іх абшукалі - выграблі ўсю драбязу з кішэняў, патроны, раменнымі супонямі туга звязалі рукі - Рыбаку ззаду, а Сотнікаву спераду - і пасадзілі на шурпаты гліняны дол. Потым той, старшы, са звераватым абліччам паліцай пайшоў у хату да Дзёмчыхі, а другі, якога называлі Стасем, астаўся на ганку іх пільнаваць.

Марознае паветра апякала хворыя грудзі Сотнікава, у галаве яго блажліва кружылася, пашчыпвала ад сцюжы падмёрзлыя вушы - пілотку ён недзе згубіў, мабыць, на гарышчы. Мерзла і таму яшчэ болей балела яго параненая нага. Калена распухла, ён проста не мог варухнуць ім, а босая ступня ссінела і азызла. Мусіць, трэба было б папрасіць бурак, але ён уявіў, як балюча будзе надзець яго, і перадумаў: чорт з ім! Цяпер ужо ўсё адно, хай мерзне нага, мабыць, хутка яна яму будзе ўжо без патрэбы. Седзячы ў доле і ўсё кашляючы, ён пазіраў на свайго канваіра - маладога хлопца ў чорнай

фарсістай кубанцы, яго прыгожы з пародзістым носам твар, на якім часам з'яўлялася нечакана прываблівая ўсмешка. Адчувалася ў ім нешта людскае і нібы знаёмае, вайсковае, ці што; можа, таму, што той быў у вайсковым бушлаце і ботах - спраўных хромавых ботах, у якія былі запраўлены, аднак, чорныя цывільныя штаны. Стась трымаў на плячы вінтоўку, другім прысланіўся да шула і, палузгваючы гарбузныя семкі, пазіраў то на палонных, то некуды на вуліцу - мусіць, чакаў транспарт. Але транспарту пакуль не было, і ён, патаптаўшыся крыху, сеў на парозе, паставіў між ног вінтоўку. Зблізку пільна, але без злосці, хутчэй насмешліва агледзеў абодвух.

- За пакулле залезлі, ха! Як прусакі!

Яны маўчалі, толькі Рыбак, з пакутнаю спробай нешта зразумець, зірнуў на яго і патупіўся.

- Цяпер вас памыюць, папрасуюць і таго - трошкі павесяць! Пасушыцца, ха-ха! - засмяяўся паліцай так дабрадушна і натуральна, што Сотнікаў аж схамянуўся - так гэта было падобна на прыяцельскі, нахабнаваты, але добразычлівы жарт. Але смех гэты раптам абарваўся, і ўжо зусім іншым тонам, ад якога нельга было не здрыгануцца, паліцай вылаяўся.

- Такія-сякія нямазаныя! Хадаронка ўгробілі? Цяпер мы вам разматаем на плоце кішкі.

- За што матаць? Не ведаем мы ніякага Хадаронка, - паныла сказаў Рыбак.

- Ах, не ведаеце? Можа, гэта не вы ноччу стралялі?

- Мы не стралялі.

- Вы ці не, а рэбры ўсё роўна вам ламаць будзем. Паняў?

Стась пасур'ёзнеў, вочы яго пагрозліва засцюдзянелі, і ўсё тое чалавечае, што маладою добрасцю ляжала на твары, неяк дзіўна знікла з яго, саступіўшы месца злой бяздушнай рашучасці.

Яны ненадоўга змоўклі, паліцай - пазіраючы на іх са злосцю, а палонныя - непрыемна перажываючы яго жахлівую пагрозу. Пэўна, каб хутчэй пазбыцца яе, Рыбак запытаў пра іншае:

- У арміі служыў?

- У якой арміі?

- Чырвонай хаця б.

- С... я хацеў на вашу армію! - яшчэ больш вызверыўся паліцай і зрабіў страшныя вочы. Потым неяк пастунова твар яго перамяніўся, на ім з'явілася ўсё тая ж паблажлівая ўсмешка. Адставіўшы ўбок нагу, ён наском бота размерана пацепаў па зямлі. - Ось так!

- А бушлат? - паказаў позіркам Рыбак.

- Ах, бушлат! У аднаго жыдка-камісара ўзяў. Таму не спатрэбіўся, - сказаў паліцай і, заўважыўшы яго запытальны позірк, спакойна дадаў: - Твой паўшубачак таксама прыбяром. Будзіла возьме, ягоная чарга. От так.

- А не падавіцеся? - раптам цвёрда, трошкі стрымліваючы хваляванне, сказаў Сотнікаў.

Стась ускінуў галаву.

- Што?

- Не падавіцеся, кажу? Паўшубачкамі, і наогул!

- Гэта чаму нам давіцца? За нас Германія - паняў ты, чмур? А вот вам точна капут! Будзьце ўпэўнены, у бога душу мацъ! - свірэпа закончыў Стась.

Што ж, і гэта было зразумела і натуральна. Рыбак задумліва апусціў галаву, Сотнікаў асцярожна паспрабаваў варухнуцца - дранцвела сцягно, вузкая сырамятная супонь рэзала яго тонкія рукі.

Урэшце паліцай прыгнаў двое саней. Адны асталіся на

вуліцы, а другія са скрыпам і конскім тупатам пад'ехалі пад самы ганак, і Стась усхапіўся з парога. Першага ён упіхнуў у развальні Рыбака, потым дужым рыўком за каршэнь падняў з долу Сотнікава. Калі той, дастыргікаўшы, неяк уладкаваўся поруч з таварышам, паліцай уваліўся ў сані ззаду. Возчык - стараваты напалоханы дзядзька ў драным кажуху - боязна прыткнуўся ў перадку. Змёрзлую босую нагу Сотнікаў патроху падапхнуў пад сена, зверху прыкрыў палой шыняля. Яму зноў рабілася надта дрэнна, але неяк трэба было трываць. Цяпер трэба было толькі адно: трываць. І ён трываў, ашчадна выдаткоўваючы не надта багаты запас гэтага свайго трывання.

Ён думаў, што яны адразу паедуць, але з хаты нешта не выходзіў старшы паліцай, па яго пайшоў той, што хадзіў па сані. Неўзабаве адтуль пачуліся галасы і плач Дзёмчыхі, Сотнікаў нявесела ўслухаўся: пакінуць яе ці не? Хвіліну яшчэ, падобна было, там нешта шукалі, стукала аб папярочыну драбіна ўгары, плакалі дзеці, а потым гучней загаласіла Дзёмчыха.

- Праклятыя вы! Каб вам да нядзелі не дажыць! Каб вы маці сваіх не ўбачылі!

- Ну-ну! Жыва, сказана! Жыва!!

- На каго я дзяцей пакіну, гадаўё вы неміласэрнае!..

- Жыва!

Так, не выйшла, забіралі і яе - значыць, іхняе становішча і яшчэ ўскладнялася. Мабыць, будзе і горш. Сотнікаў зірнуў на Рыбака. Той сядзеў да яго бокам, і здалося, на яго аброслым шчаціннем твары слізгануў пакутлівы цень. Было ад чаго.

Па той самай сцяжынцы ўздоўж плота яны выехалі на дарогу і павярнулі паўз могілкі. Сотнікаў уцягнуў галаву ў каўнер, трохі прыхінуўся плячом да аўчыннае спіны Рыбака і заплюшчыў вочы. Развальні тузаліся пад імі, палазы часам заносіла ўбок. Стась ззаду, чуваць было, лузгаў і пляваўся сваімі семкамі... Мусіць, іх везлі

ў паліцыю або СД - значыць, спакойнага часу асталося надта мала - трэба сабрацца з душэўнымі сіламі, падрыхтавацца да яшчэ большых пакут. Вядома, яны не скажуць ім праўды, хоць таго, што яны з лесу, відаць, утаіць не ўдасца, але каб хоць выгарадзіць Дзёмчыху. Бедная цётка! Бегла дадому і не сніла, не ведала, што яе чакае там. Цяпер яна нешта ўсё крычала ззаду, сварылася і плакала, звераваты паліцай лаяўся на яе - брыдка, са смакам і з намерам як найбольш дапячы жанчыну. Але Дзёмчыха таксама не аставалася ў даўгу.

- Звяры! Фашысты! Куды вы мяне везяцё? Там дзеці! Дзетачкі мае родненькія, залаценькія мае! Гэлечка мая, як жа ты будзеш...

- Трэ было раней думаць!

- Ах ты, погань нячыстая! Ты мяне папракаеш яшчэ, запраданец нямецкі! Што я зрабіла вам?

- Бандытаў хавала.

- Гэта вы бандыты, а тыя як людзі: зайшлі і выйшлі. Што я знала, што яны на гарышча ўзлезлі? Што я - сваім дзіцям на загубу? Гадаўё вы паганае! Гітляроўскае!

- Маўчаць! Бо кляп усаджу!

- Каб табе кол усадзілі, нячысцік!

- Так! Стась, стой! - гукнулі з задніх саней, і абое сані спыніліся, не даязджаючы дзвюх тоненькіх бярозак, што пагойдваліся на ветры ў кусце лазняку за канавай. Рыбак і возчык цікаўна азірнуліся, а Сотнікаў толькі сцяўся нутром, чакаючы чагосьабразлівага і страшнага. І сапраўды Дзёмчыха неўзабаве закрычала, затузалася, сані ззаду скрануліся на дарозе, рыпнуў хамут, і нават конь неспакойна пераступіў на снезе. Потым усё сціхла. Стась саскочыў быў з развальнёў, ды хутка зноў задаволена паваліўся на сваё месца.

- Хе! Рукавіцу ў зяпу - не крычы, шалёная баба!

Сотнікаў з натугай павярнуў галаву і апынуўся твар у

твар з канваірам.

- Падлюгі!

- Ты, заступнік! Адвярні нюхаўку, а то красную юшку спушчу!

Паліцай зрабіў страшны выраз твару, вочы яго нядобра схаладнелі, зрэнкі патанулі ў іх некуды ўглыб. Але Сотнікаў ужо ведаў, з кім мае справу, і з выклікам і непрыкрытай варожасцю вытрымаў гэты позірк.

- Спрабуй, гад!

- Ха, пагражае! Ды знаеш - я цябе зараз шпокну і атвячаць не буду! Гэта табе не Саветы!

- Шпокні! Зрабі ласку.

- А то слабо? - Паліцай узяўся за затвор вінтоўкі, але толькі пырануў ствалом у грудзі і вылаяўся.

Сотнікаў нават не міргнуў - ён ужо не баяўся гэтага вылюдка. Ён ведаў, што на яго нахабства трэба адказваць такім жа нахабствам - гэтыя людзі разумелі абыходжанне толькі ў іх тоне. Самая малая прыкмета страху, залежнасці адзывалася ў іх звыклай рэакцыяй драпежніка перад безабароннай ахвярай.

- Жанчына ні пры чым, запомні, - сказаў ён з разлікам - не так для паліцая, як для Рыбака: каб той зразумеў, што трэба казаць на допытах. - Мы без яе залезлі на хату.

- Будзеш бабцы байкі баіць! - заківаў галавой Стась і апусціў вінтоўку. - Нябось Будзіла з цябе ўсё выцягне. З вантробамі вырве.

- Пляваць мы хацелі на таго Будзілу.

- Чакай, паплюешся!

«На якога д'ябла ён задзіраецца з ім?» - раздражнена думаў Рыбак, слухаючы злосную сварку Сотнікава з

паліцаем.

Іх везлі дарогай, якой уранку яны пляліся да вёскі, толькі цяпер поле не здавалася такім доўгім і панылараўнінным, конік ладна варушыў нагамі, пасцёбваючы па санях жорсткім валассём хваста. Рыбак з прыкрасцю адзначыў, што яны едуць хутка, і яму з усяе сілы хацелася запаволіць язду, адчувала яго душа - гэта апошнія гадзіны на волі з яе апошняй магчымасцю ўцячы, болей такой не будзе. Ён праклінаў сябе за неасцярогу, за тое, што так бязглузда ўзлез на тое гарышча, што не абышоў за вярсту той крайняй хаты - колькі яму ўжо было навукі не совацца да крайняй, у якую заўжды лезлі і немцы. Ён не мог даравацъ сабе таго, што яны гэтак неабдумана забрылі ў тую злашчасную вёску - лепш бы пераднявалі дзе ў хмызняку. Наогул з самага пачатку гэтага задання ўсё пайшло не так, наперакос, калі ўжо цяжка было і спадзявацца на ўдалы канец. Але таго, што здарылася, проста немагчыма было прадбачыць.

Зрэшты, усё праз Сотнікава. Тое незадаволенне напарнікам, якое ўвесь час прабівалася ў ім і якое ён намаганнем волі збольшага глушыў у сабе, цяпер ужо заглушыць было нельга. Рыбак ужо выразна разумеў, што, калі б не Сотнікаў, не яго прастуда, яны б напэўна дайшлі ўжо да лесу. Ва ўсякім разе, паліцаі б іх не ўзялі. У іх былі вінтоўкі - можна было пастаяць за сябе. Але калі цябе загналі на гарышча, а ў хаце куча дзяцей, тады ўжо з вінтоўкай не дужа разгонішся.

Рыбак коратка вылаяўся ад прыкрасці, жыва ўявіўшы сабе, як нецярпліва іх чакаюць у лесе, даядаючы апошнія крошкі з кішэняў. Напэўна, думаюць, што яны гоняць карову і таму так забавіліся. Вядома, можна было б і карову... Ніколі яшчэ ён не падводзіў таварышаў і не трапляў у гэткі тупік сам, бо меў на плячах цвярозую галаву. Дагэтуль яму шанцавала.

Пакуль на яго дарозе не апынуўся Сотнікаў. З Сотнікавым ён сышоўся выпадкова тыдзень ці дзён дзесяць таму назад, калі, вырваўшыся з Баркоўскага лесу, атрад пераходзіў шашу. Тады яны таксама

прыпазніліся, выйшлі на дарогу ўжо на світанні і сутыкнуліся з нямецкай калонай, якая адразу пачала іх праследаваць. Каб адарвацца ад немцаў, камандзір пакінуў заслон: яго, Сотнікава і яшчэ аднаго партызана - Гасціновіча. Але ці доўга могуць пратрымацца трое перад некалькімі дзесяткамі ўзброеных кулямётамі немцаў. Вельмі хутка яны пачалі адступаць, адстрэльваючыся з вінтовак; немцы ж насядалі, і Рыбак падумаў: будзе хана! Як на бяду, прыдарожны лясок скончыўся, наперадзе ляжала вялізнае голае поле, за якім толькі праз кіламетры два, не меней, цямнеў кучаравы сасоннік; туды ўжо ўцягваліся рэшткі іхняга атрада. Уцалець на тым полі пад агнём двух дзесяткаў немцаў было немагчыма. І тады Сотнікаў крыкнуў: «Уцякайце! Прыкрыю!»

Яны пабеглі ўдвух з Гасціновічам, камлюкаватым, не дужа маладым партызанам з мясцовых, - коратка перабягалі, раз-поразу падаючы ў снег, а Сотнікаў у той час страляў, ды так трапна, што ніводзін з пярэдніх немцаў не мог падняць галавы. Мабыць, ён там падстрэліў яшчэ некалькіх, пакуль яны ўдвух не дабеглі да крушні камення ў полі, з якое таксама адкрылі агонь па хмызняку.

Хвілін пяць яны білі туды з дзвюх вінтовак, даючы тым магчымасць адбегчы Сотнікаву. Немцы таксама пачалі страляць, але ўсё ж яму ўдалося адарвацца, дабегчы да іхняе крушні, і ён, упаўшы, зноў пагнаў іх далей, за сваімі. Добра, патронаў тады хапала, Сотнікаў адразу прымусіў залегчы не ў меру порсткага аўтаматчыка, што выскачыў наўздагон і сеяў па полі чэргамі, іншыя трымаліся зводдаль. Тым не менш нейкая куля ўсё ж трапіла ў Гасціновіча. Бегучы, Рыбак нават і не заўважыў, калі той упаў, але як распластаўся на снезе сам, Гасціновіча ледзь убачыў каля грыўкі быльнягу на мяжы. Да яго зараз жа кінуўся Сотнікаў, падхапіў вінтоўку забітага і хутка нагнаў таварыша. Яны абодва леглі за пагорачкам, тут ужо было больш-менш схоўна, можна было бегчы далей, але Рыбак тады ўспомніў, што ў Гасціновіча ў сумцы астаўся акрайчык хлеба, якім той учора разжыўся на хутары. Усе тыя дні яны былі

згаладнелыя, і Гасціновічаў акрайчык так заўладаў іхняй увагай, што Рыбак, крыху павагаўшыся, папоўз да забітага. Сотнікаў пасунуўся на вышэйшае і зноў узяў пад абстрэл немцаў, пакуль Рыбак двойчы не адолеў якіх сто метраў, што аддзялялі іх ад Гасціновіча. Яны тут жа разламалі акрайчык напалам і, пакуль даганялі сваіх, амаль усё з'елі.

Так яны прыкрылі выхад атрада з бою і адарваліся самі - і ўсё дзякуючы Сотнікаву. Яны і сышліся тады з ім, амаль пасябравалі; хоць зусім мала што ведалі адзін пра аднаго, але ўжо трымаліся разам, разам вырываліся з-за чыгункі і, мабыць, таму разам трапілі на гэта заданне.

Але цяпер будзе капут, гэта пэўна. Мала што яны не адстрэльваліся - усё ж іх узялі са зброяй, і гэтага было дастаткова, каб расстраляць абодвух. Вядома, на што іншае Рыбак і не разлічваў, калі вылазіў з-за пакулля, але ж...

Ён хацеў жыць! Ён яшчэ і цяпер не траціў надзеі, кожную секунду шукаў выпадку, каб як абысці свой лёс і ўратавацца. Цяпер ужо Сотнікаў не меў для яго ранейшага значэння. Апынуўшыся ў палоне, былы камбат вызваляў яго ад усіх абавязкаў у адносінах да сябе. Цяпер абы толькі пашчасціла, і Рыбакова сумленне перад ім было б амаль чыстае - не мог жа ён ўратаваць яшчэ і параненага. І ён прагна лавіў вачыма ўсё навакол з самае той хвіліны, як падняў рукі: на гарышчы, пасля ў сенцах усё лучыў момант, каб выскачыць. Ды там выскачыць не надарылася выпадку, а потым ім звязалі рукі - колькі ён неўзаметку ні высільваў іх з тае супонькі, нічога не атрымлівалася. І ён думаў: праклятая супоня, няўжо праз яе давядзецца загінуць?

Можа, варта было паспрабаваць кінуцца са звязанымі рукамі? Але на гэта патрэбна больш зручнае месца; не роўнядзь, а якая-небудзь паваротка, роў з хмызам, які-небудзь абрыў або лес. Тут жа, як на бяду, было поле, пагорак, потым дарога пайшла логам. Трапіўся масток, але раўчук пры ім быў зусім неглыбокі, адкрыты, у такім не схаваешся. Стараючыся не дужа круціць

галавой у санях, Рыбак тым не менш пільна азіраўся навокал, шукаючы хоць колькі-небудзь прыдатную для ўцёкаў мясціну, і не знаходзіў нічога. І чым болей мінала часу, і чым яны бліжэй пад'язджалі да мястэчка, тым усё большы неспакой, амаль разгубленасць апаноўвалі Рыбака. Станавілася ўсё болей зразумела: яны прапалі.

**11**

У тым, што яны прапалі, Сотнікаў не сумняваўся ні на хвіліну, намеру ўцякаць у яго не было, надзеі на літасць паліцаяў таксама. І ён напружана маўчаў, прыдушаны цяжарам свае віны, што вісела над ім падвойным грузам. Асабліва яго непакоіла Дзёмчыха. Пакуль, аднак, невядома было, што дазналіся пра яе паліцаі і наколькі сур'ёзнае іх падазрэнне адносна яе сувязі з лесам. Ён думаў таксама і пра начную перастрэлку, у якой, мяркуючы па ўсім, дасталося некаму з гэтых бобікаў. Нейкаму Хадаронку. Вядома, падстрэліў яго Сотнікаў, тут ужо ні Рыбак, ні тым болей Дзёмчыха ні пры чым.

Яны ўязджалі ў мястэчка. Дарога ішла між прысадаў - два рады крывых вербаў стылі абапал гасцінца, пасля пачалася вуліца. Было ўжо не рана, але сям-там дымілі каміны, невысока пад заінелымі стрэхамі ў марознай смузе вісела зімовае сонца. Наперадзе цераз вуліцу таропка перайшла кабета з каромыслам на плячах. Адышоўшыся па сцежцы да дома, прыпынілася, пільна паглядзела на гэтыя двое саней з паліцаямі. У двары насупраць выскачыла з хаты праставалосае, у галёшах на голых нагах дзяўчо, пляснула на снег памыямі, таксама зыркнула на дарогу і хуценька схавалася ў дзвярах. Недзе гаўкаў сабака, мітусіліся вераб'і ў голым галлі дрэў. Тут ішло сваё - трывожнае, палахлівае, але ўсё ж мірнае жыццё, якога даўно не ведалі, а цяпер ужо ніколі не ўведаюць яны.

Сані пераехалі масток і каля драўлянага двухпавярховага дома павярнулі ў бакавую вулічку. Мусіць, яны пад'язджалі. Як ні дзіўна, Сотнікаву

хацелася як найхутчэй прыехаць, ён пакутна намёрзся на ветры ў полі; паселішча, як заўжды, абяцала які-ніякі прытулак, хоць гэты раз, вядома, прытулак іх не парадуе. Але ўсё роўна карцела хутчэй у якое памяшканне, каб хоць трохі сагрэцца.

Яшчэ здаля Сотнікаў угледзеў вароты і ля іх паліцая ў кажусе з вінтоўкай, побач месцілася ладная цагляная дамоўка, пэўна - колішняя крама ці якая ўстанова, з чатырма закрачанымі вокнамі. Калі яны пад'ехалі бліжэй, паліцай закінуў за спіну вінтоўку і расчыніў вароты. Абое саней уехалі на даволі прасторны, ачышчаны ад снегу двор са старой абгрызенай конавяззю, нейкім хляўком і дашчанай шпакоўняю-прыбіральняй у куце. На ганку з'явіўся яшчэ адзін паліцай - франтаваты малады хлапец у нямецкім кіцелі з белай павязкай на рукаве.

- Прывезлі?

- А то як жа! - ахвотна азваўся Стась. - Мы ды каб не прывезлі. Во, прымай галубчыкаў!

Ён лёгка саскочыў з саней, паддаў локцем вінтоўку - тут ужо ў ёй не было пільнай патрэбы, тут не ўцячэш. Пакуль возчык і Рыбак вылазілі з саней, Сотнікаў паныла аглядаў будыніну, дзе, мяркуючы па ўсім, ім хутка давядзецца сербануць ліха: мураваныя сцены, высокі ганак з паддашкам, крутыя прыступкі ў склеп. Адно з закрачаных вокнаў было пабіта, а ніжнія шыбы застаўлены жоўтымі фанерынамі з абрыўкамі нейкага гатычнага надпісу. Усё тут было прыбрана, падмецена. Тым часам паліцай у кіцелі дастаў ключ і па сходках пайшоў уніз да дзвярэй пад ганкам - там на пагрэбчыку віднеўся здаравенны вісячы замок з пераікладзінай.

- Давай усіх сюды!

Ужо ўсе павылазілі з саней - Стась, Рыбак з возчыкам, воддаль паліцаі з тых развальнёў і Дзёмчыха, ад выгляду якой у Сотнікава жаласна сцялася сэрца: яе за што? Са звязанымі ззаду рукамі яна згорбілася, угнулася, хусцінка спаўзла на патыліцу, а ў роце дзіка і

недарэчна ўсё тырчала суконная рукавіца - відаць, яны не спяшаліся вызваляць яе ад гэтага кляпа.

Сотнікаву аднанож было горш выбрацца з саней; як ні павярніся - заходзілася болем нага. Трываючы той боль, усё ж вылез на снег і трохі скокнуў каля саней. Ён знарок прычакаў Дзёмчыху і, калі тая параўнялася з ім, унікаючы яго позірку, падняў абедзве звязаныя рукі і рвануў за рукавіцу.

- Ты што? Ты што, чмур?! - гыркнулі ззаду, і ў наступнае імгненне ён паляцеў тварам на снег, збіты лютым ударам нечага бота.

Боль у назе абцугамі сцяў яго адчуванне, ён сашчаміў зубы, але не здзівіўся і не пакрыўдзіўся - ён прыняў гэты ўдар як заслужаны. Пакуль ён, кашляючы, узграбаўся на адно калена, недзе побач абурана гудзеў знаёмы бас старшага паліцая:

- Ах ты, вырадак камісарскі! Бач - самаўпраўца! Ану, цягні яго ў штубу! Да Будзілы яго!

Аднак ззаду, выкрыкваючы праклёны Гітлеру, залямантавала Дзёмчыха, і яны там усе разам накінуліся на яе. У іх злоснай хватцы і ў галасах адчувалася набрынялая злая варожасць, якая кожную секунду гатова было выбухнуць з усёй сваёй лютасцю. Тут, вядома, было яшчэ горш, чым там, дзе іх узялі, або ў дарозе, тут на поўную сілу даваў сябе знаць крыважэрны фашысцкі орднунг. Чалавек тут пераставаў быць чалавекам і ператвараўся ў часова жывую істоту, пазбаўленую права і цалкам аддадзеную ва ўладу гэтае банды наймітаў. Апеляваць да справядлівасці ці сумлення тут было бескарысна.

Усё той лёгкі на падхваце Стась падскочыў да яго, дужа хапіў пад паху, тузануў; ён зноў упаў голымі звязанымі рукамі на снег, але бяздушная сіла гэтага паліцая падхапіла-павалакла яго да ганка, пхнула ў дзверы.

Ратуючы хворую нагу, ён дужа ўдарыўся плячом аб вушак. Стась адным дыхам правалок яго па калідоры,

шырока расчыніў яшчэ нейкія дзверы і дужым рыўком кінуў на затаптаную, у мокрых слядах падлогу. Сам жа на развітанне вылаяўся, пнуў яго ботам і з сілай грукнуў дзвярыма.

Стала ціха. Было толькі чуваць, як дзесь, нібы з рукамыйніка, капала вада і за сцяной бубніў нейкі голас. Сотнікаў, трываючы боль і задышку, марудна адольваючы слабасць, падняў галаву. У пакоі болей нікога не было, гэта трохі здзівіла. Ён з нечаканай надзеяй зірнуў на акно, але яно было моцна загароджана кратамі з самадзелкавых, прыбітых да вушака прантоў. Не, адсюль не ўцячэш! Зразумеўшы гэта, ён расслаблена апусціўся на падлогу, без цікавасці агледзеўся. Пакой меў звычайны казённы выгляд, здаваўся няўтульным і пуставатым, хоць тут быў засланы шэрай байкавай коўдрай стол, аблезлае крэсла за ім і лёганькае гнутае крэселка ля печы-галандкі, ад чорных круглых бакоў якой ішло густое, такое прыемнае цяпер цяпло. Але ззаду па падлозе цякла з дзвярэй сцюжа. Сотнікаў азябла скалануўся і, стрымліваючы стогн, патроху-памалу з асцярогай выцягнуў убок параненую нагу.

«Ну вось, тут усё і скончыцца! - журботна падумаў ён. - Дай толькі, Божа, стрываць!»

Ён разумеў, што падышоў да свае мяжы, свайго галоўнага рубяжа, а сілы ў яго было дужа мала. І ён найбольш непакоіўся, што можа не стрываць фізічна, - іншага ён не баяўся. Дыхнуўшы цёплага паветра, ён пачаў кашляць, як заўжды, да сутаргавых спазмаў у грудзях, да болю ў галаве, - самым прывязлівым кашлем, які дапякаў яму другі дзень. Так кепска ён даўно ўжо не кашляў, мабыць, з дзяцінства, калі сваёй прастудай выклікаў нямала трывог у маці, якая бясконца перажывала за яго слабыя лёгкія. Але тады нічога не здарылася, ён перарос хваробу, дажыў да дваццаці шасці год. А цяпер што ж - цяпер здароўе ўжо не мела для яго вялікага значэння. Цяпер было важна іншае.

Праз кашаль ён не пачуў, як у пакоі з'явіўся яшчэ

нехта, ён толькі ўбачыў боты, не дужа новыя, але дагледжаныя, з падбітымі наскамі і дбайна наваксаванымі халявамі. Сотнікаў падняў голаў.

Насупраць стаяў немалады ўжо мужчына ў цёмным цывільным пінжаку пры гальштуку, павязаным на нясвежую, у палоску кашулю, у ладных, вайсковага крою брыджах. У паглядзе яго маленькіх, але надта пільных вочак было нешта гаспадарскае, спакойнае, у меру заклапочана разважлівае; пад носам тапырылася шчотачка коратка падстрыжаных вусікаў - як у Гітлера. «Будзіла, ці што?» - падумаў Сотнікаў, хоць нічога з таго пагрозліва-звераватага, якое паліцаі прыпісвалі гэтаму чалавеку, у ім не было зусім. Аднак адчувалася, што гэта начальства, і Сотнікаў сеў на падлозе трохі раўней, наколькі гэта дазваляла яго балючая нага.

- Гэта хто вас? Гаманюк? - запытаў чалавек стрыманым начальніцкім тонам.

- Стась ваш, - з неспадзяванай ноткай скаргі сказаў Сотнікаў, тут жа, аднак, пашкадаваўшы, што не стрымаў незалежнасці тону.

Начальнік рашуча расчыніў у калідор дзверы.

- Гаманюка ка мне!

Кашаль у Сотнікава пакрысе суняўся, была толькі слабасць, і надта нязручна было апірацца на звязаныя рукі. Ён пакутаваў, не зусім разумеючы сэнс заступніцкага намеру гэтага чалавека. Тым не менш праз паўхвіліны ў пакой уваліўся той самы Стась і з падкрэсленай услужлівасцю стукнуў абцасамі сваіх франтаватых ботаў.

- Слухаю вас!

Гаспадар пакоя набычыў вялікаваты для яго тхарынага тварыка выпуклы, з глыбокімі залысінамі лоб.

- Што такое? Пачаму зноў грубасць? Пачаму на пол? Пачаму без мяне?

- Вінават! - як дураслівы, варухнуў локцямі і яшчэ больш выцягнуўся Стась.

Але па той бяздумнай стараннасці, з якой ён рабіў гэта, таксама як і па бясстраснай строгасці яго начальніка, Сотнікаў адразу западозрыў, што перад ім пачынае разыгрывацца бяздарны імправізаваны фарс.

- Хіба такая была інструкцыя? Так нас вучыць германскае камандаванне? - нібы крывымі цвікамі да падлогі, прыбіваў ён паліцая сваімі пытаннямі, а той з фальшывай бояззю толькі пяў грудзі.

- Вінават! Болей не буду! Вінават!

- Да палонных належаць адпаведныя адносіны. Нямецкія ўлады гатовы шанаваць тых, хто сам здаўся...

Не, годзе! Як нямецкія ўлады шануюць палонных, Сотнікаў ужо ведаў, і не стрымаўся, каб не разбурыць усёй гэтай наіўнай самадзейнасці.

- Дарма стараецеся!

Паліцэйскі трохі паспешліва павярнуўся, азадачана нахмурыў лоб.

- Што вы сказалі?

- Што чулі. Развяжыце рукі. Я не магу так сядзець.

Паліцэйскі нешта разважыў, свідруючы яго насупленым позіркам, але, мусіць, зразумеў, што баяцца няма чаго, і сунуў руку ў кішэню. Падчапіўшы кончыкам нажа тры столкі супоні, ён адным махам перарэзаў яе і схаваў нож. Сотнікаў разняў набрынялыя рукі, на запясцях якіх чырванелі рубцы.

- Што яшчэ?

- Піць! - сказаў Сотнікаў. Ён рашыў, пакуль ёсць магчымасць, пакарыстацца паблажлівасцю гэтага чалавека, каб пасля ўжо трываць.

Паліцай кінуў Гаманюку:

- Дай вады!

Той выскачыў у калідор, а паліцай зайшоў за стол і нетаропка ўмясціўся ў сваё крэсла. Увесь час ён паводзіў сябе падкрэслена стрымана, нібы таіў штось важнае для арыштанта. Позірк яго вострых, чымсь заклапочаных вачэй амаль не сыходзіў з Сотнікава.

- Можаце сесці на стул.

З дапамогай рук Сотнікаў перабраўся да крэсла і прысеў там, адставіўшы ўбок нагу. Хоць трошкі, ды стала зручней, так ужо можна было трываць. Ён уздыхнуў і пaглядзеў за печ, у кут ля акна, не адразу зразумеўшы, што шукае не што іншае, як прылады катавання - мусіць жа, яны павінны тут быць. Але нічога здатнага для таго тут не было відаць. Між тым адносіны яго з гэтым паліцаем перайшлі за мяжу ўмоўнасці. Сотнікаў адчуваў: паколькі гульня не ўдалася, неўзабаве пачнецца размова па сутнасці, якая абяцала мала прыемнага. І ён стараўся сабраць свае сілы, падрыхтавацца ўнутрана, каб вытрымаць да канца.

Тым часам Стась Гаманюк прынёс кварту вады, падаў Сотнікаву, і той выпіў усю. Паліцай з-за стала падазрона сачыў за кожным ягоным рухам, нешта ўсё разважаў ці, можа, стараўся што адгадаць.

- Ну, пазнаёмімся, - даволі міралюбна сказаў ён, калі Стась выйшаў. - Маё прозвішча Партноў. Следчы паліцыі. Вось так.

- Маё вам нічога не скажа.

- А ўсё ж?

- Ну Іваноў, дапусцім, - сказаў Сотнікаў праз зубы - балела нага.

- Не настойваю. Хай будзе Іваноў. Так і запішам, - пагадзіўся следчы, хоць нічога і не запісваў. - З якой банды?

Ого, так адразу ўжо і пра банду? Перш чым адказаць на такое больш чым непрыемнае пытанне, Сотнікаў памаўчаў. Партноў, свідруючы яго позіркам, узяў са стала запэцканы чарнілам драўляны прэс, пакруціў у руках. Сотнікаў невідушча пазіраў на яго пальцы і не ведаў, як лепш: гуляць у паддаўкі ці адразу адмовіцца ад паказанняў, каб не блытацца ў хлусні. Тым болей што ў хлусню гэту, мабыць, не надта паверацць.

- А вы думаеце, я вам скажу праўду?

- Скажаш, - проста і з такой натуральнай упэўненасцю сказаў следчы, што Сотнікаву стала не па сабе, і ён спадылба запытальна паглядзеў на паліцэйскага. - Скажаш!

Пачатак не абяцаў нічога добрага. На гэта пытанне ён, вядома, адказваць не будзе, але і іншыя, мабыць, не будуць лягчэйшыя. Следчы чакаў, гуляючы з прэсам. Рухі ягоных рук былі спакойна-ўпэўненыя і неспяшлівыя, аднак гэтаю самай неспяшлівасцю і выдавалі стоеную да пары напружанасць. Дзіўна, што з выгляду ён быў зусім мала падобны на ката-следчага, які меў на рахунку, відаць, не адно загубленае жыццё, а хутчэй нагадваў сціплага сельскага служачага. І ўсё ж нешта ў ім таілася невядомае, загадкавае і страхавітае. Сотнікаў чакаў, калі яно выбухне з лютасцю, ён толькі не ведаў, за якім пытаннем здарыцца тое.

- Якое мелі заданне? Куды ішлі? З якога часу ў вас агентам гэтая жанчына?

- Ніякі яна не агент. Мы выпадкам зайшлі ў яе хату, узлезлі на гарышча. Яе і дома ў той час не было, - знешне спакойна растлумачыў Сотнікаў.

- Ну вядома, выпадкам. Так усе гавораць. А да лясінаўскага старасты вы таксама зайшлі выпадкам?

Ага, во як! Значыць, ужо дазналіся і пра старасту? Хаця данёс, мабыць, у той самы вечар. Пашкадавалі, называецца, - з непрыемнасцю падумаў ён пра старасту. Аднак выходзіла, што паліцаі ведалі пра іх куды больш,

чым яны на тое разлічвалі, і Сотнікаў на хвіліну сумеўся. Мусіць, гэта быў разлічаны ход у допыце. Следчы са з'едлівасцю на твары адзначыў дасягнуты ім эфект, кінуў свой прэс і закурыў. Пасля акуратна прыбраў са стала партабак, запальнічку, крошкі тытуню здзьмухнуў на падлогу. Праз дым уважліва паглядзеў на яго, чакаючы адказу.

- Да, выпадкам, - пасля паўзы цвёрда сказаў Сотнікаў.

- Не арыгінальна. Вы ж разумны чалавек, а хочаце выехаць на такой прымітыўнай хлусні. Трэ было б прыдумаць нешта хітрэйшае. Гэта ў нас не пройдзе.

Не пройдзе, мабыць, так. Але чорт з ім. Быццам ён спадзяваўся, што пройдзе. Ён наогул ні на што не спадзяваўся. Было толькі шкада няшчаснае Дзёмчыхі, якую невядома як было выгарадзіць.

- Вы можаце зрабіць з намі што хочаце, - стараючыся як мага памяркоўней, сказаў Сотнікаў. - Але не чапайце жанчыны. Проста яе хата аказалася з краю. А я не мог ісці далей.

- Дзе паранены?

- У нагу.

- Я не пра тое. Дзе, у якім раёне?

- У лесе. Два дні назад.

- Не пройдзе, - гледзячы ва ўпор, заявіў следчы. - Заліваеце. Не ў лесе, а на бальшаку гэтай ноччу.

Чорт! Ведае пэўна ці ловіць? - апанурыўся Сотнікаў. Але як жа трымацца далей? Няўдала схлусіш у дробязях - не паверань і ў праўду. А праўду пра Дзёмчыху вельмі неабходна было давесці гэтаму прыслужніку, ды ён адчуваў, што давесці яе будзе цяжэй, чым якую хлусню. Сітуацыя ў самым пачатку складвалася самым найгоршым чынам.

- А калі я, напрыклад, пацверджу, вы адпусціце

жанчыну? Вы можаце гэта абяцаць?

Вочкі следчага са злосцю, здаецца, пранізалі Сотнікава.

- Я вам нічога не абавязаны абяцаць. Я задаю пытанні, а ваш абавязак адказваць.

Значыць, не ўдасца, паныла думаў Сотнікаў. Вядома, са сваіх рук яны нікога не выпускаюць. Знаёмая завядзёнка. Тады, мабыць, прапала Дзёмчыха.

- Нізашто пагубіце жанчыну. А ў яе трое малых.

- Губім не мы. Губіце вы! Вы яе ў банду ўцягнулі. Чаму тады не думалі пра дзяцей? - жорстка дакараў следчы. - А цяпер позна. Вы ведаеце законы вялікай Германіі?

«Законы! Даўно ты пазнаў іх, пракляты смоўж? - міжвольна падумаў Сотнікаў. - Нядаўна яшчэ, мабыць, зубрыў зусім другія законы, а цяпер вось перакваліфікаваўся, спрытнюга!» Аднак апошняе яго пытанне прагучэла трохі двухсэнсоўна - падобна было, ён нешта хацеў спіхнуць з сябе на плечы вялікай Германіі.

Сотнікаў памаўчаў, а следчы падняўся, адсунуў крэсла і раздумна падышоў да акна з кратамі. Праз акно ён паўзіраўся на двор, дзе чуліся галасы. Зноў ён трымаў у сабе нешта прытоенае, асабліва не напіраў з допытам і ці то думаў, як злавіць яго, ці, можа, разважаў аб чымсь, зусім тут староннім.

У калідоры застукалі боты, пачулася гамана, лаянка, здаецца, некага там вялі ці неслі. Калі гамана перамясцілася на ганак, следчы сказаў энергічна, як чалавек, якому надакучыла займацца нецікавай справай:

- Так, хопіць. Назавіце банду! Яе камандзіра! Сувязных! Колькасны склад! Месца базіравання. Толькі не спрабуйце хлусіць.

Сотнікаў адкашляўся і сумна ўсміхнуўся.

- Надта вы многа ад мяне хочаце.

Неўпрыцям для сябе ён перайшоў на іронію, да якой звычайна звяртаўся ў непрыемных размовах з дурнямі і нахабнікамі. Праўда, для Стася ці яшчэ каго з гэтых запраданцаў іронія яго была далёкая ад разумення - на гэтага ж начальніка яна дзейнічала, здаецца, самым належным чынам. Да пары той, аднак, стрымліваўся, толькі крыва перасмыкнуў вуснамі.

- Куды ішлі?

- Мы заблудзілі.

- Не пройдзе. Хлусня! Даю дзве хвіліны на роздум.

- Не старайцеся. Мабыць, у вас шмат работы.

Тут ён угадаў пэўна. Тхарыны тварык следчага зноў перасмыкнуўся, але, здаецца, ён умеў валодаць сабой. Ён нават не павысіў голасу.

- Жыць хочаш?

- А што вам да майго жыцця? Ужо вы мне яго не даруеце.

Следчы звузіў маленькія вочкі.

- Не даруем! Бандытам не даруем! - сказаў ён і раптам крута павярнуўся ад акна; кавалак попелу з канца яго цыгарэты ўпаў і разбіўся аб насок бота - здаецца, яго вытрымка скончылася. - Расстраляем, гэта безумоўна. Але спярша мы з цябе зробім катлету. Фарш зробім з твайго маладога цела. Павыцягваем усе твае жылы! Паслядоўна пераламаем косці. А пасля аб'явім, што ты выдаў астатніх. Гэта каб цябе там, у лесе, не дужа любілі.

- Не дажджацеся. Не выдам.

- Не выдасі ты - другі нехта выдасць. А спішам на цябе. Паняў? Ну, як?

Сотнікаў маўчаў, яму рабілася млосна. Цела пакрылася потам, стала не да іроніі. Ён адразу адчуў, што гэта не проста пагроза, шантаж - яны здольны на ўсё. Гітлер іх вызваліў ад сумлення, ад людскасці і нават звычайнай чалавечай маралі, іх звярыная сіла ад таго, вядома, пабольшала. Ён жа перад імі толькі чалавек. Ён звязаны дзесяткам абавязкаў перад людзьмі і Радзімай, магчымасць хлусіць і апраўдвацца ў яго не надта вялікая. Так, іх сродкі ў гэтай барацьбе аказаліся няроўныя, перавага была на баку ворага: што выстаўляў Сотнікаў, тое з надзвычайнай лёгкасцю абвяргаў следчы.

Расставіўшы ногі ў абвіслых на каленях брыджах, Партноў упёрся ў яго вострым позіркам і чакаў. Сотнікаву было надта кепска, і ён пакутна падбіраў словы ў адказ, адчуваў - гэта будуць апошнія яго словы, і не знаходзіў нічога. Правая рука следчага асцярожна цягнулася да прэс-пап'е на стале.

- Ну?

- Сволачы!

Следчы трошкі паспешлівей, чым трэба было, схапіў прэс-пап'е і прыстукнуў ім па стале, нібы ставіў апошнюю кропку ў гэтым бяскроўным і тым не меней жахлівым допыце.

- Будзілу ка мне!

У калідоры пачулася зычнае: «Будзілу к спадару следчаму!» - пасля чаго Партноў спакойна абышоў стол і ўсеўся ў сваім крэсле. На Сотнікава ён ужо не глядзеў, нібы яго і не было тут. Ён пачаў закурваць. Здаецца, яго місія была скончана, пачыналася другое аддзяленне допыту.

Сотнікаў увесь напружыўся: урэшце надышоў час таго, кім яго палохалі яшчэ ў вёсцы. І хоць ён ужо не чакаў нічога добрага і гатовы быў да найгоршага, але цяпер аж здрыгануўся, калі дзверы шырока расчыніліся і на парозе з'явіўся Будзіла.

Мусіць, гэта быў тутэйшы паліцэйскі кат - здаравенны бугай на два метры росту, з касцістым, нібы конская морда, тварам і аднавокі. Палохаў увесь яго драпежны медзведзяваты выгляд, асабліва вялізныя касматыя рукі, якія ён нёс, нібы цяжкія, абвіслыя долу рычагі. Таксама, мусіць, па ўсталяванай тут завядзёнцы, увайшоўшы, коса прыцэліўся ў ахвяру сваім цэлым вокам.

- Ану!

Сотнікаў сядзеў, рызыковым непаслушэнствам адцягваючы нешта безумоўна для сябе жахлівае. Тады той з размеранай спаважнасцю падышоў бліжэй і вялізнай пяцярнёй шырока і ўчэпіста згроб на запалых грудзях Сотнікава яго шынелак.

- Ану, бальшавіцкая гніда!..

**12**

«Дастукаўся!» - паныла, без злосці падумаў Рыбак, калі Стась яшчэ на двары схапіў Сотнікава. Паліцай бесцырымонна павалок таго ў памяшканне, а для іх з Дзёмчыхай адчыніліся ўнізе пад ганкам дзверы ў склеп. Ім развязалі рукі і падвялі да прыступкаў. Дзёмчыху штурхнулі туды сілай, Рыбак пайшоў сам.

У склепе было цёмна, ці, можа, яму здалося так пасля дзённага святла на двары. Паліцай, што ішоў спераду, загрукаў, залязгаў жалезнымі засовамі, а ён, упёршыся ў самыя плечы Дзёмчыхі, спыніўся, пацiраючы набрынялыя свербам рубцы на руках.

- Марш, марш! Што стаў! - падштурхнуў яго той, што ішоў ззаду.

Аказваецца, наперадзе ўжо адчыніліся новыя дзверы ў цемру. Рыбак праціснуўся каля Дзёмчыхі, угнуў галаву і апынуўся на парозе нейкай затхлай, смярдзючай каморкі. Ён нічога не бачыў тут, маленькае акенца слепа свяціла пад столлю, унізе быў змрок. У нос шыбала чымсь кіслым, нясвежым, цяжкім для грудзей, і

ён спыніўся, не ведаючы, куды ступіць ад дзвярэй.

Ззаду тым часам бразнуў засоў, Дзёмчыха асталася з паліцаямі, і нечы голас там запытаўся:

- А бабу куды? У вуглавую?

- Давай у вуглавую.

- Штось пуста сёння?

- Немцы ўчора разгрузілі. Адно жыдзянё асталося.

Яны адышліся, недзе непадалёк забразгаў засоў, і тады ён, трохі ўжо абвыкшыся ў змроку, згледзеў яшчэ некага ў куце. Заняты чымсьці сваім, чалавек варушыўся-корпаўся, не то распранаўся, не то слаў пад сябе адзежыну - мусіць, рыхтаваўся легчы. Цьмянае акенца амаль не свяціла на яго месца, толькі сівая галава чалавека ды плечы то з'яўляліся, то прападалі ў рэдзенькім сейве святла.

- Сядайце, чаго ж стаяць. Стаяць ужо няма чаго.

Рыбак здзівіўся і нават міжвольна ўзрадаваўся: голас старога здаўся знаёмы, і ён тут жа ўспомніў: стараста! Ну так і ёсць, у куце варушыўся іх начны знаёмы, лясінаўскі стараста Пётра.

- І вы? - вырвалася ў Рыбака.

- Ды во, папаў. Авечку ж апазналі, ну і...

«Так, так», - стукала ў галаве недарэчная думка, хоць усё ўжо было зразумела. Дзіўна, але ён толькі цяпер успомніў тую злашчасную авечку і толькі цяпер з недаравальным спазненнем падумаў, чым яна можа абярнуцца яе гаспадару.

Але там што ён мог зрабіць?

- А пры чым тут вы? Мы ж яе забралі, - трошкі фальшыва здзівіўся Рыбак.

Стараста нешта разаслаў ля сябе, ды не лёг, а ўсеўся

спіной да сцяны. Цяпер ён амаль увесь мясціўся ў змроку, відаць былі толькі сагнутыя яго калені.

- Як сказаць. Калі забралі, дык трэба было далажыць. А я... Ды цяпер што ж! Цяпер ужо ўсё роўна...

«Цяпер, мусіць, сапраўды ўсё роўна, цяпер позна ўжо меркаваць наконт авечкі, - падумаў Рыбак. - Цяпер ужо ўсё ясна».

Не расшпільваючы кажушка, ён паныла апусціўся на зляжалую саламяную падсцілку і таксама прыхінуўся плячамі да сцяны. Было невядома, што рабіць далей, ды апроч як чакаць, тут наогул рабіць нічога не выпадала. Толькі цяпер ён адчуў, што здорава замарыўся за ноч, гарнула на сон, але думкі трывожна таўкліся ў галаве. Апынуўшыся тут са старастам, ён падумаў, што няблага было б, згаварыўшыся, адмаўляць іхні заход у Лясіны - хай бы стараста сказаў, што прыходзілі не яны - другія. Старасту ўсё роўна, на каго ўказваць, а ім бы, мусіць, была ў тым палёгка. Якой-небудзь віны або нават няёмкасці ў адносінах да гэтага Пётры Рыбак не адчуваў ні на кроплю - ці першы раз такім спосабам яму даводзілася здабываць харч? Зноў жа - узялі ўсяго толькі авечку і не ў якой чырвонаармейскай кабеты, а ў самога старасты. Тут ён быў зусім спакойны і не мог сцяміць, як гэта атрымалася, што стары не зваліў усяе віны на заходжых і даў сябе так недарэчна засадзіць у гэты смярдзючы склеп.

Мінула гадзіна ці болей, Сотнікаў не вяртаўся, і Рыбак не без кароткага шкадавання падумаў: можа, яго там і прыбілі? Размаўляць тут яму ні пра што не хацелася, настрой быў самы прыгнечаны. Ён адчуваў, што вось-вось павінны прыйсці па яго, і тады пачнецца самае горшае. Ён усё думаў, прыкідваў і так і гэтак, каб як абхітрыць паліцыю, выкруціцца або хоць адцягнуць кару. Каб адцягнуць кару, мусіць, быў адзін сродак - расцягнуць следства (усё ж якое-ніякое павінна быць следства). Але тады трэба знайсці важкія факты, такія, каб зацікавіць паліцыю; бо калі тая вырашыць, што ўсё ясна, тады ўжо трымаць іх не стане. Тады ім канец.

У склепе было ціха і сонна, толькі аднекуль знадворку чуліся галасы, тупат ног у будыніне. Часам тупат быў надта густы, як ад крокаў мноства людзей, штось там прыглушана грукала і далятаў голас-лаянка. Тупат гэты жыва нагадаў Рыбаку пра Сотнікава, які недзе адзін там сярод такой зграі. Пры думцы аб напарніку ў Рыбака пакутна сціснулася ўнутры - той самы лёс чакаў і яго. Але ён стараўся не надта паддавацца паныласці, куды важней было надумаць, як апраўдацца перад паліцыяй, каб вырataвацца ад смерці і, можа, яшчэ і пасабіць Сотнікаву.

Але, мусіць, тое было няпроста.

З высокага, чымсь застаўленага знадворку квадратнага акенца цадзілася рэдзенькае святло, яно напаўняла камеру прывіднай шэрасцю, у якой выразна былі відаць толькі святлявы лапік затаптанай саломы ды нагнутая сівая галава старасты пад акном. Той нерухома сядзеў ля сцяны, аддаўшыся сваім, мусіць, таксама невясёлым думкам.

- Казалі, там нехта паліцыянта ўначы параніў, невядома, ці будзе жыць, - пасля доўгага маўчання сказаў-намякнуў стары.

Рыбаку тое раненне не было навіна, але ён проста забыўся пра яго і цяпер, пасля напамінку старасты, затрывожыўся яшчэ болей. Аднак размову перавёў на іншае.

- Вас ужо бралі наверх? - запытаў ён з нясмелай надзеяй, што чарга на допыт, можа, яшчэ не яго.

Але староста тут жа і разбурыў гэту яго надзею.

- На допыт? А як жа! Сам Партноў дапрашваў.

- Які Партноў?

- Следчы іх.

- Ну і як? Здорава білі?

- Не, мяне не білі. За што мяне біць? Б'юць, калі хто ўтойвае. А я што мог утаіць?

Рыбак, зацяўшы дыханне, уважліва слухаў: хацелася па магчымасці ўведаць, што яго самога чакала наперадзе.

- Гэты Партноў, я табе скажу, хітры, як чорт. Усё ведае, - нявесела зазначыў стары.

- Але ж ты выкруціўся.

- А што мне выкручвацца! Віны за мной ніякай няма. Што перад Богам, тое і перад людзьмі.

- Такі бязвінны?

- А ў чым мая віна? Не пабег дакладваць пра авечку? Дык я стары па начы бегаць. Шэсцьдзесят сем год маю.

- Да-а, - уздыхнуў Рыбак. - Значыць, кокнуць. Гэта ў іх проста: пасобніцтва партызанам.

Такім жа роўным голасам, як і дагэтуль, Пётра сказаў:

- Ну што ж! Значыць, такая судзьба. Дзе дзенешся?

«Якая пакорлівасць!» - падумаў Рыбак. Зрэшты, шэсцьдзесят сем гадоў - сваё ўжо аджыў. А тут усяго дваццаць шэсць, хацелася б трохі пажыць яшчэ. Не тое што страшна, а проста брыдка класціся па зіме ў прамёрзлую яму.

- Не, трэба змагацца.

А што, калі ва ўсёй гэтай гісторыі зрабіць большы ўпор на старасту? Сапраўды, калі выдаць яго за партызанскага агента ці хоць бы памагатага, сказаць, што ён не першы ўжо раз рабіў паслугі атраду, накіраваць усё следства ў фальшывым напрамку? Пачнуць дадаткова расследаваць, спатрэбяцца новыя сведкі, паказанні, пройдзе час. Мабыць, Пётру гэта не шмат павялічыць ягонай віны перад немцамі, а ім двум, можа, яшчэ і пасобіць.

Аддаўшыся думкам і аціхшы, ён аж здрыгануўся, калі побач у саломе нешта шаснула і цераз яго боты перакулілася нешта жывое і мяккае. Стараста ў куце варухнуў нагой: «Кыш, халера на вас!» - і тады ён згледзеў пад сцяной пацука. Хуценька поркаючы, нібы абнюхваючы салому, шэры порсткі камяк прашыбаваў краем падлогі і знік у цёмным кутку.

- Развялося іх тут, - сказаў Пётра. - І на людзей не зважаюць, лётаюць, як халеры якія. Мусіць, яшчэ Іцкавы. Некалі тут крама была, Іцка цукеркі прадаваў. Пасля сельпо зрабілі. Колькі чаго памянялася, а пацукі ўсё бегаюць.

- Пацукам цяпер толькі і жыць!

- Анягож. Ніхто іх не вынішчае. Ах ты, Божа...

Ён не паспеў дагаварыць, як за дзвярыма недзе загрукала, лязгнуў засоў, і ў вочы ўдарыла дзённая яркасць. На парозе з'явілася галянастая постаць Стася ў знаёмым бушлаце, з вінтоўкай за плячом.

- Ну, дзе цвай бандыт? К следчаму!

Паліцай рагатнуў, каратка і агідна, а ў Рыбака нешта раптам і пакутна апала ўнутры. Мусіць, з залішняй паспешлівасцю ён ускочыў на ногі, коўтаючы ў свядомасці недаўменне: а дзе ж Сотнікаў? Спярша ж, мусіць, павінны прывесці Сотнікава, а пасля ўжо ўзяць на допыт яго. Ці, можа, Сотнікава ўжо забілі?

Ён пакорна пайшоў да прыступкаў, счакаў трохі, пакуль Стась замыкаў за ім дзверы, потым паперадзе яго ўзышоў наверх. Ступаў ён амаль механічна, без удзелу свядомасці, не заўважаючы нічога навокал, і адчуваў сябе вельмі кепска. Не, гэта не быў страх - ён пакутаваў ад бяссілля, ад немагчымасці звярнуцца да выпрабаванага сродку - сілы, каб ратаваць сябе. Адсутнасць усялякага выбару надта звузіла яго магчымасці, думка наконт старасты асталася марным намерам - ён як след не прадумаў яе, нічога не падрыхтаваў і цяпер нёс поўную збянтэжанасць у душы.

- Во, кажушок і скінеш! - пругка цопнуў яго Стась па плячы. - А нішто паўшубачак, яй-богу! І боты. Ну, боты я забяру. А то шкада такія трапаць, праўда? - Ён матлянуў наперад сваёю нагой у ладным хромавым боце. - У цябе які нумар?

- Трыццаць дзевяць, - схлусіў Рыбак, запавольваючы крок: пасля смярдзючага склепа хацелася хоць надыхацца.

- Халера, замалыя! Эй, у рот табе аглоблю! - раптам вызверыўся паліцай. - Шырэй шаг!

Асцерагаючыся кухталя, Рыбак не стаў упарціцца - праскочыў дзверы, нядоўгі цемнаваты калідор з мардатым днявальным ля тумбачкі. Стась сціпла пастукаў сагнутым пальцам у дзверы.

- Можна?

Нібы ў сне, прадчуваючы, як зараз канчаткова рухне і спрахне ягонае жыццё, Рыбак пераступіў парог і ўпёрся позіркам у магутную печ-галандку, якая нейкім загадкава кепскім знакам з'явілася на яго дарозе. Яе чорны колер і крутыя асадзістыя бакі прыгняталі, нагадваючы недарэчны помнік па чыімсьці жыцці. За сталом ля акна стаяў шчуплаваты чалавек у пінжаку, ён чакаў. Рыбак спыніўся непадалёку ад дзвярэй, недаўменна згадваючы: няўжо гэта і ёсць той самы следчы, у якога не выкруціўся стараста?

- Прозвішча! - адразу гыркнуў чалавек. Відаць, ён быў чымсь раззлаваны, нервозны тварык яго нядобра хмурнеў, позірк спадылба цвёрда ўтаропіўся ў арыштаванага.

- Рыбак.

- Год нараджэння?

- Дзевяцьсот шаснаццаты.

- Дзе радзіўся?

- Пад Гомелем.

Следчы адышоўся ад акна, сеў у крэсла. Паводзіў ён сябе насцярожана, энергічна, але, здаецца, не надта пагрозліва.

- Сядай!

Рыбак ступіў два крокі і асцярожна апусціўся на рыплівае венскае крэселка насупраць стала.

- Жыць хочаш?

Дзіўнаватае гэта пытанне сваёй нечаканасцю трохі зняло напружанне, Рыбаку нават пачулася ў ім нешта ад жарту, і ён ніякавата паварушыўся на крэсле.

- Ну хто ж жыць не хоча! Вядома...

Аднак следчы, здаецца, быў далёкі ад таго, каб жартаваць, і ў ранейшым тэмпе прадаўжаў насядаць з пытаннямі.

- Так! Куды ішлі?

Энергічная пастаноўка пытанняў патрабавала, мусіць, гэткае ж энергіі ў ягоных адказах, але Рыбак не адразу цяміў часам патайнага сэнсу паліцаевых слоў і трохі марудзіў.

- Ішлі па харчы. Трэба было папоўніць запасы, - сказаў ён і падумаў: «Чорт з ім! Хто не знае, што партызаны таксама ядуць. Які тут можа быць сакрэт!»

- Так, праўда. Паверу. Куды ішлі?

Следчы ўвесь аж напяўся за сталом, сочачы за рухам кожнае жылкі на яго твары. Рыбак разгладзіў палу кажушка на калене, паскроб пазногцем нейкую там плямку.

- Дык, гэта, ішлі на хутар, а ён аказаўся спалены. Ну, пайшлі куды вочы глядзяць.

- Які хутар спалены?

- А той, Кульгаёў, ці як яго. Пры лесе.

- Праўда. Кульгаёў спалены. Немцы спалілі. А Кульгай і ўсе кульганяты расстраляны.

«Слава Богу, не давядзецца ўзяць грэх на душу», - задаволена падумаў Рыбак.

- А як апынуліся ў Лясінах?

- Ды так. Напаткалі ўначы, ну і... Зайшлі да старасты.

- Так, так, зразумела, - аб чымсь раздумваючы, прыкінуў следчы. - Значыць, ішлі да старасты?

- Не, чаму? Ішлі на хутар, я ж сказаў...

- На хутар, зразумела. А хто камандзір банды? - раптам запытаў следчы і, поўны ўвагі, замёр, утаропіўшы ў яго жорсткі, уважлівы позірк.

Рыбак падумаў, што тут ужо можна схлусіць - хай праверыць. Хіба што Сотнікаў...

- Камандзір атрада? Ну, гэты... Дубавы.

- Дубавы? - чамусьці здзівіўся следчы, і Рыбак працягла паглядзеў у яго вочы. Але не затым, каб упэўніць следчага ў праўдзівасці свае хлусні, - важней было зразумець, верацьяму або не. Аднак на востранькі, як бураўчык, позірк следчага набег цень задуменнасці.

- Прахвост! Ужо і з Дубавым знюхаўся! Я так і ведаў. Увосень не ўзялі - і вось, калі ласка...

Рыбак не зразумеў, каго ён мае на ўвазе? Старасту? Але як жа тады? Відаць, ён тут штосьці наблытаў... Аднак разважаць не было калі - Партноў імкліва вёў далей допыт.

- Дзе атрад?

- У лесе.

Тут ужо ён адказаў без затрымкі і нават прама і

бязгрэшна паглядзеў у сцюдзёна насцярожаныя вочы следчага - хай упэўніцца.

- У Баркоўскім?

- Ну.

(Дурныя яны, ці што, сядзець у Баркоўскім лесе, які хоць і вялікі, ды пасля ўзрыву моста на Іслянцы абложаны з чатырох бакоў. Хопіць таго, што там асталася група гэтага Дубавога, рэшткі ж іхняга атрада перабраліся за шаснаццаць кіламетраў на Гарэлае балота.)

- Колькі чалавек у атрадзе?

- Трыццаць.

- Лжэш! У нас ёсць звесткі, што болей.

Рыбак паблажліва ўсміхнуўся. Ён адчуў патрэбу прадэманстраваць лёгкую пагарду да недасведчанасці следчага.

- Было болей. А цяпер трыццаць. А астатнія выбылі. Ведаеце, баі, страты...

Следчы задаволена паёрзаў у крэсле.

- Што, пашчыпалі? Во-во! Скора пух-пяро паляціць ад усіх вас.

Рыбак памаўчаў. Ягоны настрой пайшоў угору - здаецца, ад Сотнікава яны не многа даведаліся, значыць - можна набаяць баек - хай правяраюць. Зноў жа падобна на тое, што следчы пачаў дабрэць у сваіх адносінах да яго, і Рыбак падумаў, што гэтую добрасць трэба неяк умацаваць, каб можна яшчэ і пакарыстацца ёю.

- Так! - следчы адкінуўся ў крэсле. - А цяпер ты мне скажы, хто з вас двух страляў ноччу? Нашы бачылі - адзін пабег, а другі страляў. Ты?

- Не, не я, - сказаў Рыбак, не надта, аднак, рашуча. Тут ужо яму проста няёмка было апраўдвацца і тым самым перакладваць віну на Сотнікава. Але што ж, браць яе на сябе?

- Значыць, той? Так?

Гэтае пытанне асталося без адказу - Рыбак толькі падумаў: «Каб ты здох, сволач! Так спрытна ловіць». Ды і на самай справе, што ён мог яму сказаць?

Зрэшты, Партноў не надта настойваў.

- Так, так, зразумела. Як яго прозвішча?

- Каго?

- Напарніка.

Прозвішча! Навошта б яно ім здалося, гэтае прозвішча?

Але калі Сотнікаў не назваў сябе, тады нягожа называць яго і яму. Мабыць, трэба было б неяк схлусіць, ды Рыбак не мог знайсці як.

- Не ведаю, - урэшце сказаў ён. - Я нядаўна ў гэтым атрадзе, яшчэ не ўсіх знаю па прозвішчах.

- Так, не ведаеш, - з лёгкай прытворнай прыкрасцю канстатаваў Партноў. - А стараста гэты, кажаш, Сыч? Так ён у вас значыцца?

Рыбак напружыў памяць - здаецца, ён не чуў нават і прозвішча старасты, не толькі ягонай мянушкі.

- А не ведаю. Чуў - у вёсцы яго завуць Пётра.

- Ах, Пётра.

Яму на хвіліну здалося, што Партноў гэты нейкі недалужны блытанік, але тут жа ён здагадаўся: следчы хоча заблытаць яго.

- Так, так. Значыць, родам адкуль? З Магілева?

- З-пад Гомеля, - цярпліва паправіў Рыбак. - Рэчыцкі раён.

- Прозвішча?

- Чыё?

- Тваё.

- Рыбак.

- Дзе астатнія з банды?

- На... У Баркоўскім лесе.

- Колькі да яго кіламетраў?

- Адсюль?

- Ну, адкуль жа яшчэ?

- Не ведаю точна. Кіламетраў васемнаццаць будзе.

- Правільна, будзе. Якія вёскі радам?

- Вёскі? Дзягцярня, Уклеіна. Ну і гэта, як яе... Драгуны.

Партноў зазірнуў у паперку, што ляжала перад ім на стале.

- А якія ў вас сувязі з гэтай... Вокунь Аўгінняй?

- Дзёмчыхай? Яй-богу, ніякіх. Проста зайшлі перахавацца, паесці. Ну а вашыя хлопцы...

- А хлопцы і награнулі! Малайцы хлопцы! Дык, кажаш, ніякіх?

- Абсалютна. Аўгіння тут ні пры чым.

Следчы борздзенька ўскочыў за сталом, локцямі смыкнуў угору - мусіць, велікаватыя ў паясніцы штаны.

- Не вінавата! А вас прымала? На гарышча хавала? Што, думаеш, не знала, каго хавала? Добра знала! Пакрывала, значыць. А па законах ваеннага часу за гэта

што палагаецца?

Рыбак ужо ведаў, што за гэта палагаецца па законах ваеннага часу, і падумаў, што, мабыць, трэба адмовіцца ад намеру абараніць Дзёмчыху. Было зразумела, што на кожную такую спробу следчы будзе рэагаваць, як бык на чырвоны шкумат. І ён рашыў не дражніцца. Ці да Дзёмчыхі тут, калі невядома яшчэ, як выкараскацца самому.

- Так, добра! - Следчы падышоў да акна і жвава павярнуўся на абцасах, рукі яго былі засунуты ў кішэні штаноў, пінжак на жываце расхінуты. - Мы яшчэ пагаворым. А ўвогуле я скажу: ты хлопец разумны. Магчыма, мы табе пакінем жыццё. Што, не верыш? - Следчы іранічна ўхмыльнуўся. - Мы можам. Гэта Саветы нічога не мелі. А мы можам караць, а можам і мілаваць. Гледзячы каго. Дык вось слухай.

Ён падступіў да Рыбака амаль упрытык, і той, адчуўшы, што допыт на тым, мабыць, канчаецца, зважліва падняўся з крэсла. Следчы быў яму да пляча, і Рыбак падумаў, што з лёгкасцю прыдушыў бы гэтага маламерка. Але, падумаўшы так, ён амаль спалохаўся свае такой недарэчнай цяпер тут думкі і з робленай адданасцю зірнуў у рухавыя, з начальніцкім халадком вочы паліцэйскага.

- Дык вось. Ты нам раскажаш усё. Толькі мы праверым, не думай. Не налжэш - пакінем жыць, уступіш у паліцыю і будзеш служыць вялікай Германіі.

- Я? - не паверыў Рыбак.

Падлога пад ім дзіўным чынам хіснулася, сцены гэтага заплёванага пакоя раздаліся ўшыркі, праз хвілінную збянтэжанасць у сабе ён раптам адчуў недзе волю, прастор, нават подых свежага ветру ў полі. Усё ягонае жыццё пераварочвалася дагары нагамі, але, здаецца, давала надзею выжыць.

- Да, ты. Ці не згодны? Можаш адразу не адказваць. Ідзі падумай. Але помні: альбо пан, альбо прапаў. Гаманюк!

Перш чым ён, ашаломлены і акрыяны адначасна, паспеў зразумець, што будзе далей, дзверы расчыніліся, і на парозе вырас той самы Стась.

- У склеп!

Стась дурасліва цепнуў на следчага сваімі выразнымі вачамі.

- Дык гэта, Будзіла чакае.

- У склеп! - віскнуў следчы. - Ты што, глухі?

Стась трапятнуўся.

- Яволь у склеп! Бітэ, прашу.

Рыбак выйшаў, як і заходзіў, у вялікай разгубленасці, толькі ўжо з другое прычыны. Хоць ён яшчэ не ўсвядоміў усяе складанасці перажытага, але адчуваў востра і радасна - будзе жыць! З'явілася магчымасць жыць - гэта было галоўнае. Іншае - потым.

- Га, значыць, адкладваецца? - тузануў яго за рукаў Стась, калі яны выйшлі на двор.

- Да, адкладваецца! - цвёрда сказаў Рыбак і ўпершыню з выклікам зірнуў у прыгожы, з'едліва-ўсмешысты твар паліцая.

Той рагатнуў хрыпатым, накшталт казлінага бляяння голасам.

- Нікуды не дзенешся! Аддасі! Дабравольна, але абязацельна, вантробы з цябе вон!

«Дурны ці прытвараецца?» - падумаў Рыбак. Але ў яго з'явіўся абаронца, і Стась цяпер мала палохаў, ён быў для яго нястрашны.

**13**

Сотнікава ратавала ягоная немач: як толькі Будзіла падступаўся да яго са сваімі катаўніцкімі прыладамі, ён

хутка траціў прытомнасць. Яго адлівалі, але ненадоўга, змрок небыцця зноў засцілаў свядомасць, цела не рэагавала ні на раменныя церассядзёлкі, ні на стальныя абцугі, якімі Будзіла здзіраў з пальцаў пазногці. Марна павалэндаўшыся так з гадзіну, двое паліцаяў вывалаклі Сотнікава з памяшкання і кінулі ў тую самую камеру да старасты.

Нейкі час ён моўчкі ляжаў на саломе ў мокрай ад вады адзежы, з акрываўленымі кісцямі рук і ціха стагнаў. Прытомнасць то вярталася да яго, то прападала. Калі за дзвярамі сціхлі крокі паліцэйскіх, Пётра на каленях падпоўз да жывой яшчэ ахвяры іх допыту.

- Ай-яй! А я і не пазнаў. От што зрабілі...

Сотнікаў учуў новы голас, ён здаўся яму знаёмы, ды толькі спакутаваная яго свядомасць не магла ўзнавіць у памяці, хто гэты чалавек. Але, безумоўна, чалавек быў добразычлівы да яго, Сотнікаў адчуў гэта па голасе і папрасіў:

- Вады!

Чалавек, чутно было, падняўся, ціха, але настойліва пастукаў у дзверы. Пасля зноў - і мацней.

- Чорта! Не чуе ніхто.

Рэшткамі памутнелай свядомасці Сотнікаў сцяміў, што дапамогі не будзе, і нічога больш не прасіў.

Ён дрэнна разумеў ужо, што з ім здарылася і дзе ён, толькі адчуваў, як пякучым болем гараць на руках пальцы, і надта хацеў піць. Нейкі цягучы туман завалокваў усё навакол. Сотнікаў знясілена і без мэты цягнуўся ў ім на ватных нагах, пакуль не ўбачыў ля плота калодзеж з вядром на асверы. Слабымі неслухмянымі рукамі ён пачаў апускаць гэта вядро ў калодзеж, ды раптам з глухой чорнай бездані, напалоханы вядром, з фыркатам кінуўся ў бакі дзікаваты каціны вывадак. Сотнікаў ненавідзеў катоў і з гідлівасцю адхіснуўся, амаль напалоханы. Потым ён

неяк апынуўся на вуліцы ў іх колішнім вайсковым гарадку і спаткаўся на вуліцы з Рэдзькіным, яго даваенным ардынарцам, які нёс аднекуль цэлую звязку мокрых, налітых вадою пляшак. Сотнікаў узрадавана схапіўся за адну з іх, але замест пляшкі ў яго руках чамусьці апынулася процівагазная сумка, а ў сумцы якая ж вада...

Праз нейкі час ён усё ж дарваўся да кацялка з вадой і доўга, пакутліва піў. Але вада была цёплая, нясмачная, яна не спатольвала смагі, толькі агідна напаўняла жывот, яму рабілася блага. Пакуты яго павялічыліся. Галаве было надта горача ад паўдзённага сонца; у акопчыку, дзе ён стаяў, скрозь перасыпаўся пясок, тырчала сухая трава і ні кусціка не было побач. Ён зусім яшчэ не напіўся, як за спіной раздаўся вокрык кіраўніка стрэльбаў палкоўніка Логінава: «Тэмп! Тэмп!» Сотнікава гэта здзівіла і збянтэжыла адначасна: як жа ён мог патраціць столькі часу на гэты вадапой пры стральбе? Ён жахнуўся, што не ўкладзецца ў тэмп падачы каманд, які замест 6-10 секунд, мабыць, пераваліў за хвіліну.

Паступова, аднак, ягоныя відовішчы прыглушыліся, сталі менней выразныя, часам перамешваліся з недарэчнымі вобразамі і знікалі. Нязменныя асталіся толькі пакуты...

Калі ў камеру вярнулі Рыбака, Сотнікаў, нібы труп, ціха ляжаў у забыцці, прыкрыты шынелкам. Рыбак адразу апусціўся побач, пацягнуў шынелак, паправіў Сотнікаву руку. Паламаныя яго пальцы зліпліся ў крыві, і Рыбак жахнуўся ад думкі, што гэта ж самае маглі зрабіць і з ім. На першы раз расправа нейкім цудам абмінула яго, але што будзе заўтра?

- Хлопец, тут, гэта, вады трэба! - сказаў з кута Пётра, пакуль Стась упраўляўся з дзвярамі.

- Я табе не хлопец! А пан паліцэйскі! - зверавата выпнуўся Стась.

- Хай паліцэйскі. Звініце. Чалавек от памірае.

- Туды і дарога бандыту. І табе тожа.

З перуновым ударам зачыніліся дзверы, стала цёмна. Пётра, уздыхнуўшы, апусціўся на салому ў куце.

- Звяр'ё!

- Ціха вы, - сказаў Рыбак. - Пачуюць.

- Хай чуюць. Што ўжо баяцца...

Зачыніліся і другія дзверы, на прыступках заглухлі Стасевы крокі. Зрабілася дужа ціха, і стала чутно, як дзесь непадалёк у склепе нехта ціхенька плакаў - кароткія ўсхліпы, паўзы, мабыць, дзіця ці жанчына. На саломе трапянуўся, напружыўся і сціх Сотнікаў.

- Да-а, гэтага знявечылі. Ці выжыве? - сказаў Пётра.

Рыбак падумаў: «Мусіць, не выжыве». І раптам яму дужа выразна і шчасліва адкрылася: калі Сотнікаў памрэ, дык ягоныя шансы выжыць, відаць, павялічацца. Іншых тут сведак няма, можна будзе казаць пра атрад што здасца патрэбным, праверыць не будзе ў каго.

Ён сам разумеў нялюдскасць свайго жадання, але, колькі ні думаў, вяртаўся да высновы, што так будзе лепш. Яму, Рыбаку, ды і самому Сотнікаву, бо пасля ўсяго, што сталася з камбатам, хіба ён жыхар на свеце? А Рыбак, можа б, як выкруціўся і тады ўжо напэўна расквітаўся б з гэтымі сваалачамі за ягонае жыццё і за свае страхі таксама. Вядома, ён не збіраўся выдаваць ім партызанскіх сакрэтаў, ні тым болей ісці ў паліцыю, хоць і ведаў, што ўхіліцца ад яе, мабыць, будзе нялёгка. Але яму важна было выйграць час - усё астатняе залежала ад таго, колькі ён пратрымаецца.

Сотнікаў цяжка і хрыпата дыхаў, трохі стагнаў, але толькі ледзь-ледзь, і Рыбак падумаў: не выцягне. Тут і з моцным здароўем нядоўга загнуцца, дзе ўжо яму!

- А табе, гляджу, болей пашэнціла, - памяркоўна сказаў стары.

Гэта непрыемна зачапіла Рыбака - якая ягоная справа? Але ён адказаў спакойна:

- Маё ўсё наперадзе.

- Ну ведама ж, наперадзе. Так яны не даруюць.

Рыбак насцярожана паглядзеў у кут - яму не падабаліся няпрошаныя прароцтвы гэтага чалавека: адкуль яму знаць, даруюць ці не. У яго ішоў залік па асобнаму ад іншых рахунку, у дабратворную сілу якога ён ужо амаль што паверыў і стараўся як мага падрабязней усё гэта абдумаць.

Але месца гэтае, мусіць, было не надта прыдатнае на роздум: толькі ён засяродзіўся ўвагай на сваіх клопатах, як на прыступках зноў затупалі крокі. Думаў - каго вядуць, але загрымеў засоў іхніх дзвярэй, і на парозе з'явіўся той самы Стась.

- На вады! Жыва! І каб гэты бандзюга быў да заўтра як штых! А ты, стары падла, марш да Будзілы!

Рыбак патушыў у сэрцы трывогу, пераняў з рук паліцая круглы кацялок са сцюдзёнай вадой. Пётра ў куце няўцямна ўставіўся ў дзверы.

- А навошта, не знаеш?

Стась з непадробнай шчырасцю рагатнуў:

- Знаю: у падкіднога гуляць. Ну, давай, жыва!

Стары падняўся, падабраў з долу кажушок і, угнуўшы галаў, выйшаў з каморкі. Дзверы зноў з грукатам зачыніліся.

Рыбак стаў на калені і пачаў далікатна тармашыць Сотнікава. Той, аднак, толькі стагнаў. Тады ён адною рукой нахіліў кацялок, а другой прыпадняў галаў напарніка і бадай сілком нешта ўліў таму ў рот. Сотнікаў здрыгануўся, але тут жа прыпаў вуснамі да шурпатага берага кацялка, некалькі разоў глытнуў.

- Хто гэта?

- Гэта я. Ну, як ты? Лепей?

- Рыбак? Фу ты! Дай яшчэ.

Рыбак зноў прытрымаў яго галаву. Сотнікаў, лязгаючы зубамі па кацялку, выпіў болей. І пластам аблёг на салому.

- Што, мучылі здорава? - спытаў Рыбак.

- Да, брат. Дасталося, - выдыхнуў Сотнікаў.

Рыбак нацягнуў на яго шынелак, сам прываліўся спіной да цаглянай сцяны, услухоўваючыся ў хрыпатае дыханне таварыша, якое, аднак, патроху выроўнівалася.

- Ну, як пачуваешся?

- Цяпер добра. Лепш. А цябе?

- Што?

- Білі?

Гэтае пытанне застала Рыбака знянацку, ён не знаў, як коратка сказаць таварышу, чаму яго не білі.

- Ды не, не дужа.

Сотнікаў знямогла заплюшчыў вочы, схуднелы, з адрослаю бародкай яго твар ледзь шарэў на саломе, у грудзях хрыпела на адной ноце. І тады Рыбак падумаў, што, мабыць, пакуль ёсць такая магчымасць, ім трэба аб чым-колечы дамовіцца.

- Слухай, я, здаецца, іх абхітру, - шапнуў ён, схіліўшыся да напарніка. Той здзіўлена расплюшчыў вочы - шырокія бялкі ў вачніцах бліснулі адбіткам святла з акенца. - Толькі нам трэба казаць аднолькава. Найперш: ішлі па харчы, хутар спалены, прыбіліся да Лясін, ну і ўзялі авечку.

- Нічога я ім не скажу, - перапыніў яго Сотнікаў.

Рыбак прыслухаўся, ці няма дзе каго паблізу, але, здаецца, скрозь было ціха. Толькі зверху даносіліся галасы і крокі, якраз над іх камерай. Але адтуль яго не пачуюць.

- Ты не дуры, чуеш? Трэба нешта і сказаць. Дык слухай далей. Мы з групы Дубавога, ён цяпер у Баркоўскім лесе. Хай правераць.

Сотнікаў знерухомеў, перацяў дыханне.

- Але атрад Дубавога сапраўды там.

- Ну і што?

Рыбак пачынаў злавацца: от жа незгаворлівы чалавек, ці ў тым справа! Вядома, гэты атрад там, але ад таго, што яны назавуць месца, яму будзе ні холадна ні горача - паліцаям да яго не дабрацца. Іхні ж якраз у куды болей ненадзейным месцы.

- Слухай. Ты паслухай мяне. Калі мы іх не падманем, не схітрым, яны нас закатуюць. Трэба трохі і ў паддаўкі згуляць. Не рваць цераз сілу.

Сотнікаў, чуваць было, быццам насцярожыўся, напяўся, дыханне яго прыглушэла, здаецца, ён нешта думаў.

- Нічога не выйдзе!

- А што ж тады выйдзе? Смерці дастукацца лягчэй за ўсё.

Вот боўдзіла, падумаў Рыбак. Ужо такое дурной упартасці ён ад яго не чакаў. Зрэшты, сам адной нагой у магіле, дык яму што - не хоча нават падумаць, каб не пацягнуць туды і таварыша.

- Ты паслухай! - памаўчаўшы, зашаптаў Рыбак. - Нам нада іх павадзіць. Знаеш, як шчуку на вудзе. Інакш перасіліш, парвеш, і ўсё прапала. Нада прыкінуцца смірнымі. Знаеш, мне прапанавалі ў паліцыю, - неяк, сам не жадаючы таго, сказаў Рыбак.

Павекі ў Сотнікава здрыгануліся, вочы бліснулі стоенай увагай.

- Во як! І што ж - пабяжыш?

- Не пабягу, не бойся. Я з імі патаргуюся.

- Глядзі, пратаргуешся, - з нядобрасцю прасіпеў Сотнікаў.

- Ну а што ж - прападаць? - ледзь не крыкнуў са злосцю Рыбак і змоўк, вылаяўшыся пры сабе: чорт з ім! Не хоча - ягоная справа; Рыбак жа будзе змагацца за сябе да канца.

Сотнікаў задыхаў цяжэй, ад хвалявання ці ад знямогі, зрабіў спробу адкашляцца - у грудзях яго страшна захрапло, Рыбак аж спалохаўся: памірае, ці што? Але ён не паміраў і неўзабаве, саўладаўшы з дыханнем, сказаў з рашучасцю ў голасе:

- Дарма паскудзішся, во што! Паганіш армейскі гонар. Жывымі яны нас не пусцяць.

- Як сказаць. Калі пастарацца...

- Для каго старацца?! - ледзь не крыкнуў Сотнікаў і задыхнуўся. Хвілінку ён пакутна кашляў, пасля хвіліну зморана дыхаў, потым сказаў надта змораным голасам:
- Не ў карты ж гуляць яны цябе ў паліцыю завуць.

Мабыць, не ў карты, пагадзіўся ў думках Рыбак. Але ён ішоў на гэтую гульню, каб выйграць сабе жыццё - хіба гэтага мала? А там яно будзе відаць, толькі б не забілі, не закатавалі. Толькі б вырвацца з гэтае клеткі, а чаго благога ён сабе не дазволіць. Хіба ён вораг сваім?

- Не бойся, - сказаў ён. - Я таксама не лыкам шыты.

Сотнікаў засмяяўся аслабелым, ненатуральна кароценькім смехам, які прагучаў, нібы енк.

- Дзівак! З кім ты ўздумаў цягацца?

- А вот пабачыш.

- Гэта - машына! Або ты будзеш служыць ёй, або яна сатрэ цябе ў парашок! - задышліва прасіпеў Сотнікаў.

- Я ім паслужу!

- Толькі пачні!

Не, відаць, з ім не згаворышся, з гэтым дзіваком чалавекам, - падумаў Рыбак. Як у жыцці, так і перад смерцю ў яго на першым месцы ўпартасць, нейкія там прынцыпы, а ўвогуле ўся справа ў характары - так разумеў Рыбак. Але каму не вядома, што ў той гульні, якая завецца жыццём, куды з большым выйгрышам аказваецца той, хто ўмее хітраваць, хто дбае пра свой лёс, а не пра свой не заўсёды здаровы гонар. Ды і як жа інакш? Сапраўды, фашызм - машына, якая здратавала сваімі калясьмі паўсвету і бадай усю Эўропу, хіба можна ўвесь час бегчы ёй напярэймы і размахваць голымі рукамі? Можа, куды здатней будзе паспрабаваць ціхенька сунуць ёй між колаў якую-небудзь патарчаку; глядзі - забуксуе і тым дасць магчымасць уратавацца.

Сотнікаў змоўк ці, можа, забыўся ў знямозе, і Рыбак перастаў лезці да яго з размовай. Хай робіць, як знае, - Рыбак жа будзе кіравацца сваім розумам.

Ён скурчыўся на баку, паставіў каўнер кажушка. Пакуль што няблага было б падрамаць якую гадзіну, каб яснейшая стала галава, бо неўзабаве, мусіць, прыйдзецца папацець, каб як абысці свой лёс. Аднак ён верыў у сваю шчаслівую зорку і патроху ўпэўніваўся, што ягоныя адносіны з паліцаямі павярнулі ў патрэбны кірунак, якога і трэба пакуль што трымацца. Калі б толькі Сотнікаў сваёй недарэчнай упартасцю не сапсаваў яму ўсе разлікі. Але, мусіць, Сотнікаў доўга не працягне - на тое была ўся надзея. Дзіўна гэта было і незвычайна - жадаць смерці таварышу, але, пэўна, інакш не выпадае.

Задумаўшыся, Рыбак не адразу пачуў, як нешта ціхенька шкрабанула па ягоным боце, потым яшчэ раз.

Ён варухнуў нагой і тады выразна пачуў пацука - шэры камяк матлянуўся ад бота да сцяны і стаіўся там; хвост яго тонкім кончыкам пугі насцярожана пралёг на саломе. Скалануўшыся ад гідлівага спалоху, Рыбак піхнуў туды абцасам - пацук піскнуў і шмыгануў некуды ў цёмны кут. Па шастанню саломы Рыбак адчуў, што ён там не адзін. Мусіць, трэба было чымсь шпурнуць у іх, ды нічога не траплялася пад рукамі. Тады Рыбак сарваў з галавы шапку і кінуў яе ў кут.

Калі там прыціхла, ён на кукішках споўзаў па шапку і зноў прыхінуўся плячамі да халоднай мураванай сцяны. Аднак спакой яго ўжо мінуўся, спаць ён не мог. Чакаючы новай атакі грызуноў, захінуў шынялём босую нагу Сотнікава і з незразумелым гідлівым страхам пачаў узірацца ў кут. Не мінула і хвіліны, як там падазрона заварушылася, зашкрэбла - мабыць, вылазілі зноў. Рыбак памацаў па сцяне рукамі, у адным месцы адкалупаў кавалак тынкоўкі, разламаў яго пальцамі і пачаў час ад часу шпурляць у кут - палохаць пацукоў.

**14**

Пётру прывялі няскора, мусіць, ужо на захадзе сонца, калі ў камеры зусім згусцеў змрок і акенца ўгары ледзь свіцілася скупымі рэшткамі марознага дня. Ды і ў дзвярах, калі яны адчыніліся, не было ўжо ранейшае віднасці - угнуўшы сівую галаву, стараста моўчкі пераступіў парог і сунуўся ў свой змрочны кут пад акенцам. Рыбак ля сцяны не варухнуўся, толькі сцяўся ўвесь, нібы стараючыся знікнуць у цемры гэтай смярдзючай камеры. Было боязна, што наступным зноў паклічуць яго, хоць ён разумеў, што ад паліцая гэта зусім не залежала. Але не паклікалі нікога, дзверы зачыніліся, лязгнуў засоў. Паліцай, аднак, - гэты раз нехта іншы, не Стась, - пайшоў не да прыступак, а павярнуў у другі бок па калідоры; неўзабаве недзе ў глыбіні склепа загрукала, пачуліся глухаваты вокрык і кароткі жаночы ўсхліп.

Гэта бралі жанчын.

Калі ў склепе зноў усё сціхла, да Рыбака памалу пачала вяртацца яго раўнавага. Што ж, бяда пакуль мінула яго, спасцігла другога, і гэта, як заўжды на вайне, насуперак усяму, супакойвала. Нібы тым самым давала яму нейкія шансы выжыць. Хоць, вядома, шансы гэтыя былі дужа хліпкія.

Рыбак не меў ніякай ахвоты размаўляць з Пётрам, падобна было, старасту білі не дужа, ва ўсякім разе не так, як Сотнікава. Але тое, што ён гэтак маўкліва-адчужана сцішыўся ў сваім куце, нядобрым прадчуваннем занепакоіла Рыбака.

- Ну як? Абышлося? - знарок бадзёра і трохі помсцячы за ягонае ж падобнае пытанне, запытаў Рыбак.

Пётра не варухнуўся, памаўчаў. Пасля азваўся надта невясёлым голасам:

- Не, пэўне, не абыдзецца. Кепскія нашы справы.

- Горш і быць не можа, - згадзіўся Рыбак.

Пётра высмаркаўся, відаць было ў прыцемку - звыкла разгладзіў вусы і паведаміў, нібы між іншым, ні да каго не звяртаючыся:

- Застаўлялі, каб выведаў ад вас. Пра атрад, ну і яшчэ некаторае.

- Во як! - здзівіўся Рыбак і непрыемна паморшчыўся, успомніўшы, як яны нядаўна размаўлялі з Сотнікавым. - Шпіёніць, значыць?

- Ну, бытта. Шэсцьдзесят сем год пражыў, а пад старасць на такое дзела... Не-е, не па мне гэта.

Побач з саломы падхапіўся Сотнікаў, неяк спалохана ўздрыгнуў і прыўзняўся на руках.

- Хто гэта?

- Ды той, лясінаўскі староста, - апанурана сказаў Рыбак.

Сотнікаў вяла апаў на салому, хвіліну маўчаў. Адчуваў ён сябе куды як кепска, нага па-ранейшаму балела ад сцягна да ступні, калола ў пальцах на руках, у грудзях усё гарэла, цела пылала жарам. Свядомасць яго раз-пораз абрывалася змрочным праваллем: ён то выразна адчуваў наваколле, то яно амаль знікала ў тлумнай мешаніне прывідаў. Гэты раз, аднак, ён хутка ўспомніў начны іх заход у Лясіны, старасту Пётру і цяпер, учуўшы яго побач, усё зразумеў адразу. Праўда, асаблівага жалю да яго ў Сотнікава не было: стараста - не Дзёмчыха. І ўсё ж было непрыемна бачыць гэтага старога поруч з сабой у паліцэйскім засценку, выйсці з якога, мусіць, не ўдасца нікому.

Размова на тым абарвалася, Рыбак і Пётра сцішыліся кожны ў сваім кутку. Сотнікаў не то задрамаў ці, можа, забыўся ў гарачцы. Акенца зусім пагасла і ледзь шарэла пад столлю, раздзеленае жалязякамі кратаў на чатыры квадраты. У камеры стала зусім цёмна. Гаварыць нікому не хацелася, кожны паглыбіўся ў сябе і свае невясёлыя думкі.

І тады зноў на прыступках затупалі, расчыніліся надворныя дзверы і нечакана лязгнуў засоў іхняе камеры. Яны ўсе насцярожыліся, сцятыя аднолькавым у такіх выпадках пытаннем: па каго? Тым не менш і цяпер, відаць, не забіралі нікога, - наадварот, некага вялі сюды.

- Ну, марш!

Хтось нябачны і амаль нячутны прашмыгнуў у дзверы і стаіўся каля парога ля самых ног Рыбака. Калі дзверы за ім зачыніліся і паліцай, пасвістваючы, замкнуў надворны замок, Рыбак кінуў у цемру:

- Хто тут?

- Я.

Голас быў дзіцячы, гэта стала зразумела адразу - невялічкая постаць сцялася ля самых дзвярэй і маўчала.

- Хто я? Як завуць?

- Бася.

«Бася? Што за Бася? Быццам жыдоўскае імя, але адкуль яно ўзялося, гэта дзяўчо? - здзівіўся Рыбак. - Усіх жыдоў у мястэчку расстралялі яшчэ ўвосень, здаецца, не асталося ніводнага - як гэта апынулася тут? І чаму яе прывялі ў іхнюю камеру, а не да Дзёмчыхі?»

- Адкуль ты? - не тоячы заклапочанае цікаўнасці, запытаў Рыбак. Дзяўчынка маўчала. Тады ён запытаў другое: - А колькі табе гадоў?

- Трынаццаць.

У куце заварушыўся Пётра.

- Гэта самае... Ці не Мэера-шаўца ты дачка?

- Ну, - ціха пацвердзіла дзяўчынка.

- А-я! Мэера ж тады застрэлілі з усімі. Як жа ты ацалела? Мусіць, схавалася дзе?

У адказе было ціхае, насцярожанае, а можа, недаверлівае, маўчанне. Зрэшты, Рыбак ужо не чакаў яе адказу, ён раптам згубіў усякую цікавасць да гэтай дзяўчынкі, устрывожаны іншым: чаму яе сюды прывялі? У склепе ж былі, напэўна, і яшчэ месцы, недзе паблізу сядзелі жанчыны - навошта дзяўчынку падсадзілі ў мужчынскую камеру? Які ў гэтым сэнс?

- І чаго ім трэба ад цябе? - тым часам распытваў Басю Пётра.

- Каб сказала, у каго хавалася.

- А-а, во як! - зразумеў у кутку Пётра. - Ну што ж... Гэта так. А ты не сказала ж?

Бася зацялася, нібы і не дыхала, абмерла і маўчала.

- І не кажы, - проста адобрыў стараста. - Нельга такое казаць. Людзі дабро зрабілі, дык і маўчы. Калі і біць

будуць. Ці, мусіць, цябе ўжо білі?

Замест адказу ў парозе пачуўся хліп, за якім прарваўся нясцерпны, балючы плач. Ён быў кароценькі, але столькі дзіцячай роспачы вылілася ў ім, што ўсім у гэтай камеры зрабілася ніякавата.

Сотнікаў на саломе нібы ачнуўся і на момант заціяў дыханне.

- Рыбак!

- Я тут.

- Там вада была.

- Што, піць?

- Дай ёй вады. Ну што ж ты сядзіш!

Намацаўшы пад сцяной кацялок, Рыбак пацягнуўся ў парог да дзяўчынкі.

- Не плач. На вады.

Бася трохі папіла і адразу неяк суцішылася.

- Ідзі да мяне, - паклікаў Пётра. - Тут во месца ёсць. Будзем сядзець. Во ля сцяны дзяржыся.

Дзяўчынка ўстала і, нячутна ступаючы ў цемры босымі нагамі, паслухмяна перайшла да старога. Той трохі пасунуўся, даў ёй месца поруч з сабой.

- Да-а! Папаліся... Што яны яшчэ зробяць з намі?

Рыбак засяроджана маўчаў, не маючы ахвоты падтрымліваць размову; побач ціхенька стагнаў Сотнікаў. Яны чакалі. Уся іх увага цяпер міжвольна засяродзілася на прыступках - адтуль ішла бяда.

І сапраўды, чакаць яе доўга не давялося.

Праз якую гадзіну там затупацелі знаёмыя крокі, пачулася злосная гамонка: «Ідзі, ідзі!» - «Каб цябе так у

пекла гналі, нячысцік!» - «Ану, варушыся, а то як дзвіну!» - злосна прагырчаў мужчынскі голас. На прыступках затупалі, замацюкаліся. Сумнення не было - гэта вялі Дзёмчыху.

Але чамусьці яе таксама не пагналі ў ранейшую камеру - крокі спыніліся ля іхніх дзвярэй, загрымеў засоў, і той самы, ужо добра знаёмы ім Стась піхнуў Дзёмчыху цераз парог. Жанчына спатыкнулася, зачапілася за Рыбаковы ногі, упала і галасна залямантавала ў цемры:

- Куды ты піхаеш, нягоднік! Тут мужыкі, а Божачка мой!..

- Давай, давай! Чорт цябе не возьме! - прыкрыкнуў Стась. - Да ранку перабудзеш!

- А ўранку што? - запытаў Рыбак, раптам учуўшы нейкі намёк у голасе паліцая.

Стась ужо прычыніў быў дзверы, але зноў расчыніў іх і гаркнуў у шчыліну:

- А ўранку грос алес капут - во што? Фарштэйн?

«Капут? Як капут?» - трывожна пранеслася ў збянтэжанай свядомасці Рыбака. Але сэнс гэтага слова быў надта выразны, каб доўга сумнявацца ў ім, і гэтая яго выразнасць ударыла, як аглаблёй па галаве. Значыць - уранку канец!

Амаль не адчуваючы сябе, Рыбак механічна падцягнуў ногі, даў прымасціцца ля парога жанчыне, якая ўсё хліпала, смаркалася, нарэшце пачала ўздыхаць - спакойнець...

Хвіліну яны ўсе маўчалі, потым Пётра памяркоўна разважыў:

- Што ж зробіш, калі папаліся. Адкуль ты, жанчынка?

- З Паддуб'я, калі ведаеце.

- Ведаю, а як жа. Чыя ж ты там будзеш?

- Ды Дзёмкі Вокуня жонка.

Імкнучыся як-небудзь прыцяць у сабе нядобрыя прадчуванні, Рыбак пад сцяной пачаў прыслухоўвацца да Дзёмчыхі. Чамусьці ён не хацеў адзывацца, тым болей што Дзёмчыха, мабыць, не пазнала яго ў цемры. Але яны пазнаёміліся ўжо з яе сварлівым характарам, і цяпер, апынуўшыся ў такім становішчы, Рыбак думаў, што гэтая цётка яшчэ ўчыніць ім тут скандал - было за што. Але яна памалу спакойнела, яшчэ раз высмаркалася. Голас яе пакрысе рабіўся цішэйшы, такі, якім яна размаўляла з імі ў вёсцы. Хіба толькі трудныя паўзы між яе адрывістых фраз сведчылі пра яе перажыванні.

- Дзяла, - заклапочана сказаў Пётра. - А Дзёмка ў войску?

- Ну. Дзёмка там недзе горачка прымае, а з мяне тут знушчаюцца. Забралі во! Дзяцей на каго пакінулі? Як яны будуць там без мяне! Ой, дзетачкі мае родненькія!..

Толькі што сціхшы, яна загаласіла-заенчыла зноў, і гэты раз ніхто яе не суцяшаў, не супакойваў - было не да таго. У камеры злавесна гучалі страшныя словы Стася; яны прыгнялі, устрывожылі, змусілі нядобра апанурыцца ўсіх, апроч хіба старасты, які аставаўся знешне спакойны і разважлівы. Між тым Дзёмчыха неяк нечакана, нібы ўсё выплакаўшы, паўздыхала і спакойней ужо зазначыла:

- Во людзі! Як звяры! Глядзі, якім чортам стаў гэты Пронька.

- Партноў, ці што? - падтрымаў размову Пётра.

- Ну. Я ж яго кавалерам памятаю - тады ўсе Пронькам звалі. А пасля на настаўніка вывучыўся. Ягоная ж матка на хутары жыла, дык каждае лета на малако ды на яблычкі прыязджаў. Наглядзелася. Такі ласкавы быў, «дабрыдзень» усё раздаваў, з мужчынамі за ручку здароўкаўся.

- Знаю Партнова, а як жа, - сказаў Пётра. - Супраць Бога, бывала, агітаваў. Ды так складна...

- Вужака ён быў. І ёсць вужака. Не ўсе ведаюць толькі. Культурны.

- А паліцайчык гэты таксама з вашага боку бытта?

- Стась? Наш. Піліпёнак малодшы. За панажоўшчыну пасадзілі, ды вярнуўся, як пачалося гэта. І што вырабляць стаў - страх. У мястэчку ўсё з жыдоў знушчаўся. Біў, казалі, страляў. Дабра нацягаў - Божачка мой! Усю хату заваліў. А цяпер во і да нас, хрышчоных, дабраўся.

- Гэта так, - пагадзіўся Пётра. - З жыдоў пачалі, а, глядзі, намі скончаць.

- Каб ім на асіне вісець, вырадкам гэтым.

- Я во ўсё думаю, - заварушыўся стараста. - Гэтыя нашы, каторыя з імі? Як во іх разумець? Жыў, еў каторы, людзям у вочы глядзеў, а цяпер займеў вінтоўку і ўжо застрэліць меціцца. І страляюць! Колькі перабілі...

- Як гэты, як яго... Будзіла ваш, - са злосцю напомніў Рыбак.

- Хапае. І Будзіла, і ці мала яшчэ якіх, тутэйшых і чорт ведае адкуль. Любіцеляў паразбойнічаць. Што ж, цяпер ім прыволле, - глухім басам развяжаў лясінаўскі стараста.

Штосьці ўспомніўшы, яго нецярпліва перапыніла Дзёмчыха:

- Кажуць, Хадаронак гэты, што ўночы падстрэлілі, здох. Каб ім усім паздыхаць, гадаўю гэтаму.

- Усе не паздыхаюць, - сказаў, уздыхнуўшы, Пётра. - Хіба што нашыя пераб'юць.

На саломе заварушыўся, задыхаў, спрабаваў падняцца ды зноў апаў долу Сотнікаў.

- Вы даўно так думаеце? - прасіпеў ён.

- А што ж думаць, сынок? Усім ясна.

- Ясна? Як жа вы тады ў старасты пайшлі?

Настала няёмкая цішыня, усе змоўклі, насцярожаныя гэтым зласнаватым пытаннем. Нарэшце Пётра, нешта адолеўшы ў сабе, загаварыў дрыготкім, мусіць, ад хвалявання, голасам:

- Я пайшоў! Калі б ведалі... Нягожа гаварыць тут. Хаця што ўжо цяпер таіцца. Адбрыкваўся, як мог. У раён не ехаў. Хіба я дурны, не разумею, ці што. Ды во гэтак уночы раз - тут-тук у акно. Адчыніў, гляджу - наш былы сакратар з раёна, начальнік міліцыі і яшчэ двое, пры зброі. А сакратар мяне ведаў калісь, яшчэ ў калектывізацыю адвозіў яго пасля сходу. Ну, слова за слова, кажа: «Чулі, цябе ў старасты мецяць. Дык пагаджайся. А то Будзілу паставяць - усім горай будзе». Во і пагадзіўся на сваю галаву.

- Да-а, - няпэўна сказаў Рыбак.

- Паўгода выкручваўся. А цяпер што рабіць? Давядзецца пагінуць.

- Пагінуць справа няхітрая, - буркнуў Рыбак, канчаючы непрыемную яму размову. Тое, што паведаміў пра сябе староста, не было нечаканасцю - пасля допыту ў Партнова Рыбак аб чым-колечы ўжо здагадваўся. Але цяпер ён быў цалкам заняты сваім клопатам і болей за ўсё баяўся, каб некаторыя з яго выказаных тут меркаванняў не дайшлі да вушэй паліцыі і не абарвалі апошнюю нітачку яго спадзяванняў.

Сотнікаў між тым, расплюшчыўшы вочы, моўчкі ляжаў на саломе, не ведаючы яшчэ, верыць пачутаму ці ўсумніцца. Аднак падобна было - староста гаварыў праўду. Але што ж тады выходзіла? Выходзіла нешта зусім малапрыемнае для іх. У спакучанай свядомасці Сотнікава з'явілася адчуванне нейкай недарэчнай памылкі адносна Пётры. Але хто ў ёй вінаваты? Ніхто,

мабыць, не мог прадбачыць такога выніку - шэраг выпадковых няўвязак прывёў да такога канца. Хаця тут трэба было яшчэ разабрацца, тады як у выпадку з Дзёмчыхай усё было зразумела: Дзёмчыха - жывы дакор іх недаравальнай абыякавасці. З некаторым страхам прыслухоўваючыся цяпер да рухаў жанчыны, Сотнікаў таксама чакаў, што кабета пачне іх лаяць апошнімі словамі. Ён не ведаў, чым бы тады адказаў ёй і чым супакоіў. Але пакуль што яна ўсю сваю злосць скіроўвала на паліцыю і немцаў - іх жа з Рыбаком і не ўспамінала, нібы яны не мелі дачынення да яе бяды. На жахлівае паведамленне Стася яна таксама, здаецца, не рэагавала, можа, не зразумела яго ці проста не звярнула ўвагі.

Зрэшты, зразумець яго было страшна нават ужо навучанаму іхнім парадкам Сотнікаву. Ён таксама не мог даўмецца, ці паліцай палохае іх, ці сапраўды вырашана скончыць з усімі ў адзін дзень? Няўжо ім не хапіла б дзвюх смерцяў - яго з Рыбаком, навошта яшчэ забіваць і Дзёмчыху, і гэтага старасту, і дзяўчынку? Неверагодна, але, мусіць, так, думаў Сотнікаў. Скарпіён павінен джаліць, інакш які ж ён скарпіён? Дзеля таго і пазапіхвалі іх у адну камеру. Камеру смертнікаў.

**15**

Неўпрыцям неяк Рыбак, здаецца, заснуў, як сядзеў, скурчыўшыся пад сцяной. Зрэшты, наўрад ці гэта быў сон - хутчэй забыццё на якую гадзіну; неўзабаве трывога адагнала яго, і Рыбак прахапіўся, не адразу разумеючы, дзе ён. Побач у цемры ціхенька шапацела размова, чуваць быў знаёмы дзіцячы голас, які напомніў яму пра Басю. Часам яго перапыняў хрыпаты старэчы шэпт - гэта ўстаўляў сваё слова Пётра. Рыбак таксама ўслухаўся ў сцішаны шапоткі расказ, падобны да шамацення саламянай страхі на ветры.

- Спярша хацела бегчы за імі, як іх павялі. Выскачыла з гародчыка, а цётка Праскоўя кажа: «Нізашто не хадзі - хавайся!» Дык я пабегла назад, цераз гароды, улезла ў лазовы куст. Можа, знаеце, вялікі такі куст лазняку ў

канцы гародаў ля рэчкі? Густы-густы. За два крокі сцежачка на кладку. Як сядзіш ціха, не шавелішся, ніколечкі цябе не відно. Я ўлезла, выграбла месцейка ў леташніх лісцях і пачала ждаць. Думала - як мамка вернецца, пазаве, я ўчую. Ждала-ждала, не заве. Ужо і сцямнела, зрабілася страшна, усё здавалася - нешта шавеліцца, ходзіць, а то стане, слухае. Думала, воўк. Так ваўкоў баялася - страх. І не заснула ніколечкі. Як стала віднець, тады трохі заснула. А як прачнулася, так есці захацелася. Але ж вылезці з куста баюся. Чутно - на вуліцы гамонка, нейкія падводы, з хат местачковых усё выгружаюць, кудысь вязуць. Так я сядзела і сядзела. Яшчэ дзень, яшчэ ноч. І яшчэ не помню ўжо колькі. На сцежцы, калі бабы ходзяць на кладку, дык мне іхнія ногі відаць праз лісце. Але ўсе мінаюць. А мне так есці хочацца, што ўжо і вылезці не магу. Сяджу ды плачу ціхенька. А раз нехта ля куста стаў, я сціснулася ўся, ляжу і не дыхаю. І тады чую ціхенька: «Бася, а Бася!» Хацела спалохацца, але голас добры такі, знаёмы. Гляджу - цётка Праскоўя нагнулася...

- А ты не кажы хто. Нашто нам пра ўсё знаць, - ціха перапыніў яе Пётра.

- Ну дык цётка дае мне клумачак, а там хлеба трохі і сала. Я як узяла яго, дык усё і з'ела за раз. Хлеба толькі асталося. А тады як стаў жывот балець... Я ўжо так хацела памерці. Прасіла і маму, і Бога - смерці прасіла.

Рыбак пад сцяной неўпрыцям скалануўся - так гэта прагучала знаёма і натуральна па-старэчы, нібы перад імі спавядалася якая старая, а не трынаццацігадовае дзяўчо. І адразу гэтыя яе словы нагадалі Рыбаку адну бабку ў нейкай вёсцы па той бок чыгункі. Яны тады выйшлі з лесу спытаць пра немцаў, ну і падсілкавацца, вядома. У хаце нікога не аказалася, адна гэта забытая бабуля сядзела на печы, звесіўшы на пяколак босыя ногі. З гадзіну яны курылі і слухалі яе скаргі на Бога, які не дае ёй смерці і гэтак пакутна расцягнуў яе бязрадаснае жыццё. Апынуўшыся адна, без радні, яна яшчэ пасля той вайны прыбілася да малазнаёмых чужых людзей, якім трэба было падгадаваць дзяцей і

дагледзець ля хаты. Думалі, гадоў тры-пяць старая паклемаецца, за той час падрастуць дзеці, а там прыйдзе час і на могілкі. Але смерць да яе не прыйшла ні праз пяць, ні праз пятнаццаць гадоў, задоўжылася бабка на гэтым свеце ў чужых людзей, за той час павырасталі малыя, забілі на вайне гаспадара, гаспадыня ледзь магла пракарміць сябе - што ёй было да бабкі? А смерць усё не ішла. Развітваючыся тады, кожны з іх па шчырасці жадаў ёй як мага хутчэй скончыць свае турботы на гэтым няласкавым свеце. А цяпер вось зноў тое самае. Толькі ж гэта дзіця.

Што дзеецца на свеце.

- А тады мне лепей стала. Раз дужа напужалася ўранку. Толькі заснула - здалося, звер нейкі крадзецца па беражку пад кустом. Аж гэта кот. Вялізны такі шэры кот, з мястэчка, мусіць, астаўся адзін, ну і шукае сабе пракорму. Рыбу ловіць. Замрэ на беразе, угледзіцца ў ваду, а потым як скоча! Вылезе - і ў зубах ужо рыбінка. Вот, думаю, каб мне так налаўчыцца. Хацела я адабраць рыбку, ды не паспела, уцёк кот і пад другім кустом з'еў усю, і хвосціка не асталося. А потым мы з ім падружыліся. Прыйдзе калі ўдзень, улезе ў куст, ляжа поруч і мурлыкае. Я гладжу яго і трошкі сплю. А ён чуткі такі. Калі хто дзе паблізу акажацца, адразу натапырыцца, і я ўжо знаю: трэба баяцца. А як дужа голад даняў, вылезла ноччу ў гарод, што паблізу, здаецца, Арона крывога. Агуркі там былі яшчэ, семянныя каторыя, морква. Дык я нарву і ем. А кот усё глядзіць і мяўкае. Але кот не есць гародніны. Так мне шкада яго робіцца...

- Хай бы мышэй лавіў, - азвалася ў цемры Дзёмчыха. - У нас, там, у Паддуб'і, у адных была кошка, дык зайчанят насіла дамоў. Яй-богу, не лгу. А раз прывалакла зайца, ды на гарышча не ўсцягнула. Раніцай выйшаў Змітра, глядзіць заяц пад вуглом ляжыць.

- А, дык то, мусіць, у яе кацяняты былі, - здагадаўся Пётра.

- Ну, кацяняты.

- Дык то панятна. Тут ужо кацянятам старалася. Як маці каторая... Ну, а пасля ж як ты?

- Ну, так і сядзела, - ціхенька і даверліва гаварыла Бася. - Цётка... Ну, тая самая, яшчэ колькі разоў хлеба выносіла. А потым дужа сцюдзёна стала, дождж пайшоў, пачало лісце ападаць. Увечары, як дождж пайшоў, залезла ў нечую асець. Там перасядзела дні тры. Ды вобыск быў. Шукалі нейкае збожжа і чуць мяне не знайшлі. Тады я перайшла ў хлеў...

- А Божухна! Во намучылася, бедная! - уздыхнула Дзёмчыха.

- Ну. Але там цёпла было.

- А як жа з харчам? Ці даваў хто?

- Не, я не паказвалася.

- Ой, да чаго людзей давялі, Божа, Божа! І хто ж злавіў цябе?

- Ды немцы ж. Заспала аднаго разу - ужо снег быў. Выскачыла, каб перабегчы на другі бок вуліцы - там стаяў дом, і мяне ў тым доме потым хавалі. Толькі вуліцу перабегла, а тут яны. Як крыкнулі, я за клён захінулася, тоўсты такі клён...

- Ай, мусіць, напроці аптэкі, ага? - здагадалася Дзёмчыха. - Дык то ж Ігналя Супрон жыў.

- А табе што? - няласкава перапыніў яе Пётра. - Хто ні жыў, ці не ўсё роўна. Нашто пытацца?

Дзёмчыха пакрыўдзілася:

- Дык а што я? Калі і сказала, дык што?

- Анічога! - строга абарваў яе былы стараста. - Ну дык як яно далей? Расказвай, усё скарэй ноч мінецца.

«Іш ты, стары індык, - падумаў Рыбак. - Яму ноч мяшае. Нешта ён надта падазрона чакае таго заўтра. Ці, можа,

думае, што заўтра яго выпусцяць?»

Але заўтра наўрад ці будзе ім радасць.

Рыбак хацеў перапыніць Басю - навошта тут было расказваць усё тое? Каму не вядома, што і ў сцен часам ёсць вушы. Але пагадзя разважыў: мабыць, позна ўжо нешта таіць, чаго асцерагацца. Калі Стась сказаў праўду, дык заўтра ўсім будзе крышка. Не пакінуць нікога.

- Ну, закрычалі, а я ўцякаць. Бегла, бегла па снезе, аж пакуль не ўпала за гародамі. Да лесу не дабегла. Ну, яны і схапілі мяне за рукі, прывялі сюды. Тут білі дужа. А пасля... Ай-ай!

Бася спалохана крыкнула на ўвесь голас, Пётра, чуваць было, падхапіўся з месца, і Рыбак зразумеў: пацукі. Абнаглелі ці згаладнелі ўжо так, што перасталі баяцца і людзей. Стары ўстаў і ботам некалькі разоў тупнуў у куце. Бася, ускочыўшы, стаяла на сярэдзіне, захінаючы светлы квадрат акна, і калацілася ад страху.

- Яны ж кусаюцца! Яны ж мае ногі пагрызлі. Я ж іх баюся, а дзядзечка!..

- Нічога, не бойся. Пацукі што? Пацукі не страшныя. Укусяць, ну і што? Гэткай бяды. Ідзі во ў мой кут сядай. А я тут... Я іх, халераў!..

Ён патупаў яшчэ, паварушыў там у куце і сеў. Бася прыткнулася на яго належаным на саломе месцы. Сотнікаў быццам бы спаў. Насупраць то ўздыхала, то смаркалася ў хустку Дзёмчыха - мусіць, плакала.

- Так, што ж... Што ж цяпер зробіш? - пытаўся ў кагосьПётра і сам сабе адказваў: - Нічога не зробіш. Цярпі, нямнога асталася.

Яму ніхто не адказаў, стала ціха. Рыбак вальней выцяг к парогу ногі, думаў заснуць у спакоі, але сон да яго не ішоў - свядомасць тачыла нязбыўная, як боль, трывога.

Перад ім быў абрыў.

Ён выразна адчуў гэта, асабліва цяпер, уначы, у хвіліны спакою, і думаў, што нічога ўжо зрабіць нельга. Гэтае пачуццё непапраўнасці рэдка калі так апаноўвала яго нават на вайне; усюды і заўжды ён умеў знайсці нейкае выйсце, але не цяпер. І яму пачало рабіцца страшна, як у тую незабыўную з дзяцінства хвіліну, калі жах ахапіў яго так моцна, што перасіліў і розум.

Праўда, тое было даўно, у пару яго вясковага маленства - што было ўспамінаць пра яго? Але чамусьці ўспаміналася міжволі, бо, мусіць, той выпадак меў нейкую еднасць з яго цяперашнім станам.

Здарылася гэта яшчэ да калгасаў. У іх быў ладны буланы конік, старанны і цягавіты, хіба трохі малады і залішне рухавы. Аднак Коля Рыбак з ім ладзіў няблага. У вёсцы хлапчукі рана бяруцца за сялянскую працу, у свае няпоўныя дванаццаць год Коля ўжо спрабаваў памалу і касіць, і араць, і баранаваць. Умеў ужо запрэгчы і распрэгчы, не хапала сілы хіба што засупоніць хамут, трэба было клікаць каго з дарослых, але спакваля навучыўся і гэтаму. Мусіў вучыцца, бо працы хапала, - бацька меў тры надзелы зямлі, каб абрабіць яе, ніхто ў іх сям'і не знаў перадыху ніколі.

Тады з поля вазілі снапы.

Гэта была ўжо зусім хлапчукоўская справа. Увесь дзень Коля тросся ў пустой дрогкай брыцы цераз поле пад параснікі, затое адтуль, седзячы на высокім возе са снапамі, важна ехаў у вёску на сваё гумно. Дарога была знаёмая, вывучаная да апошніх драбніц. Ён ведаў на памяць, дзе трэба павярнуць крыху ўбок, дзе ехаць па каляінах, як абмінуць глыбокую з вадой рытвіну ў лагу. Самым небяспечным месцам была Капцова гара - касагор, спуск і вузкі ўзровак па-над абрывам. Але і там Коля ўпраўляўся няблага, брыка толькі хілілася, конік трымаў, хоць хамут часам наязджаў на ягоную галаву да самых вушэй. Усё абыходзілася добра. Той раз бацька падбіраў апошнія бабкі ў канцы нівы і, відаць, наклаў у брыку трохі залішне - ледзь хапіла вяроўкі, каб увязаць воз. Да яго на самы верх узлезла яшчэ сямігадовая сястрычка Маня і суседская дзяўчынка Люба. Суседзі,

Міходзя з жонкай, таксама скончылі працу і пайшлі дамоў пешкі.

Усю дарогу яны ціха ехалі, валюхаючы на высокім возе. Коля, як заўжды, няблага кіраваў канём. Перавалілі Капцову гару, дарога пайшла ў лог. І тады нешта ў збруі трэснула, конь не стрымаў, брыка жахліва паднялася адным бокам і стала хіліцца направа. Коля зірнуў уніз і скульнуўся долу.

Ён ураз сцяміў, што павінна зараз жа здарыцца, і ў якімсьці бяздумным імкненні кінуўся пад цяжкую, нахіленую брыку, падставіў пад яе край сваё яшчэ слабаватае хлапечае плячо. Цяжар быў страшэнны, іншы раз ён бы нізашто не вытрымаў, але тады ўсё ж асіліў. Дзяўчаты скаціліся на зямлю, яго заваліла снапамі, але конь усё ж неяк управіўся з брыкай і адхіліў перадок ад пагрозлівай круцізны абрыву.

Пасля яго хвалілі ў вёсцы, ды і сам ён быў задаволены сваім учынкам - усё ж такі ўратаваў ад бяды сябе, каня і дзяўчынак - і пачаў думаць тады, што інакш зрабіць і не мог. І яшчэ Коля ўпэўніўся, што ён хлопец смелы. Самае важнае было не разгубіцца, не спалохацца ў самым пачатку.

Цяпер зноў той самы абрыў.

Толькі цяпер з воза не скочыш. Цяпер Рыбак прывязаны да яго нябачнай вяроўкай і, каб не развязаўся, узяты яшчэ пад варту.

Але няўжо той следчы брахаў, калі нешта абяцаў яму, нават як бы ўгаворваў? Мусіць, дарма Рыбак тады не згадзіўся адразу - заўтра як бы не было позна. Яно і вядома. Следчы тут - не самы вялікі начальнік, ёсць большыя, яны загадалі - і ўсё. А цяпер паправіць што-небудзь, перарабіць, мусіць, будзе позна.

Дык як жа тады быць? Няўжо прападаць?

Не, на пагібель ён не мог пагадзіцца, нізашто ён не прыме ў пакоры смерць - ён разнясе ў трэскі ўсю іх

паліцыю, голымі рукамі задушыць Партнова і таго Стася. Хай толькі падступяцца да яго!

**16**

Пасля кароткай размовы са старастам, якая, тым не менш, зусім стаміла яго, Сотнікаў ненадоўга заснуў. Калі ж ён прачнуўся, дык найперш адчуў, што ўвесь мокры ад халоднага поту; жар, які столькі паліў ягонае нутро, змяніўся на патлівую прахалоду ва ўсім целе, і Сотнікаў зябка ўздрыгнуў пад шынелкам. Але галаве стала нібы лягчэй, гарачы тлум неўпрыкмет сплыў з ягонай свядомасці, агульнае адчуванне палепшылася. Калі б не скалечаныя, распухлыя пальцы і набрынялая застарэлым болем нага, дык ён збольшага адчуў бы сябе здаровым.

У склепе было зусім цёмна і ціха, аднак ніхто, мабыць, не спаў, гэта адчувалася па частых выпадковых рухах, варушэнні, а таксама па сцішана-насцярожаным дыханні людзей. І тады са спазнелай выразнасцю Сотнікаў адчуў, што гэта - апошняя іх ноч на свеце. Раніца ўжо будзе належаць не ім.

Што ж, трэба было сабраць у сабе апошнія сілы, каб з годнасцю прыняць смерць ад рук ворагаў. Вядома, іншага ён і не чакаў ад гэтых вылюдкаў - пакінуць яго жывым яны не маглі - маглі хіба закатаваць, знявечыць, прыбіць у той катоўніцкай каморы Будзілы. А так, можа, і няблага. Куля імгненна і без пакут абарве жыццё - не самы горшы з магчымых, ва ўсякім разе, звычайны, салдацкі канец на вайне.

А ён, дурань, баяўся калісь за сваё жыццё, калі мог лёгка і неўпрыкмет загінуць у баі, да апошняй хвіліны змагаючыся з ворагам. Цяпер такая пагібель са зброяй у руках здалася яму раскошай. Ён амаль ужо зайздросціў тысячам тых шчасліўцаў, што знайшлі свой канец на шматлікіх палях баёў. Сам жа, выходзячы з бою жывым, ён таіў у сабе ціхенькае задавальненне, што куля абмінула яго. Але што яму далі гэтыя лішнія месяцы жыцця, поўныя штодзённых трывог, дробных і

вялікіх пакут, сцюжы і голаду, якія завяршаліся цяпер усё тым жа банальным на вайне вынікам - смерцю.

Праўда, за пяць партызанскіх месяцаў ён нешта зрабіў для свайго абавязку грамадзяніна, байца і камуніста. Хай не так, як хацеў - як дазволілі акалічнасці: некалькі ворагаў усё ж знайшло смерць і ад яго рукі. Толькі гэта і суцяшала, гэта наогул апраўдвала яго дваццаціпяцігадовае існаванне на свеце. Бо што яшчэ карыснага ён зрабіў людзям, калі не пасадзіў дрэва, не выкапаў калодзежа, не забіў ніводнай вужакі - без чаго, паводле ўсходняга павер'я, нельга лічыць удалым ніводнае жыццё на зямлі.

На яго долю выпала нямала нялёгкага, нават жахлівага. Але быў абавязак. Ён вызначаў там, дзе было надта заблытана, ён вёў, калі не свяціла ніводнае сцежкі, ён вымагаў на амаль немагчымае.

Ды вось прыйшоў канец і яму.

Пагібель яго пэўным чынам цягнула за сабой крушэнне ўсяго, што мела хоць якія-небудзь адносіны да яго асобы, - беззваротна адыходзіў у нябыт навакольны свет з яго мінулым, сучасным, а таксама будучым. І ён думаў, што калі жыццё не надта збяднее ад знікнення яшчэ адной не вельмі значнай істоты, якая толькі магла, але нічым не ўзбагаціла яго, дык ён, Сотнікаў, траціць усё, каб ніколі больш не набыць нічога.

Але цяпер, калі ён дайшоў да канца, быў ледзь жывы ад хваробы, раны і знямогі, ён стаў адчуваць у сабе нейкія новыя, не знаёмыя дагэтуль якасці. Найперш знікла няпэўнасць, якая заўжды прыгнятала яго на вайне, калі нават самае блізкае будучае хавалася ў расплывістым тумане невядомасці. Цяпер жа ўсё было пэўна і катэгарычна, смерць усё вызначала навек. Каб не цешыць сябе пустымі надзеямі, ён адмёў усе ўласцівыя жыццю ілюзіі, ведаў: наперадзе нішто. Нейкім чынам гэта здавалася нават палёгкай, бо дало магчымасць строга вызначыць яго выбар. І калі што яшчэ турбавала яго, дык гэта некаторыя абавязкі ў адносінах да людзей, што воляю лёсу ці выпадку апынуліся цяпер побач. І ён

зразумеў, што найперш, мабыць, трэба вызначыць свае адносіны да іх, бо гэтыя адносіны, відаць, і стануць апошняю праявай ягонага «я» перад тым, як яно знікне навек.

Пагадзіўшыся са сваёй смерцю, ён на некалькі кароткіх гадзін прыдбаў сабе як бы нейкую незалежнасць ад драпежнае сілы ворагаў. Цяпер ён мог поўнаю мерай дазволіць сабе такое, што іншы раз абцяжарвалася абставінамі, непакоем за ўласнае жыццё; цяпер ён адчуваў новую магчымасць, непадуладную ні абставінам, ні ворагу і нікому ў свеце. Ён ужо не баяўся нічога, і гэта давала яму пэўную перавагу над іншымі і над сабой ранейшым таксама. Вядома, то была перавага смяротніка, але яна была, мабыць, галоўнай і ўжо напэўна апошняй рэальнай каштоўнасцю ў яго жыцці. Праўда, ён разумеў, што карысці яму з таго, мусіць, будзе не шмат, сабе ён ужо нічым не мог памагчы, але, мабыць, ён мог яшчэ нешта зрабіць для іншых. І Сотнікаў проста і лёгка, як штосьці элементарнае і зусім лагічнае ў яго становішчы, прыняў апошняе цяпер рашэнне: узяць усё на сябе. Заўтра ён скажа следчаму, што хадзіў у разведку, меў пэўнае баявое заданне, у перастрэлцы раніў паліцая, што ён - камандзір Чырвонай Арміі і ненавідзіць фашызм - хай расстраляюць яго. Астатнія тут ні пры чым.

Па сутнасці, гэта было ахвяраванне дзеля паратунку другіх, але не менш, чым другім, яно патрэбна было і яму самому. І справа тут не ў наіўных ілюзіях - проста ў Сотнікаве ўсё пратэставала ад адной толькі думкі, што ягоная смерць стане марнаю выпадковасцю па волі гэтых п'яных прыслужнікаў. Як і кожная смерць у барацьбе, яна павінна нешта сцвярджаць, нешта адмаўляць і па магчымасці здзейсніць тое, што не паспела здзейсніць жыццё. Інакш - навошта тады жыццё? Надта трудна даецца яно чалавеку, каб безразважна ставіцца да яго канца.

Было халаднавата, час ад часу ён скаланаўся і глыбей лез пад шынелак. Але, як заўжды, прынятае рашэнне дало палёгку, самае пакутнае на вайне - няпэўнасць -

цяпер адступілася ад яго. Ён ужо ведаў, дзе адбудзецца яго апошняя сутычка з ворагам, і ведаў, якія зойме пазіцыі. З іх ён не саступіць. І хоць гэты паядынак не абяцаў яму вялікай перамогі, ён быў спакойны. У бобікаў зброя, сіла, але ў яго таксама ёсць на чым пастаяць у канцы. Ён іх не баяўся.

Знямогла ўгрэўшыся пад шынелкам, ён зноў неўпрыцям заснуў.

Прысніўся яму недарэчны блытаны сон.

Трохі нават дзіўна было, што менавіта такі мог прывярэдзіцца ў апошнюю ноч. Некалі ўсё згадваў, які з яго сноў прадкажа яму пагібель, і думаў, што гэта павінен быць дужа незвычайны, поўны асаблівага сэнсу сон - такі, што адразу стане зразумела: далей сёння яму не пражыць. Цяпер жа прыснілася нешта з дзяцінства, і сярод усяго дробязнага і незапамінальнага - нейкая недарэчная сцэна з бацькавым маўзерам. Нібыта Сотнікаў пачаў даставаць яго з кабура, трохі павярнуў набок і адламаў ствол, які, аказваецца, быў не стальны, а нібы алавяны, як у пугачы. Сотнікаў надта спалохаўся, хоць у той час бачыў сябе не хлапчуком, а, здаецца, амаль што цяперашнім ці, можа, курсантам, бо, здаецца, усё тое адбывалася ў ружпарку колішняй яго казармы. Ён стаяў каля пірaміды са зброяй і не ведаў, як быць: вось-вось сюды павінен быў зайсці бацька. Сотнікаў кінуўся да піраміды, але там не было ні аднаго незанятага месца, ва ўсіх гнёздах стаялі вінтоўкі. Тады ён дрыготкімі рукамі расчыніў бляшаныя дзверы грубкі і сунуў кабур з маўзерам у чорную смярдзючую адтуліну печы.

У наступную хвіліну там засвяціўся агонь, але не полымя, а распалены зіхоткі жар, у якім нібы плавілася штось яркае, і ён стаяў насупраць, не ведаючы, як затушыць яго. А побач быў бацька. Але ён нават не ўспомніў пра маўзер, хоць было такое адчуванне, што ведаў пра гэты выпадак. Ён толькі апусціўся на кукішкі перад грубкай і раздумна сказаў надта невясёлым голасам:

«Быў агонь, і была вышэйшая справядлівасць на свеце...»

Невядома, ці доўга гарэў той агонь у грубцы, але неяк у адчуваннях яго зноў запанаваў змрок, забыццё, а праз нейкі час патроху сталі вызначацца невыразныя гукі паблізу: тупат ног, шастанне саломы і сцішаны, начны голас старога. Калі прыйшло разуменне рэальнасці, Сотнікаў сцяміў, што гэта адганялі пацукоў. Канчаткова прачнуўшыся, ён доўга пакутліва адкашліваўся, усё думаючы, што б мог азначаць той сон і які ў ім тоіцца сэнс. І неяк паступова і натуральна ягонымі думкамі завалодаў шчымлівы ўспамін пра дзяцінства...

Маўзер - не прывярэда дурнога сну, ён сапраўды быў у бацькі, былога чырвонага конніка і колішняга паручніка з двума «георгіямі» на грудзях - бацькава фота пасля той вайны ён часта бачыў у прыгожай, з залатымі паўлінамі, мамінай шкатулцы, што стаяла ў спальні. Маўзер быў яго захапленнем, ягонаю дзіцячай марай. Часам, маючы вольны час і добры настрой, бацька вымаў з камода гэтую таямнічую штуковіну і дазваляў сыну хіба што прытрымаць за жоўты драўляны кабур - самому было няўпраўна аднаруч: правая яго рука, параненая на вайне, тады адымалася, і ён усё меней валодаў ёю. Гэта былі радасныя хвіліны, нейкая невымоўная трапяткасць напаўняла хлопца, але на тым яго дапамога і канчалася. Ён мог толькі глядзець, як бацька праціраў пісталет, але ніколі яму не было дазволена нават пагуляць з ім. «Са зброяй і ўзнагародамі гуляць забараняецца», - казаў бацька, і хлопец не ўпарціўся, не пярэчыў. Слова бацькі было законам, дома панаваў ягоны непахісны культ. Зрэшты, гэта і зразумела: бацька яго быў вядомы ў горадзе чалавек, удзельнік і герой Грамадзянскай вайны, які толькі з прычыны калецтва і свайго празмернага гонару, як казала маці, змушаны быў зарабляць на хлеб рамонтам гадзіннікаў.

Варанёны, у драўляным кабуры маўзер быў ягонаю марай, але дарма было прасіць яго таксама і ў маці. Пры сваёй мацярынскай паблажлівасці да сына і яна не

адважвалася парушыць бацькавай забароны і толькі здзіўлялася: «Гэта ж імянная татава зброя, хіба можна чапаць?» Ён ведаў, што нельга, але гэтае «нельга» яшчэ болей распальвала яго жаданне авалодаць забароненаю рэччу, нагуляцца з ёю ці хоць разок прыцэліцца, як на сапраўднай вайне.

Аднойчы здарыўся зручны выпадак. Прачнуўшыся неяк уранку, хлопец пачуў глухую цішыню ў доме. Бацькі, напэўна, не было ў ягонай каморцы, адкуль неслася звыклае рознагалоссе двух дзесяткаў гадзіннікаў - нібы цвіркатанне конікаў у лузе. Маці, ён ведаў, пайшла зранку ў царкву - над горадам плыў галасісты перазвон ранішняй службы, і тады Сотнікаў зразумеў, што менавіта цяпер здзейсніць тое, пра што столькі марыў.

Спехам насунуўшы кароценькія, да каленяў, штонікі, пакінуўшы на пасля мыццё і чыстку зубоў, ён хуценька прашмыгнуў у маміну спальню. Запаветная шуфлядка камода была зачынена, але ключык тырчэў у яе дзірцы. Ён павярнуў яго і дрыготкімі ад шчасця рукамі выцягнуў слізкі ад лаку, нечакана цяжкаваты кабур, на драўляным баку якога блішчала знаёмая пласцінка з надпісам, які ён ведаў на памяць: «Чырвонаму камэску А.Сотнікаву ад Рэўваенсавета Каварміі». Першы ж дотык да апраўленай нейкім дарагім дрэвам разьбяной ручкі страхавітай радасцю ўскалыхнуў хлопчыка. Рукі яго ўпэўнена ўправіліся з зашчапкай, і вось ужо ўвесь пісталет туга, але падатна пайшоў з кабура, заблішчаўшы ўсімі сваімі варанёнымі часткамі. Хвалюючае адчуванне зброі ахапіла хлопца, хвіліну ён абмацваў маўзер - пакратаў прыцэл, паспрабаваў адвесці затвор, зазірнуў у ствол. Але самай вялікай асалодай, вядома, было прыцэліцца. Толькі не паспеў ён як след абхапіць рукаятку і пальцам намацаць спуск, як зусім нечакана з-пад ягоных рук кудысь у падлогу аглушальна грымнула стрэлам.

Хвіліну ён стаяў змярцвелы, трываючы востры і няспынны звон у вушах. Ад сцяны адскочыла і пакацілася па падлозе гільза, а пад сталом аднекуль узялася тоўстая, паточаная шашалем шчэпка з чорнай

касой адмецінай кулі.

Зразумеўшы, што адбылося, ён знобка ляснуў зубамі, сунуў пісталет у кабур, замкнуў усё ў камод і не мог знайсці сабе месца, пакуль не прыйшла маці. Тая адразу пачула нядобрае ў настроі сына, кінулася да яго з роспытамі, і ён расказаў усё, як было. Вядома, справіцца з такой бядой не магла і маці, яна таксама дужа спалохалася за яго, нават заплакала, чаго раней ніколі з ёй не здаралася, і сказала, што ён павінен шчыра пра ўсё расказаць бацьку.

Адважыцца на тое было нялёгка. Прыблізна ён ужо мог меркаваць, як да таго паставіцца бацька, але іншага выйсця ў яго сапраўды не было. Пакуль набраўся рашучасці, мінула гадзіна ці болей, і, нарэшце, сам не свой ён адчыніў дзверы ў каморку.

Бацька ўжо працаваў. Як заўжды, нізка схіліўшыся над падаконнікам, засяроджана калупаўся ў гадзінніку. Правая яго рука ў чорнай пальчатцы бяссільна ляжала на каленях, а левая спрытна калупала, вінціла, разнімала і складвала розныя маленькія штучкі, з якіх складаўся гадзіннік. На сценах няўлад адзін аднаму матлялі маятнікамі, ляскалі і цікалі два дзесяткі гадзіннікаў - ад танных, размалёваных па цыферблаце ходзікаў да спаважнага, у груватсткім футарале кутавіка з басавітым працяглым боем. Бацька не павярнуўся на яго ўваход, не падняў галавы, але пазнаў сына і зусім не да ладу цяпер запытаўся бадзёрым голасам:

«Ну, як справы, малады чалавек? Адолеў марыніста?»

Хлопчык праглынуў даўкі камяк - напярэдадні ён узяўся чытаць Станюковіча. З іншых кніжак, што ляжалі ў вялізным дзедавым сундуку-куфры, ужо мала што асталося не прачытанае ім, хіба што збор твораў Пісемскага і некалькі томікаў Станюковіча, адзін з якіх і выбраў яму надоечы бацька. Але цяпер было не да кніжак, і ён сказаў:

«Тата, я браў твой маўзер».

Бацька матнуў галавой, хутка паклаў пінцэт, звыклым рухам рукі зняў адны акуляры і цераз другія строга паглядзеў на сына.

«Хто дазволіў?»

«Ніхто... І ён стрэліў», - запалым голасам выціснуў з сябе сын.

Нічога болей не кажучы, бацька ўстаў і выйшаў з пакоя. Ён жа астаўся стаяць ля дзвярэй з такім адчуваннем, нібы яго павінны зараз пакласці пад нож гільяціны. Але ён ведаў, што вінаваты, і гатоў быў прыняць самую бязлітасную кару.

Неўзабаве бацька вярнуўся.

«Ты - шчанюк! - сказаў ён з парога. - Нявыхаваны, распешчаны смаркач! Як ты пасмеў без дазволу дакранацца да баявой зброі? Якое ты меў права лезці, як злодзей, у камод?»

Бацька доўга і бязлітасна крычаў на яго - і за неасцярожнасць, і за стрэл, які мог учыніць няшчасце, а найбольш за таемны намер, свавольства. Ён дасканала разабраў усе незайздросныя маральныя аспекты яго ўчынку і нарэшце сказаў:

«Адзінае, што змякчае тваю віну, дык гэта тваё прызнанне. Толькі гэта цябе ратуе. Зразумеў?»

«Ну».

«Калі сам, вядома, надумаўся. Сам?»

Адчуваючы, што канчаткова гіне, хлопчык матнуў галавой, і бацька, трохі спакайнеючы, трудна, працяжна ўздыхнуў:

«Ну і то дзякуй!»

Гэта было ўжо занадта - міжвольнай хлуснёй купляць бацькаву падзяку; у вачах у яго пацямнела, кроў хлынула да твару, і ён стаяў, не могучы ступіць кроку з

месца.

«Ідзі гуляй», - сказаў тады бацька.

Так увогуле лёгка абышлося яму тое непаслушэнства - пакаранне дзягай яго мінавала, але яго маладушны ківок балючаю драпінай астаўся саднець у душы. З таго часу ён ні ў чым і ніколі не схлусіў ні бацьку, ні каму другому, за ўсё трымаў адказ, гледзячы людзям у вочы, - надта добра ён памятаў пакутную цану аслушэнства і маладушнае свае без'языкасці. Ён не ведаў пэўна, але, мабыць, і маці не сказала бацьку, па чыёй ініцыятыве адбылося тое прызнанне. Са шчаслівай упэўненасцю ў добрасумленнасці сына так і скончыў свой шлях на зямлі гэты кавалерыйскі камандзір, інвалід вайны і гадзіннікавы майстра, усцешаны перад смерцю надзеяй, што сыну дастанецца лепшая доля. І вось дасталася...

**17**

У ранішняй дрымотнай цішыні выразна затупалі боты, зверху глухавата данесліся галасы, гучней заляскалі дзверы. Тут, у склепе, найбольш былі чутны гэтыя дзверы, часам ад іх асабліва моцнага стуку ажно сыпалася са столі. Рыбак не спаў - падкурчыўшы ногі, моўчкі ляжаў на баку пад сцяной і слухаў. Цяпер уся яго ўвага перайшла ў слых. У акенцы патроху святлела, мусіць, на дварэ ўжо развіднялася, і ў гэтай іхняй каморы таксама стала што-колечы бачна. З ранішняй шэрасці вынікалі бязладныя, нібы скамечаныя постаці арыштантаў: Дзёмчыхі пад сцяной насупраць, далей у куце патроху варушылася высокая кучомка Пётры; Басі, праўда, амаль не было відаць у густым яшчэ змроку пад акенцам. Сотнікаў, як і раней, ляжаў на спіне побач і дыхавічна сіпеў. Каб не гэтае яго сіпенне, можна было б падумаць, што ён нежывы. Наставаў трудны, мабыць, апошні, дзень іх жыцця, яны ўсе адчувалі тое і прымоўклі, кожны паасобку перажываючы сваю паныласць і сваю бяду.

Боты наверсе затупалі часцей, усё грукалі дзверы. І раптам у склеп уварвалася гамана з панадворка. Рыбак

падняў голаў, прыпёрся патыліцай да сцяны. Слоў нельга было разабраць, але было відавочна, што паліцаяў там назбіралася больш, чым учора. Што яны ўдумалі рабіць? І чаму ніхто яшчэ не спусціўся ў склеп? Быццам забыліся на іх.

Нехта прайшоў па-над самай сцяной, чутно было хрупасценне ботаў па снезе, непадалёк ад акенца штосьці стукнула, потым неяк дужа зблізку раздаўся грубы хрыпаты голас:

- Ды тут усяго толькі тры.

- А шуфля яшчэ была. Шуфлю паглядзі.

- Што мне шуфля! Рыдлёўкі трэба.

Нешта гучна залязгала, потым прарыпелі крокі, і зноў паблізу ўсё сціхла. Але гэта кароткая размова тужлівым спалохам ускалыхнула Рыбака - нашто рыдлёўкі? Рыдлёўкі толькі на тое, каб капаць, а што цяпер можна капаць? Акоп? Канаву? Магілу? Пэўна, магілу, але каму?

І тут ён успомніў: мабыць, сканаў той паліцай.

Ён павярнуў голаў, няўцямна паглядзеў перад сабой. Дзёмчыха з-пад пакамечанае хусткі гэтак жа трывожна-напружана глядзела на яго; у куце застыў, не варухнуўся Пётра. Ніхто не сказаў ні слова, усе ўслухоўваліся, тоячы ў душы страх і няпэўнасць.

Гэтая іх няпэўнасць цягнулася, аднак, нядоўга. Праз якую хвіліну за сцяной зноў затупалі, ды так пэўна, што ні ў каго не ўзнікла сумнення - ішлі ў склеп. Калі забразгалі першыя дзверы, Рыбак хуценька сеў, адчуўшы, як нядобра страпянулася ў грудзях сэрца. Побач пачаў варушыцца і кашляць Сотнікаў. «Адчыняць - ірвануць, збіць з ног і - праз дзверы», - са спазнелай рашучасцю падумаў Рыбак, але тут жа зразумеў: не, так не выйдзе! А дзверы сапраўды ўжо адчыніліся, у камеру шыбанула сцюжай, зімовай свежасцю, і нияркае святло адразу высвеціла іхніх пяць шэрых устрывожаных

твараў. У дзвярным праёме стаяў спрытны Стась, за ім хмура глядзеў яшчэ нехта з вінтоўкаю на плячы.

- Генуг спаць! - ва ўсё горла зароў паліцай. - Адаспаліся! Выходзь: ліквідацыя!

«Значыць, не ашукаліся, сапраўды канец, - пранеслася ў збянтэжанай свядомасці Рыбака. - Каб каго аднаго, а калі ўсіх, значыць...» Ён расслаблена абвяў, раптам страціўшы ўсе сілы, з натугай падабраў бліжэй ногі, паправіў шапку на галаве і толькі потым абапёрся на салому, каб устаць.

- Ану, выскоквай! Дабравольна, але абязацельна! - тым часам крыкліва падганяў Стась.

Пётра ў куце першы ўзгробся на ногі, заенчыўшы, пачала ўставаць Дзёмчыха; трудна паднімаючыся, заляпаў рукамі па сцяне Сотнікаў. Рыбак няўцямна зірнуў на яго збалелы, страшны, як у мерцвяка, твар, на якім, нібы ў вар'ята, ліхаманкава гарэлі запалыя спакутаваныя вочы, і, нешта не дадумаўшы і не адчуўшы, ступіў да выхаду.

- Давай, давай! Дваццаць хвілін асталося! - падганяў паліцай, уваходзячы ў іхняе смярдзючае стойла. - Ну, ты, аднаногі! Жыва!

- Прэч рукі! Я сам! - прахрыпеў Сотнікаў.

- А ты, жыдзяня, чаго жджэш? Ану, вымятайся! Не хацела прызнавацца, будзеш на вяроўцы гутатацца, - Стась засмяяўся са сваёй красамоўнасці і тут жа вызверыўся: - Гэць, юда паршывая!

Па слізкіх заснежаных прыступках яны вылезлі на падворак. Рыбак вяла пераступаў нагамі, не зашпільваючы паўшубка і не заўважаючы паветранай свежасці, якая пасля ночы ў смярдзючым склепе ап'яняла яго, і ён памалу хістаўся з боку ў бок. Насупраць ад увахода ў склеп стаяла чалавек шэсць паліцаяў з вінтоўкамі. Яны чакалі. Ціснуў невялікі марозік, надвор'е было хмарнае і ветранае, з камінаў

над стрэхамі апантана імкнулі рваныя космы дыму.

Рыбак стаў перад ганкам, побач спыніліся Дзёмчыха і Бася, якая цяпер прыкметна тулілася да жанчыны, зябка горнучы адна да адной босыя скарэлыя ступні. Пётра са спаважнай панылацю ва ўсім сваім старэчым абліччы стаў трошкі наводдаль. Стась, лаючыся, вывалак па прыступках Сотнікава, якога тут жа зморана кінуў на снег. Але той з натугай узгробся на ногі і выпрастаўся ў сваім пакамечаным, скрываўленым шынялі.

- Дзе следчы? Паклічце следчага! - сказаў ён глухаватым голасам.

Рыбак спахапіўся, што і яму таксама вельмі трэба да следчага, і, стараючыся як мага лагодней, загаварыў да паліцаяў:

- Вядзіце нас да следчага. Ён учора казаў.

- Завядзём, а як жа! - са з'едлівай шматзначнасцю намякнуў вепрукаваты паліцай. Ён ляснуў па пале вяроўчынай, якую трымаў у руцэ, і рашуча ступіў насустрач. - Ану, рукі!

Рабіць нечага было, Рыбак даў рукі, той хвацка заламіў іх назад і з дапамогай другога пачаў туга скручваць за спіной. Рыбак паморшчыўся не так ад болю ў запясцях, як ад скрухі, што ахапіла яго, - гэта ж сапраўды быў канец.

- Далажыце следчаму. Нам патрэбны следчы, - вымавіў ён не дужа, аднак рашуча, усё болей адчуваючы, як зямля хінецца кудысь з-пад яго ног.

Але паліцай злосна тузануў ззаду.

- Позна! Адследчыліся!

- Як гэта - адследчыліся?! - зазлаваў Рыбак і зірнуў цераз плячо: нейкая няголеная ў белай шчэці морда, лыплівыя, зусім свінаватыя вочкі, у якіх таіліся нахабства і пагарда да яго, - крыкам такога не

спалохаеш. І тады ён з жахам тапельца ўхапіўся за адзіную сваю магчымасць - прасіць.

- Ну паклічце Партнова. Я вас прашу. Людзі вы ці не?

Але да Партнова, мусіць, было далей, чымсі да смерці. Ніхто яму не адказаў нават.

Між тым рукі яго былі ўмела і туга скручаны тонкай вяроўчынай, якая балюча ўелася ў скуру, і яго адпіхнулі ўбок. Узяліся за Дзёмчыху.

- Ты, кліч сюды следчага, - з апантанай настойлівасцю патрабаваў Сотнікаў ад Стася, які з вінтоўкай за плячом завіхаўся ля Дзёмчыхі.

Але той нават не зірнуў на небараку, ён, як і ўсе яны тут, нібы аглух да іх просьбы, нібы гэта былі не людзі, а якая жывёла. І гэта яшчэ болей пераканала Рыбака, што справы іх дрэнь. Будзе смерць... Але як жа тады?.. Чаму ж ён не рашыўся, калі былі вольныя рукі?

Адчуванне адзіна зручнай і безнадзейна ўпушчанай магчымасці зусім прыдушыла яго. Нешта ў ім жаласна затрымцела ўнутры ад усведамлення нейкай сваёй памылкі, і ён разгубленым позіркам залыпаў наўкола. І тады на ганак адзін за адным з памяшкання пачало выходзіць начальства - нейкія чыны ў новай паліцэйскай форме: чорных караткаватых шынялях з шэрымі каўнярамі і такімі ж абшлагамі на рукавах, пры пісталетах; за імі выйшлі чацвёра немцаў, мабыць, афіцэраў, у даўгіх шынялях і фуражках з высока задраным верхам. Чалавекі са тры, апранутыя ў цывільныя паліто і захутаныя шалікамі, баязліва пазіралі на немцаў і трымаліся збоч, нібы госці, запрошаныя на чужое свята. Паліцаі на падворку зважліва пацішэлі, прыкметна выцягнуліся.

Нехта спяшаючыся палічыў ззаду:

- Раз, два, тры, чатыры, пяць...

- Усё гатова? - запытаў з ганка плячысты паліцай з маленькім кабурам на жываце.

Менавіта гэты кабур, а таксама постаць дужага, віднага сярод другіх чалавека далі Рыбаку зразумець, што гэта начальнік. Толькі ён падумаў пра гэта, як ззаду сіпата загаманіў Сотнікаў:

- Начальнік, я маю зрабіць паведамленне!

Той адразу спыніўся на прыступках, калянуў арыштанта цяжкім уладным позіркам.

- Што такое?

- Я параніў вашага паліцая. Я партызан! - не дужа гучна сказаў ён і кінуў у бок Рыбака: - Той выпадкам тут апынуўся, я магу растлумачыць. Астатнія зусім ні пры чым. Калі караць, дык карайце аднаго мяне.

Начальства на ганку прымоўкла, двое пярэдніх немцаў насцярожана пераглянуліся, Рыбак адчуў, як прыемная, амаль выратавальная іскрынка ўзгарэлася ў ім і адразу запаліла слабенькую яшчэ надзею: а можа, паверацць? Ад гэтага яго радаснага пачуцця з'явілася ціхая ўдзячнасць Сотнікаву за яго заступніцтва.

Аднак насцярожаная цікаўнасць начальніка хутка змянілася нецярплівай строгасцю ў яго цвёрдым, поўным рашучасці позірку.

- Гэта і ўсё? - холадна запытаў ён і саступіў з прыступкі на снег.

Сотнікаў нібы заікнуўся ад нечаканасці.

- Магу расказаць падрабязней.

Адзін з немцаў незадаволена буркнуў, і начальнік махнуў рукой.

- Вядзіце!

«Ось так, не хоча нават і слухаць...» - падумаў Рыбак. Мабыць, ужо ўсё вырашана загадзя. Але як жа тады ён? Няўжо яму так нічым і не паможа гэтае заступніцтва Сотнікава?

Тупаючы па драўляных прыступках, паліцаі сходзілі з ганка, і раптам у адным з іх, што гэты раз таксама быў у новенькай паліцэйскай форме, Рыбак пазнаў Партнова. Ну безумоўна, гэта быў той самы ўчарашні следчы, які гэтак абнадзеіў яго і цяпер нібы адступіўся, забыўшыся на сваю прапанову. Рыбак як згледзеў яго, дык ажно страпянуўся і памкнуў наперад. Была не была - цяпер яму ўжо не здавалася ні страшна, ні нават няёмка.

- Гаспадзін следчы, гаспадзін следчы! Адну хвілінку! Вы гэта ўчора гаварылі, дык я згодны. Бо я тут, яй-богу, ні пры чым. Вунь ён жа пацвердзіў.

Чыны, што ўжо кіравалі купкаю са двара, зноў незадаволена, па адным сталі спыняцца. Спыніўся і Партноў. Новы паліцэйскі шынелак быў яму яўна вялікі і даволі нязграбна сядзеў на яго мізэрнай постаці, чорная пілотка тырчала ўбок, але ў абліччы следчага яшчэ пабольшала начальніцкай важнасці, нейкай паказной суровасці. Высокі перахлябісты немец у вайсковым запытальна павярнуўся да яго, і следчы нешта бойка растлумачыў яму па-нямецку.

- Падыдзіце сюды!

Пры пільнай увазе з абодвух бакоў Рыбак падышоў бліжэй да ганка. Кожны яго крок нейкім страхавітым шматзначным ударам адгукаўся ў ягонай душы. Нітачка яго яшчэ не ўзмацнелай надзеі напялася, гатовая назаўжды абарвацца.

- Вы згодны ўступіць у паліцыю? - па-ўчарашняму жорстка свідруючы яго вочкамі, запытаў следчы.

- Згодзен, - з усёю шчырасцю, на якую толькі быў здольны, адказаў Рыбак.

Ён таксама не зводзіў свайго амаль адданага позірку з нясвежага і немаладога, хоць і добра паголенага твару Партнова. Той і немец яшчэ нешта перагаварылі па-нямецку.

- Так. Развязаць!

- Сволач! - як удар, стукнуў яго ў патыліцу нягучны злы вокліч. Гэта, вядома, Сотнікаў, які тут жа і выдаў сябе знаёмым кашлем.

Але хай! Нешта пагрозлівае і цяжкое, што гэтак блізка падступілася да Рыбака, стала аддаляцца, ён хапіў ротам паветра і адчуў, як нечыя рукі тузанулі ззаду вяроўку. Але ён не азірнуўся нават. У радасным нечаканым змярцвенні ён адчуваў толькі адно: будзе жыць! Развязаныя рукі яго збалела апалі ўздоўж цела, і ён зрабіў крок убок, падсвядома імкнучыся адасобіцца ад іншых, - цяпер яму карцела быць як мага далей ад усіх. Здаецца, усё было шчасліва і хутка вырашана, ён адышоўся яшчэ на тры крокі, і ніхто не спыніў яго. Нехта з начальства павярнуўся, каб ісці да варот, як раптам ззаду раздаўся здзічэлы крык Дзёмчыхі:

- Ага, дык яго пускаеце! Тады пусцеце і мяне! Пусцеце! Я скажу, у каго яна хавалася! Во гэта! Я скажу! У мяне малыя, а Божачка, на каго ж яны...

Яе роспачна адчайны крык зноў прымусіў усіх спыніцца, і найперш спыніўся Партноў. Высокі немец нешта незадаволена пракартавіў, і следчы падышоў да жанчыны.

- Ану, ану! Скажы, у каго?

- А развяжыце!

- Тарасюк! - кіўнуў галавой Партноў.

Паліцай, што вязаў Рыбака, падскочыў да Дзёмчыхі і хуценька вызваліў яе рукі ад вяроўкі. Тая разгублена ўзялася церці іх аб крысо кажушка. Але паліцаі і немцы чакалі са строгай нецярплівасцю на халодных, надзьмутых варожасцю тварах.

- Дык у каго хавалася? - напомніў Партноў.

- У гэтага, як яго...

- Дурное плявузгаеш, - ціха, але цвёрда сказаў Пётра. - Пабойся Бога.

- Дык гэта... У Хведара Бурака бытта.

- Якога Бурака? - нахмурыўся Партноў. - Бурака тут даўно ўжо і духу няма. Ану, падумай лепш.

Дзёмчыха патупілася і маўчала, а ўсе навокал напружана пазіралі на яе з варожасцю. Адзін толькі Рыбак быў да яе абыякавы - яму было ўсё роўна, ці яна скажа праўду, ці схлусіць. Вядома, бабе хочацца жыць, але ён ведаў ужо, што ашукаць іх трудна - тады нашто і пнуцца, не ўмеючы.

- Ну? - не трываў Партноў.

- Дык я ж сказала.

- Лжэш! Тарасюк!

Тарасюк, які напагатове стаяў за спіной жанчыны, усё зразумеў і ўчэпіста схапіў яе за рукі.

- Я ж сказала! Я сказала вам!! - закрычала Дзёмчыха. - Ах, каб вас пярун забіў! Што вы робіце? У мяне ж дзеці...

- Цыц, сука! - гыркнуў паліцай, бязлітасна падламваючы яе рукі. Дзёмчыха заенчыла, але хутка ўсё было скончана, і ён штурхнуў яе ад сябе. - Гатова!

- Вядзіце! - сказаў Партноў і павярнуўся да Рыбака. - Вы падсабіце таму, - паказаў ён на Сотнікава.

Рыбаку гэта мала спадабалася, ад Сотнікава цяпер ён хацеў трымацца далей. Але загад ёсць загад, і ён з гатоўнасцю падскочыў да нядаўняга свайго напарніка, узяў яго пад руку.

Праз шырока расчыненыя вароты іх павялі на вуліцу. Паліцаі з вінтоўкамі напагатове ішлі па абодва бакі, група начальства трохі прыадстала, прапускаючы іх наперад. Першы ішоў Пётра, высокі і стары, з белаю без шапкі галавой і заламанымі назад рукамі. За ім, давячыся ў плачы ад свае трагічнае роспачы, плялася Дзёмчыха, поруч у нейкай світцы з доўгімі рукавамі

хуценька пераступала голымі нагамі апанураная Бася.

Рыбак падтрымліваў пад руку Сотнікава, які неяк увачавідкі сцяўся, яшчэ болей змарнеў і, пакутліва кашляючы, стыргікаў на адной назе. Счарнелая яго босая ступня, нібы нежывая, нягнутка калупала пальцамі снег, пакідаючы ў ім ненатуральны па зіме след. Сотнікаў маўчаў, ні словам болей не абзываўся да Рыбака, і Рыбак не наважваўся загаварыць з ім. Ідучы разам, яны ўжо сталі па розныя бакі той рысы, якая раздзяляла людзей на сяброў і ворагаў. Рыбак хоць і адчуваў, нібы ён у чымсь правініўся, стараўся пераканаць сябе, што вялікай віны ў яго няма. Вінаваты той, хто нешта робіць для выгоды сабе ці па сваёй злой волі для іншых, а ў яго хіба выгода? Проста ён меў болей магчымасцяў і схітрыў, каб выжыць. Але ён не здраднік. Ва ўсякім разе, служыць ворагам ён не збіраўся. Ён усё чакаў, каб падпільнаваць зручны момант, можа, цяпер, а можа, трошкі пазней, - і толькі яны яго ўбачаць.

**18**

Сотнікаў усё болей выразна адчуваў, што не дамогся нічога. Ягоны намер, які гэтак натуральна вынік уначы і прынёс яму заспакаенне, лопнуў, як мыльная бурбалка. Відаць, ён чагосьці не зразумеў або недадумаў, магчыма, ён перацаніў уласную вартасць або недацаніў нізасць гэтых прадажнікаў. Вядома, паліцыя была марыянеткай у руках у немцаў і таму ігнаравала яго паведамленне - напляваць ёй на тое, хто з іх двух вінаваты, калі прыйшоў адпаведны загад або з'явілася патрэба ў ахвярах.

Люта пакутуючы ад болю ў назе, Сотнікаў ледзьве плёўся за ўсімі, стараючыся не надта апірацца на чужую цяпер і агідную яму Рыбакову руку. З усяе сілы ён намагаўся ісці сам. Тое, што адбылося ў двары паліцыі, зусім збянтэжыла яго - такога ён не прадбачыў. Безумоўна, ад страху ці нянавісці людзі здольныя на самае чорнае прадажніцтва, але Рыбак, здаецца, не быў ворагам, таксама як не быў баязліўцам. Інакш ён мог бы

ўжо сотні разоў перабегчы ў паліцыю; ды і каб спалохацца, было нямала выпадкаў, аднак заўжды ён трымаў сябе, прынамсі, не горш за другіх. Тут жа, напэўна, чагосць не хапіла яму - вытрымкі ці прынцыповасці. А можа, справа ў далёкім шкурніцкім разліку дзеля свайго паратунку, ад якога заўжды патыхае здрадай? Але ёсць жа на свеце штосьці непамерна важнейшае за сваю шкуру.

Гарачлівая ўзрушанасць яго паступова сціхала, ён мусіў мірыцца з непазбежнасцю і ў дадатак да ўсяго пачынаў пакутаваць ад сцюжы. Ад слабасці на лобе выступіў пот, які паволі сох на марозным ветры, і галава ад таго калела да ламаты ў мазгах. І наогул вецер, здаецца, дашчэнту выдзьмуваў з яго ўсё назапашанае за ноч цяпло, цела зноў пачала біць дрыготка. Але ён стараўся датрываць да канца.

На пустой мястэчковай вуліцы яны перайшлі масток без пярылаў, далей з аднаго боку пачынаўся вузенькі скверык з натапыранай блытанінай марознага галля ўгары. Наперадзе на пагорачку стала відаць белая двухпавярховая камяніца; шырокае палотнішча фашысцкага сцяга трапяталася на яе рагу - мабыць, гэта была тутэйшая ўправа ці камендатура. Ля камяніцы варушыўся натоўп людзей. Згледзеўшы іх цераз галавы пярэдніх, Сотнікаў падзівіўся: якая патрэба сабрала іх столькі ў адно месца? Пасля ён падумаў, што, мажліва, сёння кірмаш. А можа, што здарылася? Ці, хутчэй за ўсё, сагналі насельніцтва, каб запалохаць расстрэлам? Калі так, хай страляюць, ім яшчэ лягчэй будзе прыняць смерць на людзях. Што ж да страху, дык яго і так хапае на вайне, і тым не менш барацьба разгараецца. На змену пакараным прыйдуць другія. Смелыя заўсёды знойдуцца.

Яны пляліся далей. Сотнікава ступня, нібы пратэз, нягнутка выкручвала ямкі ў рыхлым, расцёртым палоззем і конскімі капытамі снезе, нага гарэла пякучым нутраным болем і нязграбна падпарадкавалася яму. Відаць, ён усё ж перабольшваў свае сілы, калі ў пачатку наважыўся ісці сам, - цяпер ён

амаль віснуў, падчэплены пад паху цвёрдай рукой Рыбака. Ад мосціка было трошкі ўгору, і стала яшчэ трудней, дыханне яго захліпалася, дарога слізгала з-пад ног. Ён спалохаўся, што не дойдзе, упадзе, тады прыб'юць на дарозе, як апошняга «дахадзягу», у канаве. Не, гэтага ён не мог дазволіць сабе, гэта было занадта. Сваю смерць, якой бы яна ні была, ён павінен сустрэць з салдацкай годнасцю. Гэта стала цяпер галоўнаю мэтай яго апошніх хвілін.

Па дарозе яны ўзышлі на пагорачак, параўняліся з беленай камяніцай і сталі. Сотнікаў, трудна выдыхнуўшы, прытуманеным позіркам упёрся ў спіны пярэдніх, чакаючы, што неўзабаве зноў рушаць далей. Але канвойныя паліцаі таксама сталі, наперадзе пачулася нямецкая мова - некалькі чалавек, мабыць, начальства, асобнаю купкай чакалі каля будыніны. Насупраць цераз вуліцу ля штыкетніка, што агароджваў сквер, ля дзвюх аблезлых будак-ларкоў застылі ў нядобрай страхавітай увазе пяць-шэсць дзесяткаў людзей, якія таксама чагось чакалі. Стала падобна, што іх невялікая працэсія дашкандыбала да прызначанага ёй месца - дарогі далей ужо не будзе.

І тады Сотнікаў убачыў вяроўкі.

Пяць гнуткіх, дбайна завязаных петляў ціха пагойдваліся па-над вуліцай, нібы дэманструючы перад усімі адмысловую моцнасць тоўстых, спрытна завязаных вузлоў. Віселі яны на папярочыне старой, яшчэ даваеннай вулічнай брамы. Такая самая брама-арка была некалі і ў іх гарадку. Перад святам яе абкручвалі дзеразой ды хвояй, прыбівалі ўгоры лозунг, напісаны чарнілам на гладкім баку шпалерыны. Побач, на плошчы перад райвыканкомам, збіралі святочныя мітынгі, і праз невысокі пралёт той аркі ішлі калонамі вучні з дзвюх школ, рабочыя льнозавода, гуты і тарнага камбіната. Наверсе, на крыжавіне, звычайна гарэла зорка або трапятаў на ветры сцяжок, якія надавалі асаблівае хараство і закончанасць усяму гэтаму збудаванню. Цяпер жа там не было нічога, толькі з-пад счарнелых рэек-лучын выглядвалі парудзелыя

папяровыя абрыўкі ды на слупе матляўся ад ветру нейкі аблезлы ласкут памерам з ражок піянерскага гальштука. Акупанты прынеслі на арку сваю аздобу - гэтыя пяць новенькіх, мабыць, спецыяльна дзеля таго выпадку выпісаных са склада, вяроўчын. Значыць, іх будуць вешаць. А ён думаў - расстрэльваць.

Двое - паліцай і яшчэ нехта ў шэрай суконнай паддзёўцы - няслі цераз вуліцу тоўсты стары ўслон, і Сотнікаў здагадаўся, што гэта для іх. Каб дастаць да пятлі, перш чым загойдацца, збочыўшы на плячо галаў, - бездапаможна, пакорліва, безгалоса. Яму зрабілася да жаху брыдка і боязна ад аднаго толькі ўяўлення пра сябе павешанага ды і ад усяе гэтай старанна падрыхтаванай расправы. За час вайны ён і не падумаў пра магчымасць іншае смерці, чым ад асколка ці кулі, і цяпер усё ў ім інстынктыўна запратэставала супроць гэтага ўдушэння пятлёй.

Але ён нічым не мог памагчы ні сабе, ні іншым. Ён толькі ўгаворваў сябе ў думках: нічога, нічога!.. Урэшце, гэта іх права, іх звярыны звычай, бо тут іх улада. Выбар спосабу кары - заўжды прэрагатыва катаў. Цяпер апошні яго абавязак - трываць з яснаю ўпэўненасцю ў сабе, без ценю страху ці шкадавання. Хай вешаюць.

Услон там ужо, мусіць, паставілі. Вёрткі, увішны Стась, а таксама тоўсты, неахайна нізка падпяразаны па шынялі Будзіла і іншыя паліцаі з канвою павялі іх пад арку. Наступаючы на закасцянелую ступню, Сотнікаў прыкінуў: аставалася крокаў пятнаццаць-дваццаць, і ён адабраў у Рыбака руку - хацеў дайсці сам. Яны пратупалі сярод паліцаяў, паўз групу нямецкага і штацкага начальства, якое тоўпілася пад сцяной будыніны. Пачынаўся спектакль, мясцовая паліцэйская самадзейнасць на нямецкі манер. Начальства цярпліва чакала, некаторыя хмурыліся, а іншыя нязлосна перагаворваліся, нібы сышліся па будзённай, не дужа пільнай патрэбе і хутка вернуцца да сваіх звыклых спраў. Ад іх несла пахам цыгарэт, адэкалону, чуліся ўрыўкі размоў. Сотнікаў, аднак, не пазіраў туды - датупаўшы да слупа аркі, прысланіўся да яго плячом і

ад знямогі прыплюшчыў вочы.

Не, мабыць, смерць нічога не вырашае і нічога не растлумачвае. Толькі жыццё дае людзям пэўныя магчымасці, якія здзяйсняюцца імі або прападаюць марна; толькі жыццё можа процістаяць злу і несправядлівасці. Смерць - ніштo. І калі таму лейтэнанту ў хвойніку праз сваю пагібель удалося чагосьці дамагчыся для іншых, дык ці на тое ён разлічваў?..

Значыць, невядомасць, цемра, забыццё - назаўжды, без удзячнасці і ўзнагароды?

І ўсё роўна згадзіцца з Рыбаком ён не мог, гэта супярэчыла ўсёй яго чалавечай сутнасці, яго веры і ягонай маралі. І хоць нешырокае кола ягоных магчымасцяў усё вузела, і нават хуткая смерць нічым ужо не магла пашырыць яго, усё ж адна магчымасць яшчэ аставалася. Ад яе ён ужо не адступіцца. Яна, адзіная, сапраўды залежала толькі ад яго і нікога болей, толькі ён распараджаўся ёю, бо толькі ў яго ўладзе было адысці з гэтага свету з уласцівай чалавеку годнасцю. То была апошняя міласць, святая раскоша, якую, бы ўзнагароду, даравала яму жыццё.

Па адным іх пачалі разводзіць уздоўж шыбеніцы. Пад крайнюю ад начальства пятлю паставілі аціхлага, засяроджанага ў сабе Пётру. Сотнікаў зірнуў на яго і вінавата паморшчыўся. Учора ён шкадаваў, што Рыбак не застрэліў гэтага старасту, а цяпер вось давядзецца разам загойдацца на адной перакладзіне. Вось і зразумей, дзе сябра, а дзе вораг, падумаў ён, маючы на ўвазе Рыбака. Зрэшты, ён пераканаўся ўжо, што на вайне прычынай подласці бадай заўжды бывае баязлівасць, як бы яна ні называла сябе.

Тым часам Пётра палез на ўслон, але той скасабочыўся і ледзь не паваліўся пад яго каленямі. Тады Будзіла, які, мабыць, і тут быў галоўны ў сваёй катоўніцкай справе, вылаяўся, сам ускочыў наверх і за каршэнь узвалок туды Пётру. Былы стараста засцярожліва выпрастаўся і, не падымаючы галавы, стрымана, нібы ў царкве,

пакланіўся людзям. Потым на ўслон пхнулі Басю. Тая хуценька ўзлезла на сваё месца і, пераступаючы змёрзлымі парэпанымі нагамі, з палахлівай дзіцячай цікаўнасцю пачала азіраць натоўп ля штыкетніка, нібы выглядвала там знаёмых.

Услона на ўсіх, аднак, не хапіла. Пад наступнай пятлёй была пастаўлена жоўтая скрынка, а на астатніх двух месцах тырчэлі ў снезе паўметровыя, мабыць, нядаўна адпілаваныя ад бервяна, цурбаны. Сотнікаў падумаў, што яго паставяць на скрынку, але там пакінулі Дзёмчыху, а яго Рыбак з паліцаем павалаклі да цурбаноў.

Ён яшчэ не дайшоў да свайго месца, як ззаду пачуўся здзічэлы крык Дзёмчыхі. Ад нечаканасці Сотнікаў азірнуўся - жанчына, упіраючыся нагамі, усяляк адбівалася ад паліцаяў - не хацела лезці на скрынку.

- Ай, паночкі, даруйце! Даруйце дурной бабе, я ж не хацела, не думала...

Яе плач заглушылі злосныя крыкі начальства, нешта скамандаваў Будзіла; паліцай, што вёў Сотнікава, кінуў яго на Рыбакову апеку, а сам падаўся да Дзёмчыхі. Усёй грамадой яны пацягнулі жанчыну на скрынку.

Рыбак, астаўшыся з Сотнікавым, не надта ўпэўнена падвёў яго да таўсцейшага, крайняга ад штыкетніка, цурбана і спыніўся. З аркі над ім звісала новенькая, як і ва ўсіх, пяньковая ўдаўка з вузкавата зашморгнутай пятлёй, якая ціха раскручвалася ўгары. У Сотнікава ад знямогі памутнела ўваччу - трэба было хутчэй узлазіць на цурбан, а зрабіць гэта аднаногім было не дужа ўпраўна. Некалькі часу ён памарудзіў, пакуль у свядомасці не бліснула роспачнае, як лаянка: «Ах, была не была!» Тады ён кінуў Рыбаку, які паныла аслупянеў побач: «Трымай!» - і здаровым каленам дацягнуўся да зрэзу-тарца, ужо заследжанага брудным адбіткам чыесь падэшвы. Рыбак тым часам апусціўся на снег і аберуч ашчаперыў падстаўку. Дзеля раўнавагі Сотнікаў трохі абапёрся аб яго локцем, напружыўся і неяк ускараскаўся наверх.

Хвіліну ён ціхенька стаяў, вузка саставіўшы ступні на круглым нешырокім зрэзе, і думаў: «Каб толькі не ўпасці». Патыліца яго ўжо адчула пятлю, якая ціхім дотыкам шорхала па валасах. Унізе напружылася шырокая Рыбакова спіна ў кажушку, скарэлыя яго рукі шчыльна аблапілі хваёвую кару цурбана. «Выкруціўся, сволач!» - нядобра падумаў Сотнікаў, нібы з зайздрасцю, і на момант сумеўся: ці трэба так? Цяпер, у апошнія імгненні свайго жыцця, ён нечакана ўсумніўся ў сваім заўсёдным праве - нароўні з сабой патрабаваць ад іншых. Сапраўды, як было ў такі момант чакаць чагось высакароднага ад гэтае затузанай жыццём цёткі? Зноў жа - і Рыбак. Мабыць, ён быў неблагі партызан, умелы малодшы камандзір у войску, ды вось аказалася, што як чалавек і грамадзянін, безумоўна, недабраў чагосьці.

Ззаду ўсё білася, галасіла, ірвалася з рук паліцаяў Дзёмчыха, нешта сабраўся чытаць па паперцы немец у рудых пальчатках - прыгавор ці, можа, страшыць людзей іхняю карай. Ішлі апошнія секунды жыцця, і Сотнікаў, прыткнуўшыся на цурбане, прагным апошнім позіркам міжвольна ўбіраў у сябе несамавітую аздобу звыклай з дзяцінства местачковай вуліцы з гаротнымі постацямі людзей, хілымі дрэўцамі, паламаным штыкетнікам, гарбячком намёрзлага лёду пад жалезнай калонкай. Праз настылае голле сквера праглядвалі аблупленыя сцены недалёкай цэркаўкі з абадраным счарнелым дахам, без крыжоў на двух аблезлых зеленаватых купалах. Некалькі яе вузкіх акенцаў былі нядбайна забіты неакоранымі аполкамі.

Але вось побач затупаў хтось з паліцаяў, пацягнуўся ўгору да яго вяроўкі; бесцырымонныя рукі ў шызых абшлагах злавілі яе над ім і, абдзіраючы яго балючыя, памарожаныя вушы, насунулі на галаву пад падбародак. Ну, вось і ўсё, міжвольна адзначыў Сотнікаў і апусціў позірк уніз, на людзей. Прырода сама па сабе, яна заўжды без натугі дабром і мірам клалася яму на душу, але цяпер сталі патрэбны людзі - іхнія аблічча, позіркі, іх згодная еднасць ці хоць бы абыякавасць - усё роўна хацелася бачыць людзей. І ён ціхенька павёў

развітальным позіркам па іх шчыльным, насцярожаным радзе, у якім болей было жанчын, і толькі зрэдку трапляліся немаладыя мужчыны, падлеткі, дзяўчаты - звычайны тутэйшы люд у кажушках, ватоўках, вайсковых абносках, самаробных світках. Сярод іх бязлікага мноства ягоная ўвага чымсь вылучыла цесненька загорнутую ў чужую, без гузікаў, адзежыну танклявую постаць хлопчыка гадоў дванаццаці з насунутай на галаву старой армейскай будзёнаўкай. Хлопчык азябла ўбіраў счырванелыя рукі ў рукавы, адсюль было бачна, дрыжаў ад сцюжы ці, можа, ад страху і з баязлівай дзіцячай цікаўнасцю ўзіраўся ў жывых яшчэ вісельнікаў. Сустрэўшы ягоны позірк, хлопчык скрывіў у балючай грымасе свой хваравіта белы тварык, на якім раптам адбілася столькі спачувальнае жаласці, што Сотнікаў не ўтрымаўся і ціха, аднымі вачамі ўсміхнуўся малому - нічога, браток!

Болей ужо ён не стаў разглядваць нічога і апусціў позірк, каб лішне не бачыць з боку ад сябе начальства, немцаў, следчага Партнова, Стася, Будзілу. Іх драпежніцкую прысутнасць ён адчуваў і так. Абвяшчэнне прыгавору, здаецца, ужо скончылася, пачулася каманда па-нямецку, потым па-расейску, і ён неўзабаве адчуў, як пагрозліва-напружана варухнулася на шыі вяроўка. Нешта ў тым канцы шыбеніцы тузанулася раз і другі, і адразу ж зусім ужо жахліва закрычала Дзёмчыха:

- А-а-а-ай! Не хачу! Не хачу!!

Яе крык неяк ураз абарваўся, коратка трэснула ўгары намёрзлая папярочына, здушана загаласіла жанчына ў натоўпе. Стала нясцерпна самотна на душы. Нейкая невыдаткаваная яшчэ ўнутраная сіла падмывала рвануцца, закрычаць, як гэтая Дзёмчыха, - дзіка і страшна. Але ён стрымаў сябе, толькі сэрца яго да болю сцялася ад смяротнае роспачы; як найбольшай палёгкі перад канцом, захацелася заплакаць. Замест таго ён раптам усміхнуўся напаследак сваёй, мабыць, жаласнай, вымучанай усмешкай.

З боку ад начальства крыкнулі, відаць, гэта цяпер

датычыла яго, цурбан пад нагамі на момант аслаб, нават хіснуўся. Каб не зваліцца, Сотнікаў зірнуў уніз - на яго са скрыўленага, зарослага шчаціннем твару глядзелі разгубленыя вочы яго нядаўняга сябра. Яны не то ўпрошвалі аб чымсь, ці то проста ён не мог саўладаць са сваім страхам, і Сотнікаў ледзь пачуў:

- Даруй, брат.

- Пайшоў к д'яблу!

Трэба было канчаць. Напаследак ён адшукаў позіркам ніцую сцяблінку хлопчыка ў будзёнаўцы. Той стаяў, як і раней, трошкі выпнуўшыся наперад з шэрагу, з шырока расплюшчанымі вачамі. Поўны болю і страху ягоны позірк сунуўся за некім пад вісельняй і вёў так, усё бліжэй і бліжэй да яго. Сотнікаў не ведаў, хто там ішоў, але па твары хлапчука зразумеў усё.

Падстаўка яго кіўнулася ў раптам аслабленых руках Рыбака, які нязграбна курчыўся ўнізе, баючыся і, мабыць, не могучы наважыцца на апошнюю і самую страшную цяпер справу. Недзе ззаду мацюкнуўся Будзіла, і Сотнікаў, каб апярэдзіць непазбежнае, здаровай нагой штурхануў ад сябе цурбан.

**19**

Рыбак выпусціў падстаўку і адхіснуўся - ногі Сотнікава загойдаліся побач, збітая імі шапка ўпала на снег. Рыбак адскочыў, але тут жа нагнуўся і выхапіў яе з-пад вісельніка, які ўжо супакоена раскручваўся на вяроўцы, апісваючы круг у адзін, потым у другі бок. Рыбак не адважыўся зірнуць на яго твар - ён бачыў перад сабой толькі жахліва выпрастаныя ў паветры ногі - адну ў растаптаным бурку і побач неяк вывернутую пятою ўбок брудную, ссінелую ступню з падсохлай паскай крыві на костачцы.

Усё было скончана.

Утрапенне жаху трымалася ў ім нядоўга - усяго некалькі кароткіх секунд; намаганнем волі Рыбак

перасіліў у сабе збянтэжанасць і, занепакоены няпэўнасцю ўласнага лёсу, азірнуўся. Побач, між Сотнікавым і Дзёмчыхай, лёгка матлялася пятая вяроўка - ці не стане яна ягонай?

Аднак нічога, здаецца, не пацвярджала гэтага яго апасення. Будзіла выцягнуў з-пад Дзёмчыхі жоўтую скрынку, забралі з-пад аркі ўслон. Яму здаля нешта крыкнуў Стась, але, усё яшчэ знаходзячыся пад уражаннем таго, што адбылося, Рыбак не зразумеў ці не пачуў яго і стаяў, не ведаючы, куды падацца. Купка немцаў і цывільнага начальства пад будынінай пачала радзець - там разыходзіліся, гамонячы, закурваючы цыгарэты, з ажывелаю прыўзнятасцю ў настроі, як пасля ўдала скончанай, увогуле неблагой і нават цікавай справы. І тады ён нясмела яшчэ паверыў: мабыць, пранесла.

Так, пранесла, яго не павесяць, ён будзе жыць. Карнае мерапрыемства скончылася, знімалі ахову, людзям дазволілі разысціся, і жанчыны, падлеткі, старыя прыціхла павалакліся па абодвух баках вуліцы. Некаторыя часам спыняліся, азіраліся на чатырох вісельнікаў, жанчыны аціралі слёзы і ішлі далей. Паліцэйскія наводзілі апошні парадак ля шыбеніцы. Стась са сваёй нязменнай вінтоўкай на плячы адкінуў нагой цурбан з-пад лішняй пятлі і зноў крыкнуў Рыбаку. Той не так зразумеў, як здагадаўся, што трэба было, і, дастаўшы з-пад Сотнікава падстаўку, кінуў яе пад штыкетнік. Калі ён павярнуўся, Стась стаяў насупраць са сваёй звычайнай усмешлівай маскай на твары. Вочы яго пры тым аставаліся падазрона сцюдзёныя.

- Гы-гы! Аднак маладзец! Спасобны, падла!

І паліцай з такой сілай ляпнуў Рыбака па плячы, што той ледзьве ўстаяў на нагах, падумаўшы сабе: «Каб ты здох, сволач!» Але зірнуўшы ў яго сыты, выцягнуты дзеравянай усмешкай твар, таксама ўсміхнуўся - крыва, аднымі вуснамі.

- А ты думаў...

- Правільна! А што там, падумаеш! Бандыта шкадаваць...

«Пастой, што гэта? - не зразумеў Рыбак. - Пра каго ён? Ці не пра Сотнікава?»

Не адразу, але ўсё выразней ён пачаў разумець, што той мае на ўвазе, і, мабыць, упершыню непрыемны халадок вінаватасці крануўся яго пачуцця. Але ён яшчэ не хацеў верыць у сваю прычаснасць да гэтай расправы - пры чым тут ён? Хіба гэта ён? Сотнікаў сам узлез, сам скочыў з цурбана. Ён толькі трымаў. І то па загаду.

Чацвёра павешаных ціха і важка пакручваліся на напятых вяроўках - усе збочыўшы галовы, з ненатуральна перацятымі ў петлях шыямі. Нехта з паліцаяў прыладжваў кожнаму на грудзі фанерку з надпісам на расейскай і нямецкай мовах. Рыбак не стаў чытаць таго надпісу, ён наогул стараўся не глядзець туды - пятая пустая пятля няздзейсненай пагрозай гняла і палохала яго. Ён думаў, што, можа, яе адвяжуць ды прыбяруць з гэтай вісельні, тады б яму было ўжо спакойней. Але ніхто з паліцаяў нават не падышоў да яе.

Здаецца, усё было скончана, ля павешаных стаў вартавы - малады паліцэйчык у суконнай паддзёўцы з вінтоўкай на плячы. Іншых пачалі строіць. Каб не замінаць, Рыбак саступіў з маставой на вузенькі, утаптаны ботамі тратуар і стаяў так, увесь у насцярожаным чаканні таго, што будзе далей. У ягоных думках была блытаніна, таксама як і ў пачуццях, радасць уласнага паратунку чымсь зацямнялася, але ён яшчэ не мог толкам даўмецца чым. Зноў у ім аднавілася прыціхлае было, але ўпартае жаданне даць дзёру, прарвацца ў лес, трэба было толькі падлавіць адпаведны момант. Цяпер яго ўжо нічога тут не трымала.

Паліцаі звыкла строіліся ў калону па тры, іх набралася тут чалавек пятнаццаць - рознага зброду ў новенькіх форменных шынялях і пілотках, але трапляліі ў кажушках, ватоўках, чырвонаармейскіх абносках. Адзін нават быў у скуранцы з адрэзанай правай палой.

Людзей на вуліцы ўжо амаль не асталося - толькі ў скверыку наводдаль стаяла некалькі падлеткаў і з імі тоненькі хваравіты хлопчык у будзёнаўцы. Разявіўшы рот, ён усё сморгаў носам і ўглядаўся ў шыбеніцу, падобна было - яго дзівіла там лішняя, пятая пятля. Спакваля, відаць, ён зразумеў нешта і пальцам з даўгога рукава паказаў якраз у яго на тратуары. Рыбак з непрыемнасцю цепнуў плячамі і ступіў убок, каб схавацца за паліцаямі, якія ўжо знерухомелі ад звычнай каманды старшага. Старшы той паліцай таксама нібы абмёр ад камандзірскай стараннасці і падцяў да сцёгнаў кулакі, на нямецкі манер выткнуўшы ў бакі локці.

- Смірна!

Паліцаі ў калоне страпянуліся і зноў знерухомелі. Старшы абвёў іх злосным, строгім позіркам і спыніў яго на адзінокай постаці збоч тратуара.

- А ты што? Стаць у строй!

Рыбак схамянуўся. Гэтая каманда абнадзейвала і азадачвала адначасна. Аднак раздумваць не было калі, ён хуценька скочыў на вуліцу і стаў ззаду за ўсімі, побач з нейкім высокім, у чорнай аўчыннай папасе дзецюком, які непрыязна пакасіўся на яго.

- Шагам марш!

І гэта было і зразумела, і звыкла. Рыбак бяздумна ступіў у такт з іншымі, і, калі б не пустыя рукі, якія невядома куды было дзець, можна было б падумаць, што ён зноў у атрадзе, сярод сваіх. І калі б перад вачамі не мільгалі шызыя абшлагі і замусоленыя бела-блакітныя павязкі на рукавах.

Яны пайшлі ўніз той самаю вуліцай, па якой ішлі сюды, аднак гэта была зусім іншая дарога. Побач бурлілі жвавасць і самазадаволенне - ён быў сярод пераможцаў. На паўгода, дзень ці гадзіну, але адчувалі яны сябе куды як бадзёра, падагрэтыя ўсведамленнем здзейсненай помсты ці проста ўдала скончанай працы; некаторыя ціха перагаворваліся, чуліся смяшкі, і ніхто

ні разу не азірнуўся назад, на браму. Затое на іх азіраліся ўсе. Тыя, што брылі цяпер з гэтае акцыі пад сценамі платоў і дамовак, з дакорам, страхам і нясхоўнай нянавісцю ў счырванелых ад плачу жаночых вачах праводзілі гэтую зграю здраднікаў. Іх, аднак, тое не клапаціла і не турбавала, мусіць, яны прывыклі, на бяспраўных запалоханых людзей яны проста не звярталі ўвагі.

Рыбак жа апаныў душой і думаў з трывогай: трэба змывацца. Можа, вось там, на паваротцы, скочыць за плот і па-за хляўком перабегчы садок, яшчэ адолець плот і прарвацца з мястэчка? Добра, каб блізка быў які лес ці хоць бы хмызняк або раўчак. Або каб дзе ў двары папаўся пад рукі конь.

Рыпаў снег пад падэшвамі, паліцаі ішлі па-армейску ў нагу, поруч па тратуары крочыў старшы - ладны вайсковец у апярэзаным рамянямі паліцэйскім шынялі. На баку яго целяпаўся нізкавата падвешаны міліцэйскі наган у пацёртай скураной кабуры з меднай праціркай наперадзе. За мастком пярэднія сцішылі крок, нехта там замінаў іх калоне, і старшы пагрозліва крыкнуў. Яны трохі пацясніліся, размінаючыся, - нейкі дзядзька ў пустых развальнях нерастаропна збочваў пад самыя вокны ашалёванай, урослай у зямлю хаціны. І Рыбак раптам аж скалануўся ад рэальнасці свайго жадання кінуцца туды, выхапіць лейцы і ўлупіць па кані - можа б, і вырваўся. Але дзядзька!.. Прытрымліваючы нецярплівага маладога коніка, той азірнуўся на іх начальніка і ўсю іх калону, і, мабыць, міжвольна ў тым яго позірку пыхнула такая нянавісць да іх, што Рыбак зразумеў: не, з гэтым не ўдасца. Але з кім тады ўдасца? І яго нібы абухом па галаве аглушыла нечаканае разуменне, што ўцякаць яму няма куды. Пасля гэтае ліквідацыі - няма куды. З гэтага строю дарогі да ўцёкаў няма.

Ад раптоўнасці гэтага адкрыцця ён збіўся з нагі, спалохана падскочыў, прапускаючы крок, але зноў ступіў не ў лад, і сусед азваўся пагардлівым басам:

- Ты што?

- Анічога.

- Мабуць, без прывычкі? Наву-учышся.

Рыбак, аднак, змоўчаў, усё болей выразна разумеючы, што з уцёкамі скончана, што гэтаю ліквідацыяй яго скруцілі лепш, чым учора супоняй. І хоць пакінулі жывога, але нейкім чынам таксама ліквідавалі.

Так, звароту назад, да ранейшага, цяпер, мабыць, ужо не было - ён гінуў усур'ёз, назусім, і самым неспадзяваным чынам. Цяпер ён скрозь вораг. Усім. І, пэўна, самому сабе таксама.

Узрушаны і анямелы, ён аніяк не мог даўмецца, як гэта сталася і хто ў тым вінаваты. Немцы? Вайна? Паліцыя? Вельмі не хацелася вінаваціць сябе і дужа карцела ўскласці віну на іншых - на час, на абставіны. Ды і сапраўды, у чым быў вінаваты ён сам? Хіба ён выбраў сабе такі лёс? Хіба ён не змагаўся да самага канца? Болей і напружаней, чым нават гэты разумнік Сотнікаў? Зрэшты, з усіх у ягоным няшчасці найболей быў вінаваты Сотнікаў. Калі б ён не захварэў, не падлез пад кулю, не вымусіў столькі валэндацца з сабой, Рыбак, мусіць, даўно быў бы ўжо ў лесе. А цяпер вось таму дык усё роўна ў вяроўцы на браме, а яму як, жывому?..

Усё ўвачавідкі рушылася, гінула, здабытае цаной такіх намаганняў у барацьбе за самае дарагое - жыццё. І на чорта яму цяпер тое жыццё? Каб служыць немцам?

У бязладным цягучым одуме, ад якога блыталася, цьмела свядомасць, Рыбак датупаў з калонай да знаёмых варот паліцыі. На вялікім двары іх спынілі, па камандзе звыкла павярнулі да памяшкання. Ля ганка ўжо стаялі начальнік, следчы Партноў і двое ў нямецкай вайсковай форме. Старшы паліцай зычна далажыў, што каманда з ліквідацыі прыбыла. Начальнік прыдзірліва агледзеў калону.

- Вольна! Дваццаць хвілін перакур, - сказаў ён і позіркам зачапіўся за Рыбака. - Ты зайдзі да мяне.

- Ёсць! - мярцвеючы ад чагось непазбежнага, што зусім падступіла да яго, буркнуў Рыбак.

Сусед таўхнуў яго локцем у бок.

- Яволь, а не ёсць. Прывыкаць нада.

«Пайшоў ты к д'яблу! - вылаяўся ў думках Рыбак. - І наогул хай усё ідзе к д'яблу. У тартарары. Навек!»

Каманду распусцілі. Рыбака ўсё болей апаноўвала разгубленасць, ён кідаў наўкола здзічэлыя позіркі і не ведаў, куды падацца. Вакол гаманілі, тапталіся паліцаі, лязгала зброя, у паветры запахла салодкім дымком цыгарэт. Накаторыя скіравалі ў памяшканне, адзін павярнуў да вузкай дашчанай збудоўкі з дваімі дзверкамі на драўляных закрутках. Рыбак бокам таксама падаўся туды.

- Эй, ты! Куды?

Ззаду з чуйнай устрывожанасцю ў вачах стаяў Стась.

- Зараз. На хвілінку.

Здаецца, ён сказаў спакойна, стаіўшы ў сабе свой адзіна магчымы цяпер намер, і Стась адвярнуўся да купкі сяброў: там абмяркоўвалі акцыю. Але к д'яблу! Усіх і ўсё! Рыбак ірвануў скрыпучыя дзверы, зашчапіўся на драцяны кручок, паглядзеў угору. Столь была невысокая, але, мабыць, для яго справы вышыні хопіць. Між няшчытна пакладзеных дошак чарнелі пасткі толю, за папярэчыну лёгка можна было прадзець папружку. Са злоснай рашучасцю ён расшпіліў кажушок і раптам схамянуўся - папружкі на штанах не было. І як ён забыўся, што яе адабралі перад тым, як пасадзіць іх у склеп. Рукі яго марна замітусіліся ў адзежы, але нідзе ў яго не знаходзілася нічога, на тое здатнага.

За перагародкай глуха тупнулі боты, цягуча праскрыпелі дзверы. Рыбак сцяўся ў абсалютнай бездапаможнасці - не было нават магчымасці выканаць сваю апошнюю волю. Хоць ты рынься галавой уніз. Неадольная роспач ахапіла яго, і ён аж застагнаў ад

нясцерпнасці, гатовы заплакаць.

Але знаёмы голас знадворку вярнуў яму частку цвярозасці.

- Ну ты доўга там? - пракрычаў здалёку Стась.

- Счас, счас...

- Начальства заве.

Ну вядома, начальства не любіць чакаць, да начальства належыць з'яўляцца бягом. Тым больш калі вырашана зрабіць цябе паліцаем. Яшчэ ўчора ён марыў пра тое, як пра збавенне. Сёння ж здзяйсненне гэтае мары абарочвалася катастрофай.

Рыбак высмаркаўся і, не адразу трапляючы гузікамі ў пятлю, зашпіліў кажушок. Мусіць, ужо нічога не зробіш - такі яго лёс. Ненавісны вайсковы лёс, які гэтак яго ашукаў. Не могучы зрабіць што іншае, Рыбак адкінуў кручок і, стараючыся зацяць у сабе разгубленасць, ступіў з прыбіральні.

На парозе, нецярпліва выглядаючы яго, стаяў начальнік паліцыі.

## Сцюжа

Гарадзілаў памёр на світанні — ціха, неўпрыкмет сканаў у сцюдзёным, прадзьмутым ветрам буданчыку. Азевіч, які сам задрамаў на сконе начы, нават не заўважыў таго, хоць і адчуваў звечара, што пракурору ўжо не падняцца. Тры апошнія дні той не ўставаў на ногі, палаў у гарачцы, сіпата, дробненька дыхаў і — што асабліва ўразіла Азевіча — перастаў пазнаваць яго. Гэтую ноч звечара незразумела, дзікавата трызніў, вёрз немаведама што пра нейкага (ці нейкую) Кузю, тузаўся, скрыгаў зубамі, увесь час сцягваючы з сябе шынелак, якім яны накрываліся разам. Азевіч стаміўся за ноч рупіцца каля хворага, бясконца атуляць адзежынай яго

гарачае цела. І толькі на золаку неяк знерухомеў у цішыні, заснуў, аж покуль не прахапіўся ад падазрона страхавітага спакою, што запанаваў у будане. Гарадзілаў ляжаў нерухома і ўжо быў сцюдзёны — гарачыня без рэшты сышла з яго цела, грудзі пад ватоўкай не паднімаліся. Азевіч прыклаў да іх вуха і не пачуў нічога. Мусіць, усё ўжо скончылася.

На дзіва сабе ён не адчуў ні асаблівага страху, ні нават жалю — нейкае цьмянае прадчуванне перамены (невядома, да лепшага ці да горшага) паволі ўлівалася ў яго. Хоць ён і не ведаў яшчэ, чым тое абернецца, што ён зробіць цяпер, застаўшыся зусім адзін. Сцяўшыся пад шынелкам на ўлежанай хвойнай падсцілцы, ён спрабаваў трохі сагрэцца ў спакоі, звыкла ўслухоўваючыся ў абрыдлы за непрытульную восень лесавы шум. Галоўнае — цяпер ён застаўся сам-насам, мог рабіць, як захоча, кіравацца толькі сваім намерам, уласнай патрэбай, без чыёй-небудзь прынукі. Да таго, з Гарадзілавым, было трохі інакш, усё ж той быў ягоным начальствам — пракурор раёна і камісар групы, зноў жа старэйшы па гадах, на ўсё меў сваю думку і не надта любіў лічыцца з думкаю іншых. Можа, і сканаў праз гэты свой непадаткі характар — прастудзіўшыся на Макрынскім балоце, падхапіў гарачку. Мусіць, трэба было б падацца куды да жытла, цяпла і людзей, бо якое ж здароўе на сцюжы, у гэтым во тошчым буданчыку? Азевіч і казаў яму: пойдзем куды, прэч з гэтага змрочнага лесавога грудка, які даў ім прытулак у самы жахлівы восеньскі месяц — пяты месяц вайны. Ды Гарадзілаў заўпарціўся: не і не. Ну і, вядома, дачакаўся горшага. Цяпер яму ўжо не спатрэбяцца ні цяпло, ні засцярога — патрэбна адна маці-зямля, на якой ён неспакойна пражыў без малога пяць дзесяткаў гадоў.

Азевіч вылаяўся — ад прыкрасці, злосці — і пачаў уставаць; адзін побач з засцюдзянелым нябожчыкам, зусім скалеў пад воглым шынелкам, аж стукалі неўпрыцям зубы ад дрыжакі. У змрочнай нары-будане трохі зашарэў ранак — на ўваходзе сталі відаць нізка абвіслыя лапкі хвояў, шэрыя сукаватыя камлі тоўстых елак насупраць. Штось там, аднак, мільганула — раз і

другі, Азевіч з трывогай угледзеўся, адразу прагнаўшы сон, і апанурана пачаў надзяваць у рукавы шынелак — між хвояў рэдка мільгалі белыя мухі — то пайшоў снег. Значыць, даседзеліся, падумаў Азевіч, да белых мух, што будзе далей? Але што будзе далей, ведама і малому — пасля зазімку будзе зіма, сцюжа і мароз, сляды на снезе. А што рабіць яму? Аднаму на гэтым яловым грудку?

На кукішках ён выбраўся з будана, ледзьве асільваючы дакучную дрыжаку ў целе, агледзеў лясное наваколле. Між яловага вецця ўгары лёталі-мільгалі сняжынкі, няроўна запарушваючы іглісты, з апалымі шышкамі дол, скрозь перавіты жылістымі каранямі елак. Трава тут бадай не расла, месца ўвогуле было схоўнае — хвойны гушчар — і сухое; мабыць, якую ямку-магілу ён тут і выкапае. Праўда, у яго не было рыдлёўкі, затое ў нябожчыка быў штых — тупы нямецкі цясак, якім яны seклі на будан хвойнік і рэзалі палкі. Цяпер, узяўшы гэты цясак, Азевіч крыху прайшоў па грудку між таўшчэзнага ельніку, паазіраўся, памеркаваў і, трудна, злосна ўздыхнуўшы, пачаў калупаць дол.

Калупаў ён нетаропка, доўга, памалу грэючыся пасля неспакойнай халоднай начы,— сек цесаком карані, выграбаў рукамі зямлю. Добра, зямля была не цвёрдая — пад пластом лесавога перагною ляжаў рыхлы пясок, у які без натугі лез яго штых. Сняжынкі патроху сыпаліся між елак, але вялікі снег яшчэ не ішоў, а тыя, што ападалі долу, патроху таялі на свежай зямлі — марозу яшчэ не было. Як толькі берагі той вузкаватай ямкі дайшлі да каленяў, падумаў, што, мабыць, хопіць. Пакуль што нябожчык перабудзе і ў такім прытулку, а там будзе відаць. Калі надарыцца магчымасць і ён, Азевіч, будзе жывы, дык, можа, куды перахаваюць. А калі не, дык што ж.. І так добра, што ёсць каму закапаць. Яшчэ невядома, ці будзе каму закапаць яго самога...

Вярнуўшыся ў будан, Азевіч укленчыў каля нябожчыка, трохі памарудзіў Мусіць, трэба было зняць ватоўку, нашто закопваць у зямлю? Але куды яму з ватоўкай?

Надзенеш ватоўку, тады трэба скідаць шынель, а шынель ён скідаць не хацеў Перамагаючы пэўную няёмкасць, усунуў руку за пазуху пракурору, выцяг адтуль тошчы пацёрты кашалёк, мабыць, з дакументамі, не разгортваючы запіхаў сабе ў кішэню. Палапаў іншыя кішэні ў нябожчыкавым пінжаку — выняў з адной жменю патронаў да нагана, мяккі скураны партабак з рэштаю самасаду, якім яны на днях разжыліся ў дзядзькі на лесавой дарозе. У другой кішэні ён знайшоў брудную насоўку і блакнот з нейкімі напаўсцёртымі запісамі,— усё паклаў сабе за пазуху Апроч таго, пад галавой у Гарадзілава муляла кірзавая сумка з паперамі, побач ляжала вінтоўка і наган у абдзёртай па баках скураной кабуры, і Азевіч падумаў, што, мабыць, усяго грузу будзе для яго залішне. Дзве вінтоўкі яму не трэба, а наган ён, канешне, возьме, наган яму ўжо спатрэбіцца. Як спатрэбіўся Гарадзілаву пасля іх камандзіра — начальніка райаддзела міліцыі Віткоўскага, забітага ля моста на шашы. Тады пад нямецкім агнём толькі і паспелі што зняць гэты наган ды сумку, самога ж Віткоўскага нават не вынеслі з канавы, дзе яго і падабралі немцы. Але, мабыць, Віткоўскаму тады было ўжо ўсё роўна.

Не знімаючы з нябожчыка ватоўкі, Азевіч вывалак яго з будана, пад пахі давалок да ямы. Перад тым як апусціць у зямлю, трохі аддыхаўся, паазіраўся. Сняжынкі ўсё раздумна лёталі між галля ў лесавым зацішку, асядалі долу. Бралася на макрэдзь, з начы зяблі яго заўжды мокрыя ногі, боты зусім раскіслі ў балотна-лесавой твані, прэлыя анучы бадай ніколі не прасыхалі. Але і ў Гарадзілава боты былі не лепшыя, падэшва на правым зусім адстала і ледзьве трымалася на пары цвіках у наску. Мусіць, трэба было як развітацца, думаў Азевіч, але ён не ведаў як і марудзіў. Абраслы сіваватаю шчэццю шырокі твар нябожчыка быў на дзіва спакойны, падкрэслена абыякавы да ўсяго, што так непакоіла яго пры жыцці і асабліва ў гэтую жахлівую восень. Але, мабыць, ужо ўсе ягоныя клопаты ззаду, не трэба будзе перажываць за няўдачы з атрадам, за няшчасці, пагібель адных і здраду другіх, недарэчную тую прастуду на балоце, што гэтак неспадзеўкі згубіла

ўвогуле здаровага і дужага чалавека. Мабыць, Азевіч быў не дужэйшы за пракурора, але маладзейшы і неяк убярогся, хоць яны тады абое дужа вымаклі ў балоце, пакуль выбраліся на гэты грудок. А Гарадзілаў на другі дзень ужо не падняўся. І цяпер вось — магіла. Памерці ў часе вайны ад хваробы — невялікую, аднак, раскошу нарыхтаваў чалавеку ягоны ваенны лёс.

Стараючыся як мага ашчадней, каб неасцярожным рухам не абразіць нябожчыка, Азевіч апусціў яго нагамі ў яму, затым, прытрымліваючы за руку, паклаў у дно даволі груваасткае цела. Ну во і ўсё. Засталося заграбці зямлёй, можа, зараўняць магілку, каб не пакідаць знаку. А можа, і не: зрабіць надмагільны горбік. Хай будзе відаць, каб не згубілася.

У будане ён ужо заставацца не мог, хоць там было зацішней і больш схоўна, карцела хутчэй пайсці — далей ад гэтага праклятага месца. Ён выцяг з-пад лапніку пракурораву сумку, сваю торбу на почапках, узяў абедзве вінтоўкі. Тут жа валялася шапка нябожчыка — руды, падобны на вайсковы, картуз з самаробным тэкстыльным казырком, і Азевіч насунуў яго сабе на галаву. Сваю картовую кепку, размахнуўшыся, шпульнуў між елак. Трохі падумаўшы, гарадзілаўскую вінтоўку павесіў на елку прыкладам угору — хай вісіць, можа, каму спатрэбіцца. А сам перакінуў цераз плячо рэмень ад міліцэйскага нагана, сумкі, падхапіў сваю вінтоўку. Трэба было ісці.

Вось толькі куды?

Пра тое, куды ісці, яны нямала перагаварылі з таго часу, як асталіся ўдвух, гаварылі яшчэ ў Страшыцкім лесе, па якім іх двойчы ганяла нямецкая жандармерыя. І тады ім здалося, што найлепш зашыцца ў самы непраходны лясны куток, дзе іх ніхто не спаткае і не выдасць. Спярша так і было — іх ніхто не спаткаў, вёскі ўсе засталіся ў старане, за балотам, і яны дзён колькі, не баючыся, палілі ў гушчары вогнішчы, грэліся, сушылі анучы і апратку. Але, на бяду, скончыўся харч, з'елі ўсю бульбу, з хлеба застаўся ўсяго счарсцвелы акрайчык, які яны падзялілі спярша на чатыры часткі, а

затым апошнюю яшчэ на тры. Учора Азевіч даеў апошні ўсохлы кавалак, памерам з папяросны пачак. Болей харчу ў іх не было. А голад, як назло, дацінаў усё болей. Натузаўшыся з гэтым пахаваннем, Азевіч да болю адчуваў, як смокча пад грудзьмі, у жываце. Ну але, мабыць, пакуль што прыйдзецца трываць,— суцяшаў ён сябе, да вёскі трэба яшчэ дайсці. На гэты раз ён не палезе ў балота, у балоце цяпер пагібель. Ён скіруе ў іншы бок, можа, больш небяспечны, але што ўжо яму небяспека? Бліжэйшыя вёскі павінны быць на паўдзень ад грудка, Гарадзілаў яшчэ называў якія, але тады яны не мелі пэўных намераў, і Азевіч не запомніў іх. Ведаў толькі, што дзесь недалёка павінны быць Манякі, у якіх жыло некалькі знаёмых калгаснікаў, мабыць, трэба да іх і ісці.

І ён нетаропка пайшоў паміж елак з грудка, беручы ў бок ад балота. Рэдкія сняжынкі ўсё лягалі-сыпаліся з хмарнага неба, але да зямлі быццам не далятаді, раставалі ў паветры. У ельніку было зацішна, толькі дзесь угары ад ветру гайдаліся стромкія яловыя верхавіны, і па лесе шырока расплываўся цягучы несціханы пошум. Дол быў чысты, без хмызу і сучча, месцамі густа абсыпаны яловымі шышкамі, з калючым кустоўем ядлоўцу; скрозь нікла да зямлі счахлае каліўе папараці. Праз якую гадзіну Азевіч далёка ўжо адышоўся ад грудка, лес патроху пачаў мяняцца, ельнік паволі саступаў месца бярэзніку, ужо голаму і непрытульнаму, без лісця, якое цяпер спласталася ў доле і шархацела пад нагамі. Часцей сталі трапляцца зараснікі з хворастам у доле, яны заміналі ісці, і Азевіч думаў, што няблага б узбіцца на якую сцяжыну, інакш ён і да вечара не выберацца з гэтага лесу. І праўда, неўзабаве яму трапілася зарослая паніклай травой, даўно не езджаная лясная дарожка. Вось толькі пралегла яна якраз упоперак яго кірунку, і ён, выйшаўшы на яе з гушчару, не адразу сцяміў, у які бок падацца. Чамусьці, аднак, скіраваў управа, здалося, у той старане радзей стаяў беразняк, можа, там было поле. А дзе поле, там пэўна будуць і людзі. Па дарожцы ісці стала спарней, ён угрэўся, сагрэліся ногі ў ботах, і ён раптам са здзіўленнем падумаў, як гэта дзіка і

неспадзеўна ён апынуўся адзін. І ў такім становішчы. Ніколі ён не прадбачыў такога — заўжды ў ягоным жыцці былі поруч людзі — добрыя і благія, начальства і падначаленыя, просты тутэйшы люд. А тут во, нібы воўк, у голым восеньскім лесе — галодны, прастуджаны, без пэўнае мэты і аніякай падтрымкі. Дажыліся, называецца, ліха яго матары, злосна думаў ён, успомніўшы Віткоўскага ды і Гарадзілава таксама. Хоць што ўжо было наракаць на нябожчыкаў? Але і як было не наракаць? Найперш хоць бы за таго начпрода Углова, якога нейкі безгаловы дурань залічыў у іх атрад. Наўрад ці тое абышлося без начальніка райаддзела ўнутраных спраў Віткоўскага ці без пракурора Гарадзілава? Хоць тады іх можна было і зразумець: каму, як не старшыні райпо, даручыць харчовую справу. У таго ж былі ўсе прадукты, транспарт, ды і Страшыцкі лес ён ведаў няблага, сам некалі жыў побач у вёсцы Лясной. Непагоднаю ноччу цішком нагрузілі на складзе райпо дзве палутаркі мукой, крупой і бульбай, прыхапілі некалькі скрынак цукру, кансерваў і нават махоркі, адвезлі ў самы глухі канец таго лесу, дзе абсталявалі ў яме лясны прадуктовы схоў. Замаскіравалі так, што за пяць крокаў не заўважыш нічога, нават пасадзілі зверху пару маладых ялінак. Здавалася, ніхто ніадкуль не бачыў, на імшаніку не засталося ні следу, ні каляіны, так усё зараўнялі, схавалі. У верасні ні разу не дакрануліся да таго запасу, абыходзіліся тым, што было пад рукой, болей карміліся з уласных тарбін,— асноўны запас ашчаджалі на пасля, на зіму, калі прыціснуць халады, знікнуць пад снегам лесавыя сцежкі. Думалі з тым харчам пераседзець зіму. Ды во дачакаліся. Калі ў пачатку лістапада яны ўпершыню зрабілі засаду пад пушчай і пра іх дазналіся ў мястэчку, у Страшыцкім лесе стала куды як трывожна, два разы на іх налятаді немцы з паліцыяй, яны па-дурному страцілі двух забітымі, а трох параненых схавалі на хутарах за дальнім балотам. На фронце рабілася чорт ведае што, нават невядома, дзе быў той фронт, напэўна, ужо пад Масквой. І тады неяк ноччу з атраднай стаянкі знік гэты самы Углоў — увечары быў, а ранкам прапаў, і ніхто не ведаў куды. Добра яшчэ, Віткоўскі адразу

закамандаваў змяніць стаянку. Пахапаўшы сваё майно, яны хуценька пакінулі будан, радуючыся, што паспелі ўцячы ад немцаў, якія гадзіны праз чатыры і праўда ўжо паролі там сваімі шырокімі штыхамі. Але каб толькі паролі ў буданах — горш, яны апаролі ўрэшце іхнюю схованку, хоць была яна праз два кіламетры ад лагера. Пасля аказалася: гэты Углоў перабег да паліцыі і ўсё выдаў. Так яны засталіся на зіму без солі і без курава, без хлеба і жмені мукі.

Мабыць, апоўдні Азевіч выбраўся з лесу на вузкі і доўгі лугавы прасцяг з крывулястай рачулкай пасярэдзіне. Тут дарожка скіроўвала ўлева краем лугавіны, і ён, паазіраўшыся, таксама пайшоў налева. Снег тым часам ужо перастаў лётаць у паветры, з нізкага неба трошкі нібы церушыла слатой, але вецер быў ціхі, дзьмуў ззаду, ісці ён не дужа замінаў. Праўда, Азевіч ужо прытаміўся, хацелася есці, у намоклых ботах ацежалелі ногі, і як ён згледзеў наперадзе на ўскрайку лугавіны стажок, дык і павярнуў да яго. Відаць было, стажком ужо пакарыстаўся хтосьці, аднізу ўбаку цямнелася неглыбокая выскубіна, у якую Азевіч і ўваліўся спіной, выцягшы долу стомленыя ногі. На хадзе ўвесь час замінала палявая сумка Гарадзілава, ён перакруціў яе ззаду наперад, каб ямчэй было сядзець, і падумаў: чаго гэта туды напіхаў нябожчык? У цяжкай сумцы, аднак, былі спрэс паперы: нейкія палітычныя брашуры з даўжэзнымі назвамі на сініх вокладках, пацёртыя вучнёўскія сшыткі з планамі палітычных мерапрыемстваў, гутарак, напісаная хімічным алоўкам прамова да кастрычніцкай гадавіны, яшчэ нейкія паперы з зацёртымі запісамі. Вядома, Гарадзілаў быў трохі фармаліст, і Азевіч ажно падзівіўся, што ўсё гэта той месяцамі насіў на сабе ў сумцы. Ці не лепш было спаліць паперы, бо сэнсу ў іх было ўрэшце не шмат, падумаў Азевіч. Групы няма, усё рассыпалася, пагінула, разбрылося. Ён, Азевіч, застаўся ці не апошні з іх дваццаці двух раённых работнікаў, якія тры месяцы таму на золаку ціха выбраліся з мястэчка, каб распачаць народную вайну супроць захопнікаў. Распачаць дык распачалі, але во як скончылі. Даўжэй за ўсіх трымаліся яны з Гарадзілавым, які, канешне ж,

адчуваў сваю адказнасць за групу як камісар, асабліва пасля гібелі Віткоўскага, ды нешта ў яго не заладзілася з людзьмі, тыя яго не надта каб слухалі. Мабыць, групе болей стасавала маўклівая зацятасць камандзіра Віткоўскага, які за ўвесь дзень, бывала, не вымавіць трох фраз, болей дацінаў каго позіркам ці часам кароткім злым мацюгом, і на дзіва яго разумелі. Гарадзілаў жа стараўся ўсё растлумачыць, давесці да свядомасці — ці чыю правінку, ці агульны іх абавязак перад радзімай, ці кожнаму ягоную задачу ў іх агульным заданні. Ужо бывае ўсё ўсім зразумела, а Гарадзілаў усё тупае перад іх кароценькім строем і тлумачыць, тлумачыць. Скончыць, запытаецца: "Усім ясна?" Усім усё зразумела, а ён зноў пачне новы круг тлумачэнняў. Віткоўскі ў такіх выпадках стаіць побач нязрушна і моўчкі, толькі сочыць, каб ніхто не парушыў строй і ўсе ўважліва слухалі камісара. Гэты болей любіў вайсковыя каманды, найбольш папулярнымі з якіх былі ў яго "Падцягніся", "Разгаворчыкі" ды "Шырэй шаг!". Сам хадзіў роўна і лёгка, падаткнуўшы пад дзягу полы шыняля і пагардліва пазіраючы на камісара, які валюхаста клыпаў побач ці ў канцы калоны, ссунуўшы са спатнелага лба свой пакамечаны картуз.

Мякка і зручна ўмясціўшыся ў сене, Азевіч раздумна перабіраў камісараву сумку, на сподзе якой знайшоў маленькі пахучы абмылак з загорнутым у паперку памазком ад брытвы — і зноў склаў усё ў сумку. Канешне, камісаравы дакументы трэба было б зберагчы, калі іх збярог Гарадзілаў, — несці з сабой ці лепш закапаць дзе ў здатнай мясціне. Тошчы пацёрты камісараў кашалёк з трыма савецкімі чырвонцамі ён запіхаў у цесную кішэнь свайго фрэнча, які насіў да вайны і цяпер, у вайну, таксама. Фрэнч быў зручны, з кішэнямі на грудзях, зашпільваўся да падбароддзя. Амаль з такога ж матэрыялу цяпер быў і картуз на яго галаве — чым не вайсковец?

Але, мабыць, ужо не вайсковец і не партызан нават — здаецца, пакуль што з партызанкай не выйшла нічога. Мабыць, трэба дзесь пераседзець, перахавацца, звязацца з вышэйшым кіраўніцтвам, далажыць, як і што

адбылося ў іх з такім драматычным зыходам. І хто вінаваты? Але каго ўжо вінаваціць, калі абодвух начальнікаў няма ў жыцці, а людзі?.. Людзі на дзіва аказаліся розныя. І хто б падумаў! Як збіралі групу, тады ўсе здаваліся такія патрыёты, бальшавікі, свае, знаёмыя, без аніякіх сумненняў гатовыя на ўсё — на жыццё і на смерць, дзеля перамогі. Але во як прыпёрла бяда ля Макрынскага балота, калі іх акружылі нямецкія жандары і яны нейкім цудам усё ж прарваліся — братоў Фесякоў не засталося і следу. Таксама харошыя былі хлопцы, маладыя і здаровыя, да вайны рабілі ў леспрамгасе, старэйшы — нават майстрам участка, добра ведалі тутэйшыя лясы,— мусіць, тым і пакарысталіся ў здатны для сябе час. Не далічыўшыся іх, як вырваліся з акружэння, камандзір паслаў двух партызан шукаць братоў, думалі, мо дзе адсталі параненыя. Праз суткі вярнуўся адзін Клыпаў, другі ж, малады камсамолец Лёня Полазаў, быў забіты ў засадзе. А праз тыдзень дачуліся, што гэтыя Фесякі ўжо дома, у мястэчку, выбіраюць з жонкамі бульбу на агародах і ніхто іх не чапае — мабыць, ужо павініліся ў паліцыі. Пачуўшы тое, Віткоўскі толькі скрыгануў зубамі, а Гарадзілаў сказаў, што нядоўга паядуць яны тае бульбачкі. Аж во мінуў месяц, не стала ні Віткоўскага, ні камісара, а Фесякі ўсё ядуць сваю бульбачку ў мястэчку — і вараную і смажаную, у мундзірах і ў клёцках. Пякуць дранікі з салам...

Лугавіна побач ляжала па-восеньску шэрая і пустая, дарожка на ўзлеску здалася Азевічу болей уезджанай, чым у лесе, і ён падумаў, што дзесь недалёка павінна быць вёска. Усё ж гэты лесавы закутак належаў суседняму раёну, які ён ведаў не надта, — не .тое што свае раённыя мясціны, выезджаныя і выхаджаныя ім і ўдоўж і ўпоперак. І тады, як рабіў у выканкоме, і пазней, як стаў працаваць у райкоме партыі. Але ад свайго раёна адсюль, мабыць, яшчэ кіламетраў з дзесяць — там бы ён арыентаваўся болей упэўнена. А тут, выйшаўшы з лесу, неяк пачаў асцерагацца — не хацелася асабліва трапляць камусьці на вочы. Розныя ўсё ж людзі вакол, асабліва цяпер, у вайну. Хто паможа, а хто і прадасць — са страху ці каб выслужыцца,

паддобрыцца да немцаў. Тут ужо як выпадзе. Вунь іхняму Клімянкову выпала і зусім кепска — пайшоў на сувязь са сваім чалавекам у Чарнаручча, дарогай нідзе ніхто яго не спыніў, сустрэліся, пагаварылі, а той і запрасіў пераначаваць. Якраз ішоў дождж, Клімянкоў добра прамок і пагадзіўся спачыць да золаку. Моцна заснуў з дарогі і, мусіць, бачыў харошыя сны, бо нават і тады, як паліцаі пыралі яго вінтоўкай у бок, яшчэ ўсміхаўся ў сне і махаў рукой — адмахваўся ад тае вінтоўкі. Узялі Клімянкова і расстралялі праз тыдзень. Цяпер невядома, дзе яго і магілка. Таму, мабыць, лепш трохі счакаць, пераседзець дзень у стажку, а як пацямнее, рушыць тою дарожкай. Вёска, мабыць, тут, недалёка.

І Азевіч расслаблена знерухомеў, стараючыся, аднак, не заснуць. Зноў пачалі зябнуць ногі; плячам жа ў сене было ўвогуле добра — мякка і зацішна, хоць з-за стажка трохі пачаў задзімаць вецер — мусіць, на змену надвор'я. Хоць бы не паваліў снег, падумаў Азевіч, не засыпаў чорную сцежку. Мусіць, да снегу неяк трэба паспець дзе прытуліцца, а там будзе відаць. Вось толькі куды прытуліцца? Дзіўна, чым абярнулася тое іх партызанства. Тады, у самым пачатку, яны стараліся зашыцца куды глыбей у лясныя нетры, далей ад вёсак, людзей, стаіцца за балотамі, каб ніхто не ведаў, дзе яны і адкуль ударацъ па немцах. Тады кожны, хто паяўляўся паблізу ад іхняй стаянкі, выклікаў падазрэнне, думалі: шпіён, падасланы немцамі або паліцыяй. Неяк на пачатку восені ў Страшыцкім лесе хлопцы злавілі дзядзьку з аброццю: казаў, шукае кабылу. Дзядзька быў з не дужа блізкае вёскі (блізка вёсак там не было наогул), адышоўся з дому, можа, кіламетраў з пяць, тое выклікала падазрэнне — ці не шукае ён іх заместа кабылы? Няпроста было зразумець, як яно было папраўдзе, але дзядзька набрыў на іхнюю стаянку, бачыў іх буданы і нават пазнаў некаторых з іхніх людзей,— як было адпушчаць такога? Не адпусцілі, пасадзілі ў будан пад варту і пачалі раіцца, што рабіць. Яно, можа, і праўду кажа — хадзіў, хадзіў і заблудзіў у лесе, забрыў далекавата, трапіў на іх незнарок. А можа, і не. Можа, трапіў знарок, па заданню немцаў і цяпер

выдасць стаянку і групу. Ды як праверыш? Нават калі пайсці ў Шалудзякі, што там можна ўведаць? Камісар Гарадзілаў мяркуе і так і сяк, хлопцы ламаюць галаву, а камандзір Віткоўскі кажа: "Усё ясна. Гарэйка, спалняйце!" Гарэйку не трэба было загадваць двойчы, той разумеў камандзіра з першага слова, устаў і спакойна — да таго будана. Яны ўсе засталіся кружком, дзе сядзелі, маўчалі, утаропіўшы долу позіркі, слухалі. Чакалі, аднак, нядоўга, праз колькі хвілін ля балота нягучна трэснулі два рэвальверныя стрэлы, і неўзабаве паявіўся Гарэйка. Прыйшоў і моўчкі сеў на сваё ранейшае месца. "Усё, цяпер снедаць'" — сказаў Віткоўскі і ўстаў. Усталі і яны. І пайшлі снедаць, унікаючы, аднак, пазіраць адзін аднаму ў вочы. Тое, што адбылося, дало палёгку, іхняя стаянка засталася нерассакрэчанай, пакуль што можна было чуцца спакойна. Але спакою чамусь не было. Штосьці сталася, абляглося на душу, хоць кожны і стараўся прыдушыць тое пачуццё, не даць яму дужа разрасціся.

Тады ім ніхто патрэбны не быў, яны спадзяваліся на саміх сябе: група мела сілу, у іх быў спрыт, здароўе, даволі харчоў, зброя і боезапас. Яны маглі даць бой і нават перамагчы, бо ўжо збольшага навучыліся рабіць засады, нападаць знянацку. Цяпер жа Азевіч застаўся адзін, нібыта ўжо не партызан, а згаладнелы няўдака-чалавек, і яму патрэбны былі людзі, харч, жытло. Без таго, адчуваў ён, нядоўга стрывае. На носе зіма. Зімою ж аднаму ў лесе — пагібель.

Ён выбраўся са свайго лаўжа, хоць яшчэ было віднавата, яшчэ толькі пачало змяркацца. Цяпер ягоная пара — ноч. Ну і, можа, яшчэ восеньскі вечар. Узздеў на плячо вінтоўку, на другое плячо ўскінуў свой старэнькі, аблезлы рукзак, з якім пайшоў у той ранак з мястэчка, сабраўшы што-нішто з неабходных рэчаў: пару запасных ануч, бялізну, брытву, кніжку "Гісторыя ВКП(б), кароткі курс", па якой ён як агітатар праводзіў заняткі ў групе. Тошчы гэты рукзак не шмат важыў і не замінаў у шляху Цяпер болей замінала тоўстая гарадзілаўская сумка, і ён раз-пораз адкідваў яе за сцягно. Патроху, аднак, цямнела, кустоўе і лес за

лужком браліся змрокам, дальні падлесны канец лугавіны і зусім прапаў у туманістай навалачы. Азірнуўшыся, Азевіч спорна пайшоў дарожкай і думаў, што, мабыць, з такой яго экіпіроўкай толькі і хадзіць паначы. Удзень нельга. Удзень хто не ўбачыць, нават здаля, адразу здагадаецца, што за прахожы. Добра яшчэ, калі адно — здагадаецца. А калі пакліча паліцыю? Што ж тады яму — распачынаць перастрэлку і гінуць па-дурному? Не, па-дурному гінуць ён не хацеў. Хіба калі ўжо нявыкрутка, тады што ж... Не ён першы, не ён апошні.

Дзень сапраўды быў зусім кароценькі — ва ўсіх адносінах сумны восеньскі дзянёк, вечар наступаў на ранак. Хутка зусім сцямнелася, і вакол нічога не стала відаць. Узлесак побач адсунуўся кудысьці ўбок, дарога вывела яго ў поле, на якім усё мацнеў напор даволі сцюдзёнага ветру. Часцей стала трапляцца гразь, неглыбокія лужыны пад нагамі, Азевіч ужо разы два ўлез у нейкую твань на ўзбочыне, прамачыў ногі. Увесь час ён пільна ўзіраўся ў цемрыва ночы і неўзабаве згледзеў, як наперадзе зачарнелася штось доўгае і груваскае. Здаецца, то былі будынкі, два ніжэйшыя ля самай дарогі і штосьці высокае далей. Паркан, які ён намацаў, урэшце прывёў яго да варотцаў у падворак, праз акенца хаты за гародчыкам хліпка ліпеў чырвоны агеньчык. Часам ён знікаў у ценю — мабыць, там хтосьці варушыўся каля газнічкі. І ён наважыўся. Мабыць, гэта быў першы двор на ўскрайку ад лесу, ён таіў пэўную небяспеку. Але іншых Азевіч шукаць пабаяўся і, увайшоўшы на падворак, ціхенька прыхінуў за сабой варотцы.

— Хто там?

Усё ж хтосьці яго ўчуў у цемрадзі — стрымліваючы хваляванне, Азевіч ступіў са два крокі і гэтак жа ціха адказаў:

— Свае. Можна да вас? На хвіліну...

У адказ было няпэўнае маўчанне, але ён ужо згледзеў невыразную постаць з чымсьці груваскім у руках,

мабыць, то быў гаспадар ля ганка. Азевіч падышоў бліжэй, праз цемрыва адчуваючы на сабе насцярожана-страхавітую ўвагу чалавека, які, аказваецца, трымаў на руках абярэма дроў, чакаў яго.

— Можа, зойдзем, а то...

Чалавек павярнуўся і, угнуўшы галаву, моўчкі пераступіў парог, Азевіч падаўся следам і, мінуўшы сенцы, апынуўся ў хаце з нізкаю змрочнай столлю на тоўстых бэльках. Ля парога на століку гарэла газнічка, і насупраць цьмяна свіцілася беленым бокам вялізная печ. Некалькі посных твараў з паўзмроку спалохана ўтаропіліся ў яго. Гаспадар грукнуў перад печчу дрывяным абярэмам і выпрастаўся.

— Мне пераначаваць каб... — нерашуча вымавіў Азевіч.

У хаце ўсе знерухомелі ў напружанай увазе, ён разы два пераступіў па цёмнай падлозе, перастаўляючы ля нагі знятую з пляча вінтоўку. І тады маладзіца з касой на спіне, што стаяла бліжэй за іншых, падхапіла з цемры нейкую адзежыну, даючы яму месца на лаўцы:

— Ідзіце, сядайце во.

Ён падзякаваў у думках і ступіў да лаўкі, зняў з сябе сумку, скінуў з плячэй лямкі рукзака. Насупраць, перад газнічкай і каля печы, стаялі цёмныя постаці, але ён ужо паспеў зразумець, што, мабыць, гэта сямейнікі — тая маладзіца і старая згорбленая бабуля ў хустцы і яшчэ жанчына, мабыць, жонка гаспадара, апранутая ў нязграбную тоўстую ватоўку. Наводдаль у запеччы, хваравіта вохкаючы, варушыўся згорблены сівы дзядок, які доўга прыладжваўся там, каб ямчэй сесці, і першы азваўся да яго:

— Прахожы ці тутэйшы будзеце?

— Прахожы,— сказаў Азевіч. — Акружэнец.

— Гэтак? Цяперака яны ідуць — акружэнцы,— з гаркотаю ў голасе сказаў дзед. — Ад самага лета ідуць.А родам жа адкуль? Ці здалёку будзеце?

— Не. Суседні раён.

— Ну, то блізка,— сказаў дзед. — Калі суседні раён, дык блізка... А то на Пакроў былі ў нас двое, дык аж з Расеі родам. Ідуць, ідуць людзі. Што робіцца...

Азевіч тым часам азіраў з лаўкі змрочную хату, яе жыхароў; тое, што з ім ахвотна загаварыў дзед, абнадзейвала. Але яго трохі азадачваў маладзейшы, плячысты, гадоў сарака мужчына з кароткімі вусікамі пад шырокім носам, які таксама надта ўважліва разглядваў яго і маўчаў. Ці не хоча ён пазнаць яго, падумаў Азевіч. Можа, дзе бачыў у тыя гады? Праўда, пакуль той не сказаў ані слова, паўзіраўся, зняў кажушок і пачаў мыць рукі над цэбрам. Хата была вялікая, шафай і посцілкай разгароджаная на дзве няроўныя палавіны. Стары застаўся на ранейшым месцы ля печы, а жанчыны памалу затупалі сюды-туды па сваіх хатніх справах — нешта прыбіралі, прыносілі-выносілі, корпаліся пры печы. Распранунцца яму не прапаноўвалі, але пакуль што і не адмаўлялі ў ягонай просьбе, і ён падумаў, што, мабыць, пераначуе. А калі пераначуе, дык, пэўна, і штосьці з'есць — не можа ж таго быць, каб спаць паклалі не еўшы.

— Вот забрыў паначы, а не ведаю, як і дзярэўня ваша называецца, — сказаў Азевіч, болей каб не маўчаць.

— А мы на хутарах, — сказаў дзед. — Хутары нашы Аўдзееўскімі называюцца. Яшчэ за царом як выдзеліліся з той вунь вёскі Карачуны, так і асталіся...

— Карачуны? Чуў, здаецца, — сказаў Азевіч. — Гэта каля возера?

— Во яно, відаць у вакно, — кіўнуў галавой стары, хоць у акне ўжо не было нічога, апроч непрагляднай восеньскай цемры.

На нейкі час яго пакінулі без увагі. Маладзіца нешта спыталася пра карову, мужчына коратка зазначыў, што ўсіх напаіў, вада пакуль ёсць. Здаецца, урэшце жанчыны пачалі збіраць на стол: бразнула засланка ў

печы, па хаце паплыў пах чагось смачнага, і Азевіч парадаваўся, што, мабыць, паесць. Вячэру збіралі, аднак, даўгавата, хоць, здаецца, нічога ўжо не варылася, у печы не гарэла. У хаце, аднак, было цёпла, Азевіч расшпіліў усе аплікі шыняля, аднак не распяразваўся, толькі прысланіў вінтоўку да лаўкі. Ён усё ж чакаў роспытаў, нават хацелася пагаманіць, самому распытаць пра шмат што, але нейкая насцярожаная маўклівасць запанавала ў хаце і стрымлівала яго ад празмернай гаворкасці. Праўда, пакуль што ў тым не было благога, ён ужо ведаў гэты звычай тутэйшага люду — зважліва чакаць, што скажа чужы чалавек Была ў тым і дасціпная павага да госця, і боязь яго, невядомага, а можа, і небяспечнага. І праўда, было чаго пабойвацца, асабліва ў такі кляты час

— Дык як жа вы тут пажываеце? Ці, можа, вайна абышла старанοй? — запытаўся Азевіч.

— Гэ, каб жа абышла, — жвава адгукнуўся дзед. — Вайна не абыдзе... Падпёрла ўсім. Вунь гаспадар тожа ж з вайны прыйшоў, — кіўнуў ён на маладзейшага мужчыну.

— Акружэнец?

— Акружэнец, анягож! З пекла ледзь выкараскаўся,вошай кучу прынёс. А і цяпер...

— Ладна, памаўчы ты, — перапыніў старога гаспадар. Але дзядок, мабыць, рады быў пагаварыць са свежым чалавекам.

— А што! Такі сакрэт... І цяпер во чапляюцца. У паліцыі...

— Ну ты! — ужо са злосцю гыркнуў на яго гаспадар. — Патрымай свой язык! А то распусціў, як лейцы...

І праўда, стары прымоўк, даволі непрыемна ўразіўшы тым Азевіча, якому ў гэтай кароценькай перапалцы пачулася штось не надта прыемнае. Нейкі нават намёк на патаемнае, якое ён не павінен быў ведаць. З гэтай не

пераадоленай у сабе непрыемнасцю ён устаў з лаўкі, калі маладзіца з касой клікнула яго вячэраць за шафу, куды ўжо панесла і газнічку. З глінянай міскі на стале ішла пара і пахла чымсь паўзабытым з хатняе ежы; не кідаючы вінтоўку, Азевіч няўклюдна палез у цеснае застолле. Ад міскі позірк яго міжволі матлянуўў па цэлай шарэнзе абразоў у куце, якія таксама непрыемна ўразілі яго — надта ўжо было іх шмат, усе прыбраныя ў рушнікі, з папяровымі кветкамі па ражках. Старáверы тут, гэтыя гаспадары, ці што, падумаў Азевіч, усю ўвагу якога ўжо захапіла страва.

За стол, аднак, ніхто больш не сядаў, і ён не стаў марудзіць, узяў лыжку У місцы былі камы: бульбяная каша з бобам, згаладнелы Азевіч еў яе з хлебам, не зважаючы на прыціхлых гаспадароў, якія зважліва пазіралі на яго з паўцемры хаты. Толькі аднойчы ён злавіў на сабе стоены позірк маладзейшай жанчыны, і здалося яму, у тым позірку мільгануўў клопат і шкадаванне яго ці, можа, і сябе таксама. А можа, яны пабойваліся яго? Але што ён цяпер быў для іх, хоць і пры зброі — жабрак, знясілены і галодны, ён цалкам меўся ў іхніх руках і адно спадзяваўся на іхнюю да сябе спагаду.

— Гляджу, ці не вы ў мястэчку рабілі перад вайной? — зважліва азвалася маладзіца.

— Было, рабіў трохі, — сціпла і знарок не зусім пэўна адказаў ён, павёўшы позіркам да маладзіцы. Тая бы сумелася трохі.

— Здалося, бытта бачыла вас. У РДК.

— Можа быць, можа быць...

Ён не хацеў прызнавацца тут, дзе і кім рабіў да вайны, — ён іх не ведаў, лепш, каб і яны яго не ведалі таксама. Маладзіца моўчкі пачакала трохі, а затым узялася ладзіць яму пасцелю за шафай, у пярэдняй палавіне хаты: прысунула да лаўкі ўслон, прынесла нейкія транты, падушку. Тым часам ён хутка апаражніў міску, нават дбайна паскрэб яе ў дне лыжкай. Недаедзеную

лусту хлеба няўзнак сунуў сабе ў кішэню.

— Дык дзякуй вам, людзі.

— Богу дзякаваць,— сказаў стары, які ўсё сачыў за ім аднекуль з запечча, хоць і нічога ўжо не пытаўся.

Пасля сядалі вячэраць сямейнікі, а ён, сыты і распараны, зняў урэшце шынелак, боты і, не здзеючы фрэнча і галіфэ, лёг на лавах. Вінтоўку паклаў ля сцяны побач. Укрыцца яму далі стары кажух, але было цёпла, і ён з даўно не адчуванай асалодай аддаўся спакою. Гаспадары ў хаце паводзілі сябе сцішана, можа, з увагі да яго, гутарылі шэптам, але менавіта гэтая сцішанасць трохі не падабалася Азевічу: здавалася, гавораць пра яго. Было часам трывожна, ды ён намаганнем волі прыцінаў трывогу — ці яны яму зробяць благое? За што? Здаецца, людзі як людзі, гаспадар сам нацярпеўся на вайне, мог зразумець іншага. Ён ужо засынаў, калі стукнулі дзверы, хтось выйшаў, але неўзабаве вярнуўся зноў. Дзед з ціхім крэктам і войканнем мясціўся на печы; дзесь пачуўся мерны рытмічны шэпт — здаецца, маліліся на ноч. Апошнім ён пачуў ціхае пытанне маладзіцы пра тое, ці зашчапілі дзверы, і заснуў.

Спаў без сноў, забыўшыся на сябе і на ўвесь белы свет, але доўга ці не — не ведаў. Ды раптам прахапіўся невядома ад чаго — нейкага адчування трывогі, і не адразу зразумеў, што гэта стукнулі дзверы. Была яшчэ ноч, здаецца, усе спалі, але знянацкая пужлівая трывога азвалася ў ім сонным спалохам, і ён ускочыў на ногі.

— Хазяін! Хазяін!.. Дзе хазяін?..

На дзіва яму не адказалі, хоць ён адчуваў, што там, у запечку, за агародкай яго ўчулі. Ды ўсе маўчалі. Але дзе ж гаспадар? Мабыць жа, ён клаўся разам з усімі, увечары быццам ніхто не выходзіў з хаты — ці не выйшаў ён зараз? Нарэшце на яго ўстрывожанае пытанне азвалася жанчына, якая дрыготкім няпэўным голасам вымавіла:

— Ды ён да каровы... Карова там сцельная, дык выйшаў паглядзець.

— Карова? Дзе карова?

Азевіча калаціла — ад спалоху і чорнага цяжкага падазрэння, у якім, адчуваў, не памыляецца.

— У хляве, вунь за дваром.

Азевіч таропка абуўся, ускочыў, хістаючыся са сну, напяў на сябе шынелак, накінуў рамяні — ад кабуры і сумкі, падхапіў вінтоўку. Моўчкі, не развітваючыся, выскачыў праз сені ў шэрае начное сутонне падворка, кінуўся да зачыненых дзвярэй хлява, да другіх, стоена-гучна гукаў:

— Хазяін!.. Хазяін!..

Адказам яму было ціхае соннае кудахтанне на курасадні, сцішана рохнула дзесь свіння. У астатніх хляўках было ціха, гаспадар не азваўся, і ён злосна вылаяўся.

Ён выскачыў на вуліцу і адразу спыніўся, не ведаючы, у які бок падацца. Хацеў назад, у лес, адкуль ён прыйшоў увечары, але падумаў: на дарозе дагоняць. Тады ён ірвануў наўпрост цераз дарогу ў поле; выламваючы на глыжах ступні, перабег раллю і гразкім стаптаным іржэўнікам пабег кудысьці ў ноч. Наўкола ляжала цёмнае поле, дзе-нідзе грувасціліся адзіночныя дрэвы, дзьмуў сцюдзёны напорысты вецер; праўда, дажджу не было. Нізкае неба густой чарнатой прыдушыла палявы прастор, да раніцы, мабыць, было яшчэ далёка... Неўзабаве, аднак, ён угрэўся ад бегу і хуткай хады, нават стаміўся. Са шкадаваннем успомніў пра свой рукзак, які пакінуў ля ўслонаў. Ну, але хай падавяцца яго жабрацкім майном. Яму б зберагчы галаву. Куды бегчы далей, не ведаў, хацелася далей ад таго здрадніцкага хутара, дзе накармілі і паклалі спаць. Мабыць, каб прадаць паліцыі, бо куды ж яшчэ сярод ночы шаснуў той гаспадар? Добра яшчэ, што Азевіч пачуў, прахапіўся, а то б узялі на золаку цёпленькага,

як таго Клімянкова. Ну, але цяпер не дагоняць, цяпер ужо ён уратаваўся ад іх. Хай шукаюць ветру ў полі. Вось толькі куды ён кіруе? І куды кіравацць наогул?

Паволі ён збавіў крок, пайшоў цішай. Абышоў нейкі голы хмызняк, за якім пачалася мяккая трава пад нагамі — мабыць, зноў лугавіна ці, можа, поплаў. Калі поплаў, дык будзе кепска — за поплавам можна набрысці на рэчку, як тады перайсці яе ў цемры? Увесь час ён узіраўся наперад, прысядаў, каб на фоне трохі святлявага неба што-небудзь пабачыць ды зноў не налезці на які хутар ці вёску. Цяпер ён ужо баяўся паселішчаў і людзей, ведаў: ад іх трэба быць далей. Але і як быць без людзей? Неўзабаве, мабыць, пачне развідняцца, што тады рабіць? Дзе схавацца? Хоць бы як перабыць дзень?

Світанак застаў яго на краі нейкага чэзлага драбналесся — алешнік з маладым бярэзнікам ціха высвістваў на ветры сваю нескончоную песню. Азевіч доўга ішоў, кіруючы па-над узлескам, ужо зусім не ведаючы куды. Ён ужо добра ўгрэўся, ажно спатнела спіна, вінтоўка муляла на плячы, боўталася збоч тоўстая гарадзілаўская сумка. І як трохі стала відаць наўкола, ён выгледзеў у голым зарасніку непадалёк адзіночную хвойку і праз гушчар пралез да яе. Мабыць, вінтоўка яму ўжо не спатрэбіцца, падумаў ён і, зняўшы яё з пляча, сунуў пад нізкае голле хваінкі. Туды ж запіхаў і сумку. Адышоўшыся, азірнуўся: мясціна ўвогуле была прыкметнай, хваін тут было няшмат, і гэтая стаяла сама бліжэй ад узлеску, насупраць адзінокага дрэва ў полі. Кабура на доўгім рэмені дакучліва целяпалася па сцягне, і ён, зазлаваўшы, выняў з яе наган, а кабуру шпурнуў у хмызняк. Наган, канешне, ён пакуль што не кіне, глядзі, той яшчэ спатрэбіцца. Але зверху навідавоку хай нічога не будзе. Цяпер ён — проста чалавек. Прахожы. Ідзе з акружэння.

Калі яшчэ больш павіднела, непадалёк, у якім кіламетры, ён заўважыў дарогу — рад тэлеграфных слупоў, і за паваротkай — фурманку ўдалечы. Яму ж

трэба было ісці цераз поле, дзе яго ўжо маглі ўбачыць здалёк. І ён спыніўся. Мабыць, трэба было лезці ў хмызняк, усё ж там больш схоўна, чым у адкрытым полі. І ён пабрыў хмызняком, часам абыходзячы самы гушчар, а то і нагінаючыся і падлазячы пад нізкае ляшчынавае голле, прытрымліваючы картуз на галаве. Тут ужо яго ніхто ўбачыць не мог. Аднак ён не ведаў, ці хутка выберацца з гэтых зараснікаў, каб хоць як агледзецца і зразумець, дзе ён апынуўся. Усё ж, мабыць, трэба было кіравацць на поўдзень. Толькі вось зразумей, дзе ён, той поўдзень?

Так ён набрыў на купку хвойнага маладняку, які тут па-летняму зеляне ў сярод сумна аголенага драбналесся, і палез у яго сярэдзіну. Між калючага голля было сцішана і схоўна, вецер сюды, бадай, не дасягаў, і Азевіч бокам апусціўся на мяккі, усыпаны ігліцай дол. Мабыць, тут і пераднюе. Спачне за д'ябальскі турботную ноч, а галоўнае, яму трэба было вырашыць, як быць далей, куды падацца? Бо такое бадзянне, адчувау ўжо пэўна, дабром не скончыцца. Скончыцца бядою, якая можа стацца для яго апошняй.

Вецер, аднак, густа шумеў угары, сярод хвойнага веццця, унізе ж было цішэй. Азевіч скурчыўся на баку, сашчапіў у шырокіх рукавах азызлыя рукі. Галаву, як можна было, уцяў у шырокі каўнер шыняля, дыхаў сабе на грудзі — тым грэўся. У думках ён не першы ўжо раз перабіраў знаёмыя мясціны раёна, вёскі, дзе некалі быў, прыгадваў сяго-таго са знаёмых людзей. Цяпер не на кожнага можна было спадзявацца, многія, мабыць, апынуліся ў войску па мабілізацыі ці падаліся ў эвакуацыю, хто-ніхто, канешне, перамятнуўся да немцаў. А калі не перамятнуўся адкрыта, дык у душы наўрад ці спачуваў нядаўнім кіраўнікам раёна, мясцовым актывістам. Перш чым да каго завітаць, трэба было добра падумаць, прыпамятаць, чым ён дыхаў у нядаўнія часы перад вайной, гады класавай барацьбы, выкрыцця ворагаў народа. Хоць тады і вырвалі шмат з каранём, але ж, мусіць, не ўсіх. Мабыць, нямала яшчэ і засталося, хіба не выявілася тое на пачатку вайны? Во хоць бы і гэты акружэнец, да якога ён так няўдала

завітаў учора: і накарміў, і мякка паслаў на лавах, а сам паначы — да тае паліцыі. Нездарма ўвечары не даў штосьці сказаць дзеду. Прыступіў на язык. Ах, падла! Фашыстовец пракляты!

Усё ж ляжаць на голай стылай зямлі было не надта каб зручна. Ён круціўся і так і гэтак, усё роўна было мулка і дужа холадна, асабліва сцёгнам. Мусіць, мінула нямала часу, пакуль цела трохі прызвычаілася да гэтае ветранай халадэчы, Азевіча патроху пачала агартаць нейкая санлявая знямога. Хоць і разумеў, што спаць было небяспечна, ну але, можа, не набрыдзе хто. Усё ж пры лесе, у гушчары, не тое што ў полі ці пры дарозе. І праўда, на грудзі, у запазуху ён надыхаў трохі, стала цяплей, нібы сугрэўней. Адно па-ранейшаму даймала скалелыя мокрыя ўсе тыя дні ногі. Боты разваліліся дарэшты, добра, што ў лесе выручалі пасталы з падасланым на сподзе сенам. Калі засцерагчыся ад вады, па сухім снезе дык у пасталах нішто і ў вялікі мароз.

...А марозік быў ніштаваты, асабліва ціскануў перад змяркannем, яны ўсе добра ўработаліся, пакуль разгрузілі на руме свае кубаметры рудстойкі, у вёску вярталіся ўжо цёмным вечарам на стомленых конях. Конік тады ў Ягора быў неблагі, немалады, але цягавіты і непераборлівы Варанок, якога ён клапатліва пакрыў папонай і завёў у загародку з добраю ахапкай свежага мурожніку — хрумстай конік, адпачывай да заўтра. Зрэшты, назаўтра меўся быць яму выхадны, а Ягору — свята. Хрышчэнне. Ужо заўтра мужыкі ў бор не паедуць — паедуць да царквы ў мястэчка. Ягор да царквы не збіраўся — пакуль мыўся ў качарэжніку над цэбрам, усё меркаваў, ці сёння злятаць да Настачкі, ці ўжо заўтра, на святы вечар. Настачка жыла ў суседняй цераз поле вёсцы Староўка, насельнікі якой амаль скрозь былі каталікі, у іхняй жа — бадай, скрозь праваслаўныя. На свята каталікі ехалі за дваццаць вёрст да касцёла ў сваё мястэчка Альхімовічы, а гэтыя — у другі бок за васемнаццаць вёрст у Межава, дзе былі царква і сінагога. Ну, а па тым часе дык ужо ўсталяваліся і раённыя ўлады — райком, райвыканком, нардом і ўсё

астатняе. Касцёла там не было.

Ягор мыўся, а маці тым часам таропка збірала на стол паесці, бо сын добра-такі згаладнеў у лесе. Ён скінуў намерзлыя пасталы з анучамі, развешаў у запечку — хай сушацца. Там жа знайшоў суконныя панчохі і дастаў з-пад ложка свае юхтовыя боты. Боты былі ягоным клопатам. У такі час на працы ў полі ці ў лесе звычайна служылі пасталы з сенам на сподзе, але на пагулянку трэба былі боты. Толькі ягоныя, відаць, адгулялі сваё — вось-вось гатовы былі ашчэрыць зубы, хоць ён і падбіваў іх не адзін раз. Боты патрэбны былі новыя, але дзе возьмеш новыя — у краме не купіш, трэба шыць, але прыватных шаўцоў вывелі, а ў арцель патрэбна даведка пра тое, што ўсё у гаспадарцы сплочана. На жаль, у гаспадарцы было далёка не ўсё сплочана. Ягор пра боты нават не заікаўся пры бацьку. Пакуль ён абуваўся на лаве, маці кідала на яго незадаволеныя позіркі і не пыталася, не дакарала, толькі скупа зазначыла: "Пойдзеш?" Ён не адказаў, хоць ужо пэўна ведаў, што пойдзе. Учора маці бурчэла: "Во акруціла, дык акруціла!" Гэта — пра Настачку. Ягор маўчаў, хоць адчуваў, што ніхто яго не абкручваў, тым болей такі матылёк, як Настачка, і калі ён пахінуўся да яе, дык па чыстае сваё волі. Настачка тут ні пры чым. Проста пра гэты вечар ён думаў увесь дзень у лесе, пакуль варочаў там мерзлае калоддзе, і цяпер надышоў яго час. Настачка чакае. Прыкра, што сястры Ніны недзе не было дома і ён не ведаў, ці будзе сёння вечарына ў Суботкаў, якія мелі прастарнейшую хату і пускалі маладых з гармонікам. "А дзе ж Нінка?" — папытаўся ён, нацягваючы на крутаватыя плечы чорную сацінавую сарочку з белымі гузікамі на каўняры. Быў ён хлопец нішто сабе, высокі і чырванашчокі, меў тады дзевятнаццаць гадоў, марыў пра вайсковую службу і ўжо ўступіў у мясцовую ячэйку камсамола. "А ў Суботкаў", — сказала маці. "Што, скокі?" — "Якія скокі — начальнік з раёна прыехаў. Сход ідзе. І бацька там, і Ніна". Сход дык сход, падумаў Ягор, сходаў на тым часе хапала, лічы, кожны тыдзень ішлі ў вёсцы сходы. Усё ж ён трохі паморшчыўся, прычэсваючы мокрыя віхры перад цьмяным люстэркам.

Краёчкам свядомасці сцяміў, як бы той сход не парушыў увесь яго сённяшні план.

Мабыць, тады ён адчуў, хоць і няпэўна, але па сутнасці амаль дакладна. Той сход не толькі парушыў яго вечаровы намер, але і перайначыў усё жыццё, надаўшы таму кірунак, які Ягору і не сніўся.

Не паспеў ён яшчэ дасёрбаць свой крупнік акрай стала на разасланым чыстым настольнічку, як у хату ўбегла Нінка. За ёй нязграбна сунуўся яшчэ нехта, каго ў вечаровых прыцемках не адразу было і пазнаць. Але пазнаўшы, Ягор зразумеў: па яго. І праўда, то быў сельсавецкі сакратар Пракапчук, які адразу з парога загаварыў бы нават устрывожана: "Во добра, заспеў. А то Ніна кажа: у Староўку браток лупане... Дык гэта, знаеш, патрэба да цябе..." — "Ну?" — "Такое ну — трэба пасля сходу старшыню РВК у раён адвезці..."

Ягор аж абурыўся ўнутры, хоць знешне пастараўся тое ўтаіць, не сказаў нічога. Толькі падумаў: прыехаў з лесу, не паспеў павячэраць, заўтра выхадны, Настачка...

Памаўчаў, апанурана буркнуў: "А што ён? Бясконны..." — "Не бясконны, але возчык ягоны падупаў, ехаць не можа..." — "А, падупаў!" — хмыкнуў Ягор. "Ну, набраўся, спіць у Залескіх. Дык выручы ўжо, бо ж камсамолец..."

Тое, што ён камсамолец, Ягор чуў не ўпершыню, і тое заўжды азначала, што ён павінен штосьці для каго зрабіць: ці ўслужыць каму, ці падзяжурыць у сельсавеце, ці з'ездзіць куды. Не тое, каб яго камсамольская прыналежнасць надавала яму гонару, але неяк абяззбройвала ў такі момант, і ён не меў як адмовіцца. Мусіў слухацца. Як бы там ні было, паход у Староўку адкладваўся. Павячэраўшы, Ягор надзеў сваю рудую суконную паддзёўку з аўчынным каўняром і пайшоў на сход. На падворку ў Суботкаў стаялі мужчыны, курылі, тут жа ля хляўка прыткнуўся сіні з чырвонымі аглоблямі старшынёў вазок, над якім укрыты папонай жаваў сена вараны конік. Ягор абышоў

гэтага рахманага, мабыць, не старога яшчэ каня з белай плямай на лбе, які падазрона скасавурыўся на яго, выцягваючы з вазка мурожныя жменькі. Відаць, нешта адчуў — новага гаспадара, ці што? Ці мо тое, што цяпер іх двух лес звяжа на доўгія два гады неспакойнага, поўнага трывог і спадзяванняў жыцця.

Ягор у той раз нават не зайшоў у хату на сход, пакурыў з мужчынамі на ганку, а як з хаты хлынуў на падворак люд, узяўся за вупраж, што ляжала тут жа ў перадку. Ён запрагаў каня, адчуваючы пэўную няёмкасць ад таго, што браўся за чужую справу, і ўсё паглядваў цераз плячо на ганак, дзе ўжо стаяў, гамонячы з прыліплымі да яго мужчынамі, старшыня РВК Заруба. Таго Зарубу Ягор бачыў усяго некалькі разоў — на сходах у вёсцы ды адзін раз у раёне каля сталоўкі, але размаўляць з ім не даводзілася ні разу. І цяпер, як ягоны сядок падышоў да вазка, Ягор сціпла пажадаў яму "добры вечар" і пачаў выкіроўваць каня з падворка.

Ехалі паначы абодва моўчкі. Заруба наставіў вялікі каўнер чорнага паўшубка і маўчаў, мабыць, перажываючы нядаўнюю гаману на сходзе. Ягор маўчаў тым болей — ужо хоць бы з павагі да начальніка. Конь, мабыць, адпачыў, пад'еў і бег добра па ўезджанай палявой дарожцы, хоць Ягор і не падганяў яго. Ён не меў нават пугі, толькі зрэдчасу лёгенька тузаў раменнымі лейцамі.

Аднак была ўсё ж ноч, абапал шарэлі заснежаныя пералескі, пасля пачаліся змрачнаватыя яловыя шаты Галубяніцкай пушчы, і Ягор падумаў, дзе ж, аднак, ён заначуе сёння? Ні дадому, ні да Староўкі яму ўжо не дапяцца, трэба будзе шукаць начлег у мястэчку. Праўда, там быў адзін знаёмец — прымак з іхняй вёскі, Ягор ведаў ягоную хату, але жонка ў таго прымака не дужа падабала такіх во начлежнікаў, і Ягор падумаў, што да яго не пойдзе. Ён так і не вырашыў нічога на той лесавой дарозе, а як выехалі ў поле, Заруба ціха сказаў з-за свайго заінелага каўняра: "Тут павернеш налева". Ягор пацягнуў лейчыну, і конік панятліва збочыў на паваротку ў лагчынку, за якой, ведаў Ягор, выцягліся

па касагоры хаты доўгае вёскі Кандыбічы. Там жа быў сельсавет і школа ў былым панскім маёнтку.

Як яны ўехалі ў вуліцу, у хатах яшчэ дзе-нідзе свіціліся вокны, але ўжо пакрысе гаслі — было, мабыць, апоўначы. Заруба не казаў, куды кіраваць, і Ягор пусціў каня самахоць, які некуды тупаў-тупаў і сам сабой прыпыніўся пад вялізнымі дрэвамі ля доўгай будыніны школы. На рагу яе расплывіста свіцілася замерзлае акенца ад блізка да шкла пастаўленай лямпы. Заруба цяжкавата выбраўся з вазка і, падышоўшы да гэтага акенца, ціха пастукаў у шыбіну. Пасля ён пайшоў за рог і прапаў, нічога не сказаўшы Ягору, які ўсё сядзеў у вазку з лейцамі ў руках. Сядзеў, аднак, нядоўга — з-за вугла выйшаў чалавек у накінутым на плечы кажусе з ліхтаром "лятучая мыш", ён махнуў Ягору заязджаць у двор, а як той апынуўся ля ганка, сказаў: "Распрагай. Каня вунь туды ў хлеў, там сена, пакорміцца" і пайшоў у дамоўку. Ягор, адчуваючы лёгкае недаўменне, распрог, завёў у цёмны хлеў каня, туды ж прыбраў вупраж і стаў ля вазка, не ведаючы, што рабіць далей. Здаецца, ехалі ў мястэчка, а прыехалі ў Кандыбічы. Ну, але то не ягоная справа, можа, адгэтуль яго адпусцяць дамоў, дык гадзіны за тры ён дашыбае да Староўкі. Настачка, мабыць, яшчэ не спіць, слухае, чакае...

Аднак не адпусцілі.

Праз трохі часу прыадчыніліся дзверы і ўсё той жа чалавек у кажуху паклікаў яго ў дамоўку. Ягор пратупаў за ім цераз пусты цёмны пакой і апынуўся ў невялікім, дужа цёплым пакойчыку, асветленым вялікаю пры акне лямпай. Побач на стале стаяла якаясь ежа, і на падлозе ля грубкі параваў самавар. Распрануты да гімнасцёркі з ордэнам над кішанькам сядзеў ля стала Заруба, піў гарбату. "Ну, чайку пап'еш, пагрэешся? — спытаў ён у Ягора і кінуў гаспадару — немаладому хударляваму мужчыне з падстрыжанай бародкай і ў камізэльцы на кастлявых плячах: — Хлопец з Ліпаўкі". — "З Ліпаўкі? — здзівіўся гаспадар. — А чый жа там будзеш?" — "Азевічаў",— скупа адказаў Ягор. "Азевічаў? — яшчэ болей здзівіўся гаспадар. — Глядзі

ты, які вырас! Некалі з тваім бацькам у войску служылі. Чэсны чалавек, працавіты. Зямлі толькі меў малавата, тры дзесяціны, ага?" — зноў звярнуўся ён да Ягора. "Тры",— сказаў Ягор. "Ну а ты ж вучыўся? Колькі класаў скончыў?" — "Чатыры",— сказаў Ягор, трохі сумеўшыся, што ўвага гэтых людзей нечакана перайшла на ягоную персону. Заруба ў той час дапіў сваю шклянку і зазначыў: "Малады, граматны. Вот возчыкам хачу ўзяць. У выканком,— павярнуўся ён да Ягора. — Кажуць, коней падабае. Дык пойдзеш?" — і скіраваў на Ягора цяжкі, маларухавы позірк з-пад чорных, гняўліва навіслых броваў. Для Ягора то было пэўнаю неспадзяванкай — ён не ведаў, як адказаць старшыні выканкома, хоць нешта ў той прапанове засвяцілася радаснае, але і страхавітае адначасна. "Дык я... не ведаю. Каб... Але ж гаспадарка..." — "Ну, з гаспадаркай і бацька ўправіцца. Зноў жа — суцэльная калектывізацыя градзёт, так што згаджайся..."

Пакутныя то былі хвіліны для Ягора Азевіча, рашыць канчаткова ён тады не мог. Ды разумны Заруба, мабыць, адчуў, што рабілася ў душы ў хлопца, і не стаў дужа патрабаваць адказу, нешта загаманіў да гаспадара, як зразумеў Ягор, настаўніка тае школы, якога ён зваў Арцём Андрэевіч.

Ягор выпіў шклянку гарбаты з нейкімі сушкамі, і Арцём Андрэевіч павёў яго ў трэці цёмны пакой з ляжанкаю пры сцяне, скінуў з сябе кажух — яму накрыцца. Як за ім зачыніліся дзверы, Ягор сцягнуў боты, падумаўшы са страхам: каб хоць не адвалілася падэшва, і, не распранаючыся, выцягся на старой мулкаватай ляжанцы. Нейкі час ён яшчэ слухаў ціхую мужчынскую гаману з-за дзвярэй, але дужа не ўслухоўваўся ў яе і заснуў, бы праваліўся ў нябыт. Нічога яму не прыснілася, толькі раптам здалося, што праспаў ранак, — прахапіўся, адразу зразумеў, дзе ён. Але ў намерзлых вокнах была чарната, і ў суседнім пакоі ўжо панавала ціш, мабыць, ягоны старшыня з гаспадаром таксама недзе спалі ў гэтым вялікім панскім доме, які цяпер займалі пад школу і пад настаўніцкія кватэры таксама. Хаця настаўнікаў тут, пэўна, было няшмат, школа

лічылася пачатковай — на чатыры класы. У пакоі было халаднавата, і Ягор адчуў, што хутка настане світанак. Трэба было дагледзець каня ды, мабыць, збірацца ў дарогу. Як ён выйшаў з таго пакоя, насустрач аднекуль з цемрадзі вынікла постаць гаспадара — той ціха сказаў, што старшыня яшчэ адпачывае, але праз гадзіну ён яго пабудзіць, а пакуль што можна папаіць каня, вядро і вада ў сенцах.

Ён упарадкаваў каня, які ўжо быццам неяк прывык да яго і не касавурыўся. То быў неблагі Белалобік, здаецца, нетутэйшай заводкі, падобна — кавалерыйскі. Ва ўсякім разе куды лепшы на выгляд за спрацаваных сялянскіх дэрбін, ахаджваць такога была адна ахвота. Але ж там, дома, застаўся яго Баранок... Канешне, галодны стаяць не будзе, ужо бацька дагледзіць, ды ўсё ж у Ягора варухнулася ў грудзях шкадаванне да ягонага трудзягі — што з ім будзе далей? Вядома, ён ужо пагадзіўся з прапановай рабіць у выканкоме возчыкам, хоць бы каб вырвацца з вёскі ў людзі. Усё ж у мястэчку жыццё, культура... Ды й, мусіць жа, будуць плаціць нейкае жалаванне, не трэба будзе рваць кішкі на гаспадарцы. Тым больш калі калектывізацыя. А калі і не, дык Нінка возьме прымака Міколу Савасценю, які ўжо набіваўся, каб ажаніцца. Ведама, хлопец ён не дужа каб хуцавы жаніх, але працаваць будзе. Тым болей што і Ніна, бы мурашачка, — круглы год у працы, ад цямна да цямна, за ўвесь дзень не прысядзе, бывала. Усё рупіцца, усё носіцца...

Неўзабаве ўстаў і Заруба, зноў папілі чайку і, падзякаваўшы гаспадару, які іх праводзіў за вароты, паехалі. Ягор чуў, як, на запросіны заязджаць, Заруба ціха сказаў звязка: "У чацвер, мабыць. Калі ў Полацак не паеду..."

Для Ягора Азевіча пачалося новае, спярша ажно страхавітае жыццё ў раёне. Пакуль што яно абмежавалася клопатам пра Белалобіка, ні пра што іншае ён і не думаў. А ўсё — каб запрэгчы, распрэгчы, накарміць, напаіць цёплай вадой, дагледзець збрую. Сядзёлка трохі націрала хрыбет, ён гэта выявіў, як

раніцай чысціў каня, і трохі падправіў лямец на сядзельнай падушцы. На выканкомаўскай стайні было яшчэ тры кані і тры фурманы-возчыкі. Але бадай усе дні яны былі ў раз'ездах, Азевіч бачыў іх толькі мелькам, калі ўранку ці ўвечары. То былі ўжо ў гадах дзядзькі, а адзін Волкаў дык нават стары, можа, яшчэ дарэвалюцыйны фурман з сівой барадой. Казалі, у яго хацелі рэквізаваць каня, каб для ўлады, дык ён не адцаў таго ў чужыя рукі і пайшоў сам разам з канём на рэквізіцыю. З таго часу і робіць у выканкоме, возіць загадчыка райза. Казалі, харошы фурман, толькі не актыўны, не любіць сядзець на сходах, дзе дым і гармідар, лепш у вазку ці на стайні, дзе начуе ягоны стаеннік. Ягор жа дык падабаў сходы. Звычайна дзе ў вёсцы, упарадкаваўшы Белалобіка, сядаў ля парога і слухаў усё, што там рабілася. Асабліва любіў ён слухаць свайго начальніка Зарубу, як той выступаў з прамовамі. Пачуўшы яго першы раз у Стадолішчах, Ягор аж здзівіўся. Удзень негаваркі, нават болей маўклівы, старшыня выканкома на сходзе ўвачавідкі мяняўся — па меры таго як казаў сваю прамову ўсё пра тое, як блага жылі пры цару, які тады трывалі ўціск. Пачынаў быццам з неахвотай, спаважна, нияк бы зморана. Але чым далей гаварыў, асабліва натрапіўшы на перспектывы новага калгаснага жыцця, тым болей пачуцця прыбывала ў ягоным голасе. Недзе ўжо пад канец той голас дасягаў мяжы пераканаўчасці, а затым ішоў марудлівы спад, бы ад стомы. І канчаў Заруба тым жа памяркоўным тонам, як і пачынаў. Слухалі ж яго мужыкі і бабы, паразяваўшы раты. Мусіць, такі ж разяўлены рот быў і ў Ягора, які думаў: во каб мне навучыцца выступаць гэтак прыгожа.

Канешне, тады ён не ўмеў гэтак прыгожа, але марыў навучыцца. На сходзе местачковай камсамольскай ячэйкі, дзе ён ужо ўзяўся на ўлік, яму нияк давялося выступіць. І так гэта атрымалася няўклюдна, нават сарамліва сярод незнаёмых дзяўчат і хлопцаў, што ён аж спацеў, пакуль выціснуў з сябе некалькі фраз пра абавязак камсамольца ў справе калектывізацыі. Добра, яго перапыніў нехта з байчэйшых, і толькі адна камсамолка, што сядзела наперадзе, усмешыстая, з

белай высокай стрыжкай, добра ўсміхнулася аднымі вачмі і шапнула: "Нічога, нічога". Як пасля дазнаўся Ягор, гэта была камсамолка Паліна Пташкіна. Пасля яна таксама выступіла — натхнёна, баявіта, не пажаночы рэзка. У хлопцаў і дзяўчат ажно гарэлі твары ад яе заўзятага выступлення. Во гэта малайчына, думаў Ягор. Дзе гэтак Настачцы, ды і яму таксама. Мабыць, трэба было падцягвацца, авалодваць новымі завядзёнкамі, як гэта і належала перадавой у раёне моладзі. З таго сходу ён узяў сабе за правіла кожнага ранку прачытваць невялікі аркушык раённай газеты "Шлях камунізму", стосік якіх два разы на тыдзень клаўся на стол у прыёмнай старшыні РВК. Ягор начаваў у суседнім пакоі на двух ссунутых разам сталах, уставаў рана, даглядаў у дваровай стайні каня і, пакуль прыходзіла сакратарка Рыма, меў трохі вольнага часу. Калі ж не спраўляўся прачытаць усю газеціну, дык абавязкова праглядаў хоць перадавіцу, з якой даведваўся пра галоўныя справы ў раёне. Галоўнай справай тады, вядома, была калектывізацыя, тэмпы якой якраз апынуліся пад пагрозай зрыву. Звычайна ўжо зранку Ягор разумеў, што сёння выпадзе яму немалая дарога — у тры ці чатыры вёскі, не меней. Калі яшчэ была гадзіна часу, дык ён паспяваў збегаць цераз вуліцу ў сталоўку — талоны яму ўжо выдалі. Але ў сталоўцы ён збольшага снедаў, абедаць жа ці вячэраць даводзілася абы-дзе. Дзе Бог пашле. Часам перападала і няблага, нават з чарчынай, калі трапляў да добрых людзей, а то бывала, што і абыходзіўся на пусты жывот. Вярталіся ўвечары позна, сталоўка ўжо зачынялася, Ягор карміў каня і самотна выпроствался на сталах, нацягваючы на плечы караткаватыя полы паддзёўкі.

Можа, на другім тыдні ягонае працы ў раёне здарылася тое, чаго ён чакаў і баяўся — адарвалася падэшва. Адарвалася якраз уранку, як ён нёс вядро з пойлам яго Белалобіку. Ён спрабаваў неяк прыладзіць яе, тую стаптаную падэшву, але не паспеў таго зрабіць, як у прыёмную ўвайшоў Заруба і ўсё зразумеў з першага позірку. "Ты гэта во што,— сказаў ён. — Ідзі сюды!" Ягор, накульгваючы, пайшоў за старшынёй у ягоны кабінет з вялікім сталом, пакрытым кумачом, паверх

якога блішчала вялізная шыбіна на розных паперах, і старшыня нешта напісаў на невялікім аркушы. "Во, ідзі ў арцель, спытаешся там Ісака. Аддасі яму гэта". — "А запрагаць?" — "Запрагаць сёння не трэба. Паедзем заўтра", — сказаў Заруба і павярнуўся да сцяны, дзе пад партрэтам Леніна вісеў чорны тэлефонны апарат — пачаў круціць ручку.

Ягор ужо ведаў, дзе была шавецкая арцель, і памалу паклыпаў наезджанай снегавой вуліцай за вялізную будыніну сінагогі. Па-над доўгім сталом у прасторнай дамоўцы сядзелі чалавек дзесяць шаўцоў — усе стукалі малаткамі, шылі дратвай, курылі махорку і гаманілі. Як Ягор увайшоў, першы, хто звярнуў на яго ўвагу, быў сівабароды стары яўрэй, ён паўзіраўся ў яго счырванелымі вачыма і адказаў на яго "добры дзень". Ягор папытаўся, хто тут Ісак, і дастаў паперку. Сівабароды, не адкладваючы з каленяў гамаш, працяг да яго руку. "Во тут таварыш Заруба напісаў". Шавец паправіў на носе акуляры і выцяг далей руку з запіскай. "Зараз пачытаем, што піша таварыш старшыня РВК,— сказаў ён так, каб усе пачулі. — Ага, усё панятна! Скідывай свой бот, будзем глядзець-радзіць,— якія там справы..." Ягор прысеў на канец услона і сцягнуў бракаваны бот, рукой няёмка прытрымаў на нямытай назе бруднаватую анучу. "Ай-яй-яй! Тут работы на дзень. Трэ новую падмётку. Ды і саюзкі..." — "Саюзка быццам цэлая",— нясмела ўставіў Ягор. "Ага, цэлая! Вы на яго паглядзіце; ён кажа, цэлая! А за што яе падбіць? Ці яна будзе на чэсным слове трымацца?" — "Ісак, а ты яе за язык падчапі",— з'едліва сказаў хтосьці з шаўцоў, а іншыя ахвотна засмяяліся. "Ісаку што, Ісаку не шкада... Калі Заруба піша, дык я з ягонага фонду. Ужо фонду таго засталося на пару ботаў..."

Між тым Ісак хуценька вывернуў халяву, надзеў бот на чыгунную прыладу, якая ў шаўцоў называецца "лапай". Ягоныя вялікія чорныя рукі так замільгалі над ботам, што Ягор не мог сцяміць, што і як ён там робіць. А ён рабіў, усё прыгаворваючы, штосьці жартуючы да суседзяў-шаўцоў, раз-пораз кідаючы позіркі па-над акулярамі на прымоўклага кліента. "А ты што — у

выканкоме робіш? Ага, возчык? Дык возчыкам жа Даўнарскі быў? Зволілі, кажаш? Правільна. Даўно трэба было звольніць. Во п'яніца. А сам скуль родам? А, з Ліпаўкі! А жывеш дзе? Ці ў прымаках у каго?" — "А ты, Ісак, можа, хлопца сасватаць хочаш?" — падняў ад бота белабрысы твар маладзейшы шавец. "Магу і сасватаць, а што? У мяне рука лёгкая, гэта жысць цяжолая. Што, у выканкоме спіш? Гэ, то не гадзіцца". — "Вось і ўзяў бы да сябе. Твае ж настаўнікі з'ехалі",— сказаў нехта з другога канца стала, і Ісак зноў уважліва зірнуў на Ягора. "А што ты думаеш — магу і ўзяць. Халастога-нежанатага чаму не ўзяць? Калі ўпадабае". — "Дык было б добра",— сумеўся Ягор. "Праўда? Тады прыходзь увечары — вунь трэці дом пад гонтай",— паказаў Ісак у акно. Ягор зірнуў туды — сапраўды, крыху далей на вуліцы, якраз на пагорку, між дзвюма ліпамі ў гародчыку, стаяла нішто сабе дамоўка з гонтавым дахам.

Ягор зусім акрыяў духам, калі хвілін праз дваццаць Ісак стукнуў перад ім на падлозе гатовым адрамантаваным ботам з новай падмёткай і вузкай палоскаю лапіка на саюзцы — можна было абуваць. І ён абуў, адразу адчуўшы сябе куды з большай упэўненасцю, падзякаваў. Ісак жа ўжо завіхаўся над набітым на капыл гамашам. "Дык увечары, уваход са двара. Праз парадны не прымаю — рэвалюцыя адмяніла",— пажартаваў ён на развітанне.

І праўда, позна ўвечары, спарадкаваўшы каня, Ягор пайшоў шукаць Ісакаву дамоўку. Ён пазнаў яе ў снегавой цемені па тых дзвюх ліпах і ледзьве знайшоў дзверы з двара, поўнага нейкіх хлеўчукоў, свіранкоў, паветак. Відаць па ўсім, некалі тут жыла вялікая сям'я, мо нават і не адна, а цяпер свіціліся толькі два акны з падворка, і нікога не было чуваць. Але Ісак яго чакаў і адразу расчыніў дзверы насустрач.

Ягор не памыліўся: на ўсю гэтую вялікую дамоўку жыў адзін яе гаспадар, іншыя пакоі пуставалі, у тым ліку і той, што меў асобны ўваход, праз які і прывёў яго Ісак, паказваць новае жытло. Было цёмна, ды ўсё ж таго

святла, што пранікала сюды з заснежанай вуліцы, хапіла, каб Ягор збольшага агледзеў месца, дзе яму давядзецца жыць. То быў вялізны, бы стадола, і пусты пакой з адзінай скрыняй пры парозе, нізкаю століллю і трыма невялікімі акенцамі на вуліцу. Халадэча тут стаяла такая, што было відаць, як з рота ідзе пара. Але што ж, выбар у Ягора быў невялікі. У выканкоме было цяплей, ды не жыць жа яму там, дзе можна было хіба пераспаць да ранку. Добра, што побач на скрыні ляжала нейкая лахманіна, накшталт конскай гунькі, на якую ён і прысеў, даючы тым зразумець, што пакой упадабаў і застаецца. Гаваркі Ісак, аднак, не спяшаўся яго пакінуць і ўсё расказваў, як тут улетку жылі дзве настаўніцы, як ім было зручна, бо мелі асобны ўваход, тры акны на вуліцу, а да вайны пакой займала сястра Голда з дзеткамі і стары Ёхель, тутэйшы залатар, ды яго забілі балахоўцы, а стрыечныя ўнукі, падросшы, не захацелі тут жыць і паехалі ў белы свет — ім, ці бачыце, стала цесна і нецікава ў мястэчку. Ім каб у горад, бліжэй да класавай барацьбы. Дужа ўжо ўпадабалі класавую барацьбу, запісаліся ў камсамольцы, а ён, Ісак, усё жыццё шые боты. Папраўдзе, боты шыў да рэвалюцыі, цяпер рамантуе розныя развалюхі-бахілы, бо шыць новыя няма з чаго, няма тавару. А ён — майстра, некалі пачынаў у шаўца ў Варшаве, вучыўся дванаццаць гадоў — болей, чым цяпер вучацца на настаўніка, мае дыплом з гербамі, бо шыў фасонныя боты-бутэлькі для самога прыстава, а цяпер зашывае дзіркі на стаптаных гамашах. Але ён не наракае — такі час. А Ёхелю ўжо ніколі не ўбачыць зялёнай травы, так што яму, Ісаку, яшчэ можна зайздросціць. Можа, і пляменнікі таксама пазайздросцяць, бо невядома яшчэ, да чаго давядзе тая іх класавая барацьба. Можа, да сумы, а можа, і да турмы...

Азевіч прачнуўся неяк раптоўна і на першым часе не зразумеў, як ён тут апынуўся. У гушчары быццам стала зацішней, не так шумеў хвойнік. Азевіч надта скалеў, спярша не мог нават паварушыць ні нагой, ні рукой. З вялікай натугай устаў, затым зноў сеў на калючым ад хвоі доле, падумаў, што сон — бы адпачынак ад жахлівае рэчаіснасці. Калі б толькі не такі сон-

напамінак. Той сон, што агарнуў яго, мог выклікаць што хочаш, але не даць адпачынку, не прынесці расолабку. Даўно ўжо ягонае мінулае было для Азевіча клопатам, болем, нават душэўнай пакутай. Ён не любіў прыпамінаць тыя свае гады, нават і ў такі час, па вайне, калі шмат якія драбніцы ці моманты даўняга здаваліся лепшымі, чым былі на справе, а іншыя дык і выклікалі замілаванне.

У хвойніку было яшчэ светла, але дужа сцюдзёна, і ён зноў стаў хукаць сабе на грудзі, грэць рукі за пазухай. Нагаданы ў сне Заруба прывёў да згадкі пра Вайцяшонка, з якім яны разам працавалі пазней у мястэчку, і Азевіч прыпамятаваў, што той родам з тутэйшых мясцін. З вёскі Завішша, якая, здаецца, была недалёка. Ужо кульгавага Вайцяшонка ў войска, пэўна ж, не ўзялі, мабыць, жыве цяпер у бацькоўскай хаце, і яму вайна — не вайна. Ён павінен аднесціся да Азевіча добра, крыўдаваць адзін на аднаго ў іх не было падставы, некалі нават сябравалі, і старэйшы па гадах Вайцяшонак у чым-колечы памагаў маладому Азевічу. Перад вайной іхняе сяброўства прыпынілася з прычыны арышту Вайцяшонка, якому, аднак, пашчасціла: яго выпусцілі. У райком ён, канешне, ужо не трапіў, перабраўся з мястэчка ў роднае Завішша, пачаў сваю перапыненую ў камсамоле настаўніцкую працу. Праўда, яму не пашэнціла з сям'ёю: жонка адраклася ад мужа — ворага народа неўзабаве пасля яго арышту, ну але затое, казалі людзі, Вайцяшонак на яе крыўды не меў. Невядома, можа, ажаніўся зноў ці жыве з бацькамі, таго Азевіч не ведаў і думаў цяпер: трэба ісці ў Завішша.

Ён выбраўся з гушчару ў поле, агледзеўся. Дарога была побач — уезджаны бальшак з бярозамі абапал. Дарогу ён пазнаў адразу — некалі паездзіў тут ад вёскі да вёскі, асабліва ў калектывізацыю ды і пасля — аж да самай вайны. Бальшак спусціцца ў лагчынку, там будзе масток, а затым праз якіх пару кіламетраў і Завішша — вялікая вёска над возерам. Праўда, у Завішшы ён даўно ўжо не быў, але дзе жыве Вайцяшонак, памятаў добра — у пачатку трыццатых часцяком там начавалі — калі разам з Яўгенам, калі адзін ці з якім раённым

начальнікам. Бацькі ў Вайцяшонка былі харошыя, мяккія і спагадлівыя, бацька любіў пагаманіць пра жыццё і палітыку, маці, памятаў, рабіла тэхнічкай пры школе.

Цяпер Азевіч не пайшоў па дарозе — пераскочыў канаву і патупаў прыдарожнаю сцяжынай за доўгім радам бяроз. Так яму была відаць уся дарога — наперадзе і ззаду, яго ж можна было ўгледзець толькі зблізку. Дробны сняжок то мільгаў на ветры, то недзе знікаў, дарога і сцяжына за бярозамі ўвогуле былі сухія. Яму ніхто не спаткаўся да самай ваколіцы, дзе якраз ужо пачало змяркацца, і ён, каб не ісці вуліцай, збочыў ля плота на гароды. Пакуль брыў там каля сажалкі ды скакаў цераз межы, і добра змерклася; ужо амаль у цемры ён перайшоў мокрую аселіцу з балотцам пасярэдзіне і падышоў да Вайцяшонкавай сядзібы. У агародзе ля паграбца спыніўся, перавёў дых, збіраючыся з думкамі: усё ж трохі апасаўся, як яго прыме Вайцяшонак. На падворку за тынам, здаецца, не было нікога. У двух вокнах, што глядзелі на агарод, было цёмна, можа, і там, у хаце, не было нікога. Азевіч памятаў, што яшчэ ў Вайцяшонка былі дзве сястры, але ці яны жылі тут цяпер, ён не ведаў. Колькі часу ён туліўся за паграбцом: стаяў, прысядаў, слухаў. У тым канцы вёскі недзе лянiва брахаў сабака, а так усё было ціха, на агародах побач ніхто не паяўляўся. І тады ён наважыўся — ціха пабрыў да будыніны. Не адразу знайшоў варотцы з агарода, тыя былі шчыльна прычынены і нават зашчэплены з падворка, ён, перагнуўшыся, адшчапіў іх, не прычыніўшы ззаду, ступіў на падворак. Ганак мясціўся з другога боку, за вуглом, і ён хутка пратупаў да яго. Клямка на дзвярах, аднак, не падалася пад яго рукой, мабыць, дзверы былі зашчэплены, і ён сумеўся, ён не хацеў стукаць. Аднак усё ж пастукаў — ціхенька, тры разы, пачакаў. Думаў, яго не пачуюць, хацеў пастукаць яшчэ — ды ўсё ж злавіў слыхам нейкі гук у сенцах, стрымаўся, счакаў. І сапраўды, дзверы расчыніліся, перад ім у змроку сянец стаяў невялікі стары, Яўгенаў бацька. Азевіч яго адразу пазнаў і павітаўся. Той, аднак, змоўчаў і не саступіў з месца, мабыць, не пазнаваў госця.

— А Яўген дома?

Стары ўсё маўчаў, не пазнаючы, і Азевіч мусіў вытлумачыць:

— Калі помніце, Азевіч я. Некалі з Яўгенам разам працавалі. У райкоме, — напомніў ён. Тады стары шырэй расчыніў дзверы, і ён ступіў цераз парог у глухую цемру сенцаў, затым, растапырыўшы рукі, прайшоў следам загаспадаром у хату, няўмела зачыніў за сабой дзверы. У хаце было амаль гэтак жа цёмна, як і ў сенях, але цёпла.Стары падсунуў яму нейкі ўслон, і ён сеў, болей каб не наткнуцца на што ў цемры, не замінаць.

— А дзе ж Яўген?

— Павінен прыехаць. Як з'ехаў уранку... — сказаў стары, зазірнуўшы ў светлаватае без фіранак акно.

— І далёка?

— Ды ў мястэчка. Збожжа павёз...

— Гэтак? Падатак ці на продаж?

— На здачу. Немцы ж абклалі падаткам. Як і Саветы, бывала. Трэба здаваць.

"Мусіць, трэба", — падумаў Азевіч. Тое, што ён не застаў Вайцяшонка, трохі засмуціла яго, ну але, можа, скора прыйдзе. У хаце ж было цёпла і спакойна, болей нідзе нікога не было чутна, і ён хацеў папытацца старога пра яго сямейнікаў, дачок. Ды стары перапыніў яго ўласным пытаннем:

— А вы ж цяпер з мястэчка ці як?

— Не, не з мястэчка,— сказаў Азевіч. — З мястэчкая ўжо даўно.

Мусіць, трэба было сказаць і яшчэ пра сябе, але Азевіч ніяк не наважваўся. Няпростая гэта справа расказваць пра сябе. Ды ў такі час. Хто ведае, якія адносіны ў гэтых

Вайцяшонкаў з немцамі. Якія ў іх былі адносіны з Саветамі, Азевіч памятаў добра, і гэта таксама вымушала трывожыцца.

— А Яўген што, усё дома? Па гаспадарцы? — памаўчаўшы, запытаў ён.

— Па гаспадарцы, а дзе ж. Школа ж закрылася, няма школы. Дык агарод спарадкаваў, каня во займеў. Калгаснага. Разабралі гаспадары, дык застаўся адзін. Вайсковы, абознікі кінулі. Без каня, ведама, ніяк у гаспадарцы.

— Без каня ніяк,— пагадзіўся Азевіч.

— Дык ён ля гэтага каня бы ля якога дзіцёнка. Яно, ведама, у мальцах не нацешыўся. Усё на казённай рабоце. А тады — у школе.

— Тады не да коней было: служылі.

— Служылі. Савецкай уладзе служылі. Што заслужылі во? — сказаў і прымоўк стары.

"Заслужылі няшмат, — пагадзіўся ў думках Азевіч. — І яшчэ што заслужаць — невядома. Хто — каня, а хто, можа, і кулю. Як многія..." Дзіўна, але цяпер і ён прыпамятаваў колішняга свайго Белалобіка, з якога пачалася ягоная служба ў раёне. Таксама любіў каня, даглядаў, завіхаўся... Той і вывез яго ў людзі. Ці ў добры час толькі...

Яўген прыехаў, аднак, няхутка, ужо зусім паначы. Стары не паліў святла (мо не было чым), яны ўсё сядзелі ў цёмнай хаце, зрэдку перагаворваючыся — болей каб не маўчаць, як у двары застукалі колы і пачулася знаёмае "тпру". Тады ж пачуўся жаночы голас — значыць, то была Яўгенава сястра, здаецца, малодшая Зоська. Стары паспяшаўся ў дзверы, і Азевіч нагнуўся да акна, блізка да якога ўжо стаяла фурманка. Кульгавы Яўген злез на падворак і, тупаючы ля яе, слухаў бацьку, рухавая Зрська знімала нейкія клумкі. Пасля яны падаліся да ганка, а бацька ўзяўся

распрагаць каня.

Азевіч адступіў ад акна.

— Ну здароў,— ціха сказаў Яўген, пераступіўшы парог.

— Здароў, братка,— азваўся Азевіч.

Яны стрымана, аднак, павіталіся, павіталася Зоська, якая адразу падалася кудысь у змрочнае запечча.

— Як і адкуль? Якімі судзьбамі? — папытаўся Яўген, відаць па ўсім, трохі здзіўлены гэтай нечаканай сустрэчай.

— Ды во завітаў. Па дарозе...

— Па дарозе? Ну што ж... То добра, калі па дарозе. А я з мястэчка. Як паехаў уранку, дык на ўвесь дзень. Ячмень вазіў.

— На здачу?

— На здачу. За тры гаспадаркі — шэсць пудоў. Немцы наклалі такі падатак. Што зробіш? Трэба здаваць.

— Калі ёсць чым.

— А во знайшлося. Усё ж калгасны ячмень самі пажалі. Ды падзялілі. Набралася трохі. Запасліся. Не тое што ў калгасныя гады.

Яўген апусціўся на ўслон, пасунуў Азевічу зэдлік.

— Сядай. Можа, не спяшаешся?

— Ды як табе сказаць,— сумеўся Азевіч. — Пабуду трохі.

— Дык павячэраем хоць. Усё ж сябрамі былі. Колькі не бачыліся... Гады чатыры.

— Чатыры, ага.

— Ну. Я ж у гэтай во школе тры зімы адрабіў. Значыць,

чатыры, як з райкома...

Як з райкома — чатыры, падлічыў у думках Азевіч. Ды месяцаў восем прабыў пад арыштам, пакуль не выпусцілі. Пакуль яго не выпусцілі, Азевіч усё дрыжэў, каб не ўзялі самога — за сувязь. Добра, тады нeяк абышлося.

— Ну дык а як жывецца? Пад новай уладай? — трохі асвойтаўшыся ў чужой хаце, папытаўся Азевіч.

Яўген не адказаў, устаў, ціха гукнуў у запечча да сястры, якая там поркалася:

— Нам туды, у бакоўку, чаго павячэраць...

— Туды? Ну добра...

Сястра запаліла пад столлю лямпу з закапцелым шклом, укруціла кнот, каб меней гарэла газы, пачала збіраць вячэру. Яўген павесіў на цвік паддзёўку, памыў рукі над цэбрам, прапанаваў Азевічу. Той, аднак, рук мыць не стаў, не стаў і распранацца. Ён толькі пачаў грэцца ў шынелку пасля нядаўняе сцюжы і не хацеў растраціць набытае цяпло. І ўсё пільна сачыў за рухамі, словамі, адценнямі голасу былога сябра, стараючыся вызначыць па іх адносіны да яго, Азевіча, — заўважыць, можа, які цень непрыязі ці пагарды. Мусіць жа, Яўген ведаў ці чуў пра яго ці хоць бы здагадваўся, адкуль паявіўся ў гэты вечар стары знаёмы. Ды нічога падазронага Азевіч заўважыць не мог. Падобна на тое, што Вайцяшонак мала ім цікавіўся. Ці меркаваў, што пра сябе той скажа сам.

Мінула трохі часу, і яны ўжо сядзелі ў цёмнай бакоўцы з канапай пры невялікім століку. Лямпа трохі свяціла сюды на падлогу праз адчыненыя дзверы з хаты. Тут быў засень, але на стале былі відаць дзве міскі, талерка з салам і хлеб. А болей ім і не трэба было святла. Перад тым як сесці, Яўген некуды шаснуў і, рухава кандыбаючы на карацейшую нагу, прынёс бутэльку і дзве шклянкі.

— Вось каб за сустрэчу... А ты, можа б, раздзеўся...

— Не, ведаеш...

— Азяб дужа?

— Азяб. Нешта дрыжака ўсё...

— Ну вядома, калі азяб... Тады зараз пагрэемся.

Ён наліў дзве шклянкі, адну пасунуў Азевічу, і яны моўчкі выпілі, захрумсталі гуркамі.

— Дык, гляджу, нядблага і жывеш,— сказаў пачакаўшы Азевіч.

— Ды ўжо ж,— няпэўна мовіў Вайцяшонак. — Лепш не палучаецца.

— Па гэткім часе...

— Па гэткім часе нядоўга і загрымець. На той свет. Вунь у мястэчку Свірыда, з райфо... Ты ж ведаў, пэўна? Дык учора павесілі.

— Свірыда? Ну.

— А браты Фесякі?

— А што Фесякі? Фесякі служаць. У паліцыі. Стараюцца. Самі вешаць будуць.

Азевіч памаўчаў крыху, уражаны смерцю Свірыда. Як выпраўлялі партызанскі атрад, дык гэтага Свірыда не ўзялі — запярэчыў Віткоўскі. Што бухгалтар, беспартыйны і наогул мала разбіраецца ў палітыцы. А во ў чымсь правініўся.

— А я Гарадзілава ўчора пахаваў, — паведаміў ён з сумам у голасе.

— Забілі?

— Памёр. Прастудзіўся і памёр.

— Раскоша цяпер — памерці. Ведаеш, усё перамяшалася. Свірыда павесілі, а Дашэўскі вярнуўся.

— Ну? Вярнуўся? Ён жа ў войска пайшоў.

— Пайшоў, трапіў у акружэнне і вярнуўся. І ўжо кіраўнік раённай управы. Не глядзі, што быў першы сакратар райкома. Даверылі.

— Дзіўна. Як жа так?

— А во так. Тады ж, як мяне пасадзілі, ён сам першы даў водгук. Што я вораг, агент і так далей. Тапіў аберуч. Глядзі, і цяпер тапіць будзе.

— А цябе немцы... Не чапаюць? — асцярожна папытаўся Азевіч.

— А за што мяне чапаць? Я з лесам не звязаны, сабатажам не займаюся. Зноў жа, я пастрадаў ад бальшавікоў... Гэта цяпер улічваецца.

— А да сябе не вярбуюць?

Яўген памарудзіў трохі, наліў яшчэ ў шклянкі.

— Было. Во і сёння, у мястэчку. Клікалі ва ўправу.

— Ну?

— Не, я інвалід. І не маю здароўя. Я трохі пажыць хачу. Для сябе.

— Каб жа гэта можна было — для сябе,— уздыхнуўАзевіч.

— Мне яшчэ можна. Во табе нельга. Пра цябе ў раёне вядома, што ты ў лесе. Што ты ў Віткоўскага. Табе, канешне, цяпер адзін шлях.

Азевіч ніякавата паморшчыўся, насцярожана прыслухаўся да стуку дзвярэй у сенцах. Але гэта прыйшоў стары, забразгаў вёдрамі. Яўген павярнуў галаву:

— Тата, ты гэта — чакай паіць. Хай пастаіць яшчэ.

— Хай пастаіць. Я не цяпер.

— Ага. А то... Хутка ехалі, спацеў. Ну дык возьмем патроху.

Яны і яшчэ выпілі — ахвотна Вайцяшонак і быццам праз сілу Азевіч. Ён даўно ўжо не піў гарэлкі, і цяпер тая дужа ўдарыла ў галаву, стала непрыемна тлумна і адначасна трывожна — можа, не трэба было заходзіць яму да гэтага Вайцяшонка. Але і куды заходзіць? Не, усё ж той не гэткі, як можа здацца. Ужо ён не выдасць. Каб гэта яго можна было падахвоціць да барацьбы?

Бакоўка была акенцам у агарод. За рамай відаць было блізкае сучча вішанніку, якое дужа гойдалася на ветры, і Азевіча, як той зірнуў туды, аж скаланула дрыжака. "Халера, як бы не захварэць,— падумаў ён першы раз,— нешта ўсё не мог сагрэцца. Але не дзіва — намерзся ў хвойніку ды і наогул накалеўся за восень у лесе. Можа, таму так доўга не мог выгнаць з сябе сцюжы"

— Калгас разбегся? — запытаўся ён, каб не чапаць дужа асабістае.

— З першага ж дня, як нашы адышлі. Падзялілі зямлю, жывёлу. Ураджай збіралі аднаасобна. Малацілі кожны сабе. Праўда, не было дзе — гумнаў жа мала асталося. Мы дык у трысцене неяк памалацілі.

— А нарыхтоўкі?

— Нарыхтоўкі само сабой. Як у калгасе. Адвезлі. І яшчэ асталося.

— І многа асталося?

— Ды болей, чым пры калгасах. Можна сказаць, сёлета з хлебам мужыкі будуць. Не тое што раней: трыста грамаў на працадзень. Вунь у тым годзе бацька каней даглядаў. Зоська ў палявой рабіла. Пайшоў на канчатковае размеркаванне — прынёс у торбачцы. Заробак за ўвесь год.

— У вас бедны калгас,— сказаў Азевіч.

— Бедны. А дзе ён — багаты? "Пагранічнік"? Ну там багацей, бо землі лепшыя. Там на працадзень далі па паўкіло. А ў астатніх? Галеча.

"Канешне, небагата, бедна жылі, хлеба хапала толькі да вясны. Бульбы таксама. Але пра тое тады не надта каб гаварылі, дбалі аб адным: як даць план, выканаць пастаўкі, сплаціць падаткі, самаабкладанне, заём. Лічылі, што сяляне як-небудзь пракормяцца — з агародаў, ад каровак. Першай запаведдзю было забяспечыць горад, выканаць свой абавязак перад дзяржавай".

— Але ж хто будзе ваяваць? — сказаў Азевіч. — Ці так і застанемся пад немцам?

— А гэта ўжо як хочаце. Мне і пад немцам няблага. Можа, лепей нават.

— Во як! — вырвалася ў Азевіча.

— А што! Што я заслужыў у Саветах. Рабіў, як пракляты, у райкоме, ночай не спаў, недаядаў, лётаў па раёне. Калектывізацыя, індустрыялізацыя, барацьба класавая.А што зарабіў? Турму. Знаеш, як мяне там білі? Гумовым шлангам па нырках, алоўкі між пальцаў заціскалі. Ды яшчэ прызнавайся ім чорт ведае ў чым. Што ў арганізацыі беларускіх фашыстаў састаяў. Нідзе я не састаяў —я быў чэсны бальшавік! Бядняцкі сын. Інвалід з дзяцінства.

— Аднак добра — выпусцілі.

— Выпусцілі? А як выпусцілі? Спаскудзіўшы цела, і душу выпусцілі. Яны ж мяне ў сексоты падпісалі.

Азевіч вельмі здзівіўся — не таму, што Вайцяшонка завербавалі ў сексоты, а што той пра гэта гаворыць. Ніколі нідзе ніхто яму ў тым не прызнаваўся — а гэты, глядзі, прызнаецца. Хаця, цяпер чаго ўжо баяцца? Сапраўды, баяцца цяпер не было чаго — Азевіч яму не пагражаў ні з якога боку.

— Так што бачыш, я агент НКВД. А ты, можа, таксама агент? — раптам сказаў Вайцяшонак, збоч стала ўтаропіўшыся ў яго.

— Не, што ты...

— Канечне, ты не прызнаешся. А мне чаму не прызнацца свайму чалавеку. Я ж — не немцу, праўда? — згумарам сказаў Яўген.

— Я ўсё ж думаў, ты чалавек надзейны. Памятаю, як рабілі...

— А я і надзейны. Не бойся, не выдам. Не пабягу да Дашэўскага. А і лісткі вашы клеіць на сцены не буду. Вунь у Залессі паклеілі — хлопцы з сямігодкі. Цяпер сядзяць у склепе, у міліцыі. Мацеры скуголяць, ірвуць на сабе валасы. Пастраляюць хлопцаў! Змагары, называецца.

Азевіч напружана думаў, хаця ягоны даўні сябрук збольшага стаў яму зразумелы. Апёкся Вайцяшонак на Савецкай уладзе, па сваёй віне ці па чужой — невядома. Але, мабыць, цяпер іхнія шляхі канчаткова разыходзіліся. Яўген тут застанецца — гаспадарыць на бацькавым падворку, даглядаць каня, малаціць, карміць курэй і свіней. Школа сапраўды, мабыць, для яго скончылася, вернецца да вытокаў, у адвечную сялянскую стыхію, якой не дабраў у маладосці. Што ж, можа, тое і няблага. Калі б не вайна, дык, напэўна, было б і няблага. Але во вайна, і яму, Азевічу, з яе абдымкаў, мабыць, не вырвацца. Яна ўгрызлася ў яго зубамі і кіпцюрамі, узяла яго з мінулага, звязала сучасным. Куды яму падацца цяпер?

— Ведаеш, — сказаў ён, — ці не мог бы ты мне дазволіць перахавацца ў цябе? На які тыдзень?

— Перахавацца? — перапытаў Яўген і ўслухаўся. У пакоі тупалі крокі, гэта часам хадзіў туды-сюды бацька. А ўвогуле скрозь было ціха. — Не, не магу. Даруй, алене магу.

Ён устаў з зэдліка, пастыргікаў у хату, хутка вярнуўся з партабакам і запалкамі.

— Закурыш? Не? Ах, ты ж і тады не курыў. Не навучыўся... Знаеш, не магу я цябе перахаваць. Калі што — падумаеш, выдаў. Зноў жа, у мяне бацька, сястра. Я ж і пра іх мушу думаць. Так што ты ўжо дзе-небудзь у іншым месцы. У якога акцівіста. Я, знаеш, ужо не акцівіст.

— Не акцівіст, — раздумна зазначыў Азевіч.

— Хлеба, ну там харчоў — гэта калі ласка. Гэта цяпер у нас ёсць. Еш і з сабой дам. А перахаваць — прабач.

Ён прыкметна спахмурнеў ад тае Азевічавай просьбы, апанурыўся ў душы і Азевіч. І што яму было рабіць цяпер — хоць каб пераначаваць да ранку? Але ўранку як пойдзеш па вёсцы? Убачаць, пазнаюць. Ды і не дасць ён тут праседзець да ранку.

— Ну, што ж, дзякуй за вячэру.

— А ты, калі не сакрэт, куды пуць дзержыш? У якую старану?

— Не, гэта ўжо сакрэт, — сказаў Азевіч. У яго ўжо прапала ахвота размаўляць з ім — новы клопат агартаў яго. Сапраўды, куды было падацца далей? — Ну, што ж, тады жадаю ўдачы, — з непрыхаванай іроніяй кінуў Азевіч і ўскочыў на ногі. Трэба было ісці, пакуль яшчэ было можна. А то ці мала што можа надумаць гэты Вайцяшонак. Той таксама падняўся з зэдліка, скасабочыўся ля стала на карацейшай назе.

— Ат, якая там удача! Абы галаву зберагчы!

— Ну беражы!

Больш не сказаўшы нічога, Азевіч выйшаў з хаты на Вайцяшонкаў падворак. Ноч ужо добра ўсталявалася над вёскай, хляўкі побач зусім патанулі ў цемрыве, толькі трохі шарэла неба ўгары, закрапанае голым суччам высокіх дрэў. Куды ісці далей, ён не надумаў,

але, можа, інстынктыўна завярнуў у глыб падворка, пералез цераз плот, уваліўся ў нейкую яміну з хворастам ці сухім быльнёгам. Калі выбраўся з яе, адчуў, што на правым боце зусім адстала падэшва. Яна і да таго была адарваная, але трохі з наска, а тут адвалілася ледзь не да абцаса і цяпер недарэчна чаплялася за дол. "Каб цябе..." — вылаяўся Азевіч, узіраючыся ў цемрыва, каб знайсці якую праломіну ў плоце — трэба было яшчэ вылезці і з агарода. Праломіны ён не знайшоў, але, наткнуўшыся каленямі на калючы дрот, перажыркнуў яго і апынуўся на травяністай роўнядзі, зразумеўшы, што гэта сенажаць. Ступаць тут было зручней, каб не тая падэшва, і ён узяў накірунак у поле — прэч ад вёскі.

Добра адышоўшыся ад яе, азірнуўся і ўжо нічога не ўбачыў у змроку — вакол ляжала ветранае начное поле, рэдка, бы соллю, прысыпанае ў доле снегавой крупой. Пасля сенажаці пад нагамі зашэрхаў іржэўнік, разы два яму трапіліся голыя палявыя дрэвы — мабыць, ігрушыны. Некалькі разоў ён натыкаўся на невысокія, ледзьве прыкметныя ў доле валікі баразны — то былі новыя аднаасобніцкія межы, пасля падзелу зямлі. Значыцца, падзялілі ўжо пасля колькіх гадоў абагульненага землекарыстання. І ён успомніў, якой калатнечы каштавала калісьці ліквідацыя тых межаў, з якой неахвотай даводзілася іх заворваць. У Судніках, памятае, сусед забіў суседа, які раней уступіў у калгас і пераараў іх агульную мяжу. А тут глядзі, як хутка размежаваліся. За гады так і не прызвычаіліся, каб разам, на агульным. Яно, можа б, і прызвычаіліся б, каб гэта было добра, каб той калгас даваў хоць бы хлеб для пражытку, а то... Адна нэндза і галадуха да самай вайны. Толькі і ратавалі, што агароды, тыя сорак сотак, з якіх кармілі дзяцей, старых ды яшчэ і здавалі дзяржаве. Выконвалі пяцігодкі. Мацавалі абарону. Не дужа, аднак, умацавалі.

Неўпрыцям ён ужо стаў спакайнець, адыходзіць ад крыўды на Вайцяшонка. Можа, і сапраўды той меў рацыю. Невядома, як бы на яго месцы зрабіў Азевіч, але на сваім іншага шляху ён выбраць не мог. Прыстаць да

немцаў яму было неяк. Па-першае, не прымуць, усё ж райкомаўскі служачы, бальшавік, па-другое, пабываў ужо ў лесе. У атрадзе Віткоўскага. Пра ўсё тое, напэўна ж, яны ведаюць — перабежчыкі праінфармавалі. Цяпер не дай Бог яму трапіць да паліцаяў ці да немцаў — літасці не будзе. І ў каторы раз ён пачаў думаць, што найлепш было б перабрацца да сваіх, трапіць на фронт.

Толькі дзе той фронт? Як дайсці да яго? Глядзі, ляжа зіма, нападае снег, а ў яго, як на тую бяду, адарвалася падэшва, якая так замінала хадзе, што аж забалела нага. Увесь час трэба было яе ставіць бокам, падымаючы вышай. Ад таго важка боўтаў па сцягне наган у кішэні шыняля, і ён пераклаў зброю за пазуху, так стала зручней. З поля ён неўпрыцям прыбіўся ў змроку да ўзлеску і спыніўся. То быў невысокі хмызняковы лес, ён суцэльнай цёмнай сцяной нібы перагарадзіў яму шлях, і Азевіч спыніўся, памеркаваў, у які бок лепей падацца. Лезці ў змрочны лес ён не хацеў. Тады, можа, першы раз на ветры яго скаланула дрыжака — ды так моцна, што ён падумаў — халера, каб не захварэць. Ды і адчуў, што замарыўся, дыханне стала нейкае бы гарачае, з горла падступала гаркота, дужа карцела спыніцца, перадыхнуць. Але ўсё ж на хадзе было сугрэўней, і ён пайшоў уздоўж лесу. Пад нагамі шорхаў сухі быльнёг, кустоўе ён абмінаў зводдаль, каб не налезці на якое суčча, не зачапіцца. Усё ж зачапіўся за штосьці ў доле і ўпаў. Не дужа пабіўся, але і не пасняшаўся ўставаць, пераваліўся на бок у мёрзлай траве, хвіліну счакаў. Потым памалу, з натугай узняўся на ногі, зноў пабрыў па полі.

...Тады Азевіч не думаў, надоўга ці не, але застаўся і пачаў новае жыццё ў Ісакавай стадоле. Першую ноч пераначаваў добра, хоць і скалеў, як чорт, а наступныя дзве ночы быў у паездках па раёне — адну ноч пераначаваў з Зарубам у Кляшчоўцы, а другую зноў у Кандыбічах. Заехаць дамоў усё не выпадала, дык на тыдні да яго завітаў бацька. Прыехаў у выканкомаўскі двор, і яны там сустрэліся на стайні. Бацька быў нейкі заклапочаны, устрывожаны, мусіць, не падабаўся яму той ранні вылет у людзі ягонага сына. Ён гаварыў усё,

распытваў, як і што тут, у мястэчку, а сам не мог сагнаць з вусатага твару клопат і ўсё трудна ўздыхаў, вохкаў. Ягор супакойваў яго як мог, ды і чаго было дужа трывожыцца?

Усё ж ён сярод добрых людзей, між начальства, пры важнай справе, можа, не прападзе. А праца? Не горшая, чым на гаспадарцы, кішкі рваць не трэба, не ў лесе на дзялянцы. Галоўнае, глядзець каня, даглядаць у час. Але тое Ягор умеў, тое рупіў з дзяцінства. Бацька перадаў што-ніщто з харчоў — сала, пару кілбас, матка прыслала змену чыстай бялізны, запрашалі прыехаць калі, папарыцца ў лазні. Але Ягору было не да лазні — вольнага часу выдаралася дужа мала, ды і той займала вучоба. Тры разы на тыдзень камсамольцы збіралі гурток ленінізму, вывучалі ленінскія працы, тады якраз чыталі "Крок наперад, два крокі назад".

Не сказаць каб Ягору было цікава тое слухаць, але было сорамна не адказаць на пытанне, асабліва як пыталася Паліна. Тая была намеснікам камсамольскага сакратара ды іншым разам кіравала заняткамі. Мабыць, яна была старэйшая за Ягора, хоць і не нашмат, але выглядала зусім маладой дзяўчынай з нейкім вастранькім, пранікплівым позіркам, які не то дражніў, не то ўвесь час нешта выпрабоўваў у субяседніку. І часта ўсміхалася. Ягор тайком любаваўся ёю, асабліва як яна выступала ці расказвала пра ленінскія запаветы. Працавала яна ў жаночым аддзеле і была намесніцай загадчыцы, старой бальшавічкі Іды Шацман.

Сярод раённага начальства Ягор мала каго ведаў; у райкоме, што размяшчаўся за царквой, дык ні разу і не быў. Яму хапала выканкома ды начальніка. Зарубы, якога ён пільнаваўся болей за ўсіх, і, чым далей рабіў з ім, тым той усё болей яму падабаўся. Заруба быў шчыры працаўнік, большасць дзён матляўся ў паездках па раёне, усё на людзях, на сходах. І пра возчыка свайго клапаціўся, як бацька. Калі дзе частавалі старшыню РВК, дык ён клікаў і возчыка, калі начавалі, дык прасіў уладкаваць і Ягора. Быў негаваркі ў дарозе, часам пытаўся пра што, пра Ягораву гаспадарку ў вёсцы, і

тады Ягор скупа апавядаў яму. Той не перапыняючы слухаў, уздыхаў, але, адчувалася, думаў сваё. Мабыць, было пра што думаць старшыні выканкома. Асабліва ў такі час, калі разгортвалася калектывізацыя.

Якраз недзе ў пачатку вялікага посту яны меліся ехаць у Вязнікі — самы дальні сельскі савет за пушчай. Заруба сказаў звечара, што выедуць у восем раніцы. А палове восьмай Ягор ужо запрог вазок і стаяў з канём, чакаючы старшыню выканкома. Але Заруба не паяўляўся. Мінаў час, і Ягор зайшоў у прыёмную, даведацца, калі паедуць. У прыёмнай была сакратарка Рыма і яшчэ тры ці чатыры чалавекі. З кабінета Зарубы чуўся нейчы строгі трывожны голас, але не Зарубы, кагосьці невядомага. Пасля яшчэ нехта гаманіў, нехта быццам спрачаўся. Хто там быў, Ягор не ведаў, але сакратарка і мужчыны ў прыёмнай моўчкі напружана слухалі, хоць зразумець сэнс той спрэчкі было нельга. Ягор ужо хацеў ісці да свайго Белалобіка, як шырока расчыніліся дзверы, з якіх выскачыў невялічкі, нават мізэрны, чалавек у шынялі, на хаду насунуў на голеную галаву суконную будзёнаўку і, перш чым выйсці ў сенцы, спыніўся перад Ягорам. "Ты хто?" — "Азевіч",— сказаў Ягор. "Які Азевіч?" — "Ну, возчык". — "Чый возчык? Старшыні?" — "Ага, старшыні",— сумеўся Ягор пад нейкім прыдзірліва-злым позіркам гэтага вайскоўца, які тут жа і выскачыў з прыёмнай. Ягор таксама хацеў выйсці, але тут з кабінета вываліліся некалькі чалавек і за імі паказаўся Заруба. Ён быў збялелы тварам, з насупленымі бровамі, нешта буркнуў сакратарцы і, убачыўшы Ягора, кінуў: "Распрагай, не паедзем". Ягор цепнуў плячмі і пайшоў распрагаць. Паставіў у стойла каня і, каб дазнацца, што будзе далей, — зайшоў у прыёмную. Там сядзела ўжо адна толькі сакратарка, яна, відаць было, толькі што плакала, і як Ягор трохі спалохана зірнуў на яе, сказала: "Сакратара, таварыша Голубава, арыштавалі. І ветурача Бутэвіча. І Слямзікава з ільнозавода". — "За што?" — вырвалася ў Ягора. "За што? — падняла счырванелыя вочы Рыма. — Не ведаеш, за што? Бо ворагі народа".

Ягор маўчаў — нікога з арыштаваных ён не ведаў Але

калі ворагі народа, дык што ж? Тады нават добра, што арыштавалі. Тых ужо арыштоўвалі не першых, увосень узялі аж шэсць чалавек, пра тое пісала раённая газета, ды і мінскія газеты пісалі, як выкрывалі ворагаў народа нават ва ўрадзе рэспублікі. А перад тым раскулачвалі. Нават у іхняй вёсцы дзве сям'і раскулачылі і выслалі кудысьці на Поўнач, Ягор нават памагаў адвозіць Цыпручонкаў на станцыю. Ішла класавая барацьба, і класавы вораг супраціўляўся, Ягор тое ўжо ведаў.

Рэшту таго дня Ягор поркаўся на стайні, прыбраў стойла, адгроб кучу гною ад вербаў, добра вычысціў свайго белалобага стаенніка. Як стала цямнець, хацеў падацца ў сваю стадолу — вечар выдаўся вольны, камсамольскай вучобы не было. Ён развешваў на сцяне збрую і пачуў, што ззаду нехта ўвайшоў. Як ён азірнуўся, той павітаўся, зыркнуў туды-сюды хуткім позіркам. "Што, адзін тут?" — "Адзін",— сказаў Ягор, здзіўлена пазіраючы на маладога чалавека ў жоўтым кажушку і шапцы-кубанцы. "Нікуды не едзеш?" — "Не. А што?" — "Тады праз гадзіну прыйдзі" — "Куды?" — "У райаддзел ГПУ. Да таварыша Мілавана". Ягор хацеў запытацца, дзе тое ГПУ, але не паспеў, як малады чалавек знік у варотах, а Ягор павесіў хамут і спыніўся. Чым займаецца ГПУ, ён ужо ведаў, і цяпер нават затрывожыўся: якая ў таго справа да возчыка выканкома? Ці не натварыў што? Ды, здаецца, нідзе нічога. Інакш бы таварыш Заруба сказаў. Можа, дзе якія размовы былі не дужа добрыя? Дык, здаецца, нідзе ні з кім не гаварыў пра што падазронае.

Надта занепакоены, ён, аднак, выйшаў праз гадзіну ці меней з выканкомаўскага падворка і пайшоў да царквы. Дзе было тое ГПУ, не ведаў, трэба было запытацца, але на вуліцы насустрач ніхто не паказваўся. І ён прамінуў царкву, пратупаў праз райком партыі, у якім сёння арыштавалі першага сакратара. Ва ўсіх вокнах райкома гарэла святло, чуліся галасы, і, як ля ганка паявіўся нейкі чалавек у падпяразаным паліто, Ягор запытаўся, дзе ГПУ. Той спярша стаў, неяк спалохана паўзіраўся ў Ягора, а пасля паказаў на царкву. "Во там, за саборам, у папоўскім доме. З сінімі аканіцамі". І праўда, за царквой

пад разложыстым клёнам прытуліўся невялічкі, але ладны дамок з нізенькім ганкам, вокны яго таксама свіціліся, але не надта, бо былі занавешаны знутры. Ягор узышоў на ганак, памацаў клямку, пастукаў. Раз, а затым другі. Яму адчыніў нехта нябачны ў цемры І, не пытаючыся нічога, павёў у наступны пакой. За сталом, пакрытым новым кумачовым абрусам, сядзеў той самы чалавек з паголенай галавой, які яго дапытваў у выканкоме. Тут было, мусіць, холадна, бо на плячах яго быў накінуты шынелак з шырокімі сінімі пятліцамі на каўняры. Той не спяшаўся з размовай, спярша ўважліва агледзеў Ягора, што ніякавата стаяў напалову ў ценю ад абажура вялікае дванаццацілінейнае лямпы, што вісела пад столлю. Затым гаспадар пакоя папытаўся, адкуль ён родам, якая гаспадарка дома, ці даўно возіць старшыню выканкома. Ягор скупа адказваў, адчуваючы, аднак, што, мусіць жа, не затым яго паклікалі сюды, каб дазнацца, колькі часу ён возіць Зарубу. Аказваецца, ён памыляўся. Мілаван трохі памаўчаў, перасмыкнуў худым, у абвялых зморшчынах тварам, паправіў на плячах шынелак. "Куды часцей за ўсё ездзіць Заруба?" — запытаўся ён і ўважліва ўставіўся ў Ягора. Той ніякавата пераступіў на падлозе, адчуўшы, што, здаецца, аднак, пачынаецца самая размова. Мусіць, яго цікавіў менавіта Заруба. Але нашто ён пытаецца ў яго, возчыка, чаму не папытае ў самога Зарубы? Думаючы, як адказаць, Ягор заклапочана пазіраў на канец стала, дзе ляжала мілаванаўская будзёнаўка, зграбная штуковіна з вострай шышачкай наверсе і сіняю зоркай спераду. На той сіняй зорцы блішчэла і яшчэ адна, чырвоная металічная зорачка. Спрытная была будзёнаўка, не тое што ягоная шапка-кучомка, якую ён няўцямна перабіраў у руках. Мілаван, аднак, не заўважаў таго і задаваў новыя пытанні. Наступнае з іх было, ці часта старшыня выканкома наведвае вёску Кандыбічы. Ягор адказваў няпэўна, ён ужо адчуваў, што не павінен нешта выдаваць з жыцця ягонага старшыні, але і як было зусім не выдаць? І ён болей мычэў нешта няпэўнае, аж покуль тое не абурыла гэтага гэпэушніка. "Ты мне не круці, а адказвай прама! Колькі разоў быў з Зарубам у Кандыбічах?" — "Дык не лічыў. Можа, раз ці два". — "Брэшаш, не два. Лепей падумай, успомні!" —

"Не памятаю я". — "Што, слабая памяць? Камсамолец, здаецца?" — "Так, камсамолец", — сказаў Ягор і ўпершыню зірнуў Мілавану ў вочы. "Калі камсамолец, дык абавязаны шчыра супрацоўнічаць з органамі! — зласнавата абвясціў гаспадар пакоя. — За ўхіленне, ведаеш, што бывае?"

Дужа ўсё тое не падабалася Ягору галоўным чынам таму, што гэты чалавек таемна дапытваў яго пра Зарубу. Надта не хацеў выканкомаўскі возчык расказваць пра свайго начальніка, штосьці ў ім заўпарцілася ўнутры, і ўжо з'явілася таемная варожасць да гэтага брытагаловага здыхляка. Стоячы ля стала, ён ужо падумаў, як заўтра раскажа Зарубу, што пад яго робіцца гэты паскудны падкоп. Але Мілаван нібыта здагадаўся пра намеры возчыка і, яшчэ з паўгадзіны памэнчыўшы Ягора, урэшце са строгасцю папярэдзіў: "Пра нашу размову — нікому! Паняў? Ніводнай душы. Паняў?" Хвіліну ён выпрабавальна паўзіраўся ў збянтэжаны твар Ягора, а пасля, перахапіўшы ягоны позірк, спытаўся трохі павальнелым голасам: "Што, падабаецца будзёнаўка? Тота! Не ўсім даецца, трэба заслужыць. А цяпер ідзі. Будзе трэба — паклічу".

З вялікай палёгкай Ягор пратупаў цераз сенцы і выйшаў з папоўскай дамоўкі. Адчуваў ён сябе на дзіва змораным, нават нібыта абражаным чымсьці. У будынку райкома свіціліся ўсяго два акны, а ў выканкоме толькі адно, у прыёмнай, — мусіць, прыбіральшчыца Лукерка заканчвала сваю справу. Зарубы там ужо не было. А калі б і быў — раптам падумаў Ягор. Усё роўна цяпер ён не меў права нічога нікому сказаць. Ён ужо адчуваў, што з гэтым гэпэушнікам Мілаванам трэба паводзіць сябе дужа ашчадна, не дай Бог парушыць ягоную забарону. Зноў жа, а што ён скажа там другі раз, калі зноў паклічуць, як абяцаў? "Во прычапіўся, каб цябе паралюш!" — з непрыяззю падумаў Ягор, ідучы ў Ісакаву стадолу. Не хапала яму гэтага клопату...

Клопат, аднак, толькі пачынаўся.

Можа, дні праз два ці тры пасля тае гутаркі з Мілаванам Ягор адвозіў Зарубу на станцыю, каб таму

ехаць далей — у Менск на нараду. У вазок сеў яшчэ нейкі невядомы чалавек у новым бобрыкавым палітоне, мабыць, хтось з прыезджых упаўнаважаных — ён таксама меўся ехаць на Менск. Дарога была няблізкая, але ўжо добра ўезджаная санямі, завеі даўно скончыліся, таксама як і адлігі. Нідзе ні заносаў, ні гурбаў, Белалобік за два дні добра адпачыў і рахмана бег трушком між неглыбокіх каляін, абдаючы фурмана снегавой пацярухай. Ззаду сядзелі начальнікі, ціха перагаворваліся між сабой. Ягор уважліва слухаў. Спярша гаварылі пра нейкую пастанову ЦВК, якая значна ўмацоўвала партыйную лінію, пасля гаворка пайшла ўсё пра тое ж — марудныя тэмпы калектывізацыі, затым пра нейкага Барабашова, якога, як зразумеў Ягор, нядаўна выкрыла ГПУ. Незнаемы выказваўся ў тым сэнсе, што Барабашоў даўні замаскіраваны вораг, а Заруба сказаў, што яго падсядзелі зайздроснікі, што зусім ён не вораг. Ягор не меў наконт таго ніякага меркавання, бо зусім не ведаў таго Барабашова. На станцыі ён падвёз седакоў да будынка вакзальчыка і ўлегцы паехаў сабе дамоў. Час яшчэ быў не позні, думаў, прыедзе і, можа, яшчэ забяжыць у Ісакаву стадолу — падчытаць у канспекце. Вечарам меліся быць заняткі, і Паліна магла яго выклікаць. Перад Палінай ён дужа саромеўся выявіць сваё няведанне. Але не паспеў ён на стайні ўпарадкаваць каня, як згледзеў ля рога выканкома ўсё таго ж белабрысага Мілаванавага памочніка, які кінуў яму галавой у бок царквы, што значыла: начальнік кліча.

На гэты раз Ягор ішоў раздражнёны, амаль злосны — чаго прычапіўся? Што ён — падрадзіўся яму за шпіёна? Хай сам пра што трэба і дазнаецца, Ягор за старшынёй выканкома шпіёніць не будзе. Але ягоны злосны імпэт адразу астыў, як ён пераступіў парог папоўскай дамоўкі. Мілаван быў трохі болей лагодны, чым першы раз, і цікавіла яго, пра што гаварылі ў дарозе Заруба з седаком у бобрыкавым палітоне. Прозвішча таго было Каламіец, як цяпер дазнаўся Ягор. Ягор пачаў бажыцца, што нічога не чуў, сядзеў спераду і вецер забіваў іхнія словы, здаецца, нічога такога яны і не

гаварылі. Болей пра тое, што хутка вясна, а пасяўная кампанія вымагае клопату. Зноў жа насенне... "Ах, насенне! — зазлаваў Мілаван. — А пра Барабашова не гаварылі? Што пра яго казаў Заруба?" — "Ды не, я не чуў... Каб чуў, што б я не сказаў, — шчыра здзівіўся Ягор, і Мілаван доўга маўчаў, з'ядаючы яго злым позіркам. Дый на гэты раз Ягор, не міргнуўшы, вытрымаў той позірк. Сяму-таму ён ужо патроху вучыўся.

Мабыць, Ягор зноў не спраўдзіў надзей Мілавана, выйграў сваю маўчанку, хоць настрой быў сапсаваны дашчэнту. У Ісакаву дамоўку ён ужо не пайшоў, ленінскага канспекта не пачытаў ні разу, а на занятках, куды ён ледзьве паспеў, Паліна яго выклікала першым. Быў вялікі канфуз, Ягор спрабаваў адказаць, але заблытаўся, Паліна задала просценькае пытанне наконт парадку дня з'езда пераможцаў, якое яго заблытала канчаткова. Спатнелы і няўклюдны, ён бездапаможна стаяў перад гэтай маладой адукаванай жанчынай і чырванеў. Штосьці зласнаватае мільганула ў яе жвавых вачах, але затым яна неяк міла ўсміхнулася і сказала: "Ну нічога, Азевіч, у чацвер адкажаш. Надвучыўшы..." І ўжо зусім па-сяброўску заўсміхалася яму, ласкава і лагодна, ад чаго стала куды лягчэй на душы. Усё ж ён быў ёй удзячны, слаўная яна была жанчынка. Прыгожая і разумная. Дужа прывабная. Ведама, яна падабалася бадай ці не ўсім хлопцам, але ці мала тут было куды спрытнейшых за Азевіча — бойкіх і разумных. Вунь хоць бы Байдура, рослы чарнявы гаварун, можа, байчэйшы за ўсіх, які, калі паяўлялася Паліна, не адліпаў ад яе. Ды і не дзіва — той рабіў на льнозаводзе, у рабочым асяродку, не тое што Ягор, конюх па сутнасці. Хоць і ў райвыканкоме. Азевіч ужо пазнаў розніцу паміж сялянамі і рабочымі, носьбітамі пралетарскай свядомасці. Гэтыя апошнія былі куды вышэй коштам, іх хвалілі, вылучалі ў авангард, пра іх колькі вунь пісаў Ленін. Зноў жа — дыктатура пралетарыяту. А што сялянства? Дробнаўласніцкая ідэалогія...

Заруба пабыў у Менску нямнога — дні два. Ягор з'ездзіў

на станцыю да цягніка і прывёз яго ў мястэчка. Старшыня выканкома, як заўжды, амаль не размаўляў у дарозе, толькі запытаў цяпер: "Ну што там у нас?" — "Ды так, навінаў няма",— адказаў Ягор. Заруба, памаўчаўшы, дужа трудна ўздыхнуў і мовіў: "Навіны будуць, Азевіч. Кепскія, браце, навіны". Тыя словы затрывожылі возчыка, ён чакаў, што Заруба нешта патлумачыць, ды той нічога больш не сказаў, і Ягор зважліва не пытаўся. Калі сам не кажа, дык, мусіць, нягожа пытацца. Усё яму карцела сказаць старшыні пра свае выклікі ў папоўскі дамок, ды Ягор ніяк не мог асіліць сябе — было няёмка і страхавіта. А раптам Заруба зазлуе? Ці не паверыць? Ці скажа пра тое Мілавану? І ён усё маўчаў. Трудна пра штось думаючы, усю дарогу маўчаў Заруба.

На другі дзень яны павінны былі ехаць у Забалаць, ды якраз на местачковай вуліцы Ягор убачыў, што закульгаў конь. Ён спыніўся каля мастка цераз рачулку, злез з вазка. Аказалася, раскаваўся, на левай пярэдняй зламалася падкова. Ягор спрабаваў зусімададраць яе, ды не хапіла сілы. Было ўжо позна, каб ехаць у кузню, вырашыў тое зрабіць заўтра, зранку, каб затым паехаць у Забалаць. Старшыня да неспадзяванкі аднёсся амаль абыякава. "Затым дык затым", — толькі і сказаў ён, пачуўшы Ягорава меркаванне. Назаўтра ранічкай з Белалобікам на павадзе Ягор тупаў местачковай вуліцай да рэчкі, дзе была кузня. Менавіта тады яму нечакана сустрэлася Паліна — некуды бегла ў сваім сінім пальтэчку з пацёртым партфелікам у руках. Пабачыўшы яго з канём, весела заўсміхалася, ён павітаўся, яна ўсё азірала то яго, то каня, і Ягор вытлумачыў: "Во ў кузню вяду. Падкова паламалася, дык перакаваць трэба". Тады яна павярнулася да яго і нияк не ў лад зазначыла: "Ну і шапка ў цябе, Азевіч!" — "А што?" — не зразумеў Ягор, сашморгнуўшы з галавы сваю аблавушку. "Бы ў падкулачніка!" — усмешыста, аднак, кінула Паліна і пабегла сабе па вуліцы. А ён, дарэшты ўражаны тым, мала што навакол заўважаючы, патупаў з канём уніз да рэчкі. Шапка? Ужо якая ёсць, іншай дзе возьмеш. У краме шапкі не прадаюцца, пашыць няма з чаго. Гэтая, праўда, нехуцавая з

выгляду, пакамячаная, але цёплая, з аўчыны. Шыў яшчэ дзед, насіў колькі год бацька, і ён яе носіць трэці год. Зносу на яе няма. Добрая шапка.

Так сябе суцяшаў Ягор, але неяк няўзнак тая яго звыклая аблавушка пакрысе рабілася яму апрыклай. І ён ужо думаў: хутчэй бы лета, цяпло, дома ў яго вісела на цвіку неблагая кепка з увогуле цэлым, трохі толькі пагнутым казырком; ён надзене кепку і будзе, як усе хлопцы ў мястэчку. І Паліна тады яго не папракне за шапку.

Ды цяпло не наступала, наадварот, пад вясну сталі даймаць маразы. Аднойчы пад ранак ноччу Ягор аж прачнуўся ў сваей сцюдзёнай стадоле, пачуўшы, як страляе мароз па вуглах — нібы са стрэльбы — бух ды бух. А тут якраз трэба было ехаць па раёне, Заруба сказау: дні на тры. Ехаў старшыня выканкома не адзін, а з цэлай брыгадай упаўнаважаных — на трох вазках. Ягор ранічкай прыбег да стайні, каб у час падрыхтавацца, але там ужо быў стары Волкаў, ужо ахаджваў свайго стаенніка. Ён жа і сказаў Ягору, што паедуць Фірштэйн з райкома, Бугаенчанка і Саладуха з выканкома. І яшчэ Пташкіна з жанаддзела. Як ён назваў Пташкіну, сэрца ў грудзях у Ягора ажно здрыганулася ад незразумелай радасці, але затым і занылa — з кім яна едзе? Ну, але ці не ўсё роўна з кім, ведама, не з Зарубам жа. З Зарубам, калі на тое пайшло, сядзе Фірштэйн — начальнік з начальнікам. Пасля таго як пасадзілі першага сакратара, Фірштэйн як бы заступіў на яго месца, хоць яго яшчэ і не выбралі.

На выканкомаўскім падворку яны пачалі запрагаць свае санкі-вазкі. У Ягора быў, мабыць, самы лепшы, лёгкі, пафарбаваны ў сіні колер вазок, які дужа падабаўся возчыку, і той ужо прыкідваў, як бы ў ім сядзела Паліна. Побач з Зарубам. Але наўрад ці сядзе. З гэткімі думкамі Ягор толькі завёў у аглоблі каня, як нехта ззаду схапіў з галавы яго шапку і на самыя вочы насунуў штосьці сцюдзёнае. Ягор спалохана крутануўся на нагах — ззаду, смеючыся, з ягонай кучомкай у руках стаяла Паліна. "Во, будзеш прыгажун! Гэта табе ад

жанаддзела", — смеючыся, казала яна, схаваўшы ззаду свае рукі з кучомкай — каб не адабраў. Ягор няўцямна пазіраў на яе, пасля на тое, што трымаў у руцэ — то была самая сапраўдная, трохі паношаная будзёнаўка. Ладна пашытая, суконная, з зашпіленымі навушнікамі і нават разлапістай чорнаю зоркай, нашытай на лбе. Але чаму гэта яму і завошта? "Надзявай, надзявай, няма чаго разглядваць! Хай дзеўкі разглядваюцца".

Але ён усё разглядваў, не адчуваючы марозу, — і маленькія гузічкі з зорачкамі і вострый ладны пупок наверсе. І гэта — ад Паліны. Дарма кажа, што ад жанаддзела, — якія ў яго адносіны да жанаддзела, дзе ён нікога не ведаў? Ён проста быў надта ўзрушаны і здзіўлены, каб нешта пытацца ці нават падзякаваць. Але трэба было запрагаць каня, і ён аберуч ашчадна надзеў на галаву будзёнаўку, — аж горача стала ад няёмкасці. Тая аказалася трохі цеснаватая на галаве, але нічога. Прыносіцца Цяпер ён сапраўды, мусіць, падобны на чырвонаармейца ці якога начальніка, цяпер ён не проста возчык, выканкомаўскі фурман. Зачаткі ганарлівага пачуцця варухнуліся ў ім і прапалі. Паліна ж не вельмі любавалася ім — крутанулася і пабегла ў выканком, а ён тады азірнуўся. Побач заварочваў свой вазок Волкаў. "Падаруначак атрымаў? — неяк з намёкам прагудзеў стары фурман. — Ну, ну..."

Яны трохі пастаялі на выездзе з падворка, чакалі. Мусіць, усе паязджане ўжо сабраліся, ды нешта не спяшаліся на мароз з выканкома, з паўгадзіны раіліся там у кабінеце старшыні. А як там скончылася іх нарада, першай выбегла на ганак Паліна і, нікога не пытаючыся, ускочыла ў вазок да Ягора. "Во са старшынёй паеду",— толькі кінула яму і схавала тварык у настаўленым каўняры палітончыка. У Ягора скаланулася сэрца — ад цьмянай радасці абяцання чагосьці невядомага. Але ён тут жа і засмуткаваў — усё ж легкавата яна была апранута для паездкі, хоць бы не прастудзілася. Ды ён, бы змярцвелы, стаяў побач з лейцамі ў руках, пазіраючы, як выходзілі з выканкома начальнікі, рассаджваліся па фурманках. Заруба трохі затрымаўся з Фірштэйнам, той патупаў, патупаў каля

сіняга вазка, мусіць, хацеў уладкавацца з Зарубам, ды пайшоў да другога. Заруба цяжка ўмасціўся побач з Палінай.

Выехалі ўсе разам, але за Выганкамі раз'язджаліся ў двух кірунках. Заруба з Палінай кіравалі ў лясны бок раёна, а два іншыя вазкі паварочвалі на Аб'ездзе. Паліна ў дарозе амаль не размаўляла, як заўжды, маўчаў і Заруба. Ягор, дужа няёмка адчуваючы сябе перад імі ў неспадзяванай будзёнаўцы, таксама маўчаў. Ён думаў, Заруба папытае, дзе ён узяў такую шыкоўную шапку, ды той быццам і не заўважыў яе. Затое заўважалі сустрэчныя. Трое саней з дзядзькамі і кабетамі спаткаліся ім на шляху, і, як згледзеў Ягор, усе кіравалі свае позіркі найперш на яго, возчыка ў будзёнаўцы. Пасля ўжо на Паліну і Зарубу. Гонару ў Ягору ад таго прыбаўлялася, і ён рашуча кіраваў канём, размінаючыся на вузкай дарозе.

Першы сход праводзілі ў Аб'ездзе ў школе. Якраз была нядзеля, дзяцей не вучылі, сабралася нямала народу — ці не з усяго сельсавета. Ягор валэндаўся з канём, на сход толькі заскочыў. Зірнуў адным вокам цераз людскія галовы — на сцэне за чырвоным сталом пад кумачовымі лозунгамі сядзелі з паўтузіна мужчын і сярод іх — Паліна, маленькая, счырванелая з твару ад нядаўняй сцюдзёнай дарогі і прывабная. Выступаў Заруба. Гаварыў якраз пра класавую барацьбу на вёсцы, пра супраціўленне кулака, якога трэба было сцерці бязлітаснай рукой пралетарскай дыктатуры. У гэтай справе Заруба быў бязлітасны. Ягор ужо ведаў, што той паходзіў з віцебскіх рабочых і бацька яго быў рабочы. А тут скрозь сяляне — бednякі і серадняки... Добра яму, быўшы рабочым, заклікаць да калгаснага ладу. Не разумеюць яго сяляне. Чаму — Ягор не мог зразумець таго. Колькі іх ні заклікалі да будаўніцтва лепшага, заможнага калгаснага жыцця — не ішлі да яго, упарціліся, калгасы арганізоўвалі з вялікаю неахвотай, пад націскам партыйцаў. Нават і ў ягонай Ліпаўцы ўсё не маглі сарганізаваць калгас, і Ягору ад таго было нават ніякавата перад старшынёй выканкома за сваіх землякоў. Мусіць, трэба б неяк з'ездзіць туды, даўно не

быў. Але ўсё не выпадала. Дарогі кіравалі ў іншы бок — раён быў вялікі, раскіданы ледзь не на паўсотню вёрст ад мястэчка.

У другой палове дня правялі і яшчэ адзін невялікі сходзік у прыдарожнай вёсцы, дзе адразу запісалася ў калгас якраз палавіна насельнікаў. Але Заруба казаў, што тое — ненадзейна. Яны ўжо не першы раз запісваюцца, а як начальства паедзе, тыя спісы дзесь прападаюць. Крадзе нехта. І зноў збіраюць сход і зноў агітуюць нанова.

Вечаровы сход было вырашана правесці ў вялікай залеснай вёсцы Трыкунах, каб там жа і заначаваць. Тут не было школы, мужыкоў сабралі ў нечай вялікай хаце, пасастаўлялі лаўкі. У застоллі было чацвёра: Заруба з Палінай і двое мясцовых — старшыня сельсавета і, мусіць, настаўнік — малады хлапец з нейкім нядобрым, худым, бы сухотным, тварам. Ён выступаў другім, пасля старшыні сельсавета, і такога нагнаў на сялян страху, што тыя прыціхлі, бы ў царкве, ніхто і не кашлянуў; А той палохаў ГПУ, пасля Сібір'ю, пасля пралетарскай дыктатурай. Ягор стаяў у парозе, не знімаючы сваёй будзёнаўкі, на яго некаторыя азіраліся, асабліва дзеўкі, але ён трымаў сябе незалежна і адно таемна любаваўся Палінай. Тая была ўсё ў сваім палітончыку, толькі ссунула хустку з беленькіх, высока падстрыжаных валасоў і, вядома, была тут прыгажэйшая за ўсіх дзевак. Часам яна пазірала ў парог і тады неўпрыкмет аднымі вачмі ўсміхалася яму. Ягор быў шчаслівы, толькі ў глыбіні душы штосьці трывожна ныла, быццам балела нават. І ён здагадваўся, чаму балела, як толькі ўяўляў перад сабой наіўную далікатную Настачку. Але хіба можна было параўнаць Настачку з Палінай? Варта было паслухаць, як гэтая выступае перад сялянамі, нават лепш за Зарубу. Той нібы граў на гармоніку — басавіта і патрабавальна, а Паліна — нібы на скрыпачцы — сардэчна, дужа пераканаўча, нават пранізліва, асабліва як звярталася да жанчын і абяцала ім шчаслівую долю. Тады здавалася, Паліна ўжо бачыць тую долю і вось-вось раздасць яе ўсім жанчынам і дзеўкам, што сабраліся ў той хаце. Толькі трэба было ўступіць у

калгас, іншай дарогі для савецкіх жанчын няма. Па заканчэнні яе прамовы вясковыя дзеўкі дружна білі ў ладкі. Мужчыны, аднак, сядзелі не крануўшыся. У мужчын быў свой клопат.

Тым не менш калгас у Трыкунах арганізавалі. Праўда, уступілі не ўсе, нават не палавіна, але Заруба сказаў, што важна пачаць. Пачатак жа быў зроблены, і яны позна ўвечары паехалі ў канец вёскі да старшыні сельсавета. Там Ягор уладкаваў каня, паставіў у хлявок, напаіў цёплым пойлам, і як прыйшоў у хату, госці з гаспадаром ужо сядзелі за накрытым сталом, вячэралі. Гаспадар нават дастаў бутэльку "Рускай горкай", Заруба не адмаўляўся, выпіў шклянку, налілі Паліне. Тая бойка аднеквалася, казала, галава будзе балець. Тады гаспадар пераставіў шклянку да Ягора. Той нерашуча з-пад ілба зірнуў на Зарубу, і Заруба стрымана кіўнуў у знак згоды. "Выпі, каб лепш спалося". Ягор выпіў. Як пачаў закусваць, Паліна раптам папрасіла, каб налілі і ёй. Гаспадар з ахвотай наліў поўную шклянку, з якой Паліна трохі адпіла і закашлялася. "Закусвай, закусвай, во гурочкам, капусткай", — падсоўваў ёй гаспадар закусь. "Не гурочкам — салам трэба", — стрымана сказаў Заруба, і Ягор, бліжэй да якога стаяла міска з нарэзанымі кавалкамі сала, падсунуў яе да Паліны. Тая з хітраватай удзячнасцю стрэліла ў яго змоўніцкім позіркам.

Рэшту тае вячэры Ягор сядзеў за сталом добра-такі захмялелы, вельмі хацелася спаць, але ён неяк трымаўся, слухаючы размову. Зрэшты, размаўлялі болей мужчыны, нават болей гаварыў Заруба, хоць і не так, як на сходзе, — разважна, нешматслоўна, але ўпэўнена. Гаспадар слухаў, часам круціў галавой — ад клопату ці нязгоды. Што-нішто хуценька ўстаўляла Паліна. Гаспадыня і яе дачка болей стаялі ля печы ці падавалі-прымалі міскі, у размову не ўмешваліся. На нейкім часе Ягор задрамаў, ці што, і гаспадар сказаў да яго: "Ішоў бы спаць, прытаміўся, мабыць". — "Ідзі, ідзі,— сказала і Паліна. — Чаго мэнчыцца!" І ён устаў з-за стала, пайшоў за гаспадыняй у трысцен.

У трысцене было не так і сцюдзёна (нават цёпла ў параўнанні з яго стадолай), у куце стаяў ложак, засланы стракатай коўдрай з пульхнай, як пагорак, падушкай, і ляжаў кажух.

Ягор трохі распрануўся, зняў боты, Штаны, шкарпэткі і лёг пад кажух. Як лёг, дык, мусіць, і заснуў — адразу і глыбока.

Невядома, колькі ён спаў, але прабудзіўся раптоўна і амаль спалохана — хтось да яго поркаўся, ці што. Ягор, прахапіўшыся, спрабаваў сесці, ды пачуў знаёмы сцішаны голас: "Ну чаго, чаго, ляжы, дурненькі... Напалохаўся? Пасунься крыху..." Ён ледзьве не задыхнуўся ад хвалявання, пасунуўся і ляжаў, змярцвеўшы ад новага невядомага пачуцця, якое раптоўна ахапіла яго. У думкі неспадзявана шыбанула пытанне "Навошта?", але яно тут жа і аслабла без адказу, бадай знікла. Вялікая няёмкасць асталася, ды Паліна, бы не адчуваючы ніякай няёмкасці, ужо ўладкоўвалася пад касматай палой кажуха, гулліва шэпчучы яму ў самае вуха: "Не палохайся, не палохайся, я не мядзведзь, не з'ем цябе, такога вялікага. Хачу пагрэцца каля цябе, а то напаілі і кінулі аднаго ў гэтую лядоўню... Ну, пагрэй мяне..."

"Што яна кажа? Нашто?" — білася ў яго галаве ўсё тое ж пытанне, і ён змярцвелай рукой дужа няспрытна абняў яе за худзенькія плечы і тут жа адчуў на сваей шчацэ яе далікатны, пяшчотны пацалунак. Яна гарнулася да яго і нешта шаптала, а ён не мог суняць трапятанне сэрца і ляжаў, бы палена. Мусіць, трэба было на штось наважыцца — на самае рашучае, ды не хапала адвагі. Паліна і вабіла яго і адбірала волю адначасна. Неяк, аднак, быццам без ягонае волі ўсчалася дыхавічная валтузня. Ягор усё баяўся, што яна закрычыць і вырвецца. Але яна не крычала, яна толькі шаптала штосьці незразумелае і гулліваe. Як урэшце адбылося тое, зусім недарэчнае, мусіць, і ён сціх, стаіўся пад самай сцяной, і яна лягла ля яго трохі вальней, абое трудна аддыхваліся. Пасля яна папыталася: "Не спіш?" — "Не, што ты!" — "Ты такі

вялікі і такі..." — "Які?" — "Няўклюдны такі... Бы мядзведзь". — "А ты, знаеш, дужа харошая..." — "Канешне, харошая. А ты думаў ... Благая, ці што? Слухай мяне і ты будзеш харошы малады бальшавік. Хочаш стаць бальшавіком-сталінцам?" — "Ды я канешне. Але..." — "Што — але?" — "Ну, з сялян я. Калі б рабочы". — "Не мае значэння, калі і з сялян. Ты ж з беднякоў, мабыць?" — "Ну гэта, бацька серадняком лічыцца". — "Серадняком — гэта горш. Але каб не з падкулачнікаў. Не падкулачнік жа, ага?" — "Не, не падкулачнік". — "Каб стаць сапраўдным партыйцам, бальшавіком, трэба заслужыць. Гэта не проста". — "Ды то я ведаю, канешне..." — "Я во з мяшчанаў. У мяне ж бацькі ваўначоску ў Дзвінску мелі. Зусім несвядомыя былі, у Бога верылі. А я во, заслужыла. Прынялі ў ВКП(б), кандыдатам, праўда. Ну, але прымуць і ў члены, нікуды не дзенуцца".

Яму ўвогуле падабалася гэтая яе ўпэўненасць, ды ён і не сумняваўся, што прымуць і ў члены. Каб такую ладную адукаваную жанчыну да не прыняць! Ён ведаў, што прымалі і не такіх — нават цемнаватых і малапісьменных. Праўда, затое ўдарніц ці актывістак, як на льнозаводзе. А гэта ж такая разумненькая, да таго ж прыгожая. Нездарма са школы, дзе яна працавала адну зіму, адразу ўзялі ў жанаддзел райвыканкома. Цяпер яны разам з старой Шацман кіруюць усімі жанчынамі ў раёне. Во якая Паліна! І гэтая жанчына цяпер ляжыць з ім пад адным кажушком, гэтак міла лашчыцца да яго і цалуе. Няўжо яна пакахала яго? А чаму б і не! Што ён, які няўломак — дужы і рослы хлапец, не дурнейшы за іншых. Можа, сарамлівы крыху, нясмелы, асабліва з дзеўкамі. Але, кажуць, некаторыя дзеўкі нават любяць такіх, сарамлівых. Каб не нахабных. Значыць, і ён варты кахання, і вось яно — побач. Ад тае салодкае думкі зрабілася радасна і ганарліва, ён ажно пабольшаў ва ўласных вачах. "І гэта... Даўно ты пакахала мяне?" — нясмела папытаўся ён і знерухомеў у цемры. "Адразу, як убачыла",— хуценька адказала яна. "Праўда?" — "Анягож. Іначай хіба я прыйшла б да цябе і гэтак... аддалася". — "Ну, то дзякуй",— сказаў ён у замілаванні.

Яна ціхенька і радасна засмяялася. "Дзякуем не адкупішся". — "А чым жа?" — "Каханнем, мядзведзька, каханнем..."

Ну ведама ж, каханнем, хіба ён не быў гатовы пакахаць яе. Ды ён ужо і кахаў, гатовы быў для яе на ўсё. Хоць бы і ажаніцца з ёй. Праўда, тут былі некаторыя свае хібы і першае з іх — невядома, як да таго паставяцца бацькі. Матка дык, мабыць, была б і рада, усё ж не каталічка, як Настачка. Але ж — бальшавічка! Тут ці не яшчэ большая перашкода для маці. Хаця што маці! Цяпер не тыя парадкі, каб зважаць на старасвецкія завядзёнкі бацькоў.

На золаку яна яшчэ спала пад кажушком, а ён злез з ложка — трэба было паглядзець, як пераначаваў конь. У хаце ўсе яшчэ спалі, апроч хіба гаспадыні, што якраз унесла з сянец абярэмак намерзлых дроў, грукнула перад прыпечкам. На прыпечку гарэла капцюшка, і ён, кінуўшы "дзень добры", выйшаў на двор.

У хату ён вярнуўся няхутка, доўга поркаўся ў хляўку, наскубаў мурожнага сенца для каня. А як прыйшоў, госці ўжо сядалі за стол, на якім смачна сквірчэла вялізная скаварада яешні. Ён павітаўся з гаспадаром, з Зарубам, які яшчэ без пінжака, у падцяжках прайшоў цераз пакой. Паліна ўжо сядзела ля кончыка стала і спакойна зірнула на яго. Ён трохі паўзіраўся ў яе мілы тварык, але нічагусенькі на ім не ўбачыў. Як заўжды, на людзях яна яго быццам і не заўважала, нібы не з ім, а невядома з кім пераначавала той раз у трысцене. Ягор трохі здзівіўся. Увогуле тыя староннія паводзіны Паліны былі для яго новыя і нечаканыя, але ён думаў: мабыць, так і трэба. Можа, гэта так і заведзена сярод перадавой пралетарскай моладзі. У той час, як Паліна стала для яго навек адметнай і роднай, ён для яе заставаўся той самы, што і раней. Бы нічога між імі і не здарылася. Не тое што ў вёсцы. І ён прыпамятаў, як аднойчы ўлетку пасля вечарынак апынуўся з Настачкай у пуньцы і як у іх там ледзьве не дайшло да таго самага, дык Настачка ажно спалохалася: як можна? Каб пасля вяселля. Але для вяселля трэба было назапасіць пасаг. А з пасагам у

беднай Настачкі была пэўная нявыкрутка — што магла выдзеліць за дачкой яе ўдава-маці? Тут справа іншая — ім не патрэбны ні пасаг, ні шлюб, ні вяселле, яны без прымхаў. Во гэта перадавая, бальшавіцкая моладзь! Можа, і правільна. Цяпер так будзе ва ўсіх.

На той дзень яны вярнуліся з паездкі трохі раней, і Паліна пабегла ў будынак райкома, дзе быў яе жанаддзел. Яна яму не сказала нічога, толькі развіталася "да пабачэння" — адным на іх двух з Зарубам. Заруба, як заўжды, маўчаў, мабыць, поўны ўласных клопатных думак. Ягор паехаў распрагаць каня. Ён ужо не мог думаць ні пра што іншае, апроч як пра гэтую дзяўчыну, якая зблытала ўсе ягоныя думкі, апанавала яго новым нязведаным клопатам. Вельмі карцела бачыць яе — на вуліцы ці ў выканкоме. Як на тую бяду, заняткі ў камсамольскім гуртку былі перапынены ў сувязі з адставаннем тэмпаў калектывізацыі. Разоў колькі ён памыкаўся зайсці ў райком, але ўвечары не быў упэўнены, што заспее яе там. Іншага ж часу ў яго не было — амаль кожнага дня яны ездзілі з Зарубам па вёсках — далёкіх і блізкіх.

Праз два ці тры дні яна прыйшла да яго сама. Толькі ён вярнуўся з выканкома ў сваю стадолу, хтосьці ціхенька патузаў дзверы. Ён здзівіўся, але адчыніў — і яна лёгенька ўскочыла ў пакой. "Што, не чакаў? А я без чаканкі. Як ластаўка, пачуўшы вясну..." — "Ластавачка мая..." — "Не, не, не абдымай мяне, дай я спярша цябе пацалую. Ну, добры вечар, мядзведзька..."

І зноў іх павяло адно да аднаго, без слоў, моўчкі, і зусім побач апынулася скрыня з сякой-такой яго апраткай.. Калі трохі саўладалі з сабой, паспакайнелі, яна раптам сказала: "Еду на тыдзень у акругу". — "На тыдзень?" — здзівіўся ён. "На цэлы тыдзень. А вы, здаецца, у аўторак у Кандыбічы кіруеце?" — "Не ведаю, старшыня не казаў..." Яна памаўчала трохі, бы прыслухалася да цішыні вялікай Ісакавай дамоўкі. "Слухай, ён даўно ў Кандыбічах быў? Ну, у таго настаўніка?" — "На тым тыдні быў",— сказаў Ягор. "І начавалі?" — "І начавалі". — "А яшчэ хто там быў?" — "Ну гэты, што з Менска

прыязджаў. Упаўнаважаны". Яна зноў прыціхла, прыслухалася. "А пра што гаварылі, не чуў?" — "Не слухаў",— проста сказаў Ягор. "А ты паслухай. Паслухай калі. Добра?" — "А нашто?" — "Нашто? На тое! Твой Заруба ведаеш хто?" — "Хто?" — "Скрыты белагвардзеец, паняў?" — "Як белагвардзеец? Ён жа бальшавік. З рабочых. На грамадзянскай быў камісарам ваенных курсаў". — "Залівае! Нікім ён не быў. Ён скрыты вораг. Паняў? І ты за ім пацікуй. З кім ён і што? Недарма ён да таго настаўніка ў Кандыбічы зачасціў. Родная кроў. Той жа таксама контра. Пстыга. Папоўскі сынок". — "Во як!" — здзівіўся зусім збянтэжаны Ягор. "А ты думаў..."

Дзіўна гэта было і незвычайна. Вядома, Ягор ведаў ужо, колькі ўсякіх ворагаў было скрозь, у тым жа Менску, у акрузе, ды і ў іхнім раёне. Але каб ворагам стаў Заруба, ягоны самы найлепшы і найбольшы начальнік, таго Азевіч уявіць не мог. Ды ўсё ж нешта, мабыць, было. Нездарма яго выклікаў Мілаван, цяпер во пра тое ж кажа і Паліна.

Паліна знікла на цэлы тыдзень, і Ягор хадзіў, нібы апушчаны ў мутную ваду — збіты з панталыку, здзіўлены, нават абураны. Толькі на каго? На Зарубу ён не хацеў нават пакрыўдзіцца — не мог паверыць, што той вораг, белагвардзеец. Хіба такія бываюць ворагі? Дзень і ноч пнуўся пра справу, арганізоўваў калектывізацыю, ездзіў па вёсках, агітаваў за Савецкую ўладу, лепшае сялянскае жыццё. Але і Паліне ён не мог не верыць — усё ж яна разумнейшая за яго, Ягора, мусіць, яна нешта ведае. Можа, яна яшчэ не пра ўсё кажа? Можа, у яе таксама штосьці ідзе з ГПУ?

Ён дужа сумаваў па ёй, проста прагнуў яе, толькі б убачыць, пачуць яе мілы дзявочы галасок. Ён думаў, як яна там у акрузе, на той нарадзе, мусіць, выступае і, вядома, падабаецца хлопцам. Ды і сама можа ўпадабаць каго — ці мала там прыгожых, адукаваных, разумных хлопцаў, камсамольцаў ды і сталых партыйцаў-бальшавікоў. Можа, яна ўжо і забылася на яго? Ён жа пра яе забыцца не мог ні ўдзень, як яны шыбавалі па

заснежаных прасёлках, ні ноччу ў свае настылай стадоле.

Таксама як не мог забыцца і на яе апошнія словы пра Зарубу. З таго часу з нейкім інакшым пачуццём глядзеў на старшыню і слухаў, як той складна гаварыў пра калгасы, і неўлад з яго словамі ў Ягора аднекуль выпірала страшнаватая думка: "Глядзі ты, а вораг!" Ягор гнаў яе, а яна сама па сабе вярталася і зноў лезла ў галаву. Як у канцы тыдня яны зноў апынуліся за возерам, па дарозе ў мястэчка, Заруба зноў сказаў павярнуць у Кандыбічы. Праўда, на той раз начаваць не сталі — папалуднавалі толькі. Але палуднавалі не спяшаючыся, добра нагаварыўшыся, як старыя сябры. Настаўнік Арцём Андрэевіч, з дзіўным нетутэйшым прозвішчам Пстыга, частаваў іх капустай з баранінай, быў дужа клапатлівы і ласкавы і да Ягора таксама. Той добра пад'еў і чакаў, калі ехаць. А яны ўсё не маглі нагаварыцца. Усё ўспаміналі грамадзянскую вайну і сённяшнія парадкі і шкадавалі нейкага Жылуновіча, якога выключылі з партыі без дай на тое прычыны. Бо ці бачыце, удзельнічаў у пахаванні швагра па хрысціянскім звычаі. Настаўнік дужа бедаваў, і Заруба сказаў: "Дурноцце ўсё тое — ад бязглуздзіцы і неадукаванасці". — "Во, во! — узрадаваўся Пстыга. — Неадукаванасць — іхняя хіба на ўсіх узроўнях. Дзячкі яны! Нахабныя бязглуздыя дзячкі, а выдаюць сябе за архірэяў і кіруюць епархіямі. Ды якімі епархіямі! Усёй Беларуссю". — "Мабыць, так!" — пагадзіўся Заруба, кінуў стоены позірк у бок Ягора і прымоўк. Болей яны пра Жылуновіча не гаварылі.

Ягор ледзьве дачакаўся прыезду Паліны, усё ў ім перапакутавала, перабуцвела ад тае нечаканай, ранняй, не ў пару ростані. Нават не думаў ніколі, што гэтак можна прысохнуць да нядаўна яшчэ чужой, незнаёмай дзяўчыны. Ён сустрэў яе раніцай у выканкомаўскім калідоры, яна, як звычайна, ветліва павіталася, нічым, аднак, не выдаючы іхняй вялікай таямніцы, і, азірнуўшыся, кінула: "Увечары забягу". Ён чакаў таго вечара, радаваўся і пакутаваў. Ён падрыхтаваў ёй у думках безліч ласкавых слоў, прыйшоўшы трохі раней

са стайні, папрасіў у Ісака самавар і два кубачкі. Гарбатка ў яго была, трохі цукру было таксама. Ісак спярша аж здзівіўся, але зразумеў нешта, затузаў барадой і ўсім сваім зарослым чорнаю шчэццю тварам. "Так, так, так... Малады чалавек... Стары Ісак таксама некалі быў маладым. І знаеш... мяне дзеўкі любілі. Ды і я іх таксама. Я табе ўсё падрыхтую і нават магу трошкі варэння. З агрэсту, смаката. Асабенна калі для жэншчыны..."

Паліна прыйшла, як ужо добра ўцямнела, ён пацалаваў яе, і яна яго таксама, але штосьці ў яе аздобе ці паводзінах адразу яго насцярожыла. Здалося, яна ў чымсьці змянілася, быццам неяк пачужэла, ці што. Ён пачаў яе ўладкоўваць на адзіным тут зэдліку ля скрыні з самаварам, на які яна нават не падзівілася, толькі выпіла кубак чаю з варэннем на сподачку. "Ну як тут жыў? Без мяне?" — узняла на яго нейкія спакутаваныя вочы, і ён не ведаў, як адказваць ёй і як паводзіць сябе. Яе нейкі чужы, надта сур'ёзны настрой быццам трымаў яго на адлегласці ад яе, і ён адказаў проста: "Ды так... Ездзілі..." — "У Кандыбічах былі?" — "Заязджалі, ага". — "Пра што ішла гаворка? Пра пастанову ЦК і СНК гаварылі?" — "Не, пра пастанову не гаварылі..." — "А пра што гаварылі?" — дапытвалася Паліна зусім чужым, нібы начальніцкім голасам, які прымусіў і яго насцярожыцца. "Ды так, пра нейкага Жылуновіча". — "Што? Пра Жылуновіча? Што дарма не арыштавалі?" — "Не, што няправільна з партыі выключылі". — "Ах, во што!.."

Паліна ўстала з зэдліка, узяла сваю сумачку з падаконніка. "Во табе папера, во аловак. Сядай і ўсё напішы. Я чакаю". — "Нашто?" — зусім здзіўлена вымавіў ён. "На тое,— адказала яна сур'ёзна, без усмешкі паглядаючы на яго. — Ну, я чакаю". Ён няўцямна пазіраў на белы аркуш паперы са сшытка ў клетку, не разумеў, што рабіць. "Дык гэта, я заўтра напішу", — сказаў ён і ўсміхнуўся. Але яна зноў надта сур'ёзна зазначыла: "Не, ты напішаш зараз. Я чакаю", — і ўтаропілася ў яго сваімі цёмнымі, надта прыгожымі вачыма, у якіх цяпер была нецярплівасць і нават

незразумелая непрыязь да яго. "Ну, пачынай!" — "Ды не магу я!" — "Ах, не можаш? Тады я сама напішу. Давай аловак".

Ён аддаў ёй аловак і паперу, і Паліна, адразу засяродзіўшыся, пачала пісаць на скрыні ля самавара. Яна болей не задавала яму ніводнага пытання, нават не зірнула ў ягоны бок, — напісала старонку і сунула яе Ягору: "Падпішы!" Кепска разумеючы, што тут робіцца, Ягор пачаў разбіраць яе дробны, не надта разборлівы почырк: "Настоящим свидетельствую, что во время поездок председателя РИК Зарубы по району указанный гр-н. Заруба М. Ф. систематически и регулярно имел встречи с гр-ном Пстыго А. А., во время которых велись откровенные разговоры с осуждением политики органов, партии и правительства и восхвалением некоторых вредителей и нацдемов, например, писателя Жилуновича..."

Азевіч адарваўся ад тэксту, у ягоных вачах пацямнела. "Паліна, навошта ж так? Якія разгаворы?" — "Што, не было разгавораў?" — "Ну, дык гаварылі, але..." — "Але ты не чуў? Тады цябе самога арыштаваць трэба. Што не чуў. Бо павінен быў чуць. Калі ты таксама не скрыты контррэвалюцыянер. Падпісвай!"

Ягор вагаўся. Ён чытаў далей, думаў, можа, дзе ў канцы будзе якое тлумачэнне, якое для сябе апраўданне. Ды ўся папера была з адным сэнсам: старшынёй РВК вяліся кепскія размовы з былым белагвардзейцам Пстыгам, што і пацвярджае возчык РВК Азевіч Ягор. Ягор прачытаў усё і разгублена пазіраў то на паперу, то на такі знаёмы тварык дзяўчыны. Але цяпер гэты тварык быў зусім не такі, як заўжды. Куды толькі знікла ягоная ўсмешыстасць і з ёй мілая дзяўчачая прывабнасць. Штосьці цвярдое і зласлівае было на тым мілым тварыку. "Ну, што яшчэ смушчае?" — нецярпліва пыталася Паліна. "Ды ўсё. Нядобра гэта" — "Нядобра? Затое па-бальшавіцку. Ты гэта разумееш ці не?"

Не, таго Азевіч зразумець не мог. Ён не ведаў, навошта было тое яму ды і Паліне таксама. Аднак, счакаўшы, Паліна неяк змяніла свой патрабавальна заклапочаны

тон на амаль гарэзлівы. "Ягорка, ну! Зрабі тое для мяне! — зазірнула яна яму ў вочы і нават мякка дакранулася да ягоных валасоў. — Ну, для нашага кахання. Мы ж так кахаліся... Помніш? Падпішы тут, і ўсё". — "А Зарубу што будзе?" — "Ды нічога яму не будзе, дзівак ты! Ну, можа, вымова. За страту пільнасці. Ну?.."

Кепска разумеючы, што робіць, Ягор памарудзіў крыху і вывеў над самым беражком "Азевіч Я.".

Паліна моўчкі паклала паперу ў сумачку, кінула яму "дабранач" і пайшла. Ён застаўся, мала што адчуваючы. Ён быў зусім збіты з панталыку, з натугай, спакваля пачынаючы разумець, што адбылося. Толькі праз нейкі час даўмеўся, што адбылося кепскае. Сам, можа, і ўбярогся, але Заруба... Мабыць, ён дужа нашкодзіў Зарубу.

...Можа, ён ішоў і нядоўга, але пасля, як упаў, імпэт ягонай хады прыкметна паменшаў, ён ужо брыў, ледзьве стрымліваючы дрыжаку ў целе. Нешта ў ягоным заўжды вынослівым целе яўна разладзілася, апаноўвала знямога ды гэтыя прыкіды дрыжакі. Узлесак недзе прапаў, кустоўя, праўда, траплялася ўсё болей, пад нагамі шапатала сухая трава, і ён падумаў: як бы не набрысці на рачулку. Недзе тут па забалаці павінна была віцца Вужка, нехуцавая рачулка на поплаве, ці не брыў ён якраз да яе па тым поплаве? Але рачулку цяпер паначы ён не пералезе, што тады рабіць? Во яшчэ не хапала прыгоды на яго галаву!

Усё ж сенажаць ці поплаў пад яго нагамі скончыўся, і рэчка не паявілася. Ён зноў адчуў цвярдзейшае, ды ісці па ім стала зусім пакутна. То быў узараны на зябліва клін — няроўны і глыжасты, на ім часам балюча падварочваліся ягоныя ступні. Азевічу здалося, што ён ідзе ўздоўжкі па ім, і тады ён крута павярнуў убок. І праўда, хутка ўпёрся ў шнурок кустоўя, прыгледзеўшыся, пралез праз яго цёмны гушчар і апынуўся на чымсь цвярдым і роўным. Не адразу здагадаўся, што набрыў на дарогу — уезджаны сухі бальшак, які кіраваў ці не ў бок мястэчка. Толькі ў якім баку было тое мястэчка?

Напружана згадваючы, якія тут дзе павінны быць вёскі, Азевіч прайшоў колькі крокаў у адзін бок, пасля, засумняваўшыся, спыніўся, павярнуў назад. У раённае мястэчка, вядома, лепш было не патыкацца, трэба было кіраваць у іншы ад яго бок. У гэтым іншым баку ляжалі недзе яго знаёмыя мясціны і яшчэ далей ягоная родная вёска, дзе яго ўжо ніхто не чакае. А так хацелася б цяпер туды... Ды толькі туды дарогі яму не было таксама.

Во чортава жыццё, ці вайна, ці такі кляты ягоны лес, калі менавіта туды, куды цягне, дзе ты знайшоў бы прытулак і сховішча, менавіта туды і нельга.

Аднак і ў гэтым кірунку ўпэўненасці ў яго не было, здавалася, што трэба не туды. І ён спыніўся зноў, азірнуўся. І тады да ягонага слыху даляцеў нейкі няпэўны гук ззаду, ён прыслухаўся болей. Здаецца, аднак, не памыліўся: вецер даносіў ціхі тупат капытоў — паначы хтось ехаў і нават ужо быў блізка. Азевіч шаснуў у бок ад кустоўя, прысеў, стаіўся. Тут, мабыць, яго не будзе відно, а ўжо ён нешта пабачыць.

Чакаў нядоўга, сапраўды з цемрыва на дарозе высунулася цёмная рухавая постаць, стала відаць конская галава пад дугой і фурманка. Яна хутка набліжалася, але ён усё не мог разгледзець, хто там, на возе, і колькі іх. Воз здаваўся груваcткі, з якой паклажай, ці што. Але во зтуль пачулася:

— Цётачка, а ваўкі нас не дагоняць?

То быў ціхенькі дзіцячы голас, хлопчыка ці дзяўчынкі. Азевіч зусім прыцяў дыханне і тады пачуў, як у адказ хрыплавата азвалася жанчына:

— Ды якія ваўкі, ноо...

— Ваўкоў баюся...

— Ваўкоў не бойся цяперака... Цяперака людзей трэба баяцца, дзетка.

Азевічу раптам зрабілася проста і нябоязна, ён нават

пасаромеўся нядаўняй свае асцярогі і ўстаў з-пад кустоўя. Фурманка ўжо была побач, ён зрабіў два крокі напярэймы і ціха сказаў:

— Пастой, цётка!

Конь знячэўку тузануўся, але прыпыніў хаду, беручы трохі ў бок ад каляін, Азевіч ухапіў яго за аброць і зусім спыніў. У возе, відаць было, сядзела кабета з лейцамі, ззаду за ёй, здаецца, мясціліся дзеці. Колькі там іх было, ён не паспеў разгледзець.

— Не бойся. Свае,— сказаў ён як мага лагодней. Жанчына ўсё маўчала. — Куды едзеце?

— У Васіп'е, — сказала і заціхла кабета.

— Чаго паначы?

— Дык падводу толькі ўзяла надвячоркам. Удзень дровы вазілі.

Васіп'е ён ведаў, то была невялікая вёска пад лесам вёрст за дваццаць ад мястэчка. Мабыць, туды б яму было па дарозе.

— Можа, падвязеце і мяне. А то... падбіўся троху. Кабета не адказала, толькі няёмка паварушылася ў сваёй цёплай апратцы з тоўста захутанай галавой, страхавіта прымоўкла. Не чакаючы яе згоды, Азевіч улез ззаду на воз, звесіў цераз бакавіну ногі.

— А вам ці далёка ж трэба? — урэшце папыталася кабета.

— Ды мне недалёка. Каб трохі пад'ехаць.

Кабета варухнула лейцамі, і конь, парыпваючы збруяй, паклыбаў далей, а Азевіч толькі цяпер падумаў: куды ж гэта ён? Пад'ехаць — яно няблага, але куды? Праўда, ужо хоць тое добра, што не ў мястэчка, у другі бок, мабыць, туды і яму будзе здатна. А там прыйдзецца падумаць.

— А вы ж гэта з паліцыі будзеце? Ці, можа, парцізан? — боязна пацікавілася кабета.

— Акружэнец,— сказаў ён таксама ціха.

— А, акружэнец, — прыкметна пажывела кабета. — Гэта ж дамоў едзеце, пэўна?

— Дамоў.

— А ці далёка ж гэта вы, каб дамоў?

— Далёка, цётка, — сказаў ён.

— Во як! Далёка... Ах, горачка наша... Ды паначы. Цяперака толькі ж і можна што паначы. Удзень і праўда неяк. Во і я заначлезілася... Але малыя, як жа іх...

Прыгледзеўшыся, Азевіч зразумеў, хто яшчэ ехаў у возе з гэтай кабетай.

Захутаныя ў кажух, побач бялелі два дзіцячыя тварыкі, — насцярожаныя, мабыць, спалоханыя, яны маўкліва ўзіраліся праз змрок у начнога чалавека, што перапыніў іх на дарозе, і сказаў знарок бесклапотна:

— Не бойцеся! Дзядзя — добры.

— А я не баюся, — раптам азваўся адзін з малых. — Гэта Лёдзя баіцца. А я не баюся цябе.

— Во як! Смелы, аднак! — ціха зазначыў Азевіч, трохі здзіўлены словамі малога.

— Смелы, ага, — проста пагадзіўся той. Кабета павярнулася да іх тварам:

— Малы ён, кажа немаведама што. Які там смелы...

— Смелы,— стаяў на сваім малы.

— Маўчы, Шурка!..

Шурка, мабыць, і яшчэ хацеў запярэчыць, але тады ціхенька азвалася малая Лёдзя:

— А і ты нясмелы. Во плакаў, як татка ляжаў і з яго кроў цякла...

Усе змоўчалі, маўчаў і Шурка, і Азевіч з няёмкасці перасмыкнуў нутром, адчуўшы нейкую трагедыю гэтых падарожнікаў. Але трагедый ён ужо начуўся і набачыўся столькі, што яшчэ адна не хацела змяшчацца ў яго душы, і ён не запытаў нічога. Ды кабета, мусіць, ужо зачапілася за стрэмка свае бяда і растлумачыла:

— Гэта ж во іхніх бацьку з маткай забілі. Вязу сірот дахаты. Пляменнікі ж...

— А ў цёткі сабака ёсць, — не ў тон гаворкі паведаміўШурка. — Жулік завецца.

— Ат, які там сабака! — сказала кабета. — Шчанюк адзін.

Азевіч, аднак, каб не дужа распытваць, стараўся зразумець, што напаткала гэтых малых, ды не шмат зразумеў і перапытаў у кабеты:

— Бацькоў — немцы? А завошта?

— Каб жа немцы! — нібы папракнула кабета. — Свае, партызаны.

— Во як! За што?

— А нізашто, — памаўчаўшы, казала кабета. — Што за немца заступіўся. Не даваў немца застрэліць. Дык застрэлілі ўсіх.

— Цікава, — выдыхнуў Азевіч, аднак не адчуваючы да таго здарэння вялікай цікавасці.

— Настаўнікі яны, Біклагі. Якраз во ля царквы жылі.Недалёка ад школы. Бацька фізіку вучыў, а матка, мая сястрыца Фанечка, нямецкую мову. Домік такі ладны мелі, яна ж, Фаня, чысцюткая такая сястрыца, усё ў іх прыбранае было, ладнае, — ці комнатка, ці ганак, усё вышаравана, аж жоўценькае. Во гэта іх і згубіла. Каб тое знаццё... Но, ты! Чаго гэта ён стаў? —

здзівілася кабета, мабыць, з каня, які і сапраўды спыніўся сярод дарогі, бы спужаўся чаго. Неўзабаве, аднак, яна зразумела.

— А, гэта ж тут раздарожжа. Хутары Альхоўскія, калі ўправа, а ўлева — аб'ездзіны. Як яно цяпер лепей? — не разумела кабета, і Азевіч падказаў:

— Лепш на аб'ездзіны.

— Ага ж, і праўда, мусіць, лепш на аб'ездзіны. Но, мілая...

Фурманка трохі павярнула кудысь улева, і яны ціха паехалі ў цемры. Дарога тут стала горшая, з калдобінамі, кустоўе збоч скончылася, і неўзабаве яны апынуліся ў цёмным ветраным полі. Стала сцюдзяней на возе, Азевіч ужо ледзьве трываў дрыжыкі, дужа мерзла правая нага ў мокрым дзіравым боце.

— Яны і дзетак гэтак вучылі, каб акуратна, ветліва. Шурка во малы, яшчэ ў школу не хадзіў, а ўжо кніжкі чытаў, увесь буквар знае...

— А, буквар нецікавы, — сур'ёзна зазначыў малы. — Казкі цікавейшыя.

— Хто цяпер вас вучыць будзе, ай, дзеткі вы мае няшчасныя, — сказала і захліпала цётка. Азевіч счакаўтрохі і запытаўся:

— Дык а завошта ж іх забілі ўсё ж такі?Кабета трохі памарудзіла, выцерла далоняй вочы.

— Я ж і кажу: чысценька ў іх было, во і ўпадабаў кватэру той немец. Што ў раёне за начальніка прыехаў. У рудым такім пінжаку з абвязкай на рукаве, немалады ўжо такі, дужа строгі. Стаў кватарантам...

— Бургамістр, ці што? — нагадаў Азевіч.

— А чорт яго ведае,— бургамістр ён ці яшчэ хто. Але заняў большы пакой, іх перасялілі ў бакоўню, каб да яго ні-ні. І дзяншчык там у яго, абслуга...

— А ў яго наган — во такі, у скураной сумцы. Парабел называецца, — уставіў Шурка.

— Во-во, наган ты толькі і запомніў, — наган...

— Ага, запомніў, — заварушыўся ў кажусе Шурка. — Як той дзядзя застрэліў немца, дык узяў ягоны наган і стрэльнуў у татку.

Тое ўжо ўражвала і здзіўляла, і Азевіч урэшце не стрымаўся:

— Дык завошта ж іх? За кватэру?

— А хто ж іх ведае, я ж не была там, не ведаю. Але ж людзі расказваюць: прыйшлі ноччу, паклікалі ў пуню Біклагу, ну, бацьку во гэтых. Каб немца забіць. А ён — не, нельга, дзяцей пагубіце, усіх жа паб'юць тады немцы — і бацькоў, і дзяцей. Бо куды ж ім тады падзецца. А тыя кажуць: ах ты, халуй нямецкі, фашыстаў зашчышчаеш? Ну і самі ў хату, застрэлілі немца, а тады і іх абыдвух пастралялі. Каб сведак не было, ці што? Ці са злосці? Ці чорт іх ведае чаму.

— А татку два разы стрэльнулі, — сказаў у маўклівай цішы Шурка. — Бо шавяліўся. Рукой так па грудзях і ўбок вадзіў.

— А ты бачыў? — падала ціхі голас Лёдзя. — Я дык на печы плакала.

— А я бачыў. Я пад ложкам сядзеў, а як кроў таткава пацякла аж да парога, дык я вылез. А татка і не крануўся.

Цётка пачала плакаць, а Азевіч сядзеў моўчкі, думаў. Ды і што ён мог зрабіць, чым суцешыць гэтых людзей. Можа, так было і трэба, а можа, і не. Як зразумець цяпер, хто вінаваты. Вінаваты вайна і людская жорсткасць, нянавісць і непрымірымасць, што раздзіралі людскія душы. Стралялі, нішчылі, білі — не дужа разбіраючыся, не надта мяркуючы-судзячы — абы больш крыві — і сваёй і варожай. Але ці гэта пачалося толькі з вайной, ці і да вайны было не тое ж самае...

Свае з сваімі пачалі ваяваць даўно і рабілі гэта з немалым поспехам. Нездарма казалі: "Бі свой свайго, каб чужы баяўся". Чужых не надта напалохалі, а сваіх пабілі. Цэлыя горы трупаў. Цяпер, пачуўшы тую размову на начной дарозе, ён увогуле разумеў тых местачковых настаўнікаў і іхні клопат пра гэтых во дзяцей. Мабыць, любоў да іх, а не прыслужніцтва да немцаў змусіла іх пярэчыць партызанам. Але ці захацелі тое разумець партызаны? Апантаныя сваёй мэтай, можа, падагрэтыя загадам камандзіра, пабілі і тых і гэтых. Бо ўсё і добрае і благое спіша вайна.

Яны яшчэ ехалі полем, як Азевіч раптам затрывожыўся: недзе тут павінна была пачацца вялікая вёска Сакаўшчына, у якую яму лепш не патыкацца. Вёска на шляху, былы сельсавет, там, напэўна, ужо ўсталявалася паліцыя, і, мабыць, іх пярэймуць нават і ноччу.

Мабыць, яму трэба было злазіць, шукаць свой шлях-абыход.

— Цётка, а Сакаўшчына далёка? — запытаўся Азевіч, як кабета трохі прыціхла ад свайго плачу.

— Сакаўшчына? А блізка. Во масток праедзем, і Сакаўшчына.

— Тады я тут злезу, — рашыў Азевіч. — Дзякуй табе, цётка. І вы — расціце вялікія, — пажадаў ён малым. — Можа, калі лепей будзе.

— А каб жа яно было калі лепей, — загаманіла жанчынка. — Каб жа лепей. А то і да вайны, і ў вайну гэтую, каб яна спрахла. Колькі кроўкі нашае яна адбярэ...

Фурманка неўзабаве схавалася ў цемры, грукнула яшчэ коламі ў калдобінах, і ён зноў застаўся адзін сярод ночы. Сцюжа ва ўсю дацінала ягонае цела, біла дрыжака, і сагрэцца, апроч як на хадзе, было неяк.

Па-ранейшаму ставячы бокам нагу, каб не чапляцца падэшвай, ён шкандыбаў нейкай касагорынай прэч ад

дарогі, далей у поле, у абход Сакаўшчыны. Вёска тая сапраўды, мусіць, была блізка, у паветры чуўся знаёмы пах дыму з комінаў. Дужа моцна дзьмуў вецер, часам проста рваў на ім полы шыняля, выдзьмуваючы рэшту небагатага яго цяпла. Рукі Азевіч трымаў у кішэнях, так яны менш зяблі, ішоў марудна, клыпаў кудысьці па касагорыне ўніз. Неяк азірнуўшыся, заўважыў, як угары дужа зачарнелася неба — над ім аж да небакраю, і толькі ён падумаў: пойдзе снег, як той пасыпаўся, бы з торбы. Вецер гнаў снегавую драбноту, асыпаў ёю травяністы дол, сек па спіне, плячах, па яго злубянелым картузе і асабліва балюча — па голых вушах. Начную далеч ураз заслала белай імглістай мітуснёй, дол высвеціўся, на вачах стаў незвычайна бялець уначы, і тады Азевіч з трывогай падумаў, куды ж ён выйдзе? Усё ж трэба б недзе схавацца ад гэтае снегавой набрыдзі, перасядзець, счакаць. Каб дзе якую будыніну ці хоць бы гушчар, хвойнік. На жаль, побач у полі не было нават дрэва, адно ва ўсю лютаваў вецер і снег. Пасля першай навалы снегавых круп панесліся буйныя сняжынкі, яны асядалі на плячах, на галаве, у зморшчынах шыняля, хутка зацярушвалі дол. Ужо ззаду пацягнуліся яго няроўныя, з земляной чарнеччу сляды. Снегу налезла ў дзіравы бот, правая ступня хутка змакрэла і пачала балюча дранцвець ад сцюжы. Зусім змакрэў яго жорсткі, зашчацінены твар, а таксама вушы і рукі. Як на тую бяду, касагорыну неўзабаве перарэзаў шэры ад снегу хмызняк, прыгледзеўшыся да якога, Азевіч зразумеў, што натрапіў на роў. Парослы кустоўем, той шырокім праваллем разлёгся ўпоперак шляху — што было рабіць? Куды яго абыходзіць? І невядома, ці далёка ён пралягаў у бакі — праз шэрую снегавую мітусню не шмат што можна было згледзець. Памарудзіўшы трохі, Азевіч палез у ягоную шэрую прорву, усё хапаючыся за слізкае сцюдзёнае сучча хмызняку, неяк упаў і крокаў колькі праехаў задам па стромкім травяністым схіле. На самым сподзе было трохі зацішней, але снег усё роўна сыпаў на ўсім працягу над ровам. Азевіч трохі пасядзеў, саўладаючы з дыханнем. Яму было ўжо не сцюдзёна, потна і душна; ногі, штаны і полы шыняля былі скрозь мокрыя, сэрца з натугай тахкала ў грудзях. Дужа не хацелася ўставаць, хацелася заплюшчыць вочы

і сядзець так у гэтым схоўным, парослым ляшчынай рове і заснуць. Але менавіта небяспека заснуць і змерзнуць прымусіла яго напружыць рэшту сіл і ўстаць. Трэба было выбірацца з рова.

Ён не чакаў, што выбрацца з рова будзе так трудна. Боты яго слізгалі па заснежаным доле, часам разварочваючы старое лісце пад снегам. Як ён ні памагаў сабе рукамі, хапаючыся за галлё, раз за разам мусіў укленчваць, ужо разграбаючы снег каленямі, падцягваўся на руках, ступаў вышай. Прабіраўся наўкось па схіле, так было лягчэй, але той спосаб заняў процьму часу — роў аказаўся куды глыбейшы, чым яму здалося спачатку. Часам яму ўжо здавалася, што ён ніколі не вылезе з яго. За нейкім кустом на схіле сеў, пасядзеў, ліхаманкава дыхаў, упёршыся нагамі ў трухлявы пянёк, каб не спаўзці назад. Тады б ён ужо там і астаўся. У яго не асталася сілы, каб паўтарыць гэты шлях спачатку.

А снег усё сыпаў, курэў белым пылам у твар, абляпіў яго з галавы да пят. Мусіць, цяпер яго нельга было пазнаць і за пяць крокаў, так ён стаў падобны на камель ссохлага дрэва, на корч. Але ўсё ж неяк выкараскаўся на ўзровак і сеў — здаецца, ісці далей ужо не мог. Свет і рэчаіснасць засціліся ад яго мройным снегавым туманам, свядомасць яго, здаецца, таксама на нейкі час знікала ў праваллі снегавых прывідаў, і ён зноў спахапіўся, што засынае.

Заснуць было тое самае, што памерці, але памерці гэтак недарэчна ён не мог дазволіць сабе і зноў ускараскаўся на ногі.

Далей ён брыў, нібы п'яны, па костачкі грузнучы ў рыхлым снезе, слепа абмінаючы хмызняк і кустоўе драбналесся. Што будзе за тым драбналессем — лес, поле ці вёска, ён не ведаў, ён даўно ўжо страціў арыенціроўку і зусім не ўяўляў тутэйшых мясцін. У які раз падумаў хоць бы незнарок не прыбіцца да рэчкі. Рэчка яго пагубіла б дарэшты.

Рэчка, аднак, не трапілася, а драбналессе скончылася,

ён зноў адчуў пад нагамі цвярдзейшае, мусіць, сенажаць ці ніву з іржэўнікам. Як заўжды, вецер у полі буяў з большым імпэтам, снегавымі крупамі сек цяпер па левай шчацэ, і Азевіч усё адварочваўся, міжволі забіраючы ўправа. Раззлаваўшыся на адарваную падэшву, якая яму надакучыла за дарогу, ён паспрабаваў зусім адарваць яе ад бота, ды не знайшоў сілы, толькі аб іржавыя цвікі да крыві абдзёр пальцы. Так і павалокся далей, дужа заграбаючы нагой снег. Добра, завея хутка засыпала ягоны след. Ён увесь час ішоў з угнутай галавой, так было зручней на ветры, і так слепа ледзьве не налез на жэрдкі. То быў паламаны, засыпаны снегам плот. Азевіч спыніўся, угледзеўся праз віхуру — непадалёк шарэлі стрэхі нейкіх будынін. Тады ён угледзеўся пільней — пад заснежанымі стрэхамі быццам чарнеліся бёрны сцяны без вокнаў; значыць, то былі не хаты, а можа, гумно — ток і павеці. Трохі нават абнадзееены такой сустрэчай, ён пералез цераз нізкія жэрдкі плота і паклыпаў да крайняй будыніны.

Гэтая нізкая будыніна, аднак, стаяла без дзвярэй, з чорнай прадранай страхой, у дол яе скрозь намяло снегу. Ён толькі зірнуў туды і павалокся да наступнай крокаў праз дваццаць. Здаецца, гэтая была спраўней, шырокія вароты былі зашчэплены на трэсачку ў прабоі — значыць, не пакінутая, мабыць, варта было туды зірнуць. Адубелымі пальцамі ён выцягнуў трэсачку і асцярожна прачыніў палавінку варотаў. На яго з цемры шыбануў летні травяны пах, у доле ад парога ляжалі пасікі снегу, а так увогуле, здаецца, тут было зацішна, і ён зайшоў, прычыніў вароты. Адразу яго абняла цемра, выцягнуўшы рукі, ён ступіў са два крокі і ўпёрся ў высокі — вышэйшы за яго — каптур саломы, асцярожна пасунуўся ўбок. Тут ягоныя рукі намацалі сцюдзёныя бёрны сцяны, а ногі ступілі на штосьці няўлежанае, шархоткае — на сухую кучу гарохавіння, ці што. Яшчэ не разумеючы, што ён робіць, Азевіч пераваліўся цераз гэты высакаваты гарохавінны горб, каб далей ад варот, бліжэй да сцяны, рукамі і нагамі памкнуўся закапацца, залезці як мага глыбей. Ён ужо адчуў, што далей не пойдзе, і прагнуў спакою, цяпла, ягонае цела

здрыжэлася на ветравым снегавеі, і карцела суняцца, сабрацца ў камяк, каб як-небудзь сагрэцца. У грудзях гаркотна гарэла, дыханне доўга не магло выраўняцца, ён дрыжэў-троссся ў гарачцы і шумна і часта дыхаў Свядомасць яго спакваля марнела, у галаве ўсе неслася снегавая крутня, і ён плыў у ёй кудысь у пакутны агорклы прыцемак. У пачуццях жыло нязбыўнае адчуванне небяспекі, прыцьмелага страху, але ўжо не ставала сілы, каб адолець той страх ці што зрабіць для паратунку. Знямога была мацней за страх і за інстынкт да жыцця.

...Неяк напрадвесні, як ён чысціў на стайні Белалобіка, сакратарка паклікала яго да старшыні выканкома. Ягор таропка ўвайшоў у кабінет, Заруба сядзеў, цяжка аблегшыся на стол, неяк уважліва паглядзеў на возчыка. Той аж абмёр пад гэтым ягоным позіркам, але старшыня спярша толькі трудна ўздыхнуў і сказаў, што сёння і заўтра яны нікуды не паедуць. Калі, можа, патрэбна Ягору, дык хай бы з'ездзіў у сваю Ліпаўку, у якой, пэўна ж, не быў ад пачатку зімы. Ягор дужа ўзрадаваўся, хуценька сабраўся і запрэг Белалобіка. З даўно ўжо адвыклай радасцю борзда імчаўся знаёмай дарогай цераз знаёмыя палі і вёскі, цераз край Галубяніцкай пушчы і праз пару гадзін убачыў заснежаныя стрэхі канцавых хат пад голым суччам дрэў. То была ягоная Ліпаўка.

Дома на падворку яго сустрэла маці з пустым вядзёркам, у якім толькі што аднесла парсюку есці. Бацькі не было дома — з Нінай каторы дзень рабілі ў лесе, тралявалі бярвенне. Меліся прыехаць позна ўвечары, і ён крыху падумаў, што рабіць? Ці вяртацца ў мястэчка, ці счакаць бацьку? Рашыў, аднак, счакаць. Даў Белалобіку сена на двары, а сам з'еў яешню, што маці хуценька сасмажыла на прыпечку. Частуючы яго, яна не перастала бедаваць пра тое, як ён там, сярод незнаёмых людзей, невядома, як і кім там дагледжаны. Яшчэ яна бедавала-скардзілася на жыццё, што ўсчалася навакол, як сялян заганяюць у калгасы, што ў калгаснікаў усё забіраюць: і збожжа, і бульбу, якое насенне, інвентар і коней. "Ой, будзе голад, ой, паямо

траўкі, і мякіны не хопіць, што ж гэта робіцца! Што яны там, кіраўнікі вашы, павар'яцелі, ці што, нашто так абыходзіцца з народам, у чым ён перад імі правініўся? Ці яны нялюдзі там, у раёне..."

Слухаць тое было не надта прыемна, але тыя скаргі ўжо не былі ў навіну Ягору. На сходах ён ужо наслухаўся рознага. І ён пачаў супакойваць маці, казаў, што, можа, спярша і труднавата будзе, але затым... Дзяржава дасць трактары і камбайны, дасць добрую жывёлу, гатунковае насенне, усё наладзіцца, і людзі зажывуць лепш, чым пры аднаасобніцтве. Маці, аднак, не верыла, хаця трохі і спакайнела.

"Ну, а як жа, сынок, ты з жаніцьбай? Надоечы Настачка прыбягала". — "Настачка? А чаго?" — "Пра цябе пыталася. Кажа, за ўсю зіму ні лістка, ні прывета. Як жа быць ёй? Сватаюцца да яе з Закарыцця, дык яна пытаецца пра цябе. А я ўжо думаю, лепей бы ты з ёй ажаніўся, усё ж свая, блізкая, а то яшчэ якая камсамолка местачковая акруціць. Во тады дасць Бог нявестачку на старасць". Ягор маўчаў і думаў: як у ваду глядзіць маці. Акручвае, лічы, акруціла яго местачковая не камсамолка нават, камуністка, што яму цяпер з суседняе вёскі Настачка. Так ён і сказаў маці. "Хай не чакае. Відаць, не судзьба нам сысціся". Маці зноў заплакала, мабыць, адчуўшы і тут благое.

Настрой яго сапсаваўся ад тае навіны пра Настачку, хаця што ўжо яму Настачка! Сядзеў у застоллі, еў, а з галавы не выходзіла Паліна, тачыла пытанне: што здарылася з ёй? І як цяпер яму быць? І якая яна да яго будзе?

Увечары прыехаў бацька з сястрой, абодва змакрэлыя, стомленыя і галодныя. Бацька пад'еў трохі, вылаяўся на Савецкую ўладу і пачаў смаліць свае самакруткі. Сястра Ніна ўсё дапытвалася, як ён і што, ці добрае ў раёне начальства, ці шмат моладзі і як тая адпачывае, ці часта танцы і ці ёсць у яго там хто. Ён адказваў скупа і, дагледзеўшы каня, сказаў, што хоча спаць. З даўно не адчуванаю радасцю лёг у свой знаёмы з дзяцінства скрыпучы ложак пад наклееным на сцяне малюнкам —

паўстанне на браняносцы "Пацёмкін". Згледзеў там знаёмы, разварушаны бядою гурт матросаў і перапалоханых афіцэраў з наганамі, усміхнуўся. Радасць яго на тым скончылася. Мусіць, канчалася і юнацтва.

Назаўтра раненька ён паехаў.

Маці паплакала на развітанне, бацька панура маўчаў. А сястра сказала, што прыедзе перад Вялікаднем у адведкі. Паглядзець, можа, браток прыжаніўся да якой местачковай... Памерала яго будзёнаўку, якая ёй дужа спадабалася. Відаць, спадабалася і маці, якая аж перастала плакаць.

У выканкоме, як ён толькі прыехаў, адчуў — нешта здарылася. Сакратаркі Рымы не было за сталом, у прыёмнай наогул было пуста, на дзвярах Зарубы чырванела вялікая сургучная пячатка. Азевіч выскачыў у двор, там на розвальнях ля стайні сядзеў барадаты Волкаў, курыў цыгарку. Ягор кінуўся да старога фурмана "Што здарылася?" Той няўцямна паглядзеў на яго. "А нічога" — "Як нічога, дзе Заруба?" — "Зарубу ўзялі. Ноччу" — "Ну, а кажаце, нічога", — задрыжаў Ягор. "А што ж такога? Усіх бяруць. І Скублакова ўзялі. І Фідарзона. І ветэрынара таго аднарукага. І нас хутка паберуць. Маць яго туды!.. Во жысць настала!"

Падобна, сапраўды штосьці пачыналася адмысловае, ніколі не чутае. На месца Зарубы прыехаў нейкі мізэрны злы чалавечак, да якога адразу першым прыйшоў Мілаван. Паўдня да абеду яны аб чымсь раіліся, а назаўтра была склікана сесія. З'ехалася нямала народу, засядалі ў нардоме. Такіх, як Азевіч ці Волкаў, туды, вядома, не пушчалі, што там абмяркоўвалі, было невядома. Але раённая газета надрукавала шырокі, на ўсю старонку, загаловак-заклік: "Ворагам народа — ніякай пашчады", і ўсё было зразумела. Ніжэй быў артыкул, у якім ударнік з бровара выкрываў слепату раённага кіраўніцтва, што не ўбачыла між сабой ворагаў. Іншыя аўтары таксама заклікалі да пільнасці і яшчэ раз пільнасці. Вораг між намі! Азевіч цэлы дзень сланяўся па выканкомаўскім

падворку, хадзіў па вуліцы. Падыходзіў і да нардома, дзе стаяла многа саней, вазкоў і розвальняў прыезджых з сельсаветаў членаў камітэта. Там жа было і ўсё райкомаўскае начальства, і камсамол, і жанаддзел. Ягор думаў, можа, пабачыць Паліну. Да змяркання не пабачыў нікога і, перакусіўшы ў пуставатай сталоўцы, паплёўся ў сваю стадолу.

А назаўтра яго паклікалі да камсамольскага сакратара Галадкова. Гэты энергічны і гаваркі хлапец з густым чорным чубам на галаве аб'явіў, што камсамолец Азевіч каапціруецца ў райком камсамола і залічваецца на пасаду інструктара. "Так што, таварыш, здавай свайго скакуна і прыхадзі на работу. Работы процьма, а кадры слабыя, не ўбераглíся ад ворагаў, двух арыштавалі органы, трэба свежыя сілы з народа, з гушчыні сялянства, а Азевіч якраз такая сіла, годзе яму круціць конскія хвасты, трэ арганізоўваць моладзь на барацьбу за інтарэсы бальшавіцкай партыі і савецкага народа". Ён і яшчэ гаварыў нешта, усё ў тым жа сэнсе, а Ягор сядзеў, слухаў і думаў, што, можа, пакуль не позна паслухаць маці і даць дзёру ў вёску, дамоў. Ды не: мусіць, позна ўжо. Ходу назад, пэўна, няма.

І трэба ж таму здарыцца — з затлумленай галавой выйшаўшы з райкома, якраз на рагу вуліц сустрэўся з Палінай. Тая спынілася, неяк няўцямна ўставілася ў яго. "Ну, віншую! Правільнай дарогай ідзеш", — сказала яна. Але ранейшай прывабнай гуллівасці ў яе голасе ён не адчуў, нешта суровае і чужое стаяла ў яе вачах. І ён запытаўся: "Гэта ты памагла?" — "Я", — сказала яна проста. — "За тое, што тады напісаў?" — "Неа. Што будзёнаўскі шлем надзеў", — загадкава адказала яна і, не развітаўшыся, пабегла па вуліцы. Ягор пастаяў, не ведаючы, што думаць, як цяпер адносіцца да Паліны. Усё ж ён спрабаваў з ёй сустрэцца яшчэ і сустракаўся, але ўсё на людзях — то ў райкоме, то на вуліцы, і Паліна заўжды стрымана суха віталася, і не больш. Называла яго "таварыш Азевіч", — быццам забылася, як яго імя і як яна звала яго раней. Ён яе не называў ніяк. Клікаць Палінай было ўжо няёмка, а па прозвішчы таварыш Пашына не паварочваўся язык. Неяк, аднак,

абыходзіўся.

Хай сабе Заруба быў і вораг народа і выкрыты белагвардзеец, але Ягор у яго сяму-таму навучыўся. Ну, хоць бы як выступаць. Наслухаўшыся за зіму ягоных прамоў, ён зразумеў, што галоўнае ў іх — упэўненасць. Не так важны словы, як важны тон, якім іх гавораць. Заўжды трэба настойліва, упэўнена, напорыста, не шукаць словы, не мычаць і думаць, а рэзаць першыя, што ідуць з языка. Тады будуць слухаць і будуць верыць. Бо як не паверыць таму, хто гаворыць гэтак упэўнена?

А гаварыць даводзілася процьму прамоў і выступленняў. Кожнага дня зноў раз'езды па вёсках, хутарах і сельсаветах, і скрозь — сходы, сходы, нарады, паседжанні. Азевіч хутка і без натугі спасцігаў сэнс новай работы, галоўным у якой безумоўна было паскараць тэмпы калектывізацыі. І яшчэ выбіваць выкананне планаў нарыхтовак збожжа, мяса, малака, яек, воўны і асабліва льну. Адны толькі льнонарыхтоўкі неслі столькі клопату, што ад іх круцілася ў галаве і не было спакою многія тыдні.

Часам у рэдкія вольныя вечары да яго ў пустую стадолу прыходзіў гаспадар гэтай дамоўкі стары Ісак. Сапучы астматычнымі грудзямі, сядаў на зэдлік у парозе і заводзіў даўгую і нудную гаворку, якую Азевіч не ведаў, як скончыць. Звычайна ён пачынаў з міжнароднага становішча, у якім яго найболей цікавілі праблемы сусветнай рэвалюцыі. "Калі ж гэта там паднімецца рабочы клас, ці не хопіць ужо яму спаць, цярпець сусветны буржуйскі прыгнет? Ды і мы тут марнеем, адны будуючы камуну, ды ходзім у дзіравых ботах". Азевіч спасылаўся на аб'ектыўныя прычыны ў гэтае справы, упамінаў здраду справе рэвалюцыі з боку сацыял-дэмакратаў, а Ісак, жмурачы цёмнае вока, уважліва слухаў яго тлумачэнне і зноў пытаўся: "Можа, вы скажаце, таварыш, чаму гэта спаборніцтва так шпарка разгарнулася, што мануфактуры няма ні ў мястэчку, ні ў горадзе, а чэргі, калі яе прывязуць, становяцца ад царквы да рэчкі?" Азевіч тлумачыў пра цяжкасці з вытворчасцю, а Ісак ужо меў новае пытанне:

"Дзе мы будзем купляць яйкі, як калектывізацыю выканаем на сто працэнтаў? Во і цяпер дзесятак каштуе на рынку пяцёрку. Хіба гэтак было пры цару?"... Такіх і іншых пытанняў у яго было процьма, і, адказаўшы на першыя, Азевіч пачаў злавацць на гэтага яўрэя, які не спрачаўся, не абвяргаў яго тлумачэнні, цярпліва і да канца іх слухаў і пытаўся зноў. Ды так, што, відаць было — не надта той яму верыць. Хутчэй за ўсё не верыць. Але навошта тады пытаецца?

Органы між тым рэгулярна прарэджвалі раённае кіраўніцтва, хапалі ўвесну, хапалі ўлетку. Азевіч даўно ўжо не ламаў галаву над пытаннем: завошта або каго ўзялі? І ён, і ўсе навокал ведалі, што могуць узяць кожнага, абы знайшлася якая прыдзірка. Зрэшты, і без прыдзіркі бралі таксама. Тое было як лёс, як знянацкая благая хвароба. Між тым, не зважаючы на стаpанную працу ГПУ, работнікаў апарату не меншала, нават большала. У райком прыслалі новага першага — доўгага і худога, бы жардзіна з плота, таварыша Дашэўскага. Невядома, дзе ён рабіў раней, мусіць, на чыгунцы, бо з'явіўся ў чорным чыгуначным шынялі і чыгуначнай гімнасцёрцы. Твар меў хваравіты, худы і ў зморшчынах, але характар паказаў жалезны. Гэты зусім быў скупы на словы, выступаў рэдка, мала і брыдка, са смакам лаяўся. На кожнай нарадзе ён некага выкрываў, называў нацдэмам ці польскім шпіёнам, і таго ўночы бралі органы Мілавана. Апарат у таго таксама пабольшаў Аднекуль прыехалі два хлопцы-гэпэушнікі, якія пакуль што хадзілі ў цывільным і ўсё нешта вынюхвалі па канторах, гарталі дакументы, асабістыя справы і маўчалі. Служачыя са страхам пазіралі на іх і чакалі вынікаў.

Аднойчы ў рэдкую вольную нядзелю, прыехаўшы з раёна, Азевіч надумаў схадзіць у лазню. Там, аднак, сабралася чарга, і ён з венікам на каленях сядзеў на лавачцы побач з пяццю мужыкамі — чакаў. Было сонечна, цёпла, ужо распусцілася лістота на дрэвах, буяла вясна. Якраз у той час з лазні выйшаў распараны, счырванелы Мілаван разам з адным са сваіх новых хлопцаў. Выціраючы ручніком потную, свежа

паголеную галаву, ён заўважыў Азевіча і кінуў яму: "Падыдзі". Ягор у думках паслаў яго на тры літары, але мусіў падняцца і павітацца. "Ты ўсё ў Ісака жывеш?" — запытаў гэпэушнік. "У Ісака" — "У яго, кажуць, пакой вольны?" — "Можа, і вольны, — сказаў Азевіч з палёгкай, што гаворка не пра яго — пра іншага. — Я ж адзін займаю". — "Ёсць, ёсць у яго яшчэ жылплошча", — казаў Мілаван, уладкоўваючы на лысай галаве форменны картуз з сінім верхам і чырвоным аколышам. Побач моўчкі стаяў з пакункам бялізны ў руках ладны, спартыўнай паставы яго супрацоўнік, уважліва слухаў. "Ты во што, Азевіч, пагавары з Ісакам. Трэба во таварыша Кмета ўладкаваць. Усё ж сям'я, двое малых, а жыць няма дзе. Пагавары з яўрэем. А заўтра скажаш". — "Добра, што ж, пагаварыць можна", — сказаў няпэўна Азевіч. "І ўгаварыць, — дадаў Мілаван. — Гэта табе наша заданне. Ад органаў. Лады?"

Яны пайшлі сабе з падворка да вуліцы, а Азевіч у думках зноў вылаяўся. Называецца, атрымаў заданне. Хай бы самі ішлі і гаварылі. І прасілі Ісака. Ён тады доўга, з асалодай мыўся, як дачакаўся свае чаргі, ленай хадой ішоў дадому, нібы адцягваючы момант непрыемнай размовы. Быў амаль упэўнены, што Ісак не пагадзіцца — нашто яму сям'я, ды яшчэ з малымі дзецьмі. Так у іхнім гародчыку разрасталіся кветкі, узышлі вяргіні, а з дзецьмі... Асабліва калі хлапчукі. Зноў жа і садавіна — некалькі яблынь расло за хляўкамі, хаця цвету ў тым годзе было не надта, яблык мелася быць небагата. Але хлопцы папорацць астатнія, тое ён па сабе ведаў. Тым не менш трэба было пагаварыць з гаспадаром, хоць бы перадаць яму просьбу галоўнага іх гэпэушніка. І ён надвячоркам пастукаўся ў каморку да Ісака.

Мабыць, стары яўрэй таксама меў выхадны і сядзеў дома. Азевіч застаў яго ля стала з нейкаю чорнай кніжкай у руках і ў ярмолцы на галаве. Ісак не здзівіўся прыходу кватаранта, ветліва пасадзіў яго ў высокае, але вузкае крэсла з такім жа высокім падгалоўнікам. "Я да вас па справе, — адразу пачаў Ягор. — Кажуць, у вас ёсць вольны пакой..." — "Пакой? — здзівіўся Ісак. — Які

гэта пакой? Гэта куратнік, а не пакой. Хіба ў такім пакоі можа жыць прыстойны чалавек? Во, паглядзіце самі, во, хадзіце сюды". Ён расчыніў дзверы ў суседні пакой і даў Азевічу зазірнуць туды. Ну так, пакой быў даволі нехуцавы — не то сенцы, не то кухня пры адным акенцы ў двор. "Разумееце, — сказаў Ягор, — упаўнаважаны ГПУ таварыш Мілаван просіць уладкаваць свайго таварыша. Сям'я, а жыць недзе".

Ісак пляснуў сябе рукамі па сцёгнах, неспакойна прабег вакол стала. "Ах, ах! Няма дзе жыць! А пры чым тут Ісак? Ісак што — багаты домаўладальнік? Я — халодны сапожнік. Што гэта, мой дом? Быў мой. А цяпер я сам тут кватарант, нічога не маю. Ні грошай, ні права, ні дроў. Адзін гэты кут". — "А ў іх і кутка няма. Двое дзяцей", — ціха ўставіў сваё Азевіч. Ісак прабег да парога, зноў да сцяны, зірнуў у акно. "Двое дзяцей, двое дзяцей... І ў мяне было двое дзяцей, я ведаю... Ба, ба, ба... Можа, прывязуць дроў, зімой цяплей будзе... Ну хай. Скажыце, хай! Што ўжо тут зробіш".

Азевіч зусім не ўзрадаваўся — хутчэй засмуціўся ад тае згоды старога гаспадара. Ну але, можа, так будзе лепш. Можа, з удзячнасці Мілаван перастане лезці да яго з сваімі патрэбамі. Ды не стане цікавацца за ім, як некалі за Зарубам. Тыя на ўсё здольныя. А з гэтым Кметам ён, можа, пасябруе нават. Калі па-суседску. Усё ж будзе знаёмы чалавек у іхніх органах, ад якіх, як ужо зразумеў Азевіч, не застрахаваны ніхто. Тым болей што ён чакаў прыёму ў кандыдаты партыі, усе дакументы аформіў, сабраў рэкамендацыі. Рэкамендацыі, апроч камсамола, далі загадчык аргаддзела райкома Скаблова, жанчына з іхняга сельсавета, нядаўняя настаўніца, а таксама ягоны таварыш па райкоме камсамола Яўген Вайцяшонак. Той ужо быў членам ВКП(б), але па службе не надта вылучаўся, можа, таму, што быў ад нараджэння кульгавы. А так увогуле здаваўся неблагім таварыскім хлопцам. Азевіч тым часам прывыкаў да новага камсамольска-партыйнага жыцця ў мястэчку, вёску часам успамінаў з сумам. Сумленне яго трохі тачылі ўспаміны пра Настачку, аб якой ён нічога не ведаў з зімы. Можа, ужо выйшла за

каго замуж? Невялікі заробак, што ён атрымліваў, выдаткоўваў ашчадна, часам карміўся ў сталоўцы, а болей — па гаспадарках у камандзіроўках. Палініну будзёнаўку насіў да зялёнай травы і здзеў з неахвотай — дужа падабалася яму тая будзёнаўка. Вясной ён справіў сабе новую апратку: штаны-галіфэ і кортавую гімнасцёрку, якую пашылі ў арцелі. У такім напаўвайсковым выглядзе мала чым адрозніваўся ад іншых саўслужачых. Амаль усе пераймалі густы начальства і падладжваліся пад выгляд першага сакратара Дашэўскага, які зімой і ўлетку хадзіў у сваёй чорнай чыгуначнай гімнасцёрцы. Паліна зноў перайшла на працу ў местачковую школу, і ён рэдка бачыў яе. Але заўважыў, што яна стала зусім не той, якой ён некалі яе ўведаў. Найперш перастала займацца камсамольскімі справамі і яўна пазбягала Азевіча, пры выпадковай сустрэчы з якім суха віталася, і толькі. Ён дужа пакутаваў ад таго, але нічога з сабою зрабіць не мог. Здаецца, на сваю бяду, ён усё кахаў гэту незразумелую жанчыну.

Вельмі хутка пасля тае размовы з Ісакам у іхняй дамоўцы з'явіліся новыя кватаранты. Неяк надвячоркам Азевіч вярнуўся з раёна і, зайшоўшы на падворак, сутыкнуўся з двума хлапчукамі, якія адзін у аднаго адбіралі кіёк. Малодшы ўжо румзаў, але кійка не аддаваў, а старэйшы рашуча насядаў на яго, выкручваючы рукі. Паяўленне назнаёмага дарослага дзядзькі не суняла хлапчукоў, ягоны вокрык таксама не падзейнічаў на іх. Тады на ганку паявіўся іх бацька, гэпэушнік Кмет. Азевіч чакаў, што той падасца разнімаць сыноў ці хоць бы крыкне на іх. Але бацька хвіліну спакойна назіраў за бойкай, а пасля, як старэйшы адышоўся з кійком, пачаў ушчуваць малодшага: "Чаго равеш? Не смей плакаць! Ах, цябе пакрыўдзілі? Тады пакрыўдзі і ты. Біся да перамогі. Сілы мала? Нарошчвай сілу, вучыся ў старэйшага брата. І не румзай. І не ябеднічай. Закаляй волю. Мужчына ты або трапка? Ах, мужчына? Ну дык дагані брата і дай яму ў хрыбет...". Ягор з цікавасцю слухаў бацькоўскую навуку — для яго тая навука была навіной. Дома, калі ён часам крыўдзіў сястрычку, бацькі дужа сварыліся на

яго. А тут, мабыць, іншая мараль. Перадавая мараль новага часу.

У перавагах тае маралі ён неўзабаве пераканаўся. Гэпэушнік Кмет, хоць і быў ненашмат старэйшы за Азевіча, паводзіў сябе з ім па-начальніцку, пры сустрэчы пазіраў, звузіўшы вочы, і нічога не паведамляў ніколі, зрэдку задаваў пытанні. Ягору ён і не падзякаваў нават за яго дапамогу ўгаварыць Ісака, ды і Ісака, відаць, не надта прымаў тут за гаспадара. Нізенькія варотцы ў садок заўжды былі насцеж расчынены, і там ужо ваўсю гаспадарылі яго хлапчукі. Часам заходзіў туды і бацька, даставаў сынам яблыкі, якія не маглі дастаць малыя. Азевіч не ўмешваўся ў чужыя справы, але думаў, што добра тое не скончыцца.

І праўда, не скончылася добра — скончылася нават дужа кепска.

На пачатку восені, калі ўжо выбіралі бульбу, Азевіч позна ўвечары вярнуўся з дальняга канца раёна, дзе ён тры дні прабыў з Вайцяшонкам. Стварылі дзве камсамольскія арганізацыі, у трох правялі сходы. Стаміўся, бы цюцька, а тут яшчэ спазніўся ў сталоўку і лёг спаць галодны. Праўда, заснуў адразу і, здалося, толькі заснуў, як у дзверы пастукалі.

Ніхто ніколі да яго не стукаў — ды так моцна, што ён хуценька падхапіўся, надзеў галіфэ. На парозе стаяў сусед Кмет, ужо не ў цывільным, а ў поўнай гэпэушнай форме, з партупеяй і рэвальверам на баку. "Пойдзеце панятым!" — "Куды?" — не зразумеў Азевіч. "Тут недалёка. Цераз сцяну". — "Што значыць — цераз сцяну? — ашаломлена думаў Азевіч, нацягваючы цераз галаву гімнасцёрку. — Што гэта значыць?" Але што тое значыць, здагадацца было няцяжка. Як ён увайшоў у Ісакаў пакой, усё зразумеў адразу. Там усчынаўся вобыск. За сталом пад лямпай сядзеў Мілаван, нешта пісаў, а чалавекі тры гэпэушнікі выкідвалі з куфра і камода нейкія Ісакавы лахманы, некалькі чорных яўрэйскіх кніжак. Стары Ісак, заклаўшы назад рукі, стаяў у споднім кашулі ля самага парога. Усе маўчалі.

Азевіч чуўся збянтэжаным, быццам у чымсь вінаватым, хоць да таго, што тут адбывалася, не меў дачынення. Але ўсё ж, здавалася, меў. Можа, як паняты? Ці яшчэ хто? Ён пазіраў, як шкуматалі, кідалі па падлозе Ісакава варахоб'е, і зразумеў, што нічога пэўнага яны і не шукалі, што вобыск рабіўся хутчэй дзеля прыліку. І праўда, нічога яны не знайшлі, апроч некалькіх кніжак, назвы якіх Мілаван не мог прачытаць і запытаўся ў Ісака. Ісак няўцямна цепнуў плячыма. "То, ваша міласць, тора, а гэта талмуд". — "А, то ваша біблія? — зразумеў гэпэушнік. — Ну што ж, возьмем у якасці вяшчэственнага даказацельства". Ісак яшчэ цепнуў плячыма і не адказаў нічога. Увесь яго апануранены выгляд сведчыў пра поўную пакорнасць лёсу ці гэтым начным гасцям. Вобыск хутка быў скончаны. Раскіданых рэчаў, вопраткі, нейкіх запыленых трантаў ніхто не збіраў, і Мілаван даў падпісаць пратакол. Ісак пакорна падпісаў, уздыхнуў і адышоўся ў парог. Падпісаў Азевіч, і Мілаван устаў з-за стала. "Вы апраніце што", — сказаў ён Ісаку будзённым голасам і смачна пазяхнуў — час быў позні. Ісак зразумеў, што значыць апрануць, кінуўся ў кут, дрыготкімі рукамі перабіраў апратку на цвіку, узяў нейкую куртку, павярнуўся да Кмета: "Хацеў сказаць, таварышы, будзеце паліць у печы, дык гэта... Комін там, комін трэба паглядзець. Абмазаць трэба, а то дым праходзіць, дык гэта, можа, агонь..." — "Ужо не твой клопат, — груба перапыніў яго Мілаван. — Дагледзяць, каму трэба будзе".

Яны ўсе выйшлі. Апошні выходзіў Кмет, дзьмухнуў на лямпу, і ў пакоі стала цёмна. Азевіч паплёўся да свайго ганка. Ноч выдалася цёплая, ціхая, мігцелі зоркі ў небе. Азевіч падумаў, што, мусіць, і ён тут пражыве нядоўга.

Тое ён вызначыў пэўна. Адразу ж пасля Ісакавага арышту ў пакой былога гаспадара ўсяліўся другі гэпэушнік — таксама з вялікай сям'ёй — дваімі дзецьмі, хлопчыкам і дзяўчынкай, і нейчаю старой маці — яго ці ягонай жонкі. Навасельцы пачалі ўладкоўвацца як мае быць і надоўга — пераставілі, перамянялі месцамі Ісакаву мэблю, ушчэнт здратавалі гародчык з кветкамі.

Вокны на вуліцу завесілі нейкай шэрай тканінай, праз якую не прабівалася святло нават 12-лінейнай лямпы. З прызбы ў двары знікла невялікая лаўка, на якой у цёплыя вечары любіў задумліва пасядзець Ісак. Затое воддаль пад топалем зрабілі фізкультурны турнік, увечары гэпэушнікі круцілі на ім "сонца". І ўсё ж дзвюм сем'ям тут было цеснавата, таму няўтульна, і неяк уранку, як Азевіч збіраўся на работу, да яго зайшоў Кмет. "Во, дык у цябе тут прастор, не тое, што ў мяне. Як у клубе! Толькі сцэны не хапае. Колькі метраў будзе?" — пытаўся ён, стоячы сярод пустой стадолы. "Чатыры на пяць,— сказаў Азевіч. — Усяго дваццаць метраў". — "Ды ўжо ж дваццаць. Калі чатыры на пяць". І гэпэушнік памераў пакой крокамі — спярша ўдоўжкі, а пасля і ўпоперак. "А ў мяне пятнаццаць. Учці, на чацвярых. Несправядліва? Як ты лічыш, таварыш Азевіч?" — "Я не выбіраў", — стрымана сказаў Азевіч. "Ясна, ты не выбіраў, не было мажлівасці. Жылплошчу займаў буржуазны элемент. А цяпер мы яго — к ногцю. Цяпер мы можам і выбраць". — "Выбірайце, — пакорліва адказаў Азевіч. — Ваша права..."

Болей яны пра тое не гаварылі, Азевіч паехаў па вёсках і думаў, што, мабыць, трэба саступіць. Во зробяць тое, што зрабілі з Ісакам, гэтыя ні перад чым не спыняцца. Вяртаючыся на фурманцы з Вайцяшонкам, сказаў, што мусіць шукаць кватэру. Вайцяшонак яго зразумеў. Сказаў толькі: "Рабі лататы, і найхутчэй. Пакуль што можаш у мяне пажыць. Пакуль дачка ў цешчы". У той жа вечар Азевіч сабраў у тарбіну сваё небагатае майно і перайшоў да Вайцяшонка. У стадолу, якая на год дала яму прытулак, ён болей не заглянуў ні разу.

У Вайцяшонка ён пражыў тыдзень ці трохі болей, пакуль ягоная жонка-настаўніца не напытала Ягору кватэру праз чатыры хаты ад сваёй на той жа вуліцы. Гэта была старэнькая, урослая ў зямлю хацінка на нізкім беразе рачулкі, буйна аброслай лазняком ды алешнікам, жыла ў ёй ціхенькая, бы матылёк, старая бабка Мальвіна, палавіна хаты была пустая. Там і пасяліўся Ягор.

Аднак тым разам у Мальвінінай хатцы ён пражыў нядоўга — з Менска прыйшла папера паслаць аднаго райкомаўца на камсамольскія курсы. Першы сакратар, канешне, прызначыў Азевіча як самага маладога, да таго ж той прыкметна недабраў граматы ў школе, і Азевіч тры месяцы пражыў у гаманкім інтэрнаце каля Нямігі, зубрыў бальшавіцкую навуку, нічога навакол не прыкмячаючы — ні горада, ні тэатраў, ні нават дзяўчат. Было цяжка, часам невыносна, але ён стараўся з апошніх сіл, трэба было набрацца бальшавіцкай навукі, стаць нароўні з іншымі.

І вось позняю восенню, па зазімку, ехаў на сялянскай фурманцы са станцыі. У ягонай кішэні ляжала невялічкая паперка-даведка, якая, безумоўна, сведчыла, што ён няблага адукаваны, асабліва па камсамольскай справе, вывучыў усе тонкасці арганізацыйна-маладзёжнай работы і яшчэ што-ніштo з тэорыі марксізму-ленінізму. Экзамен па філасофскай працы таварыша Сталіна "Пытанні марксізму-ленінізму" ён здаў на "выдатна" і лічыў сябе тэарэтычна падрыхтаваным. Прынамсі, не горш за сваіх ранейшых сяброў па камсамолу, якія хоць і прыйшлі сюды з настаўнікаў, але такіх курсаў ніхто з іх не скончыў. Аднак ён трохі сумняваўся, ці трапіць на сваю ранейшую пасаду ў райкоме — усё ж мінула тры месяцы, і, мусіць, пасаду інструктара для яго не трымалі. Узялі іншага. А куды прызначаць яго?

У іхнім райкоме камсамола (пра тое ён чуў яшчэ ў Менску) тым часам адбыліся некаторыя змены, прыйшоў і новы першы сакратар, якога Азевіч не ведаў і нават не бачыў ніколі. Гэта быў даволі жвавы і ўедлівы хлопец па прозвішчу Маладцоў, які адразу ўчыніў яму беглы экзамен па палітграмаце. Экзамен гэты Азевіч вытрымаў лёгка, бо ўсе тыя пытанні пра змычку горада з вёскай, ролю камсамола ў калектывізацыі, пра рашэнні XV з'езда ВКП(б) ён ведаў адмыслова — з газет і нядоўгіх заняткаў на курсах. Ты больш, як хутка адчуў Азевіч, гэты камсамольскі сакратар сам быў не надта каб палітычна падкаваны і зблытаў апошні пункт рэзалюцыі з абвесткай работы з'езда. Ну але ў такіх

справах Азевіч ужо быў спрактыкаваны і лёгка, як бы з прабачэннем, паправіў сакратара райкома. Размова скончылася тым, што Азевіч папрасіўся на якую работу ў камсамоле. Сакратар трохі паморшчыўся, сказаў, што пра тое яму трэба параіцца з партыйным кіраўніцтвам, а вось на лесапільню кіраўніком тамашняй камсамольскай ячэйкі ён можа яго накіраваць хоць сёння. Лесапільня, канешне, не надта вабіла Азевіча, ён трохі разумеў, якая там была праца, але пагадзіўся. Калі часова, канешне, тым і дамовіліся. Шукаць у мястэчку кватэру яму не спатрэбілася. Мальвініна хатка па-над рэчкаю была не занята, і бабка з прыкметнаю радасцю прыняла яго, нават добра напаліла печку на ноч, што раней рабіла нячаста.

Ужо на другі дзень зранку новы сакратар падаўся на лесапільню. Там быў немалы калектыў працаўнікоў і ячэйка КСМ, але не было сакратара. Куды той прапаў, Азевіч дазнаўся пасля, а тады нетаропка крочыў акрай мястэчка за лазню. Чуваць было, дзесьці там дыхавічна пыхкаў стары паравічок і раз-пораз вісчэла піла-цыркулярка. У той жа вечар камсамольцы лесапільні без вялікага абмеркавання абралі яго сакратаром, а назаўтра ён ужо ўпрэгся ў працу па распілоўцы хваёвых бёрнаў — працу нялёгкую, па плячы хіба што маладым, дужым хлопцам. Ды ён і быў малады і дужы, цяжкая праца яго не палохала. Горш было з людзьмі, асабліва маладымі, нават некаторымі камсамольцамі, у якіх яшчэ жыла процьма старых, прыватнаўласніцкіх звычак; некаторыя не супроць былі выпіць, схадзіць куды патуляцца з мястачковымі дзеўкамі або на танцы ў бліжнюю вёску. Многія святкавалі рэлігійныя святы — шчоўкалі арэхі на Каляды. Трэба было нямала настойлівасці, каб прынадзіць іх да вучобы па палітграмаце, прывіць ахвоту да лекцый і дакладаў, да антырэлігійнай прапаганды. Ён сам спаў не болей чатырох гадзін у суткі, бо, апроч працы на лесапільні, яшчэ нямала часу (асабліва па вечарах) праседжваў на розных нарадах у райкоме, а то ездзіў з кім-небудзь па раёне арганізоўваць калгасы ці выбіваць план па льнонарыхтоўках. Для ўмацавання працоўнай дысцыпліны і прывіцця бальшавіцкіх навыкаў працы ў

канторы павесілі вялікую фанерную дошку, адна палавіна якой была пафарбавана ў чырвоны колер, а другая ў чорны. Гэтая простая рэч адыграла немалую ролю таксама ў сацыялістычным спаборніцтве, якое разгарнулася на лесапільні. Трапіць на чорную палавіну аказалася такой ганьбай, што разы два некаторыя аж біліся з учотчыкамі, то паміж сабой, а болей з тымі, хто трапляў на чырвоную. Дырэктар лесапільні Хвошч хацеў нават зняць дошку, але камітэт камсамола стаў за яе гарой і не даў зняць, толькі перавесілі яе з калідора ў бухгалтэрыю, бо ў калідоры разоў колькі хлопцы перапісвалі прозвішчы па-свойму. Справы на лесапільні і ў ячэйцы сапраўды патроху наладжваліся, праз які месяц Азевіча ўжо хвалілі ў райкоме — за актывізацыю заняпалай ячэйкі. Разоў колькі на лесапільню наведваўся таварыш Маладцоў, часта бываў на сходах інструктар Вайцяшонак. З гэтым апошнім Азевіч працягваў ранейшае сяброўства, тым болей што жылі па суседству, хоць і не рабілі разам. Азевіч тым часам ужо прывык да свае новай кватэры ў ціхай бабкі. Хатка была нехуцавая, аброслая кустоўем, затое то быў ціхі, утульны куток збоч вуліцы. Жывёлы якой бабка не мела, апроч хіба ласкавай белай кошачкі, што дужа палюбіла кватаранта і як толькі ён прыходзіў дамоў, кідалася яму ў ногі, лашчылася ды загадкава мяўкала. Зрэшты, Азевічу рэдка выпадала лашчыць кошку. Хацелася паспаць хоць колькі гадзін, увесь астатні час ён гібеў на сваёй лесапільні, дзе была процьма працы, людской калатнечы і клопату.

Клопату куды пабольшала, як на лесапільню для працоўнага перавыхавання прыслалі нацдэма Дарошку.

Гэты Дарошка таксама жыў у мястэчку, настаўнічаў у школе і хоць быў куды старэйшы па гадах за Азевіча, але праяўляў дужа вялікую актыўнасць у грамадскім жыцці моладзі, асабліва ў нардоме, дзе ён усю зіму ставіў смешныя п'есы на беларускай мове. Пастаноўкі тыя часам нават падабаліся Азевічу, і ён стараўся, калі быў час, схадзіць на спектакль, глядзеў і "Паўлінку", і "Мікітаў лапаць", і "Пінскую шляхту". Мабыць, Дарошка быў неблагі рэжысёр і нават як актор выконваў на сцэне

камічныя ролі. У той зімовы дзень, як ён упершыню завітаў на лесапільню, Азевіч працаваў на распілоўцы, калі нехта паклікаў яго да прахадной, кажа: пытаецца настаўнік са школы. Напярэдадні Азевіча ўжо папярэдзілі ў райкоме, што прышлюць Дарошку, і ён неўзабаве ўбачыў настаўніка, які ў лёгкім палітончыку і капелюшы стаяў на прахадной, пастукваючы абцасікамі наваксаваных шчыблетаў (быў ніштаваты марозік), рукі хаваў у кішэні, і сподак, канешне ж, не меў. Што было з ім рабіць на лесапільні? Азевіч спярша хацеў адаслаць яго ў кантору, але падумаў: якое ж працоўнае перавыхаванне ў канторы, і ён выправіў наццэма на сыравінны склад. Дарошка не адмаўляўся — узяў сякеру і пайшоў да брыгадзіра Сугодзіча, той прыставіў яго да вялізнага аснежанага штабеля бёрнаў, якія трэба было ашкурыць. Праз паўгадзіны ўсе, хто апынуўся паблізу, з вясёлым здзіўленнем пазіралі, як гэты настаўнік няўмела махае сякерай над абмерзлым бервяном, і Азевіч падумаў, што так нядоўга секануць па калене і застацца калекам. З такім яго працоўным навыкам. Але шкадаваць Дарошку не стаў — калі наццэм, дык якое ж шкадаванне! Трэба было думаць, як перавыхаваць яго, бо, мабыць жа, адной працай тут не абыдзешся, трэба было весці з ім нейкую палітработу, настаўляць на правільны шлях. Толькі як?

Пасля працы ён падышоў да стомленага ўшчэнт наццэма, які, седзячы на бервяне, хукаў на свае счырванелыя пальцы, пацікавіўся: як работа? На дзіва, той не стаў скардзіцца, скупа адказаў: "А нішто. Мабыць, не самая цяжкая". Што праўда, то праўда — ашкуроўка была ў іх не самая цяжкая праца, можа, нават самая лёгкая. Куды цяжэйшая чакала яго наперадзе. А тады яны пайшлі разам у мястэчка — ціха патупалі ў вечаровым сутонні, і Азевіч нібы нават з вінаватасцю загаварыў пра складанасці класавай барацьбы, у якой, вядома ж, не мінуць ахвяр. Дарошка моўчкі выслухаў яго і адказаў проста: "Ат, якая там барацьба! Проста дурнота наступае". — "Якая дурнота?" — не зразумеў Азевіч. "Звычайная, ад векавой нашай цемнаты". Азевіч трохі памарудзіў з адказам, падумаўшы, што цемната — гэта калі ў дачыненні да

вёскі, непісьменнасці, а тут усё ж райком, дзе сядзяць хіба непісьменныя людзі? Вунь таварыш сакратар Маладцоў вучыўся ў інстытуце.

Вайцяшонак скончыў палітэхнікум, такія даклады шпарыць у нардоме, ні разу не спаткнецца. Ды і ён сам таксама чамусьці навучыўся ў Менску. Дарошка зноў выслухаў і разумна зазначыў: "Чым такая навука, лепш абсалютнае невуцтва. У цёмных людзей адсутнасць ведаў замяняецца здаровым сэнсам". Так яны ні да чаго не дамовіліся ў той вечар, дайшлі да завулка ля рова, дзе кватараваў Дарошка, і раптам той прапанаваў зайсці ў хату, пагаварыць ды папіць гарбаткі. На гарбатку Азевіч не надта квапіўся, ён болей хацеў есці — добра выгаладаўся за зімовы дзень на распілоўцы, і зайшоў. У Дарошкі была невялікая сям'я — жонка, настаўніца пачатковых класаў, і дачушка трох год — хваравітае малое з вельмі ўважлівымі вачанятамі. Яшчэ з імі жыла старэйшая сястра Дарошкі Хрысцінка, ціхая незамужняя жанчынка, што была ў іх за няньку, пакаёўку і кухарку — гаспадыню, адным словам. Тады, і праўда, Азевіч не толькі папіў гарбаты, але і няблага павячэраў ячневай кашай з салам. Хрысцінка за вечар не вымавіла ніводнага слова, жонка Дарошкі скупа адказала на некалькі нязначных пытанняў мужа, сама ні пра што не спыталася. Неяк з непрыемнасцю адзначыўшы тое, Азевіч спрабаваў жартам закрануць сённяшні працоўны дзень гаспадара на лесапільні, успомніў, як той нязграбна махаў сякерай над бервяном. "Можа, як перавыхаваем вашага", — сказаў ён да гаспадыні, на што тая коратка буркнула: "Гарбатага і магіла не выправіць" — і змоўкла. Азевіч трохі падзівіўся, тым больш што Дарошка ніяк не адрэагаваў на з'едлівую рэпліку жонкі, хіба што ніжэй схіліў твар над глінянай міскай з кашай. Перавыхаванне яго тым часам працягвалася... Праз тыдзень былога наццэма паставілі на пагрузку-разгрузку драўлянай сыравіны і гатовай прадукцыі, і ён з брыгадай у пяць чалавек да вечара варочаў сырыя абмерзлыя бёрны, цягаў на ваганеткі, выгружаў дошкі і гарбылі з піловачнага цэха. Тут яму далі брызентавыя рукавіцы, але болей нічога, і хутка яго лёгкі палітончык

ператварыўся ў чорт ведае што — таксама як і яго вастраносыя шчыблеты. Праўда, нацдэм не скардзіўся, не наракаў нават — маўчаў і засяроджана рабіў разам з усімі, у меру сваіх, аднак, не надта багатых сіл. Спектакляў у ДСК ён ужо не ставіў — іх ужо не ставіў ніхто, уся работа там абмежавалася антырэлігійнымі лекцыямі ды нячастымі дакладамі аб міжнародным становішчы. Пасля аднаго такога даклада, які па даручэнню райкома рабіў, дарэчы, Азевіч, Дарошка прычакаў яго на ганку і сказаў, што мае некалькі заўваг па сутнасці. Азевіч, якога ўжо прыпынялі чалавекі тры з падзякай за разумны даклад, ахвотна спыніўся, трохі заінтрыгаваны, і Дарошка сказаў: "Вы спрашчаеце праблему інтэрнацыянальнага". — "Як гэта?" — не зразумеў Азевіч. "А так. Рабочы клас Германіі цяпер зусім не той, што быў у часе Веймарскай рэспублікі". — "Ну, гэта няпраўда,— сказаў Азевіч, здзівіўшыся. — У газеце напісана..." — "І ў газеце няправільна напісана".

Вось табе і на! Азевіч зусім бы не здзівіўся, калі б той злавіў яго на якой недакладнасці, на ўласна Азевічавай памылцы. Тады ён і сапраўды не надта яшчэ ўпэўнена адчуваў сябе ў ролі палітычнага аглядальніка, але тое, што няправільна надрукавана ў газеце, ён дапусціць не мог. Да аўтарытэту газеты заўжды звярталіся ва ўсякім канфлікце і на лесапільні і ў райкоме. Газета, якая друкавалася ў Менску, тым больш у Маскве, была вярхоўным арбітрам у кожнай спрэчцы, справа ішла толькі аб тым, ці дакладна пераказаны газетны выраз, ці правільна вытлумачаны. Задача кожнага дакладчыка была ў тым, каб як мага дакладней трымацца тэксту газеты, і некаторыя за ўвесь даклад не адрывалі ад яе вачэй, каб не памыліцца, не сказаць што не так, як там напісана. Здаецца, у той вечар Азевіч нідзе не дапусціў ніякай недакладнасці, шпарыў скрозь па газеце, а гэты кажа: спрашчае праблему.

Людзі з даклада ўжо разыходзіліся, а яны стаялі, закурыўшы, і тады Дарошка кажа яшчэ: "Цытата пра рэлігію ў вас таксама недакладная. У Маркса пра тое іначай напісана". Учуўшы тое, Азевіч здзівіўся яшчэ больш: ужо тую антырэлігійную цытату ён чуў безліч

разоў і ведаў яе на памяць. Вядома, ён не пагадзіўся з упартым нацдэмам, тады той рашуча запрапанаваў: "Давайце праверым у творах". Што ж, праверыць у творах Азевіч быў не супроць, каб толькі ведаць, у якіх творах можна было тое праверыць. Дарошка ж, мабыць, ведаў, яны зайшлі ў бібліятэку таго ж нардома, і там на даўгой паліцы нацдэм упэўнена выцяг адзін том Маркса, пагартаў, затым узяў другі і, праўда, знайшоў тое, што ім было трэба. "Во, глядзіце. Што напісана". Напісана сапраўды было трохі інакш, чым цытаваў Азевіч: "Религия — это вздох угнетенной твари, сердце бессердечного мира, подобно тому, как она — дух бездушных порядков. Религия есть опиум народа". "Вось так, — зазначыў Дарошка. — А не для народа. Цытаты патрабуюць дакладнасці". Ну, мабыць, так, моўчкі падумаў Азевіч, мабыць, тут ён даў маху... Але тады што ж атрымліваецца? Хто ж каго перавыхоўвае? Ён, камсамольскі сакратар, — нацдэма ці нацдэм — яго?

Пытанне тое, не знаходзячы адказу, маячыла ў галаве ў Азевіча бадай усю зіму, часам прыцьмяваючы ў памяці, а часам загараючыся з новай сілай. Неяк Дарошка даў яму прачытаць зборнік артыкулаў Леніна пра тактыку сацыял-дэмакратыі, з якога Азевіч зразумеў і запомніў штоколечы, штоколечы нават выпісаў, але гаворкі аб тым не паспеў распачаць. Якраз тым часам у газетах з'явіліся артыкулы аб правым ухіле і беларускіх нацыяналістах, быў надрукаваны адкрыты ліст Якуба Коласа з прызнаннем і выкрыццём уласных шкодніцкіх і контррэвалюцыйных памылак, і Азевіч падумаў, што настаў самы час пагутарыць і пра нацыяналістычныя памылкі Дарошкі. Для таго ён завітаў да яго ў нядзелю пасля абеду. Дарошка сядзеў ля акна з кніжкай, сястра Хрысцінка зашывала яму разадраную на лесапільні сарочку, малая гуляла з лялькамі на канцы ўслона, жонкі недзе не было дома. І тады Азевіч паклаў перад ім узятую напярэдадні ў райкоме газету з пакаянным лістом Коласа. "Чытайце! Сам прызнаецца". Дарошка ўзяў, хутка прабег вачмі па радках таго допісу і кінуў газету долу. "Галімацця і глупства! Якая контррэвалюцыйная дзейнасць! Вы чыталі "Новую зямлю"?" Не, Азевіч не чытаў "Новай зямлі", ён пра яе і

не чуў. Тады Дарошка папоркаўся сярод кніжак на этажэрцы і адну тоненькую падаў Азевічу. "Во, прачытайце і скажыце, чым гэта кепска?" Азевіч узяў, сунуў кніжку за пазуху. Што ж, ён пачытае, канешне, хоць чытаць творы контррэвалюцыянера, мабыць, не надта дазваляецца члену райкома камсамола. Але ўзяў і тры вечары запар чытаў пры цьмяным святле газнічкі — усё так здалося складна, зразумела і неяк сімпатычна нават. Пазнаваў шмат што і са свайго вясковага жыцця: і як у маленстве маці частавала дзятву блінамі ўранку, і як з дзядзькам Піліпам падглядаў пчолы. Сялянскі быт, канешне, там быў намаляваны выдатна, як і людзі — знаёмыя сялянскія тыпы, якіх безліч у кожным раёне, у кожнай вёсцы. Ну і прырода таксама. Само сабой, уражваў і клопат селяніна таго часу — зямля і яе спрадвечны недахват у вёсцы. Успомніў, што і ў іхняй сям'і зямлі было мала, адзін неўрадлівы надзел, над якім біліся бацька з маткай. Пасля, праўда, як падраслі, ім узяліся памагаць дзеці, ён, Ягор, і сястра Ніна, тады неяк зажылі лепш, стала сытней на стале, паявілася нейкая адзежына. Думалася: можа, неяк бы жылі і далей, калі б не ўсчалася класавая барацьба ды гэтая калектывізацыя. Ягору яшчэ пашэнціла, ён у час, дзякуючы шчасліваму выпадку ці добраму чалавеку, вырваўся з вёскі, стаў камсамольскім работнікам, выйшаў у людзі. А ў вёсцы гібелі, галадалі, калгасы не маглі выйсці з нэндзы, калгаснікі ледзьве выконвалі планы здачы, нарыхтовак усяго — ад яек, малака да льну і збожжа. Ад "Новай зямлі" дыхнула даўнім, нават прывабным сялянскім жыццём, але што было адказаць Дарошку? Тое, што адчуваў сэрцам, па шчырасці, ён сказаць не мог, не меў права. Ён абавязаны быў спрыяць працэсу класавай барацьбы і працоўнага перавыхавання нацдэма, а не шкодзіць таму працэсу. І калі праз дзён колькі яны сустрэліся ўранку на лесапільні, Азевіч прызнаўся: "Добра, аднак, піша Колас пра прыроду і лес, але... Але рэвалюцыйных памкненняў малавата, і рабочага класа няма". — "Ну і што, што няма? — спакойна сказаў Дарошка. — Кожны твор трэба ацэньваць па тым, што ў ім ёсць, а не па тым, чаго там няма. У Пушкіна таксама партячэйкі няма". — "Яно, можа, і так, але..." — не знайшоў, як адказаць, Азевіч.

Тады гэты Дарошка і кажа: "Зойдзем пасля работы, я вам дам і пра рабочы клас. Цішкі Гартнага, напрыклад". Канешне, Азевіч зайшоў і начэй колькі затым сляпіў пры газнічцы вочы, чытаючы "Сокі цаліны", — на гэты раз спасцігаючы зусім не вядомае яму жыццё ў вялікіх і малых гарадах, турботы рабочага класа, якога ён амаль не ведаў раней, але якое цяпер было надта цікава яму. Тады ўжо ён не думаў, што Дарошка неяк уплывае на яго, а не наадварот, проста той залучаў яго да чагосьці такога, што было, можа, і няправільна нават, можа, і недарэчы ў іх тагачасным жыцці, але цікава і нават змястоўна. Тыя кніжкі прымушалі неяк паі-ншаму зірнуць і на самога Дарошку. Азевіч часам пільней, чым калі раней, узіраўся ў яго тонкі, хударлявы твар з маленькімі зыркімі вочкамі, нібы хацеў зразумець, чаго гэта ён, быццам і нішто чалавек, разумны і адукаваны, а во стаў нацдэмам. Прама запытацца пра тое ён не наважваўся — усё ж было трохі сорамна лезці, можа, з непрыемнымі для яго роспытамі, хоць сам ён і не надта што разумеў у сутнасці палітыкі тых нацдэмаў. Аднойчы яны сядзелі ў яго за сталом, перабіраючы новыя і старыя кніжкі, якіх багата было ў Дарошкі, той неяк адрывіста, з паўзамі расказваў яму пра падзеі на Беларусі і Украіне з часоў XVI стагоддзя, і раптам ён змоўк і, лыпнуўшы па ім позіркам, запытаўся: "Думаеш, мабыць, вярзе гэты нацдэм, пад сябе грабе?" — "Ды не, чаму?.." — ніякавата паварушыўся Азевіч. "Так жа ўсе думаюць. Наццэм! Ніякі я не нацдэм, проста нармальны чалавек. Можа, трохі больш патрыёт, чым некаторыя іншыя. А патрыёт ад нацыяналіста, думаеш, чым адрозніваецца?" — "А чым?" — спытаў Азевіч і насцярожыўся: тое пытанне было адным з самых галоўных у яго адносінах да Дарошкі. "А тым, што патрыёт любіць сваё, а нацыяналіст болей ненавідзіць чужое".

"Можа, і так", — падумаў Азевіч, спрачацца яму з Дарошкам не выпадала, адчуваў, той па навуцы і нават палітграмаце быў мацнейшы за яго. Вядома, чалавек скончыў педтэхнікум, не тое што Азевіч... Праўда, Азевіч прайшоў немалую працоўную загартоўку, меў вопыт камсамольскай работы і цяпер належаў да

рабочага класа — авангарду сацыялістычнай рэвалюцыі. Мабыць, гэта не менш, чым педтэхнікум. Тым больш калі Дарошка — нацдэм. Але ўсё ж... Вялікай упэўненасці ў сваёй праваце Азевіч не меў, ён адчуваў адно: у ведах гэты чалавек быў куды за яго мацнейшы.

Так яны прарабілі зіму на тае лесапільні. Дарошка ўжо зусім асвойтаўся са шмат якімі аперацыямі па дрэве — не толькі на таварным ці сыравінным двары, але ўжо разоў колькі парабіў нават рамшчыкам. І хоць увогуле сілы ў яго былі небагатыя, але не наракаў, стараўся рабіць нароўні з усімі. І тады неяк напрадвесні з райкома загадалі правесці абмеркаванне працэсу перавыхавання нацдэма. Быццам падвесці вынікі.

Сход праводзілі пасля працы, на штабялях дошак у цэху. Сабралася з паўсотні народу, усе ў пілавінні, стомленыя ад працы, але са стрыманай цікавасцю на шэрых тварах — усё ж не кожны месяц абмяркоўваюць такую справу, як перавыхаванне нацдэма. Пад цьмянай электрычнай лямпачкай за сталом села начальства — сваё, з райкома чамусьці не было нікога, і Азевіч расказаў, хто такі Дарошка і чаму спатрэбілася тое перавыхаванне. Гаварыў ён нягучна, стараўся без злосці, але ўжо з тым металам у голасе, да якога прызвычаіўся апошнім часам, на камсамольскай пасадзе. Затым з першага рада ўнізе падняўся Дарошка і коратка расказаў пра сябе, — што ўвогуле праца для яго не навіна, што ён сялянскі сын і ўсю маладосць рабіў на гаспадарцы ў бацькі, пасля, як вучыўся, таксама — каб з'есці кавалак хлеба, часцяком ірваў кішкі на станцыі, разгружаў вагоны. Мабыць, таму на лесапільні яму было не горай, чым у якім іншым месцы, бо праца ўсюды ёсць праца. Пасля Дарошку пачалі задаваць пытанні: пра нядаўні з'езд таварыства "Далоў непісьменнасць", класавую барацьбу ў краіне, згубнасць правага ўхілу і шкоднікаў з наркамзема Беларусі. Дарошка лёгка і канкрэтна адказваў, нідзе не памыліўшыся, як адзначыў Азевіч, які пільна слухаў кожнае яго слова, нібы той быў яго вучань і цяпер трымаў нялёгкі і адказны экзамен. Усё ж ён хацеў, каб

справа перавыхавання скончылася паспяхова. Пры канцы ўжо нехта з цьмяных задніх радоў запытаўся пра бацьку, зямлю, колькі гектараў тае было ў гаспадарцы. Людзі прыціхлі, думалі, мабыць, што тут і ёсць тая загвоздка, праз якую настаўнік трапіў у лапы страшных нацдэмаў. Інакш чаму б раптам сялянскі хлопец — нацдэм! Але і тут нечаканкі не адбылося: у Дарошкавага бацькі было ўсяго чатыры дзесяціны зямлі, адзін конь, адна карова. І ўсё. У абмеркаванні настала кароткая паўза, мабыць, ужо не ведалі, пра што пытацца яшчэ, і тады з цёмнага кутка з-за піларамы ступіў распілоўшчык Каламашка. Як заўжды, напусціўшы на сябе партыйнай важнасці, сказаў: "Гэта добра, што не кулацкі сын, хоць і не бядняк, як я разумею, але адкажы ты мне во на якое пытанне: во ты і вучыцель, і граматны, а чаму ты, браце мой, па-беларуску гаворыш?" І змоўк. Стала ціха, людзі сядзелі насцярожаныя, мабыць, у тым пытанні ўчулі штосьці благое, Дарошка спакойна так адказаў у тым сэнсе, што беларуская мова — яго родная мова, таму ён на ёй і гаворыць. Азевіч тады падумаў, што тое пытанне Каламашкі, мабыць, ужо занадта, наўрад ці яно адносіцца да абвесткі сходу, і сказаў, не ўстаючы: "У нас свабода, таварышы, кожны мае права размаўляць, як хоча". Нехта падтрымаў яго, сказаў да Каламашкі: "Ты ж сам па-беларуску гаворыш". На што, аднак, Каламашка з'едліва і важна зазначыў: "Ага, я — па-беларуску, бо я малапісьменны, а ён жа настаўнік. Дык чаму ён цураецца па-расейску?"

У цэху зноў усе прыціхлі, мабыць, гэты довад Каламашкі быў зразуметы як правільны, і Азевіч не ведаў, як тут паставіць сябе, тым больш што Дарошка таксама нешта буркнуў пад нос і стаяў, угнуўшы галаву, нібы ў здранцвенні. Мусіць, трэба было прымаць рашэнне, яно было нарыхтавана ў паперцы ў Азевіча, але ў той час да яго нахіліўся Цацярук, загадчык лесапільні, і сказаў, што рашэнне трэба адкласці. Чаму адкласці, Азевіч не зразумеў, але старшыня сходу ўжо аб'явіў, што рашэнне аб перавыхаванні грамадзяніна Дарошкі адкладваецца на пасля, і сход перайшоў да наступнага пытання — збору сродкаў для зняволеных па лініі МОПРа.

Трохі расхваляваны і нават раззлаваны, Азевіч тупаў у вечаровых прыцемках дадому. Пасля сходкі яго затрымаў Цецярук з Петраковым — усё наконт Дарошкі, тлумачылі, што таму не пашкодзіць яшчэ пару месяцаў парабіць у рабочым калектыве, маўляў, яшчэ не перавыхаваўся. Але чаму не перавыхаваўся, таго яны не сказалі, мабыць, самі не ведалі; Азевіч жа, які ведаў болей за іншых, пачынаў думаць, што таму і перавыхоўвацца не было чаго. Ніякіх шкодных ці там варожых намераў ён не чуў ад Дарошкі, а веды... Ведаў ягоных ад таго, што ён папрацуе на пагрузцы ці на тралёўцы, у яго не зменшае. Калі б не паболела нават. Але во паспрабуй дакажы тое цвердаскураму Каламашку. Ці загадчыку нават.

На рагу ля местачковай сталоўкі, куды скіраваў Азевіч запознена павячэраць, ён нечакана сутыкнуўся з Мілаванам. Той, мабыць, знарок выглядваў яго, бо адразу, павітаўшыся, павярнуў у ягоны бок. "Што, у сталоўку?" — "У сталоўку", — пацвердзіў Азевіч, адразу сцяміўшы, што тая сустрэча не так сабе. "Дык вячэрай і зайдзі да нас. Справа ёсць", — сказаў Мілаван і перайшоў на другі бок вуліцы. Не спадабалася тая сустрэча Азевічу, ён ужо стаў здагадвацца, якая ў іх была да яго справа. Добра выгаладаўшыся за дзень, ён, аднак, без вялікай увагі з'еў талерку гуляшу ў пуставатай сталоўцы, запіў цёплым чаем і выйшаў на вуліцу. Надта не хацелася яму ісці ў той белены папоўскі дамок пад ліпамі, але і як было не пайсці? Трохі павагаўся і таропкім крокам пайшоў — мусіць жа, яго там чакалі.

І праўда, чакалі. За сталом, пакрытым усё тым жа чырвоным, толькі ўжо ў плямах паркалём, сядзеў зябка ахінуты шынялём Мілаван, з-пад ілба строга зірнуў на яго і, не адказаўшы на ягоны "вечар добры", папракнуў: "Змушаеце чакаць". Азевіч змоўчаў, зразумеўшы папрок, прысеў на табурэт. Мілаван выкруціў трохі кнот у вялікай лямпе, што вісела над сталом, у пакоі стала відней. "Ну, як сабранне? Перавыхавалі наццэма?" Азевіч стрымана адказаў, што сход вырашыў адкласці гэтае пытанне на потым. "Чаму ж на потым? Вы што ж,

будзеце яго перавыхоўваць да перамогі сусветнай рэвалюцыі? Хто вам дасць столькі часу?" Азевіч памаўчаў, згадваючы, як лепш адказаць гэтаму прыдзіру-начальніку, які, утаропіўшы ў яго нахмураны позірк, чакаў. "Ці ён не паддаецца перавыхаванню?" — "Не, чаму? — сказаў Азевіч. — Працуе няблага". — "Працуе! Працаваць ён будзе, куды дзенецца. А вось што ён гаворыць? Пра свой нацдэм што гаворыць?" — "Пра нацдэм не вельмі..." — "Не вельмі? А ты хацеў, каб яшчэ і вельмі? Сувязь з кім трымае?" — "Сувязь? — здзівіўся Азевіч. — Якую сувязь?" Пра сувязь ён нічога не чуў, але Мілаван тут жа задаў новае пытанне: "З Дударом бачыўся?" — "З якім Дударом?" — не зразумеў Азевіч. "З пісацелем Дударом. На пачатку лютага прыязджаў да яго. Ці вы там разам былі? Можа, ён і вас ужо ўцягнуў у тую зграю?"

Трохі памарудзіўшы з адказам, Азевіч прыпамятаў адзін нядаўні выпадак — сапраўды на пачатку лютага. Неяк у выхадны ён забег да Дарошкі, каб аддаць часопіс "Полымя рэвалюцыі", які браў надоечы з цікавасці да артыкула Лукаша Бэндэ, і ў парозе сутыкнуўся з незнаёмым хлопцам у кажушку, той ужо развітваўся з гаспадаром. Тады ён толькі і пачуў адну фразу: "Дык напішыце, калі што". Хлопец пайшоў, а Азевіч, калі яны засталіся ўдвух, запытаўся пра яго, і Дарошка неахвотна адказаў: "Ды так, прыезджы адзін". Мабыць, то і быў Дудар, пісьменнік. Але што цяпер мог Азевіч? Схлусіць, што ні з кім не страчаўся, у яго не хапіла адвагі — а раптам гэтыя ўсё ведаюць? І ён коратка расказаў пра тую сустрэчу на парозе.

"Значыць, сказаў: напішыце? А пра што напішыце?" — утаропіўся ў яго Мілаван.

"Во гэта не ведаю", — прастадушна цепнуў плячыма Азевіч. "Дык мы ведаем, — холадна сказаў гаспадар пакоя. — Пра нацдэмаўскую агітацыю. Да, да... Агітацыю на лесапільні. А ты думаў! Во што, бяры ручку і пішы". Рашучым жэстам ён падсунуў да госця чарніліцу з ручкай на беражку, паклаў аркуш паперы. "Што пісаць?" — "Што чуў, прыйшоўшы. Пра змову весці

нацыяналістычную агітацыю". — "Дык я ж не чуў нічога", — разгубіўся Азевіч. "Ах, не чуў? Ці не хочаш паведаміць? Але ўспомні Зарубу!"

Азевіч знерухомеў, адчуўшы, як па ягоным целе забегалі мярзотныя мурашы, — сапраўды стала боязна. Ён і без напамінку добра памятаў свой колішні подпіс — лёс старшыні выканкома заўжды стаяў перад ягонымі вачыма. І ён ціха, але цвёрда сказаў: "Не, пісаць нічога не буду. Я нічога не ведаю". — "Не ведаеш?" — "Не ведаю". Мілаван тады ўскочыў за сталом, дужа грукнуў па ім кулаком і закрычаў, завісчэў — напружыўшыся сваім хілаватым целам: "Ды ты думаеш, што гаворыш? Ты адмаўляешся дапамагаць органам выкарчоўваць беларускіх фашыстаў! Ты іх абараняеш! Ты сам даўно ў іхняй арганізацыі! І ўжо выконваеш іхнія заданні..."

Азевіч сядзеў моўчкі і чуўся ні жывы ні мёртвы ад разлютаванага крыку гэтага начальніка, які ва ўсе бакі тузаў сваёй голенай галавой на вяртлявай жылістай шыі. Але Азевіч ужо трохі адышоўся ад першага спалоху, маўчаў і думаў: "Крычы, крычы! Хоць пасіней!.." Ды гэпэушнік не пасінеў, а неяк на паўслове спыніў крык і закашляўся. Кашляў доўга, нібы пры коклюшы, крыху перапыняўся, харкаў кудысьці пад стол, выціраў рот скамячанай насоўкай і пачынаў кашляць зноў. "Ці не сухотны?" — без жалю падумаў Азевіч. Падобна, аднак, у таго пайшла кроў, бо, чарговы раз харкнуўшы пад стол, ён выцерся, зірнуў у насоўку і махнуў на яго рукой — ідзі! На парозе Азевіч пачуў: "Яшчэ паклічу!" — і хуценька выскачыў на ганак.

Ушчэнт знясілены, ён ледзьве датупаў тады да свае халупы над рэчкай, не распранаючыся сеў ля стала, сядзеў, думаў. Пацершыся аб яго ногі, ціхенька ўселася на падлозе ласкавая бабчына кошка, а ён усё думаў. Можа, кепска зрабіў, што не паслухаўся Мілавана, мо цяпер пасадзяць самога? І не ведаў ён, як яму цяпер быць з Дарошкам? Можа, зараз пайсці да яго і расказаць, што ад яго дамагаліся ў аддзеле. Але што падумае пра яго Дарошка? Урэшце не стрываўшы адзіноты ў хаце, выйшаў на двор і паплёўся да

Вайцяшонка. Той у споднiках адчынiў дзверы, упусцiў яго на кухню, i Азевiч сцiшана расказаў яму пра свае вечаровыя прыгоды. Вайцяшонак пакутна маўчаў, бы нямы, аж стала няёмка. Толькi блiскаў на яго пакутным позiркам пры цьмяным святле газнiчкi. Тады Азевiч сказаў, што, мабыць, трэба папярэдзiць аб тым Дарошку, ад чаго Вайцяшонак ажно падскочыў на ўслоне. "Нi ў якiм разе! Ты што! Загубiш сябе i Дарошку не паможаш. Павер мне, ужо я ведаю". Азевiч паверыў: усё ж ягоны сусед рабiў у райкоме, не тое што ён — на лесапiльнi.

На тым яны i развiталiся, а назаўтра, прыйшоўшы на працу, Азевiч дазнаўся, што наццэма ўзялi. Людзi ўжо ведалi, за што. Нiбыта рыхтаваў дыверсiю на лесапiльнi i наогул быў польскi шпiён. Толькi прыкiдваўся беларусам. Азевiч слухаў, што пляткарылi людзi, i думаў: наконт польскага шпiёна — лухта. Ён прыпамятаў адну размову з Дарошкам, як той дужа наракаў на палякаў за iх даўнiя намаганнi завалодаць беларускiмi землямi. Не любiў наццэм палякаў, то пэўна. А наогул ён не ведаў, як адносiцца да Дарошкi, шкадаваць яго або не. Часам Азевiча брала злосць, што праз яго столькi наперажываўся гэтай зiмой. Часам з'яўлялася цiхае задавальненне, што ўсё ж не прычынiўся да ягонай пасадкi. Увогуле Азевiч паводзiў сябе з iм сумленна: калi не абараняў, дык i не паддаваў нi ў чым. Усё папраўдзе, не тое што з Зарубам. Гiсторыя з Зарубам з'явiлася для яго добрым урокам, ён не забудзе яе да смерцi. Але Мiлаванава абяцанка паклiкаць яго яшчэ надоўга атруцiла яму жыццё. Ён са страхам чакаў таго выклiку кожны дзень на працы, iдучы дадому, бываючы ў райкоме, дзе на вулiцы цi нават уначы ў цiхай бабчынай хацiне над рэчкай. Тое пакутнае чаканне працягвалася доўга, ды Мiлаван чамусьцi не клiкаў. А пасля паклiкалi, вiдаць, самога Мiлавана. Казалi, паехаў на нараду ў Менск, з якой так i не вярнуўся. Нi праз дзень, нi праз месяц. Знiк без следу i гуку.

...На нейкi няпэўны час Азевiч нiбы выпаў з жыцця, напэўна, страцiў усялякае адчуванне явы i быў цi то ў

сне, ці ў трызненні, а можа, у мінулым, якое таксама было не лепшае за самы пакутны сон. Як некалі ў дзяцінстве. Звычайна ўсё ішло ад пачуцця адзіноты, пакінутасці ў цёмнай хаце, яго ахопліваў страх, ён баяўся немаведама чаго. І ў той яго страх пастутова ўваходзіў нехта знадворку, нехта варушыўся за акном. Ягор заплюшчваў вочы, а як расплюшчваў, бачыў за шыбінай цьмяную касмылявую морду, то, канешне, быў воўк. Ён стрыкаў вушамі, напружана зазіраў у акно невядома з якім намерам, можа, каб улезці ў хату. Ад страху Ягор нібы прачынаўся, але навакол была тая ж адзінота, толькі Ягор пачуваўся зусім не дзіцем — цяперашнім дарослым чалавекам, але ўсё роўна яго апаноўваў той даўні дзіцячы страх — пакутны страх, якога немаведама як было пазбыцца. І зноў ваўчыная пыса за цьмяным акном. Хіба ў адрозненне ад дзіцячага сну цяпер ён не прачнуўся — ён проста не меў сілы на тое — і трываў, пакуль здані прывіднага самі па сабе не змарнелі, не сышлі на іншае — такое ж цьмянае, невыразнае, але па-ранейшаму страхавіта-пакутнае.

Дзіва, але ён не мог саўладаць з сабой, не мог намагчыся прачнуцца. Ён нібы зачапіўся дзесь на мяжы прывіднага сну і явы, адчуваючы толькі, што яму кепска. Нават дужа кепска. Што і дзе балела, таго Азевіч уцяміць не мог, проста яму было блага — можа, болей у змэнчаных пачуццях, чымсьці ў целе. Хаця і цела ўспрымалася ім як суцэльны немачны боль. Дужа хацелася піць, унутры, здавалася, усё ссохла, і было то горача, то так сцюдзёна, што на ім хадуном хадзіла гарохавінне, пад якое ён закопваўся ўсё глыбей і глыбей. Толькі наўрад ці ён адчуваў тое, таксама як не адчуваў ужо, дзе ён апынуўся. У тлумным трызненні мроілася нейкая даўніна, штось з даўно перажытага; надта пакутнае, яно перапынялася ягоным фізічным, не менеей пакутным пачуццём. І толькі краёчкам свядомасці на кароткі час ён цяміў сваё лаўжо ў шархоткім каляным гарохавінні, наўрад ці разумеючы, як і калі ён трапіў у яго. Як трохі вальнела і мешаніна прывідаў адступала ў сваёй выяве, пачуцці зноў апаноўвала страхам ад усведамлення таго, што ён хутка памрэ. Памрэ, як памёр Гарадзілаў, бо хвароба магутна

ўхапіла яго сваёй кашчавай рукой, адабрала сілу і нават волю да паратунку.

Ён не ведаў, колькі мінула часу, як ён запоўз сюды, і наогул які цяпер час, толькі аднойчы раптам расплюшчыў вочы і ўбачыў, як рэзка блішчыць побач шчыліна між бярвення, з якой пругка б'е вецер. Убачыў рэдкую крапанку гарохавіння ля твару, штосьці падумаў ці, можа, памкнуўся падумаць і зноў упаў у нябыт.

Другі раз яго пабудзіў голас, здалося, выразна, бы наяве, штосьці гукае нябожчыца маці. Адчуўшы сябе дашчэнту скалелым і спакутаваным, ён, аднак, хутка згубіў той голас і зноў упаў у праваліну пакутна санлявай знямогі. Гэтае чаргаванне забыцця і цьмянае явы працягвалася доўга, нібы бясконца, і бясконца доўжыліся ягоныя пакуты. Іншы раз ён лавіў сябе на тым, што імкнецца крыкнуць, тады сам палохаўся тае магчымасці і нейкім падсвядомым імкненнем вырываўся з непрытомнасці. Шчыліны ўжо не было побач, мабыць, трызнячы, ён скінуў з сябе гарохавінне і павярнуўся ці споўз да самай сцяны. У пуні развіднела, відаць стала змрачнаватае саламянае падстрэшша з трыма ластаўчынымі гнёздамі ля кроквы. Пад імі на бэльцы сядзеў шэры, з натапыраным пер'ем верабейка, напружана ўзіраўся ўніз, якраз у самы ягоны твар. Як Ягор цепнуў вачмі ці варухнуў чым, верабейка жвава чырыкнуў, разы два пераскокнуў з месца на месца па тоўстай счарнелай бэльцы. То была першая адзнака жывога і ў ёй праява хілай надзеі — можа, яшчэ ён неяк выкараскаецца. Азевіч варухнуў рукой, нібы вітаючы верабейку, і той, ціўкнуўшы, сарваўся з бэлькі і знік за высокай гарой саломы на тым канцы пуні.

Ветраную ціш у пуні, здаецца, парушылі нейкія новыя гукі — шархаценне, ці што, але чуліся яны за сцяной знадворку. Азевіч расплюшчыў вочы — у шчыліне між бярвення хіснуўся і замёр нейкі цень, быццам спыніўся хто. Тады ён скасіў позірк убок па шчыліне, і праўда, ля сцяны на момант мільганула чорная постаць з настырчанымі вушамі, прыціхла, штосьці паслухала і знікла. То быў сабака. Добра, што не забрахаў, падумаў

Азевіч, але, мусіць, учуў яго тут. А можа, не ўчуў, можа, так сабе ходзіць па загуменні. Азевіч заплюшчыў вочы — было не да сабакі. Што ўжо яму сабака?

Між тым яго магутна скаланула дрыжака, стала нясцерпна холадна. Ён сцяўся, скорчыўся і ў апошнім намаганні шаснуў глыбей у гарохавінне, ледзьве стрымліваючы дробны ляскат зубоў. Доўга ён не мог саўладаць з тым ляскатам, не мог сагрэцца, аж покуль непрытомнасць новым заходам не ахінула яго адчуванні.

Другі раз ачнуўся ад усведамлення таго, што паблізу хтосьці варушыцца. Яшчэ не зусім дапяўшыся да явы, прыціх, нават перапыніў разгарачанае дыханне, услухаўся... Яўна дзесь побач шархацела салома, але не ад ветру з падстрэшша. Шархацела настойліва, рэзка, з невялікімі прамежкамі цішыні. Азевіч расплюшчыў вочы, аднаруч ціхенька адгарнуў ад твару калівы гарохавіння. Ён нічога паблізу не ўбачыў, ды раптам адчуў, што з-пад гарохавіння вытыркаліся ягоныя ногі. Памкнуўся падкорчыць іх, ды, мабыць, спазніўся.

— А, божухна!..

Прагучала гэта страхавіта і здзіўлена; ён, аднак, не крануўся — чакаў, невядома на што спадзеючыся. І тады паблізу выразна пачулася:

— Божачка, маці прачыстая багародзіца...

То быў страхавіты жаночы выкрык і несумненна адносіўся да яго. Прынамсі, у адказ нічога не пачулася, і ён, не ведаючы нашто, гучна выдыхнуў, бы застагнаў.

— Хто тут?

З натугай ён адхінуў ад грудзей пласт жорсткага гарохавіння, памкнуўся падняцца, ды не набраў сілы. Але яна ўжо прыкмеціла яго і знерухомела, гэтая цётка ў цёмнай хустцы, і перахрысцілася.

— Не бойся, маць, — здалося яму, сказаў ён, ды не пачуў уласнага голасу, такі той быў слабы. Давялося

сказаць яшчэ — слаба і хваравіта. І, напэўна, тая яго хваравітасць надала цётцы рашучасці ступіць на гарохавінне, каб згледзець яго пад сцяной.

— Што ж гэта?.. Ці паранены?

І застыла-знерухомела, чакаючы яго адказу.

— Хворы я, цётка. Паліць усё. Піць хачу...

— Піць? Дык я зараз. Я хуценька. Збегаю па конаўку..."Ну во і папаўся, — з'явілася страхавітая думка. — Зараз прывядзе каго... Хоць немцаў, хоць паліцаяў". Але што было яму рабіць? Ён ужо нічога не мог. Хіба застрэліцца. Застрэліцца яшчэ, мабыць, сілы знойдзе. Дзе толькі той наган?

Наган быў у кішэні, муляў пад сцягном, пра наган ён не забываўся нават у непрытомнасці. Шкада толькі, што ў непрытомнасці наган — не падмога. Але, можа, ён як-небудзь яшчэ стрывае, наможацца пабыць у свядомасці. Яму каб толькі напіцца...

Здаецца, надта ўжо хутка жанчына зноў з'явілася побач, а ён і не пачуў, як яна пайшла-выйшла. Але во зашэрхала гарохавінне, і, стаўшы на калені, цётка падала яму белую кварту. Ён памкнуўся прыўзняцца, ды не змог — так яго даканала немач. Тады цётка адною рукой прыўзняла яго галаву, а другой паднесла да вуснаў кварту. Вада здалася нясмачнай, аж памкнула на ваніты, але, спакутаваны смагай, ён выпіў паўкварты. Дужа закружылася ў галаве, наваколле паплыло, нібы ў тумане.

— Ну дзякуй.

— Можа, яшчэ чаго?

— Не, не трэба, — толькі і намогся сказаць ён і заплюшчыў вочы. Здалося, вось-вось зноў страціць прытомнасць, ды неяк усё ж утрымаўся ў памяці. Як расплюшчыў вочы, цётка сядзела побач. Была яна, мусіць, яшчэ і не дужа старая, але надта спакутаваная, цёмная з абвялага твару, выраз якога быў здаўна так

знаёмы Азевічу. Жальба і клопат даўно і ўладна атабарыліся на тым твары.

— Што ж гэта ў вас? Ці, можа, прастуда? — заклапочана пыталася цётка.

— Можа, і прастуда...

— Анягож. Цяпер такі час, прастудны. Але ж... Можа, тыфус?

"Яшчэ чаго не хапала! — спалохаўся ў думках Азевіч. — Хаця хто ведае? Гарадзілаў жа памёр. Можа, і тыфус..." Цётка паўзіралася ў яго, памеркавала:

— Трэба б доктара. Ды няма ж у нас.

— Не трэба доктара.

— Не, усё ж, мусіць, трэба. Каб жа быў толькі.

— Ні ў якім разе. Я папраўлюся, цётка.

— Добра ж, калі папravіцеся. У дом вас трэба.

На тое ён памаўчаў. У дом, канешне, было б нават выдатна. Але...

— А якая то вёска, цётка?

— Дык гэта ж Заброддзе.

"Заброддзе, Заброддзе... Якое ж гэта Заброддзе? — напружана думаў ён. — А, ды гэта ж тое самае Заброддзе, дзе тады білі жорны". Не, не ён, не Азевіч — тут хадзіла іншая брыгада. Здаецца, на чале з Маладцовым. А крыху далей і яго Ліпаўка. Значыць, у тую завейную ноч ягоныя ногі вялі... Самі вялі, каб у родны кут. Але чаму так? Ці не на пагібель тое?

— У дом не трэба. Я тут...

— А хто ж вы будзеце? Не тутэйшы? — пацікавілася цётка.

— Не, не тутэйшы.

— І здалёк жа?

— Здалёк, цётка...

Ён хлусіў з чыстым сэрцам, бо яму нельга было аказацца пазнаным. Апынуцца пазнаным, мусіць, будзе небяспечна для яго. Лепей так, немаведама хто. Акружэнец. Чалавек проста. Божы чалавек, як казалі даўней. Божага чалавека заўжды пашкадуюць, прыхаваюць, а то і абароняць. А свайго? Такога, як ён? Не, лепш, каб не пазналі. Азевіч не дужа хацеў ды і не шмат меў сілы размаўляць з ёй, зноў заплюшчыў вочы. І яна, мабыць, адчула тое, дужа заклапацілася.

— Дык як жа вы тут? Сцюдзёна ж тут. Можа, я кажух прынясу? Усё цяплей будзе.

— Прынясі, ага, — пагадзіўся ён.

Яна коратка пашорхала гарохавіннем і знікла. Хутка, аднак, з'явілася, накінула на яго кажух, увішна падгарнула полы пад бок, і яму адразу стала цяплей і ўтульней. Трохі спакайнеючы, ён не расплюшчваў вачэй, зрабіў выгляд, што спіць. Аднак чуў, як яна трудна ўздыхала побач, пабыла яшчэ трохі і выйшла, шчыльна прычыніўшы вароты. Дзіўна, але з кажухом прыйшло да яго супакаенне, якога ён даўно ўжо не адчуваў. Так было ў маленстве, калі ў выстуджанай на золаку хаце яго накрываў бацька. Ад кажуха патыхала цяплом і спакоем, і ён засынаў добрым салодкім сном, які прыходзіць у маленстве, а пасля ўжо ніколі.

У той дзень пад вечар яму зноў стала блага, цела паліла гарачка, зрабілася дужа сцюдзёна, да дрыжыкаў, нават пад кажухом. Ён зноў пачаў губляць адчуванне рэальнасці і не адразу пазнаў цётку, якая прынесла яму піць — чагосьці гарачага, але нясмачнага, ледзьве не брыдкога. Яна штосьці пыталася, а ён быццам адказваў, але ўсё тое адбывалася нібы ў тумане, у стылай ветраной цемрадзі, бы напоўненай нейкім глухім вязкім пакуллем. Тое цётчына наведванне і размова з ёй былі

амаль пакутнымі для Азевіча, і ён прагнуў аднаго — спакою і забыцця. Забыццё, непрытомнасць цяпер былі для яго паратункам ад гэтага бязлітаснага катавання хваробай. Але на той раз поўнага забыцця не настала, ён усё ж адчуваў сябе, свае пакуты і горачна, ліхаманкава думаў. Думаў пра тое, што, пэўна, памрэ, што ў яго — тыфус ці запаленне. Ці яшчэ якая халера. І яму рабілася шкада сябе, і брала крыўда на лёс, які змушае яго да такой недарэчнасці — памерці ў часе вайны. У гэтай во змрочнай пуні, пад гарохавіннем. Ці ён думаў калі, што яго напаткае такі канец... Ці тады, як выпраўляўся з бацькоўскага дома, здавалася, на некалькі гадзін, ды атрымалася — на ўсё жыццё. Такое бязрадаснае для яго жыццё.

Ці не прыйшоў час падбіваць бабкі? Перад канцом было самы раз тое зрабіць. Усё ж хоць ён пражыў і мала (можна сказаць, зусім не жыў), але мае сякі-такі вопыт. Чаму ж ён і каго можа навучыць, той яго куртаценькі вопыт? Не скажаш, што шмат чаму добраму. Але ўжо благому, таму, як не трэба, — гэтага ў ягоным вопыце было процьма. Але чаму так? Ці ён калі ленаваўся, шкадаваў сябе, ці рабіў што не так? Ён гатовы быў вылузнуцца са скуры, каб зрабіць усё выдатна, як тое патрабавалася ад бальшавіка. Але што выходзіла з тае яго рупнасці, на чыю яна ішла карысць? Чужая воля правіла свой д'ябальскі баль на людскіх касцях, і што на тым балі залежала асабіста ад Ягора Азевіча? Дужа мала, калі не сказаць нічога. Ён жыў па чужым сумленні, па чужых звычаях, чужых законах. Жыццё і людзі распараджаліся ім, як хацелі. І як было ў тых умовах зрабіць што інакш? Або зусім не зрабіць нічога? Як бы яму тое ўдалося, ён не разумеў і цяпер. Яго б за некалькі дзён сцерлі на парахню. Таму круціўся як мог, пакутаваў і саромеўся. Толькі каму была справа да яго пачуццяў, калі ад яго патрабаваліся вынікі.

Аднойчы ў нядзелю пасля працы ён забегся ў нардом, каб пачытаць штоколечы ў апошніх газетах. Асабліва апошнія пастановы і выступленні па сельскай гаспадарцы. Ды і прамову тав. Сталіна на пленуме ён прачытаў толькі адзін раз, а таго было мала. У

панядзелак планавалася паседжанне партыйнага бюро, дзе яго меліся прымаць у партыю.

Увесь той тыдзень Ягор хваляваўся, і хваляванне яго ўсё расло, чым болей набліжаўся панядзелак. Завярнуўшы з вуліцы ў вузенькі праезд на бабчын падворак ля рэчкі, Ягор згледзеў на ім свайго Варанка. Конік, відаць, таксама пазнаў колішняга знаёмца, трывожліва ўзняў галаву ад фурманкі, у якой перабіраў ахапку сена, і ў Ягора нешта жаласна страпянулася ўнутры. Збоч на прызбе, склаўшы між каленяў вялікія рукі, панура сядзеў яго бацька.

Ягор стрымана прывітаўся, а бацька неяк імкліва ўскочыў, паціснуў яго руку, можа, хацеў абняць ці пацалавацца з сынам, ды не рашыўся, усхвалявана загаманіў штосьці жаласлівае. І Ягор убачыў, як пастарэў бацька — перастаў галіцца, вочы слязіліся, а штаны былі не дужа ахайна залаплены на каленях. "А я цябе, сынок, чакаю. Даўно ўжо чакаю. Хацеў ехаць, ды бабка кажа: прыйдзе. Вот ты прыйшоў..." — "Трохі затрымаўся. Каб жа ведаў..." — "Ды і я не збіраўся. Маці кажа — не едзь, на Пакрова з'ездзіш... Але тут такое дзела..."

Яны прыселі абодва на прызбу, у канцы якой неспакойна перабірала белымі лапкамі ласкавая кошачка — хацела ў сенцы і баялася незнаёмага чалавека. Зводдаль з крапіўных зараснікаў пільнаназіраў за імі задзірлівы бабчын певень. "Тут такое дзела, сынок. Дзеравенцы кажуць: з'ездзі, можа, Ягор паможа, усё ж там начальства... Жыць стала неяк — гоняць у калхоз. А Калінін жа сказаў, каб па сваёй ахвоце, каб без прынукі. Пісалі, і Сталін так наказваў, бо галавакружэнне ад такіх парадкаў. А гэтыя як усселі..." — "Хто гэтыя?" — перапытаў Ягор. Тая размова яму не падабалася ў самым пачатку. "Ну гэтыя сельсавецкія — Пракапчук ды Свірыдзёнак, ды ўпаўнаважаны гэты, адбіцца неяк. Дык каб ты тут перад Дашэўскім заступіўся. Можа б, далі палёгку..." — "Не дадуць, — сказаў Ягор, — і не прасіце. Пастаўлена задача: да гадаўшчыны Акцябра ўсіх калектывізаваць.

На сто працэнтаў", — сказаў ён, адразу пазмрачнеўшы ўнутры. Не хапала яму гэткіх размоў напярэдадні прыёму ў партыю. Бацька неяк адразу абвяў, высмаркаўся, выцер далонню нос. "Значыць, няма праўды? І ў нас няма, і ў вас няма. Можа, у Менску тады?" — і запытальна зірнуў на сына. "І ў Менску вашае праўды не будзе. І ў Маскве таксама. Тая вашая праўда скончылася. Іншая пачынаецца", — стараючыся як найразважней, вытлумачыў Ягор. На тое бацька, падумаўшы, зазначыў: "Калі наша, сялянская, праўда скончылася, дык ніякая не пачнецца. Тады ўсяму канец. Кранты!"

Ягор не хацеў з бацькам спрачацца, нешта пачаў яму падрабязна расказваць пра палітыку партыі ў галіне сельскай гаспадаркі. Але бацька сядзеў панылы, прымоўклы і хутка пачаў збірацца дамоў. Ягор не ўпрошваў, праводзіў нават з палёгкай. Бацькава прысутнасць яго ўжо прыгнятала, адзін выгляд пастарэлага, забітага і заклапочанага твару выклікаў у ім жаласлівую прыкрасць.

Бацька паехаў, а Ягор рэшту таго дня сядзеў над "Правдой" ды сваімі запісамі — рыхтаваўся да прыёму, які цяпер хваляваў яго болей за бацькавы клопаты. Вельмі баяўся засыпацца ў райкоме, адказаць не так на якое пытанне, чагосьці не ведаць. Баяўся, што экзамен яму наладзяць прыдзірлівы, і азіраў у думках сваю кароценькую біяграфію. Але быццам нідзе нічога. Рабіў, стараўся, спагнанняў не меў ні ў выканкоме, ні ў райкоме камсамола. Чаго было баяцца? Але ўсё роўна баяўся.

Баяўся, аднак, не таго, чаго сапраўды належала яму баяцца. Пытанняў на тым страхавітым паседжанні было і няшмат. Спыталіся пра задачы моладзі ў справе змычкі горада з вёскай, затым уедлівая Іда Шацман задала пытанне наконт апазіцыі на трэцім з'ездзе РСДРП. Усё тое ён ведаў і адказаў увогуле складна. Але вось Дашэўскі, які ўвесь час маўчаў за сваім сакратарскім сталом, папытаўся — рэзка і зласліва: "Отец вступил в колхоз?" Падлога пад нагамі ў Азевіча

хіснулася, і ён, мярцвеючы, выціснуў з сябе: "Яшчэ не, не ўступіў", і ўсе ў тым пакоі ўскінулі галовы, з трывогай уставіліся ў яго. "Ну вот, видали? — сказаў Дашэўскі. — А ему проводить коллективизацию. Агитировать за колхозы. А родной отец — единоличник. Или, может, даже кулак, а?" — "Не, не кулак. Серадняк", — зусім ужо апанурана адказаў разам сцішэлы Азевіч. "Середняк, а в колхоз не вступает. В чем дело?"

Выручыў Азевіча ягоны камсамольскі начальнік Маладцоў, якога, дарэчы, Ягор недалюбліваў за няпэўны, надта ўжо мітуслівы нораў. Ускочыўшы з свайго месца ля парога, той растлумачыў, што ведае бацьку Азевіча (і калі толькі яго ўведаў?), што той вялікі прыхільнік калгаснага ладу, а не ўступіў у калгас толькі па той прычыне, што ў іх вёсцы калгас яшчэ не арганізоўваўся, і тут найбольшая віна не Азевічавага бацькі, а раённай партыйнай арганізацыі, якая яшчэ ў чымсь не дапрацавала, не растлумачыла — не ахапіла стопрацэнтнай калектывізацыяй сельскае жыхарства, як таго патрабуе пастанова ЦК ВКП(б) і асабіста таварыш Сталін. Усе згодна заківалі галовамі, а Дашэўскі прыстукнуў па стале далонню, даючы тым зразумець, што пытанне вырашана. Азевіча прынялі кандыдатам ВКП(б).

Здаецца, можна было б перадыхнуць з палёгкай, адна гара сышла з плячэй, ды ўскацілася другая, не меншая. На тым жа паседжанні прынялі рашэнне: неадкладна, заўтра раніцай усім членам бюро райкома і актыву, разбіўшыся на брыгады, выехаць у аднаасобніцкія вёскі і выбіць план збожжанарыхтовак. У асабліва ўпартых сабатажніцкіх вёсках пабіць жорны — каб не малолі збожжа, здавалі дзяржаве. Выпадкам ці па чыёй волі наўмысля Азевіч трапіў у брыгаду, куды трапіць зусім не хацеў — у брыгаду пад кіраўніцтвам Дашэўскага. Яшчэ туды ж быў прымеркаваны Вайцяшонак і адзін міліцыянер. Двое іншыя павінны былі далучыцца ў сельсавеце — з ліку мясцовага актыву.

Раніцай сабраліся перад райкомам, падагналі фурманкі.

Дзянёк выдаўся шэры, восеньскі, часам браўся накрапваць дожджык, але сціхаў. Ягор адчуваў сябе дужа няёмка ў міліцэйскай лінейцы побач з Дашэўскім. Не тое што некалі з Зарубам. Той хоць і вораг народа, а быў мяккі і спагадлівы чалавек. Гэты ж — сталь! І позірк такі — з-пад ілба, звераваты, як і выгляд усяго худога, кастлявага твару. Вайцяшонак, мусіць, як кульгавы, сеў побач, а Азевіч прымасціўся ў перадку побач з возчыкам-міліцыянерам. У таго целяпаўся на рэмені наган у жоўтай кабуры, што ўсім надавала важнасці і выклікала адчуванне бяспекі. Куды ехаць, ніхто з іх не ведаў, і толькі як уселіся, першы сакратар дастаў з чыгуначнага кіцеля складзеную ў чатыры столкі паперку. "Значит, так, — абвясціў ён. — Первая деревня Кан... Кандыбовичи..." — "Кандыбічы,— паправіў Вайцяшонак. — Гэта дзесяцькіламетраў". — "Вот едем в те Кандыбовичи! Айда!"

Прыехалі ў тыя Кандыбічы, спыніліся каля сельсавецкае хаціны са сцяжком над ганкам. Там ужо чакалі – старшыня, звычайнага выгляду мужык у кортавай, аднак, талстоўцы, і двое, відаць з актыву. Дашэўскі, не злазячы з лінейкі, папытаўся: "У каво жорны?" — "Дык шмат у каго", — сказаў старшыня і палез у партфель"А ну становись, показывай!" — скамандаваў Дашэўскі.Сельсавецкі старшыня нязграбна ўмясціўся на падножцы лінейкі, і яны паехалі па вёсцы. Зайшлі ў сенцы першай хаціны, адкуль старшыня адразу павёў у істопку, дзе ў запавуціненым куце мясціліся старыя жорны. "Так, Дашэўскі раздумна азірнуўся. — Ты!! — паказаў ён на Азевіча. — Снимай камень!"

Адольваючы пэўную няёмкасць, Ягор адкінуў убок млён, натужыўся, зняў цяжкі верхні камень, паставіў яго рубам, не ведаючы, што рабіць далей. "Давай, давай! — працягваў камандаваць Дашэўскі. — Неси на двор и бей вдребезги!" Ягор вывалак камень на двор, але разбіць яго не было аб што, і ён няўцямна прысланіўся з сваім цяжарам да гразкага кола лінейкі. "Что, не найдешь, о что расчехвостить? — гырчэў Дашэўскі. — О фундамент бей! Вон об угловой камень".

Азевіч няўмела ўдарыў аб вугал, камень адскочыў і пляската лёг у гразь. "Ну ты, неумека, мать твою перемать! — вызверыўся Дашэўскі. — Бей сильней! Как врага революции бей! Чтоб искры из него — в Бога душу мать!" Другі ўдар здаўся болей удалы, каменны кругляк ляснуў бокам і разваліўся на тры часткі.

Якраз у той момант з хаты выскачыла кабета з растрэпанымі валасамі, узняла крыку на ўсю вёску. Яна так бэсціла і кляла іх, што стала няёмка, нават боязна стала. Старшыня сельсавета кінуўся яе ўгаворваць, але тая ўсё крычала і плакала. З нізкага акенца цікаўна пазіралі на падворак некалькі мурзатых дзіцячых тварыкаў. Дашэўскі, аднак, нічога, здаецца, не чуў і не заўважаў, адно ведаў — камандаваць: "Поехали дальше!"

За якіх пару гадзін яны пабілі, можа, з дзесятак жорнаў, наслухаліся крыку, праклёнаў і лаянкі, асабліва ад жанок. У адным падворку, як яны прыйшлі туды, гаспадар, мусіць, ужо ведаў, па што. То быў мажны малады мужчына, ён сам зняў тоўсты верхні камень і ладна садануў яго аб вугал. "Вот, сполнена. Будзьце спакойны", — сказаў трохі азадачанаму той добраахвотнасцю Дашэўскаму і выцер аб штаны рукі. У крайняй ад выгану хаце верхняга каменя на жорнах не аказалася, не было і гаспадара. Гаспадыня ж, нейкая дурнаватая босая баба, нічога не знала — не ведала. На ўсе пытанні старшыні сельсавета і Дашэўскага адказвала: "Нічога не знаю, нічога не ведаю". "Врет, сука, — сказаў Дашэўскі. — Попрятали".

Калі яны ў поўдзень прыехалі ў наступную вёску, Азевіч не на жарт устрывожыўся. То была Альхавіца, а ў суседзях цераз поле ляжала яго родная Ліпаўка. "Няўжо і туды? Няўжо і туды?" — забілася ў ягонай галаве страхавітае пытанне. Але ён не мог наважыцца запытаць пра тое ў Дашэўскага і маўчаў. У Альхавіцы яны таксама пабілі нямала круглых, новых яшчэ, таўстых і зусім старэчых, змеленых камянёў; зноў над вёскаю чуўся плач і праклён. Некаторыя жанчыны прасіліся, паказвалі на малых, якім трэба есці,

бажыліся, што ўсё здалі, болей няма ні зярнятка. "Ах, няма? — вызверыўся Дашэўскі. — Тогда чего ж рыдаете, если молоть нечего? Бей, Азевич!" І Азевіч біў. Білі міліцыянер і кульгавы Вайцяшонак. У адной хаце, праўда, не пабілі. Выйшла маладая кабеціна, спакойна ўсміхнулася і паведаміла: "А мой у войску служыць і камандзір, не маеце права". І паказала фота курносага хлопца з двума трохкутнічкамі ў пятліцах.

Дашэўскі зірнуў на фота, на старшыню сельсавета і моўчкі павярнуў з падворка. Тут не пабілі.

Нарэшце і ў Альхавіцы ўсё было скончана. Пакінулі не пабітымі двое жорнаў — у чырвонаармейскай сям'і і яшчэ ў адной хаце, на прабоі якой вісеў вялікі замок. Дашэўскі наказаў старшыні сельсавета пабіць, як прыйдзе гаспадар. Яны ўсе ўжо прытаміліся без палудня, але першы сакратар, відаць, не меў жаднага намеру даваць сабе ці ім адпачынак. Ён зноў выцяг з нагруднай кішэні свой спіс, і Азевіч абмёр: што далей? "Так, едем в Липовку? Где Липовка?" Вайцяшонак заклапочана зірнуў на Азевіча, але той не знайшоў у сабе моцы адказаць. Праўда, тут жа да яго падскочыў альховіцкі старшыня: "А вунь, цераз поле! Во гэтай дарожкай, таварыш сакратар..."

Пакуль яны ехалі дужа знаёмай Ягору дарожкаю цераз поле, унутры ў яго быццам пераварочвалася штосьці. Ці ён думаў калі, што ягоны прыезд у родную вёску будзе з такой патрэбай? Ці яго тут чакалі калі ў такой ролі? Бацька казаў, што некаторыя яму зайздросцілі, што сын выбіўся ў людзі, хоць невялікі, але начальнік у раёне І во, ён едзе, гэты начальнік. Як ён паглядзіць каму ў вочы, калі будзе біць іхнія жорны? Што пра яго скажуць людзі? Не якія там незнаёмыя чужыя сяляне, а свае, знаёмыя з дзяцінства, мужыкі і бабы?

Аднак думай не думай, а рабіць нешта трэба. Іхнюю лінейку сустрэлі на ліпаўскай ваколіцы старшыня Пракапчук і вясковая актывістка Матруна Бабіч. Яны былі ўжо ў курсе. Дашэўскі адно запытаў: колькі двароў? "Адзінаццаць, — з гатоўнасцю адказаў Пракапчук і паказаў рукой. — Шэсць па гэты бок і пяць

— па той" — "Так, чтобы было управней, разбиваемся на две группы. Ты и ты, — паказаў ён на Вайцяшонка і міліцыянера, — на ту сторону, а ты и женщины — на эту. Как твоя фамилия?" — запытаў ён жанчыну. "Ды Бабіч я, Матруна Іванаўна". — "Так, Матруна, веди нас, показывай. Тем председатель укажет".

Рабілася ўсё горш і горш, бяда падступала ўсё бліжай. Па тым, што Дашэўскі звярнуўся да Матруны, Азевіч зразумеў, што пра ягоныя, Азевіча, адносіны да Ліпаўкі ён не ведае. Каб хоць Матруна не ляпнула таго, раптам падумаў ён і сумеўся. Але што радасці з таго, што не ляпне, — яны ішлі якраз па тым баку, дзе праз шэсць падворкаў стаяла і ягоная хата. А ў хаце жорны. На якіх і ён нямала намалоў у свой час — на хлеб, на зацірку, бліны. Што тут будзеш рабіць?..

Разварушаны і знямелы, бы ў кепскім сне, ён хадзіў з гэтымі людзьмі па знаёмых падворках, стрымана, чужым голасам вітаўся з суседзямі і моўчкі ішоў у сенцы, у трысцен ці ў істопку (змалку ведаў, дзе што ў кожнай сям'і), знімаў верхні камень і выносіў на вуліцу. Ён маўчаў. Бабы крычалі і плакалі, але на бабаў грозна пакрыкваў Дашэўскі, а яшчэ болей прарэзліва сакатала актывістка Матруна — сварліва тлумачыла важнасць рашэння райкома партыі: "Трэба, бабы, болей пра дзяржаву дбаць, рабочы наш клас кожны кавалак хлеба лічыць, не на буржуяў аддамо, аддамо, бабы, на абарону, на індустрыялізацыю. Мы ўжо як-небудзь, абы наш рабочы клас, які куе сацыялізм, быў сыты-давольны..."

Так яны дайшлі і да Азевічавага падворка.

Ягор дужа не хацеў ісці першы, стуліўся за чорнай шырокай спіной Дашэўскага, наперадзе клыпала шыраказадая Матруна. Але хіба тут схаваешся? Усё роўна яны ўсе ўвайшлі ў сенцы, і ў той час расчыніліся дзверы з хаты і сястрычка Ніна крыкнула, бы знячэўку: "Мама!" Паказалася і мама, твар яе збялеў, вусны задрыжэлі, быццам яна хацела нешта сказаць, ды страціла голас. Ягор ірвануўся да жорнаў і ўхапіў знаёмы, даўно ўжо не тоўсты і не дужа цяжкі камень.

Ён нічога не хацеў ні тлумачыць ім, ні нават доўга затрымлівацца тут. Бегма вынес камень на агарод, дзе з пустазелля пад плотам тырчаў вялікі круглалобы валун, з усяе сілы ўдарыў па ім. Жорнавы камень разваліўся на дзве палавінкі, і ён, хістаючыся, з апошніх высілак вярнуўся ў двор. Дашэўскі на агарод не палез — пазіраў здаля, Матруна стаяла на ганку, а з хаты чулася глухое галашэнне маці. Ніна, чуваць было, яе суцяшала. Добра, што дома не аказалася бацькі, інакш... Астатняе Ягора ўжо не надта трывожыла, самае прыкрае ён перажыў. Штосьці ў ім зламалася, і ён выразна адчуваў, што рабіўся інакшым, чым прывык адчуваць сябе.

Яны разбілі яшчэ двое камянёў, і іхняя патрэба ў Ліпаўцы была на тым скончана.

Вярталіся ў раён моўчкі, стомленыя, разварушаныя і галодныя. Ніхто нідзе не запрасіў іх пачаставацца, ды і ім было не да пачастунку. Дашэўскі зацята маўчаў, зыраючы з-пад ілба на прыдарожны абсяг. Яго тут не любілі, ні ў мястэчку, ні ў раёне, і ён, падобна, зусім не імкнуўся прыдбаць чыю-небудзь прыязнасць. Азевіч ужо ведаў, што ўвесь прымус і бязладдзе ў раёне сяляне звычайна адносілі да свайго мясцовага кіраўніцтва. Думалі: гэта яно нахабна заганяе ў калгасы насуперак волі Сталіна, яно абкладвае цяжкім падаткам сераднякоў, раскулачвае і ссылае невядома куды. Усё гэта тутэйшыя, мясцовыя, сельсавецкія, раённыя начальнікі. Трэба скардзіцца вышай, пісаць Чарвякову ці нават Калініну. І пісалі, збіралі калектыўныя подпісы пад тымі лістамі — усёй вёскай ці нават некалькімі вёскамі. Ды ўсё марна, паслабкі не наставала. Тады думалася: зноў вінаваты мясцовыя — міліцыя ці ГПУ, перахапілі пісьмы, не туды паслалі, не так растлумачылі. Доўгі час так думаў і Азевіч, аж покуль не пачаў рабіць сам у райкоме. І тады зразумеў: э, не! Не мясцовыя вінаваты ў бязлітасным стаўленні да селяніна — тое стаўленне ішло зверху. Ці не з самага верху нават. А мясцовыя дык нават часам змякчалі, расслаблялі тыя жорсткія загады і патрабаванні, што нярэдка канчалася кепска для некаторых мясцовых. Можа, менавіта праз гэта сумны лёс напаткаў і Зарубу,

бо ягоная сціплая чалавечнасць замінала шмат чаму ў новым стаўленні да селяніна. Усё ж той сам паходзіў з сялянства і, мусіць, не меў для яго неабходнай па тым часе жорсткасці. Пакуль ехалі, Азевіч не мог пазбыцца адчування, што ў раёне дужа не хапае Зарубы. Не так ягонай працы ці клопату, як проста ягонай прысутнасці на сваім месцы, у выканкоме, з ягоным спакойным, разважным характарам. Вельмі шкада рабілася пры думцы, што ён — вораг, хоць і слаба верылася ў тое, але ж... Хіба мала навокал благіх людзей, шкоднікаў і шпіёнаў. Можа, як ашукалі, злоўжылі ягонай дабрынёй, зацягнулі ў свой шкодніцкі лагер. Мабыць, зацягнуць яго было нескладана — усё ж даверлівы і нязлосны быў гэты чалавек. Вельмі шкада яго было Азевічу, і тачыў маўклівы дакор сабе, што і ён неяк дачыніўся да ягонай пагібелі. Хай не сам, не па сваёй волі, лічы, цераз прынуку. Паліна!.. Во хто быў ягоны найбольшы боль і загадка, можа, на ўсё яго далейшае жыццё. Што гэта за чалавек, Паліна? Што за жанчына? Чаму яна так паставілася да яго, вясковага хлопца з яго неразбэшчаным даверам.

Прыехалі ў мястэчка не позна, але ўжо змерклася. Дашэўскі вылез каля райкома, астатнія таксама пазлазілі з лінейкі. І калі міліцыянер трохі ад'ехаў, Вайцяшонак сказаў: "Давай зойдзем? Замочым гэта клятае дзела".

Яны пайшлі да Вайцяшонка, і Азевіч у той вечар першы раз у жыцці напіўся, як не напіваўся ніколі. Заснуў на чужой лаве на покуці, не распрануты. Яўген яго не будзіў да ранку. Раніцай абодва пайшлі на работу — была нарада сакратароў, і яму належала выступіць — пра авангардную ролю камсамола ў калектывізацыі сельскай гаспадаркі раёна.

Бабчын падворак ля рэчкі адгароджваў ад суседняга стары трухлявы паркан, да самага верху зарослы кустоўем парэчак — з гэтага боку і півонямі — з другога. Неяк праз адчыненае акно Ягор пачуў ціхенькі дзявочы спеў па той бок агароджы. Хоць ён тут перабыў ужо зіму і дачакаўся лета, але неяк не дабраў часу

пацікавіцца, хто жыве ў суседзях. Цяпер тая цікавасць прарэзалася, і ён, выпнуўшыся з акна, зірнуў на падворак. Над зараснікамі парэчак відаць стала бялявая галоўка дзяўчыны, якая нешта поркалася ў асветленых сонцам кветках і спявала — ціхенькае і шчымлівае штосьці. Слоў ён не мог разабраць, але крадком палюбаваўся дзяўчом і зачыніў акно. Доўга любавацца не было калі — трэба было бегчы на працу. Другі раз ён убачыў ужо знаёмую бялявую галоўку выпадкам на вуліцы. Якраз, спяшаючыся, хацеў перагнаць худзенькую дзяўчынку ў лёгенькай стракатай сукенцы, што ішла наперадзе, і здагадаўся, што гэта — суседка. Тады ён параўняўся з ёй і, павітаўшыся, гулліва сказаў: "Во суседзі, а незнаёмыя. Я ж у бабкі жыву. А вы — побач. Я бачыў..." — "Ды я ведаю,— усміхнулася дзяўчо. — Яшчэ як вы перабіраліся да Мальвіны, бачыла". — "Во як! А я не бачыў. Мяне Ягорам клічуць. А вас?" — "Мяне? Анэля". Анэля, быццам каталічка, адзначыў у думках Ягор і папытаўся, каб не маўчаць. "Куды гэта вы кіруеце? На працу?" — "Не, не на працу. У нардом за білетамі. У кіно". — "У кіно, гэта добра. А на які фільм?" — "Вы не ведаеце? "Кацька — залаты ранет", кажуць, дужа смешная карціна, трэба паспець, каб білет купіць". — "Тады купіце і мне, — нечакана для сябе папрасіў Ягор. — У дзевяць вечара я пастараюся прыбегчы. Сёння паеду ў Залескі сельсавет, але надвячоркам вярнуся. Добра?" Анэля трохі павагалася з адказам, быццам засаромелася нават, але ён падумаў, што нічога сарамлівага ў ягонай просьбе няма — у яго проста не было сёння часу бегчы ў нардом па білет. І Анэля, відаць было, моўчкі пагадзілася. На рагу яны разышліся ў розныя бакі — Ягор пабег у райком, а Анэля павярнула за сінагогу ў нардом.

Увечары, аднак, ён прыпазніўся і ледзьве не падвёў дзяўчо. Калі, увесь спатнелы, прыбег да нардома, на вуліцы перад ім ужо было пуста — кіно пачалося. Анэля журботна стаяла зводдаль пад таполяй, пазіраючы ў канец вуліцы, і ён, згледзеўшы яе, прыветна памахаў рукой. Іх упусцілі ў цёмную, поўную народу залу, яны прымасціліся недзе ў апошніх радах, адразу аддаліся чароўным перыпетыям кіношнага жыцця на экране.

Часам Ягор кідаў таемныя позіркі на суседку, тая сядзела напружаная, сцішаная, здаецца, дужа нясмелая. І, бадай, нічым не выдавала сваіх пачуццяў, нават калі зала дружна рагатала над незайздроснымі прыгодамі кіношнага героя. Адзін раз толькі засмяялася, як той пасля, як скокнуў з моста, падняўся на доўгія ногі, мокры, смешны і расчараваны. Ягор таксама ледзьве пераборваў смех, які час ад часу ў ім усё ж прарываўся.

Як выйшлі з нардома, было ўжо цёмна, яны моўчкі, бы з няёмкасцю, пайшлі ў сваю вуліцу. Патроху неяк разгаварыліся. Анэля сказала, што працуе ў аптэцы памочніцай правізаркі, што жывуць яны ў гэтым мястэчку шосты год, да таго жылі ў Полацку, а нарадзілася яна ў Ленінградзе. Ягор праводзіў яе да веснічак, пастаяў крыху, і яны развіталіся. Праўда, перад тым ён сказаў, каб наступны раз брала адразу два білеты. "А не спозніцеся?" — запыталася яна, быццам крыху дакараючы за яго спазненне, і яму тое здалося прыемным. "Ну ўжо не! — сказаў ён. — Жывы ці мёртвы буду роўна ў дзевяць".

І дарма сказаў так рашуча — той наступны раз ён наогул не трапіў на суботняе кіно — суботу і нядзелю праседзеў у Глыбачанскім сельскім савеце, дзе развальіўся сарганізаваны калгас і з ім камсамольская ячэйка. Паўцякалі камсамольцы — хто куды. Прыехаўшы ў панядзелак, пайшоў у аптэку, але тая ўжо зачынілася, тады ён проста пайшоў да падворка суседзяў. Пастаяў каля веснічак, паслухаў. Чакаў, можа, яна выйдзе з хаты, убачыць яго, загаворыць. Але замест дачкі выйшла маці — нестарая яшчэ кабеціна з гладка зачэсанымі валасамі і куртаценькім фартушком наперадзе. Яна сказала, што Анэлі пакуль няма ў хаце, але павінна вось-вось прыйсці. Калі яму трэба бачыць яе, дык можа зайсці ў пакой, дзе можна будзе яе пачакаць. Ён падумаў і нясмела патопаў цераз падворак да ганка.

Не шмат у каго з ягоных знаёмых местачкоўцаў ён быў дома, болей у Вайцяшонка, хатні лад якога мала чым

адрозніваўся ад звычайнага вясковага. Вялікі стол у таго заўжды быў завалены кніжкамі і пачкамі вучнёўскіх сшыткаў жонкі-настаўніцы, сярод якіх часцяком выглядвалі шклянкі і талеркі з недаедкамі, даччыны лялькі; на ложку ляжала вопратка, сярод якой можна было прысесці, бо зэдлікаў было ўсяго два. Таму яго прыемна падзівіла ў гэтай кватэры не так абстава — круглы стол пад сурвэткай, камод, канапа,— як свежая чысціня вышараванай да жоўтага колеру падлогі, пакрытай пярэстымі паласамі дываноў. На ўсіх трох невялікіх вокнах з чысцюткімі шыбамі ружавелі кветкі, кветкі былі і на лаўках пад вокнамі. Мабыць, тут любілі кветкі, не дзіва, што цэлыя зараснікі іх буялі на падворку. У куце за некалі шыкоўным, хоць і пацёртым крэслам высілася шафа з кнігамі ў некалькі ярусаў. Такой чысціні і парадку Ягор яшчэ не бачыў — ні ў прыватным жытле, ні ў важных казённых установах, — аж боязна было ступіць. Тым не менш гаспадыня ветліва запрасіла яго ў тое самае шыкоўнае крэсла, у якім ён сеў — бы праваліўся да самай падлогі. "Вы наш сусед, кватарант бабкі Мальвіны? — з ветлай усмешкай пыталася гаспадыня. — Анэля расказвала, як вы з ёй хадзілі ў кіно. Яна кіно дужа любіць, не прапускае ніводнай карціны. Раней з Лінай, сяброўкай, хадзіла, а цяпер засталася адна. Лінка паехала вучыцца ў Віцебск, а ёй тут трохі адзінока. Дык вось вы..." — "Ну, я так, за кампанію, — сказаў Ягор. — Мне, ведаеце, не надта да кіно: мала часу". — "Ведама ж, у вас дэфіцыт часу, вы ж у райкоме працуеце? Наш бацька таксама совслужачы, праўда, не такога маштабу, але вольнага часу зусім не мае. Усё праца, праца..." — "А дзе працуе ваш бацька?" — папытаўся Ягор, тое было для яго важна. "Ды ён на льнозаводзе. Бухгалтарам", — сціпла адказала жанчына, стоячы з ручніком па другі бок стала, і Азевіч прыпамятаў. Ён некалі нават знаёміўся на нарадзе з бухгалтарам ільнозавода — немаладым ужо, ціхманым чалавекам у акулярах. Тады льнозавод не выканаў план, і ўсё яго кіраўніцтва на бюро райкома атрымала добрую нахлабучку ад Дашэўскага. Думалі, дырэктара пасадзяць, ды неяк абышлося. "Анэля павінна прыйсці, а пакуль, каб не было сумна, я пачастую вас гарбаткай з малінай. Ну і кніжкі можаце паглядзець. Вунь Дзюма ў

нас ёсць. Ці Дастаеўскі, калі паважаеце". Гаспадыня выйшла, а ён павярнуўся да паліцы з кнігамі. Было шмат мяккіх кніжак з разрэзанымі старонкамі, а яшчэ болей тоўстых, у каляных вокладках з чорнай або пярэстай, пад мармур, паперы, з залатымі літарамі на скураных корках. Ягор выцягнуў адну, пагартаў, ды малюнкаў у ёй не было, і ён запіхнуў яе назад у вузкую шчыліну між іншых кніжак. Побач была і яшчэ такая, і яшчэ. Нешта падобнае на ціхенькае шкадаванне ці зайздрасць з'явілася ў ім — усё ж столькі чалавечай мудрасці ідзе стараной, паўз яго, неспазнанае, няздзейснае для яго. Ну, але, мабыць, такое іхняе жыццё, такі лёс. Да ўсяго не дапнешся, тут хоць бы ўхапіць якія вяршкі людскіх ведаў.

Гаспадыня тым часам прынесла шклянку гарбаткі і сподачак варэння, але ён не спяшаўся піць. Ён не мог адарвацца ад кніжак, аўтары якіх былі яму амаль спрэс невядомыя. Хіба апроч некалькіх тамоў Талстога, Пушкіна і дзвюх кніжак Купалы. Такога багацця ён не бачыў нават у даволі вялікай бібліятэцы нардома, дзе, як хваліўся яго загадчык, быў самы поўны збор твораў класікаў марксізму. "Спадабаліся вам кніжкі? — спытала гаспадыня. — Анэлі дужа падабаліся. Дзюма, Вальтэра Скота, Гюго яна прачытала яшчэ ў школе. Тады дужа любіла чытаць. Цяпер меней. Ну, але такі час. Усё ж падрасла, тэхнікум скончыла". — "Які яна скончыла тэхнікум?" — запытаў Ягор. "Аптэкарскі, — сказала гаспадыня. — Я ж таксама фельчаркай рабіла. Зараз не раблю", — сказала гаспадыня і сціпла прымоўкла. Ягор хацеў папытацца, чаму яна цяпер не працуе, як грукнулі дзверы і ў пакой ступіла Анэля. Згледзела яго, і шчокі яе сарамліва запунсавелі. "Мама! — сказала яна нібы з дакорам. Але тут жа знайшла жартоўны тон і весела засмяялася. — Вы майго кавалера гарбаткай частуеце? Але яму, мабыць, няма часу. Ён чалавек партыйны і нават на спатканне не прыходзіць". — "Нічога, якраз сёння я маю часу". — "Маеце, ну дык добра. Тады мы разам адзначым юбілей нашага татачкі", — жвава абвясціла Анэля. Ягор ніякавата паморшчыўся, дзяўчына заўважыла тое і энергічна запратэставала: "Не адмаўляйцеся, татачка

будзе рады. Я яму ўжо расказвала, як мы хадзілі на "Кацьку", а ён некалі ведаў таго рэжысёра. Як мы жылі ў Піцеры. Можа расказаць, будзе цікава".

Каб не замінаць жанчынам, якія ўзяліся накрываць стол, Ягор перайшоў у бакоўку, мабыць, Анэлін пакойчык з акуратна засланым ложкам, столікам ля акна, на якім буялі ўсё тыя ж кветкі, ад чаго тут было нават трохі з прыцемкам. Анэля пасадзіла Ягора да таго століка з кнігамі, сярод якіх адна вылучалася надта вялікімі памерамі, і Ягор асцярожна выцягнуў яе з-пад іншых. Гэта, аднак, аказалася не кніга, а старасвецкі сямейны фотаальбом. Застаўшыся на адзіноце, Ягор пачаў разглядваць яго незнаемых насельнікаў — маладых і старых, з барадамі і без барод, мужчын у мундзірах з радамі бліскучых гузікаў, дам у доўгіх спадніцах, старанна прычасаных, прыбраных дзяўчат, падлеткаў, што сціпла пазіралі на яго з каляных старонак альбома. Былі тут і афіцэры з шашкамі, у пагонах, і нават адзін, мусіць, нейкі важны святар у расе з вялікім крыжом на бліскучым металічным ланцугу. Гэтыя хоць і выклікалі пэўную цікавасць, але не падабаліся Ягору, бо, пэўна ж, былі ворагамі пралетарыяту. Зрэшты, таксама як і іншыя, думаў Ягор. Ён яшчэ не дагартаў альбом, як у пакой убегла Анэля, таксама з куртаценькім фартушком, падвязаным на яе тоненькай таліі. Яна аж здзівілася: "Няўжо зацікавіліся? Ды не трэба гэта", — і хацела адабраць альбом, але ён не даў. "Не, цікава, столькі фатаграфій!" — "Дык гэта ж уся радня яшчэ з таго веку. Піцерскія ўсё". — "І ты тут ёсць?" — пацікавіўся Ягор. "Ай, я саплячка яшчэ, во ў канцы, на апошняй старонцы". Яна адгарнула некалькі аркушаў і паказала на два бляклыя здымкі, дзе была знята, мабыць, яшчэ ў школьныя гады, можа, дзесяцігадовай дзяўчынкай, што напружана ўзіралася ў фотаапарат. "А гэта хто?" — папытаўся ён, паказваючы на невысокага чалавека ў форменнай тужурцы з гальштукам і ў акулярах, штосьці ў ім здалося Ягору знаёмым. "Дык гэта ж наш татка, — сказала Анэля. — Яшчэ як у гімназіі вучыў". — "А ён што, вучыцель?" — "Выкладчык матэматыкі. А цяпер бухгалтар", — сціпла паведаміла Анэля. "Так, так, —

сказаў Ягор, адчуўшы і тут невядомую яму жыццёвую драму, якая, напэўна, спасцігла гэтых людзей. — А гэты поп?" — паказаў Ягор на святара. "То мой дзядзечка архірэй. Ён памёр ужо... Я была ў яго любімая пляменніца", — уздыхнула Анэля. Ягор паўзіраўся ў святара, але не сказаў нічога.

Неўзабаве прыйшоў з працы і гаспадар — таўставаты задышлівы чалавек у акулярах. Жонка і дачка пацалавалі яго, віншуючы з юбілеем, пасля Анэля пазнаёміла з Азевічам. Яе бацька сціпла паціснуў яго руку: "Бухгалтар Свядэрскі". Нядоўгі час ён прыбіраўся за шафай, каб сесці за стол, скінуў паношаную талстоўку і надзеў белую сарочку ў палоску, гальштук, камізэльку і чорны, пацёрты, але яшчэ прыстойны пінжак. На стале з вялізным букетам півоняў ужо бялелі чатыры чысцюткія талеркі і каля іх былі раскладзены нажы і відэльцы — кожнаму па пары. Ягор прыгледзеўся: ці не срэбра? Можа, аднак, і не срэбра, але прыгожыя відэльцы ды нажы таксама. Тут жа гаспадыня паставіла насупраць кожнай талеркі па адным невялікім кілішку — пэўна ж, для выпіўкі, і Ягор адчуў незразумелую прыкрасць да гэтае вытанчанасці, якая яму была нязвыклая і нават незнаёмая. Але і прыемнасць у чымсь адначасна. Як запрасілі сесці, ён нейкі час баяўся дакрануцца да гэтых далікатных рэчаў, не ведаў, што ўзяць першым і ў якую руку, і трошкі сумеўся ад няёмкасці. У галаву аднекуль убілася недарэчнае слова і гучала: "Абывательства, абывательства..." Тым не менш усё ж прыемнае было тое абывательства.

Пачастунак, аднак, быў даволі сціплы: тушоная капуста з печы і дранікі ў смятане.

Яны з бацькам выпілі па адным кілішку нейкай саладкаватай наліўкі, жанчыны толькі прыгубілі, пажадаўшы бацьку здароўя і шчасця. Той, аднак, трудна ўздыхнуў: "Ці думаў калі, што такое будзе маё пяцідзесяцігоддзе..." Ягор ахвотна выпіў свой кілішак, але еў не надта, усё ж было няёмка чужому ў гэтай невялічкай сямейцы, ладнай сваёй згоднай еднасцю.

Рэшту таго дня, на змярканні, яны з Анэляй пайшлі пагуляць па-над рэчкай, і Анэля ціхенька апавядала яму пра колішняе жыццё ў Петраградзе, дзе бацька вучыў у гімназіі. Да рэвалюцыі, канешне. Бацька паходзіў з простай сям'і, ягоны брат нават быў відны рэвалюцыянер, сацыял-дэмакрат, сядзеў у турмах, а пасля эмігрыраваў у Германію. А вось з маці ім не пашэнціла — маці была дваранскага роду. Гэтыя ўсе афіцэры і дамы — радня матчына, праз іх і яе паходжанне гэтую сямейку гімназічнага вучыцеля Свядэрскага выслалі з Ленінграда, тры гады яны жылі ў Полацку, але мусілі з'ехаць і адтуль. Так вось і апынуліся ў мястэчку, бо далей ужо ехаць не было куды. Мабыць, тут ужо і будуць яны дажываць. А з імі і яна, Анэля, якая іх дужа любіць і не ўяўляе сабе, як можна іх пакінуць. Яны ціхенька ішлі вузенькай, добра, аднак, пратаптанай сцежкай па местачковай аселіцы. Збоку ля рэчкі ў вечаровым сутонні высіліся вялізныя вольхі, з аселіцы веяла вечаровай сырызнай, побач бялела стракаценькая Анэліна сукенка. "Ты — камсамолка?" — запытаў Ягор. "Неа, — сказала яна. — Хто мяне прыме такую", — і кораценька засмяялася, няўмела стаіўшы ў тым смеху свой трудны клопат. Ён не пярэчыў, сапраўды, з такім, далёка не пралетарскім паходжаннем не шмат чаго даб'ешся ў жыцці. Гэта горш, чым сялянскае паходжанне. Чым нават серадняцкае. Тут, лічы, амаль што кулацкім пахне. Калі не горай.

Для Азевіча настала пара новага радасна-сумнага клопату. Дзе б ён ні быў удзень, але як толькі надаралася вечаровая часіна, бег да суседзяў, і яны з Анэляй ішлі ці да ракі, ці ў нардом, калі там было што цікавае, ці проста сядзелі на лавачцы пад сцяной ля яе півоняў. Анэля аказалася разумнай, гаваркой дзяўчынай, яна прачытала нямала кніжак і ўзяла за мэту расказачь пра ўсе іх Ягору, які, канешне ж, не прачытаў і дзесятае часткі таго. Ужо былі расказаны два раманы Аляксандра Дзюма, "Айвенга" Вальтэра Скота, "Крыжаносцы" Сянкевіча. "Дон Кіхота" ён узяў у яе, каб прачытаць самому. Але не было часу, і ён паспеў адолець толькі сотню старонак гэтай тоўстай кніжкі. У

дажджлівыя вечары яны сядзелі ў Анэлінай бакоўцы, і Анэля ўсё гаварыла і гаварыла. Менавіта там, у бакоўцы, ён першы раз пацалаваў яе, і дзяўчына дужа спалохалася таго пацалунку і пасля нават нічога не магла расказваць. Адно прыхінулася да яго, ён абняў яе і тады, поўны нязведанага замілавання, вырашыў у думках: "Ажанюся!" Хацеў сказаць аб тым Анэлі ці, як пісалі ў старых кніжках, папрасіць рукі, ды штось перашкодзіла таму, дужа замінала няёмкасць. Мусіць, трэба было пачакаць ці выбраць іншы, болей прыдатны момант. Ці, можа, набрацца большай рашучасці. Так ці інакш, ён не сказаў таго слова, і хто ведае, ці не зрабіў правільна. А можа, і не — як падумаць, зрабіў самую сваю вялікую памылку ў жыцці.

Напярэдадні той начы ён некалькі дзён прабыў на раёне, вярнуўся позна, вуліца ўжо спала, нідзе не свяцілася ніводнае акенца. Ён падышоў да суседскіх варотцаў, пастаяў, паслухаў. Анэліна акно таксама было цёмнае. Час, мабыць, пераваліў за поўнач, і ён пайшоў у сваю хаціну, не адразу, але моцна заснуў. Прачнуўся трохі пазнавата, у споднян кашулі выбег памыцца на падворак і амаль сутыкнуўся з бабкай Мальвінай. Тая устала з прызбы, як ён выйшаў, і ён зразумеў: чакала яго. Але што здарылася?

"Няшчасце ў суседзяў. Бухгалтара ноччу забралі". — "Хто забраў?" — недарэчна спытаў Ягор. "А хто ж іх ведае — хто? Хапун, пэўна".

Ягор павярнуўся і, не памыўшыся, пабрыў на сваю палавіну. Дрыготкімі рукамі апрануў кашулю і, апануралы, пабрыў у райком. Ні той дзень, ні наступны ён не наважыўся зайсці да суседзяў, думаў, Анэля прыбяжыць сама, але тая не прыбягала. І ён злавіў сябе на тым, што і не хоча, каб яна прыбегла.

Ён не бачыў яе, можа, месяц ці болей, а як аднойчы сустрэўся ў мястэчку каля базару, дык перайшоў на другі бок вуліцы. Ён баяўся сустрэчы з ёй і яе бядой, як баяцца спатыкаць радню нябожчыка ці злачынца. Дужа непрыемна было яму ўспамінаць свае паходкі да бухгалтара Свядэрскага, выкрытага шкодніка на

льнозаводзе, хоць сэрца па ягонай дачцэ Анэлі яшчэ балела доўга. Пакуль не адбалела дарэшты...

Звычайна, скалясіўшы раён уздоўж і ўпоперак, Азевіч пазбягаў наведвацца ў свой родны кут. Адчуваў, што тое наведанне, асабліва пасля памятнай восені збожжанарыхтовак з ліквідацыяй жорнаў, не прынясе радасці ні яму, ні яго вяскоўцам. Калі ўжо абавязкова трэба было каму ехаць у бок Ліпаўкі, дык ехаў Вайцяшонак, які таксама пазбягаў свайго Завішша ў Запушчанскім канцы раёна. Туды ехаў Азевіч, дзе ён адчуваў сябе вальней, бо ведаў толькі калгаснае кіраўніцтва ды сяго-таго з камсамольскага актыву. Але во так здарылася аднойчы, што ў сувязі з падпіскай на пазыку выязджалі ўсе дарэшты: райком партыі, райвыканком, райком камсамола, увесь раённы і партыйны актыў. З акругі і з Менска прыехалі ўпаўнаважаныя, і райком разбіў усіх на брыгады. І камусьці з кіраўнікоў спатрэбілася прызначыць Азевіча менавіта ў Ліпаўку. Калі ён, ледзьве не абураны, пайшоў у аргаддзел папрасіць, каб памянялі, загадчык Пацябун заўпарціўся: аказваецца, спісы ўжо зацвердзіў асабіста таварыш Дашэўскі. Да таго ж, маўляў, яму, Азевічу, у роднай вёсцы падпіску будзе правесці лягчэй, бо ён ведае кожнага з землякоў, хто колькі мае і чым хто дыхае. Нічога не зробіш, Азевіч мусіў паехаць у Ліпаўку.

Ехаць павінны былі трое, апроч Азевіча яшчэ раённы пракурор Гарадзілаў, нядаўна прысланы з Менска, і Ягоўдзік з райзага. Але Ягоўдзіка ў апошні момант перакінулі ў іншую брыгаду, а яму, Азевічу, сказалі: "Управіцеся і ўдвох". Так яны пагодлівым красавіцкім днём паехалі фурманкай ў родныя, даўнавата не бачаныя Ягоравы мясціны.

Пакуль ехалі, Ягор дужа трывожыўся. Арганізаваны ў Ліпаўцы калгас ледзьве ліпеў, насення для сяўбы не хапала, коні за зіму падупалі ад бяскорміцы. За год у калгасе змяніліся аж тры старшыні: аднаго пасадзілі за шкодніцтва, другі ўцёк — з'ехаў немаведама куды, прыхапіўшы дзве тысячы калгасных грошай. Цяпер там

старшынстваваў Мікіцёнак-старэйшы, неблагі, старанны, але малапісьменны і мяккаваты чалавек, нейкая дальняя радня Азевічаў. Разоў колькі ён прыязджаў у райцэнтр і ўсё звяртаўся да Ягора па тое-гэта, але чым яму мог памагчы райкомаўскі інструктар Азевіч? Тут ужо без карысці быў і Дашэўскі, які таксама нічога не мог і не меў, апроч хрыплага, сарванага ад пастаянных мацюгоў голасу. Азевіч ведаў, што ў Ліпаўцы, як і скрозь, было голадна, хлеба ў красавіку, мусіць, ужо ні ў каго не асталося, даядалі бульбачку. Ён узяў з сабой у партфель паўбохана хлеба, што атрымаў на тры дні па картках, бляшанку рыбных кансерваў. Пракурор Гарадзілаў, мяркуючы па ўсім, быў чалавек гарадскі, бо, як ехалі, усё захапляўся краявідамі: які прыгожы беразняк, якое здатнае возера! Азевічу было не да краявідаў, ён думаў, як там у маці. Бацьку яна пахавала зімой, Ягор праз сваю працу не мог прыехаць на пахаванне — быў на семінары ў акрузе і даведаўся аб той смерці, як бацьку ўжо закапалі. Цяпер там маці і сястра. Сястра так і не выйшла замуж — пазнікалі жаніхі, а каторыя асталіся, дбалі не пра жаніцьбу — пра тое, як пракарміцца.

Яны прыехалі ў Ліпаўку надвячоркам. Збіраць сход, мусіць, было яшчэ рана, і Ягор паехаў у дальні канец сяла, да свае хаты. Думаў, ці дома маці, дзе Ніна? З тою думкай увайшоў на свой падворак, трохі здзіўлены, што кудысь зніклі вароты, на дрывотні ляжала ўсяго некалькі сырых палак. Значыць, кепская справа і з дровамі. Дзверы хляўка-свіронка таксама былі насцеж расчыненыя. Ён моўчкі, наперадзе пракурора, увайшоў у хату, нізенькая столь якой бы яшчэ паніжэла, усё шукаў позіркам маці. Ды пачуў яе голас аднекуль з запечча — слабы, хваравіты голас, які аддаўся ў ім балючай трывогай.

І праўда, маці хварэла. Не адразу, спакваля выпаўзла да сына, захутаная ў нейкія транты, заплакала. Ён таксама гатовы быў заплакаць, расчулены, ды прысутнасць староннягa чалавека стрымлівала ад сантыментаў. Упаўнаважаны Гарадзілаў, здаецца, не меней за яго ўражаны гэтай сустрэчай, няўцямна стаяў пасярод

хаты, не ведаючы, куды прыткнуцца. Ягор папытаў пра Ніну, аказваецца, маці жыве адна, Ніна з'ехала на шахты, бо жыць няма як, есці няма чаго, апрануць таксама. "А як жа ты?" — вырвалася ў Ягора. "А што ж, сынок, мне ўжо прыйшоў канец, ужо каб вам лепей было, каб ужо вы, маладыя, жылі. А мне ўжо следам за бацькам, да яго ў пясочак..."

Са стогнамі і вохканнем маці пачала збіраць пачастунак, ды нешта не збіралася. Хлеба не было зусім, яна паклала на стол дзве закаржэлыя ляпёхі-траўнікі, прынесла аднекуль зжаўцелы кавалачак сала і знаёмы Ягору з дзяцінства счарнелы нож з адскяпаным тронкам. Паклыпала кудысь з падворка — пазычаць яйкі на яешню, сваіх курэй ужо не было. З прыгнечаным выглядам Ягор тупаў па хаце, няўцямна слухаючы, як пракурор Гарадзілаў толькі паўтарае загадкава: "Д-а-а, д-а-а-а. Дзяла..." — "Вось так", — сказаў Ягор, стараючыся, аднак, нічым не выдаць сваіх ушчэнт разварушаных пачуццяў. Але ўпаўнаважанага займала, відаць, трохі іншае, і ён запытаўся: "Каго ж мы тады падпішам? Ці гэта толькі ў вас так? Мабыць, ваша дзярэўня — выключэнне? Як вы лічаце?" — "Выключэнне! — злосна кінуў Ягор і з яшчэ большай злосцю дадаў: — І раён выключэнне! І ўся Беларусь выключэнне!" Сказаў і спалохаўся, убачыўшы ў вачах пракурора такі ж самы спалох. Абое, зацяўшы ў сабе страх, змоўклі. Ягор паныла пазіраў у запэцканае мухамі акно.

"Што ж гэта робіцца, што ж гэта робіцца?" — не мог прагнаць з галавы тую недарэчную думку, адказу на якую ў яго не было.

Няхутка, аднак, прыйшла маці, прынесла пяток пазычаных у суседзяў яек, засмажыла на прыпечку яешню. Ягор дастаў з партфеля свой абкрышаны кавалак хлеба, адкроіў тры лусты. Маці ашчадна ўзяла сваю, з прагнасцю зжавала бяззубым ротам. Таварыш пракурор тым часам даследаваў траўнік: разламаў на дзве часткі, паднёс бліжэй да акна. "Скажыце, мамаша, тут якія інгрыдзіенты? Мука, так?" — "Ай, сынок, каб жа

мука, а то вотруб'е, ну, ды трава, бульбін некалькі... Бульбачка каб жа была, а то ўжо скончылася. У калгас жа два бурты забралі, на пасяўную..." — "Так, панятна. А трава якая для таго ўжываецца?" — не мог задаволіць цікаўнасці пракурор. "Дык то ж крапіўка. Якая ж яшчэ трава па вясне — крапіўка", — сціпла казала маці. "Да, але ж... крапіва жгучая! Як жа яе ў пішчу?" — "Дык жгучая, гэта калі на абмежку. А ў траўніку нічога... Калі б не калючая, а то... У рот няможна ўзяць: колецца. Калі зубы ў каго маладыя, дык гожа..."

Яны ледзьве даседзеліся да вечара, калі быў прызначаны сход. Маці ўсё скардзілася на жыццё і хваробу, і нейкая безнадзейнасць была ў яе голасе, у поўных жальбы словах. Ягору было дужа пакутна ад усведамлення тупіку, у якое павярнула вясковае жыццё, трохі няёмка перад чужым тут чалавекам — пракурорам. І ён усё думаў, як жа пройдзе падпіска? Ці падпішуцца хоць?.. З такой думкай-клопатам яны выправіліся на агульны сход.

У Суботкаў, на тым самым падворку, з якога ён тры гады таму з'ехаў з вёскі ў людзі, ужо сабраліся вяскоўцы, чакалі. Мужчыны абселі ганак, сядзелі і стаялі ля плота, курылі і неяк дужа ціхмана, амаль паныла глядзелі на іх двух, як яны падыходзілі сюды з вуліцы. Азевіч павітаўся, яму адказалі некалькі стрыманых галасоў, і ўсе змоўклі. Ён з цікаўнаю насцярогай азіраў іх знаёмыя, да часу састарэлыя, нейкія спакутаваныя твары. І ні на адным не ўбачыў ні ўсмешкі, ні шчырае добразычлівасці — хутчэй чаканне чагось боязнага і нядобрага. "Ну, як жысць?" — запытаўся Ягор, ні да каго не звяртаючыся, і яму не адразу адказалі: "Ды якая жысць? Жытуха!" — "Памерці дзешавей было б, чым такая жысць". — "Чакай, памрэм. Тады ўзрадуюцца..." — "Не засееш — канешне, памрэш. Што ж есці будзеш?" І зноў усе змоўклі. Некаторыя з-пад ілба падазрона пазіралі на яго і асабліва на незнаёмага ім Гарадзілава. І Ягор думаў усё, як жа яны падпішуцца, ці паслухаюцца яго? "Не, лепш не расчынаць гаворкі, — падумаў Ягор. — Не кранаць болек". І ён загаварыў толькі, калі сеў на сваё звыклае

месца ў прэзідыуме.

Якраз з падпіскай вялікай праблемы не было. Старшыня калгаса задаў тон — трыста рублёў і мужыкі не спрачаліся. Праўда, наступны падпісаўся на 250 рублёў, а іншыя з безнадзейнай пакорай толькі пацвярджалі: "Калі ўсе, дык... пішыце. Усё адно..." Азевіч трохі здзівіўся: нібыта не разлічвалі выплочваць, такая была абыякавасць. Адна толькі кабеціна, мнагадзетная ўдава Лушка, заўпарцілася: " А не буду, і ўсё. Што хочаце робце, а не падпішуся". Яе і ўгаворвалі, і застрашвалі — не, і ўсё. "А што! — пасадзіце ў турму? Дык садзіце, і дзяцей садзіце таксама, там хоць з голаду не памруць, можа". Азевіч і выступаў, і ўгаворваў, і патрабаваў актыўнасці ад актыву і камсамольцаў, а сам ніяк не мог выгнаць з галавы неадчэпнае пытанне: "Што ж гэта робіцца?.. Ужо перасталі і баяцца..."

У тую пару Азевіч быў дужа незадаволены сабой, асабліва як стаў партыйцам, бо не выпрацаваў ён у характары бальшавіцкай цвёрдасці, патрэбнай бязлітаснасці да тых, хто замінаў, не хацеў рабіць, як загадвалі. Часам шкадаваў якую-небудзь цётку, што не магла сплаціць даведзеныя ёй нарыхтоўкі ці падатак, — клялася, што нічога не мае, што дзеці галодныя. І ён тады разгублена замаўкаў дзе на сходзе — не ведаў, што сказаць. Не тое што Дашэўскі, ці Маладцоў, ці які ўпаўнаважаны з акругі, якіх ніякія прычыны невыканання не зводзілі ў зман, не бянтэжылі. Здаць, і ўсё, хоць памры. Можаш і памерці, казаў Дашэўскі, калі супраць Савецкай улады, але памятай, што Савецкая ўлада і мёртваму не зважыць. Не ўмееш — навучым, не хочаш — прымусім, такі быў галоўны прынцып Савецкай улады ў адносінах да ўсіх — партыйцаў, непартыйцаў, служачых і сялян. Але Азевіч яшчэ так не ўмеў, мабыць, не навучыўся. А можа, і не дазваляў характар. Але ён спадзяваўся адолець тую загану, перамагчы сябе. Інакш які ж ён бальшавік?

...Адным часам ён выразна адчуў, што спіць. Хоць нічога яму не снілася і наваколле да яго амаль не даходзіла, ён быў у глыбокай санлявай немачы, і тая немач, можа,

упершыню здалася яму пакутнай. Нават спрыяла ягонаму стану, якому ў сваю чаргу спрыяў спакой. Яму стала лепш, ён гэта адчуў яшчэ да таго, як прачнуўся. Яшчэ не расплюшчыўшы вочы, адзначыў, што хвароба нібыта трохі адступілася, здаецца, ён упершыню ўгрэўся пад кажухом і нават спатнеў. Трохі адхінуў ад твару касматы каўнер — у пуні было неяк дужа відна, рэзка свіціліся шчыліны ў сценах, у падстрэшшы, поўнячы цесную пуньку нейкім белым, надта чыстым святлом. Уверсе на саломе ціўкалі, пырхалі вераб'і, але на гэтую палавіну не залятаі, можа, баяліся яго. А можа, не звярталі ўвагі на нямоглага чалавека. Азевіч паспрабаваў павярнуцца на другі бок, да сцяны, ды гэта аказалася так трудна, што за адзін раз ён таго не здолеў. Ён добра ўлежаў сваё лаўжо, якое правалілася ў гарохавінні ледзь не да самай зямлі. Знясілена патузаўшыся пад кажухом, трохі ўладкаваўся зручней і тады адчуў, што хочацца есці. Здалося, знясілеў менавіта з голаду, хоць цела яшчэ поўнілася разлітай ва ўсіх частках немаччу. Але тое была ўжо не дужа страшная немач. Ён думаў, што, можа, яшчэ неяк абыдзецца, і ў гэты раз ён выкараскаецца. Можа, ён яшчэ не памрэ.

Горш было тое, што ён страціў усякае адчуванне часу — не ведаў, колькі праляжаў тут — суткі ці двое, і якая цяпер пара на дварэ — ранак ці вечар. Што не ноч, тое было пэўна. І ён пачаў чакаць цётку. Павінна ж яна прыйсці. Ён не ведаў дагэтуль, хто яна, яго ратавалка, хто там яшчэ ў яе доме. Але ён прагна чакаў яе — ведаў, яна прыйдзе не з пустымі рукамі, яна прынясе нешта, каб яго пакарміць. Як тады прыходзіла ўвечары, ён адмовіўся есці, толькі піў з белай вялікай кварты. Ён паглядзеў каля сябе і ўбачыў пад крывым бервяном ля сцяны тую кварту і ў ёй з палавінку малака. Неяк дацягнуўшыся рукой, ашчадна паднёс кварту да рота. Сцюдзёнае малако здалося смачнейшым, чым у той раз, і ён усё яго выпіў. Пасля знясілена аблёгся ў лаўжо, улез пад кажух і пачаў пазіраць на ластаўчыны гнёзды ў падстрэшшы. Адно з трох гнёздаў было, мабыць, старэйшае за астатнія, большае памерам і абкрышанае з аднаго краю. Можа, яго ўлетку бурылі хлапчукі? Але

было яно тут прыладжана лепей за іншых — у самым кутку пад кроквай і трымалася. Прыйдзе вясна, прылятуць ластаўкі, наносяць у дзюбках свежай гразі з лужын і падновяць сваё гняздзечка. А пасля там паявяцца тры-чатыры маленькія ў крапінку яечкі, якіх ні ў якім выпадку нельга чапаць, бо самога па твары абсыпле рабацінне. Як нельга і бурыць — пароць палкай тое гняздо. Птушыныя гнёзды бурыць нельга, вялікі то грэх. А вось чалавечыя... Жыццё толькі тое і робіць, што бурыць, не баючыся граху, спрадвечныя людскія гнёзды, разам з іхнім набыткам і лёсам. А што цяпер ужо, у вайну, дык і думаць не хочацца. Але без гнязда не пражыве не толькі птушка, а і чалавек. Ён дык во ведае...

Дзіўна, але вераб'і не залятаілі ў ластаўчыныя гнёзды і быццам нават не цікавіліся імі. Яны жвава ціўкалі на тым канцы пуні, часам пырхалі па бэльках і ў гэтым канцы, але без увагі да гнёздаў. Мабыць, у іх былі свае, і яны пільнаваліся сваіх. Во каб так людзі.

Людзі! Што з імі рабілі і яшчэ ад іх чагосьці чакалі. Усе гады рознага будаўніцтва яны, аднак, не былі мэтай, а толькі сродкам для ажыццяўлення тых вялікіх і не надта разумных, часам надуманых, а то і бязглуздых планаў. Хутчэй матэрыялам, з якога ляпілі розныя прыдуманыя кімсьці фігуры, не дбаючы, а ці трэба людзям тая лепка і тыя фігуры. Азевіч, сцяўшы сэрца, тады намагаўся думаць: тое патрэбна дзеля вышэйшай мэты. Хоць бы дзеля краіны, сацыялізму, дзеля будучыні. Мабыць, так думалі-лічылі многія, калі не ўсе, хоць бы і з іх, раённага кіраўніцтва. Ды ішлі гады, і ўсё выразней рабілася разуменне: калі тое на шкоду тым, хто тое рабіў, дык, мусіць, і не на карысць будучым пакаленням. На згубу ўсім.

Дужа апрыклым было яму тое перабіранне жыцця, ягоныя пра жыццё думкі, радасці з якіх было так мала. Адны расчараванні і боль. А цяпер дык яшчэ і новы вялікі боль — вайна. Тут ужо вялікая пагуба для ўсяго і ўсіх. Але тут хоць усё выразна, бы ў сонечны дзень, тут няма месца сумненням — трэба змагацца. З усяе сілы,

на ўсіх франтах. Трэба неяк натужыцца і не даць перамагчы сябе. Інакш не будзе нічога — ні жыцця, ні надзеі. Але ўся бяда ў тым, ці не вернецца тое нядаўняе пасля вайны? Усё ж кожнае змаганне мае ў сабе сэнс не толькі супроцъ, але і за. За што ён будзе змагацца? За тое, што перажыў ён, яго бацькі, сястрыца Ніна, Анэля і яе бацька, ён не хацеў бы. Тады за што ж?

На тое ён не знаходзіў адказу.

У пуні ўсё святлела, блішчэла ад снегу, што свежа лёг знадворку, усе шматлікія шчыліны між бярвення, праз якія напірыста дзьмулі струмені ветру. Азевіч ужо не заплюшчваў вачэй, у галаве трохі павальнела, і ўвесь ён аддаўся слыху. Дзіўна, але за ўвесь час ён не пачуў нідзе ніводнага чалавечага гуку, ні голасу, ні скрыпу, ні стуку. Нібы на хутары. Але ж тое не хутар, то вёска, невялікая, праўда, вёска, здаецца, пры лесе. Цяпер, калі ад яго трохі адступіла хвароба, ён пачаў думаць-баяцца, каб яго тут не накрылі паліцаі. Ці хоць бы вясковыя здраднікі. Усё ж, мабыць, не ўсе тут такія, як ягоная цётка, ёсць жа і пакрыўджаныя Савецкай уладай. Хіба мала крыўдзілі. Можа, толькі адны па вайне забыліся на нядаўнія крыўды, а іншыя якраз цяпер іх прыпомнілі. Для гэтых, апошніх, былы райкомавец Азевіч якраз самая прынадная знаходка. Яшчэ можна і нешта зарабіць на ягонай галаве. Не, яму тут залежвацца нельга. Трэба некуды дыбаць. Вось куды толькі?

Ён трохі павярнуўся ў сваім лаўжы, прыхінуўся лбом да сцюдзёнага бервяна. Праз вузкую шчыліну відаць стаў невялікі заснежаны абсяг з плотам і далей нейкае драбналессе — ці не тое, з якога ён выйшаў ад рова. Вёскі ж адсюль не было відаць — здаецца, гэтая цётчына хата была тут самая крайняя. А самым крайнім на сядзібе аказалася гэта гумно, пуня з саломай і гарохавіннем. Можа, то і добра на выпадак чаго. Толькі на які выпадак? Каб уцякаць, трэба мець куды болей сілы, чым яе было.

Можа, ён зноў трохі задрамаў-сцішыўся, бо не заўважыў, як у пуні паявілася ягоная цётка. Ціхенька загаманіўшы, яна паставіла на гарохавінне побач

невялікі вандзэлачак, пачала развязваць яго.

— Ну як жа вы тут? Трохі быццам павесялелі з выгляду. Гарачка адступілася, ага?

— Трохі адступілася, — знямогла прамовіў ён.

— Ну і добра. Ну і нічога. Дасць Бог, і паправіцеся.Ведама ж, прастуда, яна на кожнага можа. Ці які грып...Вунь у тую зіму ў нас усю вёску грып выкаціў... Тут во прынесла вам гарачага малачка і гэта... з мёдам. Мёд, ён дужа пальзіцельны. Да свацці бегала...

— Ты ж не сказала там... пра мяне?

— Ну як жа я скажу? Ці можна па цяперашнім часе...Гэта ж калі дазнаюцца, не дай Бог! І вам, і нам тожа...

— А ў вас хто яшчэ... дома?

— А бабка, маці мая. Ну і дзеткі, дзве дзяўчынкі. Сын Віця невядома дзе. У Расеі быў на вучобе, у ФЗО гэтым, а цяпер хто ведае. Можа, і жывога няма, — забедавала цётка, адразу спахмурнеўшы.

— А ў вас гэтыя, паліцаі, ці ёсць? — запытаўся Азевіч.

— У нас няма, каму тут у паліцаі ісці? Адны старыя ды бабы. А вунь з Сакоўшчыны наведваецца Петручонак-малодшы. Начапіў белы шкумат на рукаў, далі вінтоўку, дык ходзіць. Тры дні таму прыходзіў. Дужа баялася, думала, можа, дазналіся што... Пра вас.

— Тры дні? — здзівіўся ён. — А хіба я тут тры дні ўжо?

— Вы ж тут ад серады, калі памятаеце. Якраз у сераду я прыйшла за саломай, парсючку падаслаць. Аж вы стогнеце. Спужалася...

— Пастой... Ад серады, дык колькі ж я праляжаў?

— А восьмы дзень сёння.

Гэта яго здзівіла. Восьмы дзень, а ён думаў, дні два ці тры. Значыць, добра яго ўклала хвароба. Значыць, не прастуда тое. Як бы не тыф... Але яму цяпер усё ж куды лепш, жар быццам мінуў, была толькі вялікая слабасць, знямога ў спакутаваным целе.

У той час дзесь за дзвярыма басавіта гаўкнуў сабака. Азевіч аж спахапіўся ад неспадзёўкі. Цётка, заўважыўшы тое, вытлумачыла:

— То ж Ваўкалака.

— Хто?

— Ваўкалака наш. Ну, сабака. Прыплёўся, сядзіць. Зраніцы недзе бегаў, аж прыбег. Мусіць, пачуў, дзе я.

— Сабака...

— Ну, ведаеце, прыбіўся з лета, можа, з лесу прыцягся, такі быў аташчэлы, худы, прыйшоў на падворак і лёг. Чую, куры закудахталі, падумала, можа, лісіца — было ўлетку панадзілася, трох курачак уцягнула. Аж сабака. Чорны, вялікі такі. Я на яго замахала, узяла палку — не ідзе. Ну што рабіць? Дала хлеба — з'еў. І астаўся. Цяпер куды я — туды ён.

— Не брэша?

— Не. Не брахучы.

— Дык, можа, пусціце? Сюды...

— Не, не трэба. Ён... да мужчын нейкі нядобры. Гэта ж улетку на бальшаку, ну там, за лесам, нашых пленных гналі... Ой, божачка, колькі іх там ішло... па спякоце, галодных. Каторыя абраненыя, у закарэлых бінтах... І немцы абапал з вінтоўкамі. Ну, неяк пайшлі мы з сяла,чацвёра — пляменніца, ну і бабы. А ў пляменніцы мужыка перад тым змабілізавалі, думала, пабачыць. Харчу вандзэлачак узяла. Сталі мы ля мастка, на пагорачку, і праўда — гоняць! Ідуць не ідуць, а брыдуць, плятуцца, каторыя падаюць, каторых вядуць. А калі каторага не возьмуць, дык немцы бах! — і гатовы. Стаім

мы, глядзім,баімося, што прагоняць немцы. Аж не праганяюць. І тут гэты... Ваўкалака прыбег, лётае каля людзей, пабяжыць у адзін бок, у другі — дужа ўстрывожаны. А не брэша,і немцы яго не чапаюць. І тут — бах у адным канцы, пасля ў другім. Гэта ж немцы страляюць, хто ўпаў. Якраз і каля мастка аднаго стрэлілі. Бабы кінуліся ўніз — ляжыць, маладзенькі такі, з перавязанай рукой. А немцы крычаць: нельга, цурук! Дык мы назад, баімося. Немцы адышліся, дык гэты Ваўкалака — туды. Падбег, халера, і кроў з травы ліжа. Чалавечую кроў, мусіць, цёплую яшчэ. Зблізку, з долу, пасля з грудзей. Мы аж забаяліся яго, во дык сабака! Як пайшлі дамоў, той недзе пабег за калонай. Ну, думаю, хай брыдзе, нашто ён такі? Аж надвячоркам з'яўляецца, дужа кульгае, праўда, падстрэлены, ці што. Лёг пад вербінай, ляжыць, толькі язык высалапіў. І нікуды не ідзе. Ну і астаўся. Аклямаўся неяк. Цяпер не кульгае.

Цётка расказала, паправіла на шыі цёплую хустку, і Азевіч не ведаў, што ёй сказаць. Прыстрэліць, мусіць, такога Ваўкалаку. А можа, і не трэба. Можа, і сабака такі ж, як людзі цяпер, — пакалечаны вайной небарака, ад несалодкага сабачага жыцця.

— Цяпер нешта да мужчын нядобры. Як пабачыць,адразу поўсць дыбам. Мусіць, дапяклі яму мужчыны.Асабліва калі ў вайсковым.

— Ды ўжо ж, дапяклі, — пагадзіўся Азевіч.

Цётка ўзялася яго карміць спярша крупнікам з глінянай місачкі, з якой ён зачэрпнуў са тры лыжкі і болей не мог. Тады яна прымусіла яго выпіць кварту цёплага малака з мёдам. І ён выпіў з вялікай натугай, бо і малако не дужа яму смакавала. І ўшчэнт прытаміўся ад тае працэдуры, аблёгся на гарохавінне. Вялікая луста хлеба ляжала некранутай на абвязаным гарлачыку.

— А як жа з хлебам у вас? — запытаў Азевіч. — Ці ёсць хлеб?

— Хлеб ёсць, — з задаволенасцю ў голасе сказалацётка.

— Намалола на тым тыдні, дык спякла тры боханы. Не тое, што ў калгасе.

— Пастой, — нешта прыпамятаўшы, сказаў Азевіч. — А дзе намалола?

— Ды ў сенцах. На жорнах.

— А хіба... Жорны ў вас не пабілі?

— А, тады! — здагадалася цётка, што ён мае на ўвазе. — Білі. На тры кускі камень пабілі. Ляжалі ў крапіве. Ды яшчэ кожны дзень рабілі абход, правяралі, ці ляжаць, дзе кінулі.

— Хто разбіў? — сказаў ён і сцішыўся, чакаючы адказу, які быў для яго дужа важны.

— Ды камсамольцы гэтыя. І акцівісты. Але мой Іванусё роўна малоў. Зрабіў такія абручы, саставіць камяні і змеле ўначы. А пасля разбярэ і зноў кускі ў крапіву. Там і ляжаць. Тыя прыйдуць, паглядзяць, у сшытачку нешта памецяць. Так і абыходзіліся, — ціхенька засмяялася цётка, задаволеная ўласнай з Іванам хітрасцю.

"Тым і абыходзіліся, — падумаў Азевіч. — І цяпер яна корміць сваім хлебам таго, хто бурыў жорны, біў камяні. Ці яна не ведае, не здагадваецца, хто ён? Ці зусім не мае крыўды на яго і такіх, як ён? Нядаўніх райкомаўцаў, камсамольцаў, актывістаў? Што гэта за характар такі — незласцівы ці непераборлівы да дабра і да зла? Што гэта — сялянскае, жаночае? Ці нацыянальнае? Адкуль яно ўзялося, добра гэта ці не? А раптам тая незласцівасць перакінецца і на адносіны да немцаў? Падумаюць, што і немцы не горш. Тым болей што дазваляюць есці свой хлеб, той, які не дазвалялі бальшавікі?"

— Я вам хлебца пакіну і малачка. А крупнік падагрэю, яшчэ прынясу. Папалуднаваць. Дык ляжыце, набірайцеся сілы, — сказала яна і ўздыхнула, загароцілася. — Можа, і мой сынок дзе так ляжыць. Калі жывы дзе. А можа, ужо ў зямельцы...

— Ды не, — паспрабаваў суцешыць яе Азевіч. — Калі малады, дык недзе ў войску. Там усё ж Чырвоная Армія, забеспячэнне, абучэнне. Ваяваць будзе.

— Каб жа хоць яго як пабядзілі, немца гэтага. А то во прэ і прэ, — сказала побач цётка і толькі цяжка ўздыхнула.

— Пабядзім, — адгукнуўся ён з кволай упэўненасцю — Не можа таго быць, каб не пабядзілі. І лепш будзем жыць. Справядлівей, чым да вайны. Усё ж класавая барацьба скончыцца, ворагаў не будзе.

Цётка не надта спрытна пачала ўставаць з гарохавіння.

— Каб жа не было, а то ўсё кругом ворагі і ворагі.

Азевічу здалося, што ў тых яе словах стаіўся пэўны недавер да таго, што сказаў ён. Але ён сказаў шчыра. Ён дужа хацеў верыць, што пасля ўсяго перажытага да вайны і ў вайну, асабліва калі выганяць фашыстаў, жыццё дужа пераменіцца. Усё ж людзі, з'яднаныя братняю справай, павінны пазбыцца класавай, партыйнай ды якой іншай варажнечы і зажыць па справядлівасці. Колькі ж можна ваяваць між сабой?

Толькі ці давядзецца дачакаць таго залатога дня гэткім, як ён? Наперадзе яшчэ колькі змагання, небяспек і пакут. Немцы, праўда, далёка, у гэтай вёсцы, можа, іх і не бачылі. Затое тут уладараць паліцаі. А колькі ў астатніх вёсках тых паліцаяў? Асабліва ў вялікіх. Ужо акупанты паклапаціліся, панастаўлялі сабе памагатых, навербавалі. Тым болей вербаваць было з каго, знайшлося добраахвотнікаў. Ці тых, што пайшлі на іхнюю службу з нявыкруткі: або ў партызаны, або ў паліцыю. Як тыя акружэнцы, уцекачы, палонныя з лагераў. Во яшчэ з кім ваяваць прыйдзецца. З сваімі!

— А дзе ж Іван твой? — асцярожна папытаўся Азевіч.

— А хто ж яго ведае, — проста адказала цётка. — Як узялі, дык дасюль ні слыху ні дыху.

— Хто ўзяў?

— Ды свае. Энкэведзісты. Быў жа брыгадзірам у калгасе, усё рабіў, як загадвалі. Нават парцейцам стаў, на сходы хадзіў. Дык узялі. Ноччу прыехалі з раёна, начальнік той Мілаван і з ім яшчэ двое.Ператрэслі ўсё, перарылі і забралі. Як ішоў, казаў, што памылка, разбяруцца і выпусцяць. Ну, я і чакала. Тую вясну чакала і лета. І год мінуў, і другі. Нічагусенькі. І завошта прапаў чалавек?

Цётка зноў змарнела тварам, апанурылася, утаропілася позіркам кудысь за гарохавінне. І ён не суцяшаў яе, не пытаўся болей нічога. Ды і што ён мог ёй сказаць? Дзе яму было браць тыя словы апраўдання ці суцяшэння?

— Гэта ж адсохла ў мяне ўсё, чакаючы. Каб жа была правінка якая, каб ён дзе зрабіў што не так, насупроць, ці ўзяў чужое. Дык нідзе ж нічога. Такі быў сумленны — і дзяцюк, як замуж ішла, і пасля, як мужчынам стаў. Ніколі, бывала, ні словам не зачэпіць, ні барані Бог, — рукамі. Усё чакала-чакала... Бразне дзе чым скаціна, здаецца — ідзе. Мільгане хто ля вакна — Іван ідзе. Ноччу, здаецца, шапоча. Прачнуся — нікога. Мабыць, ужо не дачакаюся...

— Гэта добра, калі хто чакае... Жонка павінна чакаць, не тое што некаторыя, — падумаўшы, сказаў Азевіч.

— Анягож. Некаторыя ж зусім не чакаюць. Вунь Сёмкава Агата, як узялі, дык праз месяц ужо з другім залётала. Адмовілася, кажуць, ад мужыка, ворага народа. Ці Тэкля з Кажанаў. Ну, але я не магу так. Як гэта я адкажуся? Ад свайго мужыка? Можа, дзе мая пажаданка яму паможа. Як паддзержыць. А то, глядзі, і выпусцяць.

— А што, было так, каб выпусцілі? Каб хто вярнуўся?

Цётка раздумна паківала галавой:

— Неа, у нас не чуваць было. Можа, дзе і выпускалі, але ў нас ніхто не вярнуўся. Усіх недзе там панішчылі. Звярыныя людзі.

Можа, і не трэба, каб выпусцілі, каб вярнуліся цяпер, па вайне, не ў лад са сваімі пачуццямі падумаў Азевіч.

Вунь Вайцяшонка выпусцілі, дык што карысці? Добра яшчэ, не пайшоў да немцаў, пэўна таму, што інвалід усё ж. А каб здаровы? Ці яму адкараскацца тады ад паліцыі? Не, тыя, што там пабылі, ужо прапашчыя для Савецкай улады.

Але ж гэта во цётка... Хоць там не пабывала, але ж мужыка страціла. І во глядзі — выхаджвае яго, аднаго з тых, хто тады кіраваў, ладзіў уладу. І не толькі біў жорны...

Цяжка было яму зразумець тое, ды ён надта і не стараўся пранікнуць у неразгаданыя загадкі жыцця. Хапала яму вайсковых загадак. І найбольшаю з іх быў ягоны ўласны загадкавы лёс — як быць, куды кіраваць?

Добра ўтаміўшыся ад размовы з цёткай, ён неўзабаве заснуў. Сніўся яму нейкі дзіўнаваты сон, быццам ён ходзіць па кветніку, такім, як у суседа-бухгалтара, толькі кветнік гэты на цэлае поле, і ўсё навакол абсеяна півонямі — і нехта кажа яму, што за кветнікам роў, можа, каб напіцца вады з ручая, але як ён дайшоў да рова, дык убачыў там кроў. Кроў лілася з кветніка, цурчала з голых абрываў на тым беразе, крывавыя ручаі сцякалі ў дно і нікуды болей не цяклі, кроў сабралася там у глыбокую сажалку. І тады ён убачыў, што і ягоныя рукі ў крыві і што ён імкнуўся сюды, каб памыць іх, толькі як жа і дзе тут памыеш? Тут яшчэ болей запэцкаешся. Тады ён пачаў выціраць рукі аб вопратку, найперш аб шынелак, які недарэчна вісеў на ім у гэты спякотны летні дзень. І тут аднекуль паявіўся ягоны бацька чамусьці з Белалобікам, уклаў повад у яго руку, а сам паляцеў-паляцеў у паветры над ровам. Ягор хацеў крыкнуць, каб вярнуўся, не ляцеў, бо ўпадзе, але бацька хутка знік недзе, здаецца, узляцеў у неба. І тады на тым абрывістым беразе рова паявіўся наццэм Дарошка. Нібы вясковы дзед, той стаяў чамусьці ў нейкім белым убранні, прасціраючы рукі над ровам, і нешта не то абвяшчаў, не то маліўся ці праклінаў каго, а абапал яго цурчалі з абрыву крывавыя ручаі. Ягору зрабілася

жудасна, ён хацеў уцячы, але раптам здалося, што Дарошка просіць паратунку, хоча з таго берага перабрацца на гэты, ды неяк. І памагчы яму не было як. Ад невыноснай пакуты Азевіч намогся і прачнуўся.

Сны ён сніў не часта і не надта звяртаў на іх увагі, ён проста, прачнуўшыся, не памятаў іх. Але гэты чамусьці запомніў да драбніц, і ён дужа не спадабаўся Ягору. І чаму яму прысніўся Дарошка? Што гэта значыць — крывавы роў, цераз які той не мог перабрацца? Ягор наогул не надта разумеў таго няшчаснага наццэма, хоць у душы і не меў ніякай варожасці да яго. Адчуваў, што Дарошка — чалавек зусім не благі, разумны і адукаваны, а за што арыштавалі — хто ведае? Можа, было за што, а можа, і не. Ужо Ягор не хацеў яго нішчыць, ён шкадаваў настаўніка, толькі што ён тады мог зрабіць? Абараніць было немагчыма, загубіць — як раз плюнуць. Ну дык таго і дамагліся. Вядома, лягчэйшага.

У пуні было цёмна, не накрыты кажухом ягоны твар азяб, але целу было сугрэўна, гэтую ноч ён не пацеў. Як заўжды, ён пачаў слухаць таемныя начныя гукі, якія скупа чуліся ў пуні. Недзе ў саломе тоненька папісквалі мышы, шорхалі-тачылі салому; вецер у падстрэшшы варушыў саламяную паску, якая чуйна трымцела ў цішыні. Знадворку ў пуню, здаецца, не пранікала нічога, і праз нейкі час ён зноў пачаў трохі драмаць. Ён, можа, і заснуў, як раптам пабудзіўся ад новых гукаў — то былі далёкія стрэлы: забахалі ў цішы — раз, другі, трэці. Два разам. Стралялі з вінтовак. Падхоплены трывогай, Азевіч спярша сеў, пасля, хапаючыся за шурпатыя бёрны сцяны, устаў на калені. Усё трымаючыся за сцяну, а пасля прыхінаючыся да выскубанай сцірты саломы, пабрыў да варотаў. Тыя, аднак, аказаліся зачыненыя знадворку, але ён патузаў іх, і адна палавінка расчынілася.

Тады ў завею, як ён ішоў сюды, здалося, іншыя будынкі былі далекавата ад пуні, цяпер жа аказаліся зусім блізенька, за некалькі крокаў — хата, хляўкі. Побач паветка, ток, мусіць. Ад варотаў пуні на падворак вяла

вузенькая, свежа пратаптаная ў снезе сцежка, а збоч ад яе, за полем і лесам, барвовымі водблескамі чырванела неба і чуліся стрэлы. Як ён выйшаў, бабахнула яшчэ, можа, разы тры, і ўсё там няпэўна аціхла. Толькі водблескі шырэй і вышай расплыліся па небакраі, на іх фоне высвеціліся чорныя яловыя верхавіны блізкага лесу, і ён падумаў: дзе гэта? Хіба на бальшаку ці ў Сакоўшчыне? Але, мусіць, Сакоўшчына трохі ўбаку, а гэта пад Галубяніцкай пушчай. Мабыць, пад пушчай. І нешта гарыць — пэўна ж, вёска. Значыць, паляць і ўначы, і ўначы віецца-кружыць над чалавечым лёсам крумкач пагібелі. Хто гіне толькі? Але, пэўна, там партызаны. У Галубяніцкай пушчы павінны быць з суседняга раёна, калі толькі там збярогся які атрад.

Але ён быў слабы, не мог доўга стаяць на сцюжы і пабрыў назад у пуню. На каленях успоўз у сваё добра-такі ўлежанае за тыдзень лаўжо, з галавой улез пад кажух. Трохі тросся ад дрыжакі і думаў, што, відаць, трэба неяк выпаўзаць назусім. Яшчэ дзень паляжыць і пойдзе. На гэты раз ён знае куды, дзе трэба шукаць такіх, як сам. Ды і людзі памогуць. Памагла ж гэтая цётка, у якой нават не запытаў яе імя. Ну, але запытае.

Ён трохі яшчэ задрамаў на світанні, а як ранічкай прыйшла цётка са сваім вандзэлкам, упершыню ўсміхнуўся ёй і прыўзняўся, прыхінуўшыся плячмі да сцяны.

— Ну, як вы? — запыталася яна. — Лепей?

— Лепей, лепей, — сказаў ён, стараючыся, каб бадзёра.

Яна развязала свой вандзэлачак, дастала міску з дранікамі і скваркамі, ад якіх паўзабыты пах разышоўся па ўсёй пуні. На гэты раз ён з'еў усё, выпіў кварту цёплага малака. Лусту смачнага цётчынага хлеба сунуў у кішэню.

— Ці чулі, як стралялі ўначы? — запытаў ён і сціх, чакаючы адказу.

Цётка з клопатам зірнула на яго.

— Анягож! Пад ранак такая страляніна — у Касцюкоўцы, кажуць.

— Гэта дзе? Пад Галубяніцкай пушчай?

— Ага, пад пушчай. На самым краёчку. Гарэла там нешта.

— Палілі?

— Пэўна ж, палілі.

Ён думаў, што, можа, яна ведае нешта пра начныя падзеі, але, мабыць, не больш за яго.

— Сёння я пайду ад вас, — сказаў ён з рашучасцю.Хоць жаднай рашучасці яшчэ сам не меў — не ведаў, ці адолее сваю слабасць. Ён чакаў, што цётка будзе ўгаворваць яго пачакаць, паляжаць пару дзён у пуні, ды цётка сказала толькі:

— Гэтак? Пойдзеце?

— Трэба ісці. Нельга мне доўга заставацца. Я ж з райкома. Маё прозвішча Азевіч, можа чулі? — сказаў ён,расчулены цётчынай дабрынёй да яго. Чакаў, што яна здзівіцца, ці зазлуе, ці папытаецца яшчэ пра што, а цётка сказала проста:

— Я ж ведаю.

— Ведаеш? І ведала, хто я?

— Ну. Я ж пазнала. Як вы тады перад вайной сходп раводзілі ў Трыкунах. Яшчэ тады з жанчынкай такой беленькай былі. І старшыня выканкома, як яго, забылася... Што вораг народа стаў.

— Заруба.

— Во-во, Заруба. Я тады ў сястры там была, схадзіла на сход. Вас бачыла. Малады такі, у будзёнаўскім шлеме...

Вось так, кола замыкалася. А ён думаў!.. Ён думаў, што ніхто — нічога. Аж ведалі, памяталі. Не чакалі толькі.

Але і нечаканага прынялі, можа, ўратавалі ад смерці Чым жа ён аддзячыць гэтай сардэчнай цётцы? Чым парадуе яе ў не меней, чым у яго, трудным жыцці.

— Тут во яшчэ такая праблема, — сказаў Азевіч. — Падэшва ў мяне адарвалася.

— Гэтак?

— Во як, — варухнуў ён з-пад гарохавіння дзіравым ботам. — Можа б, мне які бот расстаралася?

На і без таго заклапочаным твары цёткі прабег яшчэ большы клопат.

— Дзе ж яго ўзяць? У мяне ж ботаў няма. Ні мужчын, ні ботаў. Сама во ў апорках хаджу. Можа б, адрамантаваць як? — раптам ажывілася цётка. — Калі вы зніміце, дык я да Крывені схаджу. Тут наш, вясковы, ён пачыняе каторым.

— Ну што ж, — сказаў Азевіч. — Паспрабуй, можа, падаб'е.

З вялікай натугай ён здзёр з нагі падсохлы за час ягонай хваробы бот, прыкрыў босую ступню сапрэлай анучай. Яна ўзяла бот, затуліла пад палою.

— Але ж каб не бавіцца. Добра? — сказаў ён.

— Ну, я ж папрашу.

Цётка пайшла, а яму стала неспакойна на душы: усё ж бот — падазрэнне, яўна мужчынскі памер. Ну, але, можа, абыдзецца, бо, на выпадак чаго, куды ж яму з босай нагой? І ён падумаў тады, дарэчы, не ў першы раз: як ладзілі тое партызанства, усё дужа таіліся, колькі клопату было, каб ніхто не бачыў нічога, нічога не западозрыў. Меліся ваяваць толькі з сваіх прыпасаў, знацца толькі са сваімі кадрамі. Але дзе яны цяпер, тыя прыпасы, дзе тыя правераныя кадры? Цяпер во — цёткі. І што б ён рабіў, каб не гэтая, нікому ў іхнім раёне не вядомая цётка? Цяпер на яе ўвесь яго спадзяванак, ад яе ўвесь паратунак.

Азевіч наважыўся ісці, як сцямнее, цераз поле, мінаючы жахлівы той роў. Для таго нагледзеў добрую палку-кій, што стаяла пры варотах у пуні. Добра, што снегу ў полі насыпала яшчэ не шмат, на палетках ледзьве прытрусіла ржышча, можна было ісці без дарогі. Галоўнае — дабрацца да Касцюкоўкі. Там ён прыпамятаў каго-нікаго з даваенных знаёмцаў, ужо яны дапамогуць. І павінны звязаць яго з хлопцамі ў Галубяніцкай пушчы. Іншага выйсця ў яго не было.

Так, трэба было выбірацца адсюль і пачынаць усё нанова. Зноў пакутаваць, галадаць, трываць боль і сцюжу — змагацца. Што трэба змагацца з захопнікамі — у тым ён не адчуваў сумневу. Калі яны захопяць, паніштаць, разапнуць на крыжы народ — не будзе нічога. Ні мінулага, ні сучаснага, ні будучыні. Бо яны — звяры. Значыць, змагацца за будучыню. Але ж, мусіць, і за мінулае?.. Ці не пяройдзе тое агідна мінулае і ў будучыню таксама? Мабыць, пяройдзе... Тое самае, што пражыта з такім болем і вялікаю крыўдай. Але ж гэта жахліва! Во становішча, каб яно згарэла. І выбару ніякага.

Мусіць, аднак, нешта зменіцца, хацеў пераканаць сябе Азевіч. Не можа так быць, як было,— не павінна. Усё ж з народам так нельга. Нават і беларускі люд мае нейкае права на людскія адносіны да сябе. Бо ў чым ён вінаваты, дзе ён калі схібіў? Хоць бы і цяпер, у вайну. Не здрадзіў, не перабег да немцаў, страчае іх з варожасцю, як чужынцаў. Хоць да чужынцаў ён заўжды быў цярплівы, дазваляў тым мо нават больш, чым сабе. Але тут нельга. Гэта не чужынцы — рабаўнікі і забойцы. Хацелася верыць, што пасля пражытага, пасля крывавай калатнечы-вайны, калі толькі люд ацалее, дык набярэцца новага розуму. Не можа ж быць, каб такая вайна нічаму не навучыла. Хоць бы якой дабрыні, спагады да саміх сябе. Нельга ж увесь век жыць без спагады. Павісшы на крыжах, нават не плакаць.

Зрэшты, выбар у яго быў невялікі — усё было загадзя наканавана. Першы заход няўдалы, трэба пачынаць другі. Пакуль не скончацца сілы. Ці не прыйдзе

пагібель. Бо такі, відаць, яго лёс. Ягоны лёс. Ды і народны таксама. Што ж яшчэ застаецца? Да скону біцца за Савецкую ўладу. Іншай няма ж.

Увесь той дзень да змяркання Азевіч марнеў ад думак, перажыванак — чакаў цётку. У трывожлівай стоме прагледзеў усе вочы, узіраючыся ў шчыліны, разы два ўставаў, кульгаючы на босую нагу, тупаў сюды-туды па вальнейшым месцы ў пуньцы. Часам яго забірала трывога: а раптам не прыйдзе? Ці прыйдзе і прывядзе каго?

Але яна прыйшла адна, як заўжды, ціхенька расчыніла палавінку варотаў і гэтак жа ціха прычыніла яе.

— Во ваш бот. Падбіў Крывеня. Кажа: а дзе другі?Ды, кажу, другога няма. Як, кажа, няма? Ну, схлусіла няспрытна. Пяць яек аддала і яшчэ пяць вінаватая асталася...

— Дзесяць прасіў?

— Дзесяць.

— Ну і шкурадзёр той Крывеня.

— Не, ён не шкурадзёр, ён добры. Выпівае толькі. Яму каб самагонкі, але ж у мяне дзе тая самагонка? Дзве курачкі толькі.

Седзячы на гарохавінні, Азевіч уздзеў на нагу бот і адразу адчуў сябе зусім спраўным. Каб толькі болей сілы. А то аж закружылася ў галаве. Цётка тым часам падала яму тарбіну з харчам.

— Во, многа не клала, каб вам цяжка не было. Усё ж пасля хваробы... Ну, дык беражы вас Бог.

Яны выйшлі з варотаў і спыніліся на рагу пуні. Ужо зусім змерклася, у белым сутонні ляжала ваколіца, далей шарэла чэзлая паска кустоўя. Усё ж ён чуўся слабым, хістаўся нават на ветры, але мяняць свайго рашэння не стаў. Пойдзе. Можа, разыдзецца, у дарозе стане лягчэй. Мароз быў невялікі, ноч відная, можа, не

заблудзіць. Мясцовасць ён трохі памятаў па колішнім часе.

— Ну, цётачка, дзякуй табе!

— І табе шчасліва.

Ён трохі абняў яе адной рукой і хістка ступіў у снег. Пасля, не азіраючыся, пайшоў і пайшоў каля парасніку, не надта спрытна ўпраўляючыся з кійком. А як адышоўся, успомніў, што так і не запытаў цётчына імя. Азірнуўся, ды ля пуні не ўбачыў яе. Можа, пайшла, а можа, стаяла, нябачная пад чорнай сцяной, і ён, не саромеючыся, перахрысціўся. Мабыць, першы раз за вайну. Трохі нават сумеўся ад таго, бо не хрысціўся з дзяцінства — ні дзецюком, ні тым больш як працаваў у раёне. Але адчуў, што цяпер было ў самы раз — прынамсі, не зашкодзіць. А то і паможа. Яму, і той цётцы, і ўсім, хто апынуўся ў бядзе. Бо хто ж яшчэ...

Ён парадкам ужо адышоўся ўначы, наперадзе выразна шарэў у снезе алешнік, як пачуў нейкі рух ззаду і азірнуўся. Па ягоных слядах жвава бег чорны вялікі Ваўкалака — размашыста сігаў па снезе, пэўна ж, каб дагнаць чалавека. Азевіч прыпыніўся, падняў кій, але і сабака тады стаў непадалёк. Не гаўкнуў, моўчкі настырчыў хрыбціну, чакаў. Азевіч сцішана выгукнуў: "Пайшоў прэч!" — і махнуў над сабой кійком. Ды марна: сабака не пабег, толькі злосна коратка правуркатаў і чакаў. Чагось толькі? Пастаяўшы трохі, Азевіч ступіў колькі крокаў у напрамку да лесу, і Ваўкалака таксама нетаропка пайшоу па ягоных слядах. Крыкнуць Азевіч не мог, што тут было рабіць? Уцякаць, ратавацца ці ісці з гэтым у лес? Або застрэліць яго? Ды страляць было далекавата, а бліжэй сабака не падступаўся — мабыць, ужо быў вучаны. "Каб ты здох, ваўкарэзіна!" — сказаў сабе Азевіч і дастаў наган.

З наганам напагатове ён памалу патупаў да ўзлесся, штораз азіраючыся. Ззаду за ім, не падбягаючы блізка, то бег, то прыпыняўся Ваўкалака. Чагосьці чакаў ад чалавека...





# Васіль Быкаў

Васіль Быкаў (1924-2003) Нарадзіўся 19 чэрвеня 1924 году ў вёсцы Бычкі Ушацкага раёну Віцебскай вобласьці. Навучаўся на скульптурным аддзяленьні Віцебскай мастацкай вучэльні. Скончыў Саратаўскую пяхотную вучэльню. У 1942 годзе будучы пісьменьнік уступіў у шэрагі Чырвонай Арміі. Ваяваў на Другім і Трэцім Украінскіх франтах, прайшоў па тэрыторыі Румыніі, Баўгарыі, Вэнгрыі, Югаславіі, Аўстрыі, двойчы быў паранены.

Упершыню творы Васіля Быкава былі апублікаваныя ў 1947 годзе, аднак творчая біяграфія пісьменьніка пачынаецца з апавяданьняў, напісаных у 1951 годзе. Тэматыка раньніх апавяданьняў, дзеючымі асобамі якіх сталі жаўнеры і афіцэры, вызначыла далёйшы лёс Быкава, многія з твораў якога прысьвечаныя падзеям Вялікай Айчыннай вайны. Бескампраміснасьць прозы Быкава стала прычынай нападаў савецкай крытыкі, якая абвінавачвала пісьменьніка ў ачарненьні савецкага ладу.

У 1974 годзе Васіль Быкаў быў узнагароджаны Дзяржаўнай прэміяй СССР (за аповесьць "Дажыць да світання", 1973), у 1980 годзе атрымаў званьне Народнага пісьменьніка Беларусі, у 1986 годзе - быў уганараваны Ленінскай прэміяй за аповесьць "Знак бяды".

Некаторыя творы пісьменьніка, такія як аповесьці "Трецяя ракета" (1962), "Дажыць да світання", былі экранізаваныя.

З 1972 па 1978 год Васіль Быкаў займаў пасаду сакратара Гарадзенскага аддзяленьня Саюзу пісьменьнікаў БССР.

Вядомасьць Васілю Быкаву прынесла аповесьць "Трэцяя ракета", напісаная ў 1962 годзе. У 1960-е ён публікуе аповесьці "Альпійская балада", "Мёртвым не баліць", у 1970-я - "Сотнікаў", "Абеліск", "Дажыць да світання", "Пайсці і не вярнуцца".

Гэтыя творы паставілі Васіля Быкава ў адзін шэраг з выдатнымі майстрамі ваеннай прозы XX стагодзьдзя.

Сярэдзіна 90-х нібыта вярнула пісьменьніка ў савецкія часы. Шырокая траўля ў дзяржаўнай прэсе, забарона, цэнзура на выхад яго новых твораў, пагаршэньне на гэтай глебе здароўя вымусілі Быкава пакінуць Радзіму. Некалькі гадоў ён жыў за мяжой.

1. Знішчальна-супрацьтанкавы дывізіён

2. Дывізіённы абменны пункт

3. Я не нацыст. Я вясковы настаўнік. (ням.)

4. Знішчальна-супрацьтанкавы артылерыйскі полк

5. Жгут! Жгут! (ням.)

6. Калі нас да вечара не раздушаць танкі, то праскочым. (ням.)

7. З оберстам Майерам праскочым. Ён нас прымусіць, жывых ці мёртвых. (ням.)

8. Чаму вы не здаяцеся ў палон? (ням.)

9. Мы простыя салдаты. Вайну робяць генералы і фюрэр. (ням.)

10. Ота! Глянь сюды! Руская Валькірыя! (ням.)

11. Рукі ўгору! Устаць! (ням.)

12. Я хутка! (ням.)

13. Ціха! Няма вады! (ням.)

14. Я вельмі шкадую. Але я маю загад! (ням.)

15. Спяшайся! (ням.)

16. *Калі салдаты маршыруюць па вуліцы,*
*Дзяўчаты адчыпяюць вокны і дзверы.*
*(Нямецкая салдацкая песня.)*

Падрыхтаванае на падставе: Васіль Быкаў, Поўны збор твораў у чатырнаццаці тамах. Том 3, Аповесці. — Мінск: Саюз беларускіх пісьменнікаў, 2005. — 656 с.

ISBN 5-9691-0075-7

Гэга першы ў гісторыі Поўны збор твораў Народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава (1924-2003). Падчас укладання тамоў найперш улічвалася думка самога аўтара, які паспеў спланаваць праспект выдання свайго 8-томнага Збору твораў. У трэці том Поўнага збору твораў увайшлі аповесці «Мёртвым не баліць» (1965 г.), «Праклятая вышыня» (1968 г.), «Сотнікаў» (1970 г.), «Сьцюжа» (1991 г.).